№5 (84)
/верасень-кастрычнік/ 2016

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Сяргей Законнікаў



...Ужо няважна – хто вінаваты?
Ужо нецікава – а што рабіць?..

# Смеласць і страх

***З новай кнігі “Прысядзем на дарожку”***

## *КАБ ЖА ЗНАЦЦЁ*

З выслоўяў саткана наша жыццё.
Мама казала: “Каб жа знаццё...”

Так,
Не падказвае ісціну час,
Ён на людзей спадзяецца якраз.

Сам ты не змог, не зрабіў, не паспеў,
Дык на каго абрынаць позні гнеў?

Як вінаваціць свой лёс без падстаў,
Што ён саломкі табе не паслаў?

Як небяспечна мяняемся мы!
А за спіною – дыханне зімы...

Не перапішаш начыста быццё.
Мамачка, мама...
Каб жа знаццё...

### *ЗГОДНЫ*

Запісваю настойлівыя словы,
Прыемна гэта, калі нешта ўмець...
Я быў з юнацтва да ўсяго гатовым –
Люблю жыццё, але не ганю смерць.

А паміж імі ў зманлівым прамежку
Прайшло нямала радасных хвілін,
Таму на розвіт пакідаю ўсмешку,
Лячу ў вандроўку па спакой адзін.

Зямля сырая, а над ёю – зоры...
Хоць мы прытулкам вечным бачым іх,
Ды невядома, **што** ў нямой прасторы
Душу сустрэне кожнага з жывых?

Згаджуся ўдзячна на любыя ўмовы,
Бо не паблытаў словы “быць” і “мець”...
Я быў з юнацтва да ўсяго гатовым –
Люблю жыццё, але не ганю смерць.

### *КЕПКА*

Набакір ссуну смела я шэрую кепку
І пайду па праспекце няспешным крокам,
Буду, як раней, над сабою пакепваць,
На красунях спыняючы хітрае вока...

...Так было.
Пасля лекцый у знанай вучэльні,
А яшчэ ў дадатак і кніжнай знямогі,
Рытуалам пралёг праменад наш вячэрні –
Ад Паштамта да плошчы Перамогі...

Толькі раптам на фоне фігурак дзявочых,
Што плывуць у тумане сваіх летуценняў,
Заўважаюць мае недабітыя вочы
Мільгаценне лёгкіх, таемных ценяў.

Над праспектам у небе палаюць даты,
Дачыненне камяк запяршыць у горле.

Колькі слаўных падзей і людзей выдатных
За стагоддзі ўбачыў любімы горад!

Тут былі рамяство і высокія мэты
Перамешаны крута з модай і бытам.
Вунь, у новенькіх кепках фарсяць паэты,
Сярод іх і мой дзядзька –
Сяргей Ракіта.

Маладыя, гарачыя – нацыі стрыжань,
Бой за праўду вялі адважна, адкрыта.
Хто ў турме або ў лагеры знік бяскрыжна,
Хто на фронце забіты,
І ўсе – забыты...

Мне ад іх не прышлюць нечаканую вестку
Ні Паштамт,
Ні суседнія з ім астрогі.
Тлеюць косці хлапцоў у краях непрыветных,
Ды над злом і дагэтуль няма Перамогі...

Я на розвіт удзячна здымаю кепку
Прад святым бел-чырвона-белым сцягам...
А жыццё было не такім ужо кепскім,
Калі яго параўнаць ... з ГУЛАГам.

## ***ШЭРЫЯ ШЫНЕЛКІ***

Ні паспаць, ні з'есці нешта нельга,
Бо адбыўся ў планах "мудрых" збой.
Шэрыя, нязграбныя шынелкі
Кінулі з цяплушак з ходу ў бой.

У курсантаў быў запас не нейкі,
А жыццё,
Яго і аддалі...
Шэрыя, нязграбныя шынелкі
Не адрозніш ад самой зямлі.

* * *

Трывушчы розум можна праняць
Інфармацыйным ударам,
Што будзе цемра і цішыня
У белым свеце ўладарыць.

Такі малюнак лёгка ўявіць
Пасля атак тэрарыстаў,

Але і без іх чалавецтву не жыць
Бясконца пад небам чыстым.

Гняздо, у якім мы жылі-былі
Бязлітасны час разбурыць...
Мой цень мільгнуў на фоне Зямлі
І знік, як былінка ў буру.

* * *

З вечнасцю яшчэ нагамонімся,
Сябра задумлівы мой...
Хто чуе быцця гармонію,
Тых не застрашыць турмой.

Ёсць час,
Дзе маўчанне – золата,
Але заўважу аднак,
Што добры голас твой змоладу
Гучаў, як таемны знак.

Гадаць нікольки не хочацца:
Расстанне – якой парой?
Хай жа ўсмак нам рагочацца,
Хоць маладосць – за гарой.

Зерне спадзеву заворана –
Рунь наша ўстане сцяной...
З вечнасцю яшчэ нагаворымся,
Ты паталкуй са мной.

## ФРАЗА

*Мілай унучцы Марыне*

Між гарадоў, у далёкіх лясных краях,
З трасы аўтамабіль на хвілiначку збочыў.
Ззяў над людам вандроўным
Касмічны абсяг –
Гарадское дзіцяці расплюшчыла вочы.

Ціша.
Спыніла рыпенне зямная вось,
Аднаго шэпту зорак для слыху замнога.
Захапленне працяла дзяўчынку наскрозь:
"Я ніколі не бачыла неба такога!"

Цуд зямны сваю роднасць з Сусветам адчуў:
Засвяцілася новаю зоркай аблічча,
І душа не змаўчала: “А я палячу!”,
Бо яе нецярпліва нязведанасць кліча.

Зоркі зманліва кружацца ў цемры начной,
З Млечным Шляхам зліваецца недзе дарога...
Можна жыць дзеля фразы толькі адной:
“Я ніколі не бачыла неба такога!”

### ***НЯМА ЗА ШТО***

Лічу дабро чалавечай адзнакай,
Якую не адменіць ніхто,
Таму натуральна на кожны “Дзякуй!”
Адказваю: “Няма за што”.

Але ў народзе заўважыў біду я,
Што ў выніку народзіць шторм...
Люд палахлівы праз сілу шкадую,
Любіць яго – няма за што.

### ***ЗВОН У ВУШАХ***

Заткнуты вушы зжаўцелай ватай,
А ты адгадай, у якім звініць?
Ужо няважна – хто вінаваты?
Ужо нецікава – а што рабіць?

* * *

Гляджу на мой край і на родных людзей,
Яны – нібы ў нейкім тумане.
Іх кожны пранырлівы прахіндзей
З тропу звядзе і падмане...

Даўно на вачах накіпае сляза,
Душу смокча волі патрэба...
Дарога вядзе –
Ні наперад і ні назад,
А проста ўверх, у неба.

* * *

Я старой эпохі чую шум,
Хоць яна нібыта адляцела, –

Разадрала на шматкі душу,
А цяпер далезла і да цела.

Гледзячы на зло і каламуць,
Сэрца хлюпаціць, як пад абцасам.
Хочацца ў гісторыю нырнуць,
Каб не апякацца новым часам.

Золата смяецца,
Плача медзь...
А ў грудзях спрадвечнае: “О Божа!”
Столькі трэба жыць, каб зразумець,
Што ніхто табе не дапаможа...

## *МАМА І МОВА*

Побач адно і другое слова:
Мама... Мова...

Мама памерла, і мова амаль нежывая...
Як жа тут сэрца стрывае?

* * *

Ты казаў, што часу няма...
Мілы мой, а ў каго ён ёсць?
За каўнер сняжок кідае зіма,
Каб напомніць:
З нас кожны – госць.

Ты казаў, што часу няма...
Аказалася – нездарма.

* * *

Я веру, як млосна стане,
Ты сцішыш пякельны агонь,
Жывому на развітанне
На лоб пакладзеш далонь.

Зноў сэрца б’ецца няроўна,
Паветра на крык не стае..
А смерць прыходзіць раптоўна...
Прашу – апярэдзь яе.

### *СМЕЛАСЦЬ І СТРАХ*

З малых гадоў адчуў адразу я
Быццё несправядлівы ход...
Шкада,
Што смеласць – незаразная,
А страх – якраз наадварот.

* * *

Прыкметна людзі пакаціліся ўніз,
У страху,
Халуйстве,
Сквапнасці тонуць.
Жыццё – арматурнай рашоткі абрыс,
Якую спяшаюць заліць бетонам.

Усё паглынае глабальнасцю свет,
Скубе чалавечнасць метр за метрам.
Панік непатрэбны нікому паэт:
Ён меў чытачоў,
Цяпер – у паветры...

Мараль затухае да пэўнай мяжы,
Затым паварот будзе абавязковы.
А як без паэзіі можна пражыць?
Яна – вышэйшая формула мовы.

* * *

Злавесныя хмары на дзень наплылі,
Каб крэмзаць святло ценем цёмным спорна...
А вунь снегавей замятае палі,
Нібыта піша ён белым па чорным.

Я поруч шчырую аддана здаўна,
З маленства разбег быў для слоўных рэйдаў –
Чарнілам у сшытках, дзе скрозь белізна,
Па чорнай дошцы – падатлівай крэйдай.

Завершана дзеяў крутых паласа,
Але не спыняцца рупнасці жорны...
Цяпер мне няважна, як далей пісаць:
Чорным па белым
Ці белым па чорным.

* * *

Мне цяжка так,
Што аж цёмна ўваччу,
Але за спіной даўніх вояў
Я не заплачу, а заплачу
За свабоду ўласнай крывёю.

* * *

Глядзі, як сонейка ўстае,
Як ажывае горад,
Адкінь згрызоты ўсе свае,
Павер, бывае горай.

Табе дзень новы запаліў
Цыклоп адзіным вокам...
Твая прысутнасць на Зямлі
Ацэнена высока.

### *БЕЗ МЯНЕ*

Без мяне ў белым свеце нічога не зменіцца,
Бо жыццё аніякай жальбой не ўрачы.
Будзе сонца святло раскідаць шчодрай жменяю,
Будуць рэкі на поўнач, на поўдзень цячы.

Будуць пушчы расказваць сівыя гісторыі,
Не змаўкаючы шэптам сваім ні на міг.
Ад мяне застанецца на сцежках пратораных
Толькі тое, што сэрцам пакутным спасціг...

Смех каханай і неба над вольнай Радзімаю
Прыгадаюцца разам,
І ў тым вечным сне
Я суцешуся верай жаданай, адзінаю:
Нехта будзе любіць без мяне – за мяне.

проза

Валерый Казакоў



...сёння ўжо амаль не засталося тых людзей, хто памятае Мінск лета сорак чацвёртага года...

# «Чорны кот»

***Раман***

## 1

– Ягор Кузьміч, а ці была наогул гэтая «Чорная котка»? Я вунь у нашых падручніках шукаў, у бібліятэках і ў адкрытых, і ў сакрэтнай шукаў, увесь айчынны інтэрнэт і літаратуру перашуфляваў – нідзе нічога няма. Нешта каламутнае толькі «з-за бугра» праскоквае – і ўсё. Можа, гэта звычайная выдумка, што прыляцела да нас з Захаду?

– Якія вы маладыя ўсе скорыя, – стары з цяжкасцю падняўся са свайго фатэля, нейкі час пастаяў, упёршыся рукамі ў паясніцу, нібы даючы магчымасць бітаму-перабітаму хрыбетніку выпрастацца, шчыльней зацягнуў на поясе тоўстую, ужо амаль выцертую пуховую хустку і, ледзь адрываючы ногі ад падлогі, рушыў да велізарнай – ва ўсю сцяну – кніжнай шафы. Наогул, трэба сказаць, што жытло гэтага чалавека, які ўжо дажываў свой век,

у асноўным складалася з кніг і сотняў, а можа і тысячаў разных тэчак. Стэлажы былі ўсюды, нават у прыбіральні, па абодва бакі ад дзвярэй віселі паліцы з нейкімі часопісамі і кнігамі.

Рухаўся стары амаль бязгучна, ён не цягнуў ногі і не шаргацеў па сцёртым паркеце такімі ж, як і сам, старымі растаптанымі тапкамі. Ён плаўна адрываў ступні на нейкія міліметры ад падлогі, сунуў іх наперад і асцярожна апускаў; атрымлівалася складна і нават пластычна.

– Кот, Слаўка, кот тады вадзіўся ў нашых лясах, а не котка. Наогул, дурная гэта была гісторыя, і здарылася яна ў самы дурны час. Наогул жа... – стары спыніўся і, апусціўшы акуляры амаль на самы кончык носа ды гледзячы на свайго маладога суразмоўцу, дадаў з хітрынкай у голасе: – На нашым з табой фронце толькі дурны час і ёсць, іншага там і не бывае. – Ягор Кузьміч спыніўся перад стэлажом, паправіў акуляры, прыгледзеўся да кніжных шэрагаў і адразу ж дастаў худую тэчку з зеленаватага кардона, заціснутую паміж таўшчэзных кніг. – Кот, кот, а чаму кот – ніхто толкам тады і не ведаў. Помню, начальства вельмі неўзлюбіла гэтую жывёліну, і варта было нам, маладняку, штосьці сказаць пра кашэчае жыццё – усё, разнос быў гарантаваны, – стары ціхенька засмяяўся.

– Вы чаго смеяцеся? Пра разнос ці пра катоў нешта ўспомнілі?

– А-а, пра тое і пра другое. Мы тады з лясоў вярталіся, стомленыя, брудныя, зарослыя, але амаль заўсёды шчаслівыя, калі ўсім жывымі даводзілася выбрацца. Жыць тады, Слава, хацелася, аж дыханне перахоплівала. Вайна ж скончылася. Мір, радуйся, жыві! Многія хоць і маладыя, а паваявалі ўжо. А тут на табе: і мір, і вайна, усё табе разам. Ад горада ад'ехаў нейкіх кіламетраў з дваццаць – і вунь яна, смерць, ужо з-за куста ці з лагчынкі за табой сочыць. Ліхі, кажу, тады быў час.

Дык вось, з гэтых сваіх паездак пачалі мы ва ўпраўленне цішком прывозіць кацянят, і стараліся, каб кацяняты тыя былі чорненькія. Прывязем, пакормім, жывёліна куды-небудзь зашыецца і спіць. Мы па дамах. Ды якое там па дамах! Амаль усе ў інтэрнаце жылі. А раніцай толькі і чуваць: чорны кот, чорны кот! Дзе, хто, адкуль?! Усе кідаліся лавіць і выкідваць бяскрыўдную істоту. Дзень пачынаўся весела. Нам бы хто з начальства хоць намякнуў што пра ката гэтага чорнага... Сам Цанава забараніў не тое што згадваць, але і думаць аб тым.

І вось у часе адной з аперацый бралі мы пад Маладзечнам паліцаяадзіночку, усё прайшло спакойна, нават без страляніны. Колька Смоліч на тым закінутым хутары ўзяў з сабой здаравеннага кашака, чорнага, як вугаль, толькі кончыкі пярэдніх лапак дымчатыя, прыгожыя. Дадому ўзяў. І трэба ж было яму, адразу пасля прыезду ў Мінск, на ганку ўпраўлення амаль нос у нос сутыкнуцца са самім наркамам. Кот на руках мурлыкае... Колька выцягнуўся, як і належыць, руку да брыля – а кот да лакаваных ботаў Самога і скаціўся!

– Што гэта? – пытаецца Цанава.

– Кот, таварыш наркам! – адказвае яму Колька і спрабуе ката нагой адагнаць.

– Які яшчэ кот?

А гэты дурань вазьмі ды ляпні:

– Чорны!

Што тут пачалося! Думалі, і Кольку, і нам усім, хто стаяў побач, канец прыйшоў. Тады расправа хуткай была. Ці жарт: самому Цанаву не дагадзілі,

а ён не проста генерал, а асабісты стаўленік Берыі, ягоны зямляк!.. – Памаўчаў і дадаў: – Добра, давай глядзець, што тут у нас...

– Ягор Кузьміч, ну нельга ж так! Справа з катом чым закончылася?

– Добра закончылася. Цанава гарланіць, а кот давай аб ягоны бот церціся, разумны кот трапіўся. Наркам сумеўся. «Што гэта з ім?», – пытаецца. Колька выразна яму і дакладвае: «Дык гэта ён чуе, хто ў доме гаспадар!» Цанава зарагатаў, і ўсе за ім. Так і абышлося. Кольку, праўда, праз тыдзень перавялі ў Гродна, з вачэй далей, там ён у Налібоцкай пушчы і загінуў. Ды досыць аб тым, на вось, глядзі, – працягнуў Ягор Кузьміч хлопцу тэчку, – а я пакуль пайду тваёй гарбаткі завару. Песціш старога, у самога, мусіць, грошай як той кот наплакаў?

Тэчка была старая, нейкага бялёса-зялёнага колеру, з чырвонымі, моцна завязанымі матузкамі. Чарнільныя надпісы на разлінаваным па сярэдзіне шэрым квадраце ад часу выцвілі і амаль ужо не чыталіся. Патрэбна было больш святла.

– Ты там давай не саромся, сядай да бакавога століка ды лямпу ўключы! – крыкнуў з кухні стары.

– Вось дык дзед! – з захапленнем падумаў Вячаслаў, уладкоўваючыся за невялікім столікам, прысунутым ушчыльную да падваконніка. Запаліў святло. Калісьці акуратна выведзеныя асадкай літары ператварыліся ў мудрагелістыя, злізаныя часам іерогліфы. У правым верхнім куце тлустым сінім алоўкам красаваліся задвукосеныя літары «ЧК». Сэрца забілася часцей: «Няўжо? Быць гэтага не можа! Аддаць амаль год на пошукі хоць нейкіх звестак на гэтую няўлоўную тэму – і вось на табе: «ЧК»! Літаркі гэтыя відавочна пазначалі не першапачатковую абрэвіятуру яго грознага ведамства. Дакументы, затоеныя ў гэтай някідкай тэчцы, хутчэй за ўсё мелі дачыненне да жаданага «Чорнага ката». “Цяпер вось развяжу матузкі і...”

Першым у тэчцы ляжаў пажоўклы аркуш з выпіскай з рашэння закрытага пасяджэння бюро ЦК КП(б)Б ад 13 снежня 1945 года, усяго паўстаронкі тэсту, які складаецца з двух пунктаў. У першым канстатавалася, што пераважная большасць насельніцтва БССР, у тым ліку і заходніх яе абласцей, з радасцю ўспрынялі сваё вызваленне ад фашысцкай акупацыі і актыўна ўключыліся ў працу па аднаўленні разбуранай вайной народнай гаспадаркі. Аднак у рэспубліцы яшчэ засталася значная колькасць былых паліцаяў, членаў іншых прафашысцкіх арганізацый ды іх памагатых. Партыйныя, савецкія органы і работнікі абавязаны аказваць актыўную дапамогу органам НКУС у іх выяўленні і ліквідацыі.

Другі пункт даслоўна абвяшчаў: «Асобныя кіруючыя таварышы, у асноўным раённага і мясцовага ўзроўняў, часам дапускаюць выпадкі панікёрства, перабольшваюць небяспеку, якую наносяць грамадству гітлераўскія недабіткі, і спрабуюць прадставіць адзінкавыя выпадкі праяў бандытызму як арганізаваны супраціў савецкай уладзе, які абапіраецца на разгалінаванае нацыяналістычнае падполле. Гэта недапушчальна».

Ніжэй алоўкам было нешта напісана, а пад запісам ледзь віднеліся тры калонкі лічбаў і нейкіх пазнакаў.

– Вось табе, Слава, лупа і гарбата, – амаль над самым вухам нягучна вымавіў Ягор Кузьміч.

– Таварыш палкоўнік, гэтак жа і заікай можна зрабіць, – уздрыгнуў ад нечаканасці малады чалавек. – Цікавы дакумент, – ставячы на стол кубак з гарбатай, кіўнуў ён галавой на раскрытую тэчку.

– Маёр я, Слава, проста маёр. Ведаю, што ты мне хочаш запярэчыць. Сапраўды, быў падпалкоўнікам, але разжалаваны з цалкам рэвалюцыйнай фармулёўкай: «За страту палітычнай пільнасці і бытавую распушчанасць». Доўга з такім кляймом я на аператыўнай працы не затрымаўся і быў, з улікам былых заслуг, адпраўлены камандаваць ведамасным архівам. Вось такія справы... Так што маёрам і звольніўся. Гэта ўжо потым у запасе нейкі разумнік дадумаўся – і мне яшчэ раз, курам на смех, прысвоілі падпалкоўніка, да даты або да нейкага свята – ужо і не памятаю... А вось у лес цябе з сабой я б не ўзяў, – рэзка змяніў тэму стары чэкіст.

– Гэта чаму ж? Я спартовец, выдатнік па ваенізаваным кросе і арыентаванні. Тэсты на выжыванне не горш за іншых здаў у свой час.

– Глухі ты, вушэй на патыліцы няма. Я з кухні ішоў, лыжка ў кубку бразгала, рукі ж ужо трасуцца. Яшчэ вунь паперку скінуў, калі лупу на сваім стале браў.

– Вы гэта сур'ёзна? Я ж вось на... – хлопец пакрыўджана ткнуў пальцам у тэчку.

– Чытаў, напэўна? Ды так уважліва, што і слых прытупіўся? – здзекліва спытаў стары. – А вось амаль дзевяностагадовы дзед падышоў да цябе, а ты і не пачуў, вунь здрыгануўся, калі пачаў размаўляць. Калі б гэта было ў лесе ці яшчэ пры якіх абставінах – і ўсё, праз тры дні ўжо б і жалобныя залпы над тваёй магілкай прагучалі. Ты давай толькі не крыўдуй і ў зануды мяне не запісвай. Калі ступіў на сцежку контрвыведніка, то абавязаны заўсёды і да ўсяго быць гатовым. Добра, – стары паляпаў хлопца па плячы, – чаго ты там ужо нагледзеўся, як ты кажаш, цікавага?

– Толкам яшчэ нічога і не прачытаў, – адазваўся малады чалавек, – толькі першую старонку прабег, падумаў, што трэба было б неяк гэта павялічыць, як вы падкраліся і вось прынеслі, – ён падняў руку з лупай.

– Ды хопіць дзьмуцца, не паненка! І не падкрадваўся я, гарбату во прынёс табе. Так што крыўдзіць мяне не трэба. Падкраўся, падкраўся! Вось падсохне, у лес як-небудзь з'ездзім, я табе там пакажу сапраўднае падкрадванне. Што там на першай старонцы? Я ўжо і падзабыў.

– Рашэнне ЦК Белкампартыі аб поўнай адсутнасці ў рэспубліцы арганізаванага супраціву савецкай уладзе ў сувязі з мудрым курсам КПСС.

– Вось так, Слава, а ты кажаш – бібліятэкі. У бібліятэках у нас у краіне заўсёды захоўвалі толькі тое, што было дазволена, а астатняе ці палілі, ці ў «спецхран».

– Але час жа які цяпер! Якія забароны? Усё, што было ў тых спецхранах, сёння ў кнігарнях на паліцах і ў сусветнай павуціне.

– Час – ён, Слава, вядома, іншы, але парадкі засталіся тыя ж, асабліва што тычыцца падобных пытанняў, і асабліва ў нашай магутнай дзяржаве. Ты гэта на будучае запамінай. Была ды і ёсць такая старая чэкісцкая мудрасць: чым менш народ ведае, тым мацней начальства спіць. Давай, гартай далей.

– Не, тут нешта алоўкам напісана, зараз прачытаю, – хлопец падсунуў аркуш бліжэй да лямпы, паднёс лупу, – нейкія скарачэнні і лічбы. Тры слупкі. Першы: "А.иС.Р"; другі – "Н.Я.иВ"; трэці – "Вр.Об". Вось яшчэ – над імі "44–45". Нічога не зразумела. Злева ад першага слупка ўніз ідуць літары: "У.", "АиВ.П.", "Р.", яшчэ нейкія дзве ці тры, цалкам сцёртыя...

– Старая гэта бухгалтэрыя. Першы слупок – актывісты і саўработнікі,

другі – нашы, ястрабкі і ваякі, трэці – агульная колькасць ворагаў. Літары ўніз: забітыя, арыштаваныя і ўзятыя ў палон, параненыя, а далей там толькі для ворагаў – знішчана бандфармаванняў, разгромлена баз, схронаў, лагераў. Ну, калі лічбы чытаюцца, лічы, а я пакуль па сваю гарбату схаджу.

Вячаслаў дастаў з кішэні нататнік, ручку і быў ўзяўся за няхітрую арыфметыку, але пачуў бразгаценне посуду на кухні і напружыў слых, робячы таропкія запісы.

– І якія тут у нас поспехі?

– Так... – паварочваючыся да старога чэкіста, не без гонару вымавіў юнак. – Вы на кухні зачынілі бляшанку з гарбатай і, хутчэй за ўсё, паставілі яе на месца, з цукарніцы насыпалі лыжкай цукар, размяшалі яго. Потым, потым... – ён зазірнуў у канспект, – адарвалі нейкую паперу і пайшлі сюды. Пакуль ішлі, лыжка бразнула, калі не памыляюся, пяць разоў. Усё! – з гонарам адрапартаваў ён.

– Малайчына! Нядрэнна, вельмі нядрэнна! Як там з падлікамі?

– Вось з гэтым тугавата. Лічыць і слухаць адначасова не атрымліваецца. Але я ж беларус, я ўпарты, я змагу, натрэніруюся. А палічыць... я гэта імгненна...

– Давай, лічы, а заадно і старэчую памяць праверым. – Прымружыўшы вочы, Ягор Кузьміч пачаў нягучна называць лічбы. – Арыштавана ворагаў: 17870, забіта – 3035, паранена – 5302, разгромлена бандаў – 914. Забіта з нашага боку з усіх катэгорый – 521, паранена – 1911, прапала без вестак – 47. Так, здаецца?

– Ну, вы даяце, Ягор Кузьміч! Як гэта ўсё можна памятаць столькі гадоў! Усё, усё, лічу! Усяго атрымалася пацярпелых, – Вячаслаў на імгненне запнуўся і са здзіўленнем падвёў вынік, – амаль 27300, без чатырох чалавек! І гэта толькі, як я зразумеў, за адзін няпоўны год! Нічога сабе!

– Так, сумна. І ўлічы – гэта толькі, як цяпер кажуць, прамых стратаў, а колькі расстралялі па прысудах трыбуналаў і судоў як нацыяналістаў і памагатых, а колькі асуджаных на «сталінскай дваццатцы» так з лагераў і не вярнуліся? А колькі яшчэ проста мірнага насельніцтва загінула, звычайных сельскіх жыхароў, не партыйных, актывістаў, проста хлебаробаў – іх увогуле ніхто не лічыў. Думаю, за першую пасляваенную пяцігодку тысячаў пад сто пяцьдзясят будзе. – Стары змоўк і пацяжэлай хадой вярнуўся да свайго фатэля.

## 2

У казарме, хоць вокны і расчынілі насцеж, было душна, пахла дзёгцем і чалавечым потам. За акном павольна ўставала жнівеньскае сонца. У старых, высокіх каштанах, ліпах і елках, якія растуць па ўсім перыметры веннага гарадка, ля навучальных карпусоў, ля штаба, у парку з аўтамабільнай тэхнікай бесклапотна пра штосьці сваё буркаталі галубы. Лёгкі туман падаўся з пустога пакуль пляца за казарму, да стадыёна, да паласы перашкод, да спартыўнага гарадка, за якім іскрыўся расой поплаў, што ўпіраўся ў раскідзістыя вербы на беразе доўгага і глыбокага возера Рупінер Зэе. Да пад'ёма яшчэ амаль гадзіна.

Зміцер, якому дасталіся самыя паскудныя гадзіны дзяжурства, адклаў беларуска-нямецкі размоўнік, устаў з-за маленькага століка, заклаў рукі за спіну і пацягнуўся. Некалькі разоў прысеў, падышоў да вакна. Яму

ў гэтым ціхім, вылізаным нямецкім гарадку ўсё не падабалася. Ды не толькі гарадок, самі немцы, сама Германія не выклікалі ў ім асаблівага захаплення. Вядома, нацысты лепш Саветаў, ка́ты і тыя, і тыя, але немцы хоць сваіх як сабак не знішчаюць. Вядома, не варта трымаць такія думкі ў галаве: не дай Бог, хтосьці здагадаецца ці падслухае іх! Тады труба! А ён ужо быў у гэтай трубе.

Вайна для лейтэнанта Чырвонай Арміі Дзмітрыя Іванавіча Стальмаха закончылася на другі дзень пасля яе пачатку. У палон сам не здаваўся, але і абараняцца да перадапошняга патрона, каб апошні пакінуць для сябе, як таго патрабавалі палітработнікі, не стаў. Усе здаліся – і ён з усімі. Там і ваяваць асабліва не было калі. Ноччу разбамбілі лагер, ні палка, ні штаба. Усе бягуць, усе крычаць, а немцы ўжо вакол, так што ні разу і не стрэліў. Праўда, пятліцы з кубарамі не зрываў, а вось камісарчык іх батальённы шаўрон свой партыйны адарваў, а потым і наогул салдацкую гімнасцёрку нацягнуў. Усе роўна не дапамагло. А ўсім вочы не выкалеш і язык не адрэжаш. Гэта толькі з выгляду армія адзіная і магутная, а калі паасобку – ледзь папружку паслабіў, дык усё і папаўзло-палезла. Якім бы ты партыйным не быў, а ў адзіночных акопах, калі на цябе танкі пруць, атэістаў не бывае.

Потым быў лагер. Нават не лагер, а так, загародка для двуногай жывёлы, нават не жывёлы – быдла хоць кормяць і карысць нейкую ад яго маюць. А тут сагналі, дротам сяк-так абматалі перыметр – і забыліся. Колькі народу ад ранаў, хвароб і галадухі перамерла... іх ні Сталін, ні Гітлер не лічылі. А палічыў бы Гітлер, накарміў, слова добрае сказаў ды на фронт адправіў – ужо, глядзіш, і да Урала б падыходзіў.

– Што ж гэта, Дзіма, як дзяжурства, дык цябе на ўспаміны цягне? – з уздыхам перапыніў ён свае роздумы. – Вунь лепш дойч вучы. Больш імпэту па службе, курсант Стальмах, і новае начальства цябе заўважыць.

– Гэй, дзяжурны, што гэта ты ранішнімі прыгажосцямі Вустраў любуешся, ці не пара ўжо кукарэкаць? – нягучны голас Гінько вярнуў яго ў рэальнасць. – О, ты толькі глянь на яго... імперскую мову зубрыш, малайцом! – Міхаіл убачыў размоўнік.

Невысокі, добра складзены малады чалавек са стрыжанай, як ва ўсіх тутэйшых насельнікаў, галавой быў не проста земляком і сябрам, ён быў дабрадзеем і выратавальнікам. Менавіта Міхаіл праз правадыра беларускіх нацыстаў Акунчыца выцягнуў Зміцера з лагера ваеннапалонных. Паручыўся за яго і ўладкаваў сюды ў навучальны лагер міністэрства Усходніх тэрыторый Розенберга. Паўгода назад дахадзяга лейтэнант, упершыню за доўгія месяцы па-сапраўднаму вымыўшыся ў лазні, надзеўшы новую бялізну і нязвыклую форму, па дарозе ў сталовую даў сабе слова, што заўсёды – што б ні здарылася – будзе побач з гэтым валявым і фанатычным у сваіх перакананнях чалавекам.

– Ды не, камандзір, ранавата яшчэ, хай народ крыху пакімарыць, – зірнуўшы на старэнькі дзяжурны гадзінік, адказаў Дзмітрый. – А тут сапраўды прыгожа, нашыя Браслаўскія азёры нагадвае, толькі неяк пуста...

– Не пуста, а дагледжана ўсё, дагледжана. Гэта табе не віцебскія буреломы, – пазяхнуўшы, адказаў сябар. – Ну што... заўтра апошні дзень зубрылаўкі – і ўсё: фрайлагер. Фрай, братка, гэта свабода, гэта цывільны касцюм, поўная салдацкая пайка і вольны выхад за тэрыторыю. Ты хоць уяўляеш, што там, за плотам? Там, Дзіма, Берлін – сталіца тысячагадовага рэйха, там наша з табой будучыня і дзяўчаты...

– Ага, за сужыццё з...

– Спакойна, спадар Зміцер, мы тут і беларусачак знойдзем. І давай, гэта, выкідваць ужо са сваёй макатыркі лагерныя думкі аб нашай расавай непаўнавартаснасці. Беларус – таксама арыец, малодшы брат германца і, успомніш мяне, хутка нашым хлопцам дазволяць служыць нават у войсках СС. Шэф шапнуў, што паперы па гэтым пытанні ўжо ходзяць па высокіх кабінетах. Добра, глядзі пад'ём не празявай, я ў сарцір, пакуль там усё джыгіты не паабсцыкалі.

Іх спецлагер, як і ўсё, звязанае з усходнімі тэрыторыямі рэйха, быў інтэрнацыянальным. Асновы адміністравання і прапаганды тут зубрылі не толькі беларусы, украінцы, рускія, але і грузіны, армяне, калмыкі, горцы, татары, якія асабліва ганарыліся сваім народным паэтам Мусой Джалілем, які ці трапіў у палон, ці сам перайшоў да немцаў па ідэйных меркаваннях; потым, праўда, яго вярнулі ў Маабіт, дзе і пакаралі смерцю. Неяк у лагернай газеце публікаваліся яго вершы на татарскай і пераклады на рускую. Яшчэ была ў вялікай пашане мастацкая самадзейнасць. Тут цэлыя баталіі разгортваліся, але абскакаць грузінаў ніхто так і не змог, тых нават у Берлін спецыяльна вазілі перад кіраўніцтвам рэйха спяваць. Яны потым хваліліся, што сам Гітлер іх пахваліў. Брахалі, вядома! Дзе палонныя грузіны – і дзе аж сам Гітлер.

Раніца яна і ёсць раніца – шумлівая, мітуслівая, спешкая. Адбрынчэў посудам сняданак. Заняткі ішлі неяк вяла. Група і выкладчыкі, ведаючы пра хуткае расстанне, больш гаварылі аб будучай працы, чым «Аб крытыцы савецкай дзяржаўнай сістэмы», як таго патрабавала вучэбная праграма.

– А што яе крытыкаваць, гэтую ср...ную сістэму, калі бальшавікі з жыдамі ўсё з маёй хаты выграблі, мяне ў войска, бацькоў і малодшых – у Сібір! – завёўся Васіль Трэба з-пад Нясвіжа. – Жыдоўскіх пернікаў наеліся ўдосыць! Я, спадар настаўнік, ні ў якія бурмістры служыць не пайду, мне вунь зброю дайце – і дадому адпраўце. Вось ужо я палютую, за ўсё, сукі, адкажуць!

– Высакародная нянавісць загартоўвае душы, сябры. І ў гэтым схаваны адзін са складнікаў нашай будучай перамогі, – сухім гучным голасам падбадзёрыў Васіля Інакенцій Карповіч, хударлявы, высушаны гадамі і горам палкоўнік царскай арміі, які чытаў у школе блок лекцый па антысаветызму і антыкамунізму. Бальшавікі за доўгія гады грамадзянскай вайны знішчылі ўвесь яго некалі шматлікі род, а дачушак-двайнятак на вачах у бацькі згвалтавалі і затапталі коньмі. – Толькі вось, шаноўны Васіль Францавіч, – з уздыхам дадаў выкладчык, – часам і нянавісці, і вінтоўкі бывае мала. Часам слова, сказанае табой, можа нанесці ворагу куды большыя страты, чым выпушчаная куля. Для таго, каб страляць і справядліва рваць зубамі бальшавіцкае паскуддзе, хапіла б і двух месяцаў перападрыхтоўкі. Усе вы ў мінулым служылі ў войску, хоць і ў савецкім. Страляць і падпарадкоўвацца камандзірам умееце, а многія і самі афіцэры, так што ваяваць зможаце. Аднак Фюрэр нямецкага народа і вашая добрая воля накіравалі вас сюды ў Вустраў. Пройдзе час, і назва гэтага ўтульнага мястэчка будзе для вас як пароль, як візітная картка, каб пазнаць свайго субрата і аднадумца, аднакашніка. Была ў старыя добрыя часы такая назва пабрацімства – аднакашнікі, людзі, якія елі з аднаго катла адну і тую ж кашу. Кашу, што не ведае ні саслоўяў, ні рэлігій, ні маёмаснага цэнзу. Вось і вы, параднёныя, у нейкай ступені, і лагерам, і чужынай, і не заўсёды салодкай кашай, гатовыя да вяртання дадому. Вы гатовыя не толькі да помсты, галоўнае – вы павінны думаць

пра будучыню сваёй зямлі, а будучыня і ў Расіі, і ў Беларусі, і ва Украіны можа быць толькі пасля перамогі над бальшавікамі. Заўтра вы пяройдзеце ў фрайлагер, але мы з вамі не расстаёмся і перыядычна будзем сустракацца, вучоба працягнецца. Мне б вельмі хацелася, спадары, каб кожны з вас застаўся верны нашаму братэрству і сваёй адвагай даказаў вернасць новай Еўропе, у якой ваша родная Беларусь зойме годнае месца.

– Жыве Беларусь! – ускокваючы і выцягваючы наперад правую руку, дружна выкрыкнулі дваццаць маладых галасоў.

Падчас перапынку да курылкі падышоў яфрэйтар Думкель і выклікаў Дзмітрыя да начальніка лагера Аука.

– Спадар начальнік лагера, ваеннапалонны Стальмах па вашым загадзе прыбыў!

– Хайль Гітлер! – павітаў яго начальнік.

– Хайль Гітлер, гер камендант!

– Вы больш не ваеннапалонны, вы выпускнік спецыяльнай школы Германіі. Я вас віншую, спадар Стальмах, праверку вы прайшлі паспяхова, – зазіраючы ў паперы, вымавіў зусім не ваеннага выгляду чалавек у старасвецкім пенснэ на доўгім чорным шнурку. – Вы выбралі вельмі правільную і патрэбную спецыялізацыю – прапаганда і праца з моладдзю. Моладзь – гэта заўсёды будучыня. Вамі задаволеныя ўсе выкладчыкі, агульны бал вашага разумовага ўзроўню і здольнасцяў чатыры з паловай. Гэта вельмі добра. Зараз пройдзеце з Думкелем і аформіце апошнія фармальнасці. Паспяховай вам працы на будучыню вялікай Германіі!

– Дзякуй, гер камендант, я апраўдаю ваш давер! – бадзёра павярнуўшыся, Дзмітрый выйшаў з кабінета.

Зануда Думкель нікуды не спяшаўся. Дачакаўшыся, калі праз кабінет шэфа прайшлі яшчэ чалавек сем, ён усіх пашыхтаваў і павёў у самы далёкі корпус лагера, які быў абгароджаны асобным высокім плотам і ахоўваўся двума сумнымі эсэсаўцамі. Увайшоўшы ва ўнутраны дворык, хлопцы прыцiхлі і насцярожыліся. Кожны з іх ужо пабываў у гэтым драўляным бараку з закратаванымі вокнамі і яркімі настольнымі лямпамі. Кожны памятаў, што і пра каго ён тут казаў, якія яму задавалі пытанні і што ён пісаў у апытальных лістах, якія далі ім ветлівыя ваенныя з чэпкімі і недаверлівымі вачыма.

Яфрэйтар пашыхтаваў хлопцаў перад уваходам у корпус, далажыў аб прыбыцці і незаўважна выслізнуў за вароты. Праз некалькі хвілін на ганак выйшаў высокі афіцэр, зацягнуты ў чорную форму аховы СС.

– Мікутовіч! – назваў ён прозвішча аднаго з курсантаў.

– Я! – робячы крок наперад, адазваўся высокі, нелюдзімы хлопец з Мсціслава.

– Ты накіроўваешся са мной, астатнія па адным і без шуму – у чацвёрты кабінет.

Выкліканы са строю, хлопец неяк увесь абмяк, і без таго вузкія плечы апусціліся, рукі выцягнуліся, на твары застыла тупаватая грымаса; цяпер ён быў падобны да агароднага пудзіла, вартага жалю і ўсімі кінутага. Ніхто з мсціслаўцам не развітаўся, быццам яго і не было. Будучыя вяшчальнікі нацыянал-сацыялістычных ідэй вышыхтаваліся і па адным, не гледзячы адзін на аднаго, не кажучы ні слова, прайшлі ў калідор.

У чацвёртым кабінеце іх сфатаграфавалі, узялі адбіткі пальцаў з абодвух рук, выверылі ўсе дадзеныя ў картцы персанальнага ўліку і далі распісацца

ў стандартным друкарскім аркушы аб добраахвотным супрацоўніцтве з нямецкай адміністрацыяй і сумленным выкананні сваіх службовых абавязкаў. Потым з нейкім падабенствам урачыстасці тоўсты эсэсаўскі сяржант уручыў кожнаму кардонныя шэрыя пасведчанні, якія пацвярджалі іх прыналежнасць да грамадзянскай адміністрацыі акупаваных тэрыторый рэйха і пашпарт агульнанямецкага ўзору, у якім на першай старонцы готыкай было выціснена: «Без права грамадзянства».

За спінай немца на сцяне вісеў вялізны партрэт Гітлера, у расшпіленым скураным паліто і фуражцы; Дзмітрыю раптам здалося, што фюрэр упіўся ў яго сваім застылым, усёвідушчым поглядам і нібы пытаўся: «А ты, Стальмах, не здрадзіш мне і майму Рэйху, як некалі здрадзіў Сталіну і яго Саветам?»

– Я буду верны табе, мой Фюрэр! – выструніўшыся, даволі гучна прамовіў ён і пачырванеў, крадком азіраючыся, ці не пачулі іншыя міжвольнага рапарту. Здаецца, не. Затое сяржант здзіўлена падняў галаву і самазадаволена выскаліўся:

– Гэта не я, гэта ён Фюрэр! – паказаў на партрэт. – Далей раю не блытаць. Давай, хто там наступны?

Дзмітрый збянтэжаным выходзіў з кабінета.

– Нічога, Дзмітрый Іванавіч, – каля самых дзвярэй ухвальна паляпаў яго па плячы чалавек у шэрым гарнітуры, якога Дзмітрый нават не заўважыў, уваходзячы ў пакой, – некантраляваны выкід эмоцый толькі пацвярджае вашу шчырасць у вернасці Рэйху. Давайце мы з вамі трошкі пагаворым. Я капітан вермахта Маркус. Хадзем да мяне ў кабінет.

Кабінет быў невялікі, але ўтульны для казённых памяшканняў.

– Сядайце, Дзмітрый, можаце курыць, я за адно з вамі падыхаю такім жаданым і ўжо амаль забытым водарам.

– Дзякуй, спадар капітан, я наогул ніколі не курыў, – адказаў Стальмах. Тысячы думак скакалі ў яго галаве вар'яцкі танец невядомасці. Хто гэты капітан? Якая ў яго да мяне размова? Можа, нешта не так з праверкай? Але тады б Аук не пераводзіў бы на мяне сваю хвалу. Спакойна, Дзіма, сядай, не псіхуй і слухай пытанні, уважліва слухай, і не толькі вушамі, усёй сваёй скурай слухай...

– Спадзяюся, ад кавы нованабыты Нямеччынай чыноўнік не адмовіцца? Тым больш, што я яе гатаваў сам і літаральна хвілін дваццаць назад. Зараз мы разагрэем гэты цудоўны дар далёкай Бразіліі. – Пад прыгожым срэбным кававарнікам сіняватым агнём замігцела спіртоўка. – А вы, Дзмітрый, ведаеце, дзе знаходзіцца Бразілія?

– У Паўднёвай Амерыцы, спадар капітан!

– Досыць вам салдафоннічаць, вы такі ж, як і я, афіцэр. Вось бачыце, артылерыст, а геаграфію ведаеце. У нас многія пяхотныя афіцэры не ведалі нават, дзе знаходзіцца Польшча, пакуль туды не прыйшлі. А вы інтэлектуал, і стыль у вас нядрэнны, я вось усе вашыя ўлёткі і нататкі для беларускіх газет сабраў, – кіўнуў ён рукой на тэчку, якая ляжала на стале. – Напэўна, вершамі забаўляліся ў інстытуце, угадаў?

– Ды якія там вершы...

– Не скажыце, вершы, як казаў вялікі Гётэ, яны нібы горная плынь, і ўтрымаць іх у сабе немагчыма. Я вось, уявіце, да гэтага часу грашу. Думаю, у нас будзе час, мы і вершы пачытаем, і яшчэ што-небудзь цікавае. Як вы думаеце, хто я і навошта вас паклікаў? – рэзка змяніў тэму капітан.

– Вы, вы, – ускокваючы з крэсла, завыкаў Дзмітрый, – вы капітан Вермахта...

– Правільна, толькі не зусім звычайны капітан, я тут прадстаўляю ваенную выведку «Абвер». Чулі пра такую?

– Так!..

– Дзмітрый, сядайце і давайце гаварыць без усяго гэтага...– раздражнёна сказаў афіцэр, вымаляваўшы рукамі ў паветры нейкую загадкавую фігуру. – І так... дзе і ад каго вы чулі пра Абвер?

– У лагеры «Стары ксёндз», у Польшчы, месяцаў восем таму. Хлопцы паміж сабой гаварылі пра тое, што павінны хутка прыехаць вярбоўшчыкі з вашай арганізацыі. Адзін з іх, мой цёзка Дзмітрый Раманюк, нібыта нават у вашай школе вучыўся, але правініўся, і яго назад за калючку кіну... прабачце, адправілі.

– Пахвальна, што вы шчыры, і радуе, што наіўны. У нас, курсант Стальмах, з разведшколы людзі сыходзяць ці ў тыл да Саветаў, ці прама на Месяц. Могуць, праўда, са спецзаданнем у канцлагер патрапіць, для ўнутранай распрацоўкі, – манатонна, як пра нешта спрадвечна пэўнае апавядаў капітан, варагуючы са сваім кававарнікам, – а вось і нашая кава гатова. Трымайце кубак, цукар кладзіце самі. Ну як напой?

– Ведаеце, я ж з усходніх раёнаў, з-пад Віцебска, – збянтэжана прымаючы маленькі кубачак з танюсенькай, як шкарлупіна яйка, парцаляны, шчыра прызнаўся Зміцер. – Я асабліва ў такіх напоях не разбіраюся. Калі шчыра, я наогул каву першы раз у жыцці п'ю. Гарбату там, узвары, кісялі, какаву – усё гэта піў, а сапраўдную каву не даводзілася. Дзякуй.

– Тады пачынаем з вас, і, ведаеце, давайце не будзем цягнуць, як у вас кажуць, ката за хвост. Мы прапануем вам супрацоўніцтва і заступніцтва. Не спяшайцеся пярэчыць, – бачачы, як напружыўся суразмоўца, папераджальна махнуў рукой капітан. – Мы не проста да вас прыглядаліся і ацэньвалі, вас нам рэкамендавалі вельмі годныя і паважаныя вамі людзі. Хочаце, я іх назаву?..

## 3

«Дзяржслужачы любога дастатку (ад драбнюткага клерка да самай вярхушкі краіны), які хоць бы раз у квартал не ездзіў у метро ці на іншым грамадскім транспарце, небяспечны для грамадства і павінен быць неадкладна скасаваны з карпарацыі, якая служыць народу». Гэтае, пакуль невядомае шырокай публіцы, правіла, што распаўсюджваецца і на багацеяў свету, было выведзена Вячаславам Стахавічам Скаргам, з нядаўняга часу «новаспечаным» оперупаўнаважаным аднаго з аддзелаў упраўлення дзяржбяспекі сталічнай вобласці. І вось, кіруючыся сваім лозунгам, Скарга, пры наяўнасці ўласнага аўтатранспарту, ездзіў на службу і са службы выключна ў сталічным метро, як і ўсе нармальныя грамадзяне небагатай рэспублікі.

Метрапалітэн, як і належыць падзямеллю, заўсёды жыў і жыве сваім мітуслівым жыццём. Масква ў трыццатыя гады, выкапаўшы ўслед за Захадам для сваіх грамадзянаў норы перамяшчэння, пачала распаўсюджваць гэтую моду на сталіцы саюзных рэспублік і рэдкія гарады-мільённікі. Не прамінула гэтая аблуда і Мінска. Сталічны метрапалітэн дастаўся суверэннай Беларусі, як і іншыя цуды імперскай велічы, ад савецкай і ўшчэнт сацыялістычнай БССР.

Горад з метро – гэта ўжо сапраўдны горад, не роўня абласным правінцыям і паселішчам гігантаў хіміі ці металургіі. Метро, нават на постсавецкай убогасці, і да сёння лічыцца не толькі сродкам перамяшчэння, але і сімвалам статуснасці, што дазваляе жыхарам песціць у сабе асаблівы местачковы гонар. Чалавека краіны Саветаў заўсёды прымушалі чым-небудзь ганарыцца: то, скажам, палётам сабачкі ў космас, то рэкорднымі надоямі малака, то такім выкананнем дзённага плана, што твая паўсядзённая норма пачынала здавацца нізам працоўнага імпэту, то перамогай спартсмена, які даўно ўжо не жыве не толькі ў тваім горадзе, але і на тваёй Радзіме рэдка бывае. Калі ж на дадзены момант ганарыцца не было чым, прадпісвалася ганарыцца і хваліць навакольную прыгажосць. Калі хто з прыезджых заводзіў дурную песню пра нашыя нікуды не вартыя тавары, пра каўбаску з паніжаным утрыманнем мяска ці яшчэ пра што падобнае, яму адразу ж пачыналі распавядаць пра мясцовыя лясы, азёры і мястэчкі, разваліны замкаў. Не ганарыцца сваім мы не можам. Таму без падобнага гонару – што ж мы за народ такі? І вось ад агульнасавецкага гонару мы неўзабаве перайшлі да гонару ўсебеларускага. Ганарыўся сваім горадам, яго метро і малады чэкіст.

Вячаслаў рэдка ездзіў на службу ў абавязковым касцюме з гальштукам, у гэтую казённую браню ён апранаўся ўжо ў кабінеце, а так – красоўкі, джынсы, някідкая куртка, модная сёння сумка а-ля планшэт і вязаная шапка складалі яго дарожны гардэроб. Старэйшыя таварышы па аддзеле паджартоўвалі з дзівацтваў маладога лейтэнанта і адразу ж узнагародзілі яго мянушкай «канспіратар». І мянушка Скаргу падабалася.

Уражанні ад пачутага і падгледжанага ў падземцы і тралейбусе, а ездзіць яму даводзілася аж у Малінаўку, Вячаслаў амаль кожны вечар аналізаваў і запісваў у дзённік. «Дзённік для чэкіста – апошняя справа, – не пераставаў паўтараць адзін з іх выкладчыкаў, – асабістыя перажыванні і думкі, давераныя паперы ў юнацтве, могуць нашкодзіць спакойнай і сытай сталасці і тым больш старасці. Так што спецыялізуйцеся на чытанні чужых прызнанняў і ніколі не пішыце сваіх». Вячаслаў прыняў гэтую параду да ведама, але дзейнічаў па-свойму.

Дзённікі ён пісаў даўно, з восьмага класа, і надзейна хаваў у старым, яшчэ прапрапрадзедавым схове, па-майстэрску абсталяваным у іх старым доме ў Нясвіжы. Дому гэтаму, калі верыць нябожчыку дзеду, было гадоў чатырыста з гакам, пра памер гака дзед нічога не казаў, а вось схованку перад самай смерцю паказаў, пры гэтым узяў клятву, што Вячаслаў адкрые тыя таямніцы толькі свайму ўнуку, калі яму споўніцца сямнаццаць гадоў.

– Дзед, а калі ўнука не будзе?

– Як гэта не будзе? – наморшчыўшыся, строга спытаў той.

– Калі будуць толькі ўнучкі?

– Тады жыві, чакай праўнукаў, але амялушкам і чужынцам нашу таямніцу не выдавай, – падумаўшы, дзед дадаў: – Сыну не ўздумай казаць, сын бацьку не сябар, ён больш супернік. Гэта пакуль табе зразумець цяжка, пазней, пазней датумкаеш. У самым крайнім выпадку сярэдняму ўнуку свайго брата пакажаш, які табе будзе радней і бліжэй. І наогул, больш за ўсё давярай сваім пачуццям ды інтуіцыі, не пярэч ім і не супраціўляўся.

Схованку гэтую, па словах дзеда Браніслава, ніхто з чужынцаў не знаходзіў, хоць дом пераварочвалі ўверх дном і шведы, і французы, і расейцы, і польская «двуйка», і нямецкая СД, і разоў з шэсць родныя савецкія органы.

Акрамя запаветных сшыткаў, у пласторнай каменнай нішы захоўваліся паперы іх роду, поўны радавод, дароўныя граматы вялікіх князёў і каралёў. Тры старадаўнія пярсцёнкі, нейкія жаночыя ўпрыгожанні, гісторыю якіх нават дзед ужо не ведаў, два старадаўнія кінжалы і пісталеты, адзін дапатопны, інкруставаны золатам і перламутрам, другі нямецкі армейскі «Вальтэр» з дзвюма запаснымі абоймамі. Былі яшчэ і залаты гадзіннік, падораны аднаму з іх сваякоў Тадэвушам Касцюшкам. Асаблівы гонар у гэтым скарбе ўяўлялі пяць таўшчэзных тамоў, пераплеценых скурай сшыткаў – дзённікавых запісаў ягоных продкаў. Запісы вяліся, наколькі ён мог разабраць, на латыні, па-польску, па-французску, па-нямецку і, здаецца, па-італьянску. Вячаслаў памятаў, як спрабаваў з наскоку, абклаўшыся слоўнікамі, спасцігнуць сэнс незразумелых слоў, дзе амаль кожная буквіца была ўпрыгожана мудрагелістымі завіткамі. Дзе тут літара, дзе яе ўпрыгожванне – паспрабуй разбяры! Кавалерыйскай атакі не атрымалася. Засеў за мовы. Але і адноснае веданне іх, той жа нямецкай ці польскай, мала што давала. За стагоддзі шмат што змянілася не толькі ў матэрыяльным свеце, але і ў яго слоўнай абалонцы, так што экскурсію ў нетры свайго старажытнага роду давялося адкласці, ды і служба адымала амаль увесь час.

У нясвіжскім доме жыла бабуля са сваёй малодшай дачкой і яе сямействам. Вячаславу па старой традыцыі належаў дзедаў пакой, невялікі і ў параўнанні з астатнім домам нейкі падслепаваты, затое зімой самы цёплы і ўтульны. У ім за шырокім старадаўнім сталом, які, нават разабраўшы, немагчыма было вынесці, рабілі ўрокі і гулялі Вячаслававы стрыечныя браты і сястра. Начаваць і пастаянна жыць у пакоі мог толькі той унук, якога назваў у сваім тэстаменце дзед, нават адважная бабуля, якая пабачыла на сваім веку многае, і тая, ледзь пачынала змяркацца, спяшала з дзедавага кабінета, а ўжо ўначы туды зайсці яе нельга было прымусіць ніякімі просьбамі ці пагрозамі.

Падчас вайны ў тым пакоі размясціўся нямецкі афіцэр, сам яго выбраў, доўга хваліў стол, захапляўся спакоем і прыгожым відам з акна, што выходзіла на возера і Радзівілаўскі замак, у якім тады размяшчаўся дом адпачынку і шпіталь лётчыкаў люфтвафэ. Тыдні праз два пастою пайшоў сабе ветлівы Ота на службу і павесіўся ў сваім кабінеце, пакінуўшы перадсмяротную цыдулку: «Прабач мне, Эльза, я сыходжу да Барбары!». Эльзай звалі яго жонку, а хто такая Барбара – ніхто не ведаў і не разумеў, чаму да яе трэба было сыходзіць такім дзіўным спосабам. Гэтыя падрабязнасці распавёў дзяншчык, забіраючы гаспадарскія рэчы.

Новы пастаялец, эсэсаўскі лейтэнант, таксама доўга не пажыў, насмерць разбіўся на матацыкле, цыдулкі не пакінуў, але, як мянташылі ўчэпістыя языкі, у шпіталі перад адыходам на той свет таксама ўсё клікаў нейкую Барбару.

Вячаславу ў дзедавым пакоі спалася спакойна і лёгка, ён нават і сноў там толкам ніколі не бачыў. Таямніцай роду ён даражыў і па дробязях у схованку не лазіў. Наогул, так сталася, што пра таямніцу падзямелля ён даведаўся раней, чым прыняў рашэнне паступаць у Вышэйшую школу КДБ, ды і дзед, калі б быў жывы на той час, наўрад ці ўхваліў бы выбар унука, хоць ягоны сын, бацька Вячаслава, служыў некалі ў нейкім дзіўным ваенным ведамстве. З бацькам заўсёды было шмат нейкіх таямніцаў і недагаворанасці. То ён быў журналістам-міжнароднікам, то дыпламатам, то, як вузкі спецыяліст па сельскагаспадарчай тэхніцы, вызубрыўшы на хуткую нагу фарсі, з’ехаў

у Афганістан. Там у нейкай глухой правінцыі на мяжы з Пакістанам, яшчэ гады за паўтара да ўводу савецкіх войскаў, ён і загінуў; няшчасны выпадак – так было сказана ў афіцыйным паведамленні. Хавалі бацьку ў цынкавай труне. На пахаванні было некалькі незнаёмых людзей, трымаліся яны збоку, пасля могілак, пашаптаўшыся з мамай, моўчкі раз’ехаліся, застаўся толькі адзін, які калісьці вучыўся з бацькам у адным ваенным вучылішчы – і пасля памінак пра нешта доўга размаўляў з дзедам і мамай. Вячаслаў гэта ўжо добра памятаў. Дзед усё абяцаў нешта расказаць пра бацьку, ды не паспеў: памёр нечакана, раніцай на кухні за сталом.

Мітусня метро маладому і амбітнаму чэкісту падабалася; нават калі не было машын, ён адзначаў для сябе вельмі павучальныя і яркія асаблівасці ў паводзінах людзей, а колькі ён пачуў размоў пра сённяшнюю рэчаіснасць і ўладу! Самыя смелыя і вострыя траплялі ў яго сшытак. Праз год-два, перачытваючы іх, малады чалавек міжволі дзівіўся аднастайнасці і недальнабачнасці народнага погаласу. «Натоўпу не дадзена прарочыць, – любіў паўтараць дзед. – Ніколі не ідзі на повадзе натоўпу і ніколі не пярэч яму, але заўсёды рабі па-свойму».

Перайшоўшы на чацвёрты курс, Вячаслаў абвясціў маме, што будзе жыць асобна і каб яна правільна яго зразумела ды не крыўдзілася. Сёння ён вяртаўся на сваю здымную кватэру позна. Пасля працы забег да Ягора Кузьміча і засядзеўся. Ды ў гэтага чалавека не тое што засядзецца – у яго можна было б і пасяліцца жыць, здымаючы ўсяго толькі вузкую скрыпучую кушэтку, калі б прапанаваў яму гэта гаспадар.

– Грамадзяначка, давайце толькі без аказання супраціву прадстаўнікам улады! Грамадзянка...

Два паставыя міліцыянты спрабавалі затрымаць дзяўчыну, якая вырывалася ад іх. Трэці, па ўсім старшы нарада, спрабаваў звязацца з кімсьці па рацыі. Вячаслаў, не раздумваючы, падышоў да яго, паказаў службовае пасведчанне і пацікавіўся, што адбываецца.

– Вось, таварыш лейтэнант, непадпарадкоўваецца грамадзянка і затрымліваецца для высвятлення асобы...

– Старшына, маё прозвішча Скарга, і давай без званняў ды казыранняў, – упаўголаса папрасіў лейтэнант. – За што затрымліваеце? – Вячаслаў уважліва паглядзеў на дзяўчыну: тая маўкліва ўпіралася, але з ёй усё ж справіліся ахоўнікі парадку і вялі да старшага. Сімпатычная, меднавалосая, з бел-чырвона-белым шалікам вакол шыі, у бярэтцы з бел-чырвона-белай стужкай і з бел-чырвона-белай значкай на кароткім палітончыку ў чырвона-белую клетку.

– Так, старшына, з чырвона-белым відавочны перабор, – усміхнуўшыся, з разуменнем вымавіў Скарга.

– Ну дык і я пра што! Як нейкі бэнээфаўскі хадзячы плакат.

Вячаслаў ужо быў сабраўся пайсці далей, але, зірнуўшы яшчэ раз на дзяўчыну, прыкінуў, што з ёй можна было б папрацаваць як з будучай даверанай асобай з пратэстных моладзевых тусовак.

– А ведаеш што, старшына, аддай ты мне гэтую хадзячую бяду, тут думка адна мільганула.

– Што ж, лейтэнант, – з ухмылкай вымавіў міліцыянт, – давай бяры, толькі глядзі – і за нас яе дзерані.

– Добра, як цябе завуць?

– Эдзік...

– Эдуард, давай вось што, – Скарга нешта таропка зашаптаў яму на вуха.

– Ага, усё зразумеў, зраблю...

Вячаслаў, адвярнуўшыся, каб не сустрэцца вачыма з затрыманай, пайшоў з метро. Ужо на вуліцы ён прытаіўся за бакавой сценкай выхаду і стаў чакаць. У хуткім часе з'явіліся старшына Эдзік і прыціхлая затрыманая. Чэкіст умела адштурхнуў канваіра, перахапіў руку дзяўчыны і з нягучным крыкам «Уцякайма!» нырнуў з ёй у яшчэ зімовы змрок вясновай ночы. Ззаду сіпла заліваўся міліцэйскі свісток. Прабегшы пару двароў, уцекачы перайшлі на хуткі крок, пераканаўшыся, што пагоні няма, спыніліся і зарагаталі.

– Ну ты даеш, я спалохацца не паспела, як ты мяне вырваў у гэтага монстра і завалок у цемру, – скрозь смех сказала дзяўчына. – Мяне завуць Стэфанія, сябры Стэфа, а ты – як табе зручней, ты ж мой выратавальнік.

– Я Вячаслаў, у сяброў Слава, Славец, таксама выбірай, як зручней, – працягваючы руку, адказаў хлопец. – Ты дзе жывеш?

– Наогул-та я з Горадні. У Менску вучуся ва ўніверы замежных моў, жыву ў здымцы на іншым канцы горада, тут у сяброўкі была на адной тусоўцы. Як дадому дабірацца – не датумкаю, у метро, напэўна, цяпер нельга?

– Гэта ўжо так! Ні табе, ні мне туды сёння лепш не совацца. Мянты, хутчэй за ўсё, да закрыцця там будуць тырчэць. Давай лепш я цябе да тусовачнай сяброўкі правяду, гэта далёка?

– Ды не, калі пешшу і наўпрост – хвілінаў трыццаць, на аўтобусе дзесяць, але яго ў гэты час не дачакаешся. Вось звалілася на тваю галаву, табе, мабыць, дадому трэба, жонка ўжо мо зачакалася?

– Малады я яшчэ для жонкі. Дзед мой быў пераканаены, што кавалер задумвацца пра сям'ю мае права толькі пасля трыццаці пяці, а заводзіць жонку пасля сарака.

– Відаць, дзед твой быў дока па частцы дзяўчат! Бедная бабка!

– Не, з бабкай у іх усё было нармальна, яна была яго маладзей на дваццаць пяць гадоў, а вось да бабулі, – Вячаслаў злёгку свіснуў, – там, кажуць, шмат чаго было. Давай паказвай дарогу. А чаго гэта ты так кідка апранулася? – змяніў ён тэму.

– Ды вось хацела даказаць аднаму дзіваку сваю смеласць і нацыянальную заангажаванасць.

– І атрымалася?

– Ды ну яго, змагар прыезджы! Вось тут направа і прама праз пустку. Ты не збаішся туды пайсці?

– Ты ж не баішся?

– Дык гэта ж з табой, адна ні за што не паперлася б, нават па п'янцы.

– Я цябе якраз пра гэта самае «з табой» і пытаю: не боязна з незнаёмым мужыком ноччу па будаўнічых пустках швэндацца?

– Слухай, ну цябе! – дзяўчына спынілася і, як здалося Вячаславу, нібыта зморшчылася. – Пайду я лепш у метро ці вунь на прыпынку аўтобуса пачакаю. А я думаю, што гэта ты мне пра дзеда свайго заліваць стаў. Можа, ты маньяк?

– Не, і мяне, і род мой Гасподзь ад такой заганы збярог. Пажартаваў я, ну дык ідзем?

Стэфанія, міжволі імкнучыся быць бліжэй да маладога мужчыны, пакрочыла побач.

## 4

Хтосьці стукаў у вароты. Спачатку стук быў нягучны, нібыта даверлівы, можа, нават разлічаны на тое, што яго чакаюць у соннай хаце. Потым узмацніўся. І ўжо не адзін чалавек і не рукой злосна лупіў у счарнелыя дубовыя дошкі варотных палавін.

Першай слабы стук пачула Эва і, сцяўшыся пад коўдрай, прыслухалася, імкнучыся адагнаць ад сябе страх, што змусіў мацней забіцца сэрца. Чым маглі скончыцца для закінутага ў глушэчы хутара гэтыя чужыя гукі яна, як і ўсе навакольныя сяляне, ведала яшчэ з ранняга дзяцінства.

Казімір прачнуўся хутчэй ад спалоху жонкі, чым ад груку, і, мацюкаючыся, няспешна падышоў да стала, дастаў запалкі, падняў шкло і запаліў вялікі нямецкі ліхтар.

– Каго там яшчэ халера прынесла? – загаварыў ён нізкім, асіплым спрасоння голасам, – добра хоць дзяцей дома няма. Ты давай, тамака, Эўка, апранайся ды паглёньдзь, што там на стол можна пакласці. Калі ўжо ўсё гэта скончыцца? – Гаспадар, па-ранейшаму не спяшаючыся, нацягнуў штаны, боты, накінуў на плечы ватнюю безрукаўку. У цёмных сенцах, за вялікімі жорнамі, сунуў руку ў схованку, пераканаўся, што зброя і гранаты на месцы, і выйшаў на двор.

Прыхадні, мабыць, заўважыўшы ў акне святло ліхтара, сціхлі.

– Каму там не спіцца па начах?

– Добрым людзям, гаспадар! – адказалі яму па-польску.

– Добрыя, яны па начах у чужыя вароты не ломяцца, панове, – пераходзячы на польскую, запярэчыў Казімір, зазірнуў у прачыненыя дзверы. На парозе стаіўся з кулямётам яго нямы работнік. Гаспадар ледзь кіўнуў галавой уверх, маўляў, давай на гарышча, як было ў іх загадзя дамоўлена.

За варотамі стаялі трое, са зброяй. Аднаго з няпрошаных гасцей ён ведаў, звалі яго, здаецца, Янэкам. Быў ён сярэднім сынам мясцовага асадніка іхняй гміны пана Высчынскага, неблагога чалавека і моцнага гаспадара. Калі прыйшлі Саветы, дык яго яшчэ ў кастрычніку трыццаць дзявятага забралі ў баранавіцкую турму, там і знішчылі. Сям'ю неўзабаве загналі ў таварны вагон і вывезлі кудысьці ў Сібір. Янэка на той час дома не было, ён, казалі, вучыўся недзе ў Вільні, тым і ўратаваўся. Казімір і яшчэ трое сялян з суседніх хутароў падабралі на разрабаваным падворку амаль нежывую маці Высчынскага. Відаць, нехта з вызваліцеляў штурхнуў старую, тая стукнулася галавой аб кут, так з разбітай галавой і ляжала, можа, падумалі, што сканала. Але Бог не даў, уратавалі ўсім светам. Дзесьці праз паўгода аб'явіўся гэты самы Ян з нейкім сваяком і забраў бабку.

У Казіміра крыху адлягло ад сэрца: «Можа, усё і абыдзецца? Хоць па цяперашніх часах дабро ў чалавечай душы надоўга не затрымліваецца. На цябе, Гасподзь, спадзяёмся!»

– Ну заходзьце, калі ўжо завіталі, – прапускаючы ў двор прыхадняў, вымавіў гаспадар. Зачыніў вароты. – Тут пагутарым ці ў хату зойдзеце?

– У дом нам без патрэбы, жонку і дзяцей палохаць няма чаго. Цябе, хоць ты і схізматык, добра рэкамендуюць нашы людзі, – адказаў, відаць, старшы, чалавек сярэдняга ўзросту, зарослы сівой шчэццю, амаль увесь твар хаваў цень ад шырокага брыля канфедэраткі. – Адным словам, пан Казімір, будзе ў польскай Арміі Краёвай да цябе адно даручэнне. Можаш гэта лічыць просьбай. Можаш адмовіцца, але не можаш здрадзіць. Ты мяне разумееш?

– Не, пан афіцэр, пакуль не разумею. Што трэба зрабіць?

– Рабіць нічога не трэба, трэба не выдаць той таямніцы, якую табе даверацъ...

– А, ну так бы і казалі, я, праўда, не ведаю ніякай таямніцы, але калі пан скажа, то буду маўчаць. Мы тутака, – мужык павёў рукой, – усё адно больш маўчым, з канём шмат не пагаворыш.

– Час, гаспадар, цяжкі, Саветы асільваюць, шмат, вельмі шмат людзей загінула, – прастуджаным голасам казаў камандзір, – трэба ратаваць тых, хто застаўся, трэба сыходзіць на Захад. – Паляк замаўчаў, быццам нешта абдумваючы.

«Відаць, і насамрэч прыцiснулі вас, – стараючыся не ўсміхнуцца, падумаў Казімір, – за польскім часам ды і пры немцах, калі вас тут ва ўсіх лясах і хутарах як прусакоў сядзела, стаў бы ты са мной так гаварыць адкрыта...»

– Мы вырашылі пакінуць у цябе адзін груз, каб ты яго схаваў і аддаў толькі нашаму чалавеку. Ты згодны?

– Калі тое, пан, нешта малое і не зброя, то чаму не схаваць.

– Гэта не зброя, гэта тры малыя жалезныя скрыні. Там не пянёнзы, не золата, там нашыя вайсковыя паперы. Мы іх адамкнём – і ты сам усё ўбачыш.

– Пан, мне чужога не трэба, мне хопіць і таго, што вы дасце за ахову папер. Нясіце свае скрыні сюды, да адрыны. Як пойдзеце, я іх надзейна схаваю. Я вось толькі аніяк не даўмеюся, за якія заслугі мне ад вас такі давер? Вунь вашых палякаў кругом колькі...

– У нашых будуць шукаць, пан Казімір, – адказаў за камандзіра, які адышоў да варот, Ян, – пра гэтыя паперы многія ведаюць. І сярод сваіх бываюць юды, нешта нам апошнім часам часта не шанцуе: куды ні сунемся, а нас там ужо чакаюць радзенцы. Вы за сябе не бойцеся, пра нашую справу ведаем толькі мы ўтрох.

– О, пан Янак, пан Янак! Усё вакол пылам пайшло, люд злым стаў, ні дабра, ні Бога не памятае. Горш звяроў сталі. Вайна стрэльбы дала, а сэрца ў чалавека забрала, а галоўнае, што там наперадзе будзе, нікому невядома. Ссунуўся ўвесь свет, усе бягуць адзін ад аднаго. Ну, а вы куды пабежыцё? За кардон? Дык у вашай Варшаве даўно ўсё тыя ж радзенцы, і ў Чэхіі, і ў самой Нямеччыне скрозь Саветы. Бедныя вы людзі, ну бяжыце, хай ужо хоць Бог вам спрыяе. А за паперы не бярыце нічога такога да галавы, даглёнжу.

– Вельмі на вас спадзяемся. Гэта я прапанаваў пану харунжаму схаваць архіў у вас. Слова даў за вашу надзейнасць і галаву сваю. Другі раз Бог нас зводзіць...

Афіцэр прытрымаў палавіну варотаў, трэці акавец выслізнуў на вуліцу і хутка вярнуўся з цяжкай, мяркуючы па ўсім, скрыняй. Паставіў яе каля сцяны хлява, прынёс другую, крыху большую, і яшчэ адну.

– Вось, гаспадар, і ўвесь груз, як бачыш, месца шмат не зойме. Калі прыйдзем па яго, я не ведаю, але прыйдзем абавязкова. Вось ён, хутчэй за ўсё, і прыйдзе, – камандзір паказаў на Яна, – а як ён не зможа, то прыйдзе чалавек і скажа: «Прывітанне вам ад пана Яна з Гальшан, таго, што пакінуў у вас свайго каня» – яму і аддасі скрыні. Скрыні гэтыя добра зачыненыя і не баяцца вільгаці, ну ў вадзе іх, вядома, трымаць не трэба. Што вам яшчэ сказаць, нават і не ведаю. Вось, вазьміце грошы. Тут дастаткова, усё ў радзецкіх купюрах, ад граху далей. Для вашай навакольнай галечы грошай шмат, так што траціць іх варта з аглядкай, памалу і лепш

не тут, а ў горадзе, каб не было прыкметна, ніхто не спытае, адкуль яны ў цябе, а галоўнае – суседзі зайздросціць не будуць. А яшчэ, каб ты не забыў пароль... – афіцэр махнуў рукой жаўнеру, што насіў скрыні. Той выйшаў з двара і вярнуўся з пародзістым жарабцом.

– Не, не, не, родненькія вы мае паночкі, – спалоханым голасам узмаліўся Казімір, – нельга, нельга мне такога каняку. Гэта ж верная пагібель! І мяне заарыштуюць, і дзяцей паб'юць. Не, забярыце вы яго з вачэй маіх! Ой, і добры, добры конік, толькі ён араць не зможа і ў аглоблі не стане. Не, дзякуй, забярыце. Я, можа, вось за грошы вашыя куплю якую кабылку, нібыта як з кумам і шваграм у складчыну, так яно спакойна будзя.

– Добра, гаспадар, ты сапраўды маеш рацыю. Дадамо да каня, – і харунжы дастаў яшчэ некалькі савецкіх пяцідзесяцірублёвак з афіцэрскай сумкі.

– Вось за гэта дзякуй! – з паклонам прыняў нечаканае багацце Казімір, – дык вы хоць на хвіліну зайдзіце ў хату, а тамака жонка ўжо, відаць, і на стол накрыла. Перакусім і бімберу паспрабуеце майго.

– Дзякуй за запрашэнне, пан Казімір, але нам пара, наперадзе яшчэ доўгія зборы. Паперы беражыце, яны вельмі важныя, хацелася б, каб хоць дзеці нашыя калісьці прачыталі іх і зразумелі, за што мы тут гінулі. Пра здраду і пакаранне я казаць не буду, сам усё разумееш. Усё, да відзэння!

Госці, казырнуўшы, сыйшлі, забраўшы свайго прыгажуна, які насцярожана стрыг вушамі.

Казімір замкнуў на завалу вароты, пастаяў, паслухаў. Хмурная, начная цішыня вісела над хутарам, ні гуку, ні шоргату, быццам і не было гасцей, толькі грошы адтапырвалі кішэню ды каля сцяны хлява цямнелі тры сплюшчаныя скрыні. На ганку хаты стаяла, прыціснуўшы да грудзей рукі, Эва, а з дзвярэй адрыны выглядваў здзіўлены твар работніка Міхала.

– Ну што застылі, як ёлупы? Ты, Эўка, ідзі адчыняй падполак, а ты, чорт нямы, бяры скрыні і цягні ў хату. Вось як яно іншым разам выпадае... не ўсялякі начны стук да бяды, бывае, што і да прыбытку.

– Ох, Казімірка, баюся я гэтага начнога багацця, – заходзячы ў хату, адказала жонка.

«Бойся, бойся, дурная баба, – падумаў Казімір, падымаючы адну з скрыню, – а коніка я сабе ўжо прыгледзеў. Цяжкая, зараза! А калі там не паперы? Не, нарабаванае яны б ні за што не кінулі. Хай пакуль у гэтай блізкай хованцы паляжаць скрыні, а пасля справаджу і жонку, і ентага калеку – ды ўжо без лішніх вачэй перавалаку ў далейшую, яшчэ бацькаву схованку. Так яно будзе спакайней. Хвала Богу, ёсць на хутары такое месца».

## 5

– Вось ты мне, Лаўрэнцій, адкажы, ты там да вярхоў бліжэй, можа, навука якая маецца, якая тлумачыць, як і адкуль з'яўляюцца правадыры?

– Правадыры не з'яўляюцца, і наогул... – са здзіўленнем зірнуўшы на суразмоўцу, з лёгкім каўказскім акцэнтам вымавіў сярэдніх гадоў мужчына ў напаўвайсковым фрэнчы, – правадыроў у адных народаў і адной краіны шмат быць не можа. Правадыр – ён адзін і множнага ліку не трывае. І такі правадыр у нас ёсць! А вось начальнікаў, начальнікаў якраз правадыр і прызначае. І потым, – ён з-пад ілба глянуў на суразмоўцу, – ты, Панцеляймон, давай не прыкідвайся: «Да вярхоў бліжэй», ужо хто з нас і бліжэй, дык гэта ты. І я б папрасіў цябе без гэтых, без правакацыйных пытанняў

пра правадыроў. А то і не пагляджу, што сябар, пяро папросту магу ў чарнільніцу макнуць, – Лаўрэнцій падсунуў да сябе талерку з салёнымі агуркамі.

Каўказец з налітымі, як ва ўсіх грузінаў, вуснамі, хітра прыжмурыўшыся, працягваў уважліва глядзець на свайго сабутэльніка.

– Ага, з табой шчыра, Лаўрэнцій Фаміч, не пагаворыш, – абыякава, без напружання і эмоцый, размешваючы салату, адазваўся галоўны партыец Беларусі. – Усё ты хочаш перакруціць, перайначыць. Усё імкнешся нейкую крамолу ў звычайных словах адшукаць ды пад манастыр як-небудзь падвесці. Я з табой не аб канкрэтным правадыры і канкрэтнай краіне гавару. У нас з гэтым усё даўно ўжо вызначана, народам і партыяй вызначана. У іншым маё пытанне: вось як так атрымліваецца, што менавіта гэтага, а не нейкага іншага чалавека ўзвялічвае воля народа...

– Э, родны, якая воля?! Якога народа? Гэта сам, разумееш, сам правадыр сябе робіць вялікім і вядзе за сабой народ. Пачакай, пачакай! – заўважыўшы здзіўлена ўзнятыя бровы суразмоўцы, замахаў рукамі Цанава, – чытаў я і статут, і праграму нашай сталінскай партыі, усё пра калектывізм ды іншыя прыгожыя словы памятаю і сяброўскія складкі плачу. Тут, калі я правільна ўлавіў тваю думку, размова пра іншае: якая сіла простага, зямнога чалавека робіць вялікім? Так, біджо?

– Во, бачыш, пры пэўнай крытыцы і ты па-таварыску загаварыў. Менавіта пра тое я і тлумачу. Нешта ў такім узвышэнні ёсць асаблівае, вось толькі што? Не быў бы бальшавіком і атэістам, падумаў бы, што бог, але адкуль яму ўзяцца, калі яго няма? Я вось гляджу на Самога – мяне збянтэжанасць бярэ! Гэта ж якая ў ім сіла сядзіць, каб усім гэтым варочаць! – ён крыху па-тэатральнаму павёў рукамі. – Ну, цяпер яно лягчэй, а вайна? Вайну дык ён выйграў! Не было б яго – страшна і падумаць, што было б з намі. Ці вось з таго боку таксама правадыр быў, і о-го-го які правадырына! Я сам, на свае вочы бачыў, як яго немцы гатовыя былі на руках насіць...

– І дзе гэта ты бачыў? – з непадробнай цікавасцю спытаў чэкіст.

– Ды каб цябе! – з прыкрасцю выгукнуў суразмоўца, адстаўляючы міску. – У хроніках закрытых бачыў, у кіно, яшчэ да вайны. А ты ўжо, відаць, падумаў, што я з іхнім фюрэрам на трыбунах стаяў? Добра, не лепіцца ў нас сёння размова. Давай па астатняй, як тут гаворыцца, і разыходзімся, а то зноў пасабачымся. Не люблю я пасля нашых узаемных падколак і хмельных крыўдаў хадзіць. Што ўжо тут дурыць, калі я зусім пра іншае з табою хацеў за чаркай пагаварыць...

– Ну дык і гавары! Якія тут падазрэнні могуць быць? Чаго мы толькі з табой не перажылі за гады сумеснай працы, а ты ўсё як хлопчык: ледзь якую дурную думку ў галаву ўзяў – адразу ў крыўду. «Па астатняй, па хератняй»! Толькі прыселі, вунь колькі ежы твае партызанскія кашавары нанеслі. Давай за нашага адзінага і вялікага правадыра вып'ем! Пакуль ён з намі, і мы будзем з ім! За здароўе Іосіфа Вісарыёнавіча!

Выпілі прымірэнчы тост. Засаплі, апетытна жуючы закуску. За плячыма гэтых людзей было столькі агульнага, што лепш бы пра яго і не ўзгадваць. Кажуць, няма страшней нянавісці і мацней дружбы, чым тая, якую звязвае кроў сумесна загубленых ахвяраў. Колькі гэтай крыві было на руках нахмураных суразмоўцаў, гэтага нават яны самі не памяталі і памятаць не хацелі. Ды і не кроў яны праліваді нявінную, не жыцці і лёсы людскія калечылі, яны непарушна выконвалі свой абавязак партыйцаў і высякалі пад корань усякую нечысць, якая замінае савецкім людзям будаваць

сваю светлую будучыню. Яны засвоілі яшчэ кастрычніцкую ісціну: не ты, дык цябе! Галоўнае – нічога ад сябе, усё імем партыі, імем народа. А тое, што яны самі жылі не ў бараках і смярдзючых, счарнелых ад часу хатах, як увесь народ, дык гэта не іх выбар! Гэта воля партыі. Так вырашылі таварышы. Скажы ім сёння нехта ў твар пра бязвінна загубленыя душы, абодва саноўныя партыйцы схапіліся б за зброю ці клікнулі б ахову, каб сцерці ў лагерны пыл антысаветчыка, які сумняецца ў правільнасці іх учынкаў і мудрасці вялікага правадыра.

Барацьба з ворагамі народа, усялякімі нацыяналістамі і касмапалітамі ў той не такі ўжо і далёкі ад нас час з'яўлялася, як сёння б сказалі, прыярытэтным праектам. А перадавікоў і застрэльшчыкаў падобных праектаў шанавалі ва ўсе часы. Перад пачаткам вайны, улетку сорак першага, памёр ад цырозу пасля цяжкіх запояў легендарны чэкіст Пётр Магго. Легендарнасць энкавэдэшнага стаханаўца непарушна стаяла на асабістым рэкордзе: Пётр уласнаручна расстраляў з тысяча дзевяцьсот дваццаць сёмага па саракавы год роўна дзесяць тысяч чалавек! Рэкорд, што называецца, зафіксаваны кіраўніцтвам і высока ацэнены. Ордэны Леніна, «Баявога Чырвонага Сцяга», «Чырвонай Зоркі» і шматлікія медалі ўпрыгожвалі грудзі ка́та. Як і належыць выдатнай асобе, пахавалі заплечных спраў майстра на самых прэстыжных могілках Масквы...

– Эх, Лаўрэнцій, – перастаў жаваць Панамарэнка, – можа, і меў рацыю ў сорак пятым твой зямляк і цёзка, трэба было не спыняцца нам у Берліне, а перці далей. Жукаў з Коневым у сваім дурным спаборніцтве за ўзяцце сталіцы рэйха і людзей паклалі дарма, і Заходнюю Германію з Францыяй прафукалі. А вазьмі іх мы, наколькі б сёння спакайней было?

– Ды не кажы ты! І спакайней, разумееш ты, жылося б, і правадыр быў бы адзін на ўсю Еўропу з Азіяй у дадатак. І мы з табой, Панцеляймон, камандзіроўку ў ЦК выпісалі б – і ў Парыж! Ох і дзеўкі там! Кажуць, не роўня нашым і нават немкам! Такое з мужыкамі вытвараюць!

– Ну ты і хапіў! – ужо лагодна працягнуў галоўны камуніст рэспублікі, – вам, генералам, толькі шашкай махаць, што сваёй, што казённай! Калі б Францыя стала сацыялістычнай, – яму гэтая тэма відавочна прыйшлася да душы, – французскі пралетарыят зачыніў бы гэтыя гадзючнікі распусты. А вось з іншымі прастытуткамі – халуямі фашысцкімі, якіх сёння прыгрэлі ў сябе на грудзях былыя сраныя саюзнічкі, было б нашмат прасцей. Хлопцам тваім не прыйшлося б па лясах лазіць, недабіткаў з іх смярдзючых нор выкурваць. Ты толькі на хвіліну прыкінь: казлы, якія засылаюць сюды ўвесь гэты зброд, таксама лічаць сябе правадырамі! Вунь у сваіх паганых лістках так і пішуць: правадыр беларускага народа, прэзідэнт БНР...! Які правадыр, якая народная рэспубліка?! Толькі аднаго ашалелага правадыра прыдушылі, а гэтыя, як блохі, са шчылін павылазілі! Гітлер ім не дапамог, цяпер, бачыш, уся надзея на амерыканцаў з англічанамі.

– Дай час, Панцеляймон Кандрацьевіч, вычысцім Беларусь і ад гэтага бруду. А чаго ты хацеў?.. Пасля кожнай вялікай буры рознага смецця і га...на шмат застаецца. Вось мы з табой і чысцім!

– Чысціць то чысцім, але ж крыўдна! Партызанская рэспубліка, народ паўстаў супраць фашыстаў...

– Была б яна партызанскай! НКВД жалезнай рукой і гарачым жалезам стварыла гэты народны рух! Але я з табой цалкам згодны – крыўдна! Мне вунь дакладваюць, што і былыя партызаны з абрэзамі па лясах швэнда-

юцца, актывістаў страляюць! Не ўсім, відаць, на карысць пайшла твая і мая навука. Я загадаў такіх браць толькі жывымі. Слова камуніста, я іх прыцягну ў твой кабінет, і хай баявыя таварышы судзяць гэтых вылюдкаў! Калгасы ім не падабаюцца, хутары ім лепей.

– Гэта ты правільна вырашыў, Лаўрэнцій Фаміч! Мы ўвесь Мінск, ды што Мінск, усю рэспубліку партызанскую падымем і люта, усенародна пакараем! Здраднікам – туды і дарога, ды вось іншае мяне турбуе... Я тут спісы асуджаных і ліквідаваных перачытваў, паслухай, адкуль столькі моладзі? Дзеці зусім!

– Э, бэл! Гэта ж выкармышы Кубэ, гэтага ім арганізаванага сранага Саюза беларускай моладзі. Бачыш, яшчэ і пяці гадоў не прайшло, як рэспубліку вызвалілі, а гадзяняты падраслі і галовы на сваіх балотах падымаць пачалі...

– Вось толькі гэтага не хапала! Гэтую заразу, гэтую поскудзь... яе ўсю пад нож! Кубэ! А што Кубэ? Ён сваё ўжо даўно атрымаў. У нас тут у Мінску і пры Кубэ, і да яго, і пасля гэтага Кубэ сваіх дамарослых нацыянал-настаўнікаў хапала і цяпер хапае! Гэтыя больш страшныя за лесавікоў, свалаты гэтай недабітай. Яны вунь у паліто і капелюшах па сталіцы разгульваюць, разам з намі на партканферэнцыі ходзяць, кафедры і рэдакцыі ўзначальваюць, кніжачкі папісваюць і чакаюць, чакаюць любой нашай прамашкі. Толькі во ім! – галоўны камуніст закруціў смачную дулю. – Давай мы гэтаму, моладзеваму, пытанню пленум ЦК прысвяцім. З тваім загалоўным дакладам, а тэму моладзевага нацыяналізму асабліва падсвецім і меры, канкрэтныя меры па канкрэтных асобах прама ў зале прымем! А? Каб ад гэтых недабітых намі ў свой час купала-луцкевічаўскіх паслядоўнікаў і падпявалаў толькі мякіна паляцела.

– Згодзен, біджо! Фактуру падбяру, фактаў прыгожых зраблю. За даклад, за давер дзякуй. Сёння і пазваню Лаўрэнцію Паўлавічу, далажу пра тваю ініцыятыву. Думаю, яму спадабаецца, а калі спадабаецца яму, то ён абавязкова самому гаспадару скажа.

– А ці не позна, ужо ж адзінаццатая гадзіна?

– Самы раз. У цябе тут круцёлка працуе?

– Тэлефон працуе, але ты ведаеш, Лаўрэнцій Фаміч... – зменшыўшы напор і партыйны запал, адступіў Панамарэнка. Яго заўсёды жорсткі твар з вялікім носам і доўгім падбародкам набыў выраз чалавека, які адчуў нешта нядобрае. – Давай мы, брат, з табой пераначуем з гэтай ідэяй, а заўтра да абеда сустрэнемся, усё абмяркуем і прымем канчатковае рашэнне. Мы ж з табою не жаўтаротыя камсамалята. Справа сур'ёзная, ды і не справа нават, а тэма, тэма вельмі слізкая. Нацыяналізм, Лаўрэнцій, зараза інфекцыйная, мы яе ў гэтым забітым краі вытруцім, выпалім гарачым жалезам. Тут іншых меркаванняў быць не можа. Пытанне ў іншым: ці трэба пры гэтым шум вялікі падымаць?

Кандрат Панцеляймонавіч устаў, заклаў рукі за спіну і павольна пакрочыў вакол стала.

– А то ў нас нестыковочка выходзіць: арганізаванага нацыяналістычнага супраціву ў рэспубліцы няма, а моладзевы нацыяналізм і падполле множацца, як грыбы, з чаго б гэта? Такое толькі на Кубэ не спішаш, як ні як – сорак сёмы год на двары. Тут партыя і кіраўніцтва не толькі могуць, але і абавязаныя спытаць: «А чаму гэта ў вас, таварышы, у рэспубліцы такое дзеецца? Дзе вы самі да вашага пленума былі, чаму парадак не навялі? Сіл у саміх не хапіла, дык чаму дапамогі і садзейнічання ў Палітбюро не

папрасілі?» І спытаюць яны ў першую чаргу з мяне і цябе! Вышэй за нас у рэспубліцы няма. Таму, дарагі мой таварыш, давай пачакаем пакуль са званкамі ў сталіцу. Трэба было б спачатку вылічыць вінаватых у гэтых промахах на нізах, базу падвесці з мясцовай інтэлігенцыі, паўдзясятка пісакаў паршывых падабраць, а можа – і партыйцаў несвядомых рэспубліканскага ўзроўню двойку-тройку пашукаць. І галоўнае: не самім гэта пачынаць зверху, а своечасова падхапіць абурэнне знізу, народнае абурэнне. Вось тады і пачын, можна сказаць, можа ў нас з табой атрымацца ўсесаюзны! Ну як табе? Згодны? Разумееш, да чаго я хілю?

– Ну ты, біджо, малайчына! Ай, малайчына! Нездарма цябе гаспадар паважае. Згодны, давай з гэтай ідэяй, як са свавольнай дзеўкай, пераспім, а раніцай пагаворым, ды і поўную карціну па нашым пытанні сам я належным чынам вывучу, так што гаворка наша будзе прадметнай. З прозвішчамі, справамі і дзеяннямі! Ай, малайчына ты, Панцеляймон! Давай, налівай па поўнай, ноч толькі пачынаецца...

## 6

– Калі ўжо і гаварыць, дык гаварыць трэба праўду. А мне не толькі выхаванне і высокі чын выкладчыка, але ўжо і сам узрост хлусіць не дазваляе. Ды і што ад той маёй праўды ў вашым цяперашнім жыцці зменіцца? А ў выніку – нічога. Як існаваў люд у хлусні, дык там і ахвоту мае заставацца. Так што, шаноўны мой пляменнік Вячаслаў, Мінск наш бамбілі часта. На пачатку вайны трохі немцы, а з пачатку сорак другога свае, савецкія. Хоць і не ўсім яны тады былі, ды і сёння даводзяцца, сваімі. Я, як і ты, карэнны мінчук, можа, у сямі, а то і ў дзесяці пакаленнях. Продкі нашыя першы дом, паводле паданняў, пабудавалі яшчэ ў старым горадзе, за сценамі і валам. Там яны ў ліхія часіны адседжваліся, а так у асноўным зімавалі, калі ў сталіцы не выязджалі. Балазе сталіц для беларускага шляхціча ў тыя часы было аж чатыры: Варшава, Вільня, Масква і Санкт-Пецярбург. Ды ў Вільні, Варшаве і Піцеры продкі нашы мелі такія-сякія дамкі. Да зімы ж сямейства, як правіла, пражывала ў вялікім маёнтку, недалёка ад Заслаўя. Ды і самі мы раднёй заслаўскім князям даводзіліся. Вось такія, браце, гарбузы. А што гэта вас, шаноўны сваячок, на гістарычныя экскурсы пацягнула? Вы ўжо нібыта і пры пагонах, і пры такім ведамстве. Трапна, ой трапна вас люд наш просты ахрысціў: «Пільныя вочкі»! Дакладней не скажаш. Усё, усё! – убачыўшы наструненага, з кулакамі пляменніка, капітуляваў дзядзька-прафесар. – Больш ніякіх адхіленняў ад тэмы... Другая сусветная, яе пачатковы, так бы мовіць, і завяршальны этапы на нашых беларускіх землях. Так? Дзіўна. Пачну з таго, што вялікіх і зацятых баёў на нашых тэрыторыях, можна сказаць, і не было. Менш чым за месяц яе немец акупаваў і прыкладна за месяц з невялікім, ні за што не чапляючыся, арганізавана пакінуў. Нейкіх значных бітваў, як Сталінградская ці Курская, у нас таксама не назіралася. Аднак, трэба адзначыць, на ўсходзе рэспублікі, на рубяжы ракі Проні, фронт даволі доўга стаяў. Так што ў цэлым вялікіх, татальных разбурэнняў, здавалася б, і не павінна было б быць. Во як я «забыкаў». Смешна, трэба запомніць. Вось і сам, любы пляменнік, рабі выснову. Атрымліваецца дзіўная карціна: пры адсутнасці працяглых абаронных баёў населеныя пункты павінны былі, па ідэі, захавацца. Заканамернае пытанне: адкуль жа такія каласальныя разбурэнні, у тым ліку ў Мінску? Адказаў ёсць некалькі, ад-

нак самы праўдзівы, самы страшны і які найбольш замоўчваецца: сталіцу БССР амаль зраўняла з зямлёй савецкая авіяцыя, ды і не толькі сталіцу. Не было ніводнага чырвонага дня календара, каб уначы над горадам не гулі цяжкія самалёты, якія сыпалі на галовы сонным гараджанам смяротныя падарункі. Аднойчы ў такім налёце ўдзельнічала больш за дзвесце цяжкіх бамбавозаў. Нават кідалі звышцяжкія паўтаратонныя. І ведаеш, Славік, у што яны цэлілі? У цяперашні Дом урада. Ноччу, калі ён пусты! Вось гэта стратэгі! Уяўляеш, раніцай немцы прыходзяць на працу, а працаваць жа няма дзе! Як ім, паганым фрыцам, было б? У гэтым уся геніяльнасць савецкай улады. Адступаюць – усё падарваць і спаліць, усіх выгнаць! Без надзеі на вяртанне. Наступаюць – усё разбамбіць, разбурыць! Без надзеі на зварот. Ну а пра тое, што ў цёмных начных гарадах жывуць савецкія людзі – ды якія яны савецкія! Застаўся на акупаванай тэрыторыі – ужо вораг, а да ворагаў ніякай літасці! Супрацьпаветранай абароны горад наш не меў, немцам яна была без патрэбы праз адсутнасць у горадзе хоць якіх значных ваенных аб'ектаў і буйных вайсковых фармаванняў. Перападала свая доля крамлёўскіх пачастункаў і абласным цэнтрам. Вось і атрымлівалася: армія-вызваліцельніца ўваходзіла ў сорак чацвёртым у разбітыя і спустошаныя непрыяцелем гарады. Тады гэтага патрабавала прапаганда. Пазней гэтыя агіткі ўвайшлі ў падручнікі гісторыі, увайшлі, ды так і да гэтага часу там і засталіся. А праўда? Праўда, яна – фу-ух! – прафесар дзьмухнуў на сваю вузкую з тонкімі касцістымі пальцамі далонь. – Субстанцыя нябачная, амаль што дух!

– Але пачакайце, Генрых Браніслававіч! Вы што, сцвярджаеце, што немцы былі дабром для нашага народа і ніякіх зверстваў тут не чынілі? – узбуджана ўскочыў са свайго месца малады Скарга. – А каласальныя ахвяры, а ўсенародны партызанскі рух? Ды ў мяне наогул мазгі набакір у апошнія дні! Аказваецца, што пасля вайны ў нас, у Беларусі, больш за сто тысяч чалавек загінулі і былі рэпрэсаваныя за супраціў савецкай уладзе! І гэта толькі ў тры пасляваенныя гады! А вайна невядомая ішла ледзь не да пяцьдзясят сёмага. Жах нейкі! Цяпер вы мне кажаце, што беларускія гарады ў асноўным бамбавала нашая ж авіяцыя! Можа, і бамбавала, але ж ішла вайна!

Суразмоўца абуранага юнака, утульна ўладкаваўшыся ў зручным старадаўнім фатэлі, схаваўшы аскетычны твар у мяккі цень цьмяна-залацістага лямпавага абажура, уважліва слухаў і крыху ўсміхаўся ў акуратна падрэзаныя вусы, якія пераходзілі ў невялікую казліную бародку. Сваёй бародкай спадар быў падобны да Дзяржынскага, і падабенства гэтае больш дапамагала вольналюбіваму прафесару, чым шкодзіла.

Вячаслаў яшчэ доўга абураўся, прыводзіў доказы ў абарону сваіх перакананняў, якія ён, як і любы грамадзянін любой краіны, увабраў у сябе з завучаных школьных ды інстытуцкіх урокаў і лекцый. Напэўна, прытаміўшыся і не сустракаючы пярэчанняў з боку апанента, ён здзіўлена замоўк.

– Вы што, не слухаеце мяне? – зніякавела спытаў ён.

– Вельмі, вельмі ўважліва слухаў, бацечка! – са шпількай уставіў любімае ленінскае слоўца прафесар і з лёгкасцю ўстаў з нізкага фатэля. – Цяпер будзьце добрымі – прысядзьце вы, а я ўжо, так бы мовіць, разамну старэчыя косткі. Заседзеўся, ведаеце. Першае: бамбардзіроўкі, іх частату і колькасць бомбавылетаў можна лёгка ўдакладніць у архівах, а на першы час раю абмежавацца інтэрнэтам. У працяг гэтага ж пытання я цалкам аўтарытэтна

даводжу да вашага ведама, што канчатковую кропку ў разбурэнні нашых гарадоў і замкаў паставілі бяздарныя і бязродныя архітэктары пасляваеннага часу. Гэта паводле іх прапаноў былі прынятыя савецкай уладай рашэнні аб ачыстцы беларускіх гарадоў ад неперспектыўных руінаў, і тое, што не дашчэнту разбурыла авіяцыя, узарвалі сапёры. У гарадах з амаль тысячагадовай гісторыяй засталося па пяць-дзесяць будынкаў, старэй за трыста гадоў! Ці гэта не варварства?! Немцы бурылі чужое, хоць і Саветы таксама бурылі чужое, класава чужое. Як ім, народжаным у свінарніках, было зразумець прыгажосць готыкі і позняга беларускага барока? А мястэчковыя недавучкі бурылі з поўнай упэўненасцю, што змогуць пабудаваць лепшыя і яшчэ больш грандыёзныя гмахі, але перад тым, як прыступіць да будаўніцтва, яны разнеслі ўсё па каліву! Бедная мая Айчына! Гады табе Гасподзь даваў на мір і будаўніцтва, а на дзясяткі гадоў насылаў войны і разбурэнні. Ды і цяпер мы ў нашай сацыялістычнай рэзервацыі жывем, у асноўным, з чужой галавы. Хвала Богу, хоць у модныя цяпер войны ў імя талерантнасці не спяшаемся лезці і моладзь сваю губіць...

– Дзядзька, давайце толькі не будзем усё звальваць у адну кучу і так рэзка пераходзіць на сучаснасць. Мінулае – гэта мінулае, у ім трэба разбірацца, і тут без вашай дапамогі ніяк не абысціся, тут я ваш вучань. Вы і вашы папярэднікі так заблыталі гэтую гісторыю, што сам чорт нагу зломіць. Але ж тое далёкае і недалёкае мінулае вы стваралі без нас і дзеля сябе, вам яно больш зразумелае і блізкае. Вы мне даруйце, але што вам да сённяшняга дня? Цяперашняе – гэта ўжо наша мінулае, у разуменні якога, баюся, вам слова могуць і не даць. Гэта, пагадзіцеся, нам, маладым, трымаць адказ перад будучыняй за цяперашнія справы і ўчынкі...

– Ну і трымайце ў сабе, шаноўны пляменнік, свае адказы! Але тады, калі ласка, не чапляйцеся да мяне з вашымі наіўнымі дзіцячымі пытаннямі. – Прафесар, па ўсім, па-сапраўднаму пакрыўдзіўся, рэзка павярнуўся і, гучна ляснуўшы дзвярыма, пайшоў у свой кабінет.

Вінавата дрыжала ў старадаўнім крышталі цішыня і напаўняла аціхлы пакой. Вячаслаў апусціўся ў фатэль – як гумавая лялька, з якой выпусцілі паветра. Іх слоўныя сутычкі з дзядзькам даўно ўжо сталі хрэстаматыйнай спрэчкай бацькоў і дзяцей, але сёння ён відавочна перагнуў коўдру. Трэба было нешта прыдумляць і тэрмінова мірыцца са сваім любімым настаўнікам і родзічам. Пляменнік ведаў: не памірыцца сёння – з дзядзькавым шляхецкім гонарам разрыў расцягнецца на месяцы, а то і на гады. Генрых Браніслававіч са сваім родным сынам вунь ужо пяты год не размаўляе, а спрэчка пачалася з яшчэ больш бяскрыўдных слоў. Дзядзькаву крыўду можна было нейтралізаваць толькі шчырасцю. Ні падманныя слёзы, ні фармальныя прабачэнні, ні падхалімаж у гэтай справе не падыходзілі. Любую няпраўду, нават у малых дозах, дзядзька адчуваў нутром.

Вячаслаў, па-старэчы вохкаючы, выбраўся з фатэля і рашуча пайшоў да выхаду з кватэры. Цётка Ангеліна, якая чула ўсю іх размову, вызірнула з суседняга пакоя, са здзіўленнем і дакорам глянула на пляменніка.

– Вячак, ты не ўздумай цяпер уцячы, – абурана шаптала яна. – Такіх слоў яму зроду ніхто не казаў. Што гэта цябе панесла?! Я і падумаць не магла, што ты так можаш гаварыць са старэйшымі. Гэта ўсё твая невыносная служба! Та-так! І не рабі такі выраз твару. Давай лепш прыдумвай нагоду і, не выходзячы з кватэры, ідзі мірыцца.

– Цёця, я ўсё разумею і абавязкова памiруся, вось зараз, вы толькі не

хвалюйцеся. Хоць у гэтым бразганні дзвярыма і дзіцячых крыўдах, ласкавая пані, ёсць і ваша заслуга. Усё-ўсё, маўчу-маўчу і пасыпаю галаву попелам.

Адхіснуўшыся ад нейкай анучы, якой цётка спрабавала яго выцяць, Вячаслаў шмыгнуў у шырокі, застаўлены кніжнымі стэлажамі калідор. Падхапіўшы сваю сумку і прыкрываючы ёй галаву, ён павярнуўся і пранёсся паўз замерлую ад яго нечаканага манеўра цёткі, без стуку ўляцеўшы ў кабінет прафесара.

Генрых Браніслававіч, які сядзеў за працоўным сталом з разгорнутай кнігай, падняў галаву.

– Дзядзечка, родненькі, ратуйце! Цётка мяне лупцуе за маю дурату. Глупства я, вядома, нёс – каюся. Вы можаце яшчэ доўга на мяне крыўдзіцца і нават забараніць на парог ступаць гэтага дома, ваша воля, але толькі пасля маленькай кансультацыі.

Вячаслаў падышоў да старадаўняга стала, расшпіліў сумку і выклаў перад зніякавелым ад ягонай рашучасці сваяком пажоўклы ад часу аркуш складзенага напалам дакумента. Тоўстая старадаўняя папера ў цёмных разводах, пацёртая на згінах, выглядала таямніча і павінна была прыадчыніць дзверцы да дзядзькавага сэрца, якія некалькі хвілінаў назад з такім грукатам зачыніліся.

– Паганец, хто ж цябе навучыў так абыходзіцца з падобнымі дакументамі! – Прафесар асцярожна разгарнуў ліст. – Божа! Адкуль гэта ў цябе? Ты хоць ведаеш, што гэта за дакумент? – Ён працягнуў руку да вялікай, апраўленай у срэбра, лупы.

Вячаслаў зразумеў, што на яго больш не крыўдуюць.

## 7

Стальмаху сніўся іх фрайлагер. Дурны нейкі сон, дзе ўсё змяшалася ў незразумелую фантастычную кашу. Рэальныя твары рэальных аднакашнікаў, выкладчыкаў, немцаў з адміністрацыі, а побач з імі нейкія агідныя пачвары са страшнымі галовамі і голымі целамі звычайных людзей. Яны хадзілі вакол, крывілі морды, але ніхто іх не бачыў, акрамя Зміцера. Стальмах спрабаваў схапіць каго-небудзь са сваіх таварышаў па службе за рукаў мундзіра, але рука, адчуваючы грубую калючасць салдацкага сукна, правальвалася ў густы кісельны туман. А вось здані, ці чорт ведае хто, былі цалкам рэальныя, яны з дакорам хіталі галовамі, пагражалі кулакамі і брудна лаяліся. Раптам адзін з іх падышоў да Змітра і з размаху даў яму ў вуха.

Прачнуўся Стальмах ад болю ў руцэ, якой што ёсць сілы лупіў па даўно не беленай трубе астылай печкі-ляжанкі.

«Што за херня мне сніцца?!» Мацюкаючыся, ён пацягнуў на сябе коўдру. У яшчэ па-зімняму цёмнай хаце рабілася прахалодна. Дзесьці збоку ў цемры ў тры галасы храплі паліцэйскія, якія прыехалі з ім. Рэшткі кашмару павольна адпускалі яго, вяртаючы да не менш кашмарнай рэальнасці.

Інспектарская паездка спецыяльнага ўпаўнаважанага гэбіцкамісарыята па справах моладзевай палітыкі Вайсрутэніі ў Навагрудскі і Нясвіжскі паветы праходзіла ў штодзённым рэжыме. Каб не звязвацца з запраўкай аўтамабіля, яго пакінулі ў двары мясцовага аддзялення СД, пераселі ў зручныя, лёгкія вазкі, якія, як ні дзіўна, яшчэ ўмелі рабіць мясцовыя майстры, і паехалі па навакольных сёлах і хутарах. Моладзь у вёсках яшчэ заставалася. Ні немцы, ні партызаны, ні акаўцы так і не змаглі загнаць

усю беларускую моладзь у шэрагі сваіх прыхільнікаў і расцягнуць яе па рабочых брыгадах, лясных атрадах і вайсковых аддзелах. Хлопцы і дзяўчаты ў гэтых заходніх раёнах жадалі трымацца сваёй гаспадаркі і на павабныя абяцанкі глядзелі коса, а ў лес прывыклі хадзіць толькі па грыбы. Тады моладзь сталі зганяць сілай.

Нягучна за сцяной шкрабнулі ўваходныя дзверы. Зміцер сцепануўся пад коўдрай, уявіўшы белыя клубы пары ад марозу, што ўваліліся ў чалавечае жытло.

«Трэба ўставаць, сябе не пералежыш, а хлопцы хай яшчэ паспяць, дасталося ім учора. Добра, што хоць усё абышлося, усе жывыя і здаровыя». Ён ціха апрануўся. Вочы хутка прывыклі да шэрага паўзмроку. Выцягнуўшы з-пад падушкі пісталет, сунуў яго ў кабуру і, прыхапіўшы лёгкія футровыя боты, выйшаў у пярэдні пакой пяцісценка. Справа над сталом цьмяна гарэла лямпа. Жанчына, худзенькая, някідкая, апранутая ва ўсё шэрае, бязгучна сноўдалася ля распаленай печы. За сталом сядзеў змрочны гаспадар у самаробным футровым кабаціку і курыў крамяны самасад. Тытунёвы дым мудрагелістымі шызымі пластамі слаўся па пакоі і, лянiва танцуючы перад агнём печкі, ныраў у яе чырвоны ад распаленага вуголля зеў.

– Добрага ранку, гаспадар! – Зміцер прысеў на ўслончык, які стаяў збоку ад стала, нацягнуў крыху здубелыя ад сушкі боты. Боты былі незвычайныя для гэтых месцаў і дасталіся яму выпадкова яшчэ ў Нямеччыне. Тонкая, добра выробленая скура, трывалая калодка, якая амаль не прамакае, а галоўнае – унутры мяккае, залацiста-рудое футра. Якія толькі грошы яму за іх не прапаноўвалі!

– Хай сабе і вам будзе добрым, гаспадзін харошы, гэты ранак, – азваўся гаспадар, скручваючы новую самакрутку. – Толькі з таго канца ў вёску ноччу чужыя прыходзілі, добра, што да нас не дайшлі. Скрайку хаты тры абрабавалі і зніклі ў сваім лесе. Галоўнае, вас ніхто не шукаў. Можа, падумалі, што вы далей на Баяры праскочылі. Ужо вельмі вы ля мастка нашумелі, калі да нас ехалі. Добра, хоць нікога з лясных не зачапілі. З кім хоць ваявалі – бачылі?

– Ды хто ж яго ведае? З лесу па нас стрэльнулі разы два, ну і мае хлопцы з кулямёта паласнулі ў белы свет як у капеечку. Не тыя ў нас сілы, каб з бандытамі ваяваць. Балазе хоць кулямёт на другім вазку прыстасавалі.

– Можа, яно і добра, а можа, і дрэнна, хто ж яго адгадае. Што вы гэта, гаспадзін харошы, па нашых гмінах ездзіце? Калі не сакрэт, канечне...

– Ды які тут сакрэт: па школьных і моладзевых справах ездзім. Школы правяраем, з вучнямі і настаўнікамі сустракаемся...

– Дык гэта... няма ўжо ў нас школы, хоць і вёска вялікая, а школу забаранілі, даўно, яшчэ той вясной. Адну зімку дзеткі толькі і павучыліся. Кажуць, сам Кубэ, каторага потым забілі, дазвол даў. І настаўнік у нас харошы быў з суседняй вёскі, а настаўніцай жонка яго з нашых. І школу спраўна яшчэ за польскім часам грамадой пабудавалі. Школа, яна, вядома, засталася, а настаўнікаў пабілі. Хлопца – чырвоныя, а жонку ягоную «краёўцы» з сабой звялі. Дзе яна цяпер, ніхто і не ведае, – хутка і гучна вымавіла гаспадыня. Прамовіла, убачыла няўхвальны позірк мужа, сумелася і зноў пачала глядзець у печ.

– Во-во, ты там, гэта, яешню лепей смаж...

– Пачакай, гаспадынька, там у нас у мяшках недзе кавалак сала павінен быць, і хлеб, – успомніў Зміцер.

– Не хвалюйся, гаспадзін харошы, – перапыніў яго гаспадар, – твой куляметчык перад тым, як спаць пайсці, мне харчаванне на ваш пражытак выдаў. Аж неяк няёмка: упершыню ўлада нас корміць, а не мы ўладу. Во трымайце ручнік, жонка святочны адшкадавала.

Стальмах прайшоўся па пакоі, разношваючы боты, перакінуў праз шыю ручнік, памыўся. Апрануў напаўвайсковы фрэнч з вялікімі накладнымі кішэнямі, паправіў кабуру з надзейнай невялікай «Берэттай», так што збоку яе амаль не было відаць, сеў за стол.

– Ну што, гаспадзін  харошы, можа, па чарачцы, каб дзень не дарма прайшоў? – ці спытаў, ці прапанаваў гаспадар, дастаючы з-пад лаўкі пузатую бутэльку.

– Ды не, дзякуй, з раніцы неяк не з рукі. Ды і са школьнікамі, калі з імі не піў, размовы не атрымаецца. Можа, вечарам, калі заначуем, то і па чарцы не пашкодзіць. Самі гоніце?

– А то ж. Да нас у краму гарэлку даўно ўжо ніхто не возіць. Калі б не дзедавы рэцэпты, ужо б даўно запаршывелі. Ну, няволіць не магу, а сам па звычаю кілішак апрастаю. На двары зіма, не вып'еш – акалееш. Ну, хай вам памагае пан Бог!

Гаспадар выпіў, адставіў бутэльку пад абразы. Адламаў кавалачак хлеба ад вялікага акрайца і запытальна ўтаропіўся на госця. Як быццам той мог даць яму адказы на ўсе пакутлівыя пытанні, што турбавалі яго сялянскі розум.

– Прабач, гаспадар, як вас завуць? Мяне Зміцер Іванавіч.

– Андрэем Апанасавічам завуся...

– А дзеткі вашы дзе? – падсоўваючы да сябе толькі што пастаўленую на стол гаспадыняй патэльню, спытаў як мага спакайней Зміцер.

Гаспадары пераглянуліся і неяк дружна засаплі.

– Дык няма дзяцей, – наліваючы сабе яшчэ адну чарку, адказаў гаспадар, – сышлі абодва. І дачка, і сын. Дачка яшчэ перад савецкай акупацыяй у райцэнтр вучыцца на медзічку падалася, а па вайне завербавалася на заробкі ў Нямеччыну. Сын, пасля таго, як школу зачынілі, у Баяры бегаў вучыцца, а потым неяк прыйшоў у шэрай форме, сказаў: «Усё, бацька, трэба змагацца за незалежную Беларусь без немцаў і саветаў!» І папёр у нас фармаваць аддзел нейкага моладзевага саюза з беларусаў. А тут тых беларусаў як кот наплакаў. Кругом больш усё каталікі і палякі. Ну, чалавек, можа, з восем назбіраў, неўзабаве кіраўнік іх старшы прыехаў на падводзе ды хлопцам і дзеўкам тожа форму выдаў, прамовы ўсякія казаў. А дзесьці праз месяц прыйшлі з лесу, спачатку «акаўцы», вызвалі сынка нашага ноччу на двор і добра так адлупцавалі, з тыдзень адлежваўся і па сябрах хаваўся. Потым прыйшлі «саветы», тыя днём прыйшлі, усю вёску сагналі, нашага Мішу і сябрукоў яго ля хлява паставілі...

– Яны дурняў гэтых някемлівых спачатку ў пустой школе пабілі, моцна змардавалі, – перапыніла мужа гаспадыня, – а што ім, многа трэба, дзеці ж зусім.

– Ну так, пабітых паставілі ля сценкі ды імем савецкага комсамола, якому, значыць, гэтыя хлопцы здрадзілі, прысудзілі іх да растрэлу. А ніхто з іх пра той камсамол нічога і не чуў. Ды і не было ў нас камсамоліі. Не паспела яна з'явіцца ў нашых мясцінах. У нас дзеці па касцёлах і цэрквах больш хадзілі, а не па чырвоных сходах. І вось іхні камандзір кажа: хто дабравольна адмовіцца ад іхняга саюза і ўступіць у партызанскі атрад,

каб біцца за савецкую ўладу, тых памілуюць як аблудных. Чалавек шэсць выйшлі, а наш Мішык, ягоны сябар і яшчэ адна дзяўчынка засталіся ля сценкі. А тым, хто выйшаў, далі вінтоўкі з адным патронам і прымусілі страляць у нашых дзяцей. І што ты думаеш, гаспадзін харошы, стралялі дзеці ў дзяцей. Ну, пастралялі і сышлі ў лес, паабяцалі, калі яшчэ якая моладзевая суполка ў вёсцы з'явіцца, папаляць нас усіх разам з хатамі.

Але ж Бог літасцівы, і хлопчыка нашага не забілі, хоць і дзве кулі ў яго трапіла. А мы яго ўжо абмываць пачалі, а ён ачуняў. Ноччу завезлі ў Наваградак. Ён там у шпіталі паляжаў і пайшоў вучыцца ў гімназію, а цяпер і не ведаем, дзе. Кажуць, бачылі яго сярод коннікаў Рагулі. Толькі мы маўчым пра гэта, на магілку пустую ходзім, каб гэтыя чэрці з лесу не даведаліся. Табе вось распавёў, бо ты ёсць уласць.

Гаспадар цяжка ўздыхнуў, пацёр даўно не голеную шчаку і пачаў круціць чарговую самакрутку.

– Вы, гэта, ешце, а то стыне яешня. Ешце. Толькі вось гляджу я на вас і думаю, што ж з вамі, хлопчыкі, далей будзе? Пруць жа радзенцы зноўку да нас. І калі ўжо іх германец не адолеў, то што вы са сваімі пукалкамі зможаце? – Гаспадар закурыў і наліў сабе яшчэ. Падумаў, узяў парожнюю гранёную шклянку, чамусьці падзьмуў у яе і таксама наліў.

– Снедалі б вы і ціхаю ехалі ў Цырын, пакуль светла. Там хоць нейкі гарнізон ёсць, – парушыла маўчанне гаспадыня, падсаджваючыся да стала. – Паршывымі нас усіх гэтая вайна зрабіла, і веры ні да каго не засталося. Развіднее, а калі хто сані вашыя ў нас на двары ўбачыць і пабяжыць да лесу? І што там будзе далей, аднаму Богу вядома. Вунь у Варончы, тут ад нас недалёка, прыйшлі насупраць ночы перад першым маем год таму да паноў Чарноўскіх партызаны, там толькі адны жанчыны былі, адна з іх цяжарная са сваім хворым мужам, ну яшчэ і ўбогі калека сляпы. Прыйшлі гэта, пасядзелі, паелі, гарэлкі гаспадарскай папілі, дзверы падперлі і спалілі маёнтак разам з жыхарамі. Ці то жывымі людзей спалілі, ці то спачатку пастралялі, толькі калеку выпусцілі, ты, кажуць, ужо і так слепатой пакараны за сваё буржуйства. А баб і дзяцей варанчанскіх прымусілі салому і сухое голле насіць, каб мацней гарэла. Так што беражыся ты, гаспадзін...

– На вунь, кульні чарку, халера яго ведае, як той дзень пройдзе, – падтрымаў жонку гаспадар. – І паслухай жанчыну: снедайце і з'язджайце, бо ні шкаляроў, ні настаўнікаў у нас няма, а тая моладзь, што засталася, з вамі гаварыць не стане. Бо ім тут жыць.

Стальмах паслухаў параду, і яны ціха, без лішняга шуму на світанні выехалі.

Настаў ясны зімовы дзень. Коні, адпачыўшы за ноч, беглі ахвотна, весела фыркалі. Яркае сонца не спяшала вылазіць з-за цёмнага ў белых шапках лесу, знізу падсвятляла мудрагелістае вязьмо пакрытых інеем галін стагадовых бяроз, якія раслі па баках старадаўняга гасцінца да першай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага. Пераплеценыя ўверсе галінкі гарэлі пяшчотным ружовым святлом, ствараючы таямнічую карціну забытай каляднай казкі.

Зміцер, зручна ўладкаваўшыся ў вазку, глядзеў на нерукатворныя ўзоры, якія ляцелі над ім нібы ў нейкім чароўным кіно. «Гасподзь, вялікі і ўсемагутны, якога я не ведаю і чыё імя ўспамінаю па-здрадніцку рэдка! Што будзе заўтра, ды што там заўтра, што будзе з намі за наступным паваротам? Ты ведаеш, Божа, не хацеў я гэтых турботаў, не шукаў службы ні ў гэтых, ні ў тых, гатовых вынішчыць увесь табою створаны свет. Спытайся цяпер,

навошта і ў імя чаго еду я ў гэтых санях? З надзеяй на якую будучыню кажу я прыгожыя словы затурканым і не заўсёды сытым хлапчукам? Што іх чакае наперадзе? Што яны змогуць зрабіць у імя нашых далёкіх ідэалаў свабоды і нацыянальнага ўваскрашэння краіны. Ды і ці трэба большасці людзей гэтае ўваскрашэнне міфічнай краіны, якое патрабуе ўсё новых ахвяраў і новай крыві? Калі наканавана мне сёння загінуць, кім я застануся ў людской памяці? Ды і ці ёсць гэтая памяць? Перамогуць Саветы, а, падобна, яны перамогуць, хоць немцы і талдычаць апошнім часам пра нейкую звышзброю. І будзе табе і памяць, і следства, і прысуд! Так што лепш ужо без аніякай памяці: вырашыў ісці гэтай дарогай, дык не віляй. І чым больш твае выхаванцы натвораць спраў у тыле Саветаў, тым лепш. Тваімі мазгамі і чужымі рукамі закладваецца вялікая справа новай вайны з Саветамі. А потым, чым чорт не жартуе, можа, менавіта твае выхаванцы ці іх дзеці калісьці і даб'юцца гэтай самай незалежнасці. Чаго ты сябе мучыш? Чаго свае мары сам жа і топчаш? Ты сейбіт, і зусім не абавязкова менавіта табе жаць пасеяны табой хлеб будучага дня».

Рыпеў снег пад палазамі, цішыня і спакой павольна раставалі белымі воблачкамі дыхання людзей і жывёл у празрыстым, амаль шкляным марозным паветры бліскучага сонечнага дня. Асляпляльная зімовая казка была такой жа зыбкай і часовай, як летуценні рамантыкаў, якія рызыкнулі на свой страх і рызыку ўваскрасіць былую моцу сваёй Радзімы, уваскрасіць, чаго б тое ні каштавала, уваскрасіць любой цаной, не грэбуючы запэцкацца крывёю і службай чарговым акупантам роднай зямлі.

Гарэў ружовым полымем пажару і крыві халодны ўзыход зімы сорак чацвёртага года, апошняй яго зімы на радзіме. Але ні Стальмах, ні яго паплечнікі гэтага не ведалі і не жадалі ведаць, яны ехалі, мерзлі, моклі, атрымлівалі з-за вугла кулі, асіпла гаварылі на мітынгах і ехалі далей, упэўненыя ў тым, што іх словы пра волю, пра незалежнасць, пра справядлівую вайну за сваё роднае і мілае застануцца ў сэрцах тых хлачукоў і дзяўчат...

Наваградак сустрэў іх сваёй будзённасцю. Толькі добра ўмацаваныя пасты на ўездах у горад і патрулі на вуліцах гаварылі пра вайну, сляды якой старанна замяталі лютаўскія завеі. Бурмістрам у горадзе служыў аднакашнік Стальмаха Мікалай Буляк, злёгку паўнаваты, каржакаваты мужчына гадоў пад сорак, маўчун і працаголік з-пад Любчы. У немцаў ён у асаблівых перадавіках не хадзіў, разнарадкі на адпраўку моладзі ў Германію хранічна недавыконваў, па хлебанарыхтоўках і іншых паборах асабліва не стараўся, але заданне выконваў і гарадскую гаспадарку вёў спраўна. Усё ў яго працавала: і пошта, і бальніца, і школа, і педагагічная семінарыя, нават конная гвардыя свая была, як жартам называлі эскадрон Барыса Рагулі, сфармаваны з дазволу і пад патранажам самога фон Готберга.

У гарадскую ўправу і накіраваліся сталічныя візіцёры.

– О, глядзі на яго, жывы! – выйшаў з-за стала насустрач Змітру бурмістр, – а мне тут з раніцы дакладваюць, што пад Баярамі ўчора нейкія менскія паліцыянты на партызанскую засаду нарваліся, і ўсе палеглі. Ну, здароў, братка! – і яны абняліся.

– Як бачыш, жывы і на той свет пакуль не збіраюся. Аднак да цябе навіны хутчэй, чым тэлефанаграмы, бягуць. Адкуль ведаеш, што нас абстралялі?

– Дык я табе ўсё і распавёў. Эй, хлопцы! – крыкнуў у прыёмную гаспадар кабінета, – вы там скумекайце нам перакусіць са сталічным госцем. А ты давай сядай вось на канапу і расказвай мне ўсе менскія навіны, якія

там у вас плёткі ходзяць, які настрой у начальства? А галоўнае – з якога ты перапуду вырашыў у нашую глухамань наведацца?

– Ведаеш, Мікола, я табе яснага нічога і не скажу. З Мінска выязджаючы, ведаў, навошта сюды еду, нават план у начальства падпісаў. А вось у Нясвіжы пабыў, у вёскі ды хутары завітаў, і ўжо не ведаю, якога я ражна тут у вас соўгаюся, смерць спакушаю. – Стальмах устаў з дапатопнай, на здзіўленне моцнай канапы, падышоў да дзвярэй кабінета, акуратна іх зачыніў. – Не ведаю, Мікола, усё ўадначас у растапырку ўстала. Хрусь – і ўсё.

– Ну і суцешыў ты старога таварыша! З чаго гэта столькі песімізму ў голасе? Дзе мой баявы сябар Стальмах, нястомны змагар за нацыянальную будучыню роднай Беларусі? Куды дзелася былая ўпэўненасць у заўтрашні дзень у беларускага Гебельса?

– Мікола, перастань ты пацвяляцца! Хіба не бачыш, што вакол творыцца? Немцы ўсё мятуць і адсылаюць дадому, ім ужо не да ўсходніх тэрыторый, фронт вунь на Проні стаіць. Пра менскія навіны пытаеш? Калі ласка: нашыя разумнікі, каб перад фон Готбергам ці яшчэ перад кім у Берліне прагнуцца, вырашылі сусветны кангрэс беларусаў гэтым летам правесці. Я разумею – у сорак першым ці сорак другім такое можна было б задумаць, ды і тое пры ўмове самакіравання і магчымасці нацыянальнага адраджэння нашых земляў. Цяпер жа навошта? Тут самім самы час валізы збіраць. Навошта, скажы мне, перад прыходам Саветаў усіх сваіх прыхільнікаў свяціць. Яны што, не разумеюць?! Гэта ж смерць! Вось табе і сталічныя навіны. Яшчэ яны прымушаюць нашых хлапцоў з СБМ у паліцыю ўступаць, а затым адпраўляюць у беларускі батальён СД. Вінтоўку ў рукі – і на акцыі. А яны ж дзеці зусім, двое рукі на сябе наклалі. Вось такія ў нас невясёлыя навіны. А ты, я гляджу, – Зміцер перастаў хадзіць і прысеў на край канапы, – як крот тут абкапаўся, вакол чысціня, парадак, рамонт гандлёвых шэрагаў задумаў. Што, з Наваградка немцы бегчы не збіраюцца?

– Ды чаго ж не збіраюцца? Збіраюцца. І барахло экспрапрыяванае адпраўляюць у свой фатэрлянд. І я, у добры прыклад, там таксама адрасок займеў і сёе-тое туды перакідваю. І табе, Зміцер, раю. Вось так. Не думаю, што саюзнікі дадуць Саветам Нямеччыну цалкам забраць, яна ім яшчэ спатрэбіцца, а калі яна спатрэбіцца, то і мы на што-небудзь спатрэбімся. А пакуль будзем мацаваць вялікі нямецкі парадак у адным асобна ўзятым павеце. Ды і на з'езд беларусаў я паеду, можа, цяпер гэта і дурнота, а вось у будучыні, упэўнены, спатрэбіцца. І ацэняць гэта не толькі немцы, павер маёй інтуіцыі.

## 8

Скарга ўпершыню ішоў на спатканне з нейкімі невядомымі раней перажываннямі, унутранай збянтэжанасцю і нават немаведама адкуль узніклай сарамлівасцю. Яшчэ з пазаўчарашняга дня, пасля нечаканага разладу з дзядзькам ды такога ж нечаканага прымірэння, ён знаходзіўся ў навакольнай рэчаіснасці, нібы муха ў талерцы з супам: і не еў, і не плыў, чакаючы, пакуль абставіны яго самі неяк вызваляць. Чым, уласна, гэтае спатканне адрознівалася ад дзясятка іншых, што яму папярэднічалі, ён ніяк не мог уцяміць – і ад таго злаваўся.

Перабіраючы ў галаве ўсе дробязі іх першай сустрэчы, ён ужо стаміўся

ў пошуках лагічнага тлумачэння дзівосаў, якія адбываюцца з ім. Па-першае, ён парушыў службовую інструкцыю і не праінфармаваў кіраўніцтва пра інцыдэнт з міліцыяй і знаёмствам з актыўным членам маладзёжнай нацыянальна-арыентаванай групы. Пісьмова не данёс пра свой удзел у зборышчы нефармалаў, не прыняў меры да ўстанаўлення іх асоб. Па-другое, усяляк спрабаваў апраўдваць сваю правіну нейкай неабходнасцю ва ўсім разабрацца, устанавіць, што і як, а не секчы з пляча. З жахам Вячаслаў усведамляў, што ўпершыню ён спрабуе хлусіць самому сабе.

«Д'ябальшчына нейкая, так і са службы паляцець можна. Чаго гэта ты буксуеш? Прайшло тры дні, тэрмін яшчэ не крытычны, можна і заўтра ўсё напісаць і аддаць начальству. Ды супакойся ты і перастань рыцца ў сабе, як кабан пад плотам. Сходзіш на сустрэчу, выцягнеш дадатковую інфармацыю, трахнеш гэтую размаляваную кралю – і ўсё ўстане на свае месцы: ты ёй сэкс, яна табе інфармацыю». Ён дакладна ведаў: такая формула, непрадугледжаная службовымі інструкцыямі, у паўсядзённай працы практыкавалася і артыкуламі карпаратыўнай маралі не забаранялася. «Добра, з гэтым ты як-небудзь сам разбярэшся. Разабрацца – разбярэшся, а чаго тады так старанна збіраўся, вунь усе шмоткі па пакоі раскідаў, кветачкі ўжо ў трэцяй кветачніцы пераглядаеш? Не, Скарга, праняла цябе дзяўчына – беларуская жар-птушка! Вершы толькі не пачні з перапуду пісаць. Наогул, гэта першы раз у цябе, калі асабістае так пераплятаецца са службовым. Напэўна, праз гэта ўсе нашы ў маладосці праходзяць, толькі адны так, а, можа, і па-іншаму. Да старэйшых не сунешся – засмяюць ці яшчэ якую хрэнь прыдумаюць. Сам, сам як-небудзь выкарасквайся. А можа, і сапраўды закахацца, ты ж пра гэта нават марыў калісьці. Закахацца, жаніцца, дзетак нараджаць і жыць размераным жыццём абывацеля. Цікава, а чэкістаў да абывацеляў аднесці можна?»

Вясна, сонечная, радасная, якую падганяла сонейка і нейкія пакуль не зусім зразумелыя пачуцці, звалілася і на Скаргу, і на горад, і на ўвесь белы свет. Вясна без разбору мазала сваімі каляровымі фарбамі вуліцы і скверы, твары людзей і іх душы. Нават самаму закаржавеламу цыніку і скнару хацелася штосьці стварыць, ну ўжо зусім нечаканае. Вясной галоўнае – супасці з вясной, інакш яна можа прайсці незаўважна, бязгучна знікнуць у шэрай вадзе штодзённасці.

Скарга і яго новая сяброўка супалі і з вясною, ды, падобна, і самі з сабой, і адзін з адным супалі. Падышоўшы да месца сустрэчы, Слава не адразу пазнаў у прыгожай дзяўчыне, якая прамянілася радасцю, бел-чырвона-белы цуд, вырваны ім з чэпкіх рук ахоўнікаў парадку.

«Нічога сабе! Я нават і ўявіць сабе не мог, што яна такая прывабная. І апранутая з густам».

– Што, дзедавы гены ўсё ж гуляюць у маладой крыві? – з лёгкім рэверансам прымаючы кветкі, сказала Стэфа ўсміхаючыся.

– Не зразумеў я пра дзеда.

– Ты ж на мяне так глянуў-ацаніў, што аж вераб'і разляцеліся. Ды добра, не толькі ты аб мяне вочы спрабуеш зламаць. Я ўжо і сама сабе не веру: пакуль ішла да цябе, і ў хлапцоў, і ў мужыкоў аж шыі хрусцелі. А ты малайчына, глядзі, якія шыкоўныя кветкі адшукаў, яны, дарэчы, вельмі рэдкія, як вось гэты сённяшні дзень. Не, ты сапраўды малайчына, усё так рамантычна абставіў. Парода, яна і ў стагоддзях не плавіцца. Я ў вольны час гісторыю твайго роду ў інтэрнэце праштудзіравала, дык калі ёй верыць, ты – князь.

– Ну вось, замуж выйдзеш – будзеш княгіняй, – ляпнуў першае, што прыйшло ў галаву, Скарга.

– Вунь яно як, пазаўчора пазнаёміліся, сёння першы раз сустрэліся – і ўжо прапанова? Дакладна дзедавы гены. Якія планы, таварыш князь?

– Ну, калі сёння пятніца і ў нас ёсць амаль двое сутак, давай махнём у Нясвіж. Я табе замак пакажу, у Мір з'ездзім, там і Камень філарэтаў, і наогул – вакол многа розных славутасцяў. Але спачатку я цябе хачу накарміць вельмі файнымі прысмакамі. Ёсць у мяне знаёмы са сваёй кавярняй, – і, адкідваючы ўсякія пярэчанні, ён цвёрда дадаў: – Давай без капрызаў, а то сама ж сказала: дзедавы гены.

– Знайшоў дурную – пярэчыць! Есці хачу, у замак паеду. А што за камень такі, нашага Філарэта, ці што? Ты май на ўвазе: я каталічка. А начаваць дзе будзем? Там, наколькі я ведаю, у гасцініцу не праб'ешся, тым больш вунь надвор'е якое класнае ўсталявалася. І яшчэ, – яна хітра ўсміхнулася, – хоць ты і хітрун, і прапанову ўжо нібыта зрабіў, але ведай: я дзяўчына сур'ёзная, а не абы-што.

– Усе ўмовы прымаюцца, – з непрыхаванай радасцю выгукнуў Вячаслаў. – Начаваць там ёсць дзе, там цэлы старадаўні дом, мая, дарэчы, спадчына. Вось толькі трэба што-небудзь паўсядзённае з адзежы і абутку захапіць, зямля яшчэ не высахла.

– Ты што, ваенны? – беручы кавалера за руку, спытала дзяўчына.

Ён ад нечаканасці аслупянеў: ну вось і ўсё, пачнуцца роспыты, хлусіць з першага дня непрыгожа, а праўду сказаць – загубіць выходныя. У галаве насіліся бязладныя думкі.

– Ды не, – сказаў ён як мага спакайней, – а чаму ты так вырашыла?

– Дык я з сям'і патомных ваенных, а ты толькі што сказаў чыста вайсковую фразу пра паўсядзённае адзенне. Проста знаёмым павеяла...

– Не, які з мяне ваенны? Я дысцыпліны не люблю, хоць вайсковыя зборы пасля інстытута мне спадабаліся, акрамя страявой падрыхтоўкі, вядома.

– Гэта добра, а то я сваёй прабабулі дала ў дзяцінстве клятву: ніколі не выходзіць за жаўнера. Мае ажно з сямнаццатага стагоддзя ўсе запар афіцэры, па-мойму, нават пяць ці больш генераламі былі. Словам – мілітарысцкая сямейка і па мамінай, і па татавай лініі. Абодва браты таксама ваенныя, і нада мною як праклён вісіць няўхільнае патрабаванне: замуж толькі за афіцэра. Але я прабабкай, як шчытом, прыкрываюся, пакуль сыходзіць.

Бесклапотна гамонячы ні пра што, яны дварамі падышлі да непрыкметнай, схаванай у паўпадвале кавярні з дзіўнай і малазразумелай назвай «Задруга».

– Ніфігашанькі сабе! – былі першыя словы Стэфаніі, калі яны спусціліся па старых, стаптаных прыступках у глыбокі склеп, які асвятляўся перарывістым полымем сапраўдных паходняў. Інтэр'еры, старадаўняя музыка, афіцыянты – усё гэта нагадвала хутчэй этнаграфічны музей, чым шынок. – Слухай, як выдатна, я і не ведала, што ў нас такое ёсць, нават трошкі зніякавела, князь, – і дзяўчына даверліва прысунулася да яго па шырокай, здавалася, стагоддзямі адпаліраванай лаве.

– Калі шчыра, я баяўся, ці спадабаецца табе тут. Ведаеш, а тут шмат сапраўдных рэчаў, вунь, да прыкладу, даспехі, або вось той габелен, ды шмат чаго, а што неарыгінальнае, дык пад даўніну так зроблена, што і не адрозніць. Усё, як было ў шаснаццатым стагоддзі. Тут і залаў некалькі, вось

гэтая, дзе мы сядзім, – рыцарская або шляхецкая, ёсць зала раменнікаў і купцоў, ёсць зала «шкалярская», гэта значыць студэнцкая, ёсць і наогул харчоўня, самы звычайны шынок. Потым магу экскурсію правесці, калі пажадаеце, пані.

– Нечакана, як на машыне часу: раз – і немаведама дзе! Безумоўна, паглядзім, ты мяне толькі пафоткай, знаёмыя абзайздросяцца.

– На жаль, пані, фатаграфаваць тут катэгарычна забаронена, сюды наогул з тэлефонамі не пускаюць, наверсе вісіць адпаведная аб'ява і маюцца спецыяльныя камеры захоўвання, так што ўбачаць гаджэт – адбяруць і сатруць усю памяць.

Дагаварыць ім не далі, афіцыянты ў ліўрэях чарадой панеслі нейкія стравы, збаны, старадаўнія сталовыя прыборы, закускі, напоі. Усё было так нечакана і смачна, што захмялелая Стэфанія ўжо стамілася здзіўляцца і захапляцца. У давяршэнне да ўсяго яе новы кавалер аказаўся ўладальнікам джыпа, які юрка каціў іх па хуткаснай трасе ў бок Брэста.

Бабулі дзяўчына спадабалася:

– Вось, дзякаваць Богу, з прыгожай дзяўчынай прыехаў, а не з кіпамі кніжак, не раўнуючы, як семінарыст нейкі. Хопіць нам і аднаго вучонага ў родзе. Адваджвай яго, мілая, ад гэтага глытання архіўнага пылу, малады ж хлапец. Вось дзед у твае гады...

– А вы ведаеце, Ганна Міхайлаўна, пра маладыя гады дзеда ён мне з першай хвіліны знаёмства паведаміў, – папрасіўшы прабачэння, перабіла яе дзяўчына і тут жа збянтэжылася, палічыўшы, што ляпнула штосьці лішняе.

– Слухай ты яго больш, хвалько, чаго ён табе мог расказаць? Калі хто пра дзедаву маладосць што і ведае, дык гэта толькі я. Я яго спавядальніцай і слухачкай была, – пільна зірнуўшы на нечаканую госцю, бабулька цвёрда дадала: – Вось калі прыжывешся ў нашым родзе, можа, і табе раскажу нашыя гісторыі.

– Бачыш, а ты баялася, што з бабуляй не знойдзеш агульнай мовы, – заходзячы ў пакой, ухвальна вымавіў Вячаслаў. – Давай так, спачатку пойдзем у замак, я цябе пазнаёмлю з цудоўным чалавекам, фанатам сваёй справы Міхаілам Сяргеевічам Равічам, ён там дырэктарам...

– Які Равіч, я табе зараз дам Равіч! Спачатку за стол і абедаць...

– Ганна Міхайлаўна, злітасціўцеся, ён жа мяне на тыдзень наперад накарміў такімі смакотамі, што я на ежу з месяц глядзець не змагу.

– Цудныя дзеі твае, Госпадзі! Каб Вячак і кагосьці накарміў... Ды ён і дранікі смажыць не ўмее, не тое, каб нейкія там смакоты...

– Ой, бабуля, усё я здалею, і пячы, і смажыць, калі трэба будзе... У рэстаране мы аб'еліся...

– Ну і свінчо ты пасля гэтага: ехаў да мяне, а дзіцянё ў рэстаран завалок. Ідзіце ў сад, я вас хоць гарбатай напаю, паспееце яшчэ да свайго Равіча.

Вясновае сонейка, не разгубіўшы сваёй яркасці і цяпла, ужо скацілася на другую палову доўгага дня. Альтанка на старадаўнім падмурку з дзікага каменя стаяла на невысокім беразе возера, амаль насупраць строгіх валоў і нядаўна адрэстаўраваных сцен ды флігеляў. Адсюль, з больш нізкага берага, манументальная рэзідэнцыя Радзівілаў нібыта лунала ў бясхмарным вясновым небе, ледзь дакранаючыся да ўжо запаленай зелянінай зямлі. Азёрная вада нябеснага колеру ў дробнай лусцы хвалек зіхацела на сонцы і таямніча шархацела ў прыбярэжным чароце.

І дом, і сад былі спланаваныя такім чынам, што гукі з вуліцы сюды

амаль не далятаці, нават машыны злева па дамбе рухаліся бязгучна і нагадвалі рознакаляровых смешных жукоў. Стэфаніі здалося, што ў гэтым утульным, аддаленым ад усіх дворыку раптам уваскрэсла нешта старое, што даўно прайшло, тое, чым стагоддзі жылі яе продкі і што амаль уадначас беззваротна разбурылася. Яна не ведала і нават не магла сабе ўявіць тое далёкае і невядомае ёй жыццё, але тут, у гэтым садзе ёй здалося, што той свет нікуды не сышоў, ён недзе побач, варта толькі захацець – і ты яго пачуеш. З нейкай лекцыі яна памятала: гук матэрыяльны, а калі гэта так, ён не можа знікнуць і раствары́цца ў нейкай сусветнай цішыні, недзе ён жыве, захоўваецца. Трэба толькі знайсці спосаб прабрацца ў тое сховішча.

– Паслухай, Слава, – адарваўшыся ад сваіх думак, расцягваючы словы, звярнулася яна да маладога чалавека, які з веданнем справы корпаўся каля самавара, – а праўда, што пад замкам ёсць падземныя хады, якія вядуць ледзь не ў Навагрудак? І яшчэ шмат размоў пра чорную панну Нясвіжа, мне адна сяброўка ўсе вушы пра яе прaзвінела. Яна ўвогуле на замках гігнулася, і на ўсіх гэтых руінах у яе абавязкова прывіды з'яўляюцца і часта людзі гінуць без прычын.

– Вось табе на... у век кампутара і геномаў вера ў нейкія старадаўнія казкі! Пра прывіды і іншыя страхі я асабіста нічога не ведаю, а галоўнае, у гэтыя байкі не веру, а вось падзямеллі пад замкам, як і пад любым старадаўнім збудаваннем, маюцца. Аб таемных падземных хадах я столькі расповедаў чуў, што барабанныя перапонкі ледзь не лопнулі. Падлеткамі мы там усё, што можна, аблазілі, але ніводнага падзямелля так і не знайшлі. Можа, раней нейкія хады і былі, ды з часам абваліліся, ці новыя гаспадары самі замуравалі. Такія тупікі мы знаходзілі. Наогул, пацярпі крышку, гарбаты сербанем – і табе сам Міхаіл Сяргеевіч адкажа на ўсе твае пытанні. Ты толькі абавязкова ўсе дванаццаць гатункаў бабулінага варэння паспытай...

– Колькі?!

– У прыстойнай сям'і павінна быць роўна дванаццаць салодкіх нектараў з зямных пладоў і ягад, – нечакана для дзяўчыны адказала за яе спінай гаспадыня дома. – Вось дапамажы лепш. Цяжкавата стала насіць гэтыя слоікі. А як менш запасіць на зіму? Дванаццаць і павінна быць, не менш, чым апосталаў Гасподніх.

– Бабулечка, родненькая, – узмаліўся ўнук, – сонца хутка сядзе, а мне не толькі замак хочацца паказаць, але і цудоўны наш парк. Давай мы вып'ем гарбаты з ветлівасці і пабяжым, а ўжо ўвечары ўсё нагонім. Добра?

– Спяшанец ты, дзед такім не быў у маладосці. Ды што з вамі зробіш... Вось гэтыя тры, Стэфанія, пакідай, а астатняе хай гэты абармот у дом адносіць.

Паспешліва папіўшы гарбаты, моладзь, якую праводзілі бабуліныя пажаданні і цёплыя погляды, рушыла да замка старадаўнімі, амаль сцёртымі сучаснасцю вуліцамі раённага цэнтра, некалі былога цэнтра магутнай прыватнай імперыі шматлікага магнацкага роду Радзівілаў, які магутнасцю і сілай не саступаў каралям Рэчы Паспалітай.

З экскурсіі вярталіся ўжо ў густым змроку, стаміліся, перапоўненыя новымі ведамі і гонарам за слаўнае мінулае сваёй зямлі. Вуліцы мястэчка, нягледзячы на пятніцу, былі пустымі, толькі ля шалманаў, якія абляпілі замкавыя вароты, ды на ратушнай плошчы тусавалася моладзь і ціха іграла азербайджанская музыка.

– Паслухай, Скарга, – пасля доўгага маўчання вымавіла дзяўчына. Упершыню назваўшы яго па прозвішчы, яна запнулася. Ёй здалося, што ў яе ўнутраным свеце за гэты няпоўны дзень адбыліся нейкія вельмі важныя змены. І гэты дзіўны зварот, што неяк сам па сабе зляцеў з языка, павінен сімвалізаваць нешта значнае.

– Што?.. – азваўся Вячаслаў і нечакана пацалаваў яе ў паўраскрытыя вусны.

Стэфа, нечакана для сябе, прыняла гэты пацалунак як нешта належнае, і ўвесь свет раптам сціснуўся і растварыўся ў гэтым мяккім і далікатным дотыку вуснаў. Нарэшце яны з цяжкасцю адарваліся адно ад аднаго, цяжка дыхаючы, як ад хуткага бегу, застылі ў абдымку, разарваць які магла толькі смерць.

– А адкуль ты ведаеш, што бабка называла майго дзеда толькі па прозвішчы? – шэптам, баючыся спалохаць яе мітуслівае сэрца, спытаў Вячаслаў.

– Нічога я не ведала, проста само неяк вырвалася. Я ўжо спалохалася, ці не пакрыўдзіла цябе...

– Таварыш Скарга, гэта вы? – прымусіў іх здрыгануцца і вярнуцца ў рэчаіснасць нягучны, хрыплаваты жаночы голас.

– Фу ты, чорт, так жа і заікай можна зрабіць ці вожыка нарадзіць! – першай абурылася Стэфанія. – Вы што, не бачыце: таварыш Скарга не адзін...

– Дык цемрадзь жа вакол, нічога не відно, толькі чула, як вы размаўлялі, а потым змоўклі. Я ж тут ужо даўно яго чакаю. Мне з таварышам вашым пагаварыць вельмі трэба. Так што вы, паненка, выбачайце, калі што. А вожыкаў хай яжыха нараджае, ёй болей зручна. А вы ўжо лепш хлопчыка расстарайцеся.

– А калі дзяўчынку першай хачу? – развесялілася Стэфанія.

– Ну, гэта ўжо як Гасподзь дасць, – па-філасофску дадала няпрошаная сведка іх першага пацалунка.

Скарга ўвесь сцяўся, ён з першага гуку пазнаў голас нябачнай суразмоўніцы і больш за ўсё баяўся, каб яна ад нявіннай балбатні пра вожыка не перайшла на больш сур'ёзную размову.

Азалію Францаўну Швед і яшчэ трох загартаваных байцоў пазаштатнага фронту са шматгадовым стажам перадаў яму па-суседску падпалкоўнік Кузьмянок, сыходзячы на пенсію і назаўжды з'язджаючы з іхніх краёў.

– Добры вечар, пані Азалія, зараз вось правяду паненку і выйду да вас, хоць вы ох як не ў час.

– Вшістко розуме пана і бардзе бэндзе чэкаць, – амаль па-вайсковаму адказала жанчына па-польску.

– Ну, Скарга, ты і даеш, – душачыся смехам, шаптала яму ў вуха дзяўчына. – Гэта ж трэба: займела сабе кавалера, якога нейкія ваенізаваныя бабкі па начах падпільноўваюць. Я, праўда, ледзь не абамлела, калі яна так злавесна цябе паклікала з цемры. Можа, не варта табе хадзіць, да раніцы пацерпіць.

– Ды не, вось здам цябе бабулі з рук у рукі і праз паўгадзіны вярнуся. Ты пакуль дом паглядзіш, з астатняй маёй раднёй пазнаёмішся...

– Што, твае бацькі прыехалі? Не, без цябе я туды ні за што не пайду, – учапілася ў яго руку Стэфа.

– Супакойся, да маіх пазней паедзем, ды і да тваіх таксама. Цётка з бабуляй жыве, і яе дачка, мая малодшая стрыечная сястрычка, хоць гэта

яна для мяне малодшая, а для цябе хутчэй аднагодкай будзе. Яшчэ і брат жыў, ды вось з’ехаў у Маскву пасля інстытута. Не бойся, ніхто цябе там не пакрыўдзіць, ты ўжо ў бабулі  ўлюбёнкай ходзіш.

– Так?

– Упэўнены. Толькі я цябе вельмі папрашу, – пераходзячы на шэпт, сказаў Вячаслаў, – не гавары, з кім я пайшоў сустракацца. Потым усё растлумачу. Ну, вось мы і дома. – Не паспеў ён паднесці руку да кнопкі званка, як дзверы адчыніліся, і на парозе іх сустрэла маладжавая жанчына гадоў сарака. – Вось, Стэфанія, знаёмся – мая любімая цётачка Вераніка. Цёця, вы там уладкоўвайцеся, а я хутка буду, – цмокнуўшы цётку ў шчаку, вымавіў Слава і растаў у цемры, якая за рысай нязыркага святла здавалася яшчэ гусцейшай.

## 9

Казімір сабраўся паміраць: ці жарт – праз тры месяцы семдзесят дзевяць гадоў. Думка пра блізкую смерць прыйшла неяк раптам, рана раніцай, калі ён, пакарміўшы курэй, ужо збіраўся вяртацца ў хату.

«Вось, напэўна, хутка памру, – падумалася староу, і думкі гэтай ён не спалохаўся, нават не здзівіўся, – а колькі ж можна? – ці то сам сябе спытаў, ці то ў кагосьці іншага. Уздыхнуў, прысеў на ўнукам збітую лаўку пад старой чарэшняй. – А што ты хочаш, пажыў ужо – і годзе. «Усе мы тут госці, – успомніліся яму словы, якія любіў паўтараць бацька-нябожчык, – пагасцявалі, трэба й меру ведаць». Вось і мне прыйшоў час рыхтавацца да дзядоў».

Тое, што душы памерлых продкаў ляцяць у далёкі і незразумелы «вырай» і там становяцца «дзядамі», ён ведаў з самага свайго нараджэння, можа, ужо з гэтай упэўненасцю і нарадзіўся.

«Ну, да дзядоў, дык да дзядоў, можа, яно там і не горш будзе. Тут жа асабліва не шыкаваў, ды і дзе там пашыкуеш, калі ўсе землі ў калгас забралі, скаціну трымаць забаранілі, самому сваё прадаваць нельга стала. Вунь, навакольныя хутары пазвозілі ў вёскі, людзі, хто спрытней, у гарады падаліся, кінуўшы бацькоўскія куты і цяжкую, няўдзячную працу на зямлі. А колькі тых жа самых хутароў улады папалілі?! Пянькі ад яблынь ды ліпак выкарчавалі, зааралі – і ўсё, і няма нават следу ад былой сядзібы. Спрэс калгасія! Невясёлае жыццё было наша, ох, невясёлае!» Ён жа ні ў які калгас ісці не захацеў – ні да, ні пасля вайны. Чым яго толькі не палохалі, як толькі не здзекаваліся: то дарогу да хутара зааруць, то падаткі падвысяць, электрычнасць не давалі, коніка раз дзевяць канфіскоўвалі, не паложана, маўляў, аднаасобнікам. Бацька трываў, але з хутара не пайшоў. «Ад яго, відаць, і мая ўпартасць, хоць можна было і сысці, можна было і не раз. У войску прапаноўвалі застацца і на «куска», і ў ваеннае вучылішча ісці, і ў горад таксама можна было. Сваяк колькі разоў прапаноўваў да яго на завод уладкавацца, і з кватэрай абяцаў паспрыяць. Але ж і сумневы іншы раз адольвалі, і жонка, бывала, не-не – ды і ўпрошваць бралася, але ўтрымаўся ж, застаўся. Ды і рука ніяк не падымалася перакрэсліць усё вось так уадначас. Яно і дзякуй Богу. А пасля смерці бацькі – куды ж ісці, уся гаспадарка на мне засталася. Не кідаць жа чужынцам і агню на патраву. Не палац, вядома, але не горш, чым у людзей, а галоўнае – сваёй працай нажытае і адбудаванае.

Улада ж яшчэ пры бацьку памянялася, толькі неяк куртата памянялася,

калгасы – у нейкія СПК-а ператварылі, а людзям лепш жыць так і не стала, а хутары, дзе старыя паўміралі, як палілі, так і працягвалі паліць. А паліць жа навошта? Можа, у каго, хто ў горад з'ехаў, штосьці ў душы зварухнецца – і пацягне яго да роднай хаты, можа, не ў самога, можа, у дзяцей, ва ўнукаў... Душа – гэта Божае вызначэнне, яе ж ні камунамі, ні дэмакратыямі згарнуць ну аніяк нельга.

Бацька, помніцца, тады, ну калі ўлада перавярнулася, пайшоў у сельсавет, зямлю, якую Саветы забралі, назад патрабаваць. А не аддалі яму нічога, як аднаасобніку, які ў калгасе не лічыўся, то, аказваецца, паёў яму зямельных не адведзена. Ну, не адведзена, дык не адведзена. Толькі, вярнуўшыся дадому, ён пазваў сына, сярэдняга брата і ўнукаў, чорт ведама адкуль дастаў землямерны аршын, прымусіў начасаць дзясяткі тры калоў і павёў нашую, забраную калісьці Саветамі, зямлю межаваць. Адмежаваліся. Прыстойнае поле выйшла, калі яшчэ і лясок з лагчынкай, і возерка дадаць – зусім маёнтак атрымліваецца. Канёк тады ў нас быў – за два. Мама слабенькая ўжо, але таксама за вароты з абразамі выйшла. Памаліліся ўсім сямействам, межавую баразну прааралі, як калісьці нашыя продкі. Вечарам стол святочны накрылі, хоць і будзённы дзень быў. Вясёлыя ўсе былі, а ў душы неспакой. Дазнаюцца сельсаветчыкі – «казлоў» на «казле» прышлюць.

– А няхай, што будзе – тое і будзе. Зямля наша – і праўда наша! – сказаў бацька. Цвёрда так, усё адно як «Амэн». Сказаў і загадаў спаць ісці.

А зямля так за намі і засталася. Новым уладам была яна ў першыя часы без патрэбы, а як гэтыя эспэка разгарнулі, дык ужо ўсе і прызвычаіліся, што зямля наша. А потым во сын і наогул усё ў фермерства ператварыў. Так што ўсё, што было нашым, нашым і засталося, яшчэ гектараў пяцьдзясят прырэзалі. Сёння ж што? Жыві ды не памірай, аднак, відаць, трэба.

Вось ужо ні мамы, ні бацькі няма, я адзін крайні стары з роду застаўся. І нездарма гэтая думка пра смерць да мяне сама сабой прыйшла. Помніцца, дзесьці за месяц да скону бацька паклікаў і кажа: «Памру я неўзабаве, сынок. Не хрысціся, адчуваю, час прыйшоў, ды і бабка амаль кожную ноч сніцца, усё кліча да сябе. Пара, і так ужо зажыўся. Але не пра тое гаворка. Ёсць у мяне, сынку, адзін запавет, людзям пасля вайны дадзены. Нявыкананае слова, не па маёй волі нявыкананае. Не прыйшоў чалавек забраць сваё. Схованка ёсць у нас, на самым краі нашай зямлі, там, у лесе, пад балацявінай, дзе бетонныя казематы яшчэ з першай германскай вайны стаяць. А раней на тым месцы ці то сядзіба панская была, ці то замак, які ў старыя часы шведамі, а можа яшчэ і да шведаў разбураны, дакладна ніхто не ведае. Дык вось ёсць там лаз адзін таемны, мне яго бацька паказаў, яму яго бацька, а таму таксама бацька адкрыў і прапрадзеду, напэўна, таксама бацька паказаў. Ніхто толкам не ведае, хто і навошта ўсё гэта выкапаў. Мяркуючы па цэгле, вельмі старая нара, такіх цаглін у нашых краях я больш нідзе не бачыў». Распавёў, а вечарам і наведаліся мы туды. Страшнаваты склеп, і скрыні ля сценкі там польскія стаяць... Напэўна, прыйшоў час і мне сына зваць і таямніцу яму дзедаву расказваць, ды везці ўсё на месцы паказаць. Усіх у нас Казімірамі называлі, дзед на тым настаяў. Цяпер я разумею, чаму. Чаму і бацька, і я, і вось мой сын – усе мы Казіміры. Я вось на ўсялякі выпадак і ўнучка свайго старэйшанькага Казікам таксама назваў. Да Казіміра той пасланец за сваім дабром прыйсці павінен...»

Сын старога Казіміра, Казімір Казіміравіч Сапіца, пабудаваўся на бацькавым хутары, толькі крыху вышэй бацькоўскага дома, на пагорку

за садам, і да бацькі зазіраў разы па два на дзень. Часцей забягалі ўнукі і нявестка, прыгожанькая і ладненькая, а галоўнае – рукастая, нягледзячы на гарадскія ды інтэлегенцкія карані. Стары Сапіца, калі ўнук прывёз з Горадні знаёміцца сваю будучую жонку, прызнаў у ёй будучую гаспадыню і ўрачыста заявіў: «А ты, відаць, з нашых, з хутаранак!» Маладыя тактоўна прамаўчалі пра гарадскія карані будучай унучкі. Якое ж было іх здзіўленне, калі на хрэсьбіны іх першынца сабраліся амаль усе сваякі з абодвух бакоў, і за сталом, бліжэй да ночы, высветлілі, што дзед меў рацыю – і парадніліся два старыя хутаранскія роды.

«Вось ужо, лічы, дваццаць гадоў, як дзеда няма, – працягнуў свае невясёлыя развažанні Казімір, – трэба, трэба зваць сына і весці яго ў гэтую схованку, паказваць скрыні, а то як бы позна не стала».

Размова з сынам адбылася ў той жа дзень пасля абеду. Да месца вырашылі пайсці заўтра ўвечары, цяпер сыну трэба было па нейкіх справах тэрмінова ехаць у райцэнтр.

Казімір ужо даўно нікуды з бацькам не хадзіў, лічыў яго зусім слабым, спрабаваў засцерагчы ад любой фізічнай працы і хваляванняў. Але дзед упёрся і стаяў на сваім.

– Добра, бацька, я згодны, але толькі ісці для цябе будзе туды далекавата, так што паедзем на квадрацыкле.

– Ты мне, засранец, тут не камандуй. Гэта табе дупу адарваць ад машыны лянота. Пойдзем – і ніякай тэхнікі. Толькі вунь ломік вазьмі, лапатку сапёрную і той скрутак троса. Там я мяшок падрыхтаваў.

Выйшлі надвячоркам, праз бакавыя вароты. За плотам свет адразу стаў іншым, чужаватым. Цішыня гусцела, паветра рабілася больш халодным, а наплылыя аднекуль гукі – больш чыстымі і таямнічымі. Дзед для канспірацыі ўзяў вуды і йшоў на здзіўленне хутка і ўпэўнена.

– Бацька, ты куды так спяшаешся? Семдзесят гадоў гэтая твая таямніца там ляжыць і яшчэ столькі ж пачакае. Трос навошта ўзялі, ты мне растлумач, туды совацца небяспечна?

– Хто ж яго ведае, я там гадоў сем не быў. Гэта ўжо амаль гадоў дваццаць, як мой бацька памёр, – дзед нешта пра сябе лічыў, хутчэй за ўсё перабіраючы ў галаве не абстрактныя лічбы, а жывыя даты мінулых падзей, – ну, ды ў гэтую восень якраз сем гадоў і будзе. Добра хоць выбраўся тады, а то б і каюк...

– Пачакай, бацька, – беручы старога за рукаў дапатопнага брызентавага дажджавіка, паспрабаваў спыніць яго сын, – ідзем павольней, а то ты не толькі сябе, але і мяне загоніш. Давай усё расказвай па парадку: што здарылася, чаму ты выбрацца не мог, навошта трос?

– Добра, цішэй пайду, – выдзіраючы з рук сына рукаў, пагадзіўся Казімір, – дзверы там мудрагелістая. І не дзверы нават, а нейкая пліта з дзікага каменя. Там ёсць два блокі і дзве процівагі. Адзін гэты ўваход адчыняе, другі замыкае. Блокі... яны надзейныя, каваныя, а вось грузы на вяроўках вісяць, ну і, сам разумееш, вяроўка – яна і ёсць вяроўка. Дык вось, калі я апошні раз там быў, вяроўка перацерлася і лопнула. Думаў – усё, а потым злаўчыўся, папружку сваю прыладзіў і падняў камень. Схадзіў дадому, прынёс тросік, наладзіў механізм. А гэты трос, што ў мяшку, дык пра запас хай там будзе, ці мала што.

– Тата, вы што, насамрэч тыя скрыні так і не адчынялі? Семдзесят гадоў амаль прайшло. Наўрад ці хто па іх вернецца. Гэта ж, лічы, я ўжо буду трэцім пакаленнем, хто гэта павінен захоўваць.

– Як жа, сынок, можна чужое браць? Ды і бацька казаў, што ён верыць: прыйдуць за гэтымі паперамі, вельмі ўжо акуратнымі ў таго Яна былі бацькі...

– Прычым тут бацькі? Вось глядзі, табе сёння семдзесят дзевяць, у сорак пятым было дзесяць, значыць, таму маладому паляку гадоў дваццаць пяць, не менш, і таму сёння яму сто з гакам! Як ён туды пойдзе?

– А я ведаю? – панура прабурчаў бацька ў адказ. – Можа, сын або ўнук прыйдуць. Мы ж людзям слова далі, як ты яго парушыш?

– Не, бацька, так не будзе. Ёсць такое паняцце: тэрмін даўнасці. Ён, калі ты хочаш ведаць, і на самыя страшныя таямніцы дзяржавы распаўсюджваецца. Ну, дапусцім, там нейкія паперы, якія тычацца акаўскага руху ў нашых мясцінах. Дык іх трэба хутчэй даставаць, даводзіць да палякаў і нашых вучоных – хай даследуюць і публікуюць, пакуль гэтая тэма хоць камусьці яшчэ цікавая. Памруць апошнія, хто памятаў і бачыў тую вайну, і яна забудзецца, запыліцца ў падручніках гісторыі. Застанецца голымі датамі, як сёння Мамаева пабоішча або ўзяцце Кіева Пейсахам Вялікім...

– Пейсахам-шмейсахам! Прыйшлі ўжо.

За размовай непрыкметна яны сапраўды абмінулі іхняе поле, прайшлі па схіле, спусціліся ў лагчынку і па вузкай сцежцы набліжаліся да невялічкай балацінкі, над якой навісалі змрочныя, амаль цалкам урослыя ў зямлю доты першай сусветнай вайны. Злева ад сцежкі, амаль да самай цытадэлі, падымалася ўмацавальная сценка, выкладзеная з шэрых, не заўсёды ачэсаных вялікіх камянёў.

Бацька прыклаў палец да вуснаў, заклікаючы да маўчання, і стаў прыслухоўвацца. Казімір таксама напружыў слых, але нічога, акрамя жывых гукаў і шоргатаў, не пачуў. Бацька ступіў за невялікі куст вербалозу, нешта нягучна заскрыпела.

– Ну чаго стаіш, лезь ужо за мной, – пачуўся шэпт бацькі.

Зазірнуў за куст, там было пуста, толькі на ўзроўні пояса ў каменных шыхтах зіхцеў прагал, куды спакойна мог пралезці дарослы чалавек.

Адразу за лазам, які з такім жа надрыўным скрыпам зачыніўся, ход пашыраўся, можна было выпрастацца ва ўвесь рост. Справа бацька чыркаў запалкамі. Казімір уключыў незвычайна яркі маленькі ліхтарык.

– Давай сюды пасвяці, я газніцу зацеплю. Вось, зараза, кнот гэты... Газа ўжо вычхалася – і годзе... Колькі ж тут ніхто не быў. Ну, ты давай мне свяці, а не на склеп. Тут у мяне бутэлька маецца з запасамі. Вось жа – стрэляны верабей твой бацька...

– Бацька, ды нá табе другі ліхтар – і пойдзем.

Казіміру было ніякавата. Ён уключыў другі ліхтарык, правёў прамянём вакол. Мур скляпенчатай столі ўражваў сваёй незвычайнасцю, нешырокі і невысокі тунэль ішоў направа ад увахода. Ля ўваходнага каменя ў падлозе зеўралі нейкія нешырокія норы.

Бацька нарэшце справіўся з вялікай старой газніцай, якую чамусьці звалі «лятучай мышшу», пакінуў яе на месцы, узяў працягнуты яму ліхтарык і, крэкчучы, угнуўшы галаву, падаўся па лазе. Прайшлі яны не больш пяці-шасці метраў і апынуліся ў невялікай зале, сцены якой былі выкладзены з такога ж шэрага каменя. На столі тарцы з шырокай і тонкай цэглы, па капрызе невядомага майстра, то плаўна выгіналіся, нібы луска велізарнай рыбіны, то збіраліся ў стромкі хрыбет дагістарычнага яшчура і ажурнымі аркамі ўтрымлівалі мудрагелістыя пялёсткі сплюшчанага купала.

– Ну вось і наша схованка, – з гонарам прамовіў стары Сапіца, як быццам калісьці асабіста пабудаваў гэтае падзямелле.

– Бацька, а скрынь тут нашмат больш, чым ты мне казаў, – чамусьці шэптам канстатаваў сын, асвятляючы залу. Сапраўды, ля сцен, адкідаючы мудрагелістыя цені, стаялі нейкія палукашыкі, відавочна вайсковыя скрыні, скрыні з пакатымі вечкамі. Пасярэдзіне залы ўзвышаўся ці то круглы стол, ці то велізарная, вытачаная са светлага каменя ваза для садавіны, з вялікай газавай лямпай у цэнтры, звычайныя вясковыя табурэткі выглядалі тут ненатуральна і сіратліва.

– Ты чаго гэта шэпчаш, тут крычы не крычы – ніхто не ўчуе. Скрынь, кажаш, зашмат? Дык і скляпеннем гэтым мы, відаць, не адзін год валодаем. Вось калі якая бяда – дык і цягнулі сюды, што на той момант здавалася каштоўным. А потым ці забывалі, ці лянотна было назад перці. За тры, а можа і за чатыры стагоддзі памалу і назбіралася. Але тутака не толькі наша, тут і зусім старыя, яшчэ панскія, вунь там, дзе другі ход завалены, там іх панцежы ляжаць, пікі і шаблі. А польскія скрыні, дык яны вось, – дзед стукнуў нагой адну з трох пляскатых скрынак ля стала і пачаў наладжваць настольную лямпу.

Казімір павольна пайшоў па крузе аглядаць спадчыну, якая немаведама адкуль звалілася на яго. Чаго тут толькі не было!

– Баця, а зброі тут адкуль столькі?

– Ну дык не ў хаце ж яе трымаць, а выкінуць рука ніяк не падымалася, хай ляжыць, ці мала што... Давай выключай сваю батарэйку ды ідзі сюды. Яшчэ паспееш наглядзецца на сваё дабро, яго тут і за месяц усё не перабярэш.

Лямпа зачадзіла і наўздзіў нядрэнна асвятліла падзямелле.

– Дык кажаш, тэрмін даўніны! Ох, і ў спакусу ты мяне, сынок, перад смерцю ўводзіш. А я ж таксама бацьку, калі ён мне гэты схрон паказаў, прасіў адкрыць палукашак, але стары ні ў якую... А я вось, відаць, паддамся. Давай ідзі, падсабі падняць...

Скрыня аказалася відавочна нямецкай з нейкай цёмна-карычневай пластмасы з дзвюмя металічнымі ручкамі па баках. Замка не было відаць, зашчэпкі з пазелянелага сплаву, – хоць і акісліліся, але адкрыліся адразу. Унутры, загорнутыя ў тонкі брызент, ляжалі нейкія пажоўклыя паперы і скураны мяшэчак з двума вялікімі, мяркуючы па ўсім, старадаўнімі ключамі.

У другой дакладна такой жа скрыні, толькі крыху большых памераў, таксама былі паперы: вялікія тоўстыя сшыткі, нейкія кнігі з цыдулкамі і распіскамі аб атрыманні грошай. Скрынка з польскімі ўзнагародамі і незапоўненымі да іх дакументамі, пячаткі ды яшчэ ўсялякая штабная маёмасць.

Пакуль бацька ўважліва вывучаў змесціва другой скрыні, Казімір разгарнуў зляжалыя паперы першай. Яны былі відавочна вельмі старыя, хоць Сапіца ў гэтым не надта разбіраўся, але на асобных аркушах былі акрэсленыя планы нейкіх збудаванняў, усходаў, пераходаў, гарышчаў і вежаў, на кожным аркушы ў ніжнім правым куце акуратнай гатычнай вяззю, хутчэй за ўсё, даваліся тлумачэнні да малюнкаў. Папера ўпрыгожаныя гербам у выглядзе аднагаловага арла з трыма рагамі на грудзях.

«Вось гэта я, мабыць, адсюль і забяру адразу і цяпер. Здаецца, недзе я нядаўна бачыў гэтых птушак», – падумаў сын, паглядзеўшы на бацьку, як быццам той мог пачуць яго думкі.

## 10

Сёння ўжо амаль не засталося тых людзей, хто памятае Мінск лета сорак чацвёртага года, Мінск напярэдадні вызвалення. Вайна кацілася на захад, у чарговы раз перамолваючы людзей і іх душы, пераворваючы нашую зямлю. Людзі, асабліва хто старэй, і чакалі прыходу Саветаў, і асцерагаліся яго, бо многія ўжо на сваёй скуры выпрабавалі ўсе вабноты і ласкі змены ўлады. Здаецца, вось толькі з такой цяжкасцю адвыклі ад звароту «таварыш» і з горам напалам прызвычаіліся да забытага «спадар» – і на табе: зноў усё вяртаецца назад. Зноў усе вакольныя табе спрэс таварышы, а за спадара добра калі па мордзе дадуць, а то ж і тэрмін атрымаць можна.

Так, па-рознаму чакалі вяртання савецкай улады былыя савецкія грамадзяне. Хтосьці спяшаўся далей перахаваць несправядліва нажытае дабро, хтосьці шукаў магчымасць цісkануць новыя дакументы і зашыцца ў якую-небудзь глухмень суседняй вобласці, стаіцца, адседзецца. Хтосьці суткамі шастаў па горадзе, усё заўважаючы і запамінаючы, каб было чым парадаваць родную ўладу і выявіць гадаў ды іншы варожы элемент. Камусьці трэба было выкруціцца і схаваць таемнае супрацоўніцтва з другім аддзелам СД, які выконваў у Беларусі абавязкі гестапа. Многія актыўна змагаліся з акупантамі, многія з імі супрацоўнічалі і рыхтаваліся ваяваць з хуткімі вызваліцелямі. Хтосьці проста жыў, як жыў і раней, будзённа і абыякава. Многім, вельмі многім было што хаваць і ад немцаў, і ад Саветаў.

Бесперапынна працаваў у гэтыя дні «Абвернебенштэле-Менск». Яго начальнік, палкоўнік Олер, маладжавы статны чалавек, нетаропка крочыў па сваім прасторным кабінеце, размешчаным у будынку былой партшколы ВКП(б)Б на былой вуліцы Карла Маркса. За доўгім сталом сядзелі ўсяго тры чалавекі.

– Панове, я вельмі хачу, каб вы ўважліва паставіліся да сур’ёзнасці гэтага моманту. Створаная намі ў Беларусі сетка з’яўляецца толькі часткай вялікага плана пад агульнай назвай «Майн лібе кэц». Нашыя «каты» павінны напоўніць часова пакідаючыя войскамі Вермахта тэрыторыі і пасеяць у тыле ворага жах. Такім чынам, у зоне падкантрольнага нам органа з сённяшняга дня пачынае дзейнічаць аперацыя «Чорны кот», ва Украіне «Стэпавы кот», у Прыбалтыцы «Лясная котка». Так што – з Богам, спадары! Так, і які ў выніку атрымаўся аб’ём сфарміраванай тут сеткі, Ота?

– Адна тысяча дзвесце рэзідэнтур, спадар палкоўнік, – зазірнуўшы ў сшытак, далажыў пажылы маёр са стомленым, шэрым тварам.

– Вялікі атрымаўся кацішча, – застаўся задаволены сабой начальнік, – хай нават з іх толькі пяцьдзясят адсоткаў пачнуць працаваць – і гэтага будзе дастаткова. Усім дзве гадзіны паспаць – і зноў на пярэдні край нашай барацьбы, дарэчы, пярэдні край фронту рэальна амаль у Мінску, таму працягнуць асабісты кантроль за эвакуацыяй усяго каштоўнага. Ніводнага кавалачка паперы мы не павінны тут пакінуць <...>.

## 11

Вярнуўшыся ў Мінск, Стэфанія яшчэ доўга заставалася пад уражаннем неспадзяванай паездкі ў Нясвіж. За свой нядоўгі век яна ўмудрылася аб’ехаць ледзь не ўсю Еўропу, нават у далёкай і многімі жаданай Амерыцы пражыла амаль месяц у занудлівай заможнай сям’і нейкіх баптыстаў. Зда-

валася б, паездка як паездка, нічога асаблівага. Вунь у Чэхіі ці ў Францыі такіх замкаў на кожным пагорку па пары. Ды і, наогул, да гэтага выпадку яна не любіла ніякіх спантанных паездак, нечаканых зрыванняў з месца. Раней усё было згодна з планам, абдумана і сотні разоў узважана. І вось на табе: паляцела, аж сама сабе спадабалася. А бабуля ж кожны раз палохала: «Не ўдумай сабе падабацца, прыгажосць сыдзе!» На ўсялякі выпадак зірнуўшы ў люстэрка і пераканаўшыся, што ўсё яе з ёй, яна зазбіралася ў інстытут. Першая пара ўжо незваротна праспаная, але ісці ўсё ж трэба. «Вось дзеўкі, сучкі, нават не штурханулі, сяброўкі яшчэ тыя!» Каля ложка на падлозе ляжала невялікая кніжка, з якой яна ўчора, зацалаваная да страты галавы, заснула – «Таямніцы Нясвіжскіх муроў».

«Ты глядзі, па-беларуску зачытала, ці не да замужжа гэта? Крыўляйся не крыўляйся, а ўсё роўна было добра. І нашыя замкі не роўня замежным, – яна падняла з падлогі кніжку і сунула яе ў сваю, як і ва ўсіх маладых асоб, бяздонную сумку, – гэта яны ў нас, а не мы ў іх замкі падрывалі, хоць Скарга распавядаў, што нашыя гарады і замкі, і сядзібы мы самі і паўзрывалі. Нешта не тэлефануе краязнаўца...» – падумала яна, замыкаючы дзверы кватэры.

А Скаргу ў гэты час распякала начальства. Уедлівы мент Стасік накатаў рапарт свайму начальству, а тое ў парадку ўзаемадзеяння і правядзення сумесных аператыўных мерапрыемстваў накіравала яго копію ў іх кантору. Усё б нічога, але ў рапарце ўказвалася, што затрыманая невядомая грамадзянка была перададзеная старшаму оперупаўнаважанаму па асабліва важных справах капітану дзяржбяспекі Скаргу для далейшай аператыўнай распрацоўкі.

Начальства спачатку кінулася высвятляць, адкуль у жаўтаротага лейтэнанта з'явілася такая высокая пасада, да якой яму яшчэ служыць, як меднаму кацялку, і чаму мянты падвысілі яго на дзве прыступкі ў званні? Накрычаліся і наздзекваліся з лейтэнанта, аднак выслухалі яго аргументаваныя адказы, строга папярэдзіўшы надалей пра падобныя эксцэсы дакладваць неадкладна, і, ужо выправоджваючы з кабінета, спынілі ля самых дзвярэй пытаннем...

– Лейтэнант, а дзе тая бэнээфаўка, хто яна і дзе ўсё, што належыць у такіх выпадках, паперы дзе? – з крывой усмешкай спытаў намеснік начальніка аддзялення маёр Хрункевіч.

– Як толькі ва ўсім разбяруся, адразу ж і данясенне вам прадстаўлю. Няма чаго пакуль дакладваць...

– А калі няма чаго дакладваць, тады і да работнікаў унутраных спраў няма чаго совацца. Мы гэта мы, а яны гэта яны. Запомні, лейтэнант, «гусь свінні не таварыш», так што пра гонар чэкіста ніколі не забывай.

– Ёсць, таварыш маёр! У далейшым ніякіх кантактаў са свіннямі! Дазвольце ісці, таварыш палкоўнік? – звярнуўся ён да начальніка.

– Ідзіце. Толькі на сяброўскія парады старэйшых таварышаў раю надалей рэагаваць спакайней, тым больш слушныя парады. Ідзіце, ідзіце, лейтэнант.

За гэтыя паўгадзіны ў кабінеце начальніка, здавалася, з яго сышло дзесяць патоў. Скарга адчуў, як агідны струменьчык сцёк уніз па хрыбетніку.

«Вось дурань, Хруню нагрубіяніў, ды яшчэ пры начальніку... Ён зараз сапраўды на чымсьці больш сур'ёзным мяне падловіць і адыграецца. Чорт! – ён зірнуў на гадзіннік, – я ж абяцаў раніцай патэлефанаваць Стэфцы!

Сустрэліся бліжэй да вечара ў нейкай незнаёмай кавяраньцы на га-

лоўным праспекце горада. Застарэлы смурод грамадскага харчавання, змяшаны з пахамі смажанай цыбулі і прыгарэлага алею, плаваў прэлюдыяй да будучага позняга абеду. Людзей ва ўстанове было шмат, што казала пра яго папулярнасць і прыстойную ежу. Разглядаючы зашмальцаванае меню, якое не мянялася, мяркуючы па ім, яшчэ з часоў вызвалення Мінска ад нямецкага супастата, Скарга думаў свае лейтэнанцкія думы.

Вячэрняя нясвіжская наведвальніца, Азалія Швед, падзялілася вельмі цікавай інфармацыяй. Аказваецца, дзесьці ў годзе шэсцьдзясят восьмым з фамільнай крыпты Радзівілаў бясследна зніклі тры саркафагі. Ні касцёл, ні раённыя ўлады асаблівага шуму падымаць не сталі. Па лініі МУС завялі крымінальную справу, якая ішла няспешна, а затым яе і зусім прыкрылі па адсутнасці хоць якіх-небудзь фактаў. Каб спыніць плёткі прыхаджан фары, знікненне саркафагаў спісалі на кліматычныя абставіны. У тым годзе вясной здарылася небывалае для тутэйшых месцаў разводдзе, затапіла не толькі падвалы мясцовых жыхароў, але і крыпту божага храма, таму савет духоўнага і свецкага сталаначалля прыняў мудрае рашэнне спісаць усё на стыхію. Старыя труны проста разваліліся і былі размытыя. Вось так. Склалі адпаведны акт, які і стаў гэтаму здарэнню паспяховым вырашэннем.

Здарэнне гэтае неўзабаве забылася. І вось на мінулым тыдні пільнай грамадзянцы Швед яе блізкая сяброўка, адна з найстарэйшых касцельных актывістак, пані Брыгіта, па вялікім сакрэце распавяла пра дзіўнанага госця, які прыехаў да пана ксяндза з Польшчы. Польскі пан быў ціхі, нікуды з хаты днём не выходзіў, нават на службу, ксёндз стаў раздражняльным, з-за кожнай драбязы крычаў і злаваўся, а галоўнае – закінуў сваіх сабак, за тыдзень ні разу не падышоў да вальераў, чаго з ім ніколі да гэтага не бывала. Гэта паўбяды, ці мала якія адносіны ў каталіцкіх пастыраў і іх гасцей. Але днямі пані Брыгіта забылася ў касцёле сваю старую сумку, а ў ёй ключы ад кватэры сына. Сынок жыў у Баранавічах адзін і, з'язджаючы ў камандзіроўку, а працаваў ён дальнабойнікам, пакідаў ключы ў маці. Вось вярнуўся, а ключоў няма. Маці галаву зламала, успамінаючы, куды магла іх падзець, успомніла і пайшла ўжо ноччу ў касцёл. Невялікая брамка ў масіўных дзвярах аказалася незамкнёнай, хоць вялікі свірнавы замок і вісеў на належным месцы, але вісеў толькі на адной металічнай пятлі, унутраны замок таксама аказаўся адкрытым. «Можа, айцец Тадэвуш па якой патрэбе ў храме?» – падумала Брыгіта. Але храм быў пусты. Гэта ёй вельмі не спадабалася і спалохала. Знайшоўшы сумку, намацаўшы ў ёй звязку ключоў, яна ўжо сабралася выйсці прэч, замкнуць дзверы і патэлефанаваць у міліцыю, як пачула прыглушаны голас. Перасільваючы страх, падышла да ўвахода ў крыпту. Унізе гарэла святло. Размаўлялі двое: ксёндз і, хутчэй за ўсё, яго госць. Незнаёмец па-польску тлумачыў айцу пробашчу, што сорак гадоў таму мясцовыя «акаўцы» няправільна зразумелі загад і забралі з гэтага склепа два саркафагі. Таго грузу, што патрэбен быў цэнтру, там, вядома ж, не было, ды і наогул тыя паперы, якія ён прыехаў шукаць, знаходзяцца на нейкім хутары, а замак толькі самы прыкметны арыенцір. А вось які замак, Нясвіжскі ці Мірскі, невядома. Але крыпту трэба добра абследаваць, можа, нешта ды знойдзецца, запярэчыў яму святы айцец. Суразмоўцы пайшлі ў глыбіню падзямелля, і глухое рэха з'ела гукі і сэнс іхніх слоў.

Брыгіта вярнулася дадому і перабрала ў памяці ўсіх знаёмых ёй актывістаў польскага нацыянальнага супраціву, у якім у гады вайны яшчэ зусім дзяўчынкай удзельнічала і сама. Яна ведала ўсіх і ўсё, ведалі і яе.

Традыцыйна польскае пабрацімства групавалася вакол касцёла, а ў касцёльным свеце яна была далёка не апошнім чалавекам.

Вось такую дзіўную інфармацыю прынесла яму пані Швед. Прынесці прынесла, але што яму з ёй цяпер рабіць? Наогул, правільна цябе дзярэ начальства, таварыш лейтэнант, – раззлаваўся на сябе Скарга, – усё ў цябе праз дупу: інфарматары ёсць, але, так бы мовіць, прыватныя і па строгіх законах ведамства ад аднаго куратара да другога не перададзеныя, але ж інфармацыю яны нясуць, і яе трэба рэалізоўваць. Заўтра сядзеш і ўсё прывядзеш у божы выгляд. Трэба разабрацца ў сваіх адносінах са Стэфкай і ўсё ёй пра сябе распавесці. Яшчэ мне гэбэшны Казанова знайшоўся: замест распрацоўкі перспектыўнай «крыніцы» ўмудрыўся ў яе ўцюхацца па самыя вушы. І цяпер гатовы здзейсніць службовае злачынства, але абараніць дзяўчыну. Рашайся, на хлусні нічога талковага не вырасце.

Што да Арміі Краёвай – дык яе ўжо даўно няма, ды і былых байцоў амаль не засталося. Пасля той вайны амаль стагоддзе мінула, старыя дажываюць сваё ды маўчаць – і пра вайну, і пра савецкія лагеры, праз якія яны ў большасці сваёй прайшлі. Але польская моладзь папросту магла замуціць які-небудзь «падпольны звяз», нешта падобнае з таго боку мяжы, як ён чуў, мелася.

– Прывітанне мысліцелю! – вярнула яго ў рэальнасць Стэфанія.

– Прывітанне, – дапамагаючы зняць куртку, ён неяк звыкла, як родзіч, цмокнуў яе ў вусны. – У цябе ўсё ў парадку?

– Ты што – празорца ці мент? Ды я крыху не ў настроі. Патэлефанавала мама, у нас памёр адзін далёкі сваяк, дзядзька Казімір. Дзіўны і дзікаваты такі дзядзька. Хутаранін, адным словам. Мае ўсе за мяжой, не памятаю, я табе казала ці не, яны дыпламаты, і бацька, і мама цяпер у Венесуэле. Трэба ехаць на пахаванне, а гэта дзесьці ў Карэліцкім раёне. Я на карце глядзела, атрымліваецца якраз у тых краях, куды ты мяне да каменя везці збіраўся. Там яшчэ вёска побач... Варонча.

Вячаслаў застыў, нібы рыхтуючыся да скачка з засады, і, набраўшы поўныя лёгкія паветра, сказаў:

– Не, я не мент, я чэкіст, лейтэнант дзяржаўнай бяспекі, – і заціх, чакаючы рэакцыі ў адказ.

Дзяўчына маўчала, прымружыўшы вочы, уважліва глядзела на хлопца. Імкнучыся зразумець сур'ёзнасць яго слоў ці знайсці ў вонкавым абліччы хоць якое-небудзь пацверджанне сказанага.

– Пра пахаванне не клапаціся, я цябе падвязу, – асцярожна дадаў Скарга, – калі ты там павінна быць?

– Вось гад! – нарэшце выціснула з сябе з крыўдай дзяўчына. – Ты ваенны! Хоць і свалачны, але ваенны! «Лейтенант, парень молодой...», во, блін, невязуха. Што ж ты адразу не сказаў? Я б цябе адшыла пры адразу, а цяпер што рабіць? Гад, гад! – яна пачала біць яго кулакамі ў грудзі. – Ну і гад!

– Стэфка, паслухай, я не хацеў ад цябе нічога ўтойваць, ды і якое гэта мае значэнне: ваенны – не ваенны?

– Так, для цябе ніякага, а я прабабулі слова дала! А тут лейтэнант, ды яшчэ і жандар. Можа, і ўся радня ў гэтай гнілой канторы працуе? Ох, дурніца я, дурніца! – дзяўчына па-дзіцячы кулачкамі расцірала нечаканыя слёзы. – Праз столькі часу закахалася – і на табе...

Высвятленне адносін вырашылі пакінуць на дарогу да хутара. Скарга

забег на службу, напісаў рапарт на тры дні ў лік чарговага адпачынку, падпісаў яго ў кіраўніцтва. Сціснуўшы зубы, выслухаў падколкі Хрункевіча, што, маўляў, для ўладжвання ўсіх нюансаў з маладзіцамі трох дзён можа і не хапіць. Вусна далажыў таму ж Хрункевічу інфармацыю пра дзіўнага госця нясвіжскага ксяндза, атрымаў дабро на працяг збору інфармацыі самастойна, без далучэння пакуль мясцовых таварышаў. Калі ж маёр за два-тры, здавалася б, недатычныя да справы пытанні высветліў, навошта лейтэнанту вольныя тры дні, то дэманстратыўна парваў яго рапарт і памякчэлым голасам прамовіў:

– Скарга, вось табе тыдзень на нясвіжскую распрацоўку, а заадно і са справамі сардэчнымі разбярэшся, – і ўжо сур'ёзна дадаў: – Толькі памятай: чэкісту з выбарам баявой сяброўкі памыліцца аніяк нельга. Памылішся – служба і жыццё, што для нас адно і тое ж, пойдуць наперакасяк!

– Дзякуй, таварыш маёр, – неяк нават расчуліўся Вячаслаў, – вы ўжо мне за колішніх «свіней» прабачце.

– Кіньце, лейтэнант, свінні яны і ёсць свінні, – праводзячы падначаленага да дзвярэй кабінета, па-заступніцку філасофстваваў начальнік, – толькі падобных сентэнцый пры палкоўніку Кірлюку больш казаць не рэкамендую, ён з мянтоў. Вось так, лейтэнант, і ў здзіўленні рот адкрываць не трэба. Поспехаў...

На Стэфчынага кавалера выйшлі паглядзець усе яе суседкі па здымнай кватэры ды яшчэ тры дзяўчыны з іх курса, якія прыйшлі ў госці.

– Усё, дзеўкі, агледзіны прайшлі паспяхова, мяне дні два не будзе, перадайце старасце, – сядаючы ў машыну, не без гонару сказала Стэфа. – Паехалі, чаго красуешся, а то яны цябе вачыма разарвуць.

– Рады, што ты супакоілася. Даю табе слова: мае пагоны нашаму сумеснаму жыццю перашкаджаць не будуць...

– Шмат ты ў пагонах разумееш... Дзе княжы гонар? «Пагоны не будуць перашкаджаць», ты хоць думай, што кажаш. Прабабка мая – разумніца. Ведаеш, што яна мне сёння адказала, калі я ёй пра наша знаёмства распавяла?

– Можа, з часам я і навучуся чытаць твае думкі...

– Ага, яшчэ адзін Месінг знайшоўся! Яна мяне супакоіла тым, што, аказваецца, жандар ці, па-твойму, кадэбіст, не вайсковец, такім чынам слова свайго я не парушаю, нашыя ж адносіны цалкам залежаць толькі ад майго сумлення і твайго гонару. Як у цябе наконт гонару, Скарга? «Жыццё Радзіме, гонар нікому!» Ты ведаеш, што гэта за словы?

– Напэўна, нейкі рыцарскі дэвіз...

– Ну і цёмны ты, Скарга, чалавек. Дэвізу свайго шляхецкага не ведаеш, і давай, – яна штурхнула яго ў плячо, – не расчароўвай мяне, князь.

– Ніякі я не князь, так, шэраг гістарычных супадзенняў, як казаў дзед. Род шляхецкі, стары, але да князёў Заслаўскіх і Скаргаў мае вельмі ўскоснае дачыненне. Дзядзька мой у гэтай тэме вялікі знаўца. Вось сустрэнецеся, ён табе шмат чаго панараскazвае. Там у яго ўсё ёсць: і князі, і прамыя нашчадкі каралёў польскіх, і вялікіх князёў літоўскіх, і крэўныя сувязі з правялебнымі сем'ямі Еўропы. Дык кажаш, «Жыццё – Радзіме, гонар – нікому». Добра гучыць, трэба запомніць.

Скарга замоўк, засяродзіўшыся на кіраванні і аддаўшыся дарозе і сваім думкам.

– Не, Скарга, так ехаць нецікава. Яшчэ шлюб не ўзялі, а ўжо як пе-

радпенсійная пара: надзьмуліся сычамі і кожны пра сваё маўчым. Вось едзем на памінкі чалавека, а ты нават не хочаш даведацца, хто ён і хто я яму. А ён мне стрыечны дзед, то бок старэйшы стрыечны брат мамінай мамы, маёй бабулі. Я ў іх на хутары, па-мойму, нават разы два была. У мяне там шмат'юрадныя браты ёсць і сёстры, а цяпер ужо і пляменнікі ці ўнукі, як яны называюцца – не ведаю, і спытаць хутка ўжо не будзе ў каго. Трэба будзе як-небудзь у прабабулі параспытваць. Я ўсё дзіўлюся, як гэта вясковыя ўмудраюцца ўсю сваю радню памятаць і ўсіх як трэба называць: стрыі, цёцічы, швагеры.

– А ты заўважала, што ў вёсцы і рэчы жывуць даўжэй. Іншы раз нешта такое трапіцца ў рукі, ну, нейкая адпаліраваная драўляная штуковіна. Галаву зламаеш, а не здагадаешся, што гэта і чаму служыла. Старыя жывыя былі – тлумачылі, а цяпер ужо мне трэба распавядаць, а распавядаць пакуль яшчэ няма каму, а пакуль нехта народзіцца ды крыху падрасце, я і сам забуду...

– Нічога, успомніш або ў інтэрнэт залезеш і знойдзеш безліч адказаў, галоўнае – захавалася б вёска да таго часу. Хоць у цябе – вунь, свае палацы ў Нясвіжы, там таксама на паліцах усялякіх цікавых штуковін панарасстаўлена. Наступны раз прыедзем – я тваю бабулю абавязкова распытаю. Слухай, слухай, – як быццам нешта ўспомніўшы і гэтаму ўзрадаваўшыся, затараторыла дзяўчына, – а што там за таямніцы, звязаныя з тваім пакоем? І ноччу там адной заставацца нельга, і ніхто, акрамя цябе, там спаць не можа. Давай, каліся!

– Гэта доўгая і не вельмі зразумелая гісторыя, хутчэй паданне ці легенда, калі легенды могуць складацца пра адзін пакой у вельмі невялікім доміку. Ведаеш, лепш ты там разок засні ці пасядзі апоўначы, пачытай, а потым ужо я ўсё астатняе табе на галаву высыплю, а бабуля дадасць.

Яны даўно ўжо звярнулі з трасы і затрэсліся па дарогах з паямкавым рамонтам. Нейкі дурань у раёне, а можа і вышэй, загадаў суцэльна пілаваць старыя дрэвы, калісьці любоўна высаджаныя ўздоўж вялікіх і малых гасцінцаў. Навошта і з якой мэтай гэта рабілася – колькі ні ламаў галаву, так і не дадумаўся. Скарга, бачачы такое бязладдзе, кудысьці тэлефанаваў, спрабаваў нешта даведацца, дакладваў свайму начальству, але ўсё без толку. Душа залівалася слязьмі ад жалю па парушанай прыгажосці, але выратаваць прыдарожныя прысады ні ён, ні яго начальства не маглі, гэта не ўваходзіла ў іх кампетэнцыю.

Беспачуццёвая навігацыйная дама прывяла іх проста да варотаў адзінокай сядзібы, закінутай сярод высокіх палявых пагоркаў і пералескаў летапіснай Літвы.

Вароты былі шырока расчынены, нешматлікія родзічы, якія праводзілі свайго «бальшака» ў апошні зямны шлях да «дзядоў», відаць, нядаўна вярнуліся з могілак і без паказнога смутку ладзілі ў двары сталы і навес для трызны. «Бальшаком» некалі ў нас у старыну звалі не толькі дарогу, але і кіраўніка роду, які меў права судзіць і мілаваць усякага, над кім яго паставілі Бог і гады.

Ім на сустрэчу ішоў каржакаваты мужык у пацёртых джынсах, красоўках, шэрым швэдры і скуранай карычневай лётнай куртцы.

– Я Казімір, тутэйшы гаспадар, а ты, напэўна, пляменніца цёткі Ядзі з Мінска, угадаў? Ды і што там гадаць, калі ты як кропля вады на маці і на цётку падобная!

– Так, братка, гэта я. Прымі нашыя шчырыя спачуванні. Гэта мой... – дзяўчына на хвіліну задумалася, падбіраючы патрэбнае слова, каб прадставіць свайго спадарожніка. – Гэта мой жаніх.

– Скарга, – працягнуў Вячаслаў руку.

– Сапіца.

– Трымайся, па сабе ведаю, што значыць застацца без бацькі. Казімір, нам бы на могілкі схадзіць, мы там вянок, кветкі прывезлі. Гэта далёка?

– Ды не, уніз па дарозе і направа ўздоўж ручая. Ды там і відаць. Толькі лепш праехаць, волка яшчэ ў лагчыне. А смерць... яна, як і нараджэнне, справа звычайная. Бацька яе не баяўся. Дзесьці тыдні з тры таму паклікаў мяне і сказаў, што хутка памрэ, дакладней, не памрэ, а вернецца дадому, адкуль прыйшоў, – зірнуўшы на прыціхлую ў цікаўнасці радню, Казімір патлумачыў: – Гэта Стэфанія прыехала з жаніхом, цёткі Ядзвігі пляменніца, пакуль на магілкі сходзяць, а мы тут і без іх управімся.

## 12

У лесе яшчэ пахла грыбамі, сухімі травамі, апалай лістотай і разагрэтай за дзень ігліцай. Сухая, вузкая сцяжынка, вытаптаная побач з выбоістай прасёлкавай дарогай, віхляла між векавых дрэў старой пушчы. Шырокія колы нямецкага ровара ўпэўнена кацілі наперад да маленькага чыгуначнага раз'езда, які не меў нават свайго імя, а толькі лічбавае абазначэнне, што адпавядала адлегласці да бліжэйшай вузлавой станцыі, якой былі Баранавічы. Пасажырскія, а ўжо тым больш хуткія цягнікі тут ніколі не спыняліся, і толькі прыгарадны двойчы ў суткі злёгку прытармозваў на нядоўгія адну-дзве хвіліны і, дзьмухнуўшы парай у гудок, напалохаўшы па ўсёй ваколіцы звяроў, ляснуўшы счэпкамі, зашыпеўшы катламі, нёсся да электрычнасці ачунялых пасля вайны гарадоў.

Алена ехала не спяшаючыся, часу да цягніка было хоць адбаўляй, а церціся каля раз'езда не хацелася. Звесткі, якія яна везла з лесу ў горад, былі вельмі важнымі і тычыліся далейшага лёсу ўсіх, хто так ці інакш удзельнічаў у супраціве савецкай уладзе. Яна пакуль не разумела, добра гэта ці не: згарнуць актыўную працу, усім пакінуць лясныя лагеры, перайсці на легальнае становішча, уладкоўвацца і чакаць далейшых указанняў. Генерал Вітушка з трыма вялікімі групамі партызан пакідае Беларусь, праз Польшчу і Венгрыю сыходзіць у Заходнюю Германію, а два меншыя атрады павінны перабірацца з Прыбалтыкі ў Скандынавію. За сябе цэнтральны кіраўнік нікога не пакідае, усім рэзідэнтам чакаць яго інспекцыйнай паездкі ў бліжэйшыя месяцы.

Алена паважала свайго камандзіра і нават, як і іншыя дзяўчаты, трохі была ў яго закаханая. Ён быў для яе ідэалам мужчыны: мужным, адважным, прыгожым, ніколі не сумуючым і перакананым у слушнасці сваёй справы. Казалі, што ён часам лютуе, вунь у Лугагонах загадаў распілаваць жыўцом «ястрабка» двухручнай пілой, а астатнім палонным і жыхарам лясной вёскі загадаў на ўсё гэта глядзець. Пад Наваградкам па яго волі ўкрыжавалі партыйнага сакратара на дзвярах перад гэтым спустошанага бальшавікамі храма. Раней там не толькі храм разбурылі, але і святара з сям'ёй расстралялі за дапамогу «зялёным», а яны акаўцам дапамагалі, а падчас вайны габрэяў хавалі.

Яна некалькі разоў прасілася і ў начальніка контрвыведкі, і ў самога

генерала ўзяць яе на аперацыю. Ёй хацелася сябе праверыць, адчуць у руках сілу зброі. Яе хвалілі за стараннасць, ляпалі па плячы, зашывалі ў падкладку спісаны адмысловымі чарнілямі кавалак тонкай матэрыі і выпраўлялі ў горад. Часам, вось як сёння, давалі завучыць тэкст на памяць, а ўжо ў Мінску ўсё перапісаць і перадаць Яўгену Леанідавічу.

Ды што там аперацыя, калі ў атрад яе прыводзілі з мяшком на галаве, чыстым такім чорным мяшком, як шырокая панчоха з прарэзамі для вачэй і рота, і яшчэ прымушалі пераапранууцца і змяніць абутак. Каштоўным і незаменным яна аказалася сувязным. Ужо амаль пяць гадоў хадзіла па таемных маршрутах і сцежках. І вось сёння ішла яна апошні раз сваім звыклым напрамкам: горад-лес-горад. Горад у гэтым маршруце быў пастаяннай велічынёй, а вось лес часта мяняўся. Шкада, вядома. Што будзе далей?

Ёй чамусьці ўспомнілася, як у сакавіку сорак пятага прывёў яе Стальмах да свайго дома ў Мінск, вылавіўшы ў раённым дзіцячым доме. Яна тады цудам дабралася з Кёнігсберга да Багушэўска, дзе ў яе, нібыта, павінна была жыць цётка Вера, на вуліцы каля самага возера. Пра цётку і як яе знайсці часта распавядала хворая маці.

Да вайны жылі яны ва ўтульнай і багатай вёсцы пад Слонімам, бацька настаўнічаў, дома, ды і ва ўсёй вёсцы, гаварылі па-беларуску і па-польску, у іх нават і школа была двухмоўная. Не столькі маці, колькі бацька разбудзіў у ёй любоў да ўсяго народнага, самабытнага, а з гэтай цягай да свайго прачнулася неяк незаўважна ў душы асцярога, а потым і нянавісць да чужога, якое заўсёды было злым і зайздросным. Бацьку ў хуткім часе пасадзілі ў канцлагер у Бярозе – як члена забароненай кампартыі Заходняй Беларусі. Прыходу Саветаў яны з мамай чакалі мацней, чым прышэсця Хрыста. Бацька вярнуўся страшны, худзенечкі, брудны і зарослы. Але нічога: адмыўся, выгуляўся, стаў у вёсцы, а потым і ў Слоніме вялікім начальнікам. Горш жыць ім не стала, толькі мама зусім расхварэлася, і яны пераехалі да бацькі ў горад. Яна ўжо вучылася ў пятым класе, калі ў студзені сорак першага ноччу забралі бацьку – цяпер ужо як буржуазнага беларускага нацыяналіста. Іх цудам не вывезлі ў Сібір.

Мама памерла перад прыходам немцаў напачатку чэрвеня; абмывала, апранала і хавала яе яна сама, суседка бабуля Маня толькі дапамагала, казала, што ды як рабіць. А іншыя баяліся прыходзіць. Тады запалоханы быў народ, мабыць, больш, чым пры фашыстах. А ёй яшчэ і трынаццаці не было. У бацькавых паперах, якія хавала ад чужых вачэй мама, знайшла Алена лісты ад бацькавага таварыша Яўгена з Мінска. Кінула дом, свінню і курэй прадала суседзям – і падалася ў сталіцу. Бацькаў знаёмы таксама сядзеў у страшнай Валадарцы, але яго жонка прытуліла яе. Яўген Леанідавіч вярнуўся дадому на другі дзень вайны, калі ў Мінску пачаўся вялікі драп савецкага начальства. Дзяцей у іх не было, так у Алены з'явілася другая сям'я. Дзе яе родны бацька – яна і сёння не ведае.

Потым была акупацыя. Тата Жэня дапамагаў усім: і чырвоным партызанам, і польскаму супраціву, і ксяндзу Гандлеўскаму з яго нацыяналістычнай партыяй, і беларускай самапомачы, і нават габрэям з гета. Навошта ён гэта рабіў, яна ні цяпер, ні тады не разумела. Памятае толькі, як ёй хацелася падпольнай працы, але новы бацька гнаў яе юнацкія парывы паганай мятлой, прымушаючы хадзіць у школу і дапамагаць па гаспадарцы Антаніне Віктараўне. Тады яна з'ехала летам да сяброўкі ў Стоўбцы і там уступіла ў Саюз беларускай моладзі, дадому заявілася ў шэрай уніформе,

задаволеная і гордая сабой. Форму прымусілі зняць, але ставіцца бацькі да яе пасля гэтага сталі больш сур'ёзна, нават, як ёй здавалася, з нейкай павагай. У прынцыпе, гэта быў яе першы самастойны ўчынак.

Улетку сорак трэцяга бацька пазнаёміў яе са Стальмахам, і пачалося новае, поўнае таямніц і канспірацыі, жыццё, дакладней, не жыццё, а падрыхтоўка да працы ў падполлі. Займаліся з ёй амаль заўсёды індывідуальна. Вучылі правільна хадзіць па вуліцах, каб усё бачыць і запамінаць, непрыкметна сыходзіць ад сачэння, абсталёўваць схованкі і рабіць закладкі, працаваць на радыёстанцыі. Былі заняткі па мінна-выбуховай справе, маскіроўцы, арыентаванні на мясцовасці, тайнапісе, шыфроўцы і апаратыўных фотаздымках. Усё гэта рабілася ў імя будучай незалежнасці роднай Беларусі, але настаўнікамі ў яе амаль заўсёды былі немцы.

– Стаяць! – нягучны, але настойлівы голас вярнуў яе да рэчаіснасці. Алена затармазіла, злезла з ровара, закруціла галавой па баках. У галаве заскакалі ўразнабой самыя неверагодныя думкі і здагадкі. «Хто гэта мог быць? Лесавікі? Ястрабкі? Які-небудзь зброд з былых паліцаяў ці акаўцаў?» Адказ на гэтае, здавалася б, складанае пытанне мог быць толькі адзін: ды хто заўгодна мог сёння хавацца ў гэтым глухім лесе.

Патаптаўшыся хвілінаў пяць на месцы, не заўважыўшы ніякага варушэння ў маладым ельніку, Алена ўжо была вырашыла ехаць далей, як з-за вялізнай хвоі ступіў чалавек у савецкай вайсковай форме.

– Стаяць, гражданачка. Хто вы і якога чорта робіце ў гэтым лесе?

– Ой, дзядзечка, а вы самі хто? Напалохалі мяне да смерці, – а ў галаву, як у парожняе вядро, стукалі безадказныя пытанні: «Хто ён такі, савецкі ці пераапрануты, на «вы» звярнуўся, хутчэй за ўсё радзенец, але што яго загнала сюды? Можа, яны мяне ад хутара вядуць? Не, не можа быць, я б заўважыла. Так, калі савецкі, то павінен быць не адзін. Глядзі, глядзі вакол. Чэкісты паасобку не ходзяць. Бачыш, елкі варухнуліся. Вунь, з-за сасны зводдаль боты і нечыя калені ў галіфэ высунуліся.

– Глядзі, якая гаваркая! Ты яшчэ ў мяне дакументы папрасі прад'явіць, пігаліца. Што робіш у лесе? Адказвай на пытанне, – прыгожы малады ваенны, не спяшаючыся, падыходзіў да яе.

– Дык я, гэта, вунь на раз'езд еду да прыгараднага, мне трэба да Баранавічаў, а там начным ў Мінск, дадому.

– А што тут рабіла? – цёмна-сінія вочы ўважліва і з недаверам глядзелі на дзяўчыну.

– Дык я ад сваячкі еду, вось за прадуктамі мамка пасылала, бедна ў горадзе. – Алена паказала на плецены кошык, прывязаны да багажніка.

– А дакументы ў цябе ёсць, забеспячэнец? – ужо больш міралюбна спытаў вайсковец.

– Ёсць і дакументы, і квіток зваротны, я яго яшчэ ўчора ўвечары купіла. Колькі там часу ўжо, а то і спазніцца магу?

– Паспееш да свайго цягніка, паспееш. Адкуль ты, кажаш, едзеш?

– Дык я ж нічога вам такога і не казала, а еду я з Завожання. Там ля старых могілак цётка Тэкля жыве з дзядзькам Канстанцінам, вось ад іх і еду. А дакументы, дык вось яны, – дзяўчына трохі адвярнулася ад афіцэра, дастала з-за пазухі загорнутыя ў чыстую насоўку паперы. Вялікія пругкія грудзі, адчуўшы расшпіленыя гузікі, паспрабавалі вырвацца на волю. Бянтэжачыся, прытрымваючы ровар каленам, дзяўчына заштурхала сваё багацце назад, зашпілілася і аддала скрутак.

Паперы былі сапраўднымі.

Пасля вайны Яўгена Леанідавіча зноў арыштавалі, але вельмі хутка вызвалілі, аднавілі ў партыі. Залічылася ў партстаж і знаходжанне ў КП(б) ЗБ, узнагародзілі ордэнам «Чырвонай Зоркі» і прызначылі на высокую пасаду ў Савет Міністраў рэспублікі. За дакументы Алена не баялася, а палова вёскі бачыла, як яна мяняла ніткі ды іголкі на сала, сыр і яйкі. Ніякіх пасланняў пры ёй не было.

Афіцэр з яе дакументамі сышоў за ельнік і неўзабаве вярнуўся.

– Усё ў парадку. А Марнейка з Саўміна вам кім даводзіцца?

– Бацькам.

– Зразумела, зразумела. Не страшна адной у лесе?

– А чаго ўжо баяцца, мір жа. Я ж па гушчары не лажу. Ды і цётка казала, што спакойна ў акрузе. Ну што, мне можна ехаць?

– Можаце, вось вашы паперы. Толькі маё кіраўніцтва прыняло рашэнне адправіць мяне з вамі ў якасці суправаджатага. Не так спакойна ў гэтым лесе, як здаецца. Мяне завуць Ягор, – беручыся за руль ровара, назваўся мужчына. – Давайце сядайце на раму, я вас з ветрыкам дакачу да станцыі.

Пад нягучныя воклічы і жарты нябачных веселуноў яны падаліся насустрач свайму будучаму лёсу, везучы ў горад апошні загад няўлоўнага генерала Вітушкі аб пераходзе ўсяго беларускага супраціву на ашчадны рэжым працы. Розным, вельмі розным было гэтае нябачнае воінства: побач з ідэйнымі, гатовымі скласці свае галовы за будучую свабоду Радзімы байцамі былі і іншыя, далёкія і ад ідэй, і ад маралі. Агенты СД, нямецкай ваеннай разведкі, паліцаі ды і проста пакрыўджаныя Саветамі і вайной людзі, людзі, якія пераступілі нейкую нябачную рысу, пасля чаго вярнуцца ў звыклы для чалавека свет было ўжо амаль немагчыма. Пазней усіх іх назавуць безаблічным словам калабаранты. А пакуль ніхто з іх, уключаючы самога генерала, не ведаў, што ўся агентурная сетка Абвера з падачы любімца Канарыса Рэйнхарда Гелена яшчэ з зімы сорак пятага года паступова перайшла пад амерыканскае камандаванне і фінансаванне. Дружба былых саюзнікаў, як і прадказвалі многія разумныя людзі, вельмі хутка скончылася. Ды і як ёй было не скончыцца, калі з аднаго і другога боку з-пад масак добразычлівасці тырчалі воўчыя іклы. Паспешліва на старыя дрэўкі нацягваліся сцягі новай барацьбы. Але да яе былі гатовыя не ўсе.

## 13

Памінкі па Сапліцу былі нядоўгімі, дзень выпаў будзёны, і народ, трохі пасядзеўшы, паўзгадваўшы, паплакаўшы, пачаў раз'язджацца. Хутка за сталом засталіся толькі Казімір, яго тры сыны, жонка Паліна, Стэфа са Скаргам і яшчэ трое моцна п'яных мужыкоў з суседняй выміраючай вёскі.

– Моцным гаспадаром быў твой бацька, – хістаючыся, падняўся з лавы адзін з іх, – для зямлі ні сябе, ні іншых не шкадаваў. Многія нашы калгаснікі, якія зла яму жадалі, зайздросцілі яму. За ўсё зайздросцілі. За тое, што ў калгас не пайшоў, зямлі сваёй не аддаў, ды і за ўсё іншае, – мужык махнуў рукой, абвёў усіх мутнымі вачыма, – і мой бацька таксама не любіў нябожчыка...

– Ну а чаго ж ты тады на яго падворку яго гарэлку п'еш? – гучна і выразна спытаў Скарга.

– А ты хто такі? Мы цябе не ведаем, – заступіўся за яго каржакаваты

дзядзька з пачарнелым ад «чарніла» тварам. – Ты гэта, Фёдар, працягвай казаць, а то тут некаторыя...

– Усё, мужыкі, памянулі дзеда – і пара па хатах, а то, я гляджу, вы ўжо не супраць і на кулачкі ўстаць, – Паліна бесцырымонна ўзяла за каўнер дваіх і выштурхала з двара. Трэці падаўся ўслед за імі сам.

– Гэй, памінальцы, вось вам яшчэ бутэлька – і каб я духу вашага больш сёння тут не бачыла.

– Ну а вы, мужыкі, чаго, хвасты падціснуўшы, сядзіце? – спытала Стэфа.

– І дзякуй Богу, што сядзяць. З п'янымі ў нас заўсёды бабы разбіраюцца, а калі мужык з мужыком – усё мардабоем і панажоўшчынай заканчваецца. Тым, – Паліна матлянула галавой на ўжо зачыненыя вароты, – без розніцы, што дровы секчы, што людзей.

Жанчыны пачалі прыбіраць са стала, дзеці разбіраць сталы і навес. Мужчыны, захапіўшы бутэльку, падняліся ў верхні дом.

– Ну і добра, што Стэфка вырашыла замуж выйсці, пара ўжо. Адна, безгаспадарная ў Мінску, гэтакае дабром не канчаецца. Мужчына ты з выгляду моцны. Чым займаешся?

– Служу.

– Іншага адказу і не чакаў, у іх усе там служывыя. Толькі служба сёння – дохлая справа, сям'ю асабліва не пратрымаеш. І пашаны ніякай, іншы хто яшчэ ў метро і на спіну плюнуць наравіць, асабліва міліцыянерам, сам бачыў. Хоць гэта як каму. За сябе я табе так скажу: служба – гэта не маё. Не магу я, каб нада мной нехта стаяў, напэўна, бацька так выхаваў. Я сам сабе галава. Вунь бачыш – усё, што вакол, усё маё. І майму роду заўсёды належала. Слухай, Вячаслаў, а ты ведаеш, продкі нашы па-суседску Міцкевічам морды білі. А потым судзіліся ледзь не да смерці. Якраз з тымі самымі Міцкевічамі. Адам іх знакаміты тут недалёка нарадзіўся ў фальварку Завоссе ад беднага шляхціца і багатай габрэйкі. А памёр гэты Адам у Стамбуле ад халеры, збіраючы добраахвотнікаў для вайны з Расіяй на баку ангельцаў, тады нейкая чарговая вайна за Крым ішла... Ды ну іх, гэтых Міцкевічаў, хоць «Пана Тадэвуша» на памяць і па-беларуску, і папольску ведаю, – Казімір замоўк, як быццам абдумваючы нешта вельмі важнае. – Слухай, ты ж мне амаль швагер, то бок радня, пры тым не такая ўжо і далёкая. Табе можна давяраць?

– Давер – справа слізкая, тым больш чужому, незнаёмаму чалавеку...

– Які ж ты чужы, калі ты жаніх маёй сястры? Жаніх – гэта ж ужо зусім блізка да шлюбу. У некаторых сем'ях, калі ксёндз бласлявіў, маладым і спаць разам дазваляюць. Хоць сёння ўжо мала хто і на традыцыі, і на забароны глядзіць. Мы вунь з Полькай на сёмым месяцы бралі шлюб. Летам не было калі, працы безліч, вось да восені і дацягнулі. Ці ты вырашыў дзеўцы галаву пакруціць-пакруціць – і кінуць? Тады б ты лепш да нас сёння не прыязджаў.

– Ну вось, пры чым тут нашы са Стэфай адносіны і твой давер да мяне? Ты мяне першы раз бачыш, я цябе ўпершыню ўбачыў, аб якім даверы можа ісці гаворка? Хоць гледзячы што ты мне збіраешся распавесці. Можа, у гэтай інфармацыі і сакрэту ніякага няма...

– Не, і сакрэт, і таямніца ў гэтым ёсць! Давай памянём дзеда, гэта ён мяне ў гэтую справу ўцягнуў, – Казік напоўніў чаркі, узяў сваю і, падняўшы твар да неба, як быццам чокнуўшыся з кімсьці там наверсе, папрасіў: – Баця і вы, дзяды, падкажыце, навучыце, дайце разглядзець чалавека! – і выпіў.

Слава выпіў без рытуальных пытанняў і просьбаў, толькі нечакана для сябе самога перахрысціўся.

– Ты схізматык? – заўважыўшы праваслаўны знак, спытаў амаль швагер.

– У нас у родзе з рэлігійнай прыналежнасцю заўсёды былі праблемы. Ба́цькі не стала даўно, і ён, хутчэй за ўсё, быў атэістам. Дзед, царства яму нябеснае, праваслаўны, казаў, што бацькі хрысцілі двойчы: спачатку ў знаёмага папа, а потым на наступную раніцу бабуля аднесла да свайго ксяндза. Сама бабуля і ўсе па яе лініі – каталікі, дзядзька па татавай лініі і яго жонка таксама каталікі, мама ўніяцкай і ніякай іншай царквы не прызнае. Мяне ў маленстве хрысціў уніяцкі бацюшка, а ў дзясятым класе я сам пайшоў і пахрысціўся ў адным праваслаўным манастыры ў Польшчы.

– Ох і дзівосныя твае справы, Госпадзе! У Польшчы і ў праваслаўе! А ты ведаеш, што Стэфанія каталічка?

– Яшчэ б, яна гэта ледзь ці не ў першую хвіліну знаёмства выдала, як браню сваёй нявіннасці.

– Ты дарма іранізуеш, для нас касцёл і Бог значаць вельмі многае. Заўсёды павінен быць час для малітвы і для цішыні душы. – Казімір трохі памаўчаў, прыняў рашэнне і рашуча працягнуў: – Давай так: я табе пакажу некаторыя паперы, а ты іх ацэніш як эксперт. Ты ж і служывы, і, сястра гаварыла, нясвіжскі хлопак, ды яшчэ аматар гісторыі. Так?

– Ну.

– Давай разлівай пакуль, а я зараз вярнуся.

Новы дом новага гаспадара наваколляў быў выбудаваны грунтоўна ў псеўдакласічным стылі малой шляхецкай сядзібы з двума калонамі, бакавымі флігелямі і невялікай мансардай. Яны з Казімірам размясціліся на шырокай тэрасе з рассоўнымі шклянымі сценамі і зручнай, мудрагеліста выкаванай мэбляй. Вячаслаў разліў пітво і толькі цяпер заўважыў, што п’юць яны нейкі бурштынавы напой з прыемным пахам і смакам.

З тэрасы адкрываўся захапляльны выгляд на навакольныя палі і пералескі. Ён налічыў пяць перспектыў да суцэльнай лініі гарызонту. «Ого-го! Нібы ў гарах!»

– Што, швагер, любуешся? Ну, давай, любуйся, мы, у адрозненне ад гарадскіх, за прагляд грошай не бяром. Згодны, брат, прыгожа тут! А чаго ж ты хацеў – Літва старадаўняя тут свой пачатак брала! Для мяне і для дзяцей маіх гэта не ахі-ахі заваконныя! Для мяне гэта частка маёй асабістай светабудовы. Ты б бачыў, якія тут ранкі! А якія зоркі на Каляды! Бацька, ён, таго не ведаючы, вунь якую мне спадчыну пакінуў, – Казімір павёў вакол рукой. – Ну што, наліў? Малайчына! Давай за прыгажосць Божую!

Выпілі.

– Вось глядзі, – ён на чыстым канцы стала разаслаў ломкі ад часу аркуш тоўстай пажоўклай паперы.

Вячаслаў увесь сцяўся, яму здалося, што гэта яго паперы з дзедавага схова; паставіўшы чарку, ён ступіў бліжэй і з палёгкай выдыхнуў: гэта былі нейкія старадаўнія чарцяжы.

– Ого, ды гэта, па-мойму, Нясвіжскі замак, – на змену здзіўленню прыйшло шчырае захапленне, – бачыш – іх арол з трубамі? Чакай, чакай... нічога сабе – тысяча пяцьсот пяцьдзясят першы год!

– Ну, і каштоўная гэтая папера?

– Думаю, што вельмі. Магчыма, гэта арыгінал сапраўдных чарцяжоў

замка, пасаджанага на старое замчышча трынаццатага стагоддзя. Калі знайсці ўсе лісты, то можна разгадаць усе таямніцы Радзівілаў.

– Так, добра-добра, спадар эксперт. А вось гэта што такое і якая такіх паперак цана? – гаспадар дома, нібы сапраўдны штукар, паклаў каля аркуша тоўсты сшытак у чорнай скураной вокладцы.

Вячаслаў без асаблівай цікавасці ўзяў яго ў рукі, разгарнуў. На першай старонцы пасярэдзіне было выведзена пабляклымі ад часу чарніламі: «Журнал уліку аператыўных данясенняў разведкі Навагрудскай акругі Арміі Краёвай». Амаль увесь сшытак быў спісаны прыгожым хуткім почыркам па-польску. Запісы, хутчэй за ўсё, адносіліся да дзеянняў польскага супраціву ў тутэйшых мясцінах у часы мінулай вайны.

– Ты ведаеш, гэта таксама цікавы дакумент, – перагортваючы старонкі, імкнучыся вырваць вачыма хоць некалькі фраз на прызабытай мове і зразумець іх сэнс, вымавіў Скарга. – Вядома, гэта не роўня першай... пачакай, пачакай... – Вячаслаў нават прысеў на каваны ўслончык. – А вось гэта сапраўды цікава! Вельмі цікава! Кепска, калі не ведаеш мовы ды яшчэ яе забудзеш. Слухай, Казімір, – адарваўшыся ад гросбуха, ён падняў на суразмоўцу ўсхваляваны твар, – дай мне... – ён на секунду запнуўся, прыкідваючы, за колькі можа адужаць дакумент, – напэўна, на які тыдзень гэты талмуд. Хачу сам прачытаць і аднаму дасведчанаму чалавеку паказаць. Ты не сумнявайся, вярну абавязкова.

– Так, добра, сваяк, як ні як, бяры. У мяне дабра гэтага цэлых тры куфры. Палякі, калі пасля вайны змываліся на захад, яшчэ майму дзеду на захаванне скрыні пакінулі. Грошай далі. Абяцалі вярнуцца, ды, відаць, перамерлі ці перабілі іх, ды і часу прорва мінула, так і не прыйшлі. Ты лепш прыкінь, за колькі гэта можна прадаць, мне то гэтыя ваенныя і княжацкія таямніцы ні да чаго, мне вунь трактар новы купіць трэба, навясны рыштунак да яго. – Хутаранін замоўк, сеў побач, падсунуў да сябе бутэльку, не спяшаючыся наліў чаркі, адну падсунуў швагеру, цяжка ўздыхнуў.

– Не, боязна мне, – вымавіў спакойна і рашуча гаспадар, – трэба было больш выпіць, а ўжо потым заводзіць размову пра гэта. Не крыўдуй, не магу я так адразу ўсё табе выкласці, хоць трохі прывыкнуць да цябе трэба. А сшытак гэты бяры хоць назусім, ну і план гэты таксама вазьмі, вы ж усё адно заўтра ў Нясвіж паедзеце, можа, там, у музеі, пакажаш. Так і скажы, маўляў, прадаецца гэтае дабро, бацька ў спадчыну пакінуў, а сыну без патрэбы. Ты, галоўнае, за бясцэнак не аддай там...

– Дзякуй за давер, усё вярну, калі пакупніка не знайду. Упэўнены, Равіч за план ухопіцца. А ты кажаш, аркушаў такіх шмат... – беражліва крануўшы артэфакт, спытаў Скарга.

– Адзінаццаць, гэты агульны, а яшчэ асобна былі вычарчаныя сцены, гарышчы, падвалы, вежы, мне так здалося, я ж у інстытуце сельгасмашыны і абсталяванне вывучаў, і чарцяжы трохі чытаць умею, кароўнік ад жылога дома адрозніць магу.

– Я, вядома, не эксперт, але такія рэчы могуць каштаваць вельмі вялікія грошы, вельмі вялікія. У Нясвіж прапаную паехаць разам.

– Не, мне заўтра некалі, ты давай сам пакажы і вяртайся. Там, можа, і я саспею, каб табе адкрыцца. Стэфанія няхай у нас пабудзе, калі захоча. Хадзем, сядзібу пакажу. Толькі давай спачатку яшчэ раз бацю памянем.

Выпілі. Казімір прыбраў паперы ў дубовы сервант, які стаяў на верандзе, напэўна, яшчэ з даваенных часоў.

– Давай з птушніка пачнём, там у мяне экзотыка: фазаны, паўліны.

– Пярэчанняў няма. А гэтых польскіх сшыткаў, ты кажаш, некалькі скрынь?

– Ці не тры, такія пластыкавыя нямецкія скрыні з іх арламі. Я і не ведаў, што ўжо тады пластык быў. Замкавыя аркушы таксама там ляжалі.

Скаргу як быццам маланкай ляснула: «Опанькі! А ці не гэтыя скрыні прыехаў шукаць дзіўны госць Нясвіжскага ксяндза? Тэрмінова трэба ляцець у Мінск да Ягора Кузьміча, паказваць дзённік, і, калі ён пацвердзіць яго сапраўднасць, браць у шчыльны абарот паляка. Так, з гэтым «Чорным катом» інфармацыя пакаціла. То нічога – то цэлы воз. У польскім сшытку яго вочы зачапіла данясенне пра нямецкую аперацыю «Мая любімая котка». Не тузайся, таварыш опер, ідзі і глядзі курэй, цясарак, улазь у душу да будучага сваяка, рабі ўсё, але разгавары яго! Усё правільна Казімір сказаў: пасля вайны пакінулі «акаўцы» скрыні на хутары яго дзеду на захаванне, грошай на каня далі і абяцалі вярнуцца і забраць скрыні. Цікава. І паляк гэты прыезджы тое ж пра хутар казаў. Усё сыходзіцца. Толькі вось ці той гэта хутар?»

Гаспадарка ў Сапіцы была вялікая. Вячаслаў з першых крокаў экскурсіі зразумеў, што ніякіх размоў аб мінулых таямніцах больш не будзе і шукаў нагоду аб'явіць аб неабходнасці тэрміновага ад'езду. Нечакана выратавала Стэфа, якую на квадрацыкле да месца выпасу незвычайна мясістых авечак прывезла жонка гаспадара.

– Скарга, спадзяюся, ты канчаткова не заграз у банальным п'янстве? Глядзі мне, памянулі – і меру трэба ведаць, да Мінска шлях не блізкі. Можа, на дзевяць дзён да хлопцаў і дзядзькі прыедзем?

– Вядома, заўсёды будзем рады! – як здалося Вячаславу, з палёгкай у голасе прамовіў Казімір. – Поля, ты там збяры чаго трэба радні ў горад. А як ты за руль сядзеш, ты ж таго?.. – ён пацёр падбародак.

– Ды колькі я там выпіў? Каўкі на дарожку, лаўрушку пажую – і да Нясвіжа, трэба ж паперы паказаць, а там як карта ляжа. У Мінск і назад, можа, ужо заўтра да вечара і вернемся, не пярэчыце?

– А чаго пярэчыць, я думаю, гадзін да чатырох і мы вернемся, а? – Казімір глянуў на жонку.

– Ну а што там сядзець, туды – сюды, расаду забярэм і дадому. Гэта я, – яна прыабняла Стэфанію і павяла яе да загарадкі з маладняком, – вырашыла вунь на тым сонечным схіле ружоўнік разбіць. Глядзі, глядзі, як гэтыя махоткі пацешна скачуць! Ой, вы мае харошыя...

Палюбаваўшыся баранчыкамі і шчыра захапляючыся гаспадарамі, аднекваючыся ад гасцінцаў, абцалаваныя раднёй, маладыя селі ў аўтамабіль і паехалі. Праз кіламетр Скарга акуратна дастаў сшытак.

– Ты польскую добра ведаеш?

– Трэцяя родная, – не без гонару адказала Стэфанія і, адчуваючы дадатковыя пытанні, патлумачыла: – Беларуская, руская, польская, нямецкая ў дасканаласці. Англійская і італьянская горш.

– Паліглотка! – раскрываючы сшытак на патрэбнай старонцы, не без добрай зайздрасці адазваўся Слава.

– Скарга, не зайздросці, веданне табой моваў у маіх руках, пры тваім жаданні, зразумела. Нічога сабе, які прыгожы почырк! Нейкі агент «Светлячок» даносіць у цэнтр «Ястрабу»: «Кіраўніцтва Абвер-2, Мінск, пачало рэалізацыю аперацыі «Мая любімая котка». Па агульнай задуме, уся

тэрыторыя Савецкага Саюза, якую пакідаюць нямецкія войскі, павінна быць пакрыта глыбока заканспіраванай сеткай для вядзення актыўнай агентурна-дыверсійнай працы, як у ваенны, так і ў пасляваенны, у дужках – мірны, час. Тут слова «мірны» падкрэслена два разы чырвоным алоўкам, – пракаментавала Стэфа. – Слухай, Скарга, а можа, ты мяне завярбуеш – і мы будзем шпіёніць у пары?

– Я цябе зараз завярбую! Хоць ты ўжо і так завербаваная. Што, забылася: муж і жана – адна сатана! Давай, чытай далей.

– Фі, які ты грубы! Ну, слухай. «Прадугледжваецца стварэнне дробных і буйных схованак для зброі, выбухоўкі, харчовых прадуктаў, грошай і сродкаў сувязі. Будучай барацьбе варта ў абавязковым парадку надаць актыўныя формы нацыяналістычнага супраціву. Весці гэтую барацьбу варта ад імя Беларускай Цэнтральнай Рады, Беларускай незалежніцкай партыі, усяляк падкрэсліваючы, што толькі яны з'яўляюцца праўдзівымі выказнікамі волі беларускага народа. Асаблівую ўвагу надаць друкаванай і вуснай прапагандзе. Для падрыхтоўкі дыверсійных груп больш актыўна выкарыстоўваць магчымасці навучальнага батальёна СД «Дальвіц», пры гэтым агентам Абвера катэгарычна забараніць любыя згадкі пра кантакты з ваеннай выведкай Вермахта і ні пры якіх абставінах не адмаўляцца ад вярбоўчых дзеянняў, якія праводзяцца супрацоўнікамі Імперскай службы бяспекі. Дзень 27 снежня 1943 года». Далей іншае данясенне ад агента «Лагодны» ў цэнтр для «Мятлы», копія «Ястрабу»: «У Стоўбцаўскай акрузе праведзена работа па нейтралізацыі беларускіх актывістаў. СД арыштавана восем старастаў, два бургамістры, пяць паліцэйскіх і адзін намеснік начальніка дапаможнай паліцыі, па сфабрыкаваных намі дакументах аб супрацоўніцтве з савецкімі партызанамі. 4 студзеня сорак чацвёртага». Вось свалата! – абурылася Стэфанія. – А цяпер усюды крычаць: мы разам кавалі перамогу. А навошта яны так жорстка рабілі, жылі ж па-суседску. Тых, каго яны падставілі, напэўна, забілі?

– Думаю, так. У сорак чацвёртым такія справы былі ўжо рэдкасцю. Немцы не на ўсе даносы рэагавалі, ведаючы цану палякам, а вось у сорак першым такія з'явы былі масавымі. На нашых землях сутыкнуліся дзве, нават тры нацыянальныя ідэалогіі. Наша беларуская, слабая, польская, моцная, якая разглядала нашы землі як крэсы ўсходнія, трэцяя – украінскіх нацыяналістаў, якія сабраліся пабудаваць адзіную і вялікую Украіну, прысабечыўшы да сваёй дзяржавы і здаравенны кавалак паўднёвых тэрыторый нашых земляў. Для паўнаты можна памянуць і літоўцаў, якім да душы прыйшоўся перадваенны падарунак таварыша Сталіна ў выглядзе Віленскага краю. Тады шмат людзей пацярпела. Мяне ж больш першае паведамленне хвалюе...

– Чаму? Другое, на мой погляд, будзе сёння рэзанансней.

– Доўгая песня. Бачыш, яны ўжо ў снежні сорак трэцяга планавалі свае ўцёкі і рыхтавалі агентаў для працяглай працы, таму нехта і падкрэсліў, а галоўнае... галоўнае, чаго яны вырашылі маскіраваць сваю працу пад нацыяналістычны супраціў, якога на Беларусі ў час вайны практычна не было? Вось у чым загваздка. Добра, разбярэмся, пакладзі сшытак на задняе сядзенне. Глядзі толькі там асцярожней з вось той шэрай паперай, ёй без малога пяцьсот гадоў.

– Колькі?!

– Ну, ужо не так эмацыйна, пані Стэфанія! Думаю, калі б вы часцей да сваёй радні на хутар зазіралі, яшчэ б і не такія старадаўнасці адшукалі...

– Ты хочаш сказаць, што ўсе гэтыя паперы табе Казік перадаў?

– Гэта, з яго слоў, далёка не ўсё, чым ён валодае пасля смерці бацькі. На лісце таго пергамента, я цябе малю, толькі не чапай яго цяпер, найпадрабязны план Нясвіжскага замка, і, мне здаецца, арыгінал. Уяўляеш, яго ніхто ніколі ў вочы не бачыў, лічылі, што арыгінальныя планы загінулі яшчэ пры шведскім нашэсці. І вось яны ў нас. Твой сваяк хоча гэтыя паперы прадаць, яму грошы на новую тэхніку патрэбныя. Думаю, Равіч свой дом, ды што там дом, ён апошнюю кашулю з сябе прадасць, але планы выкупіць.

Хлопец змоўк. Дзяўчына, не хаваючы захаплення, глядзела на яго. Дзве існасці, мудрагелістa і нечакана для саміх сябе, зліваліся ў духоўнае адзінства, імя якому пакуль яшчэ ніхто не прыдумаў.

– А ведаеш, – вымавіў Вячаслаў, – мы з табой становімся часткай прыадкрытай нам таямніцы. Нават не таямніцы, а таямніцаў, і аднаму Богу вядома, куды мы можам зайсці гэтымі невядомымі сцежкамі. Акрамя гэтых папер у родзіча твайго ёсць яшчэ нейкія сакрэты, яны з яго пруць, як брага з бочкі. Ён ужо амаль наважыўся мне ўсё расказаць, але ў апошні момант засумняваўся. Але я думаю, што, уладкаваўшы гэты сярэднявечны планец за прыстойныя грошы, мы растопім апошнія яго сумневы.

– Дзіўна ўсё гэта, Скарга, яшчэ пару тыдняў таму я здыхала ад суму, прыдумляла сабе любыя трызненні, каб не завыць ад тугі – і на́ табе: ты, спатканні, паездкі, перажыванні, якія ўзяліся немаведама адкуль, новыя знаёмствы, нейкія таямніцы. Ты нават не ўяўляеш, як гэта на мяне не падобна. Я ж дамаседка, жудасная баязліўка і скрытніца. Часам мне здавалася, што я наогул не з гэтага стагоддзя, я заблудзілася ў часе і нарадзілася недзе не там і не ў той час. Але ды Бог з ім, дзіўна тое, што я не баюся страціць той свой ранейшы свет.

## 14

Ягор і Алена дабраліся да раз'езда хутка і яшчэ добрыя тры гадзіны сядзелі на бервяне ля празрыстага, вясёлага ручайка, які бесклапотна скакаў па неглыбокім цяністым раўку недалёка ад раз'ездаўскіх пабудоў. Сонца хілілася да вечара. Новыя знаёмыя моўчкі перакусілі кожны сваім і, не гаворачы ні слова, тупа ўтаропіліся на ваду.

Ягор потым часта ўспамінаў іх тое працяглае маўчанне і ніяк не мог зразумець прычыны, што перашкаджала яму ці ёй пачаць размову, звычайную, свойскую размову пры неспадзяванай сустрэчы. Вядома, маўчанне гэтае не было абыякавым, кожны цішком назіраў за суседам, назіраў і рабіў свае, толькі яму вядомыя высновы. Помніцца, тады здавалася, што дзяўчына сабе на розуме і маўчыць з-за боязі, як бы чаго лішняга не прагаварыць, а галоўнае, паглядвае на яго з відавочнай цікавасцю, якую яшчэ не навучылася хаваць у хітрыкі вопытнай жанчыны.

І раптам яна пачала спяваць, чыстым, злёгку глухаватым голасам. Заспявала нейкую старую працяглую беларускую песню, поўную суму, трывогі і адначасова з першых слоў працятую надзеяй і верай. Ён не ведаў ды і не мог ведаць гэтай песні, яна для яго, хто нарадзіўся на ўсходзе рэспублікі і ўсё дзяцінства жыў у Маскве, была незнаёмай. Ды што там незнаёмай? Спачатку гэты спеў здаўся яму чужым, варожым, які нясе ў сабе нейкую ўтоеную пагрозу. А галоўнае, не зусім зразумелыя словы песні бесцырымонна пранікалі ў яго душу, уваскрашалі на нейкім

нематэрыяльным узроўні нешта дагэтуль невядомае, глыбока схаванае ў поцемках яго радавой памяці.

Менавіта там, на беразе таго безыменнага ручая, ён усвядоміў сваю датычнасць да старажытнага народа, да сваіх незнаёмых і забытых продкаў, адчуў сябе часцінкай гэтага старажытнага, самабытнага свету. Адчуў і здзівіўся, як ён дагэтуль жыў без усяго гэтага.

Песня сціхла так жа нечакана, як і ўзнікла. Хоць, здавалася, спяваць перастала дзяўчына, а песня працягвала жыць ва ўсплёсках вады, у шолаху лістоты, у хітрым прымружванні сонца на захадзе, у бяздонным вечным небе і ў яго ўласным сэрцы, якое гатова было выскачыць з грудзей – як пасля трохкіламетровага кроса.

Алена нечакана рэзка нахілілася да ручая, зачарпнула далонямі ваду і плюхнула яму ў твар.

– Гэй, праважаты, ачніся, хутка цягнік, пара выбірацца з гэтай лагчыны. У вас што там, у Цанавы, усе такія суровыя? Ды ты, відаць, трохі заснуў? Нельга на заходзе спаць, нельга, – строга, як дзіцяці, сказала яна, для важнасці паківаўшы ўказальным пальцам, – а то ночы добрай не будзе! Табе хіба бабуля не казала?

Дзяўчына нетаропка пайшла па сцежцы ўверх па пясчаным адхоне раўка. Сонца гарэла над яе галавой як залатая карона язычніцкай жрыцы.

Ля невялікага станцыйнага дамка, які адначасова служыў і ка́самі, і залай чакання, і жыллём для сям'і станцыйнага наглядчыка, нібы ківач, узад-наперад крочыў Ягораў калега, старшы лейтэнант Міша Ніткін, зануда і вялікі аматар „стукануць" на таварышаў начальству з нагоды і без нагоды. Мішку ў аддзеле не любілі і стараліся пры ім лішняга не гаварыць.

– Усё загараеце, таварыш старшы лейтэнант, – нахрапіста пачаў Ніткін, – казаў я маёру, што нельга цябе з дзеўкай гэтай адпраўляць, вунь вочы як у вар'ята. Дзе ты бадзяешся, ці ўжо таго паненку?.. – Мішка паказаў непрыстойны рух сваім перадком і тут жа апынуўся на зямлі.

Ягор, махаючы выцятай ад удару па чужой галаве рукой, сеў на кукішкі.

– Што, кажаш, маёр загадаў перадаць? Разлёгся тут, давай уставай і прыкусі свой язык, зразумеў?

– Я то зразумеў... – паціраючы галаву за вухам, злосна і ледзь не са слязой у голасе адазваўся калега. – Я табе гэтага мардабою не дарую, рапарт накатаю. За нейкую бабу баявога таварыша па мордзе! Ну і гад жа ты пасля гэтага, Салевіч!

– Ды пішы, табе не прывыкаць. Толькі ж не было ніякага мардабою, рожа твая паскудная цэлая, спраўная, ні сіняка, ні драпіны, а вось наконт баявых таварышаў ты загінаеш, я цябе ні разу ў баі і не бачыў. І яшчэ, Ніткін, калі табе дзеўкі не даюць, а табе гэтага ой як хочацца, дык няма чаго іншых сваёй меркай мераць. Ды і камсамолак нашых непрыстойнымі падазрэннямі абражаць не варта. Давай памагу падняцца, а то спіць тут на сонейку, паглядзі на яго... Табе што, твая габрэйская бабуля не казала, што спаць на заходзе нельга, а то ноч кепскай будзе?

– Ідзі ты! – Міхаіл устаў, атросся, адвярнуўся ад Ягора і закурыў.

Алёна стаяла зводдаль і ўважліва глядзела на мужчын. Насцярожылі яе не мужчынскія разборкі, а нечаканае з'яўленне гэтага афіцэра. Чаго ён тут? Не маглі ж і яго паслаць у яе суправаджэнне, шмат гонару, нават з улікам пасады бацькі. Але для чагосьці ён сюды прыпёрся, бег, напэўна? Бо ад таго месца, дзе яе сустрэлі ваякі, да раз'езда ну ад сілы гадзіна хады.

Энкавэдэшнікі адышлі бліжэй да ляшчынаў, што буйна раслі па берагах раўка, нават не зірнуўшы ў яе бок. Незнаёмец нешта стаў паспешліва гаварыць Ягору, словаў зразумець нельга было. Дзяўчына прыслухалася. Адзінае, што яна паспела пачуць, гэта двойчы паўторанае слова «банда». Сэрца загрукатала: «Банда – гэта значыць нашы! Ім, а галоўнае Вітушку, пагражае небяспека! Трэба нешта тэрмінова прадпрымаць! Самой папярэдзіць таварышаў не атрымаецца. І загад не выканаеш, і сябе загубіш, і бацькоў, і гэтых катаў за сабой прывядзеш па таемных сцежках прама да базы».

Яна зірнула на гадзіннік – да цягніка хвілін пятнаццаць. Начальнік раз'езда быў іх чалавекам, але хто яна – ён не ведаў, а ёй строга забаранялася адкрываць сябе каму б там ні было. Нечакана Алена ўбачыла, як да хлеўчыкаў, што прыткнуліся да самага лесу, пад'ехаў раварыст. Яна глянула на чэкістаў, пераканалася, што тыя хлеўчукоў не бацаць, і супакоілася. Тым часам да будынка станцыі спяшаўся белабрысы хлопец і, не гледзячы па баках, прашмыгнуў на жылую палову. Хвілін праз пяць на насып, які служыў перонам, выйшаў камлюкаваты чалавек у чыгуначным кіцелі, паправіў шапку з чырвоным верхам, пакрочыў да станцыйнага звона і тройчы ў яго ўдарыў. Звон быў непрыгожы, нейкі металічны, нібы глуха гаўкнуў сабака.

– Таварышы, прыгарадны цягнік на Баранавічы прыбывае! Стаянка будзе павялічана да дзесяці хвілін! Паўтараю: да дзесяці хвілін!

Канчаткі слоў дзяжурнага патанулі ў вясёлым гудку паравоза.

– Я дапамагу табе загрузіць твой ровар, – нечакана побач вымавіў Ягор, дзяўчына здрыганулася. – Ды не бойся ты, усё будзе добра. Шкада, далей цябе суправаджаць не змагу, служба... Слухай, як ты выдатна спяваеш! Я такіх песняў ніколі не чуў. Можа, сустрэнемся ў Мінску, а?

– Можа, і сустрэнемся, падумаю. А за што ты гэтаму ў вуха даў?

– Заслужыў, а ты вачастая, спявачка. Дык дзе твой ровар?

– А дык ён тут на раз'ездзе застаецца, вунь Міхал Кандратавіч у хлеўчык паставіць да наступнага разу ці хто з вёскі прыедзе і радні адвязе, а заадно і сам пехам дзесяць вёрст тупаць не будзе. Так што я так... з кашом. А чаго гэта стаянку прыгарадным надтачылі, не ведаеш, часам?

Адказ не спатрэбіўся. Паравоз яшчэ шыпеў парай, а ў яе клубах з першага вагона на прамаслены жвір адхона пасыпаліся ўзброеныя аўтаматамі салдаты.

– А божухна! І куды іх столькі? – шчыра здзівілася дзяўчына.

– Ты ведаеш, цікаўнай Варвары нос калісьці адарвалі. Па службе прыехалі, дапамагаць сялянам ураджай збіраць. Давай, шчасліва табе, у горадзе абавязкова сустрэнемся, – хлопец асіплым голасам прамовіў: – Я не шкадую, што лес нас пазнаёміў.

– І я... – здзівіўшыся самой сабе, адказала дзяўчына. І, падумаўшы, дадала: – Ты там беражы сябе.

Салдацікі хутка разгрузіліся, паравоз загудзеў для парадку, зашыпеўшы, буксануў вялікімі коламі, ляснуў счэпкамі і, не спяшаючыся, пачаў набіраць хуткасць, пакідаючы дзесьці ззаду шыхт салдат і Ягора, які махаў ёй рукой, і прыціхлую ў чаканні бяды пушчу.

З неспакойным сэрцам вярнулася ў Мінск Алена. Насупіўся і кудысьці з'ехаў пасля яе блытанага даклада бацька. Пацягнуліся доўгія дні чакання. Весткі прыйшлі толькі праз тыдзень. Генерал Вітушка і вялікая частка атрада сышлі яшчэ напярэдадні нападу на асноўную базу. Тыя, што засталіся, былі за некалькі гадзін папярэджаныя сынам начальніка раз'езда,

частка разбеглася па балотах і гушчарах, а чалавек дзесяць прынялі бой і ўсе загінулі. Іншых яшчэ з месяц адстрэльвалі, як дзікіх звяроў. Генерал па шляху на Захад лютаваў, праз што кардон перайсці змаглі з паўтары сотні толькі чалавек дваццаць, астатнія ці адсталі і забіліся ў норы, ці палеглі...

Ягора ў той аперацыі сур'ёзна параніла, і ён месяц праляжаў у шпіталі. Якое ж было яго здзіўленне, калі ў палату, бянтэжачыся і адбіваючыся ад дабрадушнай санітаркі, шэптам тлумачачы, што яна толькі перадачу прынесла ад сяброўкі і не збіралася з хворым сустракацца, бокам упіхнулася Алена.

З тых часоў і з'явілася ў Ягора Салевіча таемнае і далікатнае шчасце, якое, як яму часам здавалася, ён так і не змог разгадаць да канца.

## 15

«Вада мінулага, дзе і адкуль ідзе твая плынь? Чые карані ты сілкуеш, а чые абыходзіш бокам, і як вызначаеш ты свой выбар? Хто твой любімчык? Хто паспытаў цябе і ведае твой смак? Вада мінулага, як адрозніць твае патаемныя крыніцы, дзе знайсці твае сапраўдныя, незамутнёныя плыні, – і ці ёсць яны наогул сярод бурлівых рэкаў і мораў гістарычнай хлусні і бруду? Хлусні ва ўгоду новаму князю, патрыярху, імператару, генеральнаму сакратару, прэзідэнту. Часта даводзіцца чуць, што няма нічога агідней за нашую айчынную гісторыю. Ці так гэта? Можа, жыццё мінулага і гістарычная навука – гэта не адно і тое ж? Можа быць, усё можа быць.

Але, дружа мой, калі цябе няўзнак зачапіла мінулае, калі ты хоць аднойчы адчуў у сабе яго таямнічую прахалоду, ты ўжо ніколі не спакусішся на патаку інстытуцкага падручніка. Ты прагартаеш яго як прыкрую агітку, прагартаеш і з агідай забудзешся. Непрыкметна для сябе самога ты павольна ўвойдзеш у цёмныя воды мінулага, увойдзеш, каб ужо ніколі не вярнуцца назад у свет прыдуманай хлусні. І чым глыбей твой уваход, тым усё выразней будзе бачыцца недасканаласць цяперашняй светабудовы, яго хлусня і крывадушша. Тым усё выразней будзе праступаць абсурднасць тваіх абавязкаў перад тым, што сёння называецца дзяржавай, уладай, навукай. Не бойся стаць выгнанцам свайго часу, гэта заканамерна, ілюзорнасць тваіх нікчэмных стратаў з лішкам кампенсуецца гмахам мінулага. І аднойчы ты зразумееш: смерць нашай дзяржавы ў веліччы былога, зняволенага ёй народа».

Гэты дзядзькаў маналог, які забаранялася перарываць, малодшы Скарга чуў ужо разоў з дзвесце і запомніў на памяць. Яму часам здавалася, што дзядзька нешта падобнае напяваў над яго калыскай у самым маленстве. Чуць ён гэтыя словы чуў, але сэнс, глыбінны іх сэнс, бадай, дайшоў да яго толькі сёння, пасля растання з Равічам.

Заўсёды стрыманы, Міхаіл, убачыўшы старадаўні план, спачатку ўпаў у ступар, а потым пачаў бегаць па кабінеце, выкрыкваючы незразумелыя фразы то па-польску, то па-нямецку, то па-беларуску, а потым і зусім перайшоў на латынь.

«Вось зачапіла дык зачапіла! Галоўнае, каб вярнуўся да нашай рэчаіснасці, – здзіўлена сачыў за прыяцелем Скарга. – Уяўляю, што з ім будзе, калі ўбачыць поўны план яго любімага замка!»

– Ды супакойся ты! – учапіўшыся ў рукаў Міхаіла, вымавіў Вячаслаў, – Не вар'яцей! Гэты план цяпер твой, і не толькі гэты ліст, а яшчэ дзясятак чарцяжоў з дакладнай прамалёўкай, як мне сказалі, сценаў, вежаў, склепаў, гарышчаў, палаца і пабудоў.

– Што? Што ты сказаў? Як, як ты мог пакінуць частку гэтага?! – дырэктар нясвіжскага музея працягнуў над аркушам трапяткую руку. – Які ж ты пасля гэтага сябар! Усё, трэба ехаць, тэрмінова, тэрмінова трэба ехаць. Ты нават не ўяўляеш, што гэта за чарцяжы. Гэта мы зараз схаваем у сейф – і наперад...

– Паслухай, цюкнуты! Ты гэты замак любіш больш, чым усе пакаленні Радзівілаў разам узятыя. Куды ты збіраешся ехаць? Чалавек прыслаў табе гэты старадаўні чарцёж і дазваляе яго пакуль пакінуць у сябе, з адной умовай: ацаніць, колькі гэта ўсё будзе каштаваць, і выдаць яму ўсю суму разам.

– Ну так. Ну вядома ж, прыслаў... – Міхаіл, як быццам спатыкнуўшыся на апошнім слове, зірнуў на Вячаслава з відавочным недаверам. – Мне перадаў на захоўванне і ацэнку? Дык я сам не змагу гэтага зрабіць! Ты нават не ўяўляеш, якая гэта адказнасць, ды і грошай гэты чарцёж каштуе... – ён на імгненне змоўк, нешта прыкідваючы, вусны яго варушыліся, збоку здавалася, што чалавек апантана моліцца. – Мне думаецца, – Міхаіл гучна выдыхнуў разам са словамі паветра, – гэты ліст каштуе вельмі вялікіх грошай...

– Ты глухі, ці што? Міха, паўтараю для тугавухіх: такіх аркушаў яшчэ дзесяць. На іх, па словах майго будучага сваяка, дэталёвая прапрацоўка ўсяго гэтага, – Скарга ткнуў пальцам у пергамент.

– Ды ты звар'яцеў! – таропка прыбіраючы ўбок аркуш, абурыўся прыяцель, – тыкаеш тут сваімі пальцамі. Добра, давай паедзем да твайго сваяка, гэта да дзядзькі, ці што?

– Не, ці ты майго дзядзьку не ведаеш? Калі б у яго было такое багацце – ужо не адну б дысертацыю яго вучні напісалі, ды і сам бы ён пару грунтоўных тамоў накатаў. Хоць, можа, і дарма я так, – успомніўшы яшчэ раз дзядзькаў маналог, прамовіў Скарга. – Мог, вядома ж, і занукаць, даверыў бы цётцы захоўванне – і ўсё...

– Гэта чаму? Ты не разумееш, мы і на самой справе, як мне здаецца, стаім на парозе грандыёзнага адкрыцця, – Міхаіл дастаў вялікую лупу і прыставіў да паперы. – Вось бачыш, метку пакінуў сваім пазногцем, не хапала яшчэ прарваць манускрыпт. Трэба падказаць Стэфаніі, каб прывучала цябе да цывілізацыі і асабістай гігіены. Стой, стой! – голас Равіча сеў ад хвалявання. – Глядзі, што тут начэрчана...

– Дзе? – амаль абыякава адазваўся Вячаслаў, якому ўжо стала надакучаць кудахтанне сябра над банальным, хоць і вельмі старадаўнім чарцяжом.

– Слухай, Скарга, ды гэта ж... – зашаптаў дырэктар музея, – гэта ж... – ён падскочыў да дзвярэй кабінета, вызірнуў у пакой сакратаркі, якой у яго з-за цягі да эканоміі ўжо даўно не было, асцярожна штурхнуў дзверы ў калідор, пераканаўшыся, што ён пусты, зачыніў іх і для пэўнасці замкнуў на замок.

– Ну і што ты там такое незвычайнае раскапаў? – узіраючыся ў план, спытаў Вячаслаў. – Равіч, што з табой?

Міхаіл выглядаў спалоханым, прыгнечаным і адначасова шчаслівым. Ні слова не кажучы, ён ледзь не адштурхнуў сябра ад сярэднявечнай паперы, асцярожна згарнуў яе ў трубку, дастаў з шафы як быццам загадзя прыгатаваную тоўстую пластыкавую тубу, акуратна ўклаў у яе чарцёж, закруціў вечка і схаваў скарб у вялікі, вышэй чалавечага росту, пясочны сейф. Па паданні, гэтая гіганцкая стальная шафа засталася ад старых гаспадароў, ніякія ўлады, якія змяняліся цягам часоў, проста не змаглі яе не тое што вынесці куды, але нават не зрушылі з месца.

– Усё, без усялякіх адгаворак едзем да твайго сваяка, як яго там завуць?

– Казімір, і бацька яго быў Казімірам, і дзед, і сына ён таксама Казікам назваў. Ты што гэта робіш? Нічога мне пра цану не сказаў, хоць прыблізна, чарцёж у сейф схаваў. Што, Міша, адбываецца? Што ты там такое ўбачыў, што аж у твары змяніўся? Ці не дванаццаць апосталаў?

– Нічога я не ўбачыў, акрамя следу ад твайго ўсюдыіснага гэбэшнага пазногця. Хоць адна дзікая мысля́ мяне драпнула, але яе трэба праверыць і пацвердзіць. Паехалі, ты сёння ў мяне ўсё роўна не выкруцішся. Нешта я раней пра такога твайго родзіча ад цябе не чуў?

– Міша, паслухай, я не магу сёння, мне ў Мінск трэба. Акрамя тваіх планаў, будучы швагер яшчэ і сшытак адзін акаўскі падараваў. І да таго цікавы, што не паказаць яго знаўцу і не атрымаць тлумачэнні я проста не магу. Рэж мяне на часткі, але я ўсё ж буду вымушаны паехаць у Мінск.

– Не, Скарга, мы паедзем да швагра, хоць адкуль у цябе швагер, ты ж не жанаты? Слава, праўда, справа настолькі сур'ёзная, што не дай Бог хто чужы празнае – галавы і мне, і табе, і твайму сваяку не насіць. Чаго, як жонка Лота, аслупянеў? – і, прыцiснуўшыся, зашаптаў: – Там пазначаны пачатак невядомых падземных праходаў, куды вядуць – не зразумела. Пра іх ніхто ніколі нічога не ведаў і тут пад вежай не шукаў. Былі там дзве сакрэтныя каморы, іх у саракавыя ці то Саветы, а я схільны лічыць, немцы выявілі і ўсё вывезлі.

– Апосталаў? – устрывожана і таксама шэптам спытаў Скарга.

– Даліся вам усім гэтыя міфічныя апосталы, не, хутчэй за ўсё, старадаўні арсенал параднай зброі Радзівілаў. Вельмі шмат каштоўных вайсковых цацак нашых спадароў гадоў праз дваццаць пасля вайны з'явілася на антыкварным рынку. Ды і цяпер яны час ад часу ўсплываюць невядома адкуль. Давай, паехалі, прамаруджанне смерці падобна, як калісьці казаў таварыш Ленін. Гэта далёка?

– Не вельмі, гадзіна язды. Трэба Стэфу забраць. Ты не жартуеш з хадамі?

– Ды не трубі ты, як слон у сава́не, – замахаў рукамі Міхаіл, – навошта табе Стэфанія, самі туды-сюды – і ўсё ў норме. Я ж табе кажу: чым менш вушэй, тым спакайней усім будзе.

– Не, без яе я не паеду, ды і брат гэта яе, хоць і нейкі там стрыечны, па бабулях з дзядулямі. І Казамір з жонкай не зразумее. А ты хутаранцаў ведаеш: набяруць сабе чаго-небудзь у галаву – і ўсё, век ты з іх нічога калом не выб'еш. Прызнацца, заінтрыгаваў ты мяне, браце. Добра, хоць Салевіч пакуль не патэлефанаваў. Твая ўзяла, паехалі.

– Вось і добра, вось і цудоўненька, а пакуль будзем ехаць, я пакапаюся ў тваіх польскіх паперах, можа, што талковае і падкажу. Славік, я ж эксперт у гэтай справе, некалі нават пару навуковых працаў на тэму польскага супраціву напісаў на сваю галаву...

– А чаму «на галаву», – выходзячы з дырэктарскага кабінета, спытаў Скарга.

– То ад велькага гонару польскага... Што супраць пшэцкай воўны – то не праўда і праўдай некды не бэндзе. Шкада, нават з вельмі добрымі прыяцелямі перасварыўся. З часам крыўды крыху забыліся, але, як гаворыцца, асадак застаўся, ды і з Кракава мне тады давялося тэрмінова з'ехаць. Добра, давай па тваю Стэфку – і наперад! Мне нават страшна падумаць, што нас можа чакаць у гэтых нечаканых знаходках. Толькі дамовімся: дзяўчыне пакуль нічога не гаворым, я спачатку разбяруся ва ўсім, усё прагляджу, пралічу, добра?

– Добра, толькі з майго боку гэта будзе неяк... Радня яе, чарцяжы і ўсё астатняе – таксама іх...

– А што яшчэ там ёсць?

– Ды шмат чаго, швагер казаў, там цэлы сярэднявечны арсенал, а я так думаю, што не толькі сярэднявечны...

– Ой, добра, добра як, дружа. Вось прываліла, дык прываліла! А я ўжо ў гэтым нудным гарадку паціхеньку кіснуць пачаў. Ненавіджу сядзець на адным месцы. Усё ж ува мне больш ад падзвіжніка ці манаха-езуіта: зрабіў справу, наладзіў усё – і далей, далей, туды, дзе да цябе ніхто на гэтай ніве не араў, зярнятаў мінулага не сеяў і новага жніва не жаў.

Праз паўгадзіны машына ўжо імчала па дарозе сярод крутабокіх пагоркаў, парэзаных старажытным ледавіком амаль да горнага ландшафту. Скарга маўчаў, у галаве кружыўся карагод абсалютна не звязаных адна з адной думак і ўспамінаў. За апошнія суткі неяк усё ўжо занадта хутка закруцілася ў ягоным жыцці. Усё пераплялося, змяшалася, звалілася ў адну кучу: і служба, і асабістае, і немаведама адкуль узніклыя таямніцы, і адказнасць за каханага чалавека. Што з гэтым усім рабіць і як усё расставіць па сваіх месцах, ён не ведаў. Вячаслаў хутчэй інстынктыўна адчуваў, чым усведамляў неабходнасць нейкіх канкрэтных дзеянняў, але што рабіць – пакуль вызначыць не мог.

Перад ад'ездам з Нясвіжа ён усё ж не стрымаўся і патэлефанаваў Ягору Кузьмічу. Стары ўважліва выслухаў, не перабіваў і нічога не перапытваў. Вячаславу нават здалося, што ён яго не слухае.

– Усё добра, Слава, ты нават не ўяўляеш, які ты малайчына! Пра архіў гэты мы ведалі, быў у нас пасля вайны ў іх наш чалавек. Ужо амаль выйшлі на банду, ды яна ўлегцы сыйшла за кардон. Архіў застаўся недзе тут. Колькі мы не лупцавалі мясцовых палякаў, колькі не палохалі самымі страшнымі карамі – усё было без толку. Людзі бажыліся, што нічога пра паперы і скрыні не чулі і нікому з мясцовых іх на захоўванне не пакідалі. Гэта было падобна на праўду, таму што большасць з тых, хто бажыўся, і самі былі жаўнерамі Арміі Краёвай ці актыўна дапамагалі ім. Ды чаго нам па тэлефоне церабіцца, ты там давай асабліва не баўся: грузі ўсё, што ёсць, і вязі да мяне, разам і разбярэмся.

Паклаўшы слухаўку, Вячаслаў падумаў-падумаў, набраў нумар свайго начальства і, на здзіўленне выразна, далажыў удакладненую абстаноўку пра каламутнага госця ксяндза, выказаў здагадку, што мэтай яго візіту, хутчэй за ўсё, з'яўляюцца пошукі старога акаўскага архіва.

У Мінску ўважліва выслухалі і, даведаўшыся, што ён усё яшчэ ў Нясвіжы, загадалі неадкладна паведаміць аб усім начальніку мясцовага аддзялення і, калі запатрабуе абстаноўка, самому ўключыцца ў працу.

Адправіўшы Міхаіла са Стэфкай запраўляць машыну, ён завулкамі скразануў да сваіх калег, якія прыжыліся амаль на ўездзе ў горад у цокалі мудрагелістага дома з сілікатнай цэглы. Начальніка ён не знайшоў, затое сустрэў свайго аднакашніка Валодзю Самусевіча, якога немаведама якімі вятрамі з Віцебска занесла сюды.

Маладыя лейтэнанты ўзрадаваліся нечаканай сустрэчы.

– Валодзя, ты мне прабач, я спяшаюся, – скорагаворкай пачаў Вячаслаў, – вечарам, ці, можа, заўтра да абеду вярнуся, забяру цябе да бабулі, ты ж яе павінен памятаць. Пасядзім, пагаворым, хоць пакармлю цябе па-людску, а пакуль слухай, што мне прынесла ў дзюбе адна старая сарока, хоць Мінск павінен быў перадаць ужо гэта вам...

Выслухаўшы Скаргу, Самусевіч махнуў рукой:

– Мы і самі звярнулі ўвагу на гэтага паляка, ці ты думаеш, што толькі ў цябе ў гэтым глухім кутку ёсць свае сарокі. Павадзілі яго крыху, нічога цікавага, паломнік ён, але з учарашняга дня паляк знік, няма яго ў горадзе, можа, дадому з'ехаў. Ксёндз таксама некуды адлучаўся, але сёння пад абед вярнуўся. А пра яго пастаяльца мы, на ўсялякі выпадак, на мяжу паведамілі, хай адсочаць. Давай ужо – спяшайся назад, а то, напэўна, сяброўка зачакалася. Сам не бачыў, але хлопцы кажуць – прыгажуня.

– Так, сапраўды, былы цэнтр княжацкай ардынацыі паступова патануў у лютым правінцыялізме, – з дакорам канстатаваў Скарга, – вам што тут – больш няма чаго рабіць, як за дзяўчынамі маімі назіраць? Вы лепш паляка шукайце, чуе маё сэрца, тут ён недзе. Глядзіце, каб дроў не наламаў. Мяркуючы па ўсім, як я зразумеў, ён не прафесіянал, а ад такіх чаго хочаш можна чакаць.

Пракручваючы факты ў галаве, Вячаслаў спрабаваў прывесці ўсё хоць да нейкага лагічнага ланцужка, аднак нябачныя звёны рваліся, і ён ужо каторы раз вяртаўся да знойдзеных дакументаў, паляка і таропкага адкрыцця Міхаіла. Мабыць, апошняе было самым важным з усяго ланцуга яго пабудоў, нават сшытак акаўскіх данясенняў з «Чорным катом» адышлі кудысьці ўбок.

«Дапусцім, Равіч мае рацыю і пад замкам сапраўды існуюць невядомыя дагэтуль сутарэнні? Што ў іх? Найлепш, трэба паведаміць кіраўніцтву, але тады Мішку пазбавяць права першаадкрывальніка і ўсё, што знойдуць, так засакрэцяць, асабліва калі там будуць хоць нейкія паперы, што музею, нічога не застанецца. Тое ж адбудзецца і з архівам польскага супраціву. Ужо яму, смаркатаму лейтэнанту, дакладна не дадуць не тое што працаваць з тымі паперамі, але прагартаць наўрад ці дапусцяць. Дурная ў нас усё ж сістэма, і сама кантора свайго багацця не вывучае, і іншых, пад страхам здрады Радзіме, не дапускае».

– Скарга, вярніся да нас, – ляпнула яго па плячы Стэфанія, – паслухай, што Міхаіл Сяргеевіч кажа...

– Мы ж з вамі дамаўляліся: для вас я проста Міхаіл, і потым, не зважаючы на вашу маладосць, не такі ўжо я і стары. А цікавага, Слава, у гэтым сшытку даволі шма... – гаварыў, нечакана спатыкнуўся на паўслове, – слухай, а ты выпадкова не адправіў рапарт у Мінск пра нашыя знаходкі, пакуль мы машыну запраўлялі?

– Так, дружа, ад цябе нічога не схаваеш, – паспрабаваў перавесці ўсё ў жарт Скарга. – Быў даклад, – зірнуўшы ў люстэрка задняга віду, Вячаслаў убачыў пачырванелы і перакошаны злосцю твар сябра. – Э, э... ты гэта кінь! Нічога я лішняга не дакладваў, а ўжо пра твае здагадкі і наяўнасць старадаўніх чарцяжоў маўчаў, які камень. Стэфа, ты там усё цяжкае папрыбірай на ўсялякі выпадак, а то жаніх твой да вяселля не дажыве.

– Ну глядзі, ты нават не разумееш, што пачнецца, калі хоць малая крыха нашых таемных здагадак выйдзе вонкі! Вельмі спадзяюся, у службовай стараннасці ты не поўны дурань, – з неахвотай спакайнеючы, вымавіў Равіч.

– Слухайце, вы, валадары ўсіх сакрэтаў, вам не сорамна?! – абсалютна сур'ёзна перапыніла іх сварку дзяўчына. – А табе, Скарга, павінна быць сорамна ў сто разоў больш...

– Стоп, давай далей не раскручваць тэму крыўды і недаверу, добрага ад гэтага нікому не будзе. Кажу вам: нічога сур'ёзнага датычна нашых і за́мкавых таямніцаў я нікому не дакладваў і пакуль гэтага рабіць не

збіраюся. Мяне асабіста больш хвалююць сённяшнія падзеі, чым сакрэты мінулага. Давайце распавядайце, што вы там у сшытку расчыталі?

– Табе, Слава, пашанцавала: Стэфанія вельмі праніклівы і, што не менш важна, дасведчаны чалавек. Ганарыся, браце, і беражы яе як дар Божы, – пачаў урачыста Равіч.

– Супакойся, берагу, у тым ліку – і ад цябе. Ты, Стэфа, павінна ведаць страшную таямніцу нашага сябра: ён бабнік. Гэта, бадай, адзіны яго недахоп. Прабач, дружа, я цябе, здаецца, перапыніў.

– Не верце вы яму, пані Стэфанія, адзіная дама, якой я адданы ўсёй душой і намерамі, гэта старажытная Каліста, у яе беспачуццёвых руках мой розум і сэрца, а мірскія жанчыны ўсяго толькі бездапаможныя цені маёй багіні. Я мог бы пакрыўдзіцца на рэпліку гэтага кіроўцы, але ўсё ж працягну... З сшытка вымалёўваецца цікавая карціна: можна меркаваць, што Абвер ужо з пачатку сорак чацвёртага года працаваў пад пільным кантролем ангельцаў, а праз іх і амерыкосаў. Асновай гэтага супрацоўніцтва была агульная непрыязнасць да Савецкага Саюза. Заўваж, яшчэ задоўга да заканчэння вайны і тыя, і тыя амаль у адзін і той жа час сталі гаварыць аб стварэнні ў будучым нейкага Саюза паняволеных народаў, паняволеных, відавочна, не фашыстамі. Дзіўная праніклівасць. Цяпер зразумелая тая паспешнасць, з якой перад вызваленнем Мінска немцы задумалі другі Усебеларускі кангрэс, перад гэтым з бласлаўлення фон Готберга стварылі Беларускую Цэнтральную Раду. Немцам гэтая Рада была як мёртваму прыпарка, а вось саюзнікам па антыгітлераўскай кааліцыі ў будучай барацьбе супраць імперыі Сталіна гэта быў чарговы козыр, як-ніяк амаль легітымна абраны ўрад беларускага народа.

– Паслухайце, яшчэ ж у васямнаццатым годзе была абвешчаная Беларуская Народная Рэспубліка, і ўрад ужо быў, навошта другі абіраць? – шчыра здзівілася Стэфанія.

– Ты чуеш, браце, што я табе казаў? – узрушыўся Равіч. – Разумніца, і цалкам заканамернае пытанне. Рада павінна была стаць правапераемніцай БНР, невыпадкова ў новае кіраўніцтва ўвайшлі і старыя міністры. Каб паказаць непарыўнасць сувязяў, ветэранаў беларускага руху пасадзілі ў прэзідыум кангрэса, з дапамогай усё таго ж Абвера ці СД прывезлі, цяпер кажуць ледзь не сілком, у Мінск з Прагі адну паэтэсу, яна была ў той час чымсьці накшталт душапрыказчыцы нашай старой эміграцыі. У яе, дарэчы, захоўваўся і архіў БНР... Яшчэ адна думка з'явілася ў мяне пасля беглага чытання гэтага сшытка агентурных данясенняў: хутчэй за ўсё, у гэтых скрынях павінны быць калі не асабістыя справы, то хоць бы спісы полькай агентуры ў немцаў, можа быць, і ў Саветаў, у партызанскіх атрадах і ў падполлі...

– А спісаў нямецкай ваеннай разведкі і сеткі «Чорнага ката» там быць не можа? – вырвалася ў Скаргі.

– А ты ведаеш, браце, усё можа быць. Слухай, ды вы абое разумныя, цяжка вам у жыцці прыйдзецца, затое цікава. Канечне, будзе сусветны розгалас, калі мы знойдзем спісы агентаў, пакінутыя тут у ходзе рэалізацыі гэтага твайго ката́. А мяркуючы па акаўскіх данясеннях, гэты «Светлячок» быў вельмі дасведчаным кратом у немцаў.

Машына ўжо пад'язджала да агароджы хутара, лёгкі падвячорак слаўся па наваколлі лёгкім марывам. Вароты былі зачыненыя знутры. Грук і спробы ажывіць кнопкі званка, а іх было дзве з надпісамі «Ніжні дом» і «Верхні дом», поспеху не прынеслі. Махнуўшы рукой, Скарга натрэніра-

вана пераскочыў цераз плот і, ужо прызямляючыся, з жахам успомніў пра двух сабак, якія днём нядобра разглядалі яго з прасторнага вальера.

Сабак, на яго радасць, паблізу не аказалася. Вокны дома былі цёмныя. «Можа, гаспадары ў ад’ездзе ці ў новым доме?» – мільганула ў галаве думка, але і другі дом на пагорку панура ўзвышаўся цёмным абрысам. Адкрытыя замкі былі ўсунутыя ў дужкі і віселі з унутранага боку, што пацвярджала прысутнасць гаспадароў у сядзібе. Калі адчынілі вароты, Вячаслаў выключыў фары і асцярожна заехаў у двор.

– Ціха! – папярэдзіў ён шэптам спадарожнікаў. – Нешта мне не падабацца гэтая цемра. За мной на адлегласці пяць-шэсць метраў ідзіце да хаты. Ясна?

Міхаіл са Стэфаніяй паслухмяна кіўнулі галовамі і рушылі следам. Агульная трывога авалодала ўсімі.

Дзверы хаты былі зачыненыя, але не замкнёныя. Вячаслаў папераджальна падняў руку, адчыніў дзверы і прыціснуўся да сцяны. Цішыня. Дом быў пусты. Па беспарадку, які царыў у пакоях, можна было выказаць здагадку, што нехта чужы корпаўся ў гаспадарскіх рэчах і нешта шукаў.

Усе маўчалі, толькі дзяўчына ледзь чутна малілася.

– Асцярожна, ідзём у новы дом, – ціха вымавіў Скарга.

– Божа, што з імі, дзе дзеці? – ледзь не плачучы, прашаптала Стэфа.

– Усё будзе добра, ідзем гэтак жа: я наперадзе, вы ззаду. Ідзем моўчкі і хутка.

Першага сабаку яны знайшлі на сцежцы, што вяла ў другі дом. Ён ляжаў нерухома, лапы былі скручаныя празрыстым скотчам. Другі сабака ў лужыне крыві ляжаў на тэрасе. У новым доме беспарадак быў яшчэ больш заўважны. У пакоях першага і другога паверхаў нікога не было. Стэфанія, ужо не таячыся, загаласіла. Ніхто з мужчын яе не суцяшаў. Раптам аднекуль знізу пачуліся гукі, як быццам нехта глуха стукаў.

Дзверы ў паўпадвал знайшлі хутка. Скарга намацаў выключальнік. Паліна і дзеці сядзелі ля сцяны са звязанымі рукамі і нагамі, вусны былі залепленыя скотчам. Жанчына сядзела скраю ля бойлера – і, пачуўшы іх крокі наверсе, пачала біць галавой па жалезным б*а*ку.

Вызваліўшы палонных, падняліся наверх. <...>

## 16

Запальваць святло ў пакоях Скарга забараніў. Калі жанчыны і малодшыя дзеці паплакалі, папілі вады і трохі супакоіліся, Вячаслаў пачаў распытваць Паліну, што адбылося ў іх доме і дзе муж?

– Вы з’ехалі пасля дзвюх, і недзе гадзіны ў тры да варот пад’ехала машына. Казік адчыніў вароты, там стаяў ксёндз, не наш, незнаёмы, але Казік любіць усіх слуг Боскіх...

– Паліна, – перапыніў яе чэкіст, – пакуль хопіць, трэба шукаць Казіміра, куды яны маглі яго павесці?

– Не ведаю, яны ўсё пра нейкія паперы ў яго пыталіся. Ды ён і не аднекваўся, казаў, што ўсё ў парадку, і калі яны прыедуць заўтра – усё аддасць, толькі вось панам давядзецца раскашэліцца. Ксёндз з сабакамі забаўляўся, яны ў нас лютыя, а з ім неяк адразу пасябравалі. А другі мужык такі пануры, усё настойваў, каб паперы зараз жа муж прынёс. Дык не магу я зараз, кажа, далёка схаваныя і шмат іх, цэлы воз. А той ні ў якую: вядзі цяпер, а то горш будзе. Дастаў пісталет і Крабіка нашага застрэліў. Стрэліў, а гуку амаль ніякага і не было.

– Вось сволач! – абурылася Стэфанія.

– Паліна, а ў вас выпадкова зброі ніякай у хаце няма? – спытаў Вячаслаў.

– Павінна быць... Казік, прынясі татаву стрэльбу, – загадала яна сыну.

– Скарга, трэба спяшацца, і так ужо шмат часу страцілі, – шапнуў сябру на вуха Міхаіл.

– Во татаў карабін, ён зарэгістраваны, – горда сказаў старэйшы сын. Зірнуўшы на жанчын і малодшых, ён узяў Скаргу за рукаў і адвёў убок. – Яны, напэўна, у прадзедаву схованку паехалі на квадрацыкле.

– А гэта далёка?

– Не, праз балацінку кіламетры з паўтара.

– Ты зможаш нас правесці?

– А як жа!.. Вось і табе зброя, дзядзька, – малы працягнуў Міхаілу загорнуты ў анучу рэвальвер. – Там пяць патронаў, – папярэдзіў падлетак.

– Стэфанія і Паліна, забірайце дзяцей, садзіцеся ў маю машыну і едзьце куды-небудзь у зацішнае месца. Ёсць такое?

– Ёсць, – за маці адказаў Казімір, – на наш стары ток, там і святло, і ежа, і вада ёсць, і не відаць ніадкуль. А я потым за вамі прыбягу, калі бацьку вызвалім.

Да схаванага падзямелля дайшлі хутка і моўчкі. Ужо зусім сцямнела. Выбраўшыся з балота на сцежку, яны ледзь не спатыкнуліся аб завалены набок квадрацыкл. Злева на строме віднелася нейкае някідкае, жоўтае святло.

– Тамака камень адвальваецца – і ў падзямелле можна пралезці, толькі бацька мне забараніў туды лазіць, сказаў: паміраць збяруся – усё табе пакажу і пакіну, а так знаць-ведай, але ўсярэдзіну – ні-ні.

– Давайце так, – прапанаваў Вячаслаў, – я запаўзаю першым, Міхаіл мяне страхуе, ты, Казімір, на ахове, вось табе карабін, патрон ужо ў патронніку, справішся?

– Крыўдзіш, дзядзька Вячка, ці я не сын свайго бацькі... – прымаючы зброю, важна адказаў хлапчук. – Тады вазьмі яго – з ім будзе зручней, – і працягнуў, дастаўшы з-за спіны, пісталет.

– Ну вы з бацькам і запаслівыя! А «ТТ» адкуль?

– Справа свойская, хутарская, у гаспадарцы ўсё калі-небудзь ды спатрэбіцца.

Да лазу падпаўзлі асцярожна. Скарга павольна зазірнуў унутр. Каземат асвятляўся вялікай лямпай, якая стаяла пасярод масіўнага стала. Казімір сядзеў на падлозе, правая рука яго была прыкаваная кайданкамі да ножкі стала. Незнаёмец корпаўся ў расчыненых скрынях каля сцяны. Падсвечваючы сабе вялікім ліхтарыкам, ён паспешліва перачытваў нейкія паперы, раздражнёна іх адкідваў убок.

– Ты, пан, скажы мне, што ты шукаеш? – па-польску пытаўся ў яго гаспадар. – Глядзі, колькі зла нарабіў: сабаку забіў, дзяцей і жонку напалохаў, ксяндза, боскага чалавека, у нядобрую справу ўцягнуў. Як сам далей жыць будзеш? Вунь мне галаву прабіў, а за што? За тое, што дабро вашае амаль стагоддзе берaглі? Я толькі пасля смерці бацькі і рашыўся зірнуць на тыя паганыя скрынкі...

– Заткніся, а то пашчу стужкай зляплю! – агрызнуўся прыхадзень. – Дзе золата, упрыгожванні, бранзалеткі, ланцужкі, пярсцёнкі розныя?

– Э, пан, чаго не было – таго не было, вунь паперы, сшыткі, узнагароды і пячаткі. Ніякіх залатых цацак.

Скарга вагаўся, не ведаючы, што рабіць. Бязгучна патрапіць у памяшканне практычна немагчыма. Той, каля сцяны, узброены, і зброя ў яго недзе пад рукой. Сунься ён на кукішках у гэтую пячору – першая ж куля

яго. Не, трэба страляць першым. Лейтэнант прыцэліўся ў плячо паляку і націснуў на курок. Стрэл бухнуў у падзямеллі, як разрыў гранаты. З крыкам «КДБ Беларусі! Усім заставацца на месцах, супраціўляцца марна!» ён кінуўся наперад. Следам рынуўся Равіч.

Паляк лямантаваў ля сцяны і качаўся па падлозе. Яго скруцілі. Вызвалілі Казіміра.

– У, морда, – паціраючы знямелыя ад сталёвага бранзалета запясці, пагражаў свайму крыўдзіцелю нядаўні палонны. – Казаў жа табе, тупагаловы, што твая грубасць проста так не пройдзе. Лепш бы ты яго, Слава, застрэліў, закапалі б – і справе канец. А цяпер вязі да ўладаў, адказвай, што ды як. Сюды давядзецца дурняў цягнуць. Бацька яшчэ ў зямлі не астыў, а я ўжо радавую схованку спаліў. Казіка, заразу, заб'ю! Вунь і зброю раздаў, і вас сюды прывёў. Ты дзе там, паскуднік, ашываешся? Вось толькі сунься сюды! А гэта хто з табой? – толькі цяпер заўважыўшы незнаёмца, які акуратна складваў у скрыні раскіданыя паперы, спытаў швагер.

– Сябар мой і пакупнік тваіх чарцяжоў. Дырэктар Нясвіжскага музея Равіч.

– А, ну гэты хоць навуковец, раскажа, што ды як. Толькі грошы ў яго ёсць? – і раптам нібы нешта яго прасвятліла... – Стой! А дзеці, жонка дзе мае!? Гэты мяне сюды прымусіў ехаць, а там ксёндз застаўся, можа, і не адзін, я не ведаю.

– Бацька, усе цэлыя, яны да нашага старога току паехалі.

– Ну тады добра, – з палёгкай уздыхнуў Казімір і ўжо не так грозна дадаў: – А цябе, падшыванец, яшчэ лупка чакае. Бяры наш квадрацыкл, там ён валяецца ўнізе, і гані па мамку ды ўсіх, каб, пакуль мы вернемся, стол накрылі.

– Добра, – адказаў з неахвотай Казімір малодшы, і неўзабаве неўздалёк залапатаў матацыклетны рухавік.

Рана ў ліхвяра аказалася несур'ёзная, косці цэлымі, толькі куля вырвала кавалак мяса з перадплечча. Пакуль Скарга накладаў жгут з абрыўка падабранай на падлозе вяроўкі, Казімір прыцягнуў аднекуль з далёкага кута вялікую, колеру хакі сумку з чырвоным крыжам збоку і фашысцкім арлом наверсе.

– Не можа быць! – ледзь не вырваўшы з рук сумку, усклікнуў Міхаіл. – Ды яна ж новая! – расшпіліў і, падаючы герметычную ўпакоўку бінта, захапляўся, як хлапчук. – Я такія толькі на малюнках бачыў. Каштоўны, дарэчы, экспанат.

– Я вам яго падару для музея, у мяне яшчэ такая ёсць. Я, праўда, унутр да сёння і не заглядваў... – лагодна вымавіў гаспадар.

Перавязаўшы затрыманага, яго абшукалі, забралі дакументы і пасадзілі на крэсла з высокай спінкай каля стала.

– Я лейтэнант Камітэта дзяржаўнай бяспекі Скарга. Растлумачце мэту вашага знаходжання на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

– Я ніц не розумем, – моршчачыся ад болю, адказаў паляк.

– Ах ты, курва, не розуме ён! А ну, лейтэнант, адыдзі! – Скарга не паспеў нават зрэагаваць, як Казімір засвяціў сваім кулачышчам у вуха палонніку, той разам з крэслам грукнуўся на падлогу. – Ён жа, сука, мяне спадцішка ўдарыў, а потым пад пісталетам вадзіў, на жонку маю крычаў. Ох, пашанцавала табе, што ляжыш, а ў нас ляжачага не б'юць! Ды нічога, я цябе зараз падыму.

– Казімір, перастань, яго трэба дапытаць і даставіць у нашае мясцовае аддзяленне.

– Я яго зараз проста ў прыёмную самога апостала Пятра дастаўлю! – падымаючы дрыжачага ад страху чалавека, роў хутаранін. – Хоць... давай, рабі сваю справу, ты ўлада, хоць і радня.

Паляк больш не аднекваўся, а распавёў, што ў яго ў Англіі ў адной вёсачцы жыве далёкі сваяк, ён туды паехаў адразу пасля вайны, пра яго ўсе ўжо даўно забыліся.

– І вось, калі пасля чарговай адсідкі я выйшаў з турмы, дома мяне чакаў ліст ад таго родзіча і чэк на тысячу фунтаў, каб мог да яго даехаць. Туманным быў ліст, калі б не гэтая блытаніна, можа быць, нікуды і не паехаў бы. А так стала цікава, ды і за Ла-Маншам я яшчэ ніколі не быў, вось і паехаў. Знайшоў дзеда, і стары мне распавёў пра гэтыя скрыні, казаў, што ў іх шмат каштоўнага. Усе, хто пра гэты схрон ведалі, памерлі ўжо, ён адзін застаўся. Толькі пароль забыўся, там нешта пра каня трэба было сказаць... Вось і ўсё, – скончыў ён свой расповед. – А тут некія старыя паперы. На якога д'ябла яны мне здаліся! Паслухайце, ну дурнаваты я, адпусціце вы мяне. Нічога мне з гэтага дабра і не трэба, пакіньце ўсё сабе, а я да Брэста даеду, а далей пешшу дадому. Я ж касцельны паломнік, там у мяне... – ён паказаў на гаманец з дакументамі, – і паперка адпаведная ёсць.

– А ксяндза таго адкуль ведаеш? – спытаў Казімір ужо без злосці.

– Дык жа мне ён нейкі сваяк... Ён будзе маўчаць. Ён як убачыў забітага сабаку, дык ледзь не самлеў. За сабаку, мусіць, я заплачу, – пакасіўся на Казіміра, – ці ў ксяндза шчанюка вазьмеце, ён добрых сабак выводзіць.

– Ну вось, а вы кажаце: каштоўнасцяў няма, – адазваўся каля сцяны Равіч. – Няшмат, але ёсць. – Ён падышоў і кінуў на стол чатыры пачкі даляраў. – Пяцідзясяткі, сорак трэцяга года. Там яшчэ цюк рэйхсмарак і такі ж скрутак сталінскіх чырвонцаў, але апошнія ўяўляюць цікавасць толькі для музеяў і вузкага кола калекцыянераў.

– Зялёныя, – глытаючы сліну, ажывіўся паляк, якога па дакументах звалі Станіслаў Чарык. – Гэтыя грошы заўсёды ў цане, калі б іх не надрукавалі. У амерыканскім банку памяняюць адзін да аднаго, а можа, і прыплацяць за старадаўнасць.

– Вось ты іх і будзеш мяняць, думаю, пятнаццаццю тысячамі і абыдзешся, – падсоўваючы да няўдалага шукальніка чужых скарбаў пакункі, катэгарычна прамовіў Казімір. – Давайце адпускайце яго – і хай сабе коціцца ў сваю Польшчу. Толькі трэба завесці яго ў Баранавічы на станцыю. Там, здаецца, гадзіны ў тры цягнік ідзе да Варшавы.

– Казімір, я гэтага дапусціць не магу. Гэты крымінальнік са злым намерам пракраўся на нашу тэрыторыю, пагражаў тваёй сям'і, нанёс табе сур'ёзныя траўмы, пасягаў на каштоўнасці, якія належаць нашай дзяржаве, ды і калі адпусціць яго – невядома, чаго ён яшчэ наробіць.

– Не, не, пан, я зараз да Польшчы. Мне таго, – ён матнуў галавой на грошы, якія ляжалі на стале, – надоўга хопіць. Там, у валізках, ёсць картка фотографічна, я там іх отклал збоку, там мой свояк млад, ён слёзна прасіў даць яму ту картку і ордэн Арла Мілітары з паперамі на его імя. Там вшыстко ест. Я панам Богам клянуся, што з'еду да Польшчы і дале да Англіі.

– Вячак, давай паверым хлопцу, хай дахаты вяртаецца. Давай вылезем з гэтай каморы на свет божы.

Звонку панавала ноч. Месяц яшчэ не ўзышоў, але месца яго нараджэння ўжо набрыняла срэбным таямнічым святлом. Слязлівыя кропелькі высокіх летніх зорак міргалі ў недаступнай, бяздоннай вышыні. Сотні пахаў нагрэтых за дзень траў, дрэў, кветак ды імхоў шчодра аддавалі сябе начной прахалодзе.

– Хвала Езусу, усё абышлося, – перахрысціўся Казімір. Я цябе, вядома, разумею, у цябе служба, але служба і жыццё – гэта не заўсёды адно і тое ж. Ну адвязеш ты гэтага небараку да свайго “пільнага вока” – і што далей? Ні я, ні жонка мая нічога пісаць не будзем. А дабро гэтае чужыя людзі прыедуць і забяруць сабе і начальству на падарункі. Можа, і мяне зацягаюць, а можа і ў турму пасадзяць. Ты галавой падумай. Ты што – Паўлік Марозаў, каб сваіх у засценак саджаць?

– Усё правільна кажа твой сваяк, – зашаптаў знізу Міхаіл, прымусіўшы іх здрыгануцца, – падымеш шум – і ўсё. Бяды не абяромся. Напэўна, ты са сваёй канторай яшчэ як радавы грамадзянін не сутыкаўся? Сілавікі толькі ў кіно ветлівыя, разумныя і бескарыслівыя. У рэчаіснасці ўсё больш пошла. Не трэба, Слава, падымаць шум, не патрэбна. Ды і сам ты гэта разумееш.

Скарга разумеў і сяброў, і іх аргументы, але ўбітае ў яго маладыя мазгі паняцце абавязку перад дзяржавай і перад канторай не давала магчымасці проста так зганьбіць гонар афіцэра. Трэба было шукаць нейкі кампраміс, але кампраміс паміж абавязкам службы і чалавечым жыццём, як казаў Ягор Кузьміч, непазбежна вёў да здрады. Тут ужо ці – ці. Вячаслаў на імгненне ўявіў вочы Стэфаніі, калі на запясцях яе брата клацнуць кайданкі. А Казімір можа і насамрэч загрымець, чаго-чаго, а артыкулаў у нашым крымінальным кодэксе па-ранейшаму хоць адбаўляй. Пры чым тут ці – ці! Вайна, ці што? Доўг таксама чалавечным павінен быць, ды і навошта такі доўг, калі ён разбурае жыццё простых людзей? Яму раптам прыгадаліся словы дзеда, калі той даведаўся пра рашэнне ўнука паступаць у школу КДБ: “Глядзі, не дай ім сябе перакаваць, а галоўнае – не дай знявечыць душу”. Вось і рвіся цяпер...

– Толькі везці гэтага субчыка трэба не на вакзал, а да нашага ксяндза, – парушыў ход яго думак Равіч. – З гэтым святошам таксама варта добранькую размову правесці, а то, глядзі, да сваіх калегаў пабяжыць па дапамогу. Ён і так у апошні час вакол іх трэцца...

– Ці яны каля яго. Добра, хай будзе па-вашаму, – цяжка ўздыхнуўшы, Скарга гучна ляснуў сябе па каленях. – Цягніце гэтага лаўца жэмчугу наверх, і так пакуль выберамся – днець пачне.

– Ты ж разумееш, што без чарцяжоў ехаць мне нельга, сам бачыш, як усё паварочваецца. Хай ужо лепш у мяне ў сейфе ляжаць, цалейшымі будуць, – папрасіў Міхаіл.

Каб жанчыны не вохкалі, палоннага паляка адразу пасадзілі ў аўтамабіль, пакінуты ля ніжняга дома. На ўсялякі выпадак прымацавалі папружкай.

– Ты тут дурыць не ўздумай, – гледзячы, як сябры паспешлівым крокам пайшлі па сцежцы да верхняга дома, папярэдзіў пасажыра Казімір. – Я больш добрым не буду, заб’ю палкай, як скаціну, і закапаю ў жывёльным могільніку. Побач з хворымі свіннямі будзеш спачываць. Ты зразумеў?

– Вшістко розуме, пан. Я так пану ўдзячны за ласку! Я не дурань, і за пенёнзы дзякуй. А тэй лейтэнант не звязе мяне да энкавэдэ?

– Будзеш дурыць – адвязе. Да відзэння, пан. Крабіка ты забіў, дык я табе ягонага брацiка прышлю, Букета. Ён цябе яшчэ здалёк пачуў, вунь як з ланцуга рвецца.

У доме без вохаў і ахаў не абышлося. Супакоіўшы жанчын, прыхапіўшы тэрмас з забойнай кавай, бутэрброды і чарцяжы ды паабяцаўшы вярнуцца да світання, Вячаслаў з Міхаілам з’ехалі, пакінуўшы Казіміра прагным на роспыты кабетам.

*(Працяг будзе)*

Міхась Скобла



...Марна стаўляць на яе капкан,
Марна цкаваць ільвамі.
Мова выбухне, як вулкан,
Проста з зямлі пад вамі...

# Кансервацыя агню

### *КРЫВІНКА*

З манастырскай рызніцы ўночы
Са спадзеўкаю на барыш
Два разбойнікі скралі крыж.
Залаты, ён сляпіў ім вочы.

Хто аслеплены быў здабычай
Больш і марыў пра лішні грош,
Той другому – бандыцкі звычай –
Уваткнуў пад рабрыну нож...

Збыўшы золата, вяззю срэбнай
Ён аздобіў тронак нажа.
Заставалася непатрэбнай
Кроў Ісуса Хрыста з крыжа.

І па ўсёй той зямлі нябеднай
Сто цароў і сто ліхвяроў

І шчарбатай капейкі меднай
Не далі за Хрыстову кроў.

Той крывінцы на касавінцы
Рады быў вінароб – відно,
Ён прыняў яе за суніцы
І дабавіў для смаку ў віно.

І пранеслася чутка звонам,
Яе вецер па свеце нёс,
Што ў віне тым, як кроў, чырвоным, –
Сіламоц, што сышла з нябёс.

Тым, хто піў яго, аніколі
Не дурманіў галовы хмель.
І была ў тым віне спатоля,
І была для душы купель.

І не памятаў з іх ніводны,
Што даела той нож іржа,
Што ў віна таго смак нязводны
Той крывінкі з таго крыжа.

*13 ліпеня 2016 г.*

## ***ПТУШАЧКІ***

Калючым дротам схопленае неба.
Год пяцьдзясят чацвёрты. Калыма.
Маленькіх птушак з лагернага хлеба
Ён вырабляў і раздаваў дарма.

Ішлі ў кацёл прамерзлыя лушпіны.
Лічыў яго ўвесь лагер дзіваком.
Усе насмешкі строілі і кпіны,
Ніхто не падзяліўся з ім пайком.

– Нікому твае птушкі непатрэбны! –
Крычаў перад адбоем вертухай.
А ён грэў у далоні мякіш хлебны
І усміхаўся сам сабе: – Няхай.

Завея зграяй выжлаў на аркане
Над лагерам накручвала кругі.
А птушачкі паціўквалі ў чаканні,
Пакуль зэка не вернуцца з тайгі.

Вярталіся, і Бог даваў хвіліны,

І снег пад канваірам не рыпеў,
І чуўся вязням пошчак салаўіны,
І чуўся вязням жаўруковы спеў.

Нібы сярод зімы зазелянелі
На беласмертнай поўначы гаі –
Так цёхкалі, высвіствалі, звінелі
Ім тыя жаўрукі і салаўі...

Зіма дапрала белыя кудзелі,
І – вольным воля, хоць на ўсе бакі.
Так доўга за ім птушачкі ляцелі!
Так доўга... салаўі і жаўрукі.

*1 ліпеня 2016 г.*

## *МЕНСКАЕ МЕТРО*

Гукі ў падзем'і прагна лаўлю –
Так эскімос ловіць промні.
Мова схавалася пад зямлю,
Як хрысціяне ў каменяломні.

Там і гучаць ёй – малітвай з губ,
Гутаркай, клічам, песняй.
А на паверхні – ганебны слуп
І казематы з плесняй.

Першых пакутнікаў-хрысціян
Душы ўзняліся ў неба.
Новы прыйшоў Дыяклетыян –
Трэба відовішч і хлеба!

З мовай дужэе і немаўля.
Марна наладжваць ловы,
Дзе прыхавала сама зямля
Магму жывое мовы.

Марна стаўляць на яе капкан,
Марна цкаваць ільвамі.
Мова выбухне, як вулкан,
Проста з зямлі пад вамі.

*26 чэрвеня 2016 г.*

## *НЁМАН НЯБЕСНЫ*

Плысці да мора рэкам трэба,
Каб зліцца з хваляю марской.

А Нёман упадае ў неба –
На небе шлях сканчае свой.

Змяёй паўзе ў балоце Прыпяць,
І сняцца айсбергі Дзвіне,
Дняпро расолу прагне выпіць
І ў мора Чорнае імкне.

Дунай цягае баржы з хлебам,
Як франт, ля мора лёг Еўфрат.
А Нёман парадніўся з небам,
А Нёман – небу родны брат!

І ясным днём, і ноччу цёмнай
Пра мора доўга марыць Ніл.
А неба трэба толькі Нёмну,
І небу толькі Нёман міл.

Ці просіць глею ўвесну глеба,
Ці ўзімку лёд закрые свет,
А Нёман упадае ў неба –
Зірніце з моста яму ўслед.

Зноў перад Волгай акаяннай
Змялелы Каспій аж дрыжыць.
Сто рэк бяжыць да акіяна,
А Нёман з небам хоча жыць!

Падземны Стыкс зусім згаротнеў,
Слязьмі саліўся шмат разоў.
А Нёман адпачне ў Гародні
І – пацячэ у неба зноў.

Абмые Ганг мурзатых, босых,
Сплыве Мурэй праз марлю дна.
Рака, расталая ў нябёсах,
На цэлы белы свет адна!

А прыйдзе час мне па радзіме
Плысці ў бязвёсельным чаўне,
Хай Нёмна плынь яго абніме
І ў неба вынесе мяне.

*20 ліпеня 2015 г.*

* * *

Сын сабраўся да мамы Куліны,
На два дні пераўжыўшы зіму.

Тры драбочкі вушацкае гліны –
Наш апошні дарунак яму.

Як трымацца і кім там назвацца?
Мама, голас твой увушшу.
Ці пазнаеш душу ў вышыванцы?
Хоць яе і не бачна, душу.

На абліччы ні страху, ні болю.
Там спаткаліся ўрэшце яны.
А з магілы ірваўся на волю
Сцяг, прыкушаны векам труны.

*23 ліпеня 2015 г.*

## *БАРТАЛАМЕЕЎКА*

Як саламяная ўдава,
Хавае хата век старэчы.
На прыпеку расце трава
Перад патухлай пашчай печы.

Прамень наточаным лязом
Пакрэмсаў павуту запечка.
А ластаўкі за абразом
Звілі прытульнае гняздзечка.

Каля дзвярэй пад шапкай крук –
Як вартаўнік у каравуле.
І лялька без дзіцячых рук
Сядзіць – самотная бабуля.

Агмень даўным-даўно патух,
Пагрэў, пакухарыў – і годзе.
А каля печы хлебны дух
Чуцён і праз дзесяцігоддзі.

Трава расце без лішніх воч,
Уранку на расу скупее,
Бо ведае – як прыйдзе ноч,
Прысніць апошні дзень Пампеі.

*21 ліпеня 2015 г.*

## *АСУДЖАНЫЯ*

Калісьці існаваў закон такі,
Гісторыя сляды яго не сцёрла:

Забойцы, здраднікі, рабаўнікі
Караліся бязлітасна на горла.

Падпісваў прыгавор вялікі князь,
Ахвяр да эшафота везлі конна.
Не блякла мудрагелістая вязь
Суровага, залішне аж, закона.

І нам, хоць на двары гуманны век,
Адзін фінал сустрэць наканавана.
І не папросіш ласкі для калек,
І літасці не будзе для каханай.

Не зменіш ні артыкул, ні статут.
Пара прыходзіць сцішыць парыванні.
Мы ўсе, мы ўсе асуджаныя тут
Да найвышэйшай меры пакарання.

*24 ліпеня 2015 г.*

* * *

Застаўся ў сагах, хто масты паліў
І хто на бітву вёў харугвы смела.
Адзін грузін узяў і пераплыў
З рукамі звязанымі Дарданелы.

Не прагнуў ён сенсацый і прыгод
І тэлекамер не шукаў вачыма.
Ён плыў, каб сцвердзіць: мы – такі народ,
Які скарыць і знішчыць немагчыма.

Рака гісторыі цячэ ў вяках,
І беларус у ёй надзіва лоўкі –
Плыве, хоць на нагах і на руках
Пятлёю мёртвай сцягнуты вяроўкі.

Не будучы героямі паэм,
Мы зімы незлічоныя і леты
Па той рацэ гісторыі плывем,
З рукамі звязанымі, а – плывем,
З нагамі звязанымі, а – плывем,
І даплывем да запаветнай мэты.

*8 ліпеня 2016 г.*

* * *

Запавуцініць восень скронь,
Ці змаладзее дзень вяснова,

Умей кансерваваць агонь –
Спатрэбіцца абавязкова.

Залье вясной паводка груд,
Ці белым днём настане цемень –
Хай пад рукою будзе трут,
Хай пад рукою будзе крэмень.

Умей да часу прыхаваць
Цяпельца у сухой ігліцы,
За пазухай запалак раць
І пад падушкай – бліскавіцы.

Спрактыкаваная далонь
Адчуе полымя у кноце.
Так пад зямлёю спіць агонь
У пухкім торфе на балоце.

Здавён нам жыжаль за радню.
Калісьці, зверыўшы паролі,
Жрацы падземнага агню,
Мы выпусцім яго на волю.

*23 ліпеня 2015 г.*

## ЖАДАННІ

Падтрымаць Пізанскую вежу,
Каб не ўпала
Пад крыкі турыстаў.
Вежа ўсё ж лепей, чым крушня.

Запрэгчы ў млын Ніягару –
Хай бы малола муку,
А то вадаспад-абібок
Адно весяліцца з вясёлкай.

Пашыць камізэльку месяцу,
Каб не мерз і не лез
У коміны грэцца –
Учадзее і загнецца
Яшчэ больш.

Нёман, Дняпро і Прыпяць
Звязаць хвастамі –
Хай бы патузаліся.
Соннай зямлі
Землятрус не зашкодзіць...

Удасканальваннем свету
Я мог бы займацца бясконца,
Ды раптам госць паявіўся
І лезе сляпіцаю ў вокны –
Месяц па камізэльку!

*28 чэрвеня 2016 г.*

## *СНЕГ*

*Памяці Міхася Жызнеўскага*

Белы снег, як саван, над майданам.
Над майданам чорны дым з пакулля
І ледавіковая зіма.
Чорны дым смярдзіць кублом паганым,
Белы снег лавіць спрабуе кулі –
Не ўдаецца, ловы ўсе – дарма.
“Там сопротивления очаг” –
Снайперы страляюць па вачах.

Куля ў вока вершніку Багдану,
Куля ў вока пешаму Тарасу.
Што сляпому? Кобза і хатуль.
Белы снег перабінтуе рану.
Чорны дым схавае ў дол да часу
Плашч-палатку асляпляльных куль.
Украіна, сцішся і замры.
“Пусть поют слепые кобзари...”

Спеў лунае за Дняпро далёка.
Майстра і на кобзе вытне скерца,
Бажавольны станчыць гапака.
Кулю, што ляцела брату ў вока,
Прыцягнула маладое сэрца.
Не дрыжала ў снайпера рука.
І на Кіеў, на майданы стрэх
Бел-чырвона-белы выпаў снег.

Гэта Бог, схіліўшыся ў жалобе,
Плашчаніцу па-над ім раскінуў.
Чорны дым клубіўся каля ног,
Як паўзучы гад на расцяробе.
І, дабраславіўшы Украіну,
“Ён загінуў, – так шапнуў ёй Бог, –
Каб ты, нэнько, бачыла штоміг
І сяброў, і ворагаў сваіх”.

*24 студзеня 2014 г.*

## ***ДАНЕЧЧЫНА, ЛЕТА 2015***

Праз стэп прамазучаны, як качагарка,
Параненай яшчаркай скача прамень.
У драме ўкраінскай курсівам р э м а р к а:
*На фронце ўсходнім без перамен.*

## ***ПРОСЬБА***

Прывыкаю жыць спакойней,
Без прэтэнзій волата
Ўсіх змагаць, падкоўваць коней
Вухналямі з золата.

Што жыццё меў – дзіва з дзіў,
Богу шчыра дзякую.
Сад садзіў і суд судзіў
Словамі і дзягаю.

З сябрукамі піў віно
І спазнаў каханні,
Дзе зліваліся ў адно
Два дыханні.

Ад відовішчаў і шоу
Розных стаў капрызней.
Незаўважна час прыйшоў
Пасядзець на прызбе.

На астатак што пакінеш
Для сябе самога?
Самы непрыкметны фініш
Папрашу я ў Бога.

Не пакінь другім ці першым
На апошнім крузе,
Ты мяне завершы вершам,
Як стажок у лузе...

*29 чэрвеня 2016 г.*

---

"Дзеяслоўцы" сардэчна віншуюць
свайго шаноўнага сябра і паплечніка
**Міхася СКОБЛУ** з выдатным юбілеем
і зычаць яму моцнага здароўя,
натхнення, радасці і душэўнае трываласці
на доўгія гады жыцця і творчасці!

Ігар Бабкоў



...штаравай...

# Эва Дамініка: лінія фронту

***Аповесць***

## 1.

Ліст аніяк не хацеў канчацца. Ён переваліў за шасцідзясятую старонку, а канца ўсё яшчэ не было бачна. Звычайна яна пісала сябрам кароткія паэтычныя пасланні, дадаючы потым на палёх каментары. Яна называла іх эцюдамі і пазначала опус, як у музыцы, хаця і не заўсёды адсылала сваім адрасатам.

Ёй важна было адчуваць рытм і гармонію, нават у словах. Часам яна абрывала ліст на сярэдзіне, ставіла шматкроп'е і пакідала няскончаным, проста таму, што катарсіс ужо здарыўся, прамінуў, і далей ішло запаўненне паперы неабавязковымі словамі.

Але тут адбывалася штосьці іншае. Яна не магла паставіць кропку ўжо некалькі тыдняў. Пісала, закрэслівала. Дапрацоўвала. Некаторыя аркушы перапісвала начыста.

Вярталася да ўжо напісанага, расстаўляла знакі на палях: *crescendo, subito pp., sotto voce*.

Пісанне пераўтварылася ў штодзённы занятак, які незаўважна пасунуў яе ранейшы расклад, стаў часткай *новага* жыцця.

Што было больш дзіўна, яна звыклася з гэтым заняткам, ёй падабалася, што дзень пачынаўся і заканчваўся пэўным рытуалам, аднолькава.

Зранку, пасля кавы, настройка інструмента, уваходжанне ў танальнасць, пошук ключавых фразаў, што паўставалі ў свядомасці раптоўна і адасоблена, але потым выцягвалі на паверхню тэмы і перыяды, акіяны і архіпелагі.

І вяртанне ў зададзеную форму ўвечары. Насычаная, перапоўненая зместам, яна звязвала ўсё з усім, аркестравала, вызначала тэмп, пераходы, крэсліла і перарабляла.

У пэўны момант яна набыла прыгожую зялёную тэчку і пачала складваць туды нумараваныя аркушы. Самы час пачынаць думаць пра структуру цэлага...

Ліст відавочна быў чымсьці большым, чым сумай розных фрагментаў: магчыма, саната, можа быць, канцэрт, – *для самотнага сэрца з аркестрам*, дапісала яна на палёх.

Дапісала, і адразу перакрэсліла. Гэта мусіла заставацца ў падтэксце, нябачным для чужога вока.

Яна села і пачала праглядаць аркушы, ад самага пачатку.

***

Мілы дэрвішу!

Як точыцца тваё жыццё? Ці добра сябе пачувае нашая крывіцкая мека?

Усё яшчэ блукаеш па віленскіх лабірынтах? Спадзяюся, што так, бо пішу на твой літоўскі адрас. Ад цябе няма вестак ужо некалькі месяцаў, і я пачынаю хвалявацца.

Пакуль несур’ёзна, разумеючы, як гэта неабходна ў пэўныя моманты, знікаць і заглыбляцца, рваць канцы, тануць у іншай рэальнасці. Забываць імёны і дакладныя адрасы, застаючыся сам-насам з быццём, без аніякага алібі.

Дарэчы, што ты там шукаеш, на старых, зарослых лесам пагорках? Крыве-крывейтэ? Яшчэ адну інкарнацыю няшчаснай Барбары Р.? Цукровага пеўніка, пра якога так натхнёна праспявала ў нашым дзяцінстве Марыля Радовіч?

Усё яшчэ збіраешся прайсці свет наскрозь?

*Ісці праз свет формаў, разумеючы, што нідзе немагчыма затрымацца.*

Я дасюль памятаю, як ты прамовіў гэтыя словы, у ленінскім пакоі гістфакаўскага інтэрната, на Свярдлова, 34. Важна, але і зусім бездапаможна, амаль па-дзіцячы.

Я тады адразу табе паверыла. Так, як вераць дзецям і прыродзе – пяшчотна і безумоўна.

***

І што – аніякай спакусы? Ну, затрымацца. Хаця б на хвілінку. Нарэшце спыніцца і крыху аддыхацца. На кафедры, сярод аспірантаў і вучаніцаў. Сярод чытачоў і прыхільнікаў. Там, дзе не трэба нічога нікому даводзіць, пераконваць. Абараняцца альбо ісці ў наступ...

Ёсць у гэтым пэўная асалода – аглядаць з высокай вежы плён пражытых гадоў.

Калі так многа ўжо адбылося, і ты нарэшце свабодны. Яснай і крыху маркотнай свабодай поўніцы чалавечага жыцця, якое амаль прамінула і цяпер само – сэнс і прытулак.

Зрэшты, і гэта не назаўсёды. Потым непазбежна прыходзяць іншыя часы, другія гісторыі. Калі ўцякаюць у нікуды, рвуць сувязі, ніткі. Падводзяць тлустую рысу пад усім, што было. Пачынаюць з чыстай старонкі.

У такія моманты блакітныя вочкі ды светлыя кудзеркі могуць здавацца верхам метафізічнай мудрасці. Аазісам у пустэльні. Глытком вады ў спёку.

***

Выбачай, даражэнькі. Пішу абы-што.

Нешта я зусім асамотнела, няма з кім пагаварыць у гэтых сквотах і ашрамах, Гайдэльбергах і Шварцвальдах, паўсюль пуста, а фраў Марта разыграла ўсе ролі, акрамя самай галоўнай, пра саму сябе, – й цяпер заціхла ў пустаце далёкіх пакояў, дзе яна хаваецца па вечарох ад прывідаў сваёй маладосці.

Яна пачала гаворку пра *тэстамент*, і мне гэта не падабаецца. Яна хоча перадаць мне свой дамочак, але на такіх дзіўных умовах, што адразу не раскажаш. Да таго ж я не ўпэўненая, што гэта гісторыя пра рэальнасць, а не ўрывак недапісанай п’есы невядомага аўтара. Забытай рэжысёрам на ўскрайку свядомасці старой, паўзвар’яцелай акторкі.

Так, я ўсё яшчэ знаходжуся ў фраў Марты, на беразе возера, на адной з *раскошных вілаў*, як напісалі б у савецкай газеце нашага дзяцінства. У мяне свой пакой, дастаткова вялікі, і я тут проста жыву, якімі б незвычайнымі рытуаламі гэта не было абстаўлена.

***

Як любяць пісаць у такіх выпадках нашыя ўлюбёныя аўтары – *vita Cartesii est simplicissima*. Я прачынаюся рана, адразу пасля сёмай. Гатую сняданак, для ўсіх. Бяру каву і падымаюся ў пакой, дзе працую да адзінаццатай.

Потым блукаю па беразе, сярод вельмі-вельмі старых дрэваў.

Вяртаюся, прымаю душ, спрабую абудзіцца яшчэ раз, у крыху іншую рэальнасць.

Сняданкі мяне не абцяжарваюць: назваць гатаваннем гэта можна толькі з вялікай доляй умоўнасці.

Абедамі, прыборкай, закупамі займаецца мілая мурыначка з Сенегала. Яе завуць Эсме, і яна жыве асобна, у невялічкай прыбудове, якая служыць ёй майстэрняй. Яна мастачка, і ў яе карцінах шмат дзяцей і аблокаў.

Што яна робіць тут, у Берліне, я разумею не да канца.

***

Раз на тыдзень я гарантавана выбіраюся са сваёй сядзібы: спяваю, а часам і танчу ў маленькім тэатрыку, які з усіх сілаў спрабуе быць наперадзе эпохі і ставіць тое, што тут называецца авангардам.

З класічнай кансерваторскай школай, я для іх відавочна *overeducated*, хаця і не *overqualified*. Бо тут лічыцца, што ўменне забыць у патрэбны момант пра ўсе магчымыя *бэльканта* надзвычай важна для авангарда, робіць яго бліжэй да народа.

Я, зрэшты, забяспечваю сувязь з традыцыяй. Гэта значыць, што раз-

пораз, пасярод скрыгату і тупату свету, уваходзіць маё падпсаванае часам меца-сапрана і нагадвае пра забытую старую эпоху.

Мяне туды прыстроіла фраў Марта, якая ведае ў тутэйшым тэатральным бамондзе амаль усіх. На поўную занятасць гэта не цягне, але мяне цалкам задавальняе.

***

Фраў Марта – былая акторка. Зрэшты, акторак былых не бывае, як не бывае былых паэтаў альбо былых алкаголікаў.

Пасля *дэмабілізацыі*, як яна гаворыць, яна адкрыла персанальны тэатар. І гуляе ў ім пяшчотна і апантана, выкладаючыся напоўніцу.

Яна ходзіць па доме і размаўляе сама з сабой. Маналогамі ці кароткімі рэплікамі. Са спектакляў.

Часам гэта класіка, і тады яна можа гадзіну рыдаць з нагоды смерці любага прынца. Іншым разам штосьці менш зразумелае: Стрындберг альбо Гаўптман, альбо нават нешта, што я не ў стане пакуль апазнаць.

У яе ёсць сапраўдная грымёрка, і яна дазваляе ёй карыстацца.

Ёсць таксама гардэробная, з касцюмамі і атрыбутамі эпохаў. Я часам пабойваюся, што там не толькі муляжы. Што шаблі і кортыкі, якія так прыгожа вісяць на сцяне, загостраныя. А пісталет, які яна раз-пораз выцягвае ў некаторых мізансцэнах, сапраўды страляе. І могуць надысці часы, калі ён спатрэбіцца.

Яшчэ крыху пра атрыбуты. У сутарэннях размешчаны невялікі цір і раз-пораз яна спускаецца туды *падтрымаць форму*. Аднойчы яна прапанавала мне далучыцца. Паспрабаваць. І я спусцілася разам з ёй.

Цір шыкоўны. Зроблены прафесійна, з гукаізаляцыяй і глядзельнымі прыстасаваннямі. І гэта яшчэ не тое, што здзіўляе найбольш. Здзіўляе насамрэч сама фраў Марта. Яна кладзе ўсе кулі ў дзясятку, практычна не гледзячы. У яе гады!

Калі гэта не тэатральны фокус, не працяг спектакля, акторства – не адзінае яе прафесія. І штосьці мне падказвае, што галоўныя гісторыі – пра сябе і пра эпоху – яна мне яшчэ не расказала.

Пакуль жа мая задача досыць простая. Зрабіць так, каб у кожным са спектакляў у яе былі гледачы і суразмоўцы. І каб не было спакусы там застацца.

***

Дарэчы, я не працую ў фраў Марты: няма аніякага кантракту ці нават вуснай дамовы. Лічыцца, што я дапамагаю ў гаспадарцы, і гэта дазваляе ёй з чыстым сумленнем выдаткоўваць штотыдзень пэўную суму. У дадатак да тэатральных.

Калі гэтага не хапае, ці хочацца набыць штосьці важнае, – дарагі і прыгожы збор твораў альбо эксклюзіўныя запісы, я званю старым прыяцелям і тыя арганізуюць выступ у клубе альбо арт-кавярні з аўтарскай праграмай. Якая разраслася неверагодна, і працягвае расці і пашырацца. Я даўно ўжо не спрабую трымаць у памяці тое, што спяваю, і патрабую пюпітраў, з тэкстамі і нотамі.

Звычайна гэта класіка, з невялікім дадаткам уласных рэчаў. Хаця апошнім часам цягне на хуліганства.

Месяц таму я паклала на музыку Дуінскія элегіі і праспявала іх у

паўпустой залі на ўскраіне Берліна. Можаш сабе ўявіць. Пра гэта нават пісалі мясцовыя газеты.

***

Раз-пораз фраў Марта прапаноўвае пайсці на канцэрт альбо ў кіно. Я прымаю запрашэнні з радасцю, бо сама хадзіць практычна перастала. Класічны рэпертуар я пераглядзела ў мінулым жыцці, а з сучаснасцю у мяне праблемы. І гэта толькі частка праўды.

Другая частка – штосьці замінае мне карыстацца тут *выгодамі культуры.*

Я тут зусім не дзеля гэтага.

Адчуваю гэта ўсёй скурай, тактыльна.

Пры тым, што мая нямецкая ўжо зусім добрая. Яшчэ крыху і я буду на ёй думаць.

***

Бываюць вечары, калі яна абяцае расказаць пра сваю маладосць.

Гэта здараецца рэдка. Звычайна пасля сумеснага паходу на старое кіно. Тады яна просіць мяне паспяваць *дайняе* – з той эпохі, танчыць, гарэзіць, губляе пры гэтым дваццаць ці нават пяцьдзясят год, а пасля мы ціха п’янствуем усю ноч, абмяркоўваючы кнігі і спектаклі, а таксама жыццё як такое.

У яе сутарэннях – радовішчы вінных пляшак. Я думаю, што магла б працаваць самелье, у якой-небудзь не самай лепшай менскай рэстарацыі. Здаецца, я ўжо адрозніваю гатункі і рэгіёны. Крыху болей практыкі і буду апазнаваць гады ўраджаю.

***

Яшчэ я хаджу ў паркі. Пераважна ў Цiргартэн, але не толькі. Тут дзясяткі і сотні прыгожых маленькіх паркаў і сквераў, і кожны мае свае сакрэты.

Берлін у гэтым сэнсе проста знаходка – столькі зеляніны на вуліцах я не бачыла нідзе ў свеце. Ніводны горад не дазваляе дрэвам так вольна буяць і разрастацца, аплятаць вуліцы і дамкі.

Мне гэта чамусьці важна.

Можа, таму, што ў парках я самотная і шчаслівая, нягледзячы на ўсё. А магчыма, проста генетычная памяць. Мае далёкія продкі жылі ў сядзібе. Гэтага даўно няма і больш ніколі не будзе.

Але, калі я блукаю па сцежках, мне здаецца, часам на адзін толькі момант, што я вяртаюся дадому, што за гэтым паваротам будзе садовая альтанка, далей цэнтральная алея.

І вось я ўжо падыходжу да ганка, падымаюся па прыступках, стукаю ў дзверы, чакаю.

***

Ведаеш, у дзяцінстве я магла гадзінамі слухаць пра жыццё дрэваў і камянёў. Пра тое, як спакойна і засяроджана яны прысутныя ў гэтым свеце.

Я нават паабяцала бацькам, што, калі-небудзь, калі ўжо ад усяго стамлюся, куплю сабе домік у вёсцы. І пражыву рэшту жыцця ціха і незаўважна, як садовая кветка.

Цяпер я разумею, што жыццё садовай кветкі не такое ціхае і незаўважнае, як здавалася калісьці.

Што ўвесь час наступае пустазелле. Што пасля цёплага і спакойнага дня прыходзіць трывожны надвячорак. А потым і халодная ноч.

Да таго ж, калі ёсць Сад з кветкамі, недзе мусіць быць Садоўнік.

Але нешта я адхілілася.

***

Самае істотнае: я тут складаю музыку. Многа працую, пішу. І яшчэ больш думаю.

Ёсць нават старонка ў мярэжы, куды ўсё гэта размяшчаецца, у чаканні слухачоў і крытыкаў.

Раз-пораз тое, што я накрэмзала ў цішыні, выконваюць на якім –небудзь забытым богам і прадусарамі фестывалі нефармату. І тады сябры і калегі пераконваюць мяне, што я ўжо абедзвюма нагамі ў першай лізе. Авангарда, вядома.

Яшчэ некалькі высілкаў, гавораць яны, і я патраплю ў вышэйшую. А можа быць, я ўжо там. Ніхто ніколі дакладана не ведае. Каб зразумець напэўна, варта выйсці за браму свайго творчага эга. Прыслухацца да таго, што адбываецца вакол. Зразумець, што *эпоха* хацела б пачуць.

Альбо нават скласці што-небудзь *для яе, на яе густы.*

У адказ я звычайна пытаюся, хто яна, эпоха, бландынка ці брунэтка? Ці бачыў хто-небудзь яе сапраўдны твар? І, дарэчы, што ў яе за густы?

***

Часам, калі адбываецца які-небудзь экзатычны фэст альбо проста мілае і бяспечнае змаганне за чыесьці правы, прыгадваюць, што я адтуль, з Усходу, і просяць праспяваць штосьці сваё, дзёрзкае і этнаграфічнае.

Раней я крыўдзілася і спрабавала патлумачыць. Расказаць пра пакаленні музыкаў, традыцыю. Потым змірылася і сапраўды пачала спяваць сваё. Пераважна дзёрзкае. Але раз-пораз і этнаграфічнае.

Хаця ўсё менш і менш рэчаў я адчуваю сваімі. Гэта дзіўна і крыху нелагічна. Здавалася, з кожным годам іх мусіць быць ўсё больш. Але тое, праз што я цяпер праходжу, не затрымоўваецца, праплывае праз мяне, як выпадковы сон.

***

Крыху прэтэнцыёзна, падумала яна, і закрэсліла апошні абзац.

Закрэсліла няўпэўнена, тонкай лініяй, якая хутчэй адцяняла сумнеў, чым выдаляла думку. Але надзіва стала лягчэй, і яна напісала гэты сказ збоку, як каментар: *крыху прэтэнцыёзна.*

І яшчэ далей, унізе, падрадковай заўвагай: *выпадковых сноў не бывае.*

***

Я нарэшце ўступіла ў пэўную паласу свайго жыцьця, калі тое, што я адна, ужо не успрымаецца, як *абяцанне чагосьці цікавага ў будучыні.*

Са мной усё яшчэ знаёмяцца, праўда, пераважна на вуліцах і ўсё нейкія *прапашчыя.*

Маладыя паэты, старыя наркаманы, бізнэсмены-няўдачнікі за пяцьдзясят, нават бяздомныя. Адныя шкадуюць, што жыццё праходзіць, і шукаюць штосьці важнае, што яны прапусцілі, іншыя баяцца, што яно так і не пачнецца.

І амаль усе яны штосьці пішуць, спрабуючы пакінуць на паперы сведчанні. Каб потым стрымгалоў пабегчы ў выдавецтва і прадаць гэта як мастацтва.

Гэта мяне больш за ўсё і дратуе.

Магчыма, я аматарка занадта складаных гісторый, але хочацца нарэшце натрапіць на тое, што не імкнецца адразу ўсплыць на паверхню. І абмяняць сябе на пэўны капітал альбо выгоды.

Тое, што ўмее ціха чакаць і ўглядацца. Расце, як дрэва, гадамі і стагоддзямі.

***

Першы год у фраў Марты я праплакала. Ад шчасця і роспачы. Гэта складана растлумачыць, – як быццам я патрапіла ў забыты кляштар, і там засталася, нарэшце, сам-насам з сабой.

Я заўсёды хацела мець месца, дзе можна было б адасобіцца. Да канца. Так, каб выпасці са свету, і ўбачыць сябе з таго боку.

Тут мала простай самоты.

Патрэбная *сустрэча*. Калі раптам распушчаецца ўсё знешняе, падымаецца заслона і душа пачынае адчуваць сябе саму з сярэдзіны, нейкім унутраным пачуццём.

І пры гэтым, у шчаслівай адлюдненасці, ты амаль фізічна адчуваеш, як праходзіць час. Як ён паскарае сваю хаду, ляціць і амаль знікае ў сваёй магуце і ўсепранікальнасці.

***

Так, спачатку адзінота, ціхая радасць.

А потым, мой мілы дэрвішу, стамляешся ад штохвіліннай прысутнасці ва ўласным ценю, і гатовы кінуцца ў абдымкі да кожнага. Пачынаеш глядзець навокал. Бачыш дэкарацыю і задні план. Разумееш, як усё гэта працуе.

Бачыш, якія ўсе разумныя і псіхалагічна тонкія, і ўсё ведаюць, і здольныя ўсё пралічыць і выкарыстаць. Толькі з формай душы праблема, няма з кім пагаварыць пра самае важнае. Надыходзіць нязгода, нават абурэнне.

І ў гэты момант цябе канчаткова апазнаюць як другога. Не абавязкова усходнееўрапейца, дарэчы. Іншых тут многа, яны займаюць свае нішы, у кожнага свая зона прыватнасці, і яна амаль што святая. Яе нельга парушаць, – ані фізікай, ані метафізікай.

***

І ты зноў вяртаешся да сябе. Яшчэ раз.

Пачынаеш цаніць малыя рэчы. Тое, што з табой адбываецца ў цішыні і адлюдненасці.

Стары гадзіннік, які тахкае аб прамінулым сярод пустога пакоя. Раптоўныя скавытанні ветру за вакном. Дзверы, што раз-пораз стукаюць унізе, упускаючы і выпускаючы чарговага наведвальніка.

Фраў Марта, якая блукае па доме, размаўляючы са сваімі прывідамі.

І ты, самотная і адасобленая, але ў цэнтры ўсяго. З усім звязаная і адначасова усяго пазбаўленая. *І госць, і гаспадар.*

Сярод шэптаў і скаргаў нашага прыўкраснага, не да канца зразумелага свету.

***

Так нараджаецца музыка. Альбо літаратура.

***

Нядаўна я сустрэла Х. Зусім старэнькага. І ён да мяне заляцаўся!

Патрапіла на ягоную вечарыну выпадкова.

Побач з намі літаратурная сядзіба, і раз-пораз я бачу іх абвесткі. Яны звычайна мне мала што гавораць. А тут раптам знаёмае прозвішча.

Калі я запыталася пра некаторыя рэчы, ён спужаўся і глядзеў на мяне як на здань. А мне проста хацелася даведацца, што далей здарылася з гэтай жанчынай. Ляўшой. З яго ранняй аповесці.

Здаецца, у нас яна так ніколі й не выдавалася кнігай. Прынамсі я яе чытала ў самаробным пераплёце, з даўняга, яшчэ савецкага часопіса замежнай літаратуры.

Гісторыя простая. Можа было б сказаць, што гісторыі зусім і няма. Жанчына з дзіцём. Ходзіць на працу, у звычайны офіс. Вяртаецца дадому, гатуе, гуляецца з коткай. І чагосьці чакае.

Я памятаю, гэтае чаканне было галоўным зместам аповесці. Яно было выпісана тонка і дасканала. Мы ўсе гэта адчувалі.

Можа таму, што самі адно чакаць і маглі. У тыя часы. У халодным-халодным Менску. І былі ўзнагароджаныя, дарэчы.

Але яна, жанчына-ляўша, ці дачакалася яна хаця б чаго небудзь?

Я так і запытала. Чаго яна дачакалася? Шчасця? Сэнсу жыцця? Таямнічых паведамленняў з космасу?

А можа яна атрымала спадчыну і больш не было патрэбы хадзіць у офіс, увогуле, трымацца за рэальнасць. І яна проста знікла. Распусцілася ўнутры самой сябе.

Х. сказаў, што пытанні надта сур'ёзныя. І ён бы з радасцю падумаў пра ўсё гэта ў суседняй піцэрыі, за кубачкам кавы.

Мы міла прагуляліся па сцежках і дарожках. Да суседняй піцэрыі ў нашым раёнчыку паўгадзіны хуткім крокам.

Х. быў ціхі і спакойны. Занадта спакойны, як на колішняга мадэрніста. Сказаў, што ўсе памерлі з таго часу. Разам з самой эпохай. Нават калі робяць выгляд, што жывыя. Так што цяпер ужо не даведаешся, чаго чакалі, і ці дачакаліся.

Памерлі двойчы: першы раз, калі паверылі, што свет сапраўды на іх баку. Усе гэтыя прэміі, фестывалі, інтэрвію. Добрыя ганарары. Спецкурсы ва ўніверсітэтах. Палічылі ўсё гэта не пасткай, але ўзнагародай.

І другі, калі не сталі бунтаваць. Калі было канчаткова ясна, да чаго ўсё схіляецца.

Сам ён падняў бунт, але не пра тое. Падтрымаў, насуперак усім, чалавека, які аказаўся звычайным злачынцам. Потым пляваўся, канешне. Але было ўжо запозна.

Так здараецца, сказаў ён, і ў гэтым няма анічога страшнага альбо трагічнага. Цябе проста выкрэсліваюць са спісу. Хтосьці іншы будзе цяпер сціскаць тыя парэнчы.

***

Гэткім спосабам, мой мілы дэрвіш, і адбываецца тутэйшае жыццё. Хвіліны ціха перацякаюць у гадзіны, гадзіны стаюцца днямі, дні кладуцца

цаглінкамі ў месяцы і сезоны. Тут, у Берліне, асабліва ясна і абгострана адчуваеш, што нікому з *нашых* ужо не выпадзе доля стаць Вядомым Еўрапейскім Паэтам. Альбо Мысляром. Ці Музыкам.

Не толькі таму, што вядомы, папулярны аўтар, – гэта цяпер *работа машыны.* Не кон і не біяграфія, і зусім не тэксты, а надпіс на ўпакоўцы, дзе пасля коскі дбайна пералічаны ўсе ўзнагароды і фестывалі, пераклады і перавыданні. І зразумела, сістэма дыстрыбуцыі і продажу, лагістыка вядомасці, калі на паліцах у кожным мястэчку мусіць стаяць толькі *той, хто трэба*, і нікога болей.

Ёсць яшчэ адна прычына. Больш важная.

Вялікія бітвы ў мастацтве скончыліся. Да нашага нараджэння. У раннім новым часе, разам з тым, што калісьці называлася рамантызмам. Потым, у часы позняга мадэрну, кудысьці прапала і сама ідэя вялікасці, – у дачыненні да мастацтва, і гэта было апошняй кропкай.

Сённяшняе мастацтва – гэта партызанскія групы, якія вядуць сваю вайну з рэальнасцю без спадзявання не толькі на славу і вядомасць, але нават на месца ў каноне.

Можа, таму нам так соладка думаць пра Джойса і Шонберга, пра Паўнда з Эліятам і Джона Кэйджа. Нават пра Оскара Мілаша.

Яны былі першымі, хто пайшоў у лясы і палі. Без спадзяванняў.

Першымі, хто зразумеў мастацкі імператыў новай эпохі. Закон пяшчотнай адасобленасці. Узвышанай непрысутнасці ў занадта часовым.

Іх саміх дарэчы, спрабавалі прыручыць. Зрабіць часткай машыны.

***

А вось табе гэта давалася лёгка. Нават занадта лёгка. Ад самага пачатку. Маю на ўвеце непрысутнасць.

Як быццам ты ішоў па скраі, каля самай мяжы. Зазіраючы раз-пораз на той бок. У вымярэнне, з якога ўсе нашыя жыццёвыя варушэнні выглядаюць па-іншаму. Дзіўна і крыху смешна.

Дарэчы, мяне заўсёды ўражваў твой давер да рэальнасці. Я б нават сказала, вясёлая згода на тутэйшую карму.

Я ніколі не чула ад цябе скаргаў альбо абвінавачанняў, што рэальнасць нас падманула. Што мы патрапілі не туды, доля лядашчая, краіна адсталая, і нічога добрага з намі не здарыцца.

Колькі я памятаю нашыя размовы, ты наадварот, расказваў, як усё цікава. Як многа ўсяго тут адкрываецца. І што тутэйшая доля даецца нам за асаблівыя заслугі ў мінулых жыццях.

Я была больш скептычная. І памылялася.

***

Тут, у Берліне,мне часам здаецца, што месца, дзе мы нарадзіліся, гэта як далёкі-далёкі склеп, дзе ў правільнай тэмпературы падыходзяць рэдкія віны.

У ім альбо заціхаеш разам з небам, і працуеш з перспектывы стагоддзяў, для двух-трох сяброў, якім гэта сапраўды важна.

Альбо, і гэта таксама частка тамтэйшай долі, пачынаеш нервавацца, крыўдзіцца, і ўрэшце ўцякаеш – у пошуках іншага, у больш шчаслівыя месцы.

Такіх, уцеклых, таксама многа, і яны ўсім расказваюць, як яны выйгралі ад таго, што ўсё нарэшце змянілі. І што хаця б іх дзеці змогуць гэтым пакарыстацца.

***

Калі ж надта хочацца славы і павагі, лепей за ўсё, як у Б. Атрымаць пропуск тады, калі сляпы і ўжо ні за што не трымаешся.

Тады гэта можна нават скарыстаць, без асаблівай шкоды для душэўнага здароўя.

Я люблю пераглядаць яго ўспаміны.

Памятаеш, ты чытаў мне ягонае апавяданне, у адзін з першых вечароў. Пра Бібліятэку ў Бабілёне. Як касмічна тады гэта ўсё ўяўлялася.

Сусвет як Бібліятэка, апавядальнік, які падарожнічае ў пошуках Кнігі Кнігаў. Здавалася, аўтар – дэміюрг, які сядзіць на вяршыне гары, па правы бок Вечнасці. Гары, з якой бачна вельмі-вельмі далёка. І па-сапраўднаму.

А потым я прачытала, што Б. працаваў у той час у раённай бібліятэцы Буэнос-Айрэса. І *сусвет як бібліятэка* спісаны з гэтага жахлівага правінцыйнага кнігазбору, да якога трэба было гадзінамі дабірацца на трамваі, па пыльных вулках, праз падобныя адно да аднаго кварталы.

Усё астатняе, усё што мы тады соладка для сябе ўяўлялі: вялікі інтэлектуал, сусветная літаратура – усё гэта ўжо было пазнейшае. Цэтлікі, перадпродажная апрацоўка прадукту.

***

Зрэшты, тут усім ужо даўно не да Б. Усё скіравана на тое, каб забаўляць, бавіць і бавіцца. Калі штосьці й з'яўляецца *ўзвышана непрысутнае*, абавязкова знойдзецца крытык, які напіша, як гэта было нудна і старамодна, і што чытач гэтага не зразумее.

Баюся, у сённяшняй культуры "нудна" – гэта як *вораг народа* ў 30-я. Адразу прыходзяць канваіры і выводзяць – толькі не на расстрэл, а ў домік састарэлых, дзе такое ўсё яшчэ магчымае, але толькі як вінтаж і арт-хаўз, і толькі ў тэрапеўтычных мэтах.

Усе астатнія даўно спяваюць і танчаць – пад хіжую і навязлівую музычку мізэрнага часу.

І гэта ў краіне, якая прыдумала Касталію!

***

Я ведаю, я несправядлівая і злая. І я нават ведаю чаму. Толькі ад гэтага не лягчэй ні мне, ні тым, хто поруч.

Зрэшты, я не імкнуся нікому аблягчаць іх задачу.

Я проста ціха і маніякальна нязгодная з тым *новым і прагрэсіўным*, што з'яўляецца тут на сталах і паліцах кнігарань. І не збіраюся хаваць сваю нязгоду ад некаторых верных сяброў, якіх не бачыла занадта даўно.

І не скажаш жа, што народ не чытае. Выдавецтвы працуюць з перанапругай, кожны дзень на паліцы паступаюць новыя і новыя вырабы. Гісторый безліч, і яны ніяк не сканчаюцца. Калі верыць выдавецкім анонсам, там можна знайсці ўсё: інтэлектуальны раман, скандальныя хронікі, рамантычную гісторыю кахання, авангардны комікс пра снежнага чалавека.

Праўда, гэтая разнастайнасць падазроным чынам укладаецца ўрэшце ў фармат – у добра пралічаныя выдавецкія лінейкі, з серыямі і калекцыямі, бюджэтнымі пэйпабэкамі, дарагімі зборамі твораў.

Самі аўтары, такое ўражанне, таксама добра пралічаныя. Прыдуманыя і выгадаваныя там, у габінэце рэдактара. Потым, вядома, з'яўляюцца прыправы, адхіленні, і дарагія віны ў дадатак, але гэтаму ўжо не верыш.

Рэч у тым, што ўсе яны безнадзейна нармальныя і чым больш яны хочуць выглядаць *нетакімі-як-усе*, тым больш сумна і няёмка становіцца. Бо ўжо з трэцяй старонкі ты разумееш: аніякай прычыны быць *нетакімі* хлопчыкамі ў іх няма: і бацькі ў іх добрыя, і краіны, у якіх яны нарадзіліся, вызнаюць гуманізм і дэмакратыю, і жыццё яшчэ не падкінула ім пару падарунначкаў, як прынцу Гаўтаму.

А яны ўсё расказваюць пра невыносныя пакуты маладой лесбіянкі ў прыгарадзе Джэлалабада, потым кудысьці едуць па літаратурных стыпендыях... а потым развозяць кнігу па рэцэнзентах і далей ужо сядзяць на літаратурных сустрэчах, цярпліва распавядаючы хатнім гаспадыням, як многа яны перажылі.

Я баюся, што таксама патрапляю паводле іх класіфікацыі менавіта ў тэчку перажытае: штосьці не так з маім тварам, альбо з маёй вопраткай, што яны беспамылкова мяне туды размяшчаюць.

***

Зрэшты, большасць з іх заціхае пасля сарака, становіцца часткай машыны, займае свае месцы ў спісах выдавецтваў і на паліцах кнігарань, і ўсе гэтыя распушванні пёркаў, паўлінні гульні, аказваюцца толькі спосабам расчысткі прасторы.

Некаторыя пачынаюць крыху бунтаваць, трапечуцца, як муха, якая патрапіла ў павуту і апошнім высілкам спрабуе зразумець, што адбываецца, але прыходзяць санітары, даюць дозу, і яе ўжо хапае надоўга.

Такое ўражанне, што меў рацыю А.: тут ніхто ніколі не перамагае, хаця і не прайграе да канца. Гэта для мяне самае загадкавае ў мясцовым ландшафце.

***

І ўсё ж, ніхто не ў стане нас зразумець, акрамя немцаў. У нашых рэдкіх хваробах. І высокіх шаленствах.

Французы? І не гавары пра французаў.

Мілая падлеткавая нацыя. У стадыі невылечнай самазакаханасці. Адзіная магчымасць быць з імі – гэта стаць гэткім жа, прыняць, як свае, іх мілыя фішкі. Вывучыць мову, глытаць вустрыцы, бясконца паўтараць, што Дэкарт – сэ ля франс, і нават у гэта верыць.

Можа, калісьці даўно яны й жылі ў сталіцы свету і думалі *пра чалавецтва.* Але гэтая гісторыя скончылася. І здаецца, незваротна. Засталіся ўспаміны: фратэрнітэ, эгалітэ, лібэртэ. Інтэртэкстуалітэ. Культура, адным словам.

А немцы – не, яны дасюль у глыбіні душы пяшчотныя барбары, якім замала культуры. І замала рэальнасці.

А яшчэ трывога, непакой. Яны дасюль спрабуюць зразумець, што з імі *тады* адбылося. І хто насамрэч вінны, адкуль ішла спакуса.

Яны і цяпер, праз столькі год, баяцца люстэркаў.

***

Я думаю, Берлін са мной здарыўся як узнагарода. Альбо як апошні шанец. Ці нават як помста.

А можа быць, усё разам. І помста, і шанец, і ўзнагарода.

Пражытая ўтопія заўсёды меншая за саму сябе. Хаця ўсё ж такі большая, чым проста рэальнасць.

Я разумею, з Менску маё жыццё глядзіцца, як казка. Пра якую мы маглі толькі марыць.

Я жыву ў Берліне, працую ў авангардным тэатры, пішу музыку.

Часам выязджаю на ўзбярэжжа. На некалькі дзён. Паблукаць, падумаць. Адчуць подых акіяну.

***

Раз-пораз, праўда, я выпадаю са сваёй мілай утопіі. І патрапляю на мяжу сна і явы, у незразумелае месца.

Як быццам я ўсё яшчэ ў сне, хаця ведаю, што даўно прачнулася. Хаджу па сцэне ў выпадковым спектаклі, свабодная, нікому не патрэбная. Без ролі.

І вось недзе падчас другога акту, калі я ўжо пачынаю нудзіцца, – дзеяй і персанажамі, адкрываецца бакавы калідор, і адтуль пачынае цягнуць пройма.

Лёгкі цёплы ветрык. Прыемны, пяшчотны, і ў той жа час крыху трывожны.

А далей з’яўляешся ты і пачынаеш нашэптваць. Словы з зусім іншае п’есы.

Пра загадкі і таямніцы.

Пра тое, што ў надвячорку ёсць яшчэ адзін надвячорак.

Што ўсе матылі ў дзяцінстве былі хуліганамі.

І шмат вартавых каля брамы.

***

Зрэшты, я не ўпэўнена, што нашэптваеш менавіта ты.

Што ўсё засталося ў памяці так, як было насамрэч, і што я не прыдумала ўсё гэта сама. Хвілінку, вершы, нашыя блуканні. Тваю ўзвышаную непрысутнасць на ўскрайку рэальнасці.

І што я пішу гэты ліст, як і ўсе астатнія, уласна табе.

***

Яна крыху затрымалася на гэтай фразе.

Падышла да вакна, пастаяла некалькі хвілінаў, углядаючыся ўдалеч.

З вакна было бачна возера: дрэвы расступаліся, утвараючы алею, сцяжынка ішла ўніз да вады і так натуральна ў яе ўваходзіла, што, здавалася, можна было ісці па сінім люстэрку, на той бераг.

Раз-пораз у яснае надвор’е выплывалі яхты і пачыналі рабіць складаныя піруэты пад кіраўніцтвам нябачнага лідара.

Часам недзе далёка з’яўляўся абрыс парахода, які праплываў ціха, амаль без гукаў.

## 2.

Я яшчэ не расказала табе, як апынулася ў фраў Марты. І чаму.

Гэта доўгая гісторыя. З некалькімі пачаткамі, адхіленнямі, і пакуль з адкрытым канцом. Цяпер я разумею, што ўсё ішло да таго. І нават больш, я гатовая прамовіць, што ўсё было непазбежна.

Хаця слова “непазбежна” не з нашага лексікона. Лепш было б сказаць, што усё здарылася магічна.

Усё важнае і нечаканае адбываецца магічна. Пераход логікі ў магію – гэтым жыве музыка, і раней ці пазней яно цябе знаходзіць.

Асабліва калі жыццё з гатовасцю ўкладаецца ў прапанаваныя формы.

*Занадта часовыя, каб быць праўдай.* І тады пачынаеш чакаць цуду, альбо цудаў, у залежнасці ад ступені нахабства.

Чакаць, альбо крыху прыспешваць. Ці нават ствараць іх, чаму б і не?

***

Гэта было напрыканцы *слаўнай эпохі.* У Менску мяне пазнавалі на вуліцах, графік канцэртаў быў распісаны наперад, на тыдні і месяцы.

Крыху падточваў сумнеў, але, па праўдзе, ўсё выглядала не так ужо і страшна. Здавалася, гэта і ёсць свабода. Калі ты разумееш, чаго свет ад цябе прагне, і можаш на гэта пагадзіцца без асаблівай шкоды для душэўнага здароўя.

Шмат што было праспяванае, і за большасць рэчаў было не сорамна.

Але ўжо ішлі размовы, што трэба быць менш складанай, звярнуць увагу на знешні вобраз, даваць больш інтэрвію і канцэртаў.

І гэта пачынала напружваць.

***

Аднойчы мы сядзелі за столікам ў кавярні пасля выступу ў адным не самым вядомым варшаўскім клубе. І добры знаёмы, журналіст *выборчай*, пачаў задаваць пытанні. Для газеты.

Напачатку, ураханні ад польскай публікі. Крыху біяграфіі, крыху асабістых гісторый. Потым перайшлі да асноўнай часткі. І ён пачаў пытацца ў мяне пра дыктатуру, адсталасць, пра тое, як можна выжываць, *там у вас, сярод бяды і нястачы.* І ці не было ў мяне думкі пераехаць у больш цывілізаванае месца. Адным словам, пачаў выстройваць тую банальную карцінку пра нешчаслівых суседзяў з усходу, якая, пры праўдзівасці асобных дэталяў, правальваецца ў самай важнай, сутнаснай частцы.

Мне не хацелася спрачацца, і я вырашыла перавесці стрэлкі. Слухай, Войтэк, сказала я, наліваючы чарговы келішак тэкілы. А ці не хацеў бы ты запытаць у мяне штосьці пра музыку?

Я была светлай і пазітыўнай, гатовай абмінуць гэтае балотца.

Повем праўду, майму чытачу до дупы, цо ты мыслеш пра музыку, сказаў Войтэк. Ён ведае, што на ўсходзе страшна, і прагне падрабязнасцяў. Здагадваецца таксама, што там ёсць і добрыя людзі. Гэта ты. Вось табе нашая гісторыя. Гісторыя прагрэсіўнага артыста ў цёмнай і адсталай краіне са страшным і неадукаваным дыктатарам.

Ён не хацеў мяне пакрыўдзіць, ён проста рабіў сваю работу.

І шчыра хацеў мне растлумачыць маё рэальнае месца ў карціне свету. Каб я не блыталася. І не выглядала смешнай, са сваімі прэтэнзіямі на іншую ролю.

Потым я шмат разоў вярталася да гэтага здарэння. Спрабавала ўсё зразумець і ўсё яму патлумачыць. Знайсці патрэбныя словы. Расказаць пра эпоху комікса, пра змяншэнне маштабу і закрыццё далягляду. Патлумачыць, як працуе арыенталізм, і што такое барбары з усходу. (Не паверыш, я нават прачытала Саіда!). Але ўсё гэта прыдумалася значна пазней, пасля ўцёкаў, у маім берлінскім ашраме.

Тады ж у маёй свядомасці проста склалася карцінка, і я ўбачыла Машыну. Якая вытворвае месцы свету і заганяе нас туды, як шарыкі ў лункі. І калі ты не супрацўляешся, будзеш сядзець да канца жыцця ў ціхім вільготным загончыку.

***

Мяне такія рэчы кідаюць у халоднае вар'яцтва. Я раблю нечаканае, перш за ўсё для самой сябе.

Памятаеш, у Матрыцы, Нэа ў пэўны момант выбірае між ілюзіяй і пустэчай рэальнасьці. Трыніці прывозіць яго да Морфіюса, і той прапаноўвае выбар між дзвюма пігулкамі.

Я была тады дакладна ў падобнай сітуацыі. Ветліва ўсміхнулася, дапіла келішак тэкілы. Прыняла чырвоную пігулку. Расплюшчыла трэцяе вока.

Перасела да століка мясцовага гурта, які граў у кавярні штосьці неабавязкова бразыльскае: боса нову ці самбу, я ўжо не памятаю.

Праз пару хвілінаў я выйшла на сцэну і пачала співаць.

Я ніколі так не спявала. Ува мне штосьці прачнулася, дзёрзкае і небяспечнае. Я адчувала магію і натхненне, і свабоду. За свой столік я тады не вярнулася.

Хаця лепей было б сказаць, што я тады нікуды не вярнулася.

Я зразумела, што рэшту жыцця буду размаўляць з тымі, каму важна, што я думаю пра музыку.

***

Так пачалася мая асабістая лінія фронту. Вайна з рэальнасцю. Я б нават сказала, вайна *за рэальнасць*. Было ясна, што толькі мастацтва здольнае вярнуць свету сэнс, а нам разуменне.

Сапраўднае мастацтва. Але ў яго не так проста патрапіць.

Усе думаюць, што яно вельмі-вельмі далёка, і ў гэтым галоўная праблема. Ля скала, Алберт хол, Метраполітан Опера. Высокае і гарантаванае месца, адкуль на цябе важна глядзяць Бах, Моцарт ды іншыя *несмяротныя*.

І калі ты таго варты, а да таго ж табе пашанцуе і ты патрапіш у поле ўвагі – эпохі, публікі, дырыжора – яно будзе ўзнагародай.

А ўсё астатняе, гэта толькі папярэдняя падрыхтоўка, трамплін. Прамежкавае і дапаможнае.

І я так лічыла, у пэўныя моманты свайго жыцця.

Цяпер я разумею, што гэта могілкі. Прыўкрасныя могілкі, убраныя ў мармур, з кветкамі і званочкамі.

І, што лінія фронту зусім у іншым месцы. Сапраўдная лінія фронту. З героямі і бітвамі. Над якой лётаюць валькірыі.

Але тады, у Варшаве, я толькі пачала сваё падарожжа. Свой уласны пошук.

Пачынала разумець некаторыя істотныя рэчы.

***

Напрыклад тое, што музыка – не проста гармонія лічбаў, як думаў Піфагор. Ці ўдалыя спалучэнні гукаў, як думае паспалітая большасць. І нават не толькі эмоцыя, якой нагружаюць аднойчы знойдзеную гармонію таленавітыя выканаўцы.

Музыка патрабуе прасторы, яна ёсць у прасторы, надае ёй рытм і суладнасць.

Скрыпачка ў забытай карчме, стары даос, які грае на цы, седзячы ў гарах, сляпы бандурыст сярод полымя, які пяе славу дарашэнку, а вакол усе пасечаныя ляжаць.

*Гэта* важна, а не толькі канцэртныя залі і віртуозы.

Важна мець і адчуваць свае месцы, як унутры музыкі, так і звонку. Шукаць іх і ствараць.

Цяпер я разумею ўсю незвычайнасць залі філармоніі ў нашыя васьмідзясятыя. Усю яе ўнікальнасць. Адзінкавасць.

Жыццё разлінаванае і пралічанае, але ёсць прастора, дзе адбываецца цуд музыкі.

Бо музыка не толькі лічба, але і шурпатасць гуку, і краявід, унутры і звонку, і сэрцы, якія звіняць ад болю.

***

Старыя кітайцы лічылі, што існуюць таны і сугуччы, на якіх трымаецца космас. Ёсць і іншыя, што вядуць да пагібелі, катастрофы. Гукі, якія руйнуюць не гарады і будынкі, але сам свет.

Яны сыходзілі ў горы і лясы, гралі сваю музыку ветру і дрэвам, спрабуючы патрапіць у тон.

Знайсці гармонію, падтрымаць раўнавагу.

Для іх музыка была падарожжам у сады тайны.

***

Яна крыху павагалася з “садамі тайны”.

Гэта магло быць занадта сэнтыментальна. Альбо прэтэнцыёзна.

Ці проста незразумела. Прынамсі патрабавала расшыфроўкі, тлумачэнняў.

Яна паставіла зорачку і напісала больш дробным почыркам унізе старонкі:

*Сады тайны* – суфійскі (?) тэрмін, сапраўднае значэнне якога адкрываецца адэпту на вышэйшых ступенях узыходжання. У якасці паэтычнай метафары з’явіўся ў зборніку “Лісты з паўночнай затокі” беларускага паэта Францішка Рамулевіча.

Другі раз паўстаў у адным з лістоў спявачкі і кампазітара Эвы Дамінікі Вайтовіч у яе “берлінскі” перыяд. Абазначае разрыў з тэхнічным майстэрствам і ўвогуле з тэхнічным бокам музыкі, у той момант, калі само майстэрства і тэхнічны бок асягаюць свайго піку.

***

Вяртаючыся да ўцёкаў.

Я нічога не сказала. Але штосьці ўва мне незваротна змянілася. І зусім не так, як звычайна думаеш пра жыццёвыя павароты – якія мусяць адбывацца трагічна і запамінальна, з фанфарамі і духавым аркестрам.

А тут проста перагарнулася старонка, і распачаўся другі раздзел кнігі. Зранку я выкінула ў сметніцу каляндар з планамі і праектамі. Унутры было цёпла. Я зноў адчувала сябе сямнаццацігадовай, для якой свет толькі адкрывае свае лабірынты.

Я блукала па Варшаве, як быццам упершыню. Кожнае раздарожжа было святам і музыкай. Вабіла і запрашала ў дарогу.

На адным з іх я пабачыла Алехандро.

І вось тады ўсё сапраўды пачало мяняцца.

З фанфарамі і духавым аркестрам.

***

Ён стаяў на ціхай вулачцы, непадалёк ад Трох крыжоў, і граў на гітары.

Ведаеш, за сваё жыццё я нагледзелася на розных музыкаў. У тым ліку й на тых, якія лічаць важным і амаль абавязковым у пэўны момант выйсці навонкі і падзяліцца з народам сваімі дзесяццю акордамі. Я нават навучылася ставіцца да іх без паблажлівага скепсіса, з любоўю.

Але тут была зусім іншая гісторыя. Гэта было ясна без тлумачэнняў.

Гітара была канцэртная. Надзвычай дарагая. І было бачна, што ён грае для сябе. А можа, для космасу.

Тыя, хто жыве ўнутры музыкі, адчуваюць такія рэчы адразу. Як чалавек трымае інструмент, як ён бярэ гук, як чуе тое, што на выхадзе.

Пры гэтым ён не граў штосьці тэхнічна складанае, прызначанае для віртуозаў. Звонку можна было нават падумаць, што ён рыхтуецца, настройвае гістару. Так, асобныя гукі і сугуччы, з паўзамі і чаканнем.

Але ўсё гэта складалася ў цэлае!

Ён ствараў цуд музыкі на роўным месцы.

Раз-пораз спыняўся, як быццам яму самому хацелася паслухаць рэха альбо водгулле.

Я падышла і стала побач. Спачатку проста слухала і глядзела.

Потым пачала напяваць. Для сябе. Паралельна. Спраўджвала некаторыя гіпотэзы.

Ён усміхнуўся, і даў мне далучыцца.

***

Мне стала цікава – у чыста прафесійным, музычным сэнсе. Мы стаялі ў цэнтры Варшавы, сярод сумятні і бяссэнсіцы гэтага свету, і імправізавалі. Ці, лепш сказаць, эксперыментавалі. Як быццам на рэпетыцыі, альбо на музычным семінары ў кансэрваторыі. І зусім забылі пра публіку.

Мы былі ўсярэдзіне, напэўна, гадзіну.

А калі выбраліся нарэшце з гэтага лабірынту, вакол стаяў натоўп, як на невялікім канцэрце.

І не проста мамы з дзеткамі, альбо лянівыя турысты.

Гэта былі сапраўдныя слухачы! Было бачна, што музыка іх заспела знянацку, што яны паддаліся спакусе, хаця ў кожнага купа справаў і абавязкаў. Яны былі разам з намі ўнутры, а некаторыя яшчэ й разумелі, што адбывалася.

Я тады адразу адчула – павінен быць працяг. Мы былі напачатку ўсяго, шмат што мусіла яшчэ адбыцца. Размовы, дыскусіі, сумесныя канцэрты.

І не памылілася.

***

Я пакінула яму свой нумар тэлефона і сказала, што з радасцю працягну размову ў іншым месцы. Ён перазваніў праз гадзіну.

Мы дамовіліся сустрэцца на летняй пляцоўцы ў Лазэнках.

Зайшлі ў кавярню, пазнаёміліся яшчэ раз.

Увечары ў яго было выступленне непадалёк, у невялікай камернай залі. Ён даў мне прагледзець асноўныя тэмы. І прапанаваў выступіць разам. Так, як тады на вуліцы. Быць музычным альтэр эго, двайніком. Рэагаваць і працягваць, і ў той жа час шукаць штосці асобнае, весці сваю лінію.

Няма аніякіх правілаў альбо абавязкаў, сказаў ён. Канцэрт камерны і

прыватны. Пра нас не напішуць штодзённыя газеты, і нам не давядзецца ганяцца за музычнымі крытыкамі, расказваючы, як нечакана і арыгінальна было тое, што яны толькі што паслухалі.

Важна, каб нам самім было цікава. Каб музыка паўставала не з інструмента альбо голаса, а з самой прасторы. І заставалася ў прасторы, калі гукі ўжо заціхнуць.

Усё гэта ён расказваў мне ўжо па-гішпанску.

Было крыху смешна – мы пачыналі размову па-ангельску, але ў пэўны момант ён – незаўважна для сябе самога – перайшоў на гішпанскую. Надзіва, я разумела амаль усё. Мая рудыментарная французская ў адказ была сустрэтая з энтузіязмам. І далей мы міла абмеркавалі – на ёй – некаторыя дэталі.

***

Усё было зусім па-іншаму, чым гэта ўяўлялася напачатку.

Алехандро быў майстра. І ў яго была самая дасканалая каманда, якую я бачыла ў сваім жыцці.

Гэта не былі вулічныя музыкі, якія збіраюць касу на перапоўненых турысцкіх скрыжаваннях. І не прафесійныя гастралёры, што шчасліўяць правінцыйныя залі класічным рэпертуарам, даючы ілюзію далучанасці да вечнага.

Яны відавочна былі нечым большым – і іншым. Жылі разам, невялікай творчай камунай, пераязджаючы з гораду ў горад, з краіны ў краіну.

У іх быў план.

І яны былі ў падарожжы.

***

Знаёмцеся, гэта Хорхэ. Кухар, шаман і крыху адміністратар, па сумяшчальніцтве. А гэта Эва Дамініка. Нашая новая спявачка.

Так сказаў Алехандро, калі ў пакойчык зайшоў чалавечак, падобны адначасова да Карлсана, Віні-Пыха і ўсіх астатніх персанажаў дзіцячых мульцікаў.

Хорхэ здабывае для нас жытло і ежу, а ў перапынках вучыць мудрасці й апякуецца нашым душэўным здароўем, дадаў ён і абодва зайшліся дзіцячым смехам.

Потым, праз некалькі хвілінаў, зусім у іншым тоне – галантным і крыху трывожным:

Герміна, гэта Эва Дамініка. Эва Дамініка, гэта Герміна. Спадзяюся, вы пасябруеце.

А што, маем выбар? – сказала Герміна і першая падала руку для знаёмства.

Тонкія рысы твару. Мяккі, упэўнены голас. Арыстакратызм, у пятым ці шостым пакаленні.

Ясна, мы не мелі выбару.

Хаця і крыніцы трывогі былі зразумелыя. Дзве жанчыны ў адной камандзе, гэта амаль заўсёды суперніцы. Нават калі яны да гэтага не імкнуцца. Альбо гэта не ўсведамляюць.

Герміна прынесла праграму выступу – “Каментары й імправізацыі”. З ангельскім тэкстам ды якаснымі фотаздымкамі, аддрукаваную на добрай паперы. І відавочна не тут, у Варшаве.

***

Хорхэ адказваў за інфраструктуру. Дамаўляўся, арганізоўваў пераезды, друкаваў афішы. Быў сапраўды крыху шаманам.

Ён скончыў філасофію і літаратуру ў Буйнос Айрэсе, прыехаў у Еўропу рабіць дактарат, але нечакана для сябе адкрыў паспяховы рэстаран аргентынскай кухні.

Проста ўсе ведалі, што такое мексіканская кухня, сказаў ён мне, калі мы пасябравалі. Але ніхто не меў аніякага ўяўлення пра аргентынскую. Можна было рабіць што заўгодна.

Назва мусіла быць традыцыйная. Што-небудзь кшталту *La Parrilla. Argentinisches Steak-Restaurant*. А вось далей, калі заходзіш у сярэдзіну, пачыналіся цуды.

*Салат Хорхэ,* напрыклад. Пайшлі чуткі, што гэта ўлюбёны салат Борхеса.

Рэстаран квітнеў, наведвальнікаў станавілася больш і больш.

Там яны ўсе і сустрэліся, дарэчы.

***

Што рабіла Герміна, праяснілася не адразу. Яна паходзіла з вядомай прафесарскай сям'і. І ўсё ж такі раўнавала, хаця падставаў не было аніякіх.

Урэшце мы зразумелі адна адну. Нават пасябравалі. Асабліва калі я расказала ёй пра радавое дрэва, некаторых сваякоў з васямнаццатага і дзевятнаццатага стагоддзяў.

У часы нашай маладосці гэта назвалі б класавай салідарнасцю.

Потым я даведалася, што яна скончыла гісторыю музыкі. І што некаторыя музычныя ідэі і павароты – яе заслуга.

Да таго ж яна тут была адзіная з правільным еўрапейскім пашпартам. І калі паўставалі пытанні, заўсёды была на вышыні.

Аднойчы, у французскай правінцыі асабліва пільныя суседзі палічылі нас падазронымі.

Хорхе знайшоў жытло, досыць танна, у ціхім спакойным месцы. Былы замак. Лепей сказаць замачак. Ідэальнае месца для рэпетыцый. Тыдзень мы адтуль практычна не выходзілі. Наперадзе былі важныя канцэрты ў Ліёне, і мы рыхтаваліся.

Але суседзі пра гэта не ведалі і пазванілі ў паліцыю.

Тыя прыехалі хутка і з поўным наборам: жандармы, эксперты, фатографы.

Герміна зрабіла толькі адзін званок. І потым перадала слухаўку камісару – ці як ён там называецца.

Трэба было бачыць ягоны твар, як ён мяняўся цягам хвіліны.

Ад насцярожанасці і пагарды да галантнасці, ветлівай увагі і амаль шчасця напрыканцы, калі ўсё праяснілася.

***

Вяртаючыся напачатак.

Ім сапраўды была патрэбная спявачка. Алехандро ўмеў шмат што, але не адначасова. Да таго ж два чалавекі, гэта зусім іншы музычны матэрыял і зусім іншыя магчымасці.

І тое, што я раптоўна матэрыялізавалася, падышла да іх і засталася, выглядала як цуд і як падарунак. Божай Маці, лёсу ці проста выпадку.

Так сказаў Алехандро, і я зразумела, што прынятая ў каманду.

Я не адразу ўсвядоміла, што ўсё сур'ёзна. Напачатку здавалася, што гэта проста нечаканая прыгода. На тыдзень-другі. Яшчэ адна гастроль. Цікавая, экзатычная.

Я так і думала, праўду кажучы, калі забірала рэчы з гатэля і пераязджала да іх на кватэрку.

Калі б мне тады сказалі, што я завісну на гады, і ўрэшце застануся ў Берліне, я проста б не паверыла. Усміхнулася, сцепанула плячыма.

І ўсё адно пераехала.

***

Мы гралі ў камерных залях і прыватных апартаментах, на рынкавых пляцах і вулічных скрыжаваннях, начавалі ў сквотах, замках і пяцізоркавых гатэлях.

Можна было б назваць гэта эпохай бяздомнасці. Але бяздомнасці глыбокай. Насычанай музыкай. І сустрэчамі.

Хацелася абтрэсці з сябе ўсё неўласцівае. Усё што нам навязвае час. Усе прывязанасці. У тым ліку і да сябе. Да сваёй асобнасці.

Пакінуць толькі музыку.

І сябе саму, канечне, таксама. Але не тую, выпадковую, злепленую з падзеяў, якіх магло б не быць. А сябе іншую. Сутнасную. Адважную. І крыху трагічную.

Зрэшты, сустрэцца з сабой можна толькі тады, калі сябе губляеш. Ахвяруеш. Забываеш і забываешся.

Трэба было падысці да мяжы. Зазірнуць у люстэрка. Зразумець, што за гэтым адбіткам. За моракам надта чалавечага, які засціць і замінае бачыць.

***

Я не ўяўляла, колькі людзей кідае ўсё, каб проста блукаць па свеце. І якое гэта братэрства, насамрэч. Мы сустракаліся як астранаўты ў глыбокім космасе, радасна і пяшчотна. Раз пораз я пераглядаю, у памяці, твары ўсіх, нібы ў фотаальбоме.

Сівы кітаец, які граў на цыні, мы спаткалі яго непадалёк ад Порто, зусім аднаго, як яго туды занесла, ён так і не змог нам растлумачыць.

Бандурыст Олэкса з-пад Золачыва, які быў зусім не сляпым, а вельмі нават і відушчым, з маладзенькім павадыром-анархістам, яны пераходзілі ад аднаго сквота да іншага як ад вёскі да вёскі.

Старэнькія музыкі з-пад Андаў, што ўцяклі яшчэ ў маладосці, у часы Піначэта, і цяпер проста не маглі спыніцца. А можа, не хацелі, бо тыя, каго яны памяталі, каго любілі, і пра каго спявалі, былі цяпер на другім беразе.

Усе яны былі невыпадковымі вандроўнікамі, па-за мармуровай халадэчай вялікіх заляў, з важнай адукаванай публікай і гарантаванай увагай.

***

Аднойчы мы месяц жылі ў старым кляштары ў Італіі, амаль без манахаў. Разбіралі музычныя рукапісы.

Прыехалі на тыдзень, падрыхтавацца. На трэці дзень нас завялі ў скрыпторый і паказалі архіў.

Мы вярнуліся пасля канцэрту. І засталіся на месяц.

Герміна пазваніла дадому, да нас далучыліся яе сябры, гісторыкі музыкі.

Штораніцы мы збіраліся на сустрэчы – як быццам бы вярталіся ў дзя-

цінства. Да крыніцаў. У момант, калі ўсё пачыналася, усё было магчыма, і ўсё было магчымасцю.

Зрэшты, мы вывучалі ўсё гэта ў кансерваторыі, у курсе гісторыі музыкі. Больш ці менш падрабязна. Але тады гэта выглядала чыстай абстракцыяй. Здавалася, усё гэта прыдумала Аліна Янаўна – цётачка, якая выкладала ў нас гэты прадмет і даўно пагадзілася, што *нікомугэтанецікава*.

Менавіта там я зноў пачала пісаць. Зусім па-іншаму, чым у Менску. Нават пачала складаць оперу. І ясны пень, яна называлася “Сымон музыка”. Хаця самога тэксту пад рукой не было, а са школьных часоў у памяці засталіся толькі ўрыўкі.

***

Якой была мэта нашага падарожжа? Хто складае маршрут і вызначае пункты прыпынку? І ці мы збіраемся кудысьці даехаць?

Я не задавала сабе гэтых пытанняў. Напачатку.

Але ў пэўны момант некаторыя рэчы пачалі звяртаць на сябе ўвагу. Напрыклад, тое, што ў нас не было доўгага плана. Мы ніколі не абмяркоўвалі, дзе будзе наступны канцэрт.

У пэўны момант нешта здаралася. Як быццам у паралельнай рэальнасці. І мы зрываліся й ішлі наперад. Часам выглядала, што мы некага шукаем альбо пераследуем, так хутка ўсё адбывалася. Ці наадварот, уцякаем ад пераследу.

Пад канец я навучылася адчуваць гэта. Нават прадчуваць. Хаця растлумачыць уцямна, што менавіта, было складана.

За некалькі дзён да пераезда ў калідорах амаль заўсёды стаяў пах. Дзіўны пах. Аднойчы я запыталася ў Герміны, ці не чуецца ёй у паветры чагосьці асаблівага.

Нічога асаблівага, адказала яна. Звычайны *Cannabis indica*. З пакоя Алехандро. Там, дзе ён нарадзіўся, каля Рыа-Гранда, гэта практыкуюць стагоддзямі. Называюць расліну *mariguan*. Лічаць яе падарункам святой Марыі і святога Хуана. Адзіны добры падарунак белага чалавека.

***

Сам Алехандро называў гэта сеансам магіі.

Аднойчы мы з Гермінай зайшлі да яго падчас падрыхтоўкі.

Ён раскладаў прыставанні. Адмысловыя сподачкі для палення, файкі. Прапанаваў далучыцца. Герміна незадаволена прабуркатала, але ёй было відавочна цікава.

Зрэшты, бачна было, што для яе гэта не ўпершыню. Што яна ўжо была тут, і не адзін раз.

Ён сам усё падрыхтаваў, на трох.

Запавесіў фіранкі, паставіў дзіўную музыку – нейкія рытмічныя мармытанні пад бубен, і ўсё пачалося.

***

Тое, што я памятаю, было прыўкрасна.

Свядомасць застаецца. Абгастраюцца ўсе пачуцці. І з’яўляюцца новыя. Рэальнасць пераўтвараецца ў кнігу, старонкі якой можна перагортваць у якім-колечы кірунку, назад і наперад.

Алехандро з кімсьці спрачаўся. У далёкім куце. З кімсьці важным, адказным за ўсіх. *З таго боку.*

Мы размаўлялі з Гермінай. Я расказала ёй пра цябе, пра Багдана. Пра нашую сустрэчу ў інтэрнаце, з якой усё пачалося. Пра дзевяностыя, славу і ўцёкі.

Яна слухала з пяшчотнай увагай. Прызналася, што ўсё ж такі раўнавала. Хаця разумела ўсю неабходнасць.

Потым сказала, што хоча пабыць крыху са мной. Увайсці ў маё ментальнае цела.

Сказала, што такое магчыма, калі чалавек спіць, недзе недалёка. Але не толькі. Галоўнае – не баяцца сябе згубіць, адкрыцца другому напоўніцу.

Гэта было дзіўнае адчуванне. Як быццам мы крыху пераблыталіся. Я не магу гэта растлумачыць. Я гаварыла з Гермінай, але дакладна пры гэтым ведала, што размаўляю сама з сабой.

Я нават крыху помню, пра што была размова.

Прачнуліся мы ўдзвюх, без вопраткі, у ложку Алехандро.

Сам ён сядзеў у тым жа куту, цягнуў матэ і хітра на нас пазіраў.

Сказаў, што мы былі цудоўныя. Добра сябе паводзілі. І што яму было надзвычай цікава нас слухаць. Ён нават адарваўся ад сваіх звыклых спрэчак з *тым бокам*.

Я ўжо тады адчувала: усё занадта прыгожа, каб доўжыцца вечна.

***

Гэта адбылося пад вокнамі нашага дамочка. Непадалёк ад Парыжа. Мы жылі тут ужо месяц, у зацішшы. Як быццам некага, ці нечага, чакалі.

Герміна ўсё бачыла. Яна расказвала, што ўсё было як на запаволенай кінастужцы.

Звычайны вераснёўскі надвячорак. Кіроўца аўдзі цвярозы і няшчасны – яго, напэўна, не павысілі ў якім-небудзь аддзеле па продажах. А Алехандро крыху п’яны і шчаслівы – ён толькі што пагаварыў з духамі і ведаў, дзе будзе наступны прыпынак нашага падарожжа.

Яны сустрэлі адно аднаго на пустым пераходзе, як інь і ян.

Вось Алехандро спускаецца да брамкі, выходзіць на вуліцу.

Ідзе праз дарогу. Даходзіць да сярэдзіны. Спыняецца, пра штосьці думае. Потым абарочваецца, глядзіць у вакно і махае рукой, як быццам развітваецца, альбо перадае ад кагосьці прывітанне. Ужо адтуль.

Далей агні машыны, што вылятае з-за паварота, скрыгат тармазоў і гук удара.

І потым цішыня. Як быццам канец спектакля і апускаецца запавеса, глухая, пыльная, з чорнага аксаміту.

***

Мы не маглі везці цела ў Мексіку. Зрэшты, не было да каго. У яго не было сваякоў, маёмасць ён прадаў перад тым, як адправіцца ў падарожжа.

Хорхе арганізаваў месца на старых могілках, у правінцыі. З відам на мора. Герміна тыдзень піла і плакала. Я паклала на музыку Валеры і спявала на пахаванні.

Алехандро быў ціхі і прасветлены, як быццам нарэшце ўсё зразумеў і з усім пагадзіўся.

Падарожжа завершанае, сказаў Хорхэ. Ён знайшоў самае важнае месца, для сябе і для сваёй музыкі.

Там, у нябачным.

***

Застаўся архіў. Фрагменты, музычныя п'есы, нататкі.

Дзень у дзень я прасоўваюся далей і далей. Разбіраю паперы, чытаю і расшыфроўваю, класіфікую. Гэта цяпер мая работа.

Прыйшлося вучыць гішпанскую. Распачаць некаторыя амаль дэтэктыўныя *investigations*, што тычыцца яго мексіканскага перыду.

Яго постаць вымалёўваецца ўсё больш і больш дзіўнай. І сам ягоны праект для мяне прасвятліўся – я нарэшце пачала разумець, куды патрапіла.

***

Ён не быў вулічным музыкам, як гэта падавалася звонку. У яго была трагічная біяграфія, і бліскучая кар'ера.

Нарадзіўся ў сям'і тубыльцаў. Быў аддадзены ў кляштар, у прытулак. Ужо там выявіліся яго здольнасці да музыкі.

Далей усё было як у казцы. Ён пераходзіў ад настаўніка да настаўніка, ад майстра да майстра. Кампазітар, выканаўца, дырыжор – усё давалася яму лёгка.

Ён сам становіцца майстрам. А потым раптоўна ўсё кідае – і адпраўляецца ў падарожжа.

Ці была ў яго мэта? Куды ён скіроўваўся і чаго шукаў?

Ён пісаў пра сутнасную бяздомнасць музыкі ў нашую эпоху. Для якой у свеце больш няма месца. Канешне, ёсць кансэрваторыі і філармоніі, музычныя залі, зоркі і зорачкі, усяго гэтага многа. Квіткі вельмі дарагія, раскуплены на месяцы і гады наперад.

Але ўсё гэта *праміналае музыкі.*

Каб зразумець, возьмем аналогію з літаратурай. Уяві сабе, што большасць выдавецтваў займалася б тым, што бясконца перавыдавала даўна напісанае. І ў кніжных крамах стаялі б толькі розныя выданні Сервантэса й Гётэ, Бальзака і Гамера, Дантэ і Вергілія.

Была б і сучасная літаратура, канечне, але толькі як невялічкая палічка, недзе ззаду, у куце. Як дадатак, цікавы толькі вузкаму колу аматараў.

Лепш ужо бяздомнасць, беспрытульнасць. Лепей падарожжа, чым такі закуточак. Такі лёс.

***

У кансерваторыі ў нас была асобная спецыяльнасць – музыказнаўства. Да тых, хто там вучыўся, ставіліся з павагай, але і з дыстанцыяй. Ну, можа, не ўсе, але большасць дакладна. Лічылася чамусьці, што плата за веданне непамерна высокая. Што яны не ў стане патрапіць усярэдзіну, стаць уласна музыкай. Можа, гэта й так.

Але пытанні пра сутнасць, пра істоту можна задаваць па-рознаму. Могуць быць розныя сцежкі.

Адна рэч – прагнуць улады, імкнуцца да веды, каб панаваць, валодаць. І зусім іншая, тыкацца пысачкай ў гаючае разуменне, шукаючы паратунку ад наяўных формаў. Ад часовага.

У пэўны момант мне пачало здавацца, што я валодаю музыкай, што гэта майстэрства, прафесія. Пасля музычнай вучэльні і пяці год кансэрваторыі, у пэўным сэнсе, так і было.

А потым стала ясна, што гэта тупік.

Я зразумела, што мне мала проста ўмець. Я зусім не хачу займацца

музыкай – я хачу жыць музыкай. Адчуваць яе ў сабе як магчымасць. Як лёт над безданню. Як сон, што імкнецца навонкі.

***

Хорхе вярнуўся да сваёй рэстарацыі.

Герміна – ва ўніверсітэт.

А я засталася ў пустэлі рэальнасці. Завісла.

Зразумела, што яшчэ не час для вяртання. Што мне патрэбна, каб усё ўклалася, стала больш ясным.

У мяне на рахунку былі грошы. Дастаткова сур'ёзныя. Хорхе сказаў, што гэта мая частка агульнай долі, таго, што мы зараблялі, альбо нам пералічвалі дабрадзеі.

Гэтага хапала на два тры-гады спакойнага жыцця ў не надта дарагім месцы.

Але спакою якраз і не хацелася. І я выбрала дарагое.

Знайшла кватэрку ў самым цэнтры Берліна, з фартэпіяна ў гасцёўні і шырокім вакном на Шпрээ.

Раз-пораз выходзіла на вуліцу паспяваць – проста каб яшчэ крыху пабыць там, сярод людзей. Адчуць сябе часткай гэтага свету. І забыцца, канечне, – больш за ўсё хацелася забыцца, перастаць сябе шкадаваць. А што можа быць лепшым для забыцця, чым музыка?

Там мяне й пабачыла фраў Марта.

***

Я стаяла на вуліцы.

Спявала трагічна, для сябе. Зусім не так, як спяваеш, калі хочаш спадабацца. Няўтульнасць, відавочна, была на маім твары, каліўца бяздомнасці, а яшчэ, напэўна, крыху агіды да гэтага свету, які аніяк не ў стане прыняць ўзвышанае і знайсці яму месца.

Мяне пачалі асцярожна абыходзіць.

Ведаеш, як гэта бывае. Калі перастаеш быць *nice*. Мілай і прыязнай. Калі нікому няўцям, што здарыцца з табой ў наступную хвіліну.

Можа, ты проста схаваеш гітару і вернешся дадому. А можа, дастанеш бомбу і паспрабуеш узарваць гэты дурацкі свет разам з сабой.

Я зразумела, што сёння не мой дзень, што трэба вярнуцца, адпачыць, нарэшце падумаць, што рабіць далей, і пачала адну старую песню, на развітанне – пра тое, як за дахамі места памёркла пазалота нябёсаў і на вуліцы пціху сыходзіць змрок, на словы Багдановіча.

Я спявала і плакала, бо было ясна, што змрок сапраўды пціху апускаецца на горад, і нічога з гэтым не зробіш, можна толькі прыняць гэта і ўсім даравацць.

***

Яна была падобная да Лені Рыфеншталь. Надзвычай падобная. Першыя некалькі секундаў я была нават упэўненая, што гэта яна. Высокая, з тварам, нібы высечаным з камня скульптарам старой школы.

Падышла і сказала дзякуй, вы вельмі добра спяваеце. Сказала па ангельску, вельмі выразна, так, як гавораць дыктары на тэлевізіі, альбо акторы. І адразу прапанавала паехаць да яе, папіць добрай кавы і паразмаўляць. Гэта было ўжо дзіўна, такога яшчэ не здаралася. Я вагалася толькі хвіліну.

Мы селі ў таксоўку, заехалі ў невялікі прыгожы домік каля возера, на ўскраіне.

У гасцёўні стаяў стары раяль, ідэальна настроены.

Я выбрала некалькі нямецкіх песень, крыху габрэйскіх, потым перайшла на беларускія. Спявала Жылку, ягоныя вершы спадзявання. Памятаеш, я іх паклала на музыку яшчэ ў тыя нашыя часы, але спявала рэдка. Яны патрабуюць асаблівай атмасферы, душэўнай і трагічнай адначасова.

А тут нешта склалася, і пайшло само сабой.

І тут яна гаворыць, між іншым: “Дзякуй, я добра ведала аўтара гэтых вершаў”.

Гаворыць па-беларуску і зусім без акцэнта. Хіба што з вымаўленнем крыху старасвецкім, і таксама пастаўлена-акторскім.

І далей прапануе пажыць у яе. Год ці два, альбо нават тры, як атрымаецца.

***

Так я засталася ў фраў Марты.

Яна нарадзілася ў Менску і маленькай дзяўчынкай сядзела ў Купалы на каленях. Купала і Колас прыходзілі ў госці да яе бацькі. Той быў лекарам і кансультаваў палову адукаванага Менска.

Гэта ўсё, што я пакуль пра яе ведаю.

Хаця расказвала яна шмат, асабліва напачатку. Але пераважна пра тэатры. Берлінскія і не толькі. Многа гаварыла пра Вільню, пра тамтэйшы тэатар, перадваенны. Пра паэтаў і актораў, якіх ведала і з якімі сябравала.

Я, праўда, не зусім разумею, як можна было быць адначасова ў Менску і Вільні. Сябраваць з К. і з М.

Калі я спрабую ўдакладніць штосьці, пытаюся, што яна там рабіла і як туды патрапіла, яна проста ўсміхаецца і працягвае расповед.

Часам мне здаецца, што яна пачне загаворвацца і расказваць пра сваіх даўніх сяброў Скарыну і Сямёна Полацкага. Альбо пра Багушэвіча і Кіркора. Пра тое, як яна фліртавала з панам Адамам у Петэрбургу і як ён дапамог ёй у Парыжы.

***

Час тут цячэ зусім па-іншаму, не так, як звонку. Здаецца, што можа быць іншага, звычайны дамочак на ўскраіне Берліну.

Хаця ўскраіна тут – панятак вельмі умоўны. Сам Берлін злеплены з ускраінаў, кожная з якіх калісьці хацела быць і была цэнтрам.

Тут сняцца “калекцыйныя сны”. Я іх так для сябе назвала.

Гэта як калекцыйныя віны. Не проста глыбокія, і не проста невыпадковыя. Як быццам бы хтосьці, не ведаю хто, залазіць у свядомасць, дбайна і адказна вывучае біяграфію, падбірае сюжэты.

У маім выпадку ўжо смела можна складаць анталогію. Табе б яна спадабалася.

***

Аднойчы мне прыйшло запрашэнне на дзіўную сустрэчу.

Па пошце. У капэрце з вензелямі, на гербавай паперы.

Такой паперы я не бачыла ніколі ў сваім жыцці: шурпата-неахайная, як быццам з васямнаццатага стагоддзя.

Маёнтак быў на другім баку возера, стары, чымсьці падобны да па-

перы з запрашэння. Унутры ўсё было проста, хаця рэчы, відавочна, былі страсвецкія.

Дзверы адчыніў сівы хударлявы мужчына год шасцідзесяці, запрасіў у гасцёўню. Там сядзела некалькі чалавек.

Сапега, сказаў адзін з іх, працягваючы руку для знаёмства. Князь Чартарыйскі. Ежы Радзівіл.

Першая мая думка была пра клуб вар'ятаў, у які я нарэшце патрапіла.

Мы памятаем вашую прабабку, цудоўная была жанчына, сказаў Чартарыйскі.

Напэўна, я ўсё ж такі змянілася ў твары, таму што ён адразу дадаў: "Не, вы не падумайце. Я не вар'ят. І гэта не жартачкі. Мой прадзед пакінуў дзённікі. У сямейным архіве. У Швайцарыі".

Сапега падышоў да раяля і прайграў фрагмент з маёй п'есы. Сказаў, што тут просіцца штосьці іншае. Пачаў працягваць тэму, інправізаваць. Было лёгка і цудоўна.

Але тут я ўсё сапсавала. Калі можна так сказаць.

Мне падалося, што ў рэальнасці так не бывае. Што гэта ўсё мне сніцца і што варта ўшчыкнуць сябе – і я прачнуся.

Урэшце я гэта зрабіла, проста сярод размовы. Паднялася, прабачылася перад шаноўнымі гаспадарамі, і нахабна ўшчыкнула сябе за сцягно.

І сапраўды прачнулася.

***

Ёсць яшчэ адзін сон. Які, у адрозненні ад усіх астатніх, паўтараецца. Ён сніцца мне рэдка, і я яго звычайна не памятаю.

Нейкія ўрыўкі. Пасля абуджэння.

Так бывае, прачынаешся адразу ў рэальнасць, а потым раптоўна нешта праяўляецца, выплывае з ніадкуль, як далёкі ўспамін.

Нёман, недзе калі твайго мястэчка, я хачу перайсці на той бераг, да цябе. І не магу знайсці кладку. Спрабую ў розных месцах, заходжу па калена і разумею, што далей глыбіня.

Я нават бачу тваю хатку. Аднекуль ведаю, што гэта менавіта яна. Я не была там ніводнага разу, і не ўяўляю, як яна выглядае. Але пры гэтым там, у сне, я ведаю, што мы жывем разам, што гэта і мая хатка.

Ведаю, што ты там, і мяне чакаеш.

Мы шмат пра што не дагаварылі.

І шмат што праявілася толькі цяпер. Наўздагон.

***

Яна адышла ад вакна, спусцілася ўніз на кухню.

Перабрала посуд, памыла кубачкі.

Трэба было збірацца ў горад. Заехаць у тэатр, паблукаць па парку, пасядзець у кавярні. Але штосьці было не так у сённяшняй раніцы. І яна вырашыла затрымацца.

Згатавала яшчэ кавы. Вярнулася назад, у пакойчык, зноў дастала паперы, расклала на стале. І працягнула чытанне.

## 3.

Як міла мы тады цалаваліся! У нашую першую сустрэчу. Цяпер гэта не

выглядае ўжо так смела і непрыстойна. Але тады, пасля дзвюх-трох гадзін размовы, знайсці сябе ў ленінскім пакоі гістфакаўскага інтэрнату, п'яной і шчаслівай, у абдымках з амаль незнаёмым маладым хлопцам, імя якога раз-пораз забываецца сярод выпарэнняў крымскай мадэры, гэта было як праваліцца ў прадонне.

Са мной такое здарылася ўпершыню. Не тое, каб я была ўжо занадта абачлівая, наадварот. Хацелася каб прадонні былі сапраўды глыбокімі – толькі ў гэтым выпадку мела сэнс у іх правальвацца.

Штосьці адбылося тады з намі ўсімі. Штосьці асаблівае. І нечаканае. Як быццам сярод цёмных катакомбаў эпохі, у якой мы ўсе былі замураваныя, адчыніліся дзверы. Старыя, іржавыя, на месцы, дзе яшчэ хвіліну таму быў бетонны мур.

Праўду кажучы, я была гатовая на большае.

Я тады адчула *выйсце*, для ўсіх разам, і для кожнага паасобку.

***

Памятаеш сваю гісторыю пра Вялікага Павука?

Мы стаялі ў Хвілінцы, утрох, праз некалькі дзён пасля інтэрнату.

Ты нас сустрэў на ўваходзе, папярэдзіў, каб не пужаліся, і правёў праз доўгую-доўгую чаргу. У самы канец піцэрыі, да барнай стойкі. Самога бармэна яшчэ не было, да пачатку работы заставалася хвілін пятнаццаць.

Ты сказаў, што жыццё гэта месца, куды мы прыходзім папіць кавы. І не паспяваем агледзецца, як выпаўзае Вялікі Павук і пачынае плесці сваё павуцінне. Аплятаць не столькі цела, колькі свядомасць, нашыя думкі і памкненні.

Мы змагаемся, шукаем выйсця, ірвемся на свабоду. Пакуль не становіцца зразумела, што гэта аніякі і не павук. А сам свет бярэ нас у палон, захоплівае, і захапляе.

Ты распавядаў пра клешы і пра гуны, усё было складана, Багдан крыху засумаваў, я таксама, хаця не падала выгляду, нават штосьці ўдакладняла. Але потым...

Я стаяла між вамі, на нас пачалі аглядацца, ты перайшоў амаль на шэпт і далікатна паклаў рукі нам на плечы.

Я, па шчырасці, мала разумела, пра што насамрэч ты гаворыш. Пасля таго, што паміж намі адбылося у інтэрнаце, твой шэпт уводзіў мяне ў медытацыю асаблівага кшталту.

Мне нават няёмка прыгадваць, пра што я тады думала.

***

Гэта была неверагодная восень. Мы сустракаліся амаль штодня. Утрох. Я прапусціла больш заняткаў, чым за ўсе папярэднія гады.

Бацькі хваляваліся й ушчувалі, ім пазванілі з дэканата і паведамілі, што яшчэ адзін месяц лайдацтва і мая кар'ера скончыцца нават не пачаўшыся...

А мы тады зусім не лайдачылі. Мы проста былі самадастатковыя. Незалежныя ад часу. Былі космасам, замкнёным і дасканалым.

Цяпер я разумею, што гэта з-за маладосці. Яна п'яніла значна мацней, чым мадэра ў інтэрнаце.

Адкрытая будучыня, якая свяціцца на твары, як ліхтар. Магчымасці. Сцежкі.

***

Ад мяне чакалі выбару, а я не хацела выбіраць. Гэта складана растлумачыць. Мы ніколі пра гэта не казалі, але я ўсё бачыла і разумела.

Мы былі блізкія, максімальна блізкія. Адно да аднаго. У той месяц. Было соладка і прыгожа блукаць па менскіх завулках, сядзець у кавярнях. Адчуваць вашыя погляды. Дрыжанне голасу, выпадковыя і невыпадковыя датыкненні. Словы, паўзы, густое маўчанне.

Пяшчотная, прыўкрасная няпэўнасць. Якую немагчыма было доўжыць вечна, бо нічога вечнага не бывае.

Трэба было на штосьці наважыцца. Ісці далей.

Прызнаюся, я тады думала пра вар'яцкія рэчы. Забыцца на ўсё, заплюшчыць вочы, спаліць масты. Дазволіць сабе каханне. Утрох.

***

Гэта адчувалася вельмі моцна. Вісела ў паветры.

Вы спрачаліся. Вы ўвесь час спрачаліся. Напачатку ціха і разважліва, але потым раз за разам з мацнейшымі эмоцыямі, падвышаючы стаўкі.

І ўжо напружанасць пачынала завісаць у паветры, густая, падслепаватая, без аніякага выйсця.

А потым я стамілася. Лавіраваць між вамі двума. Здымаць напругу. Не даводзіць да канца некаторыя рэчы. Недагаворваць і недадумваць.

Зразумела, што давядзецца ўсё мяняць. Хаця ведала, усялякі выбар руйнуе сітуацыю. І не факт, што мы застанемся сябрамі.

Я тады чакала, хто першы прапануе разысціся. Узяць паўзу. Пачаць сустракацца ўдваіх, паасобку.

Але не думала, што гэта будзеш ты.

***

Ты пазваніў, у апошні момант, і сказаў, што захварэў, каб сустракаліся без цябе.

Я прапанавала адкласці, але ты запратэставаў, досыць рашуча, – і сапраўды, да сустрэчы заставалася пару гадзінаў, мы не паспявалі папярэдзіць Багдана.

Ён здзівіўся. Нават разгубіўся на момант. Потым пачаў гарэзіць і заляцацца. Быў вельмі мілы. Зусім па-іншаму, чым калі мы былі ўтрох. Неяк па-дзіцячы няўпэўнена. Раз-пораз прыгадваў цябе, як быццам хацеў чамусьці запярэчыць – але цябе не было, і пярэчанне завісала ў паветры.

Мы падышлі надзвычай блізка адно да аднаго, у тую сустрэчу. Але далей не пайшлі. Потым, праз шмат год, ён прызнаўся, што менавіта тады адчуў: сяброўства для яго больш каштоўнае.

Сяброўская блізкасць, ясная адпачатку. Калі не трэба гуляць у гульні. Можна проста быць сабой, не думаючы пра наступствы.

Ён зразумеў гэта і адразу неяк супакоіўся, пацяплеў. Вярнуўся да самога сябе. Стаў тым Багданам, якога мы ўбачылі ў інтэрнаце: вартым, надзейным, тым, хто трымае сцяг.

***

Вядома, я паехала цябе праведаць. І ясна, ты быў аніякі не хворы. Проста вырашыў разарваць заганнае кола, вызваліць – сябе і ўсіх нас.

Мы размаўлялі пяць гадзінаў запар, з перапынкамі на каву і супчык. Гэта

аказалася неверагодная раскоша, размаўляць сам-насам. І я падумала, што распасціся ў асобнасць – гэта таксама працяг, адкрывае зусім новыя краявіды.

А потым надышоў вечар, у цябе была бутэлька каньяку, і я засталася.

***

Мне тады падалося, што было больш пяшчоты, чым жарсці. Для першага разу. Як быццам старыя добрыя сябры дазволілі сабе больш, чым звычайна.

Цяпер я разумею, што магла застацца назаўсёды. І была б шчаслівая. Па-свойму. Па-іншаму, не так, як цяпер.

Але ты сказаў, што гэтая гісторыя з намі ўжо адбылася, мы яе аднойчы пражылі. У другіх жыццях. І цяпер на кану стаіць іншае. І большае.

Трэба шукаць сваю каравэлу. Ісці наперад, за небакрай.

Паабяцаў, што я буду з табой заўсёды, формай душы, а можа, нават і яе сутнасцю. Мы былі зусім п'яныя, і чамусьці хацелася апельсінаў.

Я тады амаль пакрыўдзілася, думаючы, што ты мяне адштурхоўваеш. Потым зразумела. Не адразу.

***

Я была закаханая, Францішак, ты пра гэта ведаў. У абодвух. І ў цябе, і ў Багдана.

І ў тое, што адбылося між намі, у інтэрнаце.

Можа, я й цяпер закаханая, але гэта ўжо зусім іншае пачуццё. Дваццацігадовай вытрымкі, яго вымаюць вельмі рэдка і дазваляюць крыху ап'янення ў асабліва важныя моманты жыцця.

Што з намі тады здарылася, у гэтым няшчасным пакойчыку? Як гэта назваць? Прарыў на вышыні? Выпадковы катарсіс? Сустрэча з конам?

Часам мне здаецца, што рэшта нашых жыццяў – гэта толькі постскрыптум да таго спаткання.

***

Самым складаным было пераадолець інстынкт уласніка. Жаданне затрымаць імгненне. Зразумець, што жыццё працягваецца. І ўжо падрыхтаваныя наступныя серыі: людзі, краіны, сны.

Я атрымала дыплом, і, нечакана для ўсіх, адмовілася ад кар'еры. Потым гэта стала легендай: казалі, што мяне чакала слава, грошы і месца ў Оперным. А я з'ехала ў мястэчка С., у музычную школу, выкладаць беларускі фальклор.

Усё было не так. Больш проста, але і больш складана.

Перш за ўсё я стамілася. Дзевяць год вучобы – гэта занадта.

Да таго ж я не была самай лепшай. Самай працавітай. І месца ў Оперным мяне зусім не чакала. Хіба што ў хоры.

Не, я зусім не расчаравалася. Мне хацелася застацца ў музыцы, але па іншаму. Хацелася рабіць іншыя рэчы. Думаць, чытаць. Заняцца кампазіцыяй.

Я не ведаю, колькі прыйшлося зрабіць бацькам, колькі знаёмых і знаёмых знаёмых абзваніць, пакуль яны знайшлі для мяне сціплую пасаду *выкладчыка ўсяго*. У мястэчку С., у музычнай школе.

***

Памятаеш, калісьці даўно, на гістарычным клубе ў Багдана я праспявала песню пра *ясну панну*, якая выходзіць да свайго рыцара. Страшна прыгожую,

і не маю. Яе ўсе тады спявалі. Там былі радочкі, якія закранулі мяне асабліва. Пра нашыя маёнткі ў пушчах, якія засталіся і якія ўсіх нас чакаюць.

Тады яшчэ выскачыла нейкая цёця, і пачала істэрычна крычаць, што яны хочуць вярнуць сабе маёнткі, а як жа народ, пра яго трэба думаць.

Я разгубілася і прамаўчала. Праспявала наступную, пра вядзьмарку.

А пасля выйшаў ты і адказаў цёці па поўнай праграме. Спакойна, і ў той жа час жорстка, па сутнасці.

Тут ёсць адна дадатковая асаблівасць, сказаў ты тады. Якая ўсё мяняе. Трэба браць пад увагу, што гэтыя радочкі напісаў беспрытульны паэт. А калі такое піша паэт, дык яны маюць зусім іншы сэнс, чым калі б іх прамовіў старшыня калгасу, дырэктар банку альбо нават нашчадак старажытнага магнацкага роду.

Гутарка ідзе не пра прыватную маёмасць.

А пра тое, каб пэўныя месцы сталіся важнымі для духа.

Таму, калі мы сёння гаворым пра маёнткі і фальваркі сярод пушчы, дык, перадусім, як пра месцы, дзе дух мае радзіму.

Трэба вярнуць іх ім самім. Вярнуць іх уласнай традыцыі.

***

Калі я патрапіла ў мястэчка, я была перакананая, што далучуся да гэтай традыцыі.

Там, у мястачковым палоне, было многа цішыні. Мне гэта падабалася, але і палохала. Тыдні і месяцы пацяклі скрозь пальцы, як вада, хутка і незаўважна. Казка расказалася і ўсё стала па-даросламу. Сур'ёзна – і неяк крохка.

Я не пратрымалася й году. Хаця побач былі дзеткі, з якімі забываеш пра час. Сябры, на адлегласці гадзіны электрычкі. Бацькі, для якіх я цяпер стала дарагой госцяй.

А яшчэ ўнутры, як немаўлятка, жыла мая музыка, і трэба было яе вынасіць, дачакацца.

І ўсё ж я з'ехала. Не змагла глядзець ім у вочы. Мне здавалася, што я зноў іх у чымсьці падманваю, як гэта рабілі мае продкі.

Цяпер я разумею, што спрабавала падмануць не іх, а сябе. Само жыццё, якому хацелася буяць ды ісці наперад, каласіць і разлівацца.

Жыццё, якое мусіла быць пражыта.

***

Першая песня, якую я склала, была несур'ёзнай, для дзіцячага ранішніка. Мы павесяліліся на славу, разам з дзеткамі.

Але гэта быў толькі пачатак. За першай адразу пайшла другая і трэцяя, зусім не дзіцячыя. Я проста мусіла гэтым падзяліцца, пабегла на электрычку, і ўжо пад'язджаючы да Менску, зразумела, што час цішыні скончаны.

Штосьці ўва мне патрабавала тады іншых абставінаў. Падзеяў, сцэны, новых сяброў і знаёмых.

Я зразумела твае словы пра ветразь і небакрай.

Вярнулася ў Менск. І села на сваю каравэлу.

***

І самае галоўнае – ўсё пачало ламацца, як быццам рэальнасць скранулася са свайго месца і паплыла. Сядзець унутры сябе далей было немагчыма.

Прыйшоў час карнавалаў. Радасць была паўсюль.

Старая эпоха была выстаўлена на распродаж.

Жыццё відавочна брала другі старт, мы былі перапоўненыя будучыняй як чыстай магчымасцю.

На нашых вачох нараджаліся новыя формы, крохкія і далікатныя. Кожная рэч, што паўставала, нібы гаварыла: прабачце, я магла быць іншай.

Мяне вынесла навонкі. Я стала вядомай.

Ёсць у гэтым пэўны наркотык. Калі ты выходзіш на сцэну, і адчуваеш як перад табой хвалюецца акіян. Чалавечых душаў. Альбо возера, ці нават маленькі ставок, не так істотна.

Галоўнае, што кожная нота, кожная інтанацыя – адгукаецца. І ты можаш рабіць цуды.

***

Дзе я толькі тады не спявала! Конкурсы і фестывалі, дамы культуры і злёты палітактываў, кавярні і сціплыя вогнішчы сярод лесу. Усё гэта вабіла, спакушала, мусіла быць пражыта.

А нашыя вечаровыя сустрэчы на ганку, у дома Ваньковічаў!

Раскладаўся абрус, краіліся хлеб, сыр і цыбуля, выстаўлялася піва, і ў свядомасці пачыналі граць жалейкі і скрыпачкі.

Далучаліся ўсе: сябры, прыяцелі, выпадковыя мінакі. Журналісты, з бліжэйшай рэдакцыі. Студэнты кансэрваторыі, з валторнамі і кантрабасамі. Паэты і празаікі. Проста добрыя людзі.

Кожны з іх прыносіў свой настрой, сваю музыку.

Потым, у сутонні, пачыналі падцягвацца й духі месца. Цені і цені ценяў, апярэзаныя восеньскай павутай. Яны стаялі на варце, адганялі міліцэйскія патрулі. Усіх тых, хто быў недарэчы, хто мог бы парушыць святочную атмасфэру.

Урэшце і самі далучаліся да карнавала, пад раніцу, недзе каля чацьвертай гадзіны. Калі адчыняліся дзюры у часе.

Для мяне гэта было больш, чым проста багема.

Па гэтых вулках хадзіла мая прабабка.

***

А потым усё асцярожна здзьмулася.

Цяпер я ведаю, як прамінаюць эпохі: ціха здзьмуваюцца, нібы паветраны шарык пасля свята.

І тут адбылося менавіта так. Павольна і падступна. Яшчэ ўчора поўніца, а сёння ўжо чагосьці не стае. Напачатку гэта ўспрымаецца як паўза, перапынак. Здаецца, ўсё неўзабаве вернецца.

Але не вяртаецца. Месяц, другі, трэці.

Пакуль не становіцца ясна: час незваротны.

***

Ты даслаў ліст. Пра тое, што ў свеце стала зусім пуста. І бессэнсоўна.

Я прыехала да цябе. Ты быў далёкі і халодны. Прадаваў хатку ў Крыжоўцы, шукаючы іншае месца і зусім іншую дыстанцыю да эпохі.

Я, па шчырасці, пералякалася. Сказала, што ад мяне ўсё адно не схаваешся, можаш нават і не спрабаваць. І адразу зразумела, як глупа гэта гучыць.

Мы рагаталі амаль гадзіну. Зноў пачалі цалавацца.

Гэтым разам усё было інакш. Тонка і жарсна, як быццам перад канцом света.

***

Мне здавалася, што я ўжо ведаю пра цябе і сябе ўсё ці амаль усё, а тут аказалася, што нашая гісторыя толькі пачынаецца. Што мы сярод прэлюдыі, першага акту.

Усё стала няпростым. Напачатку, калі мы знаёміліся, гэтыя маскі – паэт, спявачка, – здаваліся мілай гульнёй, якую заўсёды можна спыніць. Альбо перагуляць.

А тут стала ясна, што ўсё гэта сур'ёзна.

Ты распаліў вогнішча, адкаркаваў віно, выцягнуў на паветра стол і фатэлі.

Мы ўголас чыталі Рыльке, і даосаў, і позні Малер, канечне, быў прыўкрасны, у выкананні пабітай пераездамі і беларускай доляй *Мелодыі-103б стэрэа*.

***

Ты сказаў, што прыйшла новая эпоха. І цяпер трэба навучыцца гаварыць у цішыні. Сутнасна. Без сведкаў.

Запытаўся, чаму я так і не праспявала твае вершы? Тады я дакладна ведала адказ: каб спяваць, патрэбная ясная эмоцыя, якую можна пракрычаць уголас. Узмацніць яе яшчэ больш. Эмоцыя, якую можна перадаць людзям.

А ўсё, што ты пішаш, трэба прамаўляць трагічным шэптам у цішыні старога сада, без гледачоў.

Я паабяцяла, што калісьці абавязкова патраплю ў тваю прастору. У тваю эмоцыю. І не проста патраплю. А ўляпаюся па самыя вушы. Буду спяваць, як быццам я і ёсць гэты стары сад, і ў той жа час песня, музыка.

І вось я патрапіла. У стары сад, з домам і возерам.

Я тут жыву, блукаю па ягоных сцежках.

І мне зусім не хочацца выходзіць навонкі.

***

Быць свабодным: жыць і думаць унутры дазволеных формаў эпохі. Перамяшчацца, мяняць маскі.

Гэта магчыма. Калі сама эпоха стомленая ад самой сябе. Калі цвікі, якімі мы прыбітыя да рэальнасьці, іржавыя, ломкія.

Можна ісці ўбок, перпендыкулярна. Ці паралельна. Гэта таксама свабода, хаця й іншага кшталту.

А яшчэ кожны мае права на вар'яцтва, і на цішыню ўнутры.

На адасобленасць, як форму аскезы і ачысткі.

Магчыма, надыйдуць часы, калі ўсё будзе распадацца. І мы будзем абагаўляць простыя і цёплыя формы чалавечага свету.

Але не сёння. Не цяпер.

***

Ты застаўся за фіранкай.

Не пагадзіўся на занадта простае.

Мяне ж наадварот, скарысталі напоўніцу. Утылізавалі так, што прыйшлося збегчы. Выпасці ў нікуды.

***

Было адчуванне адчаю. І бязлітаснасці.

Як быццам я ўжо тады разумела, што ўсё завяршаецца, і абрывала апошнія нітачкі.

Перад самым ад’ездам я сустрэла Багдана. На прашпэкце.

Тады я была вычарпаная, спявала, як музычны аўтамат. Амаль заўсёды на замову, у гучную пустату натоўпу. Не магла сустрэцца сама з сабой тыднямі, а часам і месяцамі.

Аднойчы выйшла прагуляцца. У надвячорак.

Мы сутыкнуліся твар у твар на рагу Энгельса і праспекта, усміхнуліся без усмешак, памахалі рукамі, і пайшлі далей. І я, і ён, відавочна, былі настроены на самоту. Потым спыніліся. Зразумелі, што не бачыліся некалькі год. І што нельга, пасля ўсяго, проста памахаць рукамі і пайсці далей.

Павярнуліся, амаль адначасова. Абняліся, зайшлі ў кавярню. На тое самае месца. Там было штосьці італьянскае, здаецца, *Пацiя-піца*.

Ён выглядаў сумным і нешчаслівым. Ды й я была не нашмат лепшая. Але потым пачалі прыгадваць інтэрнат, нашыя сустрэчы, блуканні. І ўрэшце развесяліліся.

Ён прызнаўся, што праходзіў аднойчы паўз нас на Ваньковічах. Запаволіўся, чакаў, што яго паклічуць. Але самому падысці было няёмка. Быў нейкі прыём у амбасадзе непадалёк, яны абмяркоўвалі планы і праекты.

Пад канец мы напіліся. Чакалі, што адчыняцца дзверы і зойдзеш ты. Як заўсёды, важна, весела, зніадкуль.

Раскажаш, куды мы патрапілі і як адсюль выбірацца.

***

Тут, на адлегласці, я нарэшце зразумела Менск, у яго прасторавых і часавых несупадзеннях. Адчула ягонае сэрца.

Як ён разгортваецца і мяняецца. За тысячу год.

Вось ён зусім невялікі, прытуліўся вакол замчышча, на сутыкненні рэчак.

Вось ён аздоблены касцёламі і камяніцамі, караскаецца ўверх, на гару, каб *далёка бачыць*. Ратуша на пляцы, кляштары, кірмашы, шляхецкія соймікі. Студэнты мясцовага калегіюма няспешна шпацыруюць, абмяркоўваючы Томаша з Аквіну ды Францішка Суарэса.

Вось ён зусім іншы. Імкнецца ў сучаснасць. Ліхтары на вуліцах, тэлефон, электрастанцыя, гарадскі тэатар.

Вайна, хаос, гарадская брахалка, па якой ходзіць Мікіта Зносак з Герам Спічыні. Потым рэвалюцыя, чатыры мовы на шыльдах і танцы на вогнішчах. Прымерваецца да ролі сталіцы, асцярожна вырастае, увышыню і ўшыркі.

Потым – яшчэ раз вайна, руіны, павольнае загойванне ранаў.

І нарэшце – той Мінск, у якім мы нарадзіліся.

Спакойны, упэўнены, горад фізікаў і інжынераў.

Тры пляцы. Доўгі менскі праспект.

Камароўка і Зялёны луг. Уручча і Чыжоўка. Шабаны і Захад. Усё гэта адсюль, з Берліна, гучыць як далёкая казка.

***

Гэта мой горад. Насамрэч, ён вельмі маленькі і тонкі.

Чысты, дагледжаны і зноў халодны, як у тыя, далёкія часы.

І мы ў яго яшчэ вернемся. У ленінскі пакой, на Свярдлова, 34. У той

жніveньскі дзень, калі мы ўсе пазнаёміліся. Альбо ў Хвілінку – гэта не так істотна.

Сагрэем яго, насыцім сэнсамі. Застанемся.

Мілымі ценямі на ягоных вулках.

Абавязкова застанемся.

***

Яна падкрэсліла гэтыя словы тлустай падвойнай лініяй.

Дзіўна, але ў іх не было ані роспачы, ані расчаравання.

Толькі засяроджаная гатоўнасць працягваць падарожжа. Даведацца, нарэшце, пра свае вышыні, як калісьці напісала самотніца Эмілі. Яна прыгадвала сёння яе радкі. Зранку, за кавай. Гледзячы праз вакно на вазёрныя хвалі. У якіх адбівалася неба.

***

Перачытала апошнія абзацы.

Было крыху страшна. Напісала рэчы, ад якіх ужо не адмовішся. Маглі яшчэ быць гаючыя спасылкі і падрадковыя заўвагі, але асноўны тэкст скончаны. Усе кропкі пастаўлены, як і шматкроп’і.

Зразумела, што не можа адаслаць ліст па пошце. Яна мусіла перадаць яго асабіста, з рук у рукі, як падарунак.

## 4.

Калі яна сказала, што *едзе дадому*, фраў Марта заплакала. А потым прынесла з сутарэнняў бутэльку віна і пачала расказваць.

Гісторыя была прыгожая, сумнай і жахлівай прыгажосцю, як і сама эпоха.

Яна нарадзілася напярэдадні першай вайны. У Менску.

Тады яе звалі Эма Малковіч, і ў яе крыві былі перамяшаныя ўсе тутэйшыя расы.

У бацьку цякла габрэйская, у маці – беларуска-польская, з каліўцам татарскай. Яна пайшла ў маці: бландынка з блакітнымі вачыма, і высокай, ладнай паставай.

Бацька быў з заможнай габрэйскай сям’і, з камянічкай у цэнтры, на Захараўскай, і дамком на ўскраіне. У камяніцы была крамка, дзе прадавалі ўсялякую драбязу, а таксама кватэры, якія здавалі багатым сваякам.

З дзяцінства яна ведала, як складаць пацеры, што такое шабэс і чаму ў суботу нічога нельга рабіць.

Чула тры мовы. Потым да іх дадалася чацвертая. Нямецкая. На яе пераходзілі, калі хацелі сказаць штосьці важнае, не для ўсіх.

***

У Берлін ездзілі вучыцца. У кожным пакаленні мусіў быць хтосьці, хто меў прафесію адтуль.

Гэта пачалося здаўна. З самага дзяцінства ёй расказвалі гісторыю: яе прадзед паехаў у Берлін, і вярнуўся дадому з жонкай, якая не разумела ні на адной з тутэйшых моў. Гэта была легенда, але сам Берлін быў рэальнасцю.

Бацька таксама паехаў. Вывучыўся на лекара. Работы хапала пры ўсіх уладах, асабліва калі пачалася вайна, а потым рэвалюцыя.

Зрэшты, былі і нязгодныя. З заходнім кірункам. Брат бацькі выбраў Маскву. Пра яго доўга нічога не было чуваць.

Вярнуўся ў дзевятнаццатым, камісарам палка. Прафесію ён так і не атрымаў, але навучыўся лаяцца, як *сапожнік*, і піць гарэлку з матросамі.

Ад яго заўсёды дзіўна пахла. Бацька смяяўся і казаў – Азіяй.

***

Камяніцу рэквізіравалі, на патрэбы гарадской беднаты. Цяпер там жылі члены рэўкама з сем'ямі.

Дамочак застаўся. Потым яна зразумела, што іх выратавалі адлегласці. Дом стаяў не проста на ўскраіне. Ён быў схаваны ў тупічку, далей пачыналіся пагоркі і невялікае балотца.

Большасць сваякоў бацькі выехала ў Палестыну, шукаць новае месца. Сам бацька затрымаўся. Не змог кінуць пацыентаў, тлумачыў ён, але гэта было не да канца праўдай.

Сваякі маці засталіся на тым баку мяжы. Маці гадавала дзяцей і трымала гаспадарку. Яе гародзік і запасы ўсіх выратавалі, калі ўсё што можна было прадаць з мінулай эпохі, было прададзена.

А яшчэ сад, вялікі, які разросся. У дзяцінстве ён быў для яе сусветам, у якім можна было жыць, блукаць, хавацца. І бібліятэка бацькі. З кнігамі на розных мовах.

***

Ад самага дзяцінства яна марыла стаць акторкай, працаваць у тэатры. Але паступіла на лекарскі. Гэта не было прымусам, яна сама так вырашыла. Важна было працягваць сямейную справу, дапамагаць бацьку.

Затое вольны час карыстала напоўніцу. Грала ў студэнцкім гуртку, хадзіла ў студыю народнага танца, знаёмілася з акторамі і літаратарамі.

Адзін з іх нават прапанаваў ёй руку і сэрца. Ён ёй таксама падабаўся, яна сур'ёзна думала, каб пагадзіцца.

Але жыццё зрабіла ёй іншую прапанову. Якую не было магчымасці адхіліць.

***

Бацьку забралі як польскага шпіёна. Яны былі ўпэўненыя, што гэта памылка. Бацьку ведалі ў горадзе, любілі і цанілі, да таго ж добрыя лекары патрэбныя ўсім, ён сам так казаў, і быў заўсёды спакойны.

Спачатку забралі брата, за нейкі *уклон*. Што гэта такое, яны так і не зразумелі, хаця ім тлумачылі і не адзін раз.

Потым, калі нарэшце зразумелі, стала яшчэ горш.

Пасля прысуду маці зацялася. А потым патухла, як быццам жыццё скончылася.

Яна была ўпэўненая, што мусілі забраць яе, бо менавіта яна чытала польскімі літарамі і хадзіла ў касцёл.

За маці таксама прыйшлі.

***

Яна засталася з бабуляй і дзвюма сястрычкамі. Трэба было думаць, што рабіць далей. Як выжываць. Цяпер яна, адказная за ўсіх, мусіла шукаць варыянты.

Знайшла кватарантаў, здала два пакойчыкі ў доме. Уладкавалася ў шпіталь, санітаркай. Вучобу кінула, і не толькі таму, што не было часу.

Галоўнае цяпер навучыцца быць непрыкметнай. Такой, як усе. А на лекарскім яе ведалі, ведалі бацьку і ведалі, што адбылося.

Кінула таксама тэатральны гурток. Больш не было патрэбы ў адмысловай сцэне. Страшны тэатр быў паўсюль, спектакль ішоў дзень і ноч, бесперапынна.

Запісалася на курсы варашылаўскіх стралкоў. Была там самай лепшай.

***

Калі да яе падышлі двое, у цывільным, з пазнавальнымі тварамі, яна была спакойная. Ліхаманкава пралічвала, хто мог напісаць данос, і з якімі наступствамі.

Яна не верыла нікому. Ведала, што прыйшла яе чарга, і трэба адыграць ролю годна і прыгожа.

Яе пасадзілі ў машыну і завезлі на ўскраіну горада.

Па дарозе падбірала лінію абароны.

Напачатку хацела сыграць *ціхую*. Потым падумала пра альтэрнатыву. Істэрыку, ці эпілепсію. Альбо нават вар'яцтва.

Яе завялі ў габінет і папрасілі напісаць аўтабіяграфію. Максімальна падрабязна. З усімі сваякамі і знаёмымі. З успамінамі дзяцінства, сямейнымі гісторыямі. Апісаць, што стаяла ў пакойчыках, што расказваў бацька пра Берлін, як выглядала хатка звонку.

У арышт усё гэта ніяк не складалася.

***

Яе сапраўды заўважылі. Чатыры мовы, тэатар. Але прапанова была іншая. Школа выведкі.

Яна не адразу паверыла. А потым падумала пра сястрычак. І бабулю. Яны былі ідэальнымі закладнікамі. І у іх цяпер былі ўсе шанцы выжыць і памерці спакойна, сярод сваіх. Сваёй смерцю.

Урэшце, пагадзілася. Павагалася крыху, папрасіла час на роздум, але ўнутры ўжо ўсё вырашыла.

Паставіла толькі адну ўмову. Каб можна было клапаціцца пра сям'ю. Яе запэўнілі, што з гэтым праблемы не будзе, сваякамі займаецца асобная служба, забеспячэнне па вышэйшым разрадзе.

Бабуля і сястрычкі сапраўды выжылі ў тое лета. І памерлі сярод сваіх. Ад голаду. У Менскім гета, у 1943.

***

Іх вучылі вельмі старанна. Не шкадуючы часу. Карыстацца зброяй. Забіваць. Але толькі як дадатак. Асноўнай работай было іншае. Супадаць з асяроддзем. Слухаць. Выклікаць давер. Мяняць маскі.

Напачатку Берлін. Сціплая пасада сакратаркі ў амбасадзе. Яна прыглядалася, шліфавала акцэнт і манеры. Вучылася не выдзяляцца, быць як усе. Потым Варшава, з такой жа місіяй. Раз-пораз яе выпускалі з дробнымі даручэннямі. Потым Кракаў, паўгоду заняткаў у прыватнай акторскай студыі. І адтуль ужо Вільня. Барбара Кавальска, маладая акторка з крэсаў. У пошуках працы.

На месцы яна зразумела, якія крэтыны рыхтавалі ёй легенду. Жыць у

Вільні з імём Басі Кавальскай – гэта тое самае, што хадзіць па Дубліне з пашпартам Джона Сміта, сказаў ёй стары караім з Антокаля, які рабіў фальшывыя дакуманты для ўсіх, і пры ўсіх уладах. І на ўсялякі выпадак выдаў ёй дадатковыя паперы – на імя Ядвігі Граматовіч з-пад Ліды.

Яна ўпершыню адчула свабоду, дазволіла сабе крыху супасці з новым жыццём.

Іх, зрэшты, у яе было ўжо тры.

Яна магла ў любы момант прыдумаць чацвёртае, знікнуць і нарадзіцца наноў – напрыклад, у Аргентыне, альбо ў Бостане. Яна цяпер гэта ўмела.

Але ў Менску заставалася бабуля і дзве маленькія сястрычкі, і разпораз ёй пра гэта нагадвалі.

***

Ролі ў мясцовым тэатры былі толькі другога плану, а сам тэатар – пасля Берліну і Кракава – больш нагадваў драматычны гурток з жарсцямі, чым храм мастацтва.

Усё было па-свойску, па-тутэйшаму, амаль як у Менску. Усё тая ж гамана на вуліцах.

Толькі вуліцы былі іншыя. Вузкія і крывыя, яны, здавалася, вялі ў іншы час, а можа, і ў іншую рэальнасць.

Яна закахалася ў гэты горад. Многа чытала. Запісалася ва ўніверсітэт. Гэта было важна, там можна было знаёміцца, і сябраваць, і слухаць.

У тэатры ёй прыйшлося *недагульваць*. Нельга было звяртаць на сябе ўвагу. Быць геніяльнай, нават таленавітай.

Хаця часам хацелася паказаць усё, на што здатная.

Але, іншым разам.

***

Прадчуванне вайны было паўсюль. Разліта ў паветры. Самыя глупыя радаваліся. Афіцыйная прапаганда расказвала пра зухаватых уланаў, якія скачуць на конях да самага Берліна, праганяючы ворагаў.

Насамрэч, было шкада. І ўланаў, і коняў.

Яна ведала: з усіх бакоў мяжы стаяць жалезныя *чолгі*. Хіжыя, бязлітасныя, гатовыя разадраць на часткі.

Было ясна, што гэтая правінцыйная ідылія хутка скончыцца.

І яна скончылася. Уланы ўцяклі ў Румынію, разам з коньмі і залатым запасам. Тыя, хто ім паверыў, адстрэльваліся ў дотах і камяніцах. Да канца.

***

Калі ў горад увайшлі літоўскія войскі, яна нават не паклапацілася пра новыя дакуманты. Згубіла пільнасць, бо было ясна, што *Вільнюс мусу, Літва русу*, як пісалі ў Ковенскіх газетах. Гэта было справай месяцаў, а можа, і тыдняў.

Зрэшты, усё адбылося *добраахвотна*. І тыя, хто быў не згодны, альбо проста не паспеў уцякчы, цяпер сядзелі ў Лукішках. Ці ўжо ехалі ў Сібір у шчыльна набітых вагонах. Да свайго здзіўлення, яна таксама была затрыманая і адпраўленая ў камеру, як класава чужы элемент.

Яна правільна ўсё зразумела. Менавіта там, у камеры, адбыліся яе самыя важныя знаёмствы.

Яны спатрэбіліся, калі прыйшлі немцы, пачаўся хаос, і яна засталася адна, без кантактаў. Хадзілі чуткі пра разгром, сотні тысяч у палоне. На дарогах стаялі падбітыя танкі, раскарачаныя і спаленыя машыны.

Месяц яна пражыла ў здранцвенні.

А яшчэ праз месяц яе адшукалі людзі Судаплатава.

***

Яна крычала. Пра бабулю і сястрычак. Пра хлусню і закідванне шапкамі. Пра тое, што іх пакінулі ворагу без аніякай дапамогі.

Яе запэўнілі, што сем'і супрацоўнікаў эвакуяваныя, жывуць разам, ні ў чым не маюць патрэбу. Спеццягнік выйшаў з Менску на другі дзень.

Патрабавалася інфармацыя. Многа інфармацыі. Колькасць эшэлонаў, нумары частак, прозвішчы і пасады вайскоўцаў.

Пра тэатральную кар'еру можна было забыць.

Яна знайшла працу ў кавярні для афіцэраў. Афіцыянткай. Гэта было ідэальнае месца. Каб чуць і бачыць.

***

Паступовa пачалі вяртацца знаёмыя. Адчыняліся крамкі, кавярні. Пачалі выходзіць газеты, нават кнігі.

Ёй здавалася, што ўсе гуляюць супраць немцаў. Але ўсё было больш складана. Так, большасць гуляла супраць немцаў, але пры гэтым – усе супраць усіх.

Палякі, бо *ту завшэ была польска*. Літоўцы, бо Міндаўгас, і Гедымінас, і здраднік Ягайла. Беларусы, бо калі ўсе толькі за сябе, адзінае выйсце – схавацца, пераседзець, у лесе ці ў камендатуры, не так важна.

Немцы былі джокерам, той, хто быў здольны выцягнуць яго ў правільны момант, амаль заўсёды браў касу. Быў яшчэ адзін джокер, які пакуль быў у цені. За ўсім назіраў. Але ўжо было ясна, што раней ці пазней ён вернецца.

Па-за гульнёй былі толькі габрэі. Ім заставаліся ірвы і ямы.

***

Яна больш не магла на гэта глядзець.

Калючы дрот, зоркі на вопратцы. І твары, твары. На іх была пакута, і згода, і заклапочанасць. Самыя адчайныя раз-пораз уцякалі. Але большасць выбіралі смерць сярод сваіх. На вулках, намоленых стагоддзямі.

Яна была ўпэўненая, што аніякага спеццягніка не было. Усе тады былі ў паніцы, думалі толькі пра сваё. Бабуля і сястрычкі, хутчэй за ўсё, засталіся. Адзінае спадзяванне было на адлегласці: дамочак быў далёка, на ўскраіне.

За суседнім столікам малады афіцэр расказваў прыяцелям пра падарожжа. Ён толькі вярнуўся з Менску, дзе дапамагаў *канчатковаму вырашэнню*. Скардзіўся, што ніхто не хоча гэтым займацца. Расстрэльныя каманды прыходзіцца везці здалёк, з Коўна альбо нават Рыгі. Баепрыпасаў сыходзіць удвая больш, страляюць заплюшчыўшы вочы, абы-як. Прыходзіцца хадзіць самому і дастрэльваць. Альбо засыпаць яшчэ жывых. І тады зямля яшчэ суткі варушыцца і стогне.

Яна ледзьве стрымалася, каб не ўсадзіць яму відэлец у шыю адразу.

Дачакалася, пакуль ён выйдзе ў прыбіральню. Там ён і застаўся, з нажом

у спіне. Яна нават не спраўдзіла, ці ён мёртвы. Павесіла шыльдачку “не турбаваць”, вярнулася, разнесла некалькі замоваў, каб не быць першай у спісе.

І знікла.

***

Гэта была брудная работа. І месца ў гэтым горадзе для яе ўжо не будзе. Перадала праз сувязнога, што патрэбная эвакуацыя, тэрмінова.

У Менск ехаць было нельга. І праз Менск таксама. Там можна было толькі памерці. Разам з усімі.

Заставаўся адзіны маршрут – далей на поўнач.

Яна ўладкавалася ў шпіталь для афіцэраў. Пад Рыгай. Марта Шварц, з Брэслаў. Бацька немец, маці мясцовая. Так, вучылася ў Берліне. Медыцына. На жаль, не скончыла. Захацела быць акторкай, але пачалася вайна.

Лёгкі берлінскі акцэнт, пастава, манеры ледзі.

А яшчэ падабенства. Яна была зусім як Лені Рыфеншталь, хіба што больш зграбная. Гэта дапамагала, – аніякіх намёкаў і прапановаў.

З Рыгі было блізка да Швецыі.

***

У шпіталі яна сустрэла Франца.

Ён быў надзейны, і зусім не ваяўнічы.

Прапанаваў руку і сэрца. Паўжартам, і ў той жа час сур’ёзна. Сказаў, што не прэтэндуе на большае, чым сяброўства. Што ў яе будзе асобны пакой і час яшчэ раз падумаць – калі ўсё скончыцца.

Яму было сорак пяць і да вайны ён вёў сямейны бізнес. У трыццатыя сям’я паспела большасць справаў перавесці ў Швайцарыю. Але не ўсё. Застаўся дамок у Берліне і радавое гняздо ў Баварыі.

У войску працаваў ў тылавых службах. Забеспячэнне. Пераважна правіянт. Сам ужо не ездзіў, шукаць станавілася ўсё цяжэй. Знайшоў людзей, арганізаваў сетку. З яго боку грошы і паперы. Усё астатняе рабілі яны: паездкі, дамовы, закупы, нават рэквізіцыі. За невялікі працэнт ад угоды.

Ёй таксама патрэбны былі паперы. Для сябе.

***

Яны ўзялі шлюб за тыдзень да таго, як яго расстралялі.

Ягонай сеткай зацікавілася гестапа, і адсачыла яе аж да Стакгольма. На тым канцы была брытанская амбасада. Гэта яна дапамагала Францу з правіянтам, у абмен на дакуманты.

Яго арыштавалі на працы. За ёй прыйшлі дадому.

Лені Рыфеншталь зноў яе выратавала. Следчы ледзьве не падскочыў з крэсла, калі яе прывялі ў габінет.

Яна была падобная. Дакладная копія.

Так, вучылася ў Берліне. Медыцына. Але не скончыла.

Захацела стаць акторкай. Як Лені.

Усё гэта было праўдай. Ці амаль праўдай.

***

Следчы прапанаваў падпісаць сведчанні, і ўмову пра супрацоўніцтва. Яна зрабіла гэта не чытаючы. Крыху хвалявалася, – там магло быць што заўгодна. І ўсё ж падпісала.

Ёй параілі ехаць на радзіму. Далі суправаджальныя дакументы. Яна цягнула час, як магла, але заставацца ў Рызе было небяспечна.

І Стакгольм быў закрыты.

Адзінае месца, якое яна добра ведала – гэта Берлін. Але там яе маглі памятаць, як супрацоўніцу амбасады. Заставалася Баварыя. Альбо нават Швайцарыя, дзе жылі бацькі Франца.

Берлін не падыходзіў яшчэ па адной прычыне. Было ясна, што неўзабаве ўсё скончыцца. Нямеччына прайграла, фронт грымеў бліжэй і бліжэй. І менавіта ў Берліне мусіла быць апошняя бітва.

Яна паехала проста на захад, надалей ад лініі сутыкнення.

На захадзе, зрэшты, была свая лінія, і свой фронт. Альянты прарвалі абарону й імкліва наступалі. Урэшце яна патрапіла ў лагер уцекачоў, у Рэгензбургу. Запісалася як Ядвіга Граматовіч, з-пад Ліды.

Але праз месяц пайшлі чуткі, што ўцекачоў вяртаюць назад. І яна пацягнулася ў Баварыю, шукаць сваякоў Франца.

***

Была толькі сястра. Яна трымалася насцярожана, недаверліва распытвала падрабязнасці. Потым прыехалі бацькі, якія адразу ўсе зразумелі.

Франц быў герой, расстраляны нацыстамі. І сведкам была яна, Марта, ягоная жонка.

Ёй прапанавалі ўгоду. Дом у Берліне і працэнт з сямейнага капіталу, калі атрымаецца штосьці захаваць. Узамен да канца жыцця яна мусіла заставацца фраў Мартай, удавой нямецкага героя. Сведчыць і пацвярджаць у выпадку неабходнасці.

І яшчэ. Яна была свабодная ў сваім асабістым жыцці. Сябры, каханкі, нават дзеці, усё гэта яе справы. Але, калі б яна захацела ўцяць шлюб, маёмасць адыходзіла назад да сям'і.

Яна пагадзілася. Потым зразумела, што тыя анічога не гублялі.

Дом быў у Берліне, у заходняй зоне. І там размяшчаўся шпіталь амерыканскага акупацыйнага корпусу.

Ёй далі пакойчык у прыбудове. Пайшла працаваць у шпіталь, так было больш спакойна.

***

А потым на яе зноў выйшла выведка. Амерыканская.

Яны захапілі архіў гестапа і натрапілі на справу Франца. Справа была ясная, але там было яе прозвішча і подпіс. Лейтэнант хваліў яе за дапамогу. Выходзіла, што менавіта з ейным саўдзелам атрымалася абясшкодзіць цэлую сетку брытанскіх шпіёнаў.

Яна ўсё расказала. Пра Менск і пра Вільню. Пра Франца, пра ўмову. Яна стамілася ўвесь час быць кімсьці іншым. Хацелася ўрэшце стаць сабой, хаця б для кагосьці.

Следчы быў здзіўлены. Паўгоду цягнулася паўза. Яе правяралі.

Прыязджалі ўсё новыя і новыя людзі. Даводзілася прыгадваць дэталі: як выглядала разведшкола, як іх рыхтавалі, як звалі настаўнікаў і навучэнцаў.

Пакуль аднойчы не прагучала прапанова, якую ў сваім жыцці яна ўжо чула не адзін раз.

І яе зноў адхіліць было немагчыма.

***

Легенду не прыйшлося шукаць доўга. Ясна, акторка. Гэтым разам – таленавітая і ўжо не маладзенькая. З трагічнай біяграфіяй.

І дамочак прыдаўся. Была патрэбная база ў Заходнім Берліне, для падрыхтоўкі і пераходу. Дом быў ідэальным месцам. Шпіталь вярнуўся на радзіму і яна засталася адна, у дзесяці пакоях і прыбудове.

Перааформілі дамову. Ужо персанальна на яе. Цяпер яна была адзіным уласнікам, не залежыла ні ад кога.

Грала ў тэатрах. На адным месцы доўга не затрымоўвалася, прымала кожную новую прапанову.

Урэшце адкрыла персанальную студыю, з адмысловай праграмай. Нават прыдумала ёй назву: *Марта і Магдалена*.

***

У студыі вучылі на шпіёнаў.

Акторскае майстэрства, з элементамі краязнаўства і адаптацыі на мясцовасці. Адмысловы курс. Яна сама яго распрацавала. У школе, якую яна скончыла, былі заняткі па тэхніках распазнавання чужых, спосабах праверкі. Трэба было прыдумаць контр-тэхнікі, магчымасці абыходу.

Курсантаў прывозілі невялікімі групамі, па пяць-шэсць чалавек. Сялілі ў пакойчыках на першым паверсе.

Заняткі адбываліся ў гасцёўні.

Яна расказвала як пераўвасабляцца, быць незаўважным. Выклікаць давер і сімпатыю.

З адной з курсантак яна пасябравала. Хаця якраз гэта было забаронена. Магдалена Вярбіцкая. Магдачка. Гэта ў яе гонар была названая студыя.

Назад ніхто не вярнуўся.

***

Пабудавалі сцяну. Курсантаў станавілася ўсё меней. Яны цяпер прыязджалі не групамі, а па адным. І не на падрыхтоўку, а на кансультацыю. Перад амбасадай альбо афіцыйным візытам.

Акторская кар'ера таксама прайшла кульмінацыю і цяпер паціху ішла ўніз. Гэта яе задавальняла, стала больш вольнага часу, для роздумаў і чытання. Зрэшты, яна ведала ўсіх у гэтым горадзе, і пры жаданні магла прэтэндаваць на любую ролю.

Галеч і разруха канчаткова адышлі, забыліся. Жыццё ішло далей, краіна станавілася заможнай і ўпэўненай. Яна пачала падарожнічаць: жыла ў Парыжы і Амстэрдаме, лётала ў Сінгапур і Буэнас-Айрэс.

Паўгоду правяла ў Амэрыцы, на перападрыхтоўцы. Дамочак за гэты час таксама перападрыхтавалі: нашпігавалі тэхнікай, антэнамі і прыёмнікамі. Пад іншую задачу: сачыць за эфірам, слухаць размовы, чужыя галасы. Слухаць і расшыфроўваць.

***

Але ў прыватным жыцці нічога не мянялася. І аднойчы яна зразумела: усё застанецца, як ёсць. Да самага канца.

Клёны і платаны вакол дому. Сцежка да возера.

Раніцы, што поўніліся здзіўленнем і мілымі клопатамі. Дні, падобныя

адзін да аднаго, як быццам іх запаўнялі пад капірку. І самотныя вечары з кнігай альбо музыкай.

Кнігі гаілі, лекавалі. Сэрца адпускала, яно зноў мела здольнасць звінець і адгукацца.

А яшчэ келіх добрага віна пад вечар. Пасля яго немагчымасць паразмаўляць, камусьці адкрыцца ці паскардзіцца, ужо не здавалася непапраўнай.

Яна пачала вучыць напамяць ролі з улюбёных п’есаў. Тыя, з якімі ўжо ніколі не патрапіць выйсці на сцэну.

І ўспаміны. Яна пачала іх паціху запісваць.

***

Калі ўпала сцяна, базу закансервавалі.

Яна хацела паехаць у Менск. Альбо ў Вільню. Сачыла за навінамі. Нават набыла квіток да Варшавы, каб вырашыць ужо там, на месцы.

А потым штосьці здарылася, унутры яе. Яна здала квіток і перастала пра гэта думаць.

Што менавіта, яна зразумела потым, праз некаторы час.

***

Не было да каго вяртацца. Усе, каго яна памятала з таго жыцця, ляжалі ў ямах і кар’ерах. І яна таксама. Дзяўчына, якая хадзіла калісьці па менскіх вулках і адгукалася на імя Эма, цяпер ляжала разам з усімі ў безыменнай магіле.

Яна памёрла ў той момант, калі адмовілася паміраць, калі апранула маску, а маска прырасла і стала тварам і адзіная магчымасць жыць – гэта працягваць быць Мартай, спявачкай з Брэслаў, удавой нямецкага героя.

Кола замкнулася. Яна была заўсёды чужая. І ў агульнай віне, і ў агульнай смерці.

***

Але і гэта не ўсё. Не самае важнае.

Пытанне было не ў тым, што там нікога няма. І не ў тым, што няма каму вяртацца.

Яна баялася, што духі яе не прымуць.

## 5.

За берлінскія часы назбіралася так многа рэчаў, што фраў Марта прапанавала везці багаж асобна. Цягнуць гэта самой было нерэальна.

Кнігі, дыскі, вопратка, сувеніры. Паперы Алехандро, жалейкі і свірысцёлачкі з розных кантынентаў. А яшчэ падарункі. У тэатры, калі даведаліся, што яна вяртаецца дадому, зладзілі развітальны канцэрт. Сабраліся сябры і калегі, усё было нечакана душэўна. І амаль кожны лічыў патрэбным падарыць штосьці запамінальнае.

У выніку дырэктар паабяцаў дапамагчы, адправіць рэчы асобным кантэйнерам, як рэквізіт.

Эва Дамініка пазваніла ў Менск, дамовілася, што яго там сустрэнуць, калі яна раптам затрымаецца па дарозе.

А яна акурат планавала затрымацца.

***

Гэта як выходзіць з глыбіні на паверхню: калі занадта спяшаешся, можаш атрымаць кесонную хваробу.

Хуткасць у такой справе супрацьпаказаная.

Лепш набліжацца ціха і павольна: два дні ў Варшаве, дзень у Беластоку, крыху паблукаць па Гародні. І далей аўтобус, які павязе яе праз палі й узгоркі, з прыпынкамі ў невядомых вёсачках і вядомых мястэчках, прыпынкамі, на якіх можна будзе надыхацца паветрам, вярнуцца ў гэтыя краявіды, сапраўды адчуць сябе дома.

Чамусьці менавіта гэты аўтобус быў найбольш жаданым, хаця яна ніколі не вярталася з Гародні аўтобусам. Не была нават упэўнена, што такі існуе. З вёсачкамі і мястэчкамі.

Яна ўяўляла яго пустым, старэнькім, крыху разбітым. Але вельмі ўтульным.

***

Апошні раз выехала ў горад, па звыклым маршруце. Даехала да Фрыдрыхштрасэ, спусцілася ўніз, у вір і тлум вуліцы, прайшла праз галерэі крамак, без шкадавання мінула ліпавы бульварчык. Потым рашуча налева, і вось нарэшце, французская царква, скверык з яе ўлюблёнымі клёнамі, у якім яна правяла столькі часу.

Гэта было магічнае месца, пляц цішыні, так яна калісьці яго для сябе назвала.

Пасядзела на лаўцы, на развітанне.

Вярнулася на станцыю. Недзе побач, на Альбертштрасэ, мусіла быць рэстарацыя Хорхе. Перайшла масточак, знайшла рэстарацыю.

Самога Хорхе не было. Замовіла хатняга аргентынскага, пасядзела.

Урэшце, пакінула паштоўку. Падпісала яе па-гішпанску.

Пасля работы з архівам Алехандро гэта было нескладана.

***

Яна не блукала па Варшаве з часоў сваіх уцёкаў. Гатэльчык месціўся за два крокі ад Кракаўскага, цалкам неблагі, нягледзячы на дзьве зоркі.

У гатэлі праверыла мэйл. Лістоў было ажно пяць. Звычайна ніхто не пісаў тыднямі, а тут выстраілася чарга па яе ўвагу.

Два запрашэнні на фестывалі. Ліст ад агента, з прапановай паўдзельнічаць у конкурсе на музычную стыпендыю ў Зальцбургу, для “маладых кампазітараў”.

Ліст ад Хорхе. Ён дзякаваў за паштоўку.

Ліст ад Фраў Марты. Гэта было самае дзіўнае.

Яна ніколі не бачыла фраў Марту з кампутарам. Тым болей не ўяўляла, што тая карыстаецца электроннай поштай. І ўжо ясна не давала ёй сваю адрэсу.

Фраў Марта пісала, што дасылае копію тэстамента, але спадзяецца на сустрэчу ўжывую.

***

Зайшла ў кнігарню. Пашукаць добрую чытанку для *палёў і ўзгоркаў*. Карцінка ўсё яшчэ стаяла перад вачыма: старэнькі аўтобус, вёсачкі і мястэчкі, кніга на каленях.

А вось і яна, ляжыць на самым бачным месцы.

*Фэрнандо Пэсоа, Кніга непакою.*

Імя аўтара ёй анічога не гаварыла. Але метафара была дакладная: сады тайны, сады непакою. Яна ўзяла кнігу і скіравалася да касы.

Выйшла на вуліцу і пайшла няспешна, у пошуках утульнага месца. Раптам зусім па-іншаму адкрыўся Новы свет, з яго маленькімі крамкамі і пяшчотнай гаманой звонку. Тут схавацца было прасцей, чым на Кракаўскім. Сапраўды, усё адразу знайшлося: кавяранька, столік каля сцяны, подушка. Усё, што трэба, каб на гадзінку заціхнуць, забыцца на знешнія формы.

Разгарнула кнігу. Зразумела, што не памылілася: непакой быў сапраўдным, без імітацый. Стала ўзнёсла і радасна, як быццам у вязніцы, сярод цёмнай глухой начы пачуліся гукі з суседняй камеры, *ад незнаёмага сябра.*

Яна правалілася ў чытанне і зусім забыла пра далейшыя планы.

Непадалёк, на рэцэпцыі, яе ўжо чакалі арганізатары.

***

Канцэрт быў у камернай залі, той самай, у якой яны выступалі з Алехандро, і гэта здзівіла. Яны дамаўляліся пра клуб альбо кавярню, з утульнай сцэнай і неабавязковай праграмай. Але ўсё было больш сур'ёзна.

Вядучы прадставіў яе як вядомую спявачку і кампазітара з Берліна. Расказаў пра жыццё, адзначыў, што яна спявае на пяцёх мовах. Падкрэсліў, што яе творы выконваюцца на трох кантынэнтах і сталі ўжо класікай новага музычнага авангарду.

Гэта было падобна на праўду, але праўду не пра яе, а пра нейкую іншую Эву Дамініку.

Яна спявала Рыльке, элегіі. Потым фрагменты з *Сымона-музыкі.* І нечакана для сябе *Le cimetière marin*, напрыканцы. Памяці Алехандро.

Калі скончыла, некалькі секундаў у залі была цішыня.

Потым апладысменты. Шал апладысментаў.

***

Беласток быў спакойны. Тут не было канцэрту, ніхто не ведаў аб прыездзе *вядомай спявачкі.* Сабраліся вузкім колам, старыя сябры, з часоў першых Басовішчаў.

Было цёпла і душэўна. Заехалі ў леснічоўку ў глыбіні пушчы. Пагулялі па лесе, пасядзелі каля вогнішча. Было адчуванне, што яны патрапілі на дзесяцігоддзі назад, у часы, калі ўсё толькі пачыналася.

Спявалі ўсе разам. Вярнуліся пад раніцу.

Маршрутка да Горадні адыходзіла ў 13.30. Там яе чакаў прыемны сюрпрыз, як напісалі арганізатары. Яны абяцалі замовіць гатэль і прасілі не хваляваццa. Пагуляць сваім звычайным маршрутам. Сустрэча каля Новага Замку, у 18.30.

Крыху бянтэжыла, што не мела іх тэлефонаў, толькі электронную пошту. Але ведала час і месца, і гэтага мусіла быць дастаткова.

***

Мяжу праляцелі хутка, без глупых пытанняў – *навошта,* і *з якой мэтай,* і *чаму так доўга адсутнічалі.*

Маршрутка збочыла з трасы, няспешна праехала праз горад і спынілася на пляцы перад чыгуначным вакзалам.

Яна сама папрасіла яе не сустракаць. Хацелася ўвайсці ў горад ціха і незаўважна, як цень, прывід з мінулага. Але выйшла з маршруткі і раптам зразумела, што не ведае, куды ісці засяляцца. Яна не перапісала адрэсу гатэля. Не памятала нават назву.

Пацягнулася на вакзал, пагледзець расклад, на ўсялякі выпадак. Усё той жа начны цягнік. Столькі разоў яна вярталася ім з Гародні, і амаль заўсёды з сябрамі.

Можна было набыць квіток, здаць торбу ў камеру захоўвання. Потым прагуляцца па горадзе, паспяваць, і спакойна загрузіцца ў купэ. Яна стала ў чаргу да касы. Але ў апошні момант вырашыла ўключыць роўмінг і праверыць інфармацыю.

Прыйшоў смс, на яе берлінскі нумар. Арганізатары віталі на радзіме і нагадвалі адрас гатэля. Ён быў зусім блізка, за пару кварталаў.

***

Часу да сустрэчы было якраз, каб прайсціся па вулках, прыгледзецца, падыхаць паветрам.

Яна пайшла пешкі, старым маршрутам. Уніз па Ажэшка, далей на Савецкую. Спусцілася да сінагогі.

Потым да Каложы. Села на лаўку пад сцяной.

Калісьці ў яе быў цэлы рытуал: абыйсці вакол, дакрануцца да сценаў, пасядзець поруч. Тут заўсёды было спакойна і ціха.

Выцягнула тэчку з лістом Францішку, расклала аркушы. Перачытала некаторыя фрагменты.

Адразу за ракой быў бачны пералесак, з соснамі і прыгожым пясочкам. Там вельмі добра дыхалася б, падумала яна, і ледзьве не пацягнулася назад да моста. На той бераг.

Глянула на гадзіннік. Да сустрэчы заставалася зусім мала.

***

Публіка была дзіўная. Яна чакала свядомую моладзь, а таксама тых, хто *памятае*, людзей свайго пакалення. Нават прыдумала адмысловую праграму, каб было цікава ўсім, кожны мог знайсці штосьці для сябе.

Але ўсё было не так, як яна сабе ўяўляла.

Купкі моладзі кружлялі вакол, неяк насцярожана. Непадалёк стаялі бабулі, са значкамі і сцяжкамі. А яшчэ нейкая група людзей сярэдняга ўзросту, яны таксама падыходзілі й адыходзілі, як быццам не былі ў чымсьці да канца ўпэўненымі і хацелі нешта спраўдзіць.

Адсутнічалі толькі арганізатары.

Яна расчахліла гітару, узяла некалькі акордаў. Потым ціха, для сябе, пачала спяваць *пра жахлівых анёлаў*.

Народ пачаў падыходзіць бліжэй, збірацца колам, услухоўвацца.

***

Тры хлопцы злева пачалі пляскаць у далоні, вельмі гучна, і Эва Дамініка зрабіла эфектную паўзу, чакаючы канца авацыі.

Але апладысменты не заканчваліся. Больш за тое, у яе было цьмянае адчуванне, што пляскалі зусім не ёй.

Ці, больш дакладна, гэта значыла яшчэ штосьці.

Да таго ж, у хлопцаў былі нейкія самотныя засяроджаныя твары, зусім

не як пасля сустрэчы з прыгажосцю. Як быццам праз хвіліну яны збіраліся скокнуць у прорву, альбо ўзысці на шыбеніцу.

Бабулечка справа выцягнула нейкую газету, пачала крычаць пра зніклых і махаць рукамі.

Гэта, напэўна, было нейкім тайным знакам, таму што ўсё раптам заварушылася. Хлопцы сталі ў карэ і выцягнулі расцяжку *за нашу і вашу свабоду*. Невялічкая група пачала спяваць *Магутны Божа*.

Аднекуль прыбег тоўсты і смешны чалавек у міліцэйскай форме. З аховы. Прасіў разысціся, не парушаць грамадскі парадак. Потым камусьці званіў, крычаў у тэлефон пра несанкцыянаванае мерапрыемства, патрабаваў дапамогі.

Было адчуванне, што яна патрапіла ў іншае месца, а можа, нават у іншы час. У якім усе адзін аднаго ведалі, і разумелі, што адбываецца.

А яшчэ здавалася, што яна штосьці наблытала, і яе канцэрт запланаваны зусім не тут.

***

З’явілася легкавая машына. Хутчэй за ўсё, дапамога, якую выклікаў міліцыянт. Наперадзе было аддзяленне, пратакол, магчыма штраф.

Цудоўнае вяртанне. Яна ўжо забыла, што такое бывае.

Было адчуванне абсурду, як быццам яе ўставілі ў даўнюю гісторыю. З якой яна калісьці ўцякла і ў якую яе гвалтоўна і нечакана вярнулі.

Усё было знаёмае аж занадта.

Яна столькі разоў уяўляла сабе свой прыезд, першае выступленне на радзіме, але да такога дадумацца не магла.

Раптоўна ёй стала весела. І ўтульна. Захацелася абняць усіх, хлопцаў, бабулек, міліцыянта, сказаць ім, каб не хваляваліся. Усё ўрэшце будзе добра, і з імі, і з краінай.

Яна ўжо ведала, што напіша ў пратаколе. Магчыма, нават паспявае, там, у аддзяленні. Гэта будзе фантастычны канцэрт, лепшы ў яе жыцці!

Машына падкаціла бліжэй. З яе выскачылі два дужыя хлопцы і пабеглі да яе. Абдымацца.

Гэта былі арганізатары.

***

Яны выбачыліся за спазненне, пасадзілі яе ў машыну, перакінуліся словамі з дзецюкамі і бабулькамі, штосьці шапнулі міліцыянту на развітанне і няспешна ад’ехалі.

Ужо ў салоне яшчэ раз прабачыліся. Сказалі, што баяліся размінуцца, таму й прызначылі сустрэчу ў самым вядомым месцы. Сам канцэрт будзе ў Батлейцы, без публічнай рэкламы. Але няхай яна не хвалюецца, публіка збярэцца, і не самая горшая.

Хлопцы відавочна былі знаёмыя. З ранейшага жыцця. Але з якога? Яна ніяк не магла прыгадаць, хаця памяць на твары ў яе была амаль ідэальнай, акторскай.

І яшчэ адна рэч крыху муляла.

Яна дакладна памятала, што Батлейка знаходзілася ў іншым баку горада.

Там другая заля, камерная, пра яе мала хто ведае, – сказаў кіроўца, быццам прачытаўшы яе думкі.

## 6.

Павярнулі ў вузенькі завулак, спыніліся. Зайшлі ў кавярню. Прайшлі яе наскрозь – барная стойка і тры невялічкія столікі, каля вакна, і спусціліся па калідоры ўніз, у сутарэнні.

Надзіва, сутарэнні былі значна больш прасторныя. Раней тут месцілася таварыства сляпых, патлумачыў кіроўца. Потым начны клуб, першы ў горадзе. Зусім нядоўга. Гаспадары ўцяклі праз месяц, памяшканне выставілі на аўкцыён. Сённяшні ўласнік перадаў нам яго ў карыстанне, за сімвалічную плату.

Раз-пораз мы ставім тут спектаклі. Ведаеце, асабістыя запрашальнікі, магічны тэатар, усё такое. Гэта дзейнічае нават лепш, чым рэклама.

Вось тут злева грымёрка, з усім неабходным. Заля – далей па калідоры. Цяпер там ідзе падрыхтоўка, можаце схадзіць паглядзець. Кава ці гарбата? Я папрашу Ядзю, яна згатуе.

Калі патрэбная дапамога, звяртайцеся.

І яшчэ. Спадар Леа просіць прабачэння, што не сустрэў Вас асабіста. Гэта ўласнік кавярні. Ён сказаў, што вы калісьці былі знаёмыя. Ваш выступ тут – ягоная ідэя.

Так-так. Спадар Леа. Ён просіць сябе так называць.

***

Усе грымёркі, у якіх яна рыхтавалася, былі падобныя адна на адну. Але гэтая была іншай. Большай, чым звычайна. Як быццам разлічанай на цэлую трупу. Зрэшты, калі раней тут быў начны клуб, гэта не дзіва.

Вялікае люстэрка на ўсю сцяну, як у балетнай школе.

Афішы спектакляў – відавочна чыясьці старая калекцыя. Варшава, Прага, Парыж. І маскі, паўсюль маскі.

Прадчуванне было добрае. Надзвычай добрае. Як дваццаць год таму, калі яна толькі пачала выступленні. Яна даўно так сябе не адчувала перад пачаткам.

Пахла морам і дарагой парфумай.

На момант ёй падалося, што яна ў Берліне, у грымёрцы фраў Марты. І што фраў Марта недзе побач. У залі, альбо ў суседнім пакоі.

***

Яна пачала разглядаць маскі. Некаторыя пазнавала. П'еро і Мальвіна. Японскія маскі з тэатра Но. Грэцкія, кітайскія, персіцкія багі.

З адваротнага боку на масках былі подпісы, быццам хтосьці баяўся, што акторы могуць усё пераблытаць.

Яна падумала, што й яе твар, яе сапраўдная роля, можа быць недзе тут, сярод усяго. Тая, што прызначана толькі ёй. На сённяшняе выступленне. А можа, і на ўсё жыццё.

***

Адна маска забрала яе ўвагу. Яна вісела асобна, крыху ўбаку, як быццам яе павесілі спецыяльна перад яе прыходам. Прыгожы жаночы твар, са стылізаванымі кітайскімі рысамі. Альбо персіцкімі. Яна падышла бліжэй.

На адвароце па-ангельску была напісана: танцорка Гай Сунь. І далей дробным шрыфтам тлумачэнне: яе танец з мячом натхняў паэтычных шаленцаў дзесяці эпохаў.

Што за эпохаў, незразумела. Але з паэтычнымі шаленцамі было прыгожа. Заставалася даведацца, што значыць танец з мячом. Калі ён падабаўся

паэтычным шаленцам, наўрад ці гэта было штосьці вайсковае. Ён мусіў быць нейкі іншы, не такі, як звычайна.

Але які іншы?

Побач, на сцяне была намаляваная кітайская сцэнка: танцорка з чырвонай стужкай танчыць у невялікім пакоі. Вакол сядзелі людзі. Напэўна тыя самыя паэтычныя шаленцы.

Самае дзіўнае ў сцэнцы была перспектыва. Карціна была выцягнутая ў глыбіню, як быццам хтосьці зазіраў праз вялікае вакно ўглыб, у іншую эпоху.

Побач былі намаляваныя дзверы. Занадта вялікія, як для карціны. Дыспрапарцыйна вялікія. Яна магла б увайсці ў іх, крыху прыгнуўшыся. Калі б захацела.

Няясна праўда куды: у карціну, ці ў суседні пакой.

Яна прымерыла маску: тая легла на яе ідэальна, другім тварам.

***

А можа, дзверы зусім не маляваныя?

Яна чытала пра такое: у старых тэатрах абвязкова мусілі быць патаемныя калідорчыкі. Якія дазвалялі акторам з'яўляцца ў залі раптоўна, быццам зніадкуль. Добра, калі б тут было нешта падобнае.

Яна падышла бліжэй. Дзвярная клямка была сапраўднай.

Яна пастаяла крыху, а потым асцярожна пацягнула за клямку.

За дзвярыма быў кароткі, метраў на пяць, праход. Далей фіранка, за якой хутчэй за ўсё выхад на сцэну. Ці ў залю, у які-небудзь незаўважны кут.

Яна ціха, на дыбачках падышла да фіранкі і праз шчылінку пагледзела навонкі.

***

Заля была невялікая, але вельмі ўтульная. І ў ёй відавочна ішлі апошнія прыгатаванні.

У цэнтры размяшчаўся подыюм з пілонам. Вакол подыюму стаялі столікі, крэслы і канапкі. Сцэна была крыху ўбаку, да яе вяла аксамітная дарожка.

Рыхтаваліся да падзеі. Расстаўлялі крэслы, праціралі столікі.

Было адчуванне свята, амаль як у дзяцінстве.

Адміністратарка павярнулася тварам і стала ясна: гэта фраў Марта, толькі вельмі-вельмі маладая, з тых далёкіх часоў, пра якія яна расказвала. Вільня, Рыга, можа, нават Менск. Той Менск, у які яна так і не вярнулася.

На сцэне стаяў Алехандро са скрыпачкай і штосьці распавядаў Герміне. Хорхэ сядзеў за пультам, рэгуляваў асвятленне. За цэнтральным столікам сядзеў чалавек, вельмі падобны да Леа. Таго Леа, дваццацігадовай даўніны, які стаяў за стойкай бара ў Хвілінцы.

Было такое ўражанне, што яе тут даўна чакалі.

***

Яшчэ гадзіну таму яна блукала па Горадні, а перад тым ехала ў маршрутцы, сядзела з даўнімі сябрамі ў лясной хатцы пад Беластокам. Не было аніякага месца, якое б яна не памятала ясна і дакладна.

І ўсё ж зараз было адчуванне, што з рэальнасцю штосьці не так. Як быццам яна незаўважна для сябе недзе збочыла са сцежкі і цяпер патрапіла ў адзін са сваіх берлінскіх сноў. Пасля якіх так дзіўна было прачынацца.

Зрэшты, прачынацца зусім не хацелася. Наадварот, было страшна

цікава, што будзе далей. Калісьці яна ўшчыкнула сябе зарана, ды так і не даведалася, чаго хацелі ад яе Сапегі з Радзівіламі.

Гэтым разам яна не зробіць такую памылку. Будзе ісці наперад, сніць свой сон да самага канца, як бы дзіўна, ці нават страшна ўсё ні выглядала.

Яна вырашыла гэта і адразу супакоілася.

Вярнулася ў грымёрку, расчахліла гітару. Дастала тэксты. Узяла некалькі акордаў, паспрабавала распецца.

***

Была яшчэ адна версія. Зусім фантастычная.

Магчыма нейкі дэміюрг, невядомы Аўтар, недзе побач творыць сваю рэальнасць. І там, у гэтай рэальнасці, яна толькі адзін з персанажаў, інструмент аўтарскай волі.

Яна паспрабавала сабе гэта ўявіць. Падумала, што быць *інструментам* зусім няпроста. Іншае самаадчуванне, іншая эмоцыя.

Уявіла, што ў адной з паралельных рэальнасцяў, калі б аўтару не хапіла фантазіі, магла не сустрэць Алехандро, а паехаць у Менск. Альбо яшчэ раней застацца ў драўлянай хатцы, у Францішка. Нарадзіць дзетак. Выкладаць музыку ў музычнай школе. У суседнім мястэчку.

І ўсё было б па-іншаму і яна была б іншай.

Падумала пра лабірынт і пра нітку. Штосьці вяло яе у лабірынце свету. Але што? Раней яна думала, што музыка была такой ніткай. Яна трымалася за яе, ішла ад гука да гука, ад гармоніі да гармоніі.

***

У дзьверы патукалі. Увайшоў кіроўца, -- ён пераапрануўся і быў падобны на канферансье, з мятлікам і куточкам насоўкі. Публіка сабралася, сказаў ён. Час пачынаць выступ.

Яны выйшлі з грымёркі, прайшлі па калідоры да залі. І далей, па аксамітным праходзе, на сцэну. Пад шэпты і воплескі.

Заля была запоўненая. Яна паспрабавала знайсці сярод гледачоў фраў Марту, але твары ў прыцемках было не разгледзець.

Вядучы ўжо штосьці гаварыў пра яе творчасць. Пра стылі і перыяды, вялікі сыход і вялікае вяртанне. Пра тое, што на яе песнях выгадавана цэлае пакаленне і яно з ёй будзе заўсёды.

Першыя секунды яна слухала і ўглядалася, але потым звыкла адышла ўнутр сябе, настройвацца і канцэнтравацца.

***

Пачынаўся канцэрт, галоўны у яе жыцці. З самымі дарагімі, самымі чаканымі, самымі важнымі слухачамі.

Гэта да яго яна ішла па свайму лабірынту, трымаючыся за нітку.

Яго мроіла і сніла, рыхтавала і прыспешвала.

Не істотна, у якіх абставінах мы заўтра прачнемся, падумала яна раптоўна. Сніць нас хтосьці, ці прыдумвае. Неістотна, ці мае ён план і які менавіта.

Важна, што ўва ўсіх нашых снах, усіх лабірынтах, усіх магчымых рэальнасцях у нас ёсць для каго быць музыкай.

***

І яшчэ адно, што канчаткова прымусіла яе *паверыць у цуды.*

У далёкім куце сядзеў Францішак і ўсміхаўся.

Аксана Данільчык



...час –

гэта снег на галінах...

# Час знешняй адсутнасці

* * *

*Памяці таты*

Баюся страціць цёплае дыханне
зямлі ў пасляпаўдзённы час
калі я болей не пачую гукаў
жывых істот схаваных у лістоце
і сонца ў лёгкай радаснай дрымоце
стамлёнага ад нечаканай працы
слядоў не ўбачу на сваіх далонях
і рухі ценяў на ваконнай раме
і дом напоўнены святлом і летам
здадуцца раптам чымсьці недасяжным

І я ў абмежаванасці прасторы
адчую раптам як надвычай важным

вось гэты дзень што нада мной схіліўся
засыпаў яблыкамі і над полем
распырскаў пахі выспелага жыта

Так нізка бусел праляцеў над хатай
крылом крануўся коміна і ў далеч
памкнуўся па-за шэрагі таполяў

* * *

Прастора пасечаная на кавалкі
шматпавярховікамі
не спыняе толькі драпежных птушак
якія б'юцца за кожную скарынку
таму я і прачынаюся спалохана
ад іх крыкаў
гляджу за вакно а там пустая шпакоўня

кажуць восень гэта суцяшэнне
але не гэта проста замкнёнае кола
дакладней кола якое замкнулася
зрабіўшы яшчэ адзін абарот
і восень вярнулася
каб забраць свае рэчы
ці каб папрасіць прабачэння

ці каб цвілі дзьмухаўцы
між апалымі яблыкамі
каб скрыжаваліся сезоны
ў верасні
каб спытацца
ці ўсе набыткі тваёй памяці
маюць хоць якое-небудзь
самастойнае значэнне

хаджу па горадзе
спатыкаюся аб людзей
расцярушваю думкі
па гарадскіх ўскраінах
забываюся што я і дзе
стан адзіноты і занядбанасці
аднолькавы праз усё жыццё
такая вось справа

каланковым пэндзлем
паветра праводзіць па твары
ласкава ласкава.

* * *

Іду.
Усміхаюся.
Бачу сонечны дождж.
Бачу спелыя яблыкі пад маімі нагамі.
Гэты горад не мой і не мне –
ну і што ж –
пралятаць над апалымі снамі.

Іду.
Усміхаюся.
Завяршыўся сезон.
Перакрэслены часавы пояс адноснасцю
вызначэння.
Хто прасіў даравання,
хто проста крычаў наўздагон –
у цяперашнім часе не мае значэння.

Іду.
Усміхаюся.
Бачу ў вокнах святло.
Разумею – ніякага даравання не будзе.
Так дакладна і ясна.
І празрысты як бітае шкло,
смутак вечнага невяртання
і горыч аб страчаным цудзе.

* * *

Дваістасць вераснёўскага паветра
што рухалася і змяняла далеч
асветленыя сонцам бы праз плёнку
пагоркаў вінаградныя ўсмешкі
і вобразаў трохмерныя выявы
зляталі на шурпатую паперу
калі ўглядаючыся ў сінь нябёсаў
я бачыла на крылах самалётаў
анёлаў ціхамірныя абрысы.

Штурхаліся настойліва аблокі
ад паступовай дэфармацыі прасторы

І ўсё што я магла намаляваць
здавалася такой духмянай праўдай
такой неверагодна далікатнай
у бездакорнасці сваіх памкненняў
і ўсё што я магла пераказаць
на зразумелай чалавеку мове

здавалася выдатным першатворам
маіх узнёслых і надзейных думак.

А хісткасць навакольнага свету
яшчэ зусім не кідалася ў вочы

І толькі лёгкія бы пёркі напаміны
ўздымаліся пад ветрам і знікалі,
а ўпалыя анёлы спасцігалі
мастацтва жыць у іншым вымярэнні.

* * *

Промні сонца прабіваюць скуру яблыкаў
але ламаюцца аб сцяну
і асыпаюцца нам пад ногі

Калі не паспееш сабраць іх да вечара
то потым іх забярэ цёмны бог
што жыве пад цаглінаю ля парога

Цёмны свавольны бог
які забаўляецца тым
што складае з іх пірамідкі

А мы думаем што там свеціцца пад парогам
калі бачым уночы на тварах
святла залатыя адбіткі

### ІНШАЕ

А восень
расплывецца жоўтай плямай
па хвалях лесу
па зямной прасторы
па ціхіх вуліцах
па брукаванцы
маіх заходнебеларускіх вёсак
і прымаразкам схопленыя пальцы
і бляск вады ў пазарасталых ямах
і шлях на могілкі
да тых каму прыйшлося
пакінуць свет
у восеньскіх праменнях
вяртаюцца
а даўнія найменні
забытую вяртаюць
першароднасць.

Аскомістым жывым вясёлым пахам
зямля паведамляе наваколлю
аб заканчэнні дзён і аб пачатку
дзе іншае агучвае значэнні
да пэўных досведаў
незразумелых.

І можна бачыць
з гэтага памежжа
як канцавое
робіцца безмежным.

* * *

Акварэльная рэчаіснасць
запаўняе ранішні золак.
Колеры праступаюць з тумана
як кроплі на прамакатках
і змешваюцца.
Час знешняй адсутнасці –
калі ўсё, здаецца, нармальна,
але нікуды не хочацца
бегчы спрачацца прысутнічаць,
толькі б глядзець, як падае
лісце гайдаецца лісце
круціцца...

А можа для іншых рэчаў
дзень непрыдатны такі
і непрыдатны час
для іншага існавання,
толькі б глядзець, як лісце
на хвалі халоднай ракі
праз парадзелы туман
і рэдкія промні змяркання,
быццам дэсант залаты
на белы пясок
апусціцца.

* * *

Прайсці па ўласных слядах
супакоенымі крокамі
дзеля таго, каб знойдзены час
матэрыялізаваўся,
пазвоньваючы крышталямі лёду.

Час – гэта снег на галінах,
снег на камяні,
белы ядловец.
І да яго можна дакрануцца.

І я дакранаюся,
сціскаючы снег,
пакуль з яго не пацячэ вада.

* * *

Паслухай, як гучыць лёд,
прыкладзі вуха да яго скуры,
адчуй, як рухаецца яго крыштальная матэрыя,
як уздрыгвае і раскідае гукавыя хвалі,
як прагінаецца пад табою рака
ў час, калі ярка-ружовы дым
здаецца аплікацыяй на тле надвячоркавага неба.

Што за містэрыя стогнаў, стрэлаў, скрыгатаў,
што за наканавасць –
жыць у сузалежнасці з наваколлем,
адгукаючыся на кожнае ваганне цяпла і холаду
глухім грукатам унутранай незадаволенасці.

Так б’юць пад дых глухімі ўдарамі.

Паслухай, як гучыць лёд,
паглядзі на яго знітаваныя расколіны,
быццам швы на параненых тканках
яны разбягаюцца ў крыштальнай глыбіні,
як галіны дрэваў
разбягаюцца ў сшарэлым паветры.

Можа быць ты і здолееш запісаць
гэтую нязвыклую музыку,
можа ты і здолееш расшыфраваць
гэтыя небяспечныя шэпты.
А калі не – захавай іх,
як голас вады,
што прамаўляе,
не зважаючы на свае кайданы.

Адам Глобус



...святы Ніхто сустрэў святую Ніяк,
і яны разам выправіліся з Вільні
шукаць святую зямлю ў Нідзе...

# Віленскія казкі

## Шэрыя людзі

Казалі, што ў горадзе ёсць Галоўны. Чуткі хадзілі, што без Яго нічога важнага ў Вільні не робіцца. Як скажа Галоўны – так яно і будзе. Ніхто дакладна не ведаў ні прозвішча Галоўнага, ні імя Яго. Нават месца, дзе жыве Ён, ніхто дакладна не ведаў. Усё рабілі шэрыя людзі, праз якіх Галоўны кіраваў Вільняй. Да іх усе звярталіся з прапановамі, а шэрыя людзі звязваліся з Галоўным. Ён або дазваляў, або забараняў. На ўсе пытанні ў Галоўнага было толькі два адказы – “не” альбо “так”.

Гісторык Віктар Чуб вырашыў правесці даследаванне і знайсці Галоўнага. Ён сачыў за адным з шэрых людзей і высачыў шлях да Галоўнага. Шлях той скончыўся недзе на вуліцы Завальнай. Чуб нават дайшоў на Завальную да Галоўнага і пагаварыў з Ім. Ён застаўся страшэнна задаволены знаёмствам і размовай. Гісторык Чуб меркаваў, што напіша грунтоўны навуковы артыкул пра дзейнасць Галоўнага ў Вільні.

Гісторык думаў, а Галоўны рабіў. Ён забраў у Віктара Чуба ўсю, якая толькі была, памяць. Бяспамятнага Віктара шэрыя людзі ўладкавалі падмятальшчыкам прывакзальных вуліц. Так было, бо нічога ў Вільні не рабілася і не робіцца без Галоўнага, нават вуліцы падмятаюцца толькі па Яго загадах.

## Чырвоная Цагліна

Хто з нас не хацеў падняць з зямлі маленечкі каменьчык і шпурнуць у шыбу, за якой хаваецца любімы чалавек? Шкло зазвініць – і за ім з'явіцца любы твар. На тым твары ты пабачыш усмешку, радасць і задавальненне. Толькі ёсць яшчэ шыбы, за якімі жывуць твае ворагі. Пад акном з такімі шыбамі ўзнікае моцная прага схапіць не маленечкі каменьчык, а важкі камень. Схапіць, размахнуцца і запусціць у шыбу так, каб шкло разбілася і высыпалася. Шмат хто і шмат дзе біў камянямі шыбы сваіх ворагаў. Людзі разбівалі вокны ды білі вітрыны і ў нашай Вільні. Білі, пакуль не з'явілася Чырвоная Цагліна.

Старая Вільня спрэс цагляная. З чырвонай гліны ды белай вапны выбудавалі яе нашыя папярэднікі. Пэўна, таму і бараніць шыбы старой ружовай Вільні ўзялася менавіта Чырвоная Цагліна. Яна падае на галаву таму, хто шпурнуў камень у чужое вакно. І ў дзевяці з дзесяці выпадкаў Чырвоная Цагліна забівае аматара біць шыбы. Цяпер у Вільні амаль не разбіваюць вокны, і не таму, што не хочуць, і не таму, што ў горадзе стала менш дрэнных людзей, зусім не, – а таму, што кепскія віленчукі баяцца помсты ад Чырвонай Цагліны.

## Белая маска

Ян Пільны бачыў набліжэнне смерці да чалавека. Меў такі дар. Ён бачыў белую маску на тых, чые дні ў гэтым свеце заканчваліся. Ян жыў на другім паверсе шэрага дамка каля сабора Святой Ганны. Праз свае невялічкія вокны ён добра бачыў выкладчыкаў і студэнтаў Акадэміі мастацтваў, якая стаяла побач з чырвонай Ганнай. Неяк на адным з выкладчыкаў жывапісу, на твары Васіля Жыценя, Ян пабачыў белую маску. Пільны быў упэўнены, што Жыцень не працягне больш за тыдзень. Але той працягнуў не толькі адзін тыдзень, ён працягнуў тры. Самае дзіўнае тое, што белая маска знікла з ягонага твару. Была, была, была і знікла. Пільны мог паклясціся ў саборы Ганны ўсімі святымі, што белая маска смерці была на твары Жыценя. Праз некалькі месяцаў яна зноў з'явілася на старым твары выкладчыка Васіля. З'явілася, а праз пару дзён знікла.

Калі белая маска праступіла на Жыцені трэці раз, Ян Пільны пачаў за ім сачыць неадступна. Ён высачыў, як Васіль павёў свайго малодшага брата Кастуся ў бар "Грамулька", як там напаіў яго моцным самагонам да непрытомнасці, як у цёмным скверы за "Грамулькай" зняў з сябе белую маску і пачаў чапляць на братаў твар. Тут Ян Пільны не вытрымаў, падбег да Жыценя і крыкнуў на ўвесь начны сквер: "Што ты робіш, гад?" Васіль так спалохаўся, што паваліўся на зямлю мёртвым. Белая маска выпала з халоднай рукі выкладчыка і рассыпалася ў пыл.

## Кот і сабака

Дзіва дзіўнае здарылася ў інтэрнаце маргарынавага завода. У адным пакоі там жылі два хлопцы – электрык Мякіш і сталяр Каптур. Хлопцы жылі добра, сябравалі. Выпівалі адзін раз на тыдзень – вечарам у пятніцу. Жылі так, ажно пакуль Каптур не знайшоў сабе віленчанку і не пераехаў жыць да яе. Толькі жыццё з фанабэрыстай віленчанкай у рабочага з маргарынавага завода не склалася. Ягоная вясковасць хутка надакучыла гараджанцы, і яна выгнала Каптура са сваёй кватэры. Была якраз пятніца, выгнаннік узяў гарэлкі і завітаў да сябра ў інтэрнат.

За чаркай Каптур папрасіў у Мякіша дазволу пажыць які тыдзень у інтэрнацкім пакойчыку. Балазе яму нікога ў пакой не падсялілі. Але Мякіш адмовіў Каптуру. Сказаў, што цяпер да яго прыходзіць жанчына – дыспетчарка з маргарынавага. Ім не патрэбны ў пакоі трэці чалавек. Каптур пачаў настойваць і разазлаваў Мякіша. Той нават ударыў былога суседа, калі пачуў зняважлівыя словы, кінутыя ў бок дыспетчаркі. На ўдар Мякіша Каптур адказаў сваім моцным ударам. Былыя сябры сашчапіліся ў бойцы. Яны крычалі, скавыталі і раўлі. Яны пабілі ўвесь посуд і паламалі ўсю мэблю.

Калі ў пакой уваліліся іншыя жыхары інтэрната, там іх сустрэла дзіўнае відовішча. У адным кутку сядзеў і брахаў сабака, падобны да Каптура, а ў супрацьлеглым шчэрыўся і сіпеў кот, падобны да Мякіша. Першым з пакоя вылецеў кот, за ім у пагоню панёсся сабака. Больш ніхто ніколі не бачыў Каптура і Мякіша ні ў Вільні, ні ў якім іншым месцы.

## Паветраны човен

Човен быў зусім маленькі, роўна на аднаго чалавека, і не больш. Здалёк ён выглядаў нават дзіцячым. Рэжысёр-дакументаліст Данат Зарэцкі знайшоў яго за дрывотняй. Рэжысёр быў у прастоі. Рэжысёры часта трапляюць у прастоі, і дакументалісты не выключэнне.

Беспрацоўны Данат гуляў па Вільні. Ён прамінуў сабор Святой Ганны і выйшаў на мост. Перайшоў праз яго і трапіў у Зарэчча. Там ён зайшоў у стары дворык доўгага двухпавярховага дамка. У двары над рэчкай стаяла дрывотня. За ёй Зарэцкі знайшоў паветраны човен. Сеў у яго, адштурхнуўся вяслом ад старой дрывотні і паплыў у паветры. Данат паплыў у белавоблачную вышыню, а чырвоныя і ружовыя вежы Вільні пазаставаліся ўнізе. Зарэцкі думаў, што некалі абавязкова здыме дакументальны фільм пра віленскае Зарэчча. Ён нават верыў, што вернецца і здыме фільм.

## Жоўтыя мыліцы

Віленчукі не раз і не два бачылі, як па рачных хвалях плылі жоўтыя мыліцы. Пекар Леанід Пупка забіраў іх у інваліда Базыля Бязручкі, прыносіў на мост і з вышыні шпурляў у рачныя хвалі. Спярша Пупка намерваўся забіць бязногага Бязручку, але ў апошні момант перадумаў. Вырашыў іншым чынам караць нябогу. Пупка прыдумаў забіраць у маладога інваліда яго жоўтыя мыліцы і выкідаць іх у рачную плынь. Хай Вільня бачыць пакаранне, хай Вільня помніць пра забойства дзяўчыны-прыгажуні, дачкі пекара Валярыны. Інвалід Бязручка перарэзаў горла той прыгожай Валярыне. Уся Вільня ведала, што дачку пекара зарэзаў калека

Базыль. Ведаць ведалі, але доказаў не хапіла, каб яго асудзіць. Купіў ён сабе алібі і сведак. Купіў, гад! Дзе толькі грошы знайшоў? Каб хто сказаў... Забіў, гад, чалавека і выкруціўся ў судзе. Ён перарэзаў дзяўчыне горла за тое, што яна яго падманула і скалечыла.

Малады садоўнік Базыль Бязручка некалі закахаўся ў Валярыну і днямі навылёт стаяў з букетамі пад яе балконам. Дзяўчыне надакучылі кпіны сяброўак, якія пасміхаліся з Валярыны, маўляў, у яе мог закахацца толькі такі безграшовы садоўнік, як Базыль. Валярына паабяцала сяброўкам, што прагоніць кавалера ў ноч вялікай поўні. Дзяўчына сказала Базылю, што ў ноч поўні спусціць з балкона вяровачную лесвіцу – і ён зможа падняцца да яе ў пакой. Пакуль яе бацька будзе спаць, яны зоймуцца сапраўднымі дарослымі абдымannямі ды прыцісканнямі.

Не толькі Базыль дачакаўся вяровачнай лесвіцы, скінутай з балкона, яе дачакаліся і прагныя да начных прыгод злосныя сяброўкі Валярыны. Яны бачылі, як у месячным святле садоўнік палез уверх. Ён ужо быў пад самым балконам, калі падступная дачка пекара вострым, як брытва, бацькавым нажом зрэзала вяровачную лесвіцу. Базыль грымнуўся з вышыні трэцяга паверха на брук і пераламаў косткі на абедзвюх нагах. Разбіты, пакрыўджаны і зняважаны садоўнік ляжаў на слізкім і халодным бруку, а Валярына і яе сяброўкі ажно заходзіліся мярзотным рогатам.

Гэты страшны рогат пад поўняй Базыль Бязручка не змог дараваць Валярыне. Ён тады яе люта зненавідзеў, а праз пару месяцаў падпільнаваў у бязлюдным завулку, спыніў і зарэзаў. Над труною любай дачкі Леанід Пупка абяцаў звесці са свету яе забойцу, а потым перадумаў і вырашыў пускаць па рачной вадзе жоўтыя мыліцы.

## Чорная авечка

На ўскрайку Новай Вільні жыў спраўны гаспадар Рэпка. Ён трымаў авечак і прадаваў аўчыны, лой ды бараніну. Той Рэпка быў вялікім майстрам. Мог пашыць такі кажушок для дзяўчыны, што калі толькі раз зірнеш на яе ў гэтай вопратцы, то ніколі не зможаш забыць ні той кажушок, ні тую дзяўчыну. Казалі: Рэпка чараваў.

У нававіленскага чараўніка ў хляве чорная авечка нарадзіла крылатага цмока. Галава ў яго была змяіная, цела і лапы – сабачыя, на спіне цмок меў крылы, як у кажана, але вялікія, хвост быў доўгі і змяіны. Чорная авечка, як толькі нарадзіла пачвару, так адразу і здохла. Цмок падпоўз да каровы і высмактаў з яе вымені ўсё чыста малако. Ажно вымя пачарнела. Насмактаўшыся малака, цмок выпаўз з хлява і ўзняўся ў неба. Ён зрабіў вялікае кола над Новай Вільняй. Шмат хто з нававіленцаў бачыў крылатага цмока ў небе. Шмат хто расказваў, як пачвара ляцела пад нізкімі хмарамі, а пазней за тымі хмарамі і схавалася.

Пасля нараджэння цмока і смерці чорнай авечкі людзі перасталі ў спадара Рэпкі купляць бараніну, лой ды аўчыны. Больш ніхто не шыў у Рэпкі і чароўныя кажухі. Давялося чараўніку прадаваць усю сваю спраўную гаспадарку і з’язджаць з Віленшчыны ў Мінск, дзе ніхто не ведаў ні пра чорную авечку, якая змагла нарадзіць цмока, ні пра чароўныя кажухі... Праўда, некалі даўно пра чорную авечку, цмока і Рэпку напісала віленская газета “Ваша Ніва”. Гэта было вельмі і вельмі даўно, калі рэдактарам той газеты быў яшчэ чалавек, а не робат.

## Ненатольная цікаўнасць

У адной жанчыны з прывакзальнай Вільні акрамя наманікюраных пальцаў былі на руках яшчэ і тонкія шчупальцы ненатольнай цікаўнасці.

## Альбіна – чорная ўдава

Пра чорную ўдаву мне казаў Аляксей, а яму расказаў Ігнат – брат Альбіны. Яна працуе прадаўшчыцай ў гаспадарчай краме. Гандлюе простым рыштункам для працы на зямлі. У яе царстве шмат рыдлёвак ды капачоў, шуфлікаў ды грабляў з віламі. Праца як праца, жанчына як жанчына. Звычайная прадаўшчыца з віленскай крамы. На першы погляд. Ігнат казаў, што за гэтай звычайнасцю хаваецца нейкая страшная сіла...

Альбіна скончыла школу, уладкавалася на працу і выйшла замуж. Яна нарадзіла дачку. Мужу споўнілася 27 гадоў, і ён павесіўся. Так Альбіна стала чорнай удавою першы раз. Неўзабаве яна зноў выйшла замуж. Нарадзіла дачку ад другога мужа. Яму споўнілася 27 гадоў, і ён павесіўся. Не прайшло і года, як Альбіна зноўку выйшла замуж і нарадзіла дачку. Цяпер усе чакаюць жніўня, калі трэцяму мужу споўніцца 27 гадоў. Браты трэцяга мужа чорнай удавы сказалі, што, калі брат іх – не дай ты, Бог – павесіцца, яны самі павесяць Альбіну. Сказалі, прыйдуць у краму з віламі ды граблямі і там павесяць чорную ўдаву. Цяпер яны ўсе чакаюць жніўня, і я разам з імі чакаю.

## Зялёнае возера

У віленскіх літаратуразнаўцаў Раі ды Радзіма Раманоўскіх з'явілася дачка Руніта. У свае пятнаццаць, калі нарадзіўся яе брат Лукаш, Руніта прапанавала бацькам узяць падушку і задушыць немаўля ў калысцы, а труп вывезці з Вільні і выкінуць у Зялёнае возера. Бацькі насварыліся на Руніту, і яна сышла з дому.

Дзяўчына з'ехала з Вільні ў Мінск і вывучылася на медсястру. Лукаш вырас і пачаў перакідацца ў цмока. Аднойчы ён ператварыўся ў цмока і высмактаў усю чыста кроў з бацькі і маці. Руніта прыехала на пахаванне бацькоў, спаліла іх парэшткі ў крэматорыі, а брата задушыла падушкай у яго ложку. Лукаш напіўся за жалобным сталом і спаў як забіты, таму сястра змагла пакараць яго – брата-бацьказабойцу і цмока-ваўкалака. Труп Лукаша дзяўчына вывезла з Вільні і ўтапіла ў Зялёным возеры. Пасля ўсяго страшнага Руніта Раманоўская пражыла ў бацькоўскім доме на ўскрайку Вільні доўгае і шчаслівае жыццё. Праўда, на Зялёнае возера яна больш ніколі не ездзіла і не хадзіла.

## Святы і сякера

Сцяпан Ліпскі намерыўся стаць святым. Навокал усе казалі, што свет выратуюць святыя, таму ён і задумаў зрабіцца выратавальнікам. Працаваў Сцяпан звычайным рабочым на будоўлях. Падымі ды прынясі, атынкуй ды пафарбуй, прыкладзі ды прыкруці. Прараб загадваў, а Ліпскі выконваў. Жыццё цякло павольна і бесклапотна, але Сцяпану надакучылі павольнасць і бестурботнасць. Ён наглядзеўся тэлевізара, наслухаўся радыё, начытаўся інтэрнэтных публікацый і набыў сякеру.

Спадар Ліпскі з вуліцы Завальнай прыдбаў невялічкую сякеру, каб адсекчы сабе чэлес. На думку Ліпскага, той замінаў яму стаць святым. Ад чэлеса ішлі ўсе паскудныя і брудныя думкі. Ну і што гэта за святы, калі ў яго чэлес да калена? З такім чэлесам толькі ў д'яблавы памагатыя ісці. Ліпскі не любіў д'ябла, гнаў ад сябе агідныя думкі і пажаднасць. Таму ён купіў сякеру, паклаў чэлес на калодку і адсек яго. Разам з ім Сцяпан адхапіў сабе і палову машонкі з яечкам. Адным ударам сякеры Ліпскі скалечыў сябе. Але не проста скалечыў, ён параніў сябе смяротна. Рабочага Сцяпана Ліпскага нават не паспелі давезці з будоўлі да бальніцы. Ён сышоў крывёю і сканаў па дарозе. Шкада, што ніхто не збіраецца залічваць Сцяпана Ліпскага ў святыя. Як на мой розум, дык ён святы.

## Чароўныя сувеніры

Студэнты Мечык Радкевіч і Таля Серада засталіся без сродкаў. Першы год бацькі ім аплочвалі ўніверсітэцкую вучобу, а другі аплочваць адмовіліся, бо ў саміх не было лішняга цэнта. Мечык і Таля гаравалі, седзячы ў таннай сталоўцы. Калі дзяўчына заплакала, Мечык прапанаваў выйсце. Ён сказаў, што стане перакідвацца ў чароўныя сувеніры, а Таля будзе іх прадаваць, і ў іх з'явяцца сродкі, каб заплаціць універсітэту.

Першы раз Радкевіч перакінуўся ў дарагі скураны партманет з выціснутай на ім Вострай брамай. Таля прадала Вострую браму на сувенірным кірмашы. Праз дзень Мечык вярнуўся да Талі жывым і здаровым. Другі раз хлопец перакінуўся ў бурштынавыя пацеркі. Таля іх прадала пад Вострай брамай. Праз дзень Мечык вернуўся вясёлым і шчаслівым. Трэці раз ён зрабіўся вязанымі рукавіцамі, якія прадаліся на прывакзальнай плошчы. Калі Мечык вярнуўся, Таля ўгаварыла хлопца навучыць і яе перакідацца ў чароўныя сувеніры. Мечык доўга адмаўляўся, а калі ўсё ж пагадзіўся і навучыў дзяўчыну ператварацца ва ўсё, што яна толькі магла захацець, дык Таля перакінулася ў сітаўку і паляцела з Вільні ў Лондан. Больш у Вільні пра Талю Сераду нічога і не чулі. Ну а Мечык Радкевіч усё яшчэ вучыцца на эканаміста і падпрацоўвае грузчыкам у гіпермаркеце "Акропаліс".

## Конь і Сабака

Конь працаваў у цырку. Доўга працаваў. Больш за дзесяць гадоў ён вазіў па арэне акрабатку, якая падскоквала на яго спіне, рабіла ў паветры сальта і гупалася на сядло дзвюма нагамі. Ад гэткага гупання ў Каня забалеў хрыбетнік. Конь пачаў упарціцца, калі дрэсіроўшчык выганяў яго на арэну. Жывёлу пачалі лупіць пугай. Стомлены і пабіты Конь вырашыў уцячы ў лес.

Па дарозе ў лес Конь сустрэў Сабаку. Той ляжаў на пыльнай траве і плакаў.

– Што ты плачаш, дарагі Сабака? – пацікавіўся Конь.

– Плачу, бо сарваўся я з ланцуга і ўцёк з дому. Я ўцёк, бо гаспадар трымаў мяне ў халоднай будцы на ланцугу і кепска карміў. Апошнім часам ён амаль і не карміў мяне. Тады я парваў ашыйнік, уцёк, а цяпер не ведаю, куды ісці і што рабіць. Таму я лёг на траву і плачу!

– Я цябе добра разумею, дарагі Сабака. Мы можам пайсці разам у адно цудоўнае месца – у Шчодры лес. Там шмат салодкіх ягад для цябе,

там многа сакаўной травы для мяне, а яшчэ тамака цячэ чысты ручай, у якім свежая вада для нас...

Сабака ўзрадаваўся прапанове:

– Дарагі Конь, я хацеў бы пайсці з табою ў Шчодры лес, але ў мяне зусім няма сілы, каб ісці.

– Сядай мне на спіну, і я завязу цябе, – прапанаваў добры Конь.

Сабака заскочыў на спіну Каня, і той завёз яго ў Шчодры лес. Пакуль Конь вёз Сабаку, ён папрасіў таго паводзіць сябе ціха – не скавытаць і не брахаць, каб злыя людзі не пачулі і не пабачылі ўцекачоў. Сабака даў Каню слова гонару, што не стане брахаць і скавытаць у Шчодрым лесе.

Першыя тры дні Сабака і Конь пражылі ціха. Яны елі салодкія ягады і сакаўную траву, пілі крынічную ваду з ручая, адпачывалі пад цяністымі дрэвамі. На чацвёрты дзень Сабака захацеў мяса. Ён прыйшоў да Каня і спытаўся, дзе можна знайсці мяса, каб падсілкавацца па-сапраўднаму. Конь прапанаваў яму пайсці на гарадскі сметнік, што пачынаўся за Шчодрым лесам. На ім Сабака знайшоў кавалак ліվернай кілбасы. Праглынуў яго і пачаў брахаць ды скавытаць ад шчасця.

Сабака так доўга скавытаў і брахаў, што з Вільні на сметнік паспелі прыехаць гіцлі. Яны пачаставалі шчаслівага сабаку кавалкам цёплага варанага мяса. Сабака еў мяса, глядзеў на гіцляў у зялёных камбінезонах і думаў, што гэта сапраўдныя анёлы, бо толькі анёл можа пачаставаць сабаку такім цёплым і такім смачным мясам. Калі ён даеў свой апошні ў жыцці кавалак мяса, гіцлі пагладзілі і ўсыпілі Сабаку. Яны закапалі яго тут жа – на гарадскім сметніку. Гіцлі закапалі Сабаку і разраўнавалі зямлю, каб ніхто ніколі яго не знайшоў і пра яго не ўспамінаў.

Калі гіцлі з’ехалі са сметніка, Конь выйшаў са Шчодрага лесу. Ён стаў над закапаным у зямлю Сабакам і сказаў:

– Я чуў ад дрэсіроўшчыка, што толькі ў адным Лондане кожны год гіцлі ўсыпляюць больш за трыццаць тысяч непаслухмяных сабак, якія нядобразычліва ставяцца да чалавека і парушаюць цішыню. Пэўна, дрэсіроўшчык казаў пра Лондан праўду. Шкада, што ты, дарагі мой таварыш Сабака, не паслухаў мяне. Ты брахаў, ты скавытаў, ты прагнуў мяса... Ты парушыў цішыню, і цябе закапалі ў брудны пясок. Я вярнуся ў Шчодры лес, дзе буду жыць спакойна і непрыкметна, але зрэдчас буду прыносіць табе, дарагі мой Сабака, і класці на пясок невялічкі букецік лясных кветак.

## Кот і Сабака

З усіх сваіх жывёл фермер любіў Сабаку больш за астатніх. Сабака служыў спраўна. Брахаў на чужынцаў і сваіх трымаў у строгасці. Калі якія каровы ці конь забрыдалі на чужое поле, Сабака хутка ім нагадваў вярнуцца да сваёй травы. Шмат радасці было ў фермера, калі ў Сабакі знайшоўся Шчанюк. Гаспадар спадзяваўся, што Шчанюк вырасце і зойме пачэснае месца Сабакі. Так бы яно і было, каб не Кот.

Калі аднойчы фермер з Сабакам пайшоў на паляванне, Кот сабраў усю скаціну, што жыла на ферме, і прапанаваў забіць Шчанюка. “Мала таго што на нас бясконца брэша і нас балюча кусае дурны Сабака, дык праз які год вырасце ягоны Шчанюк. Тады на нас будуць брахаць і нас будуць кусаць ужо не адзін, а два бобікі. Трэба затаўчы Шчанюка! Неадкладна!!!” Жывёлы падтрымалі смяротны прысуд. Конь біў Шчанюка капытом. Ка-

рова парола рогам. Свіння рвала зубамі. Певень дзёўб дзюбай. Кот драў кіпцямі. Жывёлы не проста забілі Шчанюка, яны парвалі яго на дробныя кавалкі і зжэрлі.

Сабака, вярнуўшыся з палявання, шукаў і не мог знайсці любага Шчанюка. Ніхто з жывёл не прызнаўся ў забойстве, толькі Кот сказаў, што Сабака дарма шукае свайго сына. “Жывёлы забілі яго, падралі на дробныя шкуматы і з’елі!” – так Кот агаломшыў Сабаку. Тут усе жывёлы абурыліся... “Ты сам падбіў нас забіць Шчанюка!” – “Ты першы пачаў іірваць яго кіпцюрамі!” – “Ты з’еў апошні самы смачны кавалачак ягонага вуха!” Раз’юшыўся Сабака і кінуўся на Ката. Той спрытна ўзляцеў на плот, з плота пераскочыў на страху гумна, са страхі перабраўся на дрэва, з дрэва саскочыў на дах дома... Карацей, тым разам Кот ад Сабакі ўцёк. Але з таго самага дня ўсе сабакі не любяць катоў. Не любяць і кідаюцца на іх. Не ведаю, як там у вас, а ў нашым Віленскім краі менавіта так. Дарэчы, раней у тутэйшых катоў на хвастах былі кутасы, як у львоў. Дык сабакі паабрывалі ім тыя кутасы.

## Зялёная галава

Маладая жонка кінула старога мужа і пайшла да маладога каханка. Чую пра такое маладое і брыдкае ды згадваю віленскага доктара – сівабародага Максіма Куля. На старасці гадоў паважаны доктар захапіўся медсястрой Святланай. Тая доўгі час адмаўляла Максіму, а потым пагадзілася на вяселле і стала Святланай Куль.

Дзяўчыне было сумна са старым доктарам, і яна злюбілася з маладым шафёрам “хуткай дапамогі” Зміцерам Мурашкам. Неўзабаве Святлана кінула доктара і пайшла жыць да шафёра. Стары Кульззлаваў і праклаў здрадніцу так, што ў яе на месцы чалавечай галавы з’явілася зялёная галава чарапахі са змяіным раздвоеным языком. Доктар быў упэўнены, што шафёр пабачыць зялёную галаву і прагоніць Святлану з хаты.

Куль памыліўся, бо Зміцер Мурашка пакінуў жонку ў доме і пачаў шукаць па ўсёй Вільні сродкі, каб замест зялёнай галавы чарапахі вярнулася чалавечая галава медсястры. Усе раілі шафёру ісці да доктара Куля, казалі, што толькі ён можа вырашыць пытанне з заменай зялёнай галавы.

Мурашка пайшоў да Куля і напрамілы бог прасіў, каб той вярнуў жонцы-здрадніцы чалавечае аблічча. Доктар пашкадаваў маладых людзей, шафёра Зміцера і медсястру Святлану. Доктар на тое і доктар, каб шкадаваць чалавека і дапамагаць у бядзе. Куль зняў са Святланы праклён. Зялёная галава чарапахі знікла, а на яе месца вярнулася галава чалавечая, адно што на памяць пра здраду ў жанчыны назаўсёды застаўся раздвоены язык змяі.

## Чырвоная бутэлька

Гісторыю пра чырвоную бутэльку я пачуў ад п’яніцы Алега. Зазвычай ён п’е, седзячы на прывакзальным пляцы. Алег пачынае піць раніцай. Пачынае з маленечкай шкляначкі піва. Тут яго і падпільноўваюць розныя безграшовыя дзяды. “Пакінь глыток!” – просяць. Алег шчодры. Ён пакідае паўглытка піва на сподзе аднаразовай шклянкі. Паўглытка не шкада.

Але неяк адзін з безграшовых брудных дзядоў папрасіў у Алега вялікую шклянку піва. Нахабна запатрабаваў, можна сказаць. “Мужык, ты

мусіш мяне ўратаваць. Без паўлітры піва я дамоў не дайду. Памру тут, каля вакзала!” Алегу было шкада піва для неахайнага нахабы, але ён усё ж купіў вялікую шклянку і пачаставаў дзеда. Той выпіў, падзякаваў і сказаў Алегу дзіўную рэч: “Мужык, калі раптам захочаш выпіць, а рублёў не будзе, падыходзь пад Зялёны мост. Стань каля вады, тупні левай нагою тры разы. Праз імгненне каля тваёй правай нагі з’явіцца чырвоная бутэлька, поўная моцнага віна. Віно можаш выпіць, а пустую бутэльку абавязкова пакінь пад мостам”. Алег, вядома, не паверыў бруднаму дзеду, які назваўся Вадзянікам. Хто ў такое паверыць? На цвярозую галаву ў такое ніхто не паверыць і правяраць не пойдзе...

Аднаго разу Алег моцна выпіў, яму хацелася яшчэ крыху накаціць для шліфоўкі, але капейчыны не было. Тады Алег і пайшоў пад Зялёны мост і тупнуў тры разы левай нагой. Каля правай нагі з’явілася чырвоная бутэлька з партвейнам.

Алег пачаў хадзіць пад мост кожны божы дзень. Віно выпіваў, а бутэльку пакідаў. Так было, пакуль Алег не пачаставаў чароўным партвейнам свайго заўсёднага сабутэльніка Валерку. Той не пажадаў пакідаць чырвоную бутэльку. Ён захацеў яе здаць як звычайную шклатару. Калі прыёмшчыца адмовілася прымаць чароўную бутэльку, Валерка раззлаваўся. Ён так раз’юшыўся, што разбіў чырвоную бутэльку аб цагляную сцяну... Алег яшчэ некалькі разоў спрабаваў тупаць пад мостам левай нагою, але партвейн ад Вадзяніка больш не з’яўляўся.

## Белы аўтобус і белы трамвай

Шмат разоў я чуў пра белы аўтобус, але ніколі яго не бачыў. Пра яго шмат расказвалі. Бачылі яго да вайны. Казалі, што ездзіў па Вільні страшны белы аўтобус. Калі ён спыняўся, усе, хто аказваўся непадалёк, змаўкалі, схілялі галовы і заходзілі ў яго. Белы аўтобус зачыняў скрыгатлівыя дзверы. Сведкі асабліва любілі падкрэсліць жахлівую рыпучасць аўтобусных дзвярэй. Белы аўтобус звозіў віленчукоў у невядомым кірунку. Ніхто з іх не вярнуўся, каб расказаць, куды ездзіў белы аўтобус.

У ваенны і пасляваенны час старыя віленчукі палохалі дзяцей згадкамі пра белы аўтобус. Паціху аповеды пра людаедскі аўтобус сціхлі. Забыўся пра яго і я, ажно пакуль не пабачыў на мінскай вуліцы Змітрака Бядулі белы трамвай. Ён бясшумна каціўся па бліскучых рэйках. У белым трамваі не было ніводнага пасажыра. Падумалася: не дай бог возьме і спыніцца... Белы трамвай не спыніўся. Пакаціўся ў бок чыгуначнага вакзала. Калі ён знік за чырвоным домам, мне і згадаліся расказы пра белы аўтобус у даваеннай Вільні.

## Мышанё і Цмок

Некалі ў Вільні жыў мастак Сергіевіч. Ён і расказваў легенду пра Цмока і Мышанё...

Здарылася тое даўно, калі ў небе над гатычнай Вільняй яшчэ можна было ўбачыць цмока. Мышанё, якое жыло ў сутарэннях пад гарадской брамай, бачыла цмока часта. Кожнага разу Мышанё зайздросціла цмоку, які меў крылы і мог уздымацца да ружовых аблокаў. З пякучай зайздрасці і нарадзілася мара пра ўласныя крылы.

Мышанё знайшло на балоце маленечкага Цмока і папрасіла ў яго пазычыць крылы на адзін-адзінюткі палёт над горадам. Цмок, хай сабе і малы, а крылы пазычаць адмовіўся. Збаяўся.

Тады Мышанё вырашыла хітраваць. Яно назбірала ў вялікі кубак малінавых ягад і запрасіла Цмока ў сваю нару на салодкі пачастунак. Уваход у мышыную нару быў такі вузкі, што Цмоку, каб туды пралезці, давялося зняць свае крылы. Пакуль Цмок ласаваўся малінамі, Мышанё надзела на плечы крылы і ўзнялося над Вострай брамай. У той вечар у Вільні з'явіўся не толькі першы Кажан. У той вечар у Вільні з'явілася і першая Яшчарка, якая атрымалася з падманутага Цмока, ласага на салодкія маліны.

## Чырвоны дом

У віленскага дойліда Яся Карпоўскага было два сыны – Ігар і Тодар. Абодвум было за трыццаць, а ніводзін з іх так і не завёў жонкі. Стары Карпоўскі вырашыў дапамагчы сынам з пошукамі жанчын. Ён знайшоў невялікі чырвоны дом на беразе рэчкі і набыў яго для сыноў. Стыры думаў: калі сыны пачнуць жыць асобна ад бацькі, ім больш лёгка будзе паразумецца з жанчынамі. Трэба сказаць, што купляць чырвоны дом старому Ясю нараіла вядзьмарка Хрысціна Сліж. Яна запэўніла дойліда, што ў чырвоным доме Ігар і Тодар знойдуць вялікае шчасце.

Першым ў чырвоны дом перабраўся Ігар. Яму было сумна сядзець у пустым доме, таму ён вырашыў напіцца. Пасярод ночы Ігара пабудзіла жанчына. Яна прыйшла ў дом з рэчкі. Выйшла з вады цалкам голая, зайшла ў чырвоны дом і разбудзіла новага гаспадара. Ігар прачнуўся, але падумаў, што ўсё яшчэ спіць. Таму ён зусім не спалохаўся голай і халоднай, як рачная вада ў верасні, жанчыны. Ігар спытаў яе імя і пачуў: "Люда". Яна хацела залезці да Ігара пад коўдру, але той абачліва не пусціў халоднае стварэнне ў ложак. Замест гэтага мужчына загадаў Людзе прынесці яму вішнёвага піва, каб паправіць цяжкую галаву. Жанчына прынесла Ігару вішнёвага піва. Тады ён папрасіў прынесці да піва падсоленых арэхаў. Пасля піва з арэхамі Ігар надумаў пакурыць і паслаў Люду па цыгару. Пакуль ён курыў, пачало ўзыходзіць сонца. Жанчына спужалася сонечнага святла і вярнулася ў рэчку. Пасля развітання з Людай Ігар праспаў у чырвоным доме ўвесь дзень. Позна ўвечары ён вярнуўся да бацькі і абвясціў, што вырашыў ажаніцца. За жонку Ігар узяў Пэлю Кавалёву – дачку арганіста.

Тым часам Ясь Карпоўскі перасяліў у чырвоны дом свайго малодшага сына Тодара. Той спакойна жыў у гэтым доме на беразе рэчкі, пакуль тая была пад ільдом. Як толькі пачаўся крыгаход, уначы з ледзяной вады выйшла Люда і завітала ў госці да Тодара. Той, ведаючы братаву гісторыю, заказаў піва, арэхаў і цыгару. Люда прынесла пачастункі. Тодар зрабіў адзін глыток вішнёвага піва, узбударажыўся і пацалаваў Люду. За пацалункам пачаліся танцы, за танцамі – любошчы. Чырвоны дом ходырам хадзіў усю ноч. Раніцай у чырвоным доме знайшлі мёртвага Тодара, белага і халоднага, як рачны лёд.

Стары Ясь Карпоўскі хацеў забіць вядзьмарку, якая нараіла перасяляць сыноў у чырвоны дом. Не забіў, бо Хрысціна сказала, што, забіўшы яе, дойлід страціць і сына Ігара. Практычны Карпоўскі не стаў спакушаць лёс. Ён перафарбаваў пракляты чырвоны дом у белы колер і выгадна прадаў яго армянскім уцекачам з Баку.

## Рудагаловая дзяўчынка

Бутэлькі мне падабаліся заўжды. Гульня сонечных промняў у шкле і ў вадкасці мяне зачароўвала. Я доўгі час любіў бары, вінныя магазіны і ўласна алкаголь. Кінуўшы выпіваць, я не пазбавіўся любові да поўных бутэлек. Таму з радасцю наведваю крамы з каньяком, віном і віскі, дзе купляю падарункі тым, хто яшчэ любіць адкаркаваць бутэлечку і напоўніць чарку да краёў.

Неяк у віленскай краме “Ботлеры” я выбіраў для брата бутэльку аднасоладавага віскі, калі зачапіў парасонам пляшку з бурбонам. Тая даляцела да каменнай падлогі і спынілася. Яна спынілася ў якім сантыметры ад зямлі, павісела ў паветры, а потым узнялася і стала на паліцу. Пляшка стала на тое самае месца, адкуль я яе скінуў сваім доўгім парасонам. Агледзеўшы краму, я пабачыў у цёмным кутку рудагаловую дзяўчынку. Яна пазірала на мяне круглымі вачыма. Калі я глянуў на выратаваны бурбон, дзяўчынка поглядам прыўзняла пляшку над паліцай і павольна апусціла яе на месца. Я хацеў падзякаваць рудагаловай, але язык мой адмовіўся слухацца. Давялося выйсці з крамы без падарунка.

Я даўно здагадваўся пра месца, дзе можа гняздзіцца шматаблічны чорт, але ў вобразе спрытнай рудагаловай дзяўчынкі не чакаў яго пабачыць.

## Чорны саган

Гімназіст Яраслаў Сом любіў лыжы і рызыку. Як толькі выпадала вольная хвіліна, Яраслаў браў лыжы і кіраваўся на старыя могілкі. Там ён ляцеў з гары паміж каменных крыжоў ды металічных агародак, прыцярушаных свежым снегам. Разбіцца і забіцца ў час такога катання працей простага, але ў Ярыка быў іншы і больш складаны лёс.

Ягонае катанне надакучыла нябожчыкам. Больш за ўсё яно раздражняла і злавала не звычайных здранцвелых мерцвякоў, а земляных людаедаў. Яны і злавілі аднойчы гімназіста, запхалі хлопца ў мех і завалаклі ў капліцу. Пад ёй былі прасторныя сутарэнні, дзе стаяла электраплітa, на якой у чорным сагане людаеды намерваліся зварыць суп з маладой чалавечыны. Пакуль награвалася вада, Ярык вылез з меха, прайшоўся па сутарэннях, схапіў земляную дзяўчынку-людаедку і засунуў яе ў харчовы мех, а сам схаваўся за электраплітой.

У выніку земляныя людаеды замест гімназіста Сома зварылі і з’елі ўласную дачку. Наеўшыся варанага мяса, людаеды паснулі. Яраслаў вылез з-за электраплiты і ціхенька пакінуў прытулак земляных самаедаў. З таго дня хлопец больш ніколі не лётаў на лыжах з гары, пазастаўлянай каменнымі і жалезнымі крыжамі.

## Шэры цырк

Раз на месяц у шэрым цырку ладзіліся баі без правілаў. Праходзілі яны ўначы. Запрашаліся на іх толькі праверaныя людзі. Байцам дазвалялася ўсё, акрамя забойства на арэне. Біліся яны да страты прытомнасці. Ёсць баі. Ёсць азарт. Ёсць і пераможца. Па шэрым цырку ў пераможцах хадзіў баец з мянушкай Бык. Ён збіваў, ламаў і затоптваў усіх сваіх канкурэнтаў, ажно пакуль аднойчы на арэну не выйшла жанчына-баец з мянушкай

Каліта. Яна кінулася на Быка і ашчаперыла яго рукамі і нагамі так, што той ажно дыхаць не мог. Здушаны Бык раптам скінуў чалавечае аблічча і зрабіўся ваўком. Каліта схапіла звера за пашчэнкі і разадрала яго напалам. Акрываўленае воўчае сэрца вывалілася на арэну. Каліта зжэрла абсыпанае пяском гарачае сэрца і заравула на ўвесь шэры цырк. Такім чынам яна абвясціла і адсвяткавала перамогу. Арганізатарам баёў давялося прыстрэліць Каліту за парушэнне галоўнага правіла – на арэне саперніка не забіваць.

## Рыжы асілак

Дрэсіроўшчыца Люба закахалася ў ільва і нарадзіла ад яго рыжага асілка. Ён вырас у дарослага чалавека за тры доўгія дні і тры кароткія ночы. Асілак сказаў маці, што пасланы ў наш свет, каб знішчыць шасцігаловага цмока, які трымаў у страху ўвесь горад. Люба паказала на Замкавую гару і чырвоную вежу на ёй: “Там сядзіць шасцігаловы. Ён перамог і забіў шмат волатаў. Ты будзеш далёка не першым, каму цмок зняў галаву...” Асілак запэўніў маці, што пераможа ў паядынку.

Бітва волата з цмокам цягнулася тры доўгія дні і тры кароткія ночы. Рыжы асілак адсек шэсць цмокавых галоў. Адсечаныя галовы разам з крылатым целам ён абліў газаю і спаліў. Прах і попел рыжы волат развеяў над рэчкаю.

Вільня радавалася перамозе асілка над цмокам. Віленчукі спадзяваліся, што іх горадам цяпер стане кіраваць волат-пераможца. Але тое былі марныя спадзяванні. Рыжы асілак пакінуў Вільню і выправіўся ў Афрыку, дзе перакінуўся ў ільва і стаў жыць як самы звычайны цар звяроў. Дарэчы, маці волата – дрэсіроўшчыца Люба – стала гаспадыняй цырка і самай паважанай жанчынай у горадзе.

## Белая торба

Усё жыццё Ада Завала прапрацавала на малаказаводзе. Яна распараджалася на складзе і адпускала гатовую прадукцыю. У Ады было адно шчасце – сын-бязбацькавіч Антон. Завала выгадавала хлопца адна, чым і ганарылася. Калі ў Ады знайшлі белакроўе і яе жыццё амаль скончылася, яна пашыла з бабулінага саматканага палатна белую торбу. Чароўную рэч жанчына пакінула сыну ў спадчыну.

З белай торбы Антон мог раз на дзень дастаць адну-адзінюткую рэч, якую пажадае . Напачатку ён заказваў розныя прысмакі на вячэру. Даставаў смажаную курыцу, паляндвіцу і вэнджаную рыбу. Паступова апетыт Антона пачаў павялічвацца і жаданні змяніліся. З торбы выцягнуўся вялікі тэлевізар, потым кампутар і айфон. Знайшоўся ў белай торбе і шчаслівы латарэйны білет. Выйграных грошай хапіла на рамонт кватэры. Нейкім неверагодным чынам з белай торбы Антон выцягнуў дакументы на катэдж з садам у ціхім кутку Новай Вільні. Белая торба падаравала хлопцу машыну, правы і стыльную вопратку. Багаты, малады і прыгожы Антон Завала вырашыў, што надышоў яго час зрабіць палітычную кар’еру. Ён загадаў белай торбе напісаць для яго прэзідэнцкую праграму. Антон быў упэўнены ў магутнасці белай торбы. Ён памыліўся. Замест загаданай праграмы ў пакоі з’явіўся цень Ады Завалы. Нябожчыца ўзяла белую торбу і знікла.

Антон не доўга перажываў праз тое здарэнне. Ён прадаў катэдж з садам і адкрыў сувенірную краму, дзе зараз паспяхова прадае розную драбязу, у тым ліку палатняныя торбы з краявідамі старой Вільні.

## Шэрая дзяўчынка

Стася Сушко трапіла пад дождж. Раніцай, калі дзяўчына бегла на заняткі ва ўніверсітэт, стаяла сонца, таму парасон застаўся вісець у вітальні. Дождж заспеў студэнтку на праспекце, там жа да яе падбегла шэрая дзяўчынка. Яна схапіла Стасю за руку. Дзяўчына руку вырвала, але на яе скуры засталіся чырвоныя, падобныя да апёкаў плямы. Пакуль Стася дабегла дамоў, шэрая дзяўчынка паспела ўшчыкнуць студэнтку за шыю і за шчаку.

Стасіна маці, як толькі пабачыла дачку, пакрытую апёкамі, якія моцна свярбелі, адразу паклікала шаптуху Разэлю. Тая ледзь устала з ложка, насілу дайшла да дома Сушко. Разэля ўважліва агледзела Стасю, потым прайшлася па кватэры і пабачыла ў цёмным кутку за сервантам шэрую дзяўчынку. Шаптуха спытала: “Што ты, хвароба шэратварая, хочаш, каб зняць апёкі?” Дарэчы, ніхто, акрамя ледзь жывой бабы Разэлі, не бачыў шэрую дзяўчынку. “Мне патрэбны ўпрыгожванні. Забяру залатыя пярсцёнкі і завушніцы. Забяру ланцужкі залатыя, але крыжыкі пакіну. Яшчэ мне патрэбны грошы на таксі да аэрапорта і на білет да Капенгагена. Калі вы аддасцё золата з грашыма і я сяду ў таксі, апёкі знікнуць”. Шаптуха ўгаварыла хворую дачку і знерваваную маці адкупіцца ад хваробы. Шэрая дзяўчынка не падманула старую Разэлю: як толькі таксі паехала ў бок аэрапорта, чырвоныя плямы ў Стасі зніклі, нават дробных слядоў па сабе не пакінулі.

## Шэры чалавек і бутэлька белай

Кожную раніцу Барыс Кулеш і Толя Морква, ідучы ў архітэктурна-будаўнічы каледж, праходзілі каля могілак. Там даўно нікога не хавалі, таму большасць капцоў ужо доўгі час была непрыбранай. Закінутасць могілак выглядала загадкава, вусцішна і рамантычна, таму Барыс і Толя любілі фатаграфавацца каля каменных і металічных крыжоў. У час адной такой могілкавай фотасесіі да хлопцаў падышоў нябожчык – шэры чалавек і папрасіў дапамагчы. Ён прыбраў магілы сваякоў, пазграбаную лістоту паскідаў на кавалак брызенту. Цяжкі брызент з апалым лісцем шэры чалавек хацеў перанесці ў дальні куток могілак да кантэйнераў са смеццем. Аднаму было нязручна перасыпаць лісце з брызенту ў кантэйнер. Хлопцы дапамаглі шэраму чалавеку, за гэта ён прапанаваў падарунак – бутэльку белай. Кулеш катэгарычна адмовіўся, а Морква забраў бутэльку і схаваў у заплечнік. Толя сказаў Барысу, што гарэлку, падараваную нябожчыкам, ён аддасць сваім бацькам, якія страх як любяць выпіць.

Ён і сапраўды перадаў бутэльку белай бацькам-выпівохам. Тыя ўзрадаваліся, выпілі, атруціліся і памерлі. Толя ведаў, што нельга браць пачастунак у нябожчыка, але спадзяваўся, што, калі перадаць яго іншым, ён нікому не зробіць шкоды. Хлопец моцна памыліўся і застаўся без бацькоў, якіх спалілі ў крэматорыі і падсялілі да дзядоў на старых і непрыбраных могілках.

## Пошукі шчасця

Святы Ніхто сустрэў святую Ніяк, і яны разам выправіліся з Вільні шукаць святую зямлю ў Нідзе.

## Чырвоны канверт і залаты барабан

Захар Шарахоўскі пабачыў сон, у якім яго жонка-нябожчыца Ала перадала яму ліст у чырвоным канверце. Захар прачытаў яго і даведаўся, што нябожчыца хоча вярнуцца ў наш свет. Дзеля гэтага Шарахоўскі мусіць знайсці залаты барабан, якога баяцца ахоўнікі падземнага горада мёртвых.

У антыкварнай краме Захар выкупіў залаты інструмент, пра які пісала Ала Шарахоўская. З барабанам пад пахаю мужчына выправіўся на дапамогу сваёй жанчыне. Праз капліцу на Кальварыйскіх могілках Захар спусціўся ў падземны горад. Ахоўнікі паспрабавалі прагнаць Шарахоўскага, але той пачаў біць у залаты барабан. Яны адступілі, пазакрывалі далонямі вушы і разбегліся.

Захар знайшоў у горадзе мёртвых сваю любую Алу. Тая моцна здзівілася, калі пабачыла жывога Захара. Ён расказаў пра сон і пра ліст у чырвоным канверце. Ала сказала мужу, што сон быў не зусім прарочы. Яна не збіраецца вяртацца ў наш свет. Вядома, ёй прыемна пабачыць любімага Захара, але іх спатканне лепей не зацягваць. Жонка правяла мужа да капліцы на Кальварыйскіх могілках. Там яны і развіталіся да наступнай, яшчэ не блізкай сустрэчы.

Залаты барабан Захар аднёс назад у антыкварную краму. Праз пару тыдняў яго нехта прыдбаў, і Шарахоўскаму вярнулі грошы, складзеныя ў чырвоны канверт.

## Шэры дом

На ўскрайку Вільні стаяў шэры дом. Некалі ён быў светлым і чыстым, потым дом пацямнеў. Вокны ў ім пазабівалі дошкамі. Звонку падавалася, што жыцця ў шэрым доме зусім няма. Насамрэч там жыла маладая жанчына Людміла Войцік. Жыла яна там не адна, а з нябожчыкам. Той у свой час быў яе жаніхом. Напярэдадні вяселля мужчыну насмерць збіла машына. Яго пахавалі, але маладому чалавеку не ляжалася ў вузкай магіле. Ён выйшаў з-пад зямлі, прыйшоў да Люды і прымусам завёў яе ў шэры дом.

Жыць з нябожчыкам было цяжка. Так цяжка, што Людміла некалькі разоў збіралася засіліцца, але мужнасці на самагубства не хапіла. Пакуты жанчыны бачыла мышанё, што таксама жыло ў шэрым доме. Яно і прапанавала дапамогу. Людміла наказала мышаняці пайсці да яе брата Антона Войціка і папрасіць паратунку. Мышанё і прывяло мужчыну ў шэры дом. Там Антон ператварыўся ў ваўка і парваў на шматкі жорсткага нябожчыка. Брат забраў сястру да сябе. Пасля перажытага Людміла доўга і цяжка хварэла, але потым паправілася.

## Чорнае возера і сівы волас

Вера Лой аднойчы папрасіла свайго мужа Алега расчасаць ёй валасы. Алег расчэсваў светлыя валасы італьянскай масажнай шчоткай і касцяным

швейцарскім грабеньчыкам. Сярод светла-залатых валасоў муж знайшоў на жончынай галаве срэбна-сівы волас. Вера моцна запеisær жывала з-за сівога воласа і блізкай старасці. Алег яе суцяшаў. Ён расказаў, што ведае чароўнае Чорнае возера, якое ляжыць пасярод балот у лесе пад Гудагаем. Калі чалавек у купальскую ноч апаласнецца ў Чорным возеры, дык памаладзее на цэлы год.

Вера ледзь дачакалася купальскай ночы. Разам з мужам яны абмыліся ў бурштынавай вадзе чароўнага возера, і жанчына адчула, што памаладзела ажно на дзесяць гадоў. Радасць яе была велічэзнай. Гадоў трыццаць запар Вера і Алег ездзілі на Купалле з Вільні ў Гудагай. Яны купаліся ў Чорным возеры – і на іх галовах не было ніводнага сівога воласа.

Пэўна, Алег і Вера пражылі б разам сто гадоў, каб не страшнае здарэнне. Аднаго разу Вера ішла праз шырокае поле, калі пачалася навальніца. Свет сцямнеў. Грымнуў пярун. Заляскаталі маланкі. Вера ведала, што трэба легчы тварам у зямлю, раскінуць рукі, зрабіцца крыжам і папрасіць у міласэрнага Хрыста літасці. Ведаць ведала, але вырашыла не класціся на мокрую зямлю, а пабегчы ў лес і схавацца пад дрэвамі. Вера бегла праз поле, калі яе ўдарыла, абпаліла і забіла маланка.

Алег пахаваў жонку, пасумаваў і вырашыў знішчыць Чорнае возера. Узімку ён завёз у лес некалькі машын пяску і засыпаў возера так, што ад яго і следу не засталося. Пасля развітання з чароўным возерам Алег Лой пачаў новае, спакойнае, звычайнае жыццё.

## Шафёр і вядзьмарка

Сяргей Пяюн заснуў за рулём. Праваліўся ў сон на якое імгненне, але гэтага часу якраз хапіла, каб ягоны грузавік з цэглай з'ехаў з дарогі, прабіў дашчаны плот, урэзаўся ў аднапавярховы дамок, праламаў у ім сцяну і высадзіў аконную раму. Пяюн, дзякуй лёсу, не скалечыўся і моцна не пабіўся. Гаспадыня дамка – вядзьмарка Жана Новік – была ў гэты час на верандзе і фізічных пашкоджанняў не атрымала. Вядома, жанчына спужалася. У яе было адчуванне, што дом яе разбураны і дах вось-вось абваліцца на галаву. Калі страх прайшоў і ўзняты пыл пачаў асядаць, Жана выбегла ў двор і бруднымі словамі аблаяла збялелага шафёра. Той адразу прызнаў сваю віну і паабяцаў паправіць дамок раз'юшанай вядзьмаркі.

Рамонт Сяргей зрабіў сам. Плот паставіў. Дзірку ў сцяне заклаў цэглай і атынкаваў. Акно зашкліў. Шпалеры паклеіў. Плот і дом давялося яшчэ і перафарбоўваць. За час рамонту Сяргей і Жана пасябравалі, зблізіліся і злюбіліся. Шафёр нават зрабіў вядзьмарцы прапанову выйсці за яго замуж, але паставіў адну ўмову: Жана павінна была цалкам змяніць сваё харчаванне. Яна мусіла кінуць есці чорную зямлю, яшчарак, пацукоў, сабак, катоў, балотныя кветкі, жаб, трытонаў, груганоў і мышэй. Вядзьмарка паабяцала Сяргею, што кіне есці вядзьмарскія прысмакі і будзе харчавацца проста, як усе звычайныя віленчукі. Яна стрымала слова і пражыла пад адным дахам з Пеюном доўгае і шчаслівае жыццё.

## Белы сад

Экскурсавод Яўген Ломаць вадзіў пілігрымаў па Вільні. Зарабляў ён добра. Жыў са смакам. Расказваў вандроўнікам пра мінулае, сучаснае і

будучае Вільні. Тут было так, а зрабілася гэтак. Там было, а цяпер стала. На гэтым месцы будзе... Падчас адной экскурсіі Ломаць востра адчуў незваротнасць жыцця. На гэтым месцы праз сотню гадоў будзе стаяць Вільня, а яго, Яўгена Ломаця, у ёй не будзе. Загараваў мужчына. Так загараваў, што кінуў працу і пайшоў у свет шукаць вечнае жыццё.

Зайшоў у лес, заблукаў і ўжо падумаў, што не выйдзе з яго. Але выбраўся, бо дапамог яму Лесавік: пашкадаваў шукальніка вечнасці і вывеў на дарогу. Ішоў Ломаць па дарозе, збочыў на сцежку, па сцежцы зайшоў у балота і зноў падумаў, што згіне ў багне. Не згінуў, бо Балотнік дапамог: выцягнуў з твані і правёў на сухі край балота. За тым балотам узвышаўся груд, на якім рос белы сад, а пасярод яго стаяў дом, у якім жыла жанчына – беззаганная Арына. Яўген спытаў у яе: “Ці ведаеш ты хоць нешта пра бясконцае жыццё?” – “Ведаю... У маім белым садзе і ў маім доме заўсёды раніца і заўсёды вясна. Жыццё тут, на гары, бясконцае...” Узрадаваўся Яўген і застаўся жыць з Арынай. Застаўся ў садзе, дзе заўсёды вясна, застаўся ў доме, дзе заўсёды раніца.

Трыццаць тры гады Яўген пратрываў у бясконцым жыцці і засумаваў. Ён сумаваў па лету, па зіме і восені. Сумаваў па зорах у начным небе. Ён так знудзіўся, што папрасіў у Арыны дазволу, каб вярнуцца ў Вільню. Жанчына спякла хлеб, адрэзала лусту, загарнула яе ў палатно і сказала: “Калі стане табе кепска ў абноўленай Вільні, ты з’еш лусту майго хлеба – і вернешся ў той стары горад, з якога выходзіў”.

Яўген Ломаць вярнуўся ў Вільню праз трыццаць тры гады і не пазнаў свой горад. Усё ў ім зрабілася інакшым і чужым, нават людзі ў горадзе гаварылі на розных малазразумелых мовах. Яўген разгарнуў палатно, дастаў лусту, з’еў хлеб і вярнуўся ў тую Вільню, з якой выходзіў шукаць сабе вечнае жыццё. Вяртацца на працу экскурсавода ён не захацеў. Яўген Ломаць уладкаваўся ў часопіс, дзе пісаў штотыднёвыя прадказанні ў форме гараскопаў. Яны карысталіся вялікім попытам, бо шмат што з іх сапраўды збывалася.

## Ружовыя пялёсткі

Андрэй Дыла разам з жонкай прыйшоў на аўтавакзал. Яны збіраліся ехаць з гарачай жнівеньскай Вільні на адпачынак да прахалоднага мора ў Палангу. Жонка папрасіла Андрэя пачакаць каля чамаданаў, а сама пабегла па бутэльку вады. Больш ніколі свайго Андрэя Дылу яна і не бачыла. Чамаданы засталіся, а муж знік назаўжды.

Пакуль жонка купляла мінералку, да Андрэя падышла вядзьмарка і паказала яму ружовыя пялёсткі. Дылу так яны зачаравалі, што мужчына кінуў чамаданы, жонку, забыўся на адпачынак каля мора і пайшоў за вядзьмаркай у Зарэчча. Сведкі бачылі, як Андрэй ішоў па зарэчанскай вуліцы разам з жанчынай. Больш яго ніхто не сустракаў, адно расказвалі, што вядзьмарка зачаравала Дылу, калі паказала яму на аўтавакзале свае ружовыя пялёсткі.

## Рудая котка

Юрась Ткач жыў з маці. Яна па тры разы на дзень прасіла сына, каб той знайшоў сабе жонку. Юрась шукаў, але яна не знаходзілася, ажно

пакуль ў парку каля вежы Гедыміна не пабачыў рудую котку. Ткачу яна так спадабалася, што ён вырашыў злавіць жывёлу і забраць дамоў. Юрась асцярожна пайшоў за рудой прыгажуняй. Тая спусцілася з гары, прайшла ў бок рэчкі і схавалася ў маленькім дамку. Праз акно Ткач убачыў, як рудая котка ператварылася ў рудавалосую жанчыну.

Тры месяцы, тры тыдні і яшчэ тры дні Юрась Ткач заляцаўся да рудавалосай прыгажуні і ўгаворваў выйсці за яго замуж. Нарэшце дзяўчына дала згоду. Маці Ткача нядоўга радавалася за сына, бо аднойчы пабачыла, як яе нявестка перакінулася ў рудую котку. Старая Ткачыха вырашыла неадкладна ратаваць сына. Яна забіла котку, пасекла яе труп рыдлёўкай на кавалкі і закапала на кветніку.

Юрась шукаў жонку тры месяцы, тры тыдні і тры дні, а потым убачыў каля дома на сваім кветніку незвычайную рудую кветку і пазнаў у ёй страчаную жанчыну. Ткач ажно заплакаў ад шчасця, што нарэшце знайшлася яго прыгажуня. Хай кветка, хай зусім не такая, як была, але ж яна ёсць, яна знайшлася, і яна тут! Сляза з мужавага вока выцякла і ўпала на рудую кветку, а тая ўзяла дый ператварылася ў рудавалосую жанчыну. Маладыя вырашылі кінуць старую Ткачыху ў Вільні, а самі назаўжды з'ехалі жыць на бераг Нёмана ў Друскенікі.

## Белая вада

Праграміст Валодзя Воўк жыў адзін. З-за самоты ён пачаў карміць птушак. Купляў крупы ды семкі, сыпаў іх на брук і радаваўся разам з галубамі. Сярод птушак знайшоўся голуб, які завёў праграміста да чараўніка. У яго Валодзя і навучыўся шматлікім фокусам і цудам. На развітанне чараўнік падараваў праграмісту маленечкую бутэльку белай вады.

Ідучы па вясновай Вільні з бутэлечкай у кішэні, Валодзя Воўк сустрэў старую жанчыну, якая была падобна да ягонай маці-нябожчыцы. Воўк спыніў старую і прапанаваў ёй выйсці за яго замуж. Тая адмовілася, спаслаўшыся на ўзрост, але пагадзілася працаваць у Валодзі ў якасці кухаркі і прыбіральшчыцы. Воўк, пачуўшы пра згоду, abліў старую белай вадой – і жанчына памаладзела ўтрая... Праграміст і яго маладая жонка яшчэ доўга-доўга кармілі птушак на віленскім бруку.

## Месяц і залацістая зорка

Воля Дол ішла на кірмаш, калі пачула голас прыдарожнага валуна: “Ты дастанешся небу...” Вяртаючыся, дзяўчына зноў пачула той самы голас і тыя ж словы пра неба. Дома яна расказала бацькам пра здарэнне. Маці і бацька моцна перапалохаліся. Яны так спужаліся, што вырашылі ўцячы з Вільні і схаваць дачку ў якім іншым месцы.

Пакінуўшы горад, уцекачы паехалі праз лес. Калі пачало цямнець, сям'я Долаў убачыла замак, абнесены высознай цаглянай сцяной. Воля зайшла ў адчыненую браму, каб папытаць у каго-небудзь дазволу заехаць у замак і пераначаваць. Тут вароты ўзялі ды зачыніліся. Колькі бацькі ні грукалі ў жалезную браму, ніхто ім не адчыніў. Воля чула грукат і крыкі бацькоў, але, як ні спрабавала, не змагла адчыніць браму.

Дзяўчына пайшла па замку шукаць дапамогі. У бязлюдных пакоях Вольга знайшла маладога нябожчыка. Побач з ім на каменнай падлозе

ляжаў кавалак папіруса з надпісам: “Выцягні меч з сэрца забітага! Хай ён вернецца ў свет святла! Хай дапаможа табе знайсці сваю дарогу!” Воля выцягнула меч з сэрца прыгожага нябожчыка. Малады ваяр устаў і зрабіўся ясным месяцам, а Воля Дол зрабілася залацістай зоркай. З таго часу па-над начной Вільняй паўсталі светлатвары месяц і ягоная залацістая зорка. Бацькі Волі пабачылі на небе залацістую зорку, пазналі ў ёй сваю дачку і суцешыліся.

## Залатыя рогі

Маладой віленчанцы Антаніне Сініцынай спадабаўся анёл. Жанчына так закахалася, што лётала за ім неадчэпна. Куды анёл – туды і Сініцына. Заляцанні жанчыны скарылі крылатага прыгажуна. Яны пачалі цалавацца і любіцца. Антаніна дзвюма рукамі ўчапілася ў анёльскі німб. Анёл ускінуў галаву. Німб хруснуў. У руках жанчыны застаўся вялікі кавалак бясцэннага ўпрыгожання, а на анёльскай галаве ўзніклі залатыя рогі. Так у нашай Вільні і з’явіўся першы чорт.

## Чытацкі білет

Журналістка Валя Цвік нават сярод калег вызначалася эксцэнтрычнасцю. Яе жыццё складалася з розных трагікамічных сцэнак, таму мала хто ўслухоўваўся ў яе словы. Што б ні казала Валя, усе чулі адно “вух!” ды “ах!” Нават яе каханак кінадраматург Макс Дубатоўк не надаў увагі яе маналогу пра забойства... “Я цябе заб’ю! Дубатоўк, ты мяне чуеш? Я цябе заб’ю, калі прыдумаю, як пазбавіцца ад твайго паганага трупа. Ты мне надакучыў! Я цябе ненавіджу! Ты займаеш усе мае думкі з раніцы да вечара. Як толькі я вынайду спосаб схаваць нябожчыка, ведай: прыйшоў твой канец!”

Макс быў далёка не дробным чалавекам. Росту ў ім было пад метр дзевяноста, важыў ён больш за сто кілаграмаў. Але памеры не ўратавалі Дубатоўка. Валя Цвік закалола каханка нажом, а цела парэзала на кавалкі бензапілой. Папілаванага Дубатоўка Цвік расфасавала ў чорныя мяшкі для смецця. Потым звезла іх на гарадскі сметнік. Здзічэлыя сабакі паразрывалі мяшкі. Шафёр віленскага смеццявоза адшукаў не толькі галаву Дубатоўка. У мяшку з галавою ён знайшоў і чытацкі білет, выпісаны на імя Валі Цвік.

Як білет для наведвання ўніверсітэцкай бібліятэкі трапіў у мяшок з галавою, Валя не захацела тлумачыць. На пытанне, чаму яна так жорстка абышлася з каханкам, адказала проста: “Забіла, бо гуляць гуляў, а замуж не браў!”

Дзяўчыну пасадзілі за краты. Па дарозе ў турму паліцэйскія малявалі перад Валяй самыя змрочныя перспектывы. Дарэмна стараліся, бо Валя Цвік выйшла з камеры ў калідор, а потым і з турмы на вуліцу – праз сцяну. Так! Яна магла праходзіць праз сцены, а свой чытацкі білет Валя падкінула да адрэзанай галавы каханка дзеля забаўкі.

## Шэрае неба

Горкі п’яніца Энцыляхій Бохан прадаў сваё адлюстраванне. Вось як гэта адбылося.

Энцыляхій прапіў усё да ніткі. Папрапіваў ён і ўсе пазыкі, якія толькі мог зрабіць. Грошы ў п'яніцы скончыліся, а выпіць усё яшчэ хацелася страшэнна. Нутро гарэла пякельным полымем. Ледзь жывы Энцыляхій павалокся да Святой брамы, каб у Маці Божай папрасіць паратунку. Па дарозе да брамы Бохан мінаў прывакзальны базар, там ён і пабачыў чарнавусага д'ябла. Элегантны, у чорным палітоне, князь цемры стаяў пад светлафорам і праз чорныя акуляры пазіраў на базарную мітусню. Энцыляхій пераадолеў страх і падсунуўся да нячыстага:

– Дружа, купі маю душу!

– Праз пару дзён твая душа, горкі п'яніца Энцыляхій, і так будзе маёй. Я пачакаю, – д'ябал павярнуўся да п'яніцы спінаю.

– Купі мой цень. Я чуў, што ты купляеш у людзей іх цені, – слёзна папрасіў п'яніца.

– Каб мы былі ў Афінах ці ў якім Іерусаліме, можна было б і пра цень пагаварыць. Мы на поўначы, мы ў Вільні. Колькі тых сонечных дзён на балтыйскай поўначы? Раз-два – і няма. Зноў дождж. Зноў шэрасць. Зноў лужыны кругом. Так што і твой цень, спадар Бохан, мне зусім не патрэбны!

– Лужыны, лужыны, лужыны... Чорт, як жа мне хочацца выпіць! Хоць ты падай на карачкі і з лужыны пі... Слухай, дружа, купі маё адлюстраванне. За бутэльку віна я прадам табе сваё адлюстраванне...

– Адлюстраванне, кажаш? Яго, здаецца, я яшчэ не купляў. Я шчодры, таму дам табе бутэльку гарэлкі. Дам такую бутэльку, у якой гарэлка ніколі не скончыцца для цябе.

П'яніца ўзрадаваўся. Ён пайшоў разам з д'яблам у зацішны двор. З-пад крыса свайго чорнага палітона князь цемры дастаў вялікае круглае люстэрка. Ён прымусіў Бохана трымаць люстэрка, на якое наліў трохі гарэлкі. Праз пластыкавую кактэйльную трубачку д'ябал выпіў разлітую па люстэрку гарэлку. Ён яе засмактаў разам з адлюстраваннем горкага п'яніцы Энцыляхія Бохана. Недапітую бутэльку разам з круглым люстэркам д'ябал пакінуў нікчэмнаму чалавеку, які прапіў усё, нават сваё адлюстраванне.

Бохан вырашыў неадкладна праверыць, ці не падмануў яго д'ябал. П'яніца пачаў заліваць у сябе гарэлку наўпрост з рыльца. Ён заліў яе столькі, што памёр тут жа, у зацішным двары, лежачы тварам на люстэрку, у якім не было ягонага адлюстравання, але выдатна адлюстроўвалася спакойнае нізкае шэрае неба.

## Металічныя шарыкі

Сантэхнік Рыгор Карапет спраўна рамантаваў унітазы, а яшчэ ён выдатна труціў мышэй і пацукоў. Карапет карыстаўся ў Вільні вядомасцю і быў запатрабаваны, але Рыгору было сумна рабіць звычайныя і добрыя справы. Ад іх ён не атрымліваў задавальнення. Радасць прыносілі розныя дробныя злачынствы. Разам з пацукамі і мышамі Карапет труціў сабак і катоў. Душа паскудніка трыумфавала, калі гучаў плач гаспадара забітага сабакі. Весяліўся Карапет і на могілках, дзе завальваў крыжы і разбіваў малатком твары на партрэтах нябожчыкаў.

За мярзотным заняткам яго і заспеў аднойчы стары вартаўнік могілак. "Што ж ты, скаціна бязрогая, вырабляеш? Каб табе самому цяжкім малатком ды па твары гвазданупь! Прэч пайшоў з нашых могілак!" – стары крычаў здалёк, бо пабойваўся наблізіцца да ўзброенага малатком вар'ята.

Вартаўнік баяўся, і Карапет сам рашуча пайшоў на яго. Рыгор узняў руку з малатком, каб абрынуць удар на старога. У гэты момант вартаўнік схапіў Карапета адной рукой за доўгі нос, а другой за вялікае вуха. Вартаўнік крутануў галаву паскудніка так, што скура на яго шыі луснула. З вялікай ірванай раны на зямлю пасыпаліся бліскучыя металічныя шарыкі. Усё нутро Карапета было запоўнена дробнымі сталёвымі шарыкамі. Яны высыпаліся, задыміліся і хутка пазгаралі на свежым паветры. Скуру сантэхніка Карапета вартаўнік выкінуў на сметнік да звялых і пасохлых букетаў.

## Чырвоны тур

Здарылася тое дзіўнае ў часы, калі на землях нашых уладарылі князі. У Полацку кіраваў князь Полацкі, у Тураве – князь Тураўскі, а ў Вільні – князь Віленскі. Князь Віленскі меў найпрыгажэйшую жывёлу з тых, што вяліся ў тутэйшых краях, – чырвонага тура. Ні ў князя Тураўскага, ні ў князя Полацкага тура не было. Казалі, што ва ўсім белым свеце засталася адна асобіна – чырвоны тур князя Віленскага. Хто толькі не прыязджаў у Вільню, каб палюбавацца на тура! Натоўпы цікаўных збіраліся паглядзець, як рэдкую жывёлу купаюць у рэчцы.

Вядома, што ўладару тура зайздросцілі. Найбольшую зайздрасць меў навагрaдскі лекар. Самы знакаміты лекар у Беларусі мацней за ўсіх зайздросціў князю Віленскаму. Можна сабе ўявіць, як ён узрадаваўся, калі пачуў, што адзіная дачка князя Віленскага моцна захварэла і ніхто яе не можа вылечыць. Калі князь Віленскі папрасіў дапамогі ў навагрaдскага лекара, той запатрабаваў сабе чырвонага тура. Сказаў, што толькі на ім ён паедзе да хворай. Князь пагадзіўся. Лекар сеў верхам на чырвонага тура, прыехаў у Вільню і вылечыў князеву дачку. Замест платы за выратаванне дзяўчыны ён папрасіў вярнуцца з Вільні ў Навагрaдак на чырвоным туры, каб людзі на свае вочы пабачылі веліч лекара навагрaдскага. Князь Віленскі не пабачыў нічога кепскага ў жаданні лекара, ён і падумаць не мог, што той зарэжа чырвонага тура. Лекар вярнуўся дамоў, зарэзаў і падсмажыў жывёлу. Увесь Навагрaдак сабраўся на пачастунак. Лекар сказаў, што князь Віленскі сам загадаў падсмажыць тура на вогнішчы і пачаставаць навагрaдцаў. Так знік апошні тур з тых, што некалі жылі на нашых землях. Навагрaдцы казалі, што яны ніколі не каштавалі нічога больш смачнага за мяса печанага чырвонага тура. Пэўна, так яно і было на самай справе.

Шкада, што гісторыя пра чырвонага тура на гэтым не скончылася. Князь Віленскі не дараваў крадзяжу. Ён паслаў забойцу, які вострым кінжалам працяў сэрца лекара навагрaдскага.

*(Працяг будзе)*

Леанід Дранько-Майсюк



...Дзе свэдор?
Ото свэдор...
А дзе Хвэдор?
Ото й Хвэдор...
Хвэдор у свэдоры,
А свэдор на Хвэдоры!..

# Паязджане

***З кнігі "Полька беларуская"***

***ПРОСЯ***

Ледзь выправіўшы цыганку
Насеннаю бульбай з каша,
Убачыла Прося – на ганку
Два срэбныя злоты ляжаць.

З'явунак і дзіўны, і важкі –
Знак даўніх запольскіх дзён...
І профіль Пілсудскага цяжкі
На кожнай манеце відзён.

За гэткія за экспанаты,
Як справу на толк павярнуць,
Музейшчыкі і нумізматы
Жывую капейку дадуць...

Ды Просі ці клопату мала?
І думаць аб тым не магла,
Бо ейнае сэрца апала:
“Сурокі няўжо навяла?!”

На ганку, на слізкай рагожы
На смутак, а мо на бяду,
Цыганка ж пакінула грошы,
Якія даўно не ў хаду!

Адзнака вядзьмарскай навукі?!
Напэўна, адны цыганы
На гэткія здатныя штукі,
А хто ж яшчэ, як не яны?!

А мо і зусім не цыганка
Устроіла фортэль такі –
З’явілася неспадзяванка
На ганку з дзіцячай рукі!

На вабныя вушкі[1], на хату
Унукі залезлі ў той час
І выцяглі з пыльнага спрату
Старыя пянёндзы якраз...

А, можа, замала той бульбы
За мроі дурной варажбы...
Ля злотых варона пакульгвае,
П’е вочы, дзяўбе ілбы.

Пасля, нібы скруха сівая,
След сцелячы па зямлі,
Нямоглыя крылы хавае
Пад зяцевы “Жыгулі”.

## ***МІКАЛАЙ***

“Не маю той моды
Рабіць сабе шкоды...” –
Казаў-прыгаворваў
Мой дзед Мікалай.

---

[1] Вушкі (*давыд-гарадоцкае*) – гарышча.

Ён шыў чаравікі,
Румынкі[1] і боты, –
Умеў зарабіць,
Як і выпіць,
Заўсёды,
І меў жа работы штодня –
Цераз край...

З таго, што расказваў,
Запала мне ў сэрца
Такое яго назіранне
Пра немцаў, –
Што немцы ў вайну
Недаварвалі мяса
І бульбу, і крупы
З затоўкай-акрасай,
Бо ведалі:
У пераваранай страве
З'яўляецца смак,
Як ануча на лаве...

Як дзеда згадаю
Свайго Мікалая,
То тут жа й прыходзіць
Мне думка такая:

А раптам вайна?!
І яе не адмоліш,
То будзе тады,
Што было – усё тое ж...

Спакою страха
Разарвецца і рухне,
І зноў задыміцца
Паходная кухня;

Угнецца зямля
Пад нямецкім абцасам,
Прапахлая ўся
Недаварaным мясам.

---

[1] Румынкі – жаночы абутак, чаравікі з халяўкамі.

## *ЛЕСЯ*

Сцежка да покуці ад парога –
Сцежка да Бога.
Рыпне масніца –
Час памаліцца.

Ручнік на іконе новы,
Вяночак сухі з валошкі...
“Куры на седале,
У адрыне каровы,
Памалюся трошкі...” –

Так гаварыла Леся,
Мікалаева жонка...
У рабоце мела ўвішнасць,
Сала любіла і вішні,
Званіла скарбонкай...
У Вільні, Львове, Адэсе –
Скрозь гандлявала Леся.

Прадавала насенне, махорку,
Сыры і абутак гатовы;
Царскую залатую пяцёрку
Мяняла ў дзень кірмашовы.

Мікалаю тавар вазіла,
Але папалася ў Вільні,
І Макалай у турму сваёй мілай
Прывозіў і сала, і вішні...

Куфар на колах жалезных,
Скрыня на колах драўляных –
Такое багацце Лесіна,
Набытак для ўнукаў схаваны.

Мела язык жвавы,
Складна сказаць умела,
Не з краю, а ў цэнтры лавы,
Нібыта Бона, сядзела.

Спявала, не знала дакукі,
І ў жарціках меры не ведала,
І лёгка запомнілі ўнукі
Вершык пра *свэдора й Хвэдора*:

*Дзе свэдор?*
*Ото свэдор...*
*А дзе Хвэдор?*
*Ото й Хвэдор...*
*Хвэдор у свэдоры,*
*А свэдор на Хвэдоры!*

## ЗОЛАТА Ў БАЛЕІ

*Ахвярую Вользе*

Прачніся і супакой мяне,
Паклаўшы да скроні руку...
Мне сніцца звон залатых манет
У Давыд-Гарадку.

Іх сыпле ў балею твая рука.
Губляе Гарынь берагі.
Балея плыве з Давыд-Гарадка
Праз коміны і стагі...

Навокал патоп – не сусветны, ды ўсё ж...
Ні дахаў наўкол, ні акон...
Нібыта да горла падсунулі нож –
Такі ўжо надарыўся сон.

І хоць бы спакою маленечкі знак...
Сон ходзіць на галаве...
Манеты ў балеі! Прыгожа, аднак...
Не тоне балея, плыве...

Што значыць пакінуты волі сляпой,
Той сімвал на страшнай вадзе?
Багацце, якое губляем з табой...
Радзіма, якая ў бядзе...

Ці проста нічога, трызненне адно...
Ці мала што сніцца каму,
Аднак жа здаецца адзіным яно
І родным здаецца, таму

Як раптам патоне ў Амурскім трысці,
Пакіну цябе, каб балею знайсці, –
І хай дакранецца твая рука
Да скроні Давыд-Гарадка.

## ***“ПІЛЫ-НО́ЖНІЦЫ НАРАЗАЦЬ!..”***

*Ігару Лучанку*

Толькі сонца высвечвала хаты,
Рассцілала нябёсаў лянок,
Як з’яўляўся анёл барадаты
І тачыльны прыносіў станок.

Той анёл быў у белай кашулі,
А вачэй з-пад брыля не відаць,
І крычаў, каб усе яго чулі:
*Пілы-но́жніцы наразаць!..*

Дзверы грукалі і аканіцы,
І на вуліцу людзі няслі
І нажы, і сярпы, і нажніцы,
І сякеры, якія былі.

Станавіўся анёл каля плота
З-пад металу агонь выкрасаць,
І гучала вясёлая нота:
*Пілы-но́жніцы наразаць!*

І чарга да анёла стаяла,
І расплачваўся кожны хто чым –
Хто цыбуляй, хто бульбай, хто салам,
Хто грашыма, а хто і нічым...

Час мінуў, і ў бацькоўскай прасторы
Так шкада, што даўно не чуваць
Гэты кліч, гэты заклік бадзёры:
*Пілы-но́жніцы наразаць!*

*Пілы-но́жніцы наразаць,*
Пілы-но́жніцы – досыць спаць,
Пілы-но́жніцы і сярпы,
Нож любы, калі толькі тупы.

## ***ГОЖНЯ[1]***

Што кахалася з адным,
А пабралася з другім,
Не скажу нікому –
І яму, другому...

[1] Гожня – у беларускай міфалогіі багіня цнатлівасці.

На сабе сук[1] з енкам
Валасы ірве,
Бо мая сукенка
Па рацэ плыве.

Не суку дубоваму –
Аддаю сябе
Голубу вясноваму,
Што кару дзяўбе.

## ДОХ

На дзвюх, на трох, на чатырох?!
Відаць, ніхто не ведае,
На колькіх лапах скача Дох,
Як ходзіць ён, як бегае...

Глядзіць, напужаны, з куста,
Ці робіць міну важную,
І ці падобны на ката,
Ці на сабаку страшнага?..

А мо не лапы – капыты
Ён конскія падкідвае,
З кустоў зразаючы лісты
Хвастом, як вострай брытваю?..

Не ведае, напэўна, й Бог,
Заўважу тут дарэчы я,
Ці мае пысу гэты Дох,
Ці морду чалавечую?..

Аброс карою ці луской,
Ці шкураю сабакавай?
Жыве ў рацэ ці над ракой,
Ці ў пушчы ваўкалакавай?..

Мо тое гэтак?.. Мо не так?..
Пытанне за пытаннейкам...
Ды выкажу, нібы няўзнак,
Такое меркаваннейка:

[1] Няўдалы жаніх.

Калі з рагамі галава,
Калі карона з рэшата,
Тады ягоны дом – дрыгва,
Што знікла не дарэшты тут.

Ён чорт і, пэўна, смерць сама!
І землякі як здорава:
*Ах, Доха на цабэ німа!* –
Гавораць так пра ворага.

А вораг той не божы грак,
Таму з душой адкрытаю
Ля Турава гавораць так
І ў Гарадку Давыдавым.

### ЦІХ

*Коб Ціх цабэ забраў!..*
То голасна, то ціха
Заўсёды ён гучаў –
Праклён майго дзяцінства.

І раздзімаў *Кода́к*
І сукні, і спадніцы,
Бо праклiналі так
Бабулі, маладзіцы.

Яны, скажу прасцей,
Вялося гэтак зроду,
Найбольш клялі дзяцей,
Якія лезлі ў шкоду.

Ды зла ў праклёне тым
І не было такога,
Каб Ціх здаваўся злым
Для неслуха якога.

А можна й так сказаць:
З прычыны, без прычыны,
А ўмелі праклінаць
З ласкавасцю жанчыны!

---

[1] Вуліца ў Давыд-Гарадку, вуліца майго дзяцінства.

Таму ці ў лахмане,
Ці ў шкуры, амярцвелы,
А не палохаў, не,
Той Ціх незразумелы!

А як ён выглядаў –
Калмата ці багата?!
Ці "мяў" казаў, ці "гаў"
У хаце, ці за хатай?!

Спытайцеся ў ракі
Гарыні вы пра гэта...
Партрэт яго такі,
Што і няма партрэта!

Не дзед, а так дзядок,
Не чорт, а проста дзіва –
Давыдаў Гарадок
Ягоная радзіма!

І каб ён жыў, блукаў,
Яго квітнела сіла:
*Коб Ціх цабэ забраў!* –
Крычаў і я на сына.

## ***РЭЗЛЯ***

*У прыкрую хвіліну са злосці на каго-небудзь*
*(або на што-небудзь) у Давыд-Гарадку могуць сказаць:*
*"Коб ёго Рэзля вуразала!")*

Хадзіла Рэзля хлісткая
Па Гарадку Давыдавым
І песеньку насвіствала
Даволі ядавітую.

І песню тую злосную
Усім было чуваць:
*Раза патрэбна гострая,*
*Коб рэзаць, вуразаць!*

І хлісткая, і скрытная,
І дужая, не хілая,
І не сказаць, што брыдкая,
І не сказаць, што мілая.

А проста Рэзля простая,
Якой адно спяваць:

*Раза патрэбна гострая,*
*Коб рэзаць, вуразаць!*

А што патрэбна вы́разаць
Паганага, аблуднага –
То не злічыць, не выказаць
Таго ўсяго паскуднага.

І млосна-невыноснага,
Як нервы тут стрымаць:
*Раза патрэбна гострая,*
*Коб рэзаць, вуразаць!*

### ФРАГМЕНТ ПАЭМЫ “ПАЯЗДЖАНЕ”

**Слуга**

*(Адчыняе браму.)*

Якая навала
З патрэбай якой
У ноч вас пагнала
Парою такой?!

Душа залатая
Мой пан... Загадаў,
Каб свечкай з акна я
Вам шлях паказаў!

**Паязджане**

Хваліш ты гаспадара –
Знаць, ён добры чалавек,
Сэрца, поўнае дабра,
Раз пускае на начлег.

Мы заплацім за цяпло,
За надзейны гэты схоў
І за тое, каб святло
Ты запальваў зноў і зноў.

*(Даюць грошы.)*

**Слуга**

*(Хавае грошы.)*

Пускае начаваць
Вас пан з такою мэтай:

Па казцы расказаць
Вы мусіце за гэта!

**Паязджане**

Так павялося ў нашым краі,
Што казкі – гэта матчын дар...
Хто казкі родныя не знае,
Той сам сабе не гаспадар!

На дом забыўся свой і поле,
Заморскіх нахапаўся дзіў;
Хто казкі матчыны не помніць,
Той маці родную забыў!

У нашых казках – наша вера,
Нязнанай будучыні даль;
Адвага рыцара-жаўнера,
Вандроўнага музыкі жаль.

І хараство старонкі мілай –
Танчэйшая з усіх струна!
І мовы беларускай сіла –
Непераможная яна!

І долю маючы цяжкую,
Не гінем у гады свае,
Бо казка ж у пару любую
Ратунак радасны дае!

**Слуга**

*(Не даўшы дагаварыць.)*

Пра тое ў хаце дагаворым,
Спрыяе казкам позні час,
І гаспадар мой (час каторы!)
Чакае вас усіх зар*аз*...

Свае апавяданні вешчыя
Паказвайце, нібы тавар,
І пачынайце лепш пра Нешчарду,
Якую любіць гаспадар.

**Паязджане**

*(Нібыта ўспамінаючы, уязджаюць у двор.)*

Нешчарда – доўгае возера...
Снегам яго пазаносіла...
Жах апынуцца там поначы...
Край беларускае поўначы...

## МАЁ МАСТАЦТВА

*Барысу Пятровічу*

Мяне заўсёды захапляе,
Што ў прыгажосці-пекнаце
Спачатку вішня зацвітае,
А потым яблыня цвіце.

І гэта ёсць маё мастацтва,
І гэтак мне да смерці жыць –
Вішнёвым цветам захапляцца
І яблыневы цвет любіць.

Мойша Кульбак



...усё...

# Муня-птушкавод і яго жонка Малкелэ

*Пераклаў з ідыш Вольф РУБІНЧЫК паводле «Yiddishe kultur» (за сакавік-красавік 1996 г.)*

## Муняў тата

Некалі Муняў тата, яўрэй з каўтунаватай барадой, у самотныя зімовыя вечары снаўдаўся па хаце са сваімі думамі. Ён думаў пра свайго сына-пераростка, жывую душу... Бязногі небарака нічога не меў, соваўся з ранку да ночы на сваім азадку па глінянай падлозе і – гвалт! – заганяў бацьку ў жабрацтва. Тата ўсе ночы думаў і сплёўваў, і лаяўся ад болю. Хлапец выядаў яму мозг.

Але аднойчы, на пачатку вясны, калі снег ужо раставаў, тата, гэты каўтунаваты яўрэйчык, зайшоў у домік з патаемнай радасцю і пыхаю. Ён прынёс закрытую клетку з птушкамі, паставіў яе на стол і з-за пазухі пачаў пакрысе выцягваць адэскіх галубоў. Ён, тата, цягнуў іх паціху з аглядкаю, як быццам яны прыраслі былі да яго цела. Тады Муня раптам злавіў пяшчотнае цяпло, што зыходзіла ад

птушыных цельцаў, пачуў смачнае вуркатанне і свіст, які выбіваў слёзы. Разгублены, ён злез з тапчана, яшчэ ўвесь у мінулым, і ледзь не страціў прытомнасць. А пакамечаны тата яго прабурчаў праз глухую, калючую бараду:

– На, гора маё, гадуй і зарабляй грошы!

А потым ён узяў ды памёр, гэты яўрэй, Муняў тата.

## Муня

Муня гадаваў і прадаваў птушкі. Прагнілая хатка, абвітая плюшчам, аблепленая слізкімі, вадзяністымі грыбамі, набыла выгляд катуха. Галубы пакрылі старыя сцены, шафы і сталы нечым кшталту вапны. У паветры стаяў густы пах пер'яў, птушынага памёту. Праз маленькія, брудныя шыбкі зазірала жменька рэдкіх, халодных промняў. З усіх клетак свістала, птушкі танчылі за дротам, грукалі дзюбамі па бляшанках і накрыўках. Муня поўзаў на сваёй цяжкой скуранoй сядушцы, залазіў у клеткі да галубоў, мацаў іх, дзьмухаў на пёркі, паціху падбіраючы пары. У маленькіх клетачках спявалі жоўтыя, нібыта лімоны, танклявыя канарэйкі. Па хаце разгульвалі падрослыя галубы, моцныя, бы тыя пеўні. У прыцемках нязменна маляваліся каржакаватыя мужычкі з тоўстымі бульбянымі насамі: птушкаловы, якія прыходзілі ў хату аднекуль з мокрадзі беларускіх лясоў. Яны драмалі ў кутках на мяхах з бульбай, смярдзелі, запальвалі аграмадныя люлькі, што выдавалі на цэлыя паравыя машыны.

Гешэфты рабіліся ў цішыні. Таўсматых гілёў з чырвонымі жывоцікамі мянялі на разбітыя клеткі; чыжыкаў мутна-рамонкавых адценняў – на пасткі-мышалоўкі, старыя абцерханыя капелюшы, якія шмат гадоў валяліся на гарышчах. Застылыя дурнаватыя вочы пакрысе выглядвалі з-пад шчыльных павекаў, як вада пад зарасцямі хмызняку, і часам вымаўлялі слоўца-другое – ленавата, хрыпла. Словы тыя былі падобныя да кашлю альбо крактання.

Муня паўсюль паспяваў, пляскаў па халодных стогадовых руках. Гэта значыла, што недзе ў бярозавым лесе заўтра на досвітку пакажацца маўклівы мужычок: пры патрэбе ён будзе цягацца тамака тыднямі, пакуль у пастку не трапіць вавёрачка і, можа быць, чыстапёры кенар. Напэўна, пра Муню спявалі ўжо на ўсіх балотах і ва ўсіх далёкіх лясках Беларусі! Справы яго ішлі як мае быць.

## Цётачка Нэха

Гарачыя, здранцвелыя сонечныя дні. Дрэвы, што былі выразаны з празрыстай яснасці, стаялі без ценяў. Ніводная галінка не варушылася. На паркане дзівавалася сарока з раскрытай ад скавару чорнай дзюбай. Муня сядзеў на парозе сваёй хаты і чакаў людзей, але ніхто не крочыў па распаленай дарозе.

Толькі пад вечар завітала ў госці цётачка Нэха. Яна – кірмашовая баба, гандлюе на рынку, але няблага знаецца і на халасцяцкіх справах.

Птушкі, скачучы, спявалі з усіх клетак. Муня падлез да стала і сабраўся слухаць. Нэха рэйдала вакол ды вакол з прыгожымі зваротамі. Намякала яна, што мужчына ў нашыя дні павінен мець гаспадыню ў доме. Яна, цётачка Нэха, таксама гандлюе птушкамі, таму ведае, што гэта за цяжкая праца.

Муня сядзеў чырвоны і нерухомы, не як чалавек, а як аскепак шэрага валуна. Ён ані мірганув, але сэрца яго ліхаманкава тахкала. А цётка Нэха ўсё гаварыла вакол ды вакол з прыгожымі зваротамі. Акенцы, якія быццам наблізіліся, прапускалі праз сябе водбліск беднага захаду сонца, што не даваў ні фарбаў, ні цяпла. Урэшце зірнула на Муню цётка Нэха, пасунулася бліжэй і прашаптала ў вуха такое, што нібы апякло Муню, і агонь разліўся там, дзе для яго заставалася месца.

Муня маўчаў, але ў тую ноч ён павольна залез у клетку да галубоў і з расплюшчанымі вачыма праседзеў там да світання. Ён думаў, ён разважаў. З першымі промнямі канарэйкі заспявалі прыўкрасныя арыі, і Муня памыўся з місы. Ён расчасаў свае чорныя патлы, падкруціў вусы і сеў ля адчыненых дзвярэй.

Бралася на вечар, а цётка Нэха ўсё не прыходзіла. Унутры ўжо драмалі каменныя мужычкі, нібы абкручаныя дротам старыя жбанкі. На каленях іхніх стаялі маленькія клеткі. Мужычкі па-дзіцячы дурэлі, балбаталі з радаснымі птушкамі, і Муня таксама быў у добрым гуморы. Ён нават насвістваў, рыхтык птушка, а потым выцягнуў шыю і пачаў спяваць басам, адылі ён не ўмеў спяваць.

Увечары на зрубы леглі тоўстыя цені. Маларослы мужычок, стары як свет, дамовіўся заначаваць у Муні. Мужычок прынёс са сваёй далёкай вёскі варону, якую сам гадаваў пяцьдзясят гадоў. Цяпер ён стаяў, абапершыся на два свае кійкі, і прамаўляў да птушак. Муня ўзрушана поўзаў па хаце, паціраючы сабе лоб, бо ў ягонай галаве кіпелі важныя думкі, і калі мужычок на хвілю сціх, ён, Муня, выставіў палец у яго бок ды крыкнуў у бруднае, мшыстае вуха:

– Ці мажліва, каб мы ўзялі бабу ў хату, га?

– Можна, чаму не, можна? – фальцэтам выціснуў з сябе мужычок. Голас у яго выходзіў аднекуль з пляча. Пасля гэтых слоў надумаў мужычок яшчэ і пасмяяцца, але з гэтага нічога не выйшла. Ён выглядаў, бы стары абвалены катушок, у якім шчыруе вецер, дзе грукаюць перасохлыя дошчачкі і гонта. Птушкі паснулі ўжо, а мужычок, толькі ў два разы старэйшы за сваю варону, усё мітусіўся, крактаў, нешта мармытаў, пакуль таксама не задрамаў недзе на мяху з бульбай.

Так у цёмнай хатцы заснула блізу пяці соцень жывых душ.

На ранку прыйшла цётка Нэха з навіною. Паколькі няможна рушыць птаства, хатку бяліць не будуць. Але Муня павінен павесіць шыльду, каб Малкелэ, нявеста, ведала, з кім мае справу.

– Маеш, Муня, грошыкі ў куфары?

Цётка Нэха пакруцілася па хаце, зазірнула ва ўсе куткі, прыадчыніла акенцы, а потым па-гаспадарску закасала рукавы і сама ўзялася за мятлу. Пашмаравала лаўкі, папырскала з рота вадою, узбіла падушкі. Раптам, схапіўшыся за кошык, яна непрыкметна знікла.

Так, цётка Нэха знікла, бы той вецер.

Муня падпоўз да ababітага тканінай зялёнага куфра і доўгім ключом, што вісеў у яго на голым целе, марудна адкрыў цяжкое дубовае вечка. Там хавалася ўсё Мунява майно: белыя кашулі з па-сялянску расшытымі каўнярамі, па-фабрычнаму квяцістыя гальштукі, розныя сурдуты і камізэлькі. На самым дне куфра ляжалі адпрасаваныя порткі і нават пара новых лакаваных чаравікаў.

Нікога тады не было дома, калі Муня папстрыкаў па мяккіх падэшвах,

быццам па гліняным гарлачыку. Ніхто не азірнуўся на Муню, калі ў той жа вечар ён цягнуўся з лазні дахаты з кашуляй пад пахай, распараны, як печаны яблык. Ніхто не паглядзеў на яго.

## Малкелэ-нявеста

Цётка Нэха памагала Муню завязаць чырвоны, агністы гальштук. Вечар стаяў белаваты. Там, дзе мелася зайсці сонца, зеўрала пустэча. Голыя сцежкі між аблокамі нагадвалі аблезлыя рыштаванні на недабудаванай спарудзе. На доміку цяпер віселі аканіцы, як пара акуляраў, праз якія ўсё адно нічога не відаць. Але ўжо гарэла лямпа, і цётка Нэха памагала Муню завязаць чырвона-агністы гальштук. Стол зіхацеў халодна-белым, як снег, абрусам. Булькацеў самавар. Начыста вымытыя шклянкі з карычневай пахкай гарбатай пасялілі ў доме шэрае свята, і ў вычышчаных клетках таксама панавала шэрая цішыня. Муня круціў свае чорныя вусы. Цётка Нэха мітусілася: то заходзіла ўнутр доміка, то выходзіла. Ці няма яшчэ чарнявай, прынадлівай нявесты, Малкелэ? Лямпа гарэла доўга, і гальштук Муні пераліваўся ўсімі колерамі вясёлкі.

Нарэшце цётка Нэха паціху, з нізкім паклонам, адчыніла дзверы нявесце. Тая павольна ўвайшла ў хату і *моўчкі маўчала*. Тут самае месца падзівіцца з клёку цёткі Нэхі, якая адразу вываліла купу размоў і расперажывалася праз дарагоўлю ў горадзе. Не ў дакор нявесце, тая ў пачатку была дужа збянтэжана і нават не паставіла свой парасонік у куток, як гэта прынята рабіць. Муня самавіта пакашліваў, вылупліваў вочы і падцягваў рэмень на пузе, як быццам той сапраўды трымаў порткі. Аднак потым Малкелэ загаварыла. Як запэўнівае цётка Нэха, у нявесты ў той вечар проста перліны з рота сыпаліся, а Муня сядзеў, абапершыся на далонь, слухаў ды захапляўся. Потым цётка Нэха сказала так:

– Муня, ты не пашкадуеш, таму што, калі Малкелэ хоча, у яе ўсё гарыць у руках...

Так яму стала ясна, што Малкелэ будзе ў доме добрай гаспадыняй. Ён сядзеў, ваўсю цешыўся і чакаў. Цётка Нэха выйшла, і Малкелэ тады ўпершыню загаварыла пра тое, як трэба сябе паводзіць, паўшчувала Муню за тое, што ён не п‘е гарбаты раніцой, на пусты страўнік. Тады Малкелэ нават узнялася з месца і паказала пальцам, дзе яна расставіць рэчы ў доме. Вядома, гэта было правільна.

Ужо набліжаўся ранак. Малкелэ сядзела ўсутыч з Мунем, знянацку шчыканула свайго жаніха дакладна ўнізе жывата і сказала:

– Мунечка, помні мой зарок, са мною ты будзеш мужчынам...

Так Муня даведаўся, што Малкелэ ў яго моцна закахалася, і сэрца яго задрыжэла ад захаплення, ён аж прытуліўся да нявесты і, разамлелы, стаў марыць:

– Малкелэ, ты будзеш варыць мне бульбу ў мундзірах... Тлусты селядзец купляй у Ханы-Двойры...

Яны ўжо і пацалаваліся. А першым у паўзмроку прачнуўся стары чыж, атрэс сваё цёпла-рамонкавае футра і засвістаў, звяртаючыся да сонца, якое толькі-толькі акрапляла акенцы ружовай расой. У клетках распачалося чуханне і няяснае цёмнае рыканне галубоў ва ўсіх кутках. Канарэйка зайграла ў сваю залацістую дудку...

## Муня і Малкелэ

Прагнілая хатка мокла пад нуднай восеньскай імжой. Дах звісаў ледзь не да зямлі, як кавал сырога торфу, а пахілы комін чадзіў і даваў смурод на ўсю акругу. Крывыя дзверцы на адной пятлі голасна рыпелі. Уверсе, акурат пад дахам, вісела шыльда на сіняй дошчачцы – чырвонаногі голуб з раскрытай зялёнай дзюбай і жоўтым вокам. Пад ім было выведзена чорнымі літарамі: «Тут прадаюць галубоў і іншых птушак».

Вецер ламіўся ў пульхны дах, церабіў анучу, якой заткнулі шыбу, і доўгімі вадзяністымі рукамі ляпаў па сценах.

Малкелэ стаяла ля дабудаванага прыпечка. Было задушліва, птушкі надзьмуліся і совалі дзюбы сабе пад крылы. Мужычкі з усёй акругі ў кажухах сядзелі ціхенька, гладзілі сабе вусы, абсыхалі. У той дзень душа пакінула цела чорнага дразда, і ён спруцянела ляжаў на стале з жоўтымі выцягнутымі нагамі і з адкрытым мутным вокам. Муня ўжо завіхаўся ля клеткі. Кашчавы мужычок стаяў над ім і нешта казаў, квохчучы, быццам курыца. У сваіх ільняных портках мужычок нагадваў пудзіла, што ставяць на палку ў восеньскім гародзе. Муня дужа смяяўся з яго аповедаў, ажно выціраў сабе рукавом слёзы з вачэй і гойдаўся на сваёй скуранай сядушцы.

Заспаная варона на пячным гзымсе павярнулася да ўсіх задам і з сілай махнула хвастом. Малкелэ схапілася за твар і гнеўна закрычэла:

– Муня, прыбяры сваю варону, яна спаскудзіла мне фрызуру!

І Малкелэ надзьмулася, як мыш на крупы. З павагі да Муніхі мужычкі ўзняліся і замахалі рукамі: «Кыш, кыш...» Тады варона, дыбаючы на сваіх даўжэзных нагах, няспешна адышла за печ і прамовіла:

– Бачыла я вас усіх у труне...

Тым часам Малкелэ ўсё сядзела надзьмутая, ні з кім не размаўляла. Потым яна падышла да стала, схапіла мёртвага дразда і шпурнула яго на падлогу. Муня засмуціўся, скора падпоўз да птушкі і сунуў яе сабе пад паху. Але яму не варта было так рабіць, бо Малкелэ збялела, падскочыла да Муні, выцягнула птушку і выкінула яе за дзверы з крыкам:

– Ад цябе ж ужо вечна смярдзіць падлай, цудоўны муж мой!

Так яна выгукнула. Муня падняў аціжэлыя вейкі, дурнатава паглядзеў, але не адказаў нічога. Мужыцкія авечыя вочы таксама паблукалі па доме, а потым павольна згаслі пад халаднаватымі павекамі. Была восень.

І была восень, і было хмарнае святло ў Мунявай хацінцы. Касыя восеньскія дажджы пазяхалі ў паветры, сточваючы апошнія сляды радасці. Недзе там, на калючым мутным полі, самотнае дрэва рыпела да меднага звону. Брудныя туманы віселі над дахамі, як рыззё...

Была восень. Адзін за адным цягнуліся вечары – вадкія, маркотныя, без зорак, найнуднейшыя вечары ў свеце. Муня ўсё сядзеў ля стала і абіраў бульбу ў мундзірах. Лямпа чадзела. Малкелэ б у такія доўгія вечары цыраваць мужавы шкарпэткі, але яна сядзела, склаўшы рукі, і бясконца драмала. Шчыраваў хіба вільготны вецер, цягнуў тонкія струменьчыкі, шмараваў сцены.

Восень. Вечар, які ніяк не скончыцца. Муня сядзіць сабе – і раптам чуе свіст пад самым акном. Нехта заклаў пальцы ў рот і свіснуў яму, Муню, проста ў вуха. Малкелэ спахапілася, узяла хусту, а Муня спытаўся:

– Малкелэ, хто свішча?

– Паглядзі ты на яго, паглядзі, – адпавяла Малкелэ, – гэта ж Зіска, сын Ханы-Добкі!

Муня крыху раззлаваўся, што не пазнаў Зіску, сына Ханы-Добкі, паводле свісту. Нешта яго дратавала, і ён прадоўжыў пытацца:

– Хто гэта такі – Зіска Ханы-Добкі, га, Малкелэ?!

– Ха, ты паглядзі... Гэта ж Зіска з брацтва...

І яна ўжо была далёка за дзвярыма. Муня пачухаў сабе патыліцу, пракляў увесь свет, а потым у цемры біў сябе кулакамі ў грудзі. Ля дома ўсё сціхла – значыць, Малкелэ такі пацягнулася са злодзеем Зіскам. Дожджык лупіў сваімі кроплямі ў падстаўленае дзесьці вядро.

У тую ноч Муня залез у ложак, прыкрыўся коўдрай і праляжаў да світання з расплюшчанымі вачыма. Тады дзверы ціхенька рыпнулі. Малкелэ прыйшла, хутка скінула сукенку, непрыкметна лягла ў ложак і адразу ж заснула. Муня ляжаў ля сцяны без руху і баяўся паварушыцца, так яму было балюча. Аднак на ранку Малкелэ паказала спрыт: печка была распаленая, на стале курэла бульба, птушкі, падскокваючы, пілі чыстую ваду, а сама Малкелэ заспявала нешта дужа прыгожае.

Тады Муня думаў патаемную думку: «У Малкелэ дапраўды ўсё гарыць у руках, але ж яна не павінна цягацца з іншымі мужчынамі, ці не так?»

## Зіска, сын Ханы-Добкі

Мужычкі з паскубанымі бародкамі, адзетыя ў кажушкі, прыносілі з сабою холад ядлоўцавых лясоў. У Мунявай хатцы яны гандлявалі прывозненымі птушкамі. Звар'яцелыя сінічкі штурхаліся ў клетках, пратачваліся праз дрот. Ружовыя жывоцікі гілёў нагадвалі крамяныя суніцы. Ад птушак патыхала балотнай вільгаццю. Вятры штораз пратачваліся ў домік – вятры, настоеныя на кіслым водары шэрых садовых яблыкаў. З туманаў вылушчвалася мацёрая, крывавая восень. Яна апаліла наваколле віннапахкімі агнямі і звінела сваімі вятрамі над кожнай люстэркавай лужынай.

Што Муні было рабіць у гэткую п'янкую восень, калі Малкелэ, яго жонка, сыходзіла ўжо амаль кожны вечар? Па начах, поўных гукаў, ён ляжаў, бы сабака ў нары, і прыслухоўваўся да далёкіх крокаў вакол сваёй хаткі. Ён затрымліваў дыханне пад коўдрай і чакаў, і толькі на маразявым серабрыстым досвітку вылазіў ён на двор да студні, абліваўся сцюдзёнай вадой, паволі атрасаў з сябе начную тугу. Так жыў Муня, і аднойчы Малкелэ мовіла яму:

– Скажу табе праўду, Муня... Скажу табе праўду – Зіска саромеецца заходзіць.

Тады Муня апусціў вочы, добра паразважаў і адказаў:

– Чаго саромецца? Я ж не мядзведзь.

І неўзабаве Малкелэ прывяла яго, гэтага сарамяжлівага Зіску, сына Ханы-Добкі. Ён гойдаўся на сваіх бліскучых боціках, карантыш з чырвонай патыліцай. Гойдаючыся, ён працягнуў Муню халодную мясніцкую далонь:

– Як справы, Муня?

Муня пацiснуў яго цяжкую руку, што нагадвала растрыбушаны агузак, і мармытнуў:

– Нічога, жывем сабе.

– А як твае гадаванцы?

– Дзякуй, што пытаешся.

Пасля гэтай размовы Зіска ўсеўся і з выгодаю выцягнуў ногі, паляпаў сябе па дужым карку і ззаду нацягнуў сабе шапку на вочы, як быццам хацеў схавацца ад сонца. Ён ужо гаварыў толькі да Малкелэ. Муня ціха палез да галубоў. Ён сышоў, бо ўцяміў сваю збыткоўнасць, як лішнімі былі ў ліловай восені запозненыя спевы птушачкі недзе ў бакавой клетцы. Пара аканіц, што прапускала праз сябе заўсёды толькі вадкае, свінцовае, няўклюднае святло, гэтым разам прапусціла віннае ззянне захаду з палёў. А можа, тое быў водбліск чырвона-жылістай восені, якая тапталася меднымі нагамі ды грымела па ўсіх шляхах.

У той вечар Малкелэ паслала Муню ўжо на тапчане ля акна. Ён, Муня, і насамрэч крыху саромеўся, калі поўз на свой халасцяцкі ложак. Ён крыху саромеўся. А потым ён не раз ляжаў у цемры і пільна ўслухоўваўся ў тое, што, уласна, выраблялa Малкелэ. Уночы, калі ніхто не прыходзіў, Малкелэ спала трывожна і часам дзіка раўла ўва сне. Тады ўжо Муня падпаўзаў і будзіў яе.

Так цягнуліся праклятыя, спустошаныя ночы. Здавалася, што свет стаіць на месцы. Аднойчы Муня не спаў, вырашыўшы пакласціся, калі Зіска сыйдзе, але той прыйшоў не тады, калі яго чакалі. Ён уварваўся сярод ночы раз'ятраны, рыкаў, нібы звер, і ўзяў Малкелэ на калені. П'яны Зіска смяяўся і цалаваў яе, Муня маўчаў. Тады раптам Зіска дзьмухнуў на лямпу і разам з Мунявай жонкай паваліўся ў ложак. Яны рагаталі. Муня ў жаху ледзь узлез на сваю пасцель, адчуў задышку і слязлівым голасам спытаўся:

– Што вы там робіце, га?!

Рогат адразу спыніўся, і востры Зіскаў голас, як мясніцкі нож з-пад халявы, прарэзаў цемру:

– Супакойся, брат, я ў цябе тваю смятанку не забяру...

І доўга потым у цемрадзі віраваў гарачы шэпт, які шыпеў, нібыта распаленая змяя, што расцягнулася па доме.

Муня ўціснуўся ў сцяну, заткнуў вушы і здранцвеў. Шмат гадзін ён ляжаў напяты і халодны, бы застыглая гліна. Ён маліў, каб хутчэй надышоў дзень, і толькі з першымі промнямі сонца злез з пасцелі. Бруднае святло капала з шыб і змешвалася з ценямі на сценах. Варона на печцы махнула цвёрдымі крыламі, а тады моўчкі зляцела з гзымсу. У ложку ля сцяны ляжаў Зіска, дугою падклаўшы руку пад галаў. Ён хроп і тонка прысвістваў. Малкелэ чухалася, потым прыўзнялася, расплюшчыла вочы. Калі далёка ў кутку яна заўважыла Муню, то пазяхнула:

– Муня, будзь ласкавы, прынясі мне папіць.

Ён прынёс вады. Малкелэ прагна выпіла, аддала конаўку і перавярнулася на другі бок. Акенцы зашарэлі, як халаднаватая мутная сталь. У доміку загаспадарыў аблезлы світанак. Муня падыбаў да вялікай драцяной клеткі, павольна адкрыў дзверцы і залез туды, да цёплых галубоў. Спалоханыя птушкі залапаталі крыламі, паўзляталі, аднак хутка сцішыліся, зноў паселі на жэрдачкі, прытуліліся адна да адной парамі і задрамалі вакол Муні. Ён сядзеў нерухома, абапершыся далонямі аб падлогу, ужо не як чалавек, а як аскалепак шэрага валуна.

*1928*

Сцебурака Усевалад



…"Нешта не так" – гэта код ідэнтычнасці.
"Хто там ідзе?" – наш нязменны пароль…

# Бліжэй да зямлі

* * *

Ў апошняй зямной сваёй хаце
жыць на высокім паверсе?
– Ды ну!
Памрэш вось,
і жонка скажа суседу:
– Вова,
памажы ты знесці труну.
Ён скасавурыцца кісла,
плячыма пацяпне –
Я-та – сусед, гуманіст, вядома,
ды толькі
– не!
Я за сваё жыццё нацягаўся
раяляў
ды газавых пліт
а зараз ў мяне кіла, падагра
і радыкуліт.

Раней усе хаты нармальныя былі
(зірніце ў даўнейшым кіно)
лёгка праз дзверы на двор вынасілі
ці ў скрайнім ужо
– праз акно...
А сёння ў гару кожны хоча залезці,
як горны баран
памрэ там,
і каб яго стылага знесці,
цяпер патрабуецца кран!..
А ты паглядзіш на іх, ссунуўшы вечка –
– Ну вас! Дапяклі!
І пойдзеш памалу,
падзьмуўшы на свечку,
бліжэй да зямлі...

* * *

Лясныя людзі
набіраюць ветру ў грудзі.
Лясныя людзі
абдымаюць цішыню
і слухаюць – ці далей нешта будзе –
і моўчкі прысядаюць ля агню...

Лясным людзям
апошняй пушчы ў свеце
ніяк няўцям, што тут яны адны.
На абязлюдзелай пустой планеце
ёсць толькі пушча, ціш і туманы...

Лясныя людзі
не былі на страшным судзе,
на іх забыўся арханёл з трубой.
Яны і не настойваюць на цудзе,
яны тут застануцца колькі будзе
адвечны лес
абрыдлы лёс
ды свой...

### *ЛІКБЕЗ*

Ёсць навукаў у свеце нямала,
ведам іх і канца не відно!
Куды б жытка цябе не загнала,
цвёрда памятай, браце, адно –
варта ў назвах іх не памыліцца
і паўсюль сыдзеш ты за свайго:
акуліст – вывучае акулаў,
а кінолаг, лагічна, – кіно!

### *РЭХА 1863-ГА*

Калі па нас заплачуць ліпы у прысадах
і доўгі цень на наш ўкладзецца шлях,
тут хутка расплануюць плац-парады
на нашых неўпакоеных касцях.
Нас не пакрыюць нашымі сцягамі,
нас адпяюць не нашы святары.
І толькі ветах узыдзе над намі
з-за вежы, што на замкавай гары.
І хай цяпер не наша перамога,
ды нельга укладацца на спачын –
мы да суда адпросімся ў Бога
давесці да канца змагарны чын.
Дарэмна Пётр стаіць ля брамкі ў Раі,
ніхто з нас не паверне й галавы.
Мы застаемся прывідамі ў краі,
ў добраахвотных вечных вартавых.
І калі зноў падымуцца шыхтамі
паны, мяшчане, шляхта, мужыкі –
апошні застанецца бой за намі,
як воля у Айчыны на вякі!

* * *

Сказаў ганчар: мы зробленыя з гліны!
Каваль упэўнена абараняў чыгун,
за хлебны мякіш быў сівы араты,
на мясе з косткамі настойваў хірург...
І толькі паджылы асенізатар
у спрэчках не ўдзельнічаў зусім
ды адстаронена глядзеў сабе на неба...
І невядома, ці напраўду быў адэптам ён тэорыі стварэння,
ці верыў у візіты марсіян,
ці нешта іншае трымаў на думцы,
ды толькі ўсё маўчаў і ціха пасміхаўся...

* * *

Калі мы спім на сваіх падушках,
чаму нам сняцца чужыя сны?
Дачок гадуем мы папялушкамі –
навокал курвы. Дык скуль яны?
Мы пакідаем дзверы замкнёнымі –
адкуль ва ўсіх суседзяў ключы?
Кленчым ля склепаў з чужымі імёнамі
і па кудзелі, і па мячы.
Самазабойствы ад самакапанняў,
ад самакаханняў ізноў яны.

Прызнацца ў гэтым ў цвярозым стане
мы – не ў стане,
а *на стакане*... Ізноў маўчым.
“Нешта не так” – гэта код ідэнтычнасці.
“Хто там ідзе?” – наш нязменны пароль.
Ўрэшце – нязначныя акалічнасці
ды невымоўны фантомны боль.

## *СНЕЖНАЕ*

Так засыпае гарады
гады ў рады,
гады ў рады...
У белай нерушы тады
ані язды,
ані хады...
Спяць і дарогі,
і парты,
і міліцэйскія пасты.
У свеце – снег,
у снезе – ты.
Бывае так гады ў рады...
Снег літасці і мілаты
нас захінае ад бяды
і зацярушвае сляды
з старога года у малады...
Каб не нагналі па слядах
ні боль, ні страх.
Каб меў надзею чалавек
як сыдзе снег.

* * *

У хлопчыка Толіка дзед быў таксістам.
у Генiка – простым савецкім чэкістам.
у Толіка ў хаце машынкаў без меры,
У Гены – фуражка і герб СэСэСэРу.
Толева мара – Passat B4.
Генава – фота ў парадным мундыры...
Вырас Талян – стаў таксістам-бамбілам.
Гена ўзяў... і зрабіўся мудзілам!
Ды і ня тое, каб ён не стараўся!
У школе вучыўся,
спортам займаўся.
Быў нейкі час у гуртку Мельпамены,
але палезлі Генавы гены!

Геніка вабяць не дупы і цыцкі –
сняцца яму Мяснікоў і Прытыцкі.
Фелікс – ў адным скураным паліто,
Троцкі ў трыко і чорт ведае хто!
Тут бы яму да дакторскіх парад –
ён на парад і нясе траспрант.
Тут бы яму на прыём да ўрача –
ён за букецік – і да Ілліча!...
Толя за ім назірае ў вакно.
Толя – кіроўца.
А Гена – гаўно...

* * *

Вазьму і памру!
А ў наступным жыцці,
(калі такое надарыцца)
нябесныя сілы я папрашу
са мною не дужа парыцца –
я згодны займець сякі-такі хвост! –
каб ім па настроі рухаць.
А да хваста поўны лапаў набор –
каб зручна за вухам чухаць.
Таксама хацелася б пысу і нос –
каб ведаць, што дзеіцца ў свеце.
У дадатак, канешне, кудлатую поўсць
каб блошак было куды дзеці.
Чым стацца веганам, ці хіпсцерам, ці
крый Божа, якім камунякам,
то лепей пабегаць па жытцы зямной
звычаным адчайным сабакам!

* * *

У сабачым брэху –
бег і гурбы снегу!
І лясная неруш,
і прастор палёў!
І ўсяго ў ім столькі –
ты і не паверыш,
што ў простым “гаве” –
сотня нашых слоў.

У сабачым брэху
вулкай воз праехаў,
вецер бег аселіцай
і замёў сляды.

Уікластым рыканні
і ў шчанячым енку
спяць і прачынаюцца
вёскі й гарады.

У сабачым брэху
трошкі ёсць ад смеху,
трошкі ад самоты,
трошкі ад нуды.
Непадробна шчырае
прывітанне рэху
і адбітку месяца
ў місачцы вады.

* * *

*Тату*

Не прасіце, хлопцы, вершаў у паэта,
хай не напісанае застаецца з ім.
Вы ж жылі без вершаў
столькі зімаў-летаў
мо і не патрэбны вам гэты верш зусім?

Ну, а мо не верша папрасіць хацелі?
Мо хацелі проста разам памаўчаць?
Можа б, чарку ўзялі,
ціха пасядзелі
і пра верш пытанне давялося б зняць?

Бо усё, чым сэрца і душа трымцелі,
ёсць ў нябесных зорках,
ў полымі агню,
у смачное ежы, ў мяккае пасцелі,
ды у асалодзе – слухаць цішыню.

А калі ўсё ж твору – лёс на свет з’явіцца
(музы час той ведаюць – іншым не відно),
тут у слухачы ўжо можна й не прасіцца –
сам паэт заявіцца з вершам заадно!

Алесь Емяльянаў-Шыловіч



...іншаяе...

# Вокны

***Россып мініяцюр***

### Бераг

Самае галоўнае — знайсці свой бераг, прыстанак. І няма розніцы — плывеш ты па Чорным моры, Нарачы ці ставочку, назву якога аніхто не ведае, на чаўне, яхце ці васьміпалубным лайнеры. Доўгі час я думаў, што не ўмею плаваць, таму заўсёды карыстаўся кругам ці надзіманым матрасам, асабліва пасля няўдалай спробы пераплыць праз сваю Случ (давялося праляжаць пару тыдняў у больніцы), да вады не падыходзіў гадоў з дзесяць. Але па прыездзе ў Крым, пабачыўшы нарэшце мора, я рынуўся ў ваду ледзь не ў першы ж дзень. У выніку пад канец падарожжа я досыць прыстойна боўтаўся, ва ўсялякім выпадку не тануў, як тое агульнавядомае ў палонцы.

У апошнія дні падарожжа вецер на ўзбярэжжы ўзмацніўся, і хвалі сягалі да таго высока, што не кожны

наважваўся зайсці ў ваду. А я кідаўся з хвалі на хвалю, пакуль мяне не прыбіла да тваіх ног, як рыбіну.

— Будзеш маёй жонкай?

Ты не змагла адмовіцца.

Ты мой першы і самы лепшы прычал.

## Істотна

Дзе нарадзіўся і жыў, з кім піў, з кім спаў, на якой мове пісаў, як памёр паэт — усё неістотна. Такія звесткі, на жаль, заўсёды цікавілі і працягваюць цікавіць натоўп. Паэт перадусім каштоўны тым, што ўратаваў сваім вершам прынамсі аднаго чалавека, а калі колькасць уратаваных душаў большая — то й пагатоў.

Я ведаю, што наўрад ці стану вядомым паэтам, галоўнае — застацца ім для цябе, дачкі і не лічыцца маргіналам ці вар'ятам ва ўласнай сям'і... Спазнаць славу пры жыцці, напэўна, прыемна, але яна даецца цяжка, і звязаная з ахвярамі. Я не гатовы ахвяраваць табою ці нашым маленькім анёлачкам. Хачу застацца добрым бацькам, годным мужам і паэтам для вас і дзеля вас...

## Бяссмерце

— Уяві сабе, Брэдберы памёр, — кажу я жонцы, пераглядаючы вікіпедыйную балонку.

— Ну так, я ведаю.

— Дзіўна, я думаў, ён дасюль жыве.

Гэты пісьменнік атаясамліваўся ў мяне з гэткім іранічна мудрым і адназначна не славалюбным чалавекам. Ён быў і заўсёды застанецца цікавым, арганічным, актуальным, сугучным часу, эпосе.

Калі даведваешся, што той ці іншы графаман дасюль жыве, — шчыра дзівішся — чаму так? Чаму такія старыя... дзяды жывуць без ліку, а калі паміраюць, дык з помпаю, гучна? Цешыць толькі адно — яны паміраюць раз і назаўсёды, а такія, як Брэдберы, жывуць, нават скончыўшыся фізічна, ходзяць, лунаюць сярод нас, па-ранейшаму так ласкава й хітравата пасміхаючыся, так абаяльна мружачы вочы.

## Сухараўскія пячоры

У Сухарава, каля нашага дзесяціпавярховіка, побач з сажалкай, усталяваны фантанчык-крынічка з чыстай пітной вадою. Ён функцыянуе, калі на дварэ нехалодна, з пачаткам ацяпляльнага сезону кранікі перакрываюцца і замыкаюцца. А да тае пары чэргі па ваду ледзь не да суседніх дамоў.

Сёння, нягледзячы на кастрычнік, сонечны, хаця й па-восеньску прахалодны дзень. Хварэю ў аднапакаёвай самоце. Жонка з дачкою ў цешчы да часу, пакуль ачуняю. Збіраюся, бяру 5-літровік і, разважаючы, што надзець на галаву, спыняю выбар на караімцы, якую летась прывёз з Крыма. Караімка — нацыянальны галаўны ўбор караімаў — карэнных жыхароў пячорнага горада Чуфут-Кале. Выходзячы з кватэры, раптам адчуваю, што спускаюся не па сходах, а па звілістай серпанціннай сцежцы

ў лагчыну. Суседнія дамы, быццам горы, атачаюць з усіх бакоў. Дарога ўкатаная і ўходжаная, крынічка цурчыць і ў сонечным бляску разбіваецца на тысячы прахалодных залацінак. Падзьмувае лёгкі ветрык, дыхаць лягчэй, пахне дымам.

Набраўшы вады, павольна вяртаюся ў нашую пячору на 33 квадраты.

## Брудны посуд

Ведаеце, што лепш за ўсё ратуе ад дэпрэсіі? Мыццё посуду. Можа, я вар'ят, але мне даспадобы гэты занятак. У сэнсе, мне прасцей перамыць увесь посуд, чым глядзець, як ён ляжыць і патроху зарастае плесняй. У мяне звычка яшчэ з часоў інтэрната. Жывучы там, я ўзяў за правіла перамываць невялікую колькасць талерак і кубкаў штодня, каб потым не перакваліфікавацца ў альпініста, штурмуючы горы бруднага посуду. Два маіх суседы, — людзі забяспечаныя, досыць прыстойныя, заўсёды ахайна і чыста апранутыя, абпырсканыя дарагімі туалетнымі водамі, але з пункту гледжання на чысціню былі абсалютна рознымі індывідамі. Першы, вельмі гаспадарлівы, з нямецкай педантычнасцю штодня вымываў і ледзь не вылізваў посуд, падлогу ў сваім пакоі, а пральная машына адпачывала, бадай, толькі ўночы. Другі ж хлопец меў вельмі кепскую звычку, асабліва пасля вялікіх пагулянак, якія почасту надараліся, пакідаць у мыйніцы брудны посуд. Гара яго там расла, паступова ператвараючыся ў Манблан. Гэта мяне вельмі здзіўляла і абурала, хаця й не першы год я жыў у інтэрнаце і бачыў шмат розных людзей.

Інтэрнат згадваецца з цеплынёй і лёгкім смуткам, усё-ткі — першы мой жыццёвы ўніверсітэт. Але чалавек з узростам робіцца больш лянотным, а, ажаніўшыся, і пагатоў. Вось і я з тае пары, як стаў сямейным чалавекам, час ад часу лянуюся рабіць гэтую няцяжкую і неабходную справу. Жонка не мае таго вопыту, які быў у мяне, таму звычайна посуд насяляе ўсе магчымыя месцы — сталы, зэдлікі, падваконне, памянёную мыйніцу — ажно да вечара, калі не да наступнага дня. І я займаюся чысткай гэтага бруднага войска для таго, каб не трапіць у багну дэпрэсіі. І раблю гэта ўжо тры дні запар. Сапраўды дапамагае. Бо калі на дварэ волкі і слотна-агідны канец чарговага года, заробкі малыя, кошты на камунальныя паслугі растуць, як бамбук пад асуджаным на смяротнае пакаранне, даляр скача такімі тэмпамі, што бамбуку да яго далёка, энтрапія падвышаецца, кліентаў як таго снегу ўзімку — мала і дробныя, — хоць зараз жа на месца няшчаснага асуджанага. Адзінае выйсце — посуд!

Таму далоў посудамыйныя апараты! Мы ведаем, як ратавацца!

## Вялікі чалавечак

Першага разу, пабачыўшы сваю аднагадовую дачуньку на руках цесця, зразумеў, да чаго ж яна яшчэ маленькая і безабаронная. Гэта я заўважаў і раней, але не задумваўся. Я, натуральна, цягаю яе на руках і на карку, адсочваю кожны крок, кожную дробязь, але ўвесь час яна падаецца мне да таго вялікай, нібыта мы аднаго росту. Настолькі значная для мяне гэтая карапулька. Калі яна тупае па сцяжынцы — адразу бачна: чалавек ідзе. Ты нават не ўяўляеш, малюха, да чаго ты здатная і таленавітая, мой маленькі вялікі чалавек.

## Плюшка

Дачка вельмі любіць булачкі. Досыць часта, калі я вяртаюся з працы, яна сустракае мяне з крыкам: “Тата, бу!” Гэта значыць — татка, гані булку! Калі я быў крыху старэйшы ад яе, таксама любіў плюшкі, булкі і рознага кшталту печыва. Найулюбёнейшай здобай для мяне былі плюшкі з цынамонам. Саладжавае дражджавое цеста і карычняваты, злёгку гаркавы на смак пылок даваў непаўторны водар, і, перш чым з’есці гэтае смакоцце, я старанна яго абнюхваў. Цынамон займаў, бадай, пятую частку ад унутранага змесціва булкі. Тады яна, натуральна, здавалася вялікай, і есці яе можна было доўга, смакуючы і з асалодаю перажоўваючы. Асабліва запомнілася сцэна, калі ў восеньскім парку я ўмінаю халодную булку, а ў роце яна збіваецца ў адзін вялікі камяк, сліна льецца ракой і, здаецца, не сышоў бы з месца, еў бы і еў.

Цяпер я час ад часу купляю дачцэ штосьці смачнае і магу сказаць, што плюшкі з цынамонам цяпер — адна назва. Ледзь заўважная, незразумелага паходжання маса, якой абсыпаны гэтыя дыстрафічныя, танклявыя здобныя вырабы, якія нават язык не паварочваецца назваць булкамі, не выклікае слінацечы, і я не буду іх купляць. Мае малечыя гады прыпалі на вельмі няпросты час, і хоць печыва ў кулінарыі з’яўлялася раз на тыдзень, але, відаць, было смачным, бо нават праз дваццаць пяць год я памятаю гэты водар, і нават у роце, здаецца, лёгкая карычная гарчынка.

Хаця, можа быць, гэта ўсё суб’ектыўная эйфарыя дзіцячых успамінаў, а можа і не.

## Карысныя вітаміны

Нашыя дзеці дапамагаюць нам зразумець самыя неверагодныя і найгеніяльнейшыя ў свеце рэчы. Да прыкладу, сёння Васілінка вынайшла, што пластыкавую пушачку з вітамінамі кшталту “Рэвіт” выдатна можна скарыстаць у якасці шэйкера, гэтакага *super extra loud*, і аніякія замежныя аналагі ў выглядзе яек непатрэбныя. А хто б мог падумаць, яшчэ ўчора самотная баначка, поўная вітамінамі, стаяла на стале і сумавала, што яна ні на што не здатная і аніхто з яе не бярэ гладкія жоўтыя шарыкі, бо ва ўсёй сям’і на іх алергія. А тут уадначас і пушачка дае карысць, і дзіця занятае. І неістотна, што новы перкусійны інструмент занадта гучны. Галоўнае — бацькі задаволеныя; яны цяпер могуць спакойна прысесці на канапу і слухаць “цудоўную какафонію”, з якой, магчыма, хто знае, калі-небудзь народзіцца песня, а можа і штосьці большае. Усё магчыма. Купляйце вітаміны. Хаця б дзеля таго, каб падарыць дзіцяці некалькі хвілінаў шчасця. Шчасця бразгаць.

## Глейцар

А яшчэ клейцар, каркоўнік, коркадзёр, і нарэшце наркамаўскае штопар. Штучка проста неабходная ў пэўныя моманты, але менавіта тады, калі яна патрэбная, яе і няма. Ведаючы гэтую аксіёму, я ані хвіліны не вагаўся і купіў гэтую бліскучую штучку ў каўнаскім “AKROPOLIS’е”. У Каўнасе я, дарэчы, апынуўся дзякуючы Міжнароднаму Кангрэсу даследчыкаў Беларусі, які праходзіць тут ужо пяты год запар. Дык вось, глейцар:

металічны, ахайна зроблены, трохі вінтажны і цяжкі, карацей — такі, як трэба. Не набыць яго было б злачынствам. Пабадзяўшыся ўвечары па вінных крамках і лаўках, я нарэшце абраў пляшку нядрэннага і адносна таннага белага паўсухога. За што я люблю бліжняе замежжа, дык за тое, што там можна знайсці італійскае ці французскае віно па кошце, які мы ў сябе плацім за пладова-выгодны “Шарм”. І ўявіце: восеньскі каўнаскі вечар, гатэльны нумар, сябрына чалавек з пяці, пляшка, корак якой — о, гора мне — выявіўся гарэлачным, вінтавым. Я вельмі расстроіўся, бо такой непатрэбнай, як цяпер, пакупка не была ніколі. Але раптам у дзверы пагрукалі, і праз хвілю з’явіўся Анемпадыстаў. Ён спытаў, ці няма ў нас, як вы ўжо здагадаліся, штопара! Тут гісторыю можна было б скончыць, але яна мела працяг. Толькі перад гэтым каркоўнік паўгода праваляўся ў шуфлядзе.

Нядаўна мы гасцявалі ў харошых сяброў, і сталася так, што я зламаў хліпкі пластмасавы кітайскі штопар, адкаркоўваючы чарговую пляшку. І згадаў пра каўнаскага знаёмага. Я падарыў Ігару з Марынай гэтую найкарыснейшую ў гаспадарцы рэч, і распавёў усю гісторыю. Калі Марына пачула прозвішча мастака, выявілася, што падчас навучання ў Акадэміі мастацтва яна пісала дыпломную працу па ягонай творчасці. Плюс да таго, яна да піску любіла “Народны альбом”. Такая гісторыя.

## Грошы

Гады чатыры таму я напісаў для аднаго альманаха артыкул пра грошы. Ён быў іранічны, злабадзённы, але цяпер не мае якой-кольвек каштоўнасці. Як, між іншым, і гэты эсэй, які толькі збіраецца з’явіцца на паперы. Цяпер, на жаль, а мо і на шчасце, няма нічога вечнага. *Час second-hand* руліць. Нашая набеліянтка мела рацыю і вельмі дакладна ахарактэрызавала гэтую эпоху. Галоўны фактар тут, вядома, матэрыяльны. Грошы, асьмакі, бабосы, пянёнжкі, капуста, лавэ, дзяньга і да т. п. Сінонімаў безліч. І менавіта гэтыя паперкі з’яўляюцца найгалоўнейшай і найцікавейшай тэмай на ўсіх ведамасных парталах. Як там рубельчык паводзіцца? Ці не абясцэніўся? Ці не патаннела нафта? Як зарабіць на курсах валют? І гэта не перашкаджае абывацелям пхаць валюту ў панчохі і трохлітровыя слоікі. Бо з нашай сістэмай банкам давяраць бессэнсоўна. А рабіць уклады ў зайцах і пагатоў. Курс скача, як шалёны мустанг. Але галоўнае не гэта, а тое, што кожны дзень у абменніках чэргі па валюту, а яе няма. Рэч у тым, што ніхто не ведае, колькі ж трэба кожнаму з нас. З маіх знаёмых і сяброў ніхто не скажа дакладна, колькі яму дастаткова. Часцей чуецца наступнае: каб жыць добра. Як добра? Каб хапала на хлеб з маслам. Ці яшчэ кілбасы наверх? Ці з ікоркай таксама? Аднойчы мой кліент сказаў такую фенаменальную фразу: шмат зарабляць і мала працаваць мы пакуль не ўмеем, а шмат працаваць і мала зарабляць ужо не хочам.

З апошнім сцвярджэннем нельга не пагадзіцца. Іншая рэч – крытэры, па якіх вызначаецца сума аплаты той ці іншае работы. Шмат у таго, хто крадзе, і наадварот — хто сумленна зарабляе, толькі і мае, што на заедак. Гэтая ісціна даўно і ўсім вядомая.

Але колькі б грошай ні было, а купіць за іх можна далёка не ўсё. Нават цяпер. Жыццё, здароўе, каханне, шчасце не вымяраюцца ўмоўнымі адзінкамі.

Я працую з дзевятнаццаці гадоў і зарабляю столькі, колькі мне і маёй сям'і хапае для таго, каб жыць не шыкуючы і не бядуючы. Памятаю сваю першую грашынку. Савецкая яшчэ дваццацьпятка ў пачку з цыгарэтамі. Знайшоў я яго пад вакном вайсковага інтэрната, які ў нашым вайсковым жа гарадку ахрысцілі высока і статусна "гасцініцай". Можна толькі меркаваць, што нейкі небарака заначыў яе з "палучкі" для нейкіх сваіх патрэбаў, і раптам яго напаткала такая няўдача. Я аддаў знаходку маці. Навошта трохгадоваму малому грошы? Цыгарэты, дарэчы, таксама прыдаліся, каб аплаціць якуюсь дробную паслугу дзядзю Васю.

Людзі, у якіх шмат грошай, пэўна, няшчаснейшыя ад іншых. Купляюць штомесяц новыя аўто, яхты, футбольныя клубы, вуліцы, а потым аднойчы засільваюцца на ўласным гальштуку ў даражэзных апартаментах на *Kensington Palace Gardens*, напрыклад.

Вынік тут толькі адзін — будзь задаволены тым, што дае табе лёс, і калі няма магчымасці зарабіць — не пніся: усё адно тыя грошы бокам выйдуць. Радуйся таму, што маеш. Колькі табе трэба — столькі і будзе. Ані больш, ані менш.

## Міласціна

Ніколі не падаю жабракам. Але калі да мяне падыходзіць чалавек і шчыра, не тоячыся, просіць трошкі на "паправіць здароўе", я вымаю нейкую драбязу, якая ёсць у кішэні і аддаю. Сёння я падумаў і зразумеў, што раблю гэта для таго, каб адкупіцца ад ягонага лёсу, каб ніколі не быць у такім становішчы. Ён сапраўды хворы ў адрозненні ад тых, што часцяком стаяць на бабінцы.

Аднойчы сябар распавёў мне пра аднаго такога дэфектыўнага, які нібыта не меў ног. Брудны, страхалюдны, перапэцканы — ён заўсёды сядзеў у адным і тым самым месцы, пад бярозкай па дарозе на рынак. Калі рабілася цёмна, пад гэтую бярозку пад'язджаў джып, з яго выходзіў бамбіза, які адчыняў дзверы і выцягваў з машыны даражэзны вечаровы гарнітур, падаваў яго інваліду, каторы ўжо вельмі трывала стаяў на сваіх дзвюх, і сядаў за стырно. А калека, якога ўжо немагчыма было назваць такім, ехаў, напэўна, у казіно, а можа ў бардэль. Хто знае. Я не магу не верыць сябру, але ў нашай дзяржаве сапраўды невядома, каму даеш грошы і для чаго.

## serj.putouski@gmail.com

Упершыню за апошнія гады пайшоў запісвацца ў бібліятэку. Карысная, між іншым, рэч аказваецца. Бібліятэка N-скага раёна сталіцы больш падобная да крамы, бо месціцца на першым паверсе шматпавярховіка, але фіг бы з ім, галоўнае ж — літаратура. Хоць бы гэта была і вясковая хата-чытальня.

— Дабрыдзень, — вітаюся я, — як тут у вас рэгіструюцца?

— Пашпарт, — лыпае вочкамі бібліятэкарка. — Вы ж не з Мінска, — зазірнуўшы ў пашпарт, кажа яна.

— Але ж я тут побач жыву.

— Мы рэгіструем толькі грамадзян Мінска і мінскага раёна, — сумелася дзяўчына.

— А гэта дапаможа? — пытаюся я, падаючы барвовую корачку Саюза пісьменнікаў.

— Ну добра, — бянтэжыцца супрацоўніца, — запаўняйце, калі ласка, фармуляр.

— Што вам прапанаваць? — як і дасюль, па-руску, пытаецца бібліятэкарка.

— Мне патрэбна якія-небудзь кніжкі Сержпутоўскага.

— Каго? Путоўскага? Зараз гляну.

Праз хвіліну:

— Вы ведаеце, такога няма.

— Сержпутоўскага.

Яна напісала на паперцы "Серж Путоўскі".

— Не, шаноўная мая, гэтае прозвішча пішацца інакш, — я накрэмзаў на клапціку паперы С Е Р Ж П У Т О Ў С К І.

— А, добра, зараз, хвілiначку.

У маім дзяцінстве, калі я яшчэ хадзіў у школьную ці гарадскую бібліятэку, супрацоўнікі гэтай цудоўнай установы неяк збольшага ведалі свае фонды.

Але цяпер, відаць, іншыя часы.

Вось так, Саша, цябе, як і твайго цёзку, не ведаюць ні ў твар, ні ў твор.

Такім чынам, з дапамогаю кампутарнага каталога мы адшукалі такі складаны і невядомы прыстойным бібліятэкарам нікнэйм.

Прыпёршы дамоў ажно тры таміны названага аўтара, як там яго, ай, ну й халера з ім, быў вельмі ўсцешаны. Дзякуй, добрая бібліятэкарка, дзякуй serg.putouski, дзякуй, даражэнькі Біл, што мы маем магчымасць бачыць гэты свет праз твае "вокны".

## Вокны

Калісьці я напісаў двухрадкоўе, якое выдатна падыходзіць для таго, каб паставіць кропку ў гэтай нізцы:

На свет пазіраеш праз брудныя вокны вачэй.
І болей нічога не трэба. Чаго тут яшчэ?

Ну вось, казаў кропку, а паставіў пытальнік. Неяк яно так само па сабе атрымалася. А можа пытальнік тут больш пасуе, га?

Кацярына Сянкевіч



...хвілінаў дзесяць
буду шчаслівай...

# Я нованароджаная

* * *

я вывучаю на памяць адзіноту

я хачу знайсці ў маёй душы спакойную паверхню
чыстай вады
валодаць пазачасавай прыгажосцю сэрца

я вывучаю на памяць адзіноту

* * *

сістэма ўнутранай раўнавагі
не атрымліваецца.
рэкамендуецца абнаўленне
да папярэдняй версіі праграмнага забеспячэння.

гэтак я спампую
старыя песні ізноў
яны загіпнатызуюць падманам

хвілінаў дзесяць
буду шчаслівай

* * *

не верыш у мяне паўсядзённа
верыш у мяне пасля свята

усе астатнія дні падманамі
рэжаш скуру веры
ў мае магчымасці

у дні што мяне кахаеш
я арыгінальная
а ў дні што не кахаеш
псіхічна нерэальная

калі мяне любіш
любіш маю душу
а калі не любіш
тлумачыцца мушу

адкуль узяла цябе

* * *

вера ў чатырохлістае
шчасце
хоча зжэрці мяне
сустракае само
суцяшае
знаходжу дваццаць злотых

магічнае

* * *

мая кроў змяніла колер на пурпуровы
а на смак яна стала як сок чорнай парэчкі
салодкай
што выцякае з верху далоні

з касцей
на якіх яшчэ трымаюцца
пальцы
верхні пласт скуры быў зведзены
з дапамогай шкіпінару і белай мукі
калі ласка, маляваць кіньце
калі ласка, салодкія булачкі не ежце

* * *

баліць ува мне
туг*а*
халодная сумная сіняя
я – туг*а*
мухі на мяне не сядаюць
думаюць што вада
а гэта туга

* * *

мае вочы не разумеюць жартаў
я кахаць цябе нягледзячы на недахопы стараюся
і нягледзячы на грэх адсутнасці адказу
вучуся атрымліваць асалоду ад твайго адказу
што з іншай сустракаешся
таму што гэта становіцца жартам

* * *

Новая скура на вачах
новая скура на вуснах
я не толькі не старая
я нованароджаная

* * *

чорныя злыя
псеўдасябры
да непабачэння
смутку дэманы!
я вам задаю дэтокс
хвілінай болю
чысцінёю
выкідаю ў сметнік
вашыя мёртвыя словы

* * *

ворагі ўжо мне не пахнуць
ворагі ўжо мяне не прыцягваюць
хоць у скуры коцікаў яны апранутыя
яны смярдзяць
я ўцякаю
дыхаць
паветрам

я ўжо ворагаў не запрашаю
я ўжо на ворагаў не дзіўлюся
я ўжо ворагаў не ем
хапае бомбаў
і пісталетаў
да маўчання – вайны – забывання

* * *

Чытаеш маю прыгажосць
я ўжо не прыгожая больш
штосьці пашкодзіла маю скуру.

Маё жыццё патрабуе асэнсавання,
нечаканага.
А ты чакаеш
і нечаканае асэнсаванне перада мной
не ты адкрываеш.
Адкрываюць яго тыя
што чытаюць мае вершы
а ты чытаеш маю прыгажосць.

* * *

хачу забыць твае вочы
гледзячы табе ў вочы
прыкладаюся да гэтай вучобы

але ж здрадлівае сэрца чуе твае словы
але ж здрадлівае сэрца адчувае боль

праз тое што ты корміш мяне хлуснёю
бо хлусня заўсёды баліць
і ўсе зламаныя сэрцы гэта вынік хлусні
а зайздрасць – адзіная праўда

Вольга Мікалайчык



...мы гінем –

бо маем мары і ідэалы,

бо верым у Госпада і свой народ...

# Кара

***Апавяданне***

*Маім пабрацімам беларусам,*
*што пакінулі свой апошні подых*
*на ўкраінскай зямлі –*
*Міхасю Жызнеўскаму,*
*Алесю Чаркашыну,*
*Паўлу Шараметý,*
*жывым – Сябро, Караю, –*
*усім беларусам у АТА прысвячаецца...*

У сне я не адчуваў холаду, я заснуў стоячы на варце блокпаста, ведаючы, што магу прачнуцца ў ... труне, бо нябожчыкі не спяць, іхнае цела ў труне, а саміх іх няма, яны – хто дзе...

Кроплі цёплай вадкасці крапалі ў сне мне на твар, і ад іх ішло сапраўднае цяпло жыцця, якое мяне і абудзіла... Маё вока, якое абудзілася, глядзела ў вока... чужое, што аганізуе болем, тым болем, якім развітваецца з усім

жывым жывое, пакідаючы гэты свет... Вока падалося чалавечым, але калі я ўгледзеўся – то ў ім праявіўся кавалак сабачага твару, менавіта твару, бо чалавечыя вочы творца намаляваў толькі на тварах... На мяне глядзеў сабака, які нахіліўся нада мной, калі я заснуў у акопе ля блокпаста... Цёплая вадкасць крапала мне на твар з вока сабакі, якое вісела на жылах, бо ў сабакі не было паловы галавы і было амаль адарванае вуха, якое целяпалася на кавалку скуры. Гэтае адарванае вуха часам ветрам заносіла на ацалелую частку галавы да другога вуха... Мы глядзелі ў вочы адно аднаму як загіпнатызаваныя – гэта быў абмен інфармацыяй, якую чалавек, ды і ўсё жывое, не ў стане ўсвядоміць. Але сакральны працэс перарваўся гукам міны, што ляцела і якую я, каб не абудзіўся, атрымаў бы сабе ў новую сексуальна-мілітарысцкую ізраільскую тэрмабялізну, выдадзеную пару дзён таму маладою прыгожаю валанцёркаю “жыдабандэраўкаю” Аленаю... Адназначна – сабака разбудзіў мяне і выратаваў мае жыццё – за імгненне мы з ім адскочылі ў бяспечны бетонны бункер, і каларадская фосфарная міна, забароненая ўсімі, маць іх, міжнароднымі канвенцыямі, пяшчотна засандаліла ў тое месца, дзе я заснуў ад холаду, выпіўшы перад гэтым 100 грамаў спірту з кавалкам сала без хлеба, – каб не змерзнуць і не заснуць... Калісьці мой тата казаў: “Дурны, як сала без хлеба”. Толькі цяпер я зразумеў чаму... Без хлеба – заснеш. Фосварных мінаў насыпала нармальна так – па тэорыі я ведаў, што хвілінаў гэтак на 40-50 я страчу ад іх пылу зрок, ну і шмат яшчэ чаго страчу – але гэта было фігнёй у параўнанні з тым, што жывы...

Калі пачаў бачыць, я вылез з бункера, які быў значна больш пpасторны, чым вільготны і халодны бетонны “стакан” метр на метр, з прыўкраснымі ўзорамі цвілі на столях, у турме на радзіме, куды мяне перыядычна засоўвалі за маё непадпарадкаванне вертухаям. У беларускай турме я сядзеў год у камеры-адзіночцы і лічыўся вязнем сумлення – палітычным зэкам... Калі я адкінуўся – паехаў на вайну ва Украіну – вызваляць Нэньку ад каларадскай рашынскай ваты, каб пасля вярнуцца і вызваліць Бацькаўшчыну.

Тата мой беларус, мама – украінка. Матуля назвала мяне Тарасам, пазыўны я абраў сабе “Кара”. Кара – і ўсё! – Смерць ворагам!!! – толькі так і ніяк інакш! Я пакуль нікога не забіў з ворагаў – з акупантаў альбо сепараў, і, калі адна журналістка запытала мяне ў Кіеве, ці гатовы я забіваць – я не меў адказу, прыехаўшы ў краіну на вайну.

Я вылез з бункера і каля ўвахода ўбачыў свой новы смартфон, які набыў у Кіеве, каб званіць бацькам і сябрам на Радзіму. Аскепкам смартфон расквасіла раўнютка ў вочка камеры – у ім больш ніхто не пабачыць фотак майго сына, якога нарадзіла мая жанчына, пакуль я сядзеў у турме... Яна мне не стала жонкаю – у яе свае жыццё, але мы любім нашага трохгадовага сына Міколку, а ён – нас...

Я адкінуў смартфон далёка ў роў і ледзьве не патрапіў ім у сабаку, які хістаўся па ім – гэта быў мой Анёл, які выратаваў мяне ад пагібелі... Я назваў сабаку Анёлам і падклікаў да сябе – Анёл падышоў і лёг ля маіх ног, бо лапы яго ўжо не трымалі, я сеў перад ім на кукішкі і паклаў палову яго галавы сабе на калені... Так мы маўчалі хвіліну, я гладзіў Анёла за здаровым вухам, а ён ціха адыходзіў у свой сабачы рай, і яму было добра, што ён быў не адзін і што яго гладзілі па галаве... Праз хвіліну ў Анёла пачалася агонія, і ён узвыў ад болю – у мяне на руках ніхто ніколі не паміраў – за мае амаль 34 гады... А тут сабака, з чалавечым вокам, сабака,

які мне стаў братам за гэтыя 50 хвілінаў... Ад адчаю, што Анёл памірае, мяне стала ванітаваць. Я ўстаў, адвярнуўся ўбок, званітаваў і прашыў Анёла чаргой з аўтамата, не гледзячы ў ягоны бок – пакуль не скончыўся енк... Я пайшоў да сваіх – хістаючыся і выціраючы слёзы, бо я забіў блізкага мне сябра, сабаку, каб пазбавіць яго ад пакутаў – я ўпершыню забіў жыццё, і мне было гідка ад расчаравання ў сабе...

Ішоў час, сканчалася зіма, абстрэлы з градаў, мінамётаў, фосфарныя міны, расцяжкі, параненыя, загінулыя сябры – усё стала нормаю, мяне перастала ванітаваць, душа зашыла свой чырвоны боль чорнымі ніткамі – груба, але надзейна... Нічога ў ёй болей не балела, ад гэтага было яшчэ горш, бо пачыналася тупое існаванне, у якім перастаеш адчуваць, як у вакууме. Часам хацелася прастрэліць сабе нагу, каб адчуць нейкі іншы стан, каб абудзіць у сабе сябе – Тараса, з пазыўным “Кара”. Даслужыўся да афіцэрскага складу. На ратацыю – на мора – у Адэсу. Акунуцца – нырнуць, можа і ў апошні раз, а калі не ў апошні – тым болей нырнуць, як мага глыбей, каб не хапіла паветра і каб да асфіксіі, каб змыць салёнымі хвалямі частку памяці, як салянай кіслатой скуру, як кнопкаю на кампе непатрэбныя файлы.

На начным гарадскім пляжы амаль нікога не было, толькі дзве маладыя жанчыны – адна пайшла паплаваць, заплыла далёка і раптам знікла. Другая сядзела спакойна на беразе, піла піва са шкляной пляшкі і паліла. Я толькі вылез з вады і занепакоіўся, наконт аматаркі начных занураў – падышоў да жанчыны на беразе са словамі – “паплыву ратаваць вашую сяброўку” і хутка пакрочыў да вады. “Не трэба, – сказала жанчына. – Не хвалюйцеся, гэта валанцёрка Воля з Беларусі. Яна Сірэнка – можа ляжаць гадзінамі на спіне, не варушыцца і не тануць – кайфаваць, так што – донт ворры”. Так і пазнаёміліся – вядомая валанцёрка Аліса з Адэсы, русалка-рэжысёрка Воля з Беларусі і я – Тарас “Кара”, украінскі беларус ці беларускі ўкраінец. Пілі піва, плавалі, гаманілі па-беларуску, па-ўкраінску, гулялі па Адэсе-маме. Ранкам “лавілі” бычкоў па 14 грывен за кіло на Прывозе. Прывоз – ён такі, у ім усё ёсць – не горш за рынак у Венецыі, а нават лепей. Пасля завалілі да Люсі, і яна смажыла бычкоў на сваёй фантастычнай кухні, прыбудаванай на палях на другім паверсе ўласнай Люсінай кватэры на Дэрыбасаўскай. Кухню тую Воля назвала “хата на курыных нагах”, дзе жывуць ведзьмы Ягі і дзе, урэшце, спыніўся і я

Беларуская рэжысёрка Воля валанцёрыла, хадзіла да параненых у Адэскі шпіталь і здымала на фоцік свой новы фільм. Аліса і Люся – дапамагалі ў валанцёрскіх офісах ваярам АТА на вакзалах, адшуквалі параненым родных, апекаваліся імі, калі тыя прыязджалі ў адэскі шпіталь. Воля часам адчувала сюррэалізм усяго навокал: на Беларусі жыццё нагадвала савецкія часы, – гэтакі палепшаны, больш цывільны, вельмі аблегчаны варыянт Паўночнай Карэі, – з палітзняволенымі ды праследамі дысідэнтаў – Воля была адна з іх. А ва Украіне – у Адэсе – на пляжах шыкоўныя гатэлі, еўрапейскія кабакі, каларытны легендарны рынак Прывоз, порт, паромы ды караблі з усяго свету, рэкламныя бігборды, начная ілюмінацыя не горш за Лас-Вегас, гандлёвыя ды забаўляльныя цэнтры па апошнім слове і буйны ваенны шпіталь, дзе сотні цяжка параненых украінскіх хлопцаў, бо ў краіне вайна...

Неўміручы дух Адэсы... Увесь НЕадэскі свет чамусьці апантана пра-

соўвае ідэю, што гэты дух памёр – дык фігушкі, памёр Ленін, а адэскі дух – жывейшы за жывых. Не памёр і нават не захварэў. Ніхто з адэсітаў, як і раней, не напружваецца, каб пажартаваць, жартамі папросту сыплюць, імі размаўляюць – суцэльнымі перламі ды афарызмамі. Воля аднесла гэтую выбітную здольнасць адэсітаў – крыць гумарам, да павышанай колькасці фосфару ў мазгах ад спажывання марской рыбы ў вялікіх памерах, у прыватнасці, – бычкоў. Карацей, Адэса-мама, як заўжды, *жжот*.

Воля была ў Адэсе два тыдні. Вечарамі пасля шпіталю яна з Алісай, Люсяй і я з імі – хадзілі на пляж, пілі піва і чырвоны сухет дзеля падняцця гемаглабіну ў чарнобыльскай Волінай крыві. Было празрыстае адчуванне смяротнай небяспекі – усе чацвёра праз гэтае адчуванне сталі пабрацімамі... У хвіліну, калі Волін аўтобус з'язджаў з аўтавакзала Адэсы на Мінск – яна ўзіралася ў прыўкрасныя вочы новых сяброў, шукаючы ў іх гарантыю бяспекі іхняга жыцця – а мы глядзелі, як Воля адвозіла ў сваёй крыві чырвоны сухет, кроплі мора, усмешкі і сум Алісы, вясёлы нервовы лямант Люсі і маю памяць, у якой усе файлы заняла вайна.

Воля вярнулася на Беларусь, дзе брала ўдзел у палітычных акцыях, за якія яе арыштоўвалі, садзілі ў турму, штрафавалі на вялікія грошы. Воля выплочвала з дапамогаю сяброў гэтыя штрафы, бо калі не выплаціш – не выпусцяць за мяжу, ва Украіну. А ва Украіне яе чакалі пабрацімы і надзея...

Неяк сядзелі мы, ваяры АТА, пад вёскаю ля Пескаў у грузавіку 1968 года вытворчасці, які нядаўна адрамантавалі і аднавілі для зоны АТА адэскія валанцёркі – маладая Аліса і немаладая Люся. Люся нават пазыўны сабе прыдумала – "мадам Віктары". Люся сапраўды абрала мэтаю жыцця Перамогу, часам было не важна над кім, галоўнае – наперад, наперакор лёсу, "праз церні да зорак", бо так навучылі ў савецкім спорце маладую прыгожую вялікую жанчыну з вяслом – Люсю. Яна перамагла шмат усяго ды ўсіх – і каханне, і каханых, і сяброў, і ворагаў, – не перамагла толькі свае ілюзіі, і ў гэтым была яе сціплая, хай і знакавая жыццевызначальная параза...

Але для ўсіх яна – "мадам Віктары", – паспяховы трэнер па байдарках, маці алімпійскага чэмпіёна. У Люсі ўсё па фэн-шуі – "адцісНуўся, і за працу". Люся ўзялася кіраваць аднаўленнем грузавіка ў гаражы адэскай вайсковай часткі. Прывозіла байцам, якія корпаліся ў безнадзейным рухавіку, абеды, а тыя штораз урачыста гарантавалі Люсі, што шансы ў аўтастарца ёсць. Насамрэч шансаў не было, але Люся насіла такі смачны боршч, катлеты ды ікру з сіненькіх, што толькі дурань не пагодзіцца даць рухавіку шанец дажыць да першага міннага аскепка ў зоне АТА.

Люсі было далёка за 55, але яна заўжды прыходзіла да хлопцаў у мінісукенцы блакітнага колеру, а на шыкоўным бюсце шостага памеру заўжды буяла жоўтая кветка – гэткім прыкідам Люся дэкларавала ўсяму жывому, што яна тая самая "едыная і недзялімая", і тыя, хто гэта не разумелі – мелі шанец пераўтварыцца ў нежывое. Люся заўжды фарбавалася пад пякучую бландзінку і насіла прычоску а-ля Брыджыт Бардо. Калісьці яна была савецкім трэнерам, які тыраніў усё жывое і свайго сына таксама, каб "даць стране угля", каб даць Украіне алімпійскае золата па акадэмічнай грэблі. Золата дала, а з ім атрымала вечную пажыццёвую пашану грамадства разам з ганаровай пенсіяй, маць яе пабяры, бо Люся адчувала сябе заўжды на 26, а ганаровая пенсія мела водар нафталіну і забяспечанай сытай ненавіснай старасці.

Але абудзіўся Майдан – Рэвалюцыя Годнасці – загінулі лепшыя сыны нацыі. Спачатку на Майдане, пасля ў зоне АТА. Калі здарыліся Данецкі Аэрапорт ды Ілавайскі кацёл – Люся рыдала некалькі дзён, бо ў тым пекле загінулі самыя годныя ўкраінцы. Яны ўсе былі маладымі, як яе сыны, а іхнія ненароджаныя дзеці маглі стаць алімпійскімі чэмпіёнамі... Калі Люся перастала рыдаць – яна стала сапраўднай патрыёткай, здольнай забіць вяслом ад байды любога адэскага ватніка альбо сепара. Люся пайшла ў валанцёркі, дапамагала параненым у шпіталі, варыла ім дома абеды і сядзела ля цяжкіх гадзінамі, каб падаць судна альбо паклікаць доктара, калі хлопцам рабілася кепска. Аднавіць для АТА грузавік 1968 года – гэта для Люсі было, як аднавіць сябе: даць сабе і грузавіку новае жыццё для змагання ў імя Перамогі. Машын на вайне бракавала, і грузавік сапраўды часова вырашаў некаторыя праблемы з транспартам у зоне баёў. Але, у адрозненне ад Люсі, у рухавіка шанцаў на новы старт у будучыню не было – гэта быў дыягназ доктара, адмыслоўца па грузавіках, 60-гадовага дзядзі Мішы. Але дыягназ ад Люсі хавалі, каб рондаль з украінскім баршчом быў на капоце штодня. Ды трэба ведаць Люсю – яна адчула, што ў алімпійскай зборнай па рамонце савецкага аўтаметалалому саспявае варожая замова. І яна раптам абвясціла, што заўтра прынясе новыя чахлы для крэслаў у кабіну, а паслязаўтра – выпраўляецца сама за стырном у зону АТА, і што ўжо выклікала афіцэра-суправаджальніка, які быў на ратацыі ў Адэсе – прыехаў з фронту адпачыць на моры і будзе з ёй вяртацца на грузавіку. Праз гадзіну Люся прывяла ў гараж афіцэра і той пацвердзіў, што заўтра – новыя чахлы, а паслязаўтра – старт. Вось і прыехалі, прыплылі... Люсіна вясло ад байды дамоклавым мячом пагрозліва навісла над рондалем з баршчом, які стабільна стаяў на капоце штодня ўжо амаль месяц. Пачалася паніка. Група адкормленых баршчамі аўтадактароў замітусілася – чахлы Люся за суткі пашые, а рухавік не зробіць ніхто і ніколі... Хто мог выратаваць ад немаладой "единай і недзялімай" Люсі ў блакітнай мінісукенцы з жоўтай кветкай на бюсце шостага памеру? Хто??? Маладая валанцёр – Аліса! Алісе пазванілі і сказалі два словы: "Люся заб'е!" Аліса ведала, што гэта праўда і лепей няхай акупант заб'е куляю ў зоне АТА, чым Люся вяслом ад байды ў Адэсе. Аліса за ноч знайшла стары новы грузавік – таксама 1968 года, у якім апроч рухавіка не працавала анічога, і прывезла ноччу патаемна ад Люсі ў гараж той шэдэўр савецкай індустрыі – не новы, але і не дабіты. За гэта Аліса адваявала сабе месца ў кабіне побач з Люсяй і афіцэрам, які пагоніць грузавік у АТА. Так і атрымалася – на наступны дзень Люся прынесла шыкоўныя гламурныя чахлы, бо старыя былі прапаленыя бычкамі цыгарэтаў і стары жоўты паралон вылазіў з тых дзірак. Новыя чахлы Люся пашыла шыкоўныя, па-багатаму – з аксаміту, як некалі шторы ў кабінеце першага сакратара кампартыі горада Адэсы. У цяперашняга мэра горада шторы былі больш сціплыя. Але Люся была перфекцыяністкаю, і таму ў вояроў АТА мусілі быць самыя лепшыя чахлы ў свеце! Так і даехалі ў грузавіку 1968 года – Аліса, Люся і афіцэр Тарас з пазыўным "Кара" да зоны АТА. Рухавік, вядома ж, па дарозе загарэўся, "Кара" яго патушыў вогнегаснікам, частка чахлоў прыняла свой нармальны франтавы выгляд – бархат быў напалову сінтэтычны, дзіркі ад цыгарэтаў Алісы выпусцілі на свет Божы новы белы паралон, а пена ад вогнегасніка запляміла гламурныя чахлы, пераўтварыўшы іх у нармальныя – людскія.

Неяк сядзеў я ў грузавіку з таварышам ля вёскі пад Нікалаеўкаю. Раптам сепарскі абстрэл з гранатамётаў – заводжу пепелац – як заўжды, не заводзіцца гэты Люсін шэдэўр 1968 года, маць яго. Сіганулі ў ярок з быльнягом – прыляпіліся да зямлі, як чэрві дажджавыя, – не адсвечваем... Адбамбілі – пранесла... Нават ужо й дрыжыкі па скуры не гуляюць – так усё апастылела... Выйшлі – на пепелацы – ні драпіны... А чарговы новы смартфон у нагруднай кішэні, калі ў быльнёг сігалі – ушчэнт... У мяне нават мову адняло – ну як у кіно, – смартфон лепей за бронік, якога не было на мне, але зноўку хана гаджэту... Два разы адкупіцца ад нечага горшага – смартфонамі – гэта ўжо сістэма! Таварыш паскакаў у кусты па-вялікаму: абстрэлы – добры сродак ад запору. Я пайшоў заводзіць металалом – завёў. Чакаю... І тут з брамы двара, што за метраў 100 ад нас, дзіцё 8-9-ці гадовае выходзіць і на руках цягне малога гадкоў пяці – малы ў крыві... Старэйшы раве, як рэзаны: “Спасіце, дзядзі, спасіце Паўліка...” Ідзе да мяне, галосіць... Я праз секунду быў ля яго, схапіў іх і ў кабіну. Усё за секунду нейкую, калі не менш... Па газах, едзем, да палявога шпіталя два км напрасткі па полі. Старэйшы раве, малы Паўлік у шоку – яму зняла скальп у гэтым абстрэле... Кроў увесь тварык заліла, дзіця нават плакаць не можа – такі шок... Еду, сам губляю прытомнасць, ніколі не чакаў, што мяне яшчэ нешта можа выбіць у афектны стан... Бачу ў люстэрка, як бяжыць за грузавіком мой таварыш і мама гэтых дзяцей – мама не крычыць, а як рыба адкрывае рот і каўтае ім паветра, а ў руках сандалікі малога... А я не магу спыніцца – мушу ляцець. Адной рукой стырно трымаю, другой скальп Паўліка да яго галавы прыціскаю, бо яго брацік абсікаўся, калоціцца дыікае ад істэрыкі, а я адчуваю, як з пасінелага Паўліка выходзіць кроў і душа, і я прашу ягоную душу вярнуцца дзеля ўсяго Святога, назад – да Паўліка...

Праз две гадзіны Паўлік адыходзіў ад наркозу і дваццаціпяцігадовы доктар-інтэрн, які за два гады вайны стаў хірургам экстракласу – адчаканіў бязлітасна чэсна: 70 на 30. 70 – што памрэ.

Не памёр, бо я маліўся, пакуль Паўлік не расплюшчыў вачаняты пасля наркозу і не ўсміхнуўся, а потым малюк заплакаў. Бо відаць узгадаў, што адбылося. А я маліўся так, нібыта ад жыцця гэтага дзіцяці залежаў зыход усёй гэтай грэбанай вайны – нялюдскай, брыдкай, ілжывай, бо Паўлік адрадзіў ува мне чалавека, якому баліць і я адчуў увесь адчайны боль гэтых бязвінных людзей, Паўліка, якому зрэзала скальп, маіх таварышаў, якіх ужо няма, гэтага маладога хірурга, рука якога пераўтварылася ў суцэльны скальпель і сам ён перастаў быць чалавекам, у якога ёсць душа, бо мэта – перахітрыць чужую смерць любым коштам – гэта мэта не чалавека, а звышістоты са скальпелем у руцэ...

Паўлік з Любамірам пераехалі з небяспечнага раёна і жывуць цяпер з бацькамі ў Днепрапятроўску. У іх усё добра – не горш, як ва ўсіх у гэты час. Яны мае родныя людзі. Жывыя. І я дзякуючы ім – жывы...

Праз два тыдні пасля пераезду Паўлікавай сям'і – я патрапіў на расцяжку, калі нёс параненага таварыша да медыцынскага намёта. Расцяжка была старая – сто гадоў ёй было... 18-гадовага пабраціма Ромку з пазыўным “Кельт” на гэтай расцяжцы ледзь не дабіла зусім – левая нага целяпалася на мышцах і скуры – думалі, хана назе і хана “Кельту”, мне адарвала аскепкам вялікі кавалак мышцы на назе – оптам 12 дзірак у маім целе... Гелікоптэрам у шпіталь у Днепрапятроўск, адтуль – Адэса-

мама, шпіталь. Зноўку Люся, Аліса – баршчыкатлеты – усё як мае быць... А Воля з Беларусі прапала – знікла з радараў ну зусім... Завіслі тыя яе вочы на вакзале Адэсы, нібыта білборд...

Праз тры месяцы я вярнуўся ў АТА, а "Кельт" застаўся ляжаць у шпіталі – ногу ўратавалі, але на апаратах Елізарава яму яшчэ год вісець...

За ўвесь час вайны я так нікога і не забіў... Калі выбівалі з укрыцця ворага на нашых святых украінскіх "тэрах" – малацілі з гарматаў па іх норах, але вось так, каб у рукапашную, альбо тварам да твару – не. Не ведаю ўвогуле, ці магу забіць чалавека, нават калі ён вораг, калі ён недачалавек, істота. Лепей на вайне сябе не накручваць на гэтую тэму, бо дах рване...

Ноччу зноўку заглух Люсін шэдэўр... Заглух безнадзейна, напэўна па нейкім плане звыш... У такім няўдалым месцы – мы з пепелацам, як прышч на ср...цы, стаім сярод поля... міннага... Я ведаю куды ехаць – ведаю, бо я добры ваяр. Але вось на чым ехаць – пытанне філасофскае... Ноч, канечне, як у кіно – прыгожая: нябёсы глыбокія, зоры ясныя і самотныя, як я, клічуць у нябесны заныр, ну хоць паэму пішы – такі настрой элегічны: хоць плач ад прыгажосці... Але хочацца не плакаць, а кавы – гарачай, і занырнуць у мора – дзе там Воля русалка – маўчыць некалькі месяцаў, ні Аліса, ні Люся нічога пра яе не пішуць, і пра сябе таксама... Сам вінаваты – забыўся на сябровачак-пабрацімак... Бляха – як добра, што не хочацца курыць, бо не куру. Карацей – хопіць саплівай рамантыкі ды сентыментальнага трызнення – трэба задачу прыставіць і выканаць – паесці і паспаць... І да раніцы – зваліць, бо на золку мой бляшаны савецкі сябручок-грузавічок 1968 года можа стаць маёй навамоднаю арыгінальнаю даволі стылёваю дамавінаю.

...Выплюнуў чырвоныя ад крыві зубы... прачнуўся... Адзін трымаў на прыцэле аўтамата, другі піз..ў па-даросламу – нагамі ў галаву – разоў пяць за секунду... Не сепары... пачуў па акцэнце. Па выпраўцы ды "вежлівых" тварах – спецназ ГРУ РФ, частка групы дыверсантаў – я нават іх пазнаў, бляха, нядаўна нам паказалі фота, каго закінуць... Памяць спрацавала – я добры ваяр... Золак, кляты золак... У гэты час заўжды сняцца эратычныя сны... І ў гэты час звычайна паміраюць хворыя на рак, як мой тата... Такая статыстыка золку...

У дзяцінстве я наглядзеўся шмат амерыканскіх блокбастараў – пра "крэпкіх арэшкаў", тэрмінатараў, Брусаў Лі ды розных там шалёных Максаў. Там усё паказалі *жызненна* – жменя пяску, і ты перамог. Банальна, але спрацавала – жменя пяску, сальта, і ты... з прабітым ліверам... але за грузавіком 1968 года, дзе ў кабіне пад крэсламі ў прыгожых чахлах гранаты правільнай сістэмы... – раз – і ціха...

Падышоў – аднаму хана, зусім на шматы, другі кантужаны – аніякіх сур'ёзных ранаў... Завязаў яго ў ластаўку – свой лівер цэлафанам таксама перавязаў, укольчыкаў сам сабе нашыраў... Быццам пакуль не смяротна – лайно не пацякло – культурна мяне прашыла... Ачуняў мой вораг... Сяджу, абапершыся на кола грузавіка 1968 года, як у фатэлі – працую, дапытваю ветліва...

Імя яго – Вова, пазыўны "Ангел" – па рацыі ягонай усё пяюць: "Ангел-Ангелочек, ответь – озолочу...".

Як стаў ён мне спяваць – ну проста рыбанька залатая. "Адпусці, – кажа, – любое желание выполню"... Цьху – брыдота... Кажу яму: вось мы гінем – бо маем мары і ідэалы, бо верым у Госпада і свой народ. А

вы прыдумалі свой “рюські свет” – танную сатанінскую прыгожую падманку для шалёных зомбівар’ятаў і носіце яго, як лайно на лапаце, – усіх прымушаеце пакаштаваць. А самі хочаце ўсім светам кіраваць, і каб залатая рыбка бычок у вас на пасылках у заныр сігала... Ніхто з вас дзеля гэтага рюськага свету майты не здыме без капейкі... Не кажучы пра жыццём ахвяраваць. Варвары вы і ворагі для ўсіх людзей на белым свеце, кажу. А гэты прыгожы бландзін з мутнымі ад цырозу блакітнымі вачыма мне так медленна вешчае – “ясно, что без бабла ни у кого не встанет и погибать никто не собирается – задача завоевать, убить, а не погибнуть...”

І давай мне гэты Вова ўсё свае лайно з душы зліваць – як усё крута пачыналася, і як усе пасля абаср...ліся з Украінаю, але работа ёсць работа – нічыволічнава... Слухаю ягоныя сц...кі слоўныя, адчуваю: адплываю – лівер пацёк... Добра, што каардынаты сваім паспеў перадаць... На апошнім кадры ўзгадаў улюбёную фразу Волі Русалкі – “атрымалася ўсё, як у кепскім кіне”... А тая істота – падпаўзла да мяне амаль непрытомнага, асмялеўшы навалілася ўсёю тушаю і душыць локцем... Бляха, гляджу яму ў вока ягонае асатанелае і бачу, што маё вока адлюстроўваецца ў ягоным мутным, і з майго жыццё ліняе з хуткасцю святла... Не, думаю – мяне яшчэ Воля ў сваім новым кіне не зняла... Было ў мяне шыла дзедава – у берцах акуратненька так запакаванае – вось і выключыў я гэтую гніду ватную – у вуха... А рацыя ўсё спявала “Ангел-Ангелочек – отдайся – озолочу”... Вырубіўся я шчаслівым – з адчуваннем, што змыў лайно ва ўнітаз...

Ачуняў у шпіталі ў Дняпры – лівер прамылі, зашылі, – скінуў вагу, аброс. На мабілу нарэшце прыйшло СМС ад Волі з Алісаю ды Люсяю. Воля ўвесь гэты час сядзела ў турме за вандалізм ля помніка Леніну ў цэнтры Менска. Цяпер Воля выйшла і чакае мяне з Алісаю і Люсяю ў Адэсе. Часам, як русалка, ляжыць у моры і плаўнікамі ўзбівае марскую пену ў пошуках ісціны. Воля напісала ў турме сцэнар пра мяне і будзе запускацца ва Украіне з іграваой кароткаметражкаю пра мае прыгоды. У фінале яе фільма я еду па чырвоным дыване Канскага фэста ў кузаве Люсінага грузавіка 1968 года і спяваю “Чэрвону руту” – вось такое кіно... Класнае кіно...

*Красавік 2016*

## Шарль Бадлер



...І лютая туга перамагае цалкам,
Над чэрапам маім падняўшы чорны сцяг...

# Алхімія пакуты

### *ДА ЧЫТАЧА*

Юрлівасць, прагнасць, гнеў, аблуды і дурноты
Вярэдзяць сэрцы нам, ірвуць нас на шматкі,
Мы кормім іх сабой, як вошай жабракі,
І кожны дзень – банкет, дзе нас жаруць згрызоты.

Мы часта каемся, ды грэх у пастку ловіць,
Мы ведаем цану загубленай душы,
Ды ён вядзе сваё: "Пакайся – і грашы!",
І з новымі слязьмі вяртаемся на споведзь.

Мы спім пад коўдрай зла, але не спіць ніколі
Алхімік Сатана, Тройчывялікі Маг,
Варожыць над агнём, здзяйсняючы замах
На золата душы і срэбра добрай волі.

Ён душаў лялькавод – ніводная не ўцекла
З ягонай нітачкі, усе прыйшлі на ўрок,

*Пераклад з французскай мовы Андрэя ХАДАНОВІЧА.*

І танчым у брыдзе, за крокам – новы крок,
Усё далей у змрок, усё бліжэй да Пекла.

Як гідкі лавелас старэнькую блудніцу
Ўпалюе й прыпадзе да высахлых грудзей,
І хочацца яму, хоць можа ўсё радзей, –
Вось так і мы ніяк не можам супыніцца.

Бо наш уласны мозг нам болей не належыць:
Там сотні дэманаў – гадзючае кубло!
Усё, што ў нас было, ператварыўшы ў зло,
Мы дыхаем жыццём, а выдыхаем нежыць.

Калі забойствы нас не давялі да плахі,
Калі падман і гвалт не прывялі ў турму,
Дык не таму, што мы – анёлы, а таму
Што подленькіх людзей яшчэ спыняюць страхі.

Але паміж усіх шакалаў і пантэраў,
Між скарпіёнаў, змей і ненажэрных псоў,
Між грэшных дэманаў у пекле ўсіх часоў,
Між гнюсных паўзуноў і лютых падлажэраў –

Я зведаў самую жахлівую пачвару,
Яна не рыкае й не мае кіпцюроў:
Адзіным позіркам высмоктвае ўсю кроў,
Адзіным позехам свет прынясе ў ахвяру.

Яе завуць Нуда! Ёй смех – у болі й страце.
Пакурвае гашыш і мроіць пра нажы.
Ты з гэтай кобраю знаёмы? Адкажы,
Мой кемлівы чытач, мой крывадушны браце!

### *АЛЬБАТРОС*

Раз-пораз маракам, замучаным нудою,
Трапляецца ў палон вялікі альбатрос,
Што, робячы кругі над горкаю вадою,
З вандроўным караблём дзяліць гатовы лёс.

Хто пад аблокамі быў велічны і ўзнёслы,
Хто ўчора між віроў прыгожы быў яшчэ,
Цяпер па палубе за спінаю, як вёслы,
Два крылы белыя нягегла валачэ.

Хто launch мераў вышыню, цяпер трывае здзекі,
Кароль блакіту стаў няўклюдным і цяжкім.

Рагоча жартаўнік з крылатага калекі,
Кульгаючы, як ён, пускае ў дзюбу дым.

Паэт – як альбатрос: скарае небасхілы
І вашых небяспек не ведае ў жыцці,
Ды на зямлі гнятуць вялізарныя крылы,
Перашкаджаючы між карлікаў ісці.

### ДРЭННЫ МАНАХ

У старажытнасці, якой ніхто не верне,
Святая Ісціна жыла ў манастырах,
І ведаў кожны мніх, што праца – шлях праз церні,
Што вечнае жыццё малюеш на мурах.

У душах мастакоў расло Хрыстова зерне,
І, верачы, што смерць – надзея, а не страх,
На могілках красу тварылі, бы ў майстэрні,
Бо дух – заўсёды дух, а праху – толькі прах.

Маё жыццё – труна з *недасканалым* мніхам:
Канаю дзень і ноч, зачараваны ліхам,
І на сваіх мурах нічога не стварыў!

Лянівы шарлатан, ці збаўлюся ад Злога,
Зрабіўшы з роспачы й ганебнасці былога
Красу маіх вачэй, душы маёй парыў?

### ДОН ЖУАН У ПЕКЛЕ

У ноч, калі Жуан сышоў да Апраметнай,
У гібельным чаўне Харона не было:
Абражаны жабрак з ухмылкай ледзь прыкметнай
Забраў яго абол – і ўзяўся за вясло.

А побач, ірвучы валоссе й апранашкі,
Ахвярнай чарадой, гатовай на забой,
Сялянкі з панямі, распусніцы й манашкі,
Крычалі наўздагон: “Вазьмі мяне з сабой!”

Крыўляўся Сганарэль і енчыў: “Плата! Плата!”
Шляхетна плакаўся старэнькі дон Луіс,
Бо спарадзіў на свет блюзнерца, сына, ката,
Што зараз адплыве ў апошні свой круіз.

Эльвіра, верная і здраджаная донья,
У мроях бегла ўслед за лютым сужанцом, –

Каб падзяліўся з ёй усмешкаю з бяздоння,
Святлейшаю за ўсе зарокі пад вянцом.

Каменны камандор, закуты ўвесь у латы,
Застыў над хвалямі суворым стырнавым...
Ды выкляты герой за хвілю ад расплаты
Не кінуў позірку ні мёртвым, ні жывым.

### ВЕЛІКАНКА

У час, калі зямля яшчэ радзіла дзівы,
Шмат цікавейшыя за чалавечы род,
Я з веліканкай бы жыў юнаю, шчаслівы,
Як з каралеваю – яе ласкавы кот.

Глядзеў бы, як цвіце душа яе і цела
У гульнях, ад якіх свет кідала б у пот.
Чытаў бы па вачах, чаго яна хацела:
То ледзяны агонь, то палымяны лёд.

Брадзіў бы ў валасах, як у дуброве сарны,
Караскаўся б на схіл каленяў велізарны.
А ўлетку, калі сквар паліў бы ўсё люцей,

Для адчынку схоў знайшоў бы самы боскі, –
Драмаючы ў цяні агромністых грудзей,
Як ля падножжа гор маленечкія вёскі.

* * *

Як зорны небасхіл, цябе абагаўляю,
Маўклівы мой прысуд, дзе да краёў адчаю,
Я смягну без цябе тым болей, чым хутчэй
Ты ад мяне бяжыш, праклён маіх начэй,
З такой іроніяй, што толькі памнажае
Адлегласць між табой і мной, мая чужая.

І я іду на бой, штурмуючы цябе,
Як войска чарвякоў нябожчыка скубе,
Бо так люблю сваю няўмольную пачвару
За холад і цынізм, што гэтак ёй да твару.

### ПАДЛІНА

Каханая мая, вы помніце хвіліну
Цудоўнай раніцы тае:

Сцяжыну, паварот – і гідкую падліну,
І позу, і смурод яе?

Задраўшы ляжкі ўверх грашовай прасталыткай,
Што прадае сваё дабро,
Яна адкрыла нам, застыўшы ў позе брыдкай,
Атруты поўнае нутро.

А сонца смажыла ўсё гэтае смуроддзе,
Бы прагнула спаліць на тло,
Па дробных частачках вяртаючы Прыродзе,
Што цэлым некалі было.

Здавалася, шкілет, як рэдкасная кветка,
Цвіце ў магільным харастве,
Ды пахла так, што вы з агіды – неба сведка! –
Ледзь не самлелі на траве.

Над рэшткамі гула, забыўшы адпачынак,
Вясёлых мухаў карусель,
А з чэрава паўзлі дывізіі лічынак,
Нібы густы, жывы кісель.

Бо гэта ўсё – жыло, шумела чорным морам,
Як хваля, што да ног паўзла:
Каму бяскрыўдная, каго атруціць морам,
У свеце паўдабра-паўзла.

Ды гэты свет гучаў танчэй і неймаверней
За ціхі вецер у трысці,
Бы сейбіт на раллі, прасейваючы зерне,
Даваў найлепшаму расці.

Абрысы сцерліся амаль – і толькі мроя
Жыла ў даўно забытым сне,
Каб геній прыгадаў і ажывіў старое
Па памяці на палатне.

Тым часам на шкілет, галодная, худая,
Брахала сука з-за скалы,
Каб мы хутчэй ішлі, бо і яна жадае
Адгрызці хоць шматок малы.

Але і вам ісці туды, дзе ўсё сканае,
У брыдкі, у мярзотны дол, –
Святло маіх вачэй, раскоша незямная,
Ласкавы й велічны анёл!

Так, вечна юная, вы будзеце ў магіле!
Вам, неўміручая любоў,
Пасля таемстваў быць разваліна ў цвілі
І парахнець між чарапоў!

Скажыце ж чарвякам, што прыпаўзуць пажэрці,
Цалуючы зямных нявест,
Што вечную любоў я ўратаваў ад смерці –
Тваёй красы нябесны змест!

* * *

Што скажаш, горкі дух, у цемрадзі самотнай,
Што скажаш ёй, душа, засохлая на тло, –
*Ёй*, самай велічнай, прыгожай і пяшчотнай,
Чый позірк уначы запальвае святло?

– Пяяцьмем дзень пры дні яе красу і ўладу,
Што мудрай дабрынёй нам ззяе з вышыні,
Яе нябесны дар – анёльскую спагаду! –
Убачыць кожнага – у шатах светлыні.

На людных вуліцах і ў цішыні пакоя
З'яўляецца, як здань, і кажа мне такое:
"Кахаючы мяне, палюбіш Прыгажосць,

Паверыш у Дабро – і быць яму бясконцым,
Бо ты са мной, а я была табе і ёсць
Мадоннай, Музаю й Анёлам-абаронцам!"

## *ЗАПРАШЭННЕ Ў ПАДАРОЖЖА*

Красуня, давай
Адправімся ў край
Шчаслівай вясны і вясёлак!
У рай на дваіх,
Што варты тваіх
Надзеяў і сноў, мой анёлак!
Паедзем, дзіця,
На свята жыцця,
Дзе сонца ўсміхаецца з дымкі,
А мора пяе,
Як вочы твае,
Калі адкрываеш абдымкі.

І ўсё, чаго прагнеш, там ёсць:
Раскоша, спакой, прыгажосць!

Абставім пакой
З любоўю такой,
У стылі такім рарытэтным,
Каб дрэва і шкло
Чароўным было,
І добра было тэт-а-тэт нам.
Камін, жырандоль,
Каб цені – на столь,
Суквеццяў, сугуччаў сумоўе,
Нібыта з чужой,
Ды блізкай душой
Гаворыць само залюстроўе.

І ўсё, чаго прагнеш, там ёсць:
Раскоша, спакой, прыгажосць!

А зранку, калі
Усе караблі
Чакаюць цябе на прычале,
Адно захаці –
І ў Індыю ці
Амерыку нас бы памчалі.
А ўвечар, калі
Палацы й палі
Залоціць святло на заходзе,
Палеткі й дамы
Заснуць, як і мы,
У цёплай вясновай лагодзе.

І ўсё, чаго прагнеш, там ёсць:
Раскоша, спакой, прыгажосць!

## ***КАТЫ***

Аматары жанчын і мучанікі ведаў
Сыходзяцца ў адным, на старасці гадоў
У свой халодны дом прыводзячы катоў –
Ласкавых, велічных і зябкіх дамаседаў.

Кот любіць кніжнікаў, ды здатны на парыў,
Сябруе з цішынёй і з цемрай, калі трэба.
З іх выйшлі б веснікі пякельнага Эрэба,
Каб замагільны бог свабоду іх скарыў.

Прымаюць сотні поз – і, прыхаваўшы кіпці,
Неразгаданыя, як сфінксы – у Егіпце,
Кладуцца й задаюць свае загадкі ў снох.

Іх зрэнкі свецяцца, падміргваючы зорам,
І водбліскі агню хаваюцца між ног –
Туды, дзе іскрамі зіхціць забыты сорам.

### МАГІЛА

Не пабяжыць сляза скупая
Па твары верніка, калі
Ён тваё цела закапае
У неасвечанай зямлі.

Пагаснуць зоркі. Сціхнуць гукі.
І толькі над тваёй плітой –
Са змеянятамі гадзюкі
І павучыхі з павутой.

Ваўкі на выклятай магіле
Учыняць бойку ў дзікім сквіле,
Каханнем зоймуцца вядзьмак

І палюбоўніца старая,
А ліхадзеяў лютых зграя
З ахвяраў пасмяецца ўсмак.

### СПЛІН

Калі над галавой цяжкіх нябёсаў века,
І шэрая імжа паўсюль, куды ні кроч,
І хмары да зямлі прыціснуць чалавека,
І твой свінцовы дзень маркотнейшы за ноч;

Калі сусвет наўкол змрачнее й халадзее,
І робіцца турмой між яваю і сном,
Дзе гіне ў сутаргах апошняя надзея,
Што б'ецца аб муры аслеплым кажаном;

Калі твой краявід дажджом закратаваны,
А дом – магільны склеп з вільготнаю нудой,
І ў мозгу павукоў вандруюць караваны,
Заткаўшы звіліны агіднай павутой...

І раптам – гул званоў! – тужлівы голас медзі,
Нібыта вусціш б'е наводліў па вушах,
І гурмы прывідаў бяздомных плачуць недзе,
І не змаўкае жаль, і не мінае жах.

І душы нашыя жалобным катафалкам
На могілкі вязуць па нашых жа касцях,

І лютая туга перамагае цалкам,
Над чэрапам маім падняўшы чорны сцяг.

### *АЛХІМІЯ ПАКУТЫ*

Прырода! Аднаму – святло,
Другому – кветкі на магілу,
Камусьці – сонца з небасхілу,
А іншаму – цямрэча й зло!

Гермес, з якім даўно сам-насам
Вучу алхімію тугі,
Настаўнік люты й дарагі,
Зрабіў мяне другім Мідасам.

На здзіў Мідасу-каралю
Жалезам золата раблю,
У пекла на руінах раю

Ўсё, што люблю, ператвараю.
І дзе вы бачыце зямлю –
Магілы без канца і краю!

### *ГЭАЎТОНТЫМАРУМЕНАС*[1]

*Ж.Ж.Ф.*

Я б'ю без гневу і сумневу
З халодным спрытам мяснікоў,
Бы высякаю між пяскоў
Журбы салёную залеву,

Як некалі – пракрок Майсей...
Хай пырсне і ў маёй Сахары!
Хай прага надзімае мары
У гавані тваіх вачэй,

Каб у душы ўваскрос нябожчык
І боль павёў яго на бой,
Як падымае за сабой
Жаўнераў барабанны пошчак!

Але я сам – благі акорд,
Фальшывы гук у боскім хоры:
Маёй іроніі дакоры
Ў душу ўбіваюць востры корд.

[1] Той, хто сам сябе катуе (*старагр.*).

Я прысудзіў сябе да кары,
Бо кроў атручаная злом.
Я стаў павелічальным шклом,
Люстэркам для сваёй пачвары!

Я – поўха і разбіты твар!
Я – шыя, плаха і сякера!
Ахвяра ката-людажэра –
І людажэр сваіх ахвяр!

Хто смокча боль, каб выць ад болю,
Асуджаны на горкі лёс
Крыўляцца ў рогаце да слёз
І не ўсміхацца аніколі!

## СЛЯПЫЯ

Глядзі на іх, душа! Хоць вусцішна глядзець!
Нібы самнамбулы, жахліваю і смешнай
Гурмою големаў у цемрадзі бязмежнай,
З пустымі зрэнкамі, брыдуць яны ледзь-ледзь.

Хоць іскра Божая з вачэй даўно ўжо знікла,
Іх бельмы брыдкія – заўсёды ўвышыні.
"Увага, лужына! Канава! Камяні!" –
Не чуюць, ідучы. І падаючы звыкла.

Брыдуць навобмацак праз векавечны змрок,
У гучнай цішыні, бо Горад, слых і зрок
Згубіўшы, дзень і ноч смяецца, плача, вые!

У неба зіркае, ад яміны за крок.
І я паўзу між іх, – сляпец, а не прарок! –
Пытаючы: "Нашто Нябёсы вам, сляпыя?"

## АМУР І ЧЭРАП

*Старая віньетка*

Маленькі Амур любіць жарты,
Гарэзнік такі:
Уссеўся, цынічны і ўпарты,
На чэрап людскі –

І бурбалкі ўверх выдзьмувае
З таго, што ўнутры.
І, нібы вясёлка жывая,
У небе – шары.

"Мой шарык, імчы ў далячыні,
Набраўшы разгон!"
Ды – лопнуў раптоўна, і гіне,
Як сонечны сон...

І ціхенька скардзіцца чэрап,
І плача з жуды:
"Хто б ката майго, людажэра б
Спыніў назаўжды!

Бо ўсё, з чаго робіцца зграя
Зіхоткіх шароў, –
Мой розум, які памірае!
Мае плоць і кроў!"

## ВІНО КАХАНКАЎ

Як блізка райскія прасторы!
Нашто нам цуглі, лейцы, шпоры,
Калі бярэм за скакуна
Бутэльку боскага віна?

Мы – шасцікрылыя каханкі
У сёмым небе ліхаманкі,
І ўсё бліжэй, – рукой дастань! –
Усё рэальней наша здань.

У нашым п'яным небасхіле
Два паралельныя сляды:
Рука ў руцэ – спыніся, хвіля! –

Ляцім без стомы і нуды,
Як брат з каханаю сястрою,
У штучны вырай нашай мроі!

## СМЕРЦЬ КАХАНКАЎ

У апошні схоў ляжам найвыгодней:
Коўдру адгарні, свечкі патушы.
Удыхнем букет водараў усходні,
Скразнякі жыцця й смерці скавышы.

Рухаючы кроў удвая свабодней,
Б'юцца ва ўнісон сэрцы-спарышы;
Азарыўшы змрок, нібы дзве паходні,
Дагараюць дзве нашыя душы.

Надыходзіць ноч сінім небакраем.
Развітальны ўздых рэхам паўтараем.
Потым цішыня. Толькі ў цішыні

Спусціцца анёл – і адчыніць дзверы,
Крэсівам дабра, вернасці і веры
Уваскрэсіць два нашыя агні.

## СМЕРЦЬ БЕДНЯКОЎ

На свеце толькі Смерць – ратунак і надзея,
Яна, а не жыццё і ўсе яго дары, –
Апошні грош таму, хто горам багацее,
Гаючы эліксір, надзейны і стары;

Яна вядзе праз ноч, праз холад і завеі,
За прывідным святлом, у зліву і вятры;
Прытулак і шпіталь, дзе хворы здаравее
І мае хлеб, і спіць – да лепшае пары;

Яна – святы анёл, што прыйдзе да любога,
Нясе чароўны сон, як напамін ад Бога,
Нябеснай маннаю – на ўвесь жабрачы лёс;

Яна – у родны край забытая дарога,
Заўсёды новае вяртанне да старога,
У невядомы свет за брамаю Нябёс!

## СМЕРЦЬ МАСТАКОЎ

О, колькі год яшчэ табе насіць каўпак,
Звінець званочкамі й крыўляцца, вечны блазне?
Сумуеш па красе, як па свабодзе вязні, –
Карыкатурны жрэц, пародыяў мастак.

Хоць бачыцца мішэнь, але пацэліць – як?
І прадаеш душу, без гневу і прыязні,
Каб толькі Ідэал разгледзець падрабязней...
І нішчыш накіды, і плачаш, як маньяк!

А самы выкляты зусім не меў патолі
Убачыць Ідэал – і б'ецца, як аб мур,
Аб недасяжны свет карцінаў і скульптур,

Ды высіцца ў душы надзеі Капітолій:
Што згінула ў жыцці, у Смерці ажыве –
І сонца новае, і кветкі ў галаве!

пераклады

Таццяна Якавенка



...Бо на Украіне ў кожнай хаце
Кветкамі любові і цяпла
Дзецям крылы вышывала маці,
Каб душа крылатаю была...

# Вышыванка-душа

### *КВЕТКА ХМЕЛЮ*

Вербалоз над вадой за табою маўкліва заплача.
Пажаўцее таполя – малі, не малі.
Кветку хмелю твайго не ўплятай мне ў валоссе, казача,
Не ўплятай, не хмялі.

Расплываецца вечар у вачах і ў душы акварэллю.
Па расянаму полю прапаўзае туман.
Ой ты хмелю мой горкі, кучаравы мой хмелю,
Не чаруй ты мяне... не дурмань...

Ой ты хмелю, мой хмелю, снег на галаў зляцеў
нібы вэлюм,
Не пячы мяне позіркам і не маўчы.
Дзе ж зіму тваю белую празімуеш ты, хмелю,
На чыім на плячы?..

*Пераклад з украінскай мовы Людмілы ХЕЙДАРАВАЙ.*

## ВЫШЫВАНКА-ДУША

Ручнікамі ўквечана гаспода,
Мальвы з аксаміткамі ў расе.
Мой народ, мой несмяротны родзе,
Вечны ты ў каханні і красе.
Бо на Украіне ў кожнай хаце
Кветкамі любові і цяпла
Дзецям крылы вышывала маці.
Каб душа крылатаю была.

Украіна!
Ляцяць са смугі вякоў
Вышываныя крылы тваіх ручнікоў.
Вышыванка любоў,
Вышыванка жаль,
Вышыванка
Украінская мая душа.

Мамінаю песняю вітае
Любы сэрцу бацькоўскі парог,
Ручнікамі дадому вяртае,
Кожны крыжык з далёкіх дарог.
Бо на Украіне ў кожнай хаце
Кветкамі любові і цяпла
Дзецям крылы вышывала маці.
Каб душа крылатаю была.

Украіна!
Ляцяць са смугі вякоў
Вышываныя крылы тваіх ручнікоў.
Вышыванка любоў,
Вышыванка жаль,
Вышыванка
Украінская мая душа.

Небам блаславёная над намі,
Зямля мая, узятая ў душу.
З квеценню тваёй і галасамі
Вышыванкі песень і кашуль.
Бо на Украіне ў кожнай хаце
Кветкамі любові і цяпла
Дзецям крылы вышывала маці,
Каб душа крылатаю была.

Украіна!
Ляцяць са смугі вякоў
Вышываныя крылы тваіх ручнікоў.
Вышыванка любоў,
Вышыванка жаль,
Вышыванка
Украінская мая душа.

* * *

Ужо не ўмерці на тваім плячы ...
І як душа мая не адляцела
У плыні дзён, каторым век цячы
Там, дзе світае аксамітам цела,
І зорка сэрца сее паначы
Любоў нябёс на свеце гэтым белым.
...Ужо не ўмерці на тваім плячы ...

Былое не вяртаецца – о не!..
Але ў прыцэл глядзіць былога вока!
У памяці, у слове, нават сне
Яно ўва мне свіціцца і навокал,
Так падае ціхутка першы снег
У чорных рамах перамерзлых вокнаў.
...Былое не вяртаецца – о не!..

Ніколі не вяртаецца яно...
Жывое, невыказнае – за намі
Былое не вяртаецца! Даўно
Яго радно сатканае. Ну. Amen...
Так гукі скрыпкі робяцца вінОм
І растаюць прачыстымі слязамі.
...Ніколі не вяртаецца яно...

Ніколі не вяртаецца...
Бо ўжо
Душа павек так болей не заплача.
Ніколі.
Ні ў памяці.
Ні ў слове.
І ні ў сне.

* * *

У сутарэннях памяці – смуга.
Туды заходзіць страшна мне – да млосці.

Там гэты чалавек мяне кахаў,
А, можа, так тады яму здалося...

Ён помніць, ведаю...
Ён не забыў, о не!
І што ў ім зразумець была павінна?
Той чалавек ТАКІМ быў для мяне...
Той чалавек быў для мяне...
Адзіна...

А што ж цяпер?
Кавяранькі паўзмрок.
Як цяжка выбудоўваецца слова!
Але ён тут – няўхільны, быцам рок.
І, як выпадак, неабавязковы.

Яшчэ ён тут...
Такога ўжо няма...
Навошта Я без тога чалавека?
...Тры крокі ўбок...
Глынае нас гурма.
Ну вось і ўсё.
Цяпер ужо – давеку.

## *СОНЦА – ЁСЦЬ!*

Ніхто нічога не прабачыць...
    не...
Мінае ноч на яве,
    а не ў сне,
Дурная ноч.
    Хоць знак якісьці мне,
Ці што, дала б...
    Згубілася душа.
І дзе шукаць той шал,
    той светлы жаль,
Як светам белым
    стаўся чорны жах,
І ўсё ж... Я знаю,
    ты на свеце ёсць
У небе тым,
    дзе днее маладосць,
Бо сонца ёсць...

### *АПЕЛЬСІНАВЫ САД*

Яшчэ будзе трыццаць , і сорак, а, можа, і пяцьдзясят,
І пазалота смеху, і срэбранасць слёз у сне.
Недзе вельмі далека а гэтай часіне цвіце апельсінавы сад,
Хоць тут у душы – снег.

У акно паглядзі, і скажы сабе, хоць снегапад,
Хоць у сэрцы свой голаў падыме калматы звер:
“Недзе вельмі далёка а гэтай часіне цвіце апельсінавы сад...”
Усё-ткі цвіце – вер!

Хай парою гады з ног збіваюць, што рунь маладую град,
Азірніся і ўбачыш, як зноў для цябе адной
Недзе вельмі далёка а гэтай часіне цвіце апельсінавы сад
За ледзяным акном.

Бо каханне – да першага промня раса.
Як не сохнуць расе?..
...Ціха цвіце апельсінавы сад.
І пчолы вецер пасе.

Віктар Жыбуль



…І душа мая крычыць –
Развітанне з Беларуссю!..
Перацерпім, прамаўчым –
Дасць Бог, я вярнуся…

# Віталін – жыццёвы

***Штрыхі да творчага партрэта Змітра Віталіна***

## Частка першая, мемуарная

Пра рэпрэсаванага і за шмат гадоў напаўзабытага паэта 1930-х гг. Змітра Віталіна ізноў загаварылі ў І-й палове 1990-х, калі высветлілася, што ён не “прапаў без звестак на фронце”, як лічылася раней, а жыве ў Адэсе, займаецца літаратурнай дзейнасцю, выдаў шэраг кніг на рускай мове пад сваім сапраўдным прозвішчам – Дзмітры Сергіевіч. Наладзіўшы сувязі з радзімай і адчуўшы “другую маладосць”, пісьменнік пачаў дасылаць творы ў беларускія выданні. У 1994 г. тоўсты канверт з Адэсы прыйшоў і ў рэдакцыю часопіса маладых літаратараў “Першацвет”. У канверт была ўкладзена адна з кніжак Дз. Сергіевіча і такі вось ліст, адрасаваны галоўнаму рэдактару Алесю Масарэнку:

*Уважаемый Александр Герасимович!*

*По рекомендации милейшего Павла Ивановича Прудникова посылаю Вам свою книжечку рассказов “Начало легенды” –*

*может быть, что-нибудь приглянётся Вам и найдёт своё место на страницах Вашего журнала.*

*К сожалению, послать что-либо новое пока не могу.*

*Если дело решится положительно, прошу рассказ подписать:* ***Дмитрий СЕРГИЕВИЧ (ВИТАЛИН).***

*С глубоким уважением*

*Дм. Сергиевич.*

Неўзабаве апавяданне "Камень кахання" было перакладзена на беларускую мову тагачасным адказным сакратаром часопіса Алесем Давыдавым і надрукавана ў 10-м нумары часопіса. Так сталася, што акурат тады я пачаў наведваць літаратурнае аб'яднанне пры "Першацвеце", і той самы нумар стаў для мяне першым знаёмствам і з часопісам, і з творчасцю Дзмітрыя Сергіевіча (Віталіна). Хоць тады, напэўна, мяне больш уразіла незвычайная і драматычная гісторыя яго жыцця: пачынаў паэт яшчэ ў далёкія 20-я – 30-я, выдаў кнігу, потым быў рэпрэсаваны, амаль 60 гадоў лічыўся зніклым ці памерлым, і раптам – такая неспадзяванка! У маіх вачах ён адразу паўстаў як творца з цікавым і складаным лёсам, у чымсьці нават як чалавек-легенда. Такія людзі ўспрымаюцца як сувязныя паміж, здавалася б, далёкімі гістарычнымі і літаратурнымі эпохамі. Адзін з падобных людзей, сябра Змітра Віталіна яшчэ па даваенных часах, – Павел Іванавіч Пруднікаў – часта заходзіў у рэдакцыю, сядаў у вялікі скураны фатэль і распавядаў пра тых, каго яму даводзілася ведаць: Янку Купалу, Якуба Коласа, Кузьму Чорнага, Валерыя Маракова, Лукаша Калюгу... Гэта менавіта Павел Іванавіч падахвоціў Змітра Віталіна да вяртання ў беларускую літаратуру, дапамог яму наладзіць кантакты з рэдакцыямі розных выданняў, параіў скласці новы зборнік вершаў, сам выступаў у друку з публікацыямі пра складаны і драматычны лёс пісьменніка і ўсяляк прапагандаваў яго творчасць.

Пазней, калі я быў ужо не толькі сябрам літаб'яднання, але і штатным супрацоўнікам "Першацвета", Змітро Віталін даслаў у рэдакцыю яшчэ адзін важкі канверт. На гэты раз у ім быў паэтычны цыкл пад назвай "Танцы", даволі арыгінальны па сваёй задуме: кожны верш прысвячаўся пэўнаму танцу (кадрыля, румба, полька, факстрот, кракавяк...) і адлюстроўваў вясёлую атмасферу мястэчковага клуба. Тут заўважаем спробу аўтара з дапамогаю паэтычных сродкаў з'імітаваць рытм кожнага з танцаў, прычым пісаў ён гэтыя вершы ўжо ў сталым веку, як відаць з самахарактарыстыкі лірычнага героя: *"Стары, абвіслі вусы, / з сівою галавой, / а тая, а спакуса, / усё перада мной".* Падборка была змешчана ў 3-м нумары "Першацвета" за 1996 год, і суправаджаў яе артыкул "Другая маладосць паэта", напісаны ўсё тым самым Паўлам Пруднікавым.

А ў 1998-м мне надарылася набыць пуцёўку на чарнаморскі курорт Караліна-Бугаз. Вядома ж, мяне вельмі прываблівала думка, што недалёка адтуль, у Адэсе, жыве гэты незвычайны чалавек – Змітро Віталін. І, такім чынам, акрамя мары добра адпачыць, у мяне з'явілася яшчэ адна – наведаць Змітра Віталіна, пазнаёміцца з ім і зрабіць пра яго артыкул для часопіса. Мне ўяўлялася, што пісьменнік распавядзе шмат цікавага і атрымаецца змястоўнае, а можа нават і трошкі сенсацыйнае інтэрв'ю. Да сустрэчы я грунтоўна падрыхтаваўся: выпісаў з рэдакцыйнай кнігі ўліку рукапісаў адрас З. Віталіна, набыў дыктафон, зрабіў спіс прыкладных пытанняў. Ну і, вядома ж, думаў я, паэту будзе прыемна атрымаць некалькі асобнікаў часопіса са сваёй публікацыяй. Але, на жаль, галоўны рэдактар здолеў вылучыць мне толькі адзін экзэмпляр, дый той бракаваны: наклад нумара даўно разышоўся, і сярод рэдакцыйных запасаў яго больш не засталося. Заадно я даведаўся, што ў Адэсе ствараецца нацыянальна-культурнае аб'яднанне тамтэйшых беларусаў, і вырашыў, што няблага было б сустрэцца і з

яго прадстаўнікамі – таксама атрымаўся б неблагі матэрыял для часопіса.

І вось, праз які тыдзень, я – у курортным пасёлку Затока ля самага Чорнага мора. Для падарожжа ў Адэсу выбраў спякотны і сонечны, але ў цэлым зручны для мяне дзень – 13 ліпеня 1998 г. Дзве гадзіны цягніком, потым яшчэ паўгадзіны бясплённых пошукаў мапы горада, колькі хвілін на таксоўцы – і вось я на вуліцы Акадэміка Філатава. Заходжу ў адзіны пад'езд ужо няновага шматпавярховіка, унутры якога ад лесвічных пляцовак цягнуцца ў абодва бакі доўгія змрачнаватыя калідоры. Патрэбная мне кватэра № 51 адшукалася на восьмым паверсе. Званю ў дзверы. Пачуліся павольныя крокі, у дзвярное вочка нехта паглядзеў. "Хто вы?" – спытаў жаночы голас. Я назваўся і сказаў, што прыйшоў да Дзмітрыя Рыгоравіча Сергіевіча.



*Старшы лейтэнант Дзмітры Сергіевіч (Змітро Віталін). 1945 г.*

Дзверы адчыніліся, у вітальні мяне сустрэла хударлявая пажылая кабета – жонка пісьменніка Мальвіна Мартынаўна.

– Праходзьце, – запрасіла яна.

Я прайшоў у пакой. Гэта была самая звычайная, даволі сціплая кватэра (здаецца, двухпакаёўка), і толькі вялікая шафа з кнігамі казала пра тое, што гаспадар жыве літаратурай. Пра апошняе асабліва яскрава сведчыла адна з ніжніх паліц, на якой стаялі – кожная па некалькі асобнікаў – кнігі з прозвішчам аўтара на карэньчыках – *Дмитрий Сергиевич*. За сталом сядзеў сам пісьменнік, якога я дагэтуль бачыў толькі на фотаздымках. Гэта быў каржакаваты сівы чалавек росту вышэйшага за сярэдні – у мяне склалася ўражанне, што ў маладыя гады ён, напэўна, вылучаўся немалой фізічнай сілай. На ягоным твары адбіваліся жыццёвая мудрасць, назапашаны за шмат гадоў вопыт і цяжар перажытага.

Я адразу назваўся, дадаўшы, што працую ў часопісе і хацеў бы зрабіць з Дзмітрыем Рыгоравічам інтэрв'ю. Даведаўшыся, што я з Беларусі, гаспадары вельмі ўзрадаваліся, бо менш за ўсё чакалі візіту земляка, да таго ж незнаёмага: даўно іх ніхто не наведваў – акрамя, бадай, зяця і ўнука з Масквы. Неўзабаве на стале з'явіўся гасцінны пачастунак, а потым я ўключыў дыктафон – гэты запіс збольшага захаваўся і, такім чынам, аднавіць нашу гутарку і цяпер не склала вялікай цяжкасці. Праўда, тады я толькі пачынаў цікавіцца беларускай літаратурай даваеннага часу, не ва ўсім яшчэ добра арыентаваўся і задаваў пытанні, магчыма, у нечым "агульныя" і "стандартныя", а пра што сапраўды варта было пацікавіцца ў жывога сведкі даўніх падзей, – не спытаў. Але не скажу, што надта ўжо моцна аб гэтым шкадую: пра што не даведаўся асабіста ад пісьменніка, прачытаў потым у ягоных творах.

На маю прапанову прыгадаць пачатак свайго творчага шляху Змітро Віталін адказаў:

– Гэта ўжо даўнія часы... З дзяцінства я вельмі любіў чытаць класікаў нашай літаратуры: Якуба Коласа, Янку Купалу, Цішку Гартнага... Яны наш гонар. Выдаваліся яшчэ такія "Выпісы з беларускай літаратуры" – хрэстаматыя для сярэдніх школ рэспублікі, там былі і іншыя паэты: Багушэвіч, Цётка, Алесь Гурло... І вось, усе яны нейкім чынам на мяне паўплывалі: я таксама пачаў пісаць. Першае маё апавяданне (на расійскай мове) было надрукавана недзе ў 1925 ці 1926 годзе ў піянерскай газеце "Искра Ильича", якая выдавалася ў Гомелі. Ну якое там апавяданне? Проста замалёвачка, а яе паднялі да ўзроўню апавядання. Для мяне гэта

была вялікая радасць. Ну, а пачаў пісаць па-беларуску, калі апынуўся ў Мінску, стаў пахаджваць у Дом пісьменніка. Была такая газета ў Мінску – "Чырвоная змена", вось там я надрукаваў свае першыя вершы. Далей – болей. У "Маладняку" друкаваўся, у "Полымі", і нават ва "Узвышшы" адзін верш змясціў. Мае першыя таварышы па пяры – Павел Пруднікаў, ягоны брат Алесь Пруднікаў, а таксама таленавіты беларускі паэт Клім Грыневіч. Гэта была такая нашая група. Мы не тое што адасобіліся, а проста сустракаліся часцей, чым з іншымі. Сябраваў я і з Рыгорам Хацкевічам – добры, на мой погляд, паэт. І першыя кніжкі ў нас выйшлі амаль адначасова. У мяне была тады такая думка: "Vita" – па-латыні – "жыццё", і я выбраў сабе псеўданім "Віталін" – "Жыццёвы", так бы мовіць.

Мне адразу ўспомнілася аптымістычная і жыццесцвярджальная назва першай кнігі Змітра Віталіна – "Будзем жыць!" І я не абмінуў згадаць пра гэта. Дзмітры Рыгоравіч прыязна заўсміхаўся:

– Добра, што вы ведаеце. Гэта ўжо бібліяграфічная рэдкасць – падараваць, на жаль, не магу. У мяне толькі адна недзе засталася – ужо не ведаю, дзе і шукаць яе. І мне здаецца, "Будзем жыць" – найлепшая назва, якая ёсць. Для мяне была вялікая радасць, калі тады, у 1932-м, выйшла гэтая кніжка. Зразумела, што старога жыцця я не ведаў: малады быў – пра маладое пісаў...

– А пра што? Якія настроі тады ўвогуле панавалі ў беларускай літаратуры?

– Ды пра ўсё... Хоць сам я тады толькі пачынаў, пісаў яшчэ не вельмі шмат. Былі вершы, прысвечаныя сацыялістычнаму будаўніцтву... У юнацтве шмат хто з нас пра гэта пісаў, асабліва Андрэй Александровіч. Ён быў першы паэт нашага сацыялістычнага будаўніцтва. Потым Пятрусь Броўка з'явіўся... Мне ён вельмі падабаецца. Я, дарэчы, пасля вайны сустракаўся з ім тут, у Адэсе. Ён прыязджаў сюды са сваёю хваробаю вачэй у Інстытут імя Філатава. Я яго вадзіў па ўсёй Адэсе. Добрыя ўспаміны засталіся ад той сустрэчы. Нас павезлі ў вінаробчы інстытут імя Таірава – гэта кіламетраў пяць адсюль. Вось нас завялі ў гэты падвал, у сутарэнне – там такія агромністыя бакі стаяць з вінам. Ну, і мы там начасталіся!.. – Дзмітры Рыгоравіч засмяяўся, але яго наступнае пытанне прымусіла мяне разгубіцца:

– Як ён там цяпер?

На мой адказ, што Броўка памёр яшчэ ў 1980 годзе, Змітро Віталін з жалем запытаўся:

– Ай-яй-яй, а ад чаго памёр, не ведаеце?

Я не прыдумаў нічога лепшага, як сказаць, што, маўляў, узрост ужо такі быў, семдзесят пяць гадоў – быццам забыўшыся, што перада мною – чалавек, якому вось-вось будзе восемдзесят шэсць! Шчыра кажучы, я не чакаў, што Змітро Віталін нічога не ведае пра лёсы сваіх былых сяброў і паплечнікаў. Пра каго ён ні пытаўся – даводзілася адказваць, што і той памёр, і гэты памёр... Апошнія магікане маладнякоўска-ўзвышэнскага пакалення пісьменнікаў, на жаль, сыходзілі... Урэшце я знайшоўся:

– А вось Максім Лужанін – жывы! І шмат піша, друкуецца. Ведаеце яго?

– Ведаю! – адказаў Змітро Віталін. – Ён калісьці прыязджаў сюды з Мінска. Штосьці ў яго таксама з вачыма здарылася. Я яго вадзіў па інстытуце Філатава, па ўрачах. Харошы паэт, харошы... Як ён, у акулярах ходзіць, так?

Я адказаў, што асабіста бачыць Лужаніна мне ніколі не даводзілася, затое ведаю Паўла Іванавіча Пруднікава – і распавёў, як ён бываў у нашай рэдакцыі, як некалькі разоў чытаў свае вершы на пасяджэннях літаб'яднання.

– З Паўлам я доўгі час перапісваўся. Некалькі гадоў таму ён падарыў мне сваю кніжку "За калючым дротам", – Дзмітры Рыгоравіч узяў яе з паліцы і паклаў перада мною на стале. – Ужо даўно, праўда, ад яго няма пісем. Як прыедзеце ў Мінск – пазваніце яму. Прывітанне яму і самыя найлепшыя пажаданні!.. А вось,

– рука гаспадара ізноў пацягнулася да паліцы, – Івана Грамовіча кніжка. Я з ім таксама перапісваўся.

Пачалі ўспамінаць іншых пісьменнікаў таго пакалення. Згадалі Эдзі Агняцвет.

– Ведаеце такую паэтку? Яна сама яўрэйка, але піша па-беларуску! – як бы з нейкім гонарам сказаў гаспадар. – Калі раптам будзе магчымасць – перадавайце прывітанне. Яна павінна памятаць такога паэта – Змітрака Віталіна...

Дзмітры Рыгоравіч быў так расчулены ўспамінамі пра Беларусь і пісьменнікаў-землякоў, што папрасіў:

– Мальвіна, дастань каньяк той французскі! Гэта, ведаеце, у нас зяць – дыпламат, быў у камандзіроўцы, прывёз з Парыжа.

Я трохі насцярожыўся, бо тады яшчэ ні разу ў жыцці не піў каньяк. І ўздыхнуў з палёгкай, калі пабачыў, што гаспадары ніяк не могуць адшукаць яго. Затое знайшлі віно, якое мне было больш звыклае і ад якога я не стаў бы адмаўляцца.

– Госцю паболей – палавіну, – казаў Змітро Віталін, напаўняючы келіхі. – Я люблю віно. Потым яшчэ дабавім! За нашу Беларусь, перш за ўсё!

– Жыве Беларусь! – падтрымаў я.

– Так, дай Божа.

Закусілі мы смачнай рыбнай закускай, якую прыгатавала Мальвіна Мартынаўна.

Тут, у сваю чаргу, пачаў задаваць пытанні гаспадар: яго цікавілі мінскія літаратурныя навіны (“Можа, якая нечаканая сэнсацыя адбылася? Можа, даследаванні нейкія?”). Я распавёў пра кніжную серыю “Беларускі кнігазбор”, якая тады пачала выдавацца, пра некалькі кніг, якія ўжо выйшлі ў ёй, а потым перайшоў на тое, што мне больш знаёма, – пра маладую літаратуру, пра часопіс “Першацвет”. Сказаў, што працу ў часопісе сумяшчаю з навучаннем ва ўніверсітэце, ну і – таксама пішу вершы, рэцэнзіі, друкуюся...

– У гэтым узросце ўсе і працуюць, і па начах пішуць, – заўважыла Мальвіна Мартынаўна і кіўнула ў бок мужа. – Вось ён таксама ў маладосці заўсёды па начах пісаў, таму што ўдзень трэба было працаваць. У адпачынак таксама нікуды не ездзіў – сядзеў і пісаў...

На мае пытанні пра сталінскія рэпрэсіі Змітро Віталін адказваў вельмі неахвотна – не хацеў варушыць старыя раны:

– Горка ўспамінаць пра гэта ўсё, хаця ёсць пра што. Але я не ведаю, каму гэта будзе патрэбна... Не хацелася б зараз пра гэта казаць.

– Разумею... Вашага бацьку таксама ж рэпрэсавалі.

Змітро Віталін неяк насцярожана падняў на мяне вочы:

– А адкуль вам гэта вядома?

– Ну, я ж у часопісе працую, – шматзначна адказаў я. (Насамрэч на той час у друку было ўжо дастаткова публікацый, з якіх можна было даведацца і пра Віталіна, і пра лёс яго сям’і.)

– А-а, – з паразуменнем кіўнуў пісьменнік. – Ад бацькі мы нічога не чулі: недзе загінуў, відаць. Няхай будуць праклятыя гэтыя трыццатыя гады! Гэта я буду казаць яшчэ і яшчэ!

А вось пра падзеі Другой сусветнай вайны Дзмітры Рыгоравіч распавядаў жыва і з энтузіязмам, нават паказаў на дыктафон – маўляў, а вось цяпер – абавязкова запісвай!

– Я ж, ведаеце, – ваенны журналіст. Да вайны працаваў у акруговай газеце “Бальшавік Палесся” ў Мазыры. На вайну пайшоў радавым пехацінцам, але потым, на Волхаўскім фронце, стаў ваенным журналістам. Як усё пачалося? Пачаў пісаць у дывізійную газету “Вперёд за Родину” пра сваіх сяброў, з якімі ваяваў, а потым даслаў і два вершы на расійскай мове. Надрукавалі, прыкмецілі, як кажуць, і запрасілі на працу ў тую газету. І з тае пары – пайшло і пайшло. Так і закончыў вайну ў Чэхаславакіі – ваенным журналістам. Я тады аб’ездзіў

ці не ўсю Цэнтральную Еўропу. Бо калі я працаваў у газеце Цэнтральнай групы войск, – называлася яна “За честь Родины”, – то часта ездзіў у камандзіроўкі. Газета выдавалася ў Вене, у Аўстрыі, але даводзілася адтуль ездзіць і ў суседнюю Чэхаславакію, і ў Польшчу. Ну, а Венгрыя была пад бокам – дык мы там і начавалі, і днявалі. Цэнтральная Еўропа мною амаль пехатой пройдзена: не заўсёды атрымлівалася на машыне ездзіць! О, вайну ўспамінаць – гэта, браткі мае, доўгі аповед. Маю жонку і ўсю яе сям’ю вывезлі ў Нямеччыну – яны там рабамі былі.

– Тут у нас усё забралі, усё спалілі, а нам куды? – дадала Мальвіна Мартынаўна. –Ужо мы хлебанулі дык хлебанулі гора! Беларусам больш за ўсіх дасталася. Майго брата, жанатага – ужо сыны, хлопчыкі былі, – забілі немцы. Што хацелі яны – тое і рабілі...

– У Вене я пражыў гадоў пяць, – працягваў Віталін, – Потым вярнуўся ў Савецкі Саюз: на маё месца прыслалі чалавека з Масквы, а я папрасіўся ў Адэсу. Накіравалі мяне ў акруговую ваенную газету “Защитник Родины”.

– У Маскве трудна жыць, – патлумачыла жонка пісьменніка. – Там на работу трэба ў шэсць уставаць. Не, яму Масква не падабаецца!

– А ў 1956-м мяне паслалі ў Венгрыю “ўтаймоўваць мяцежнікаў” – там быў “контррэвалюцыйны пераварот”. Пра гэтыя падзеі я напісаў раман “Гроза на рассвете”.

Яшчэ амаль незнаёмы з празаічнымі творамі Дзмітрыя Сергіевіча-Віталіна, я ўжо зразумеў, што большасць з іх напісана на аўтабіяграфічным матэрыяле.

– Вы пішаце толькі пра тое, што самі зведалі? – спытаў я.

– Так, – адказаў ён. – І я лічу, што пісьменнікі наогул усе пішуць толькі пра тое, што самі так ці інакш праходзяць. Тое, што мною напісана, – мною і пражыта. Гэта датычыцца перш за ўсё кніжак пра вайну. Адну не магу знайсці, але хачу вам абавязкова падарыць, – Дзмітры Рыгоравіч падышоў да паліцы з шэрагам уласных кніг і пачаў шукаць. Урэшце падарыў ён мне не адну кнігу, а цэлыя чатыры, клапатліва падпісаўшы кожную з іх.

– Нагрузіў я вас лішнім грузам! – жартаваў ён.

Я не ведаў, чым аддзячыць за гэта шаноўнаму гаспадару, і ўручыў яму “Тазік беларускі” – калектыўны зборнік нашага творчага руху “Бум-Бам-Літ”, куды ўвайшлі мае вершы і паэма. Некалькі асобнікаў гэтай кніжкі я захапіў з сабой – ці мала дзе з кім пазнаёмлюся, раптам хтосьці зацікавіцца.

– Вось, – кажу я, – а гэта вам! Толькі не палохайцеся. Можа, там не ўсё будзе зразумела, але мы любім эксперыментаваць...

– “Бум-Бам-Літ”? Гэта, напэўна, трэба разумець як нейкі “літаратурны бум”! – з усмешкай выказала здагадку Мальвіна Мартынаўна.

Падарыў я Віталіну і “Першацвет” з публікацыяй ягоных вершаў – як аказалася, яго ўласны асобнік недзе згубіўся. Мне было крыху сорамна, што “груз” майго падарунку быў нашмат лягчэйшы за ягоны, але стары пісьменнік усё адно ўзрадаваўся: для яго кожная публікацыя на радзіме была крокам вяртання ў беларускую літаратуру, ад якой ён столькі гадоў быў ізаляваны. Дзмітры Рыгоравіч ужо не мог прыгадаць, калі ж дакладна напісаны гэтыя вершы – сказаў, што, напэўна, яшчэ да вайны.

– Можа, яшчэ вып’ем? У нас ёсць што выпіць, – зухавата прапанаваў Віталін. – Мальвіна, ты так і не знайшла каньяку?

Я пачаў тлумачыць, што болей піць не варта – у мяне наперадзе яшчэ адна сустрэча і, хто ведае, раптам мяне там таксама пачастуюць!..

Мальвіна Мартынаўна пагадзілася:

– Ты, папаня, ужо многа не пі! І ў яго, чуеш, сустрэча!

– А з кім? – пацікавіўся Дзмітры Рыгоравіч.

Я пачаў тлумачыць, што тут, у Адэсе, збіраюцца стварыць беларускае нацыя-

нальна-культурнае аб'яднанне, і вось я буду сустракацца з будучым старшынём гэтага аб'яднання. Мальвіна Мартынаўна ўхвальна заківала:

– Во, пара ўжо, а то ва ўсіх – і ў балгараў, і ў малдаванаў, і ў армянаў, і бог ведае ў каго – ёсць, а ў беларусаў няма. А калі створаць – добра: усе будуць разам, будуць дапамагаць адно аднаму...

Аказалася, што пра іншых адэскіх беларусаў яны нічога не ведаюць і не чулі, і ўвогуле, першы беларус, якога ён тут сустрэў за шмат гадоў, – гэта я...

Дзмітры Рыгоравіч доўга дзякаваў мне за тое, што я завітаў да яго, і нават выбачаўся, што не можа выйсці і правесці мяне. Мальвіна Мартынаўна падказала мне, як найхутчэй дабрацца на трамваі да вакзала, і я выправіўся ў шлях. Сустрэчы, аднак, не адбылося: ці то меркаваны суразмоўца не дачакаўся мяне, ці то ў вакзальным тлуме мы проста не знайшлі адзін аднаго...

Але я быў вельмі рады, што здолеў сустрэцца са Змітром Віталіным, хоць адначасова не пакідала і адчуванне, што не пра ўсё я распытаў, пра што хацеў. І праз некалькі дзён, 17 ліпеня, я выправіўся ў Адэсу ізноў. І ў гэты раз дзверы адчыніла гаспадыня. Як высветлілася, пісьменнік адпачываў у сваім пакоі, і мне стала няёмка, што я завітаў у недарэчны час. Папрасіўшы пачакаць, Мальвіна Мартынаўна на маю просьбу распавяла гісторыю свайго знаёмства з Дзмітрыем Рыгоравічам.

...Мальвіна Мартынаўна родам з Лельчыцкага раёна. З будучым мужам пазнаёмілася ў далёкім 1937-м годзе, калі Змітро, тады інструктар раённай нарыхтоўчай канторы, прыехаў у камандзіроўку ў вёску Вусаў, дзе Мальвіна працавала ў краме. Адлегласць была – каля трыццаці кіламетраў, і Змітро пачаў наведвацца ў Вусаў усё часцей. Калі не атрымлівалася – перапісваліся, а праз год пабраліся шлюбам. Неўзабаве Змітра запрасілі працаваць у рэдакцыю мазырскай газеты "Бальшавік Палесся". Так і жылі: ён быў журналістам, яна – крамніцай, памочнікам бухгалтара, сакратаркай... На вайне Змітро быў спачатку простым салдатам – і сувязістам, і ў пяхоце. Хацеў лётчыкам стаць, ды не ўзялі па здароўі. Быў і паранены, і абмарожваўся, але ў шпіталь не хацеў, таму што калі патрапіш у шпіталь, то потым цябе накіруюць у іншую частку... А ў сваёй частцы – усе знаёмыя, усё вядома. Потым, пасля вайны, у Адэсе, Дзмітры Сергіевіч стаў чальцом мясцовага аддзялення Саюза пісьменнікаў, у якое ўваходзіла каля 40 чалавек. Пакуль дазваляла здароўе, ён часта наведваў пісьменніцкія пасяджэнні. Праўда, спачатку даводзілася больш працаваць у журналістыцы; за мастацкія творы Дзмітры Сергіевіч больш актыўна ўзяўся, калі ўжо выйшаў на пенсію.

– Калі б быў капітал – дык значна больш напісаў бы, – уздыхнула Мальвіна Мартынаўна і перайшла да праблем сучаснага жыцця-быцця. – Цяпер маладыя знаходзяць спонсараў – выдаюцца. Гэта толькі маладым пад сілу, а нам, старым... Можа, і наладзіцца год праз пяцьдзясят – не раней. Ну, як мы жывем? Сціпла. Вось зяць у нас – дыпламат, унук вучыцца ў Маскве ў Інстытуце міжнародных адносінаў. У іх ёсць машына, дача пад Масквой, а ў нас – ні дачы, ні машыны, кватэра – і ўсё. А дачка ў Амерыцы...

Распавядаючы пра цяперашняе адэскае жыццё, Мальвіна Мартынаўна – гэтая добрая, усмешлівая і клапатлівая жанчына – паспела і сабраць на стол. Тут якраз прачнуўся і Дзмітры Рыгоравіч. Увайшоўшы ў пакой і пабачыўшы мяне, ён узрадаваўся і зноў прыгадаў пра французскі каньяк. Гэтым разам яго знайшлі, і мне ўжо нічога не заставалася, як пакаштаваць яго.

– За вашыя творчыя поспехі! – прамовіў пісьменнік, разліваючы каньяк па кілішках.

– І за вашыя!

– Дай Бог...

– Вы ж цяпер таксама нешта пішаце?



*Злева направа: Пятро Старавыбарны, Павел Пруднікаў, Алесь Пруднікаў, Васіль Баранаў, Клім Грыневіч, Змітро Віталін. Менск, 1932 г. Здымак з фондаў БДАМЛМ.*

– Пішу і вершы, і прозу, – адказаў Змітро Віталін. – І трэба сказаць, толькі на роднай мове. У Мінску, у выдавецтве "Мастацкая літаратура", недзе ляжыць мая кніга "Помста", куды ўвайшлі вершы за розныя гады. І нічога мне не адказалі: ці атрымалі рукапіс, ці не. Гэта мяне дзівіць: ну як так можна? Сказалі б не – дык не. Я ўжо нават перастаў пісаць туды, дапытвацца. Хоць бы слова якое... Згубіўся недзе рукапіс...

– А чаму вашая кніга называецца менавіта так – "Помста"?

– Там, можа, знойдзеш у тэксце, а зараз я сказаць не магу. Я ўжо думаў, што яна выйшла. Ужо павінна: больш як год я паслаў яе. Вось я цябе хачу папрасіць, каб ты пазваніў у гэтае выдавецтва, у "Мастацкую літаратуру", і даведаўся, дзе яна, у якім стане.

Я сказаў, што пацікаўлюся, патлумачыўшы, што з кнігавыдавецтвам у нас пэўныя цяжкасці, падрыхтоўка кнігі магла і затрымацца – у нас цяпер і маладыя, і нават вядомыя пісьменнікі па некалькі гадоў чакаюць. На што Змітро Віталін заўважыў:

– Не выдаюцца? Гэта кепска, вельмі кепска. Скажу, што ў мой час, калі я быў у Мінску, можна было выдацца. Вось і выдалі мяне, нікому не вядомага. Выдавалі Пруднікава, выдавалі другога Пруднікава, Грыневіча выдавалі...

– Але ж тады, у 30-я гады, напэўна ж, панавала цэнзура, моцны ідэалагічны ціск, – не стрымаўся я. – Ці адбілася гэта як-небудзь на вашых творах, альбо на творах вашых сяброў?

– Пра ціск я нічога сказаць не магу, бо я не так ужо й багата пісаў тады. А што пісаў – тое друкавалася, здаецца, без усякай цэнзуры. Ва ўсякім разе, асабіста я не адчуваў таго ціску на сабе.

– А ці не цяжка было рускаму празаіку Дзмітрыю Сергіевічу стаць зноў беларускім паэтам Змітром Віталіным? – пацікавіўся я.

– Не, не цяжка, – адказаў мой суразмоўца. – Бо, кажучы па сакрэце, я і не пераставаў пісаць па-беларуску, вершы перш за ўсё. Пісаў для сябе, друкавацца, зразумела, нідзе не мог: пасля вайны ўвесь час жыў ва Украіне, у Беларусь толькі наведваліся часамі, гады ў рады – нячаста. Там я пакінуў сваіх родных: маці,

сясцёр, брата... Цяпер там ужо мала хто з іх у жывых. Пляменнікаў многа – яны ў Калінкавічах жывуць. Я ўжо даўно там не быў, але перапісваемся.

– Калі былі маладыя – ездзілі часта: раз у гады тры-чатыры, пакуль там жылі нашы родныя, – дадала Мальвіна Мартынаўна. – А цяпер іх ужо няма, і ўвогуле мая вёска Вусаў прапала: ад Чарнобыля там радыяцыя. Усіх павысялялі.

– Недалёка мяжа з Украінай, самая сапраўдная глыбіня Палесся. Там недалёка, на дачы, – найстарэйшы на Беларусі дуб, пра які пішуць у кніжках, падручніках. Гэта недзе каля Лельчыц, каля Мілашавічаў... Карэслева! – успомніў Дзмітры Рыгоравіч і раптам спахапіўся, – Кепская мая беларуская мова, так? Украінскую мы разумеем...

– Украінскую я разумею, – перабіла Мальвіна Мартынаўна, – але толькі на базары. А калі па тэлевізары там нейкія словы, дык я ў яго пытаюся, – яна кіўнула ў бок Дзмітрыя Рыгоравіча. – Гэта раней можна было дастаць такую даведку, каб не вывучаць украінскую мову, а цяпер – не. Мая вёска была за дзесяць кіламетраў ад Украіны, дык і мова была ці то ўкраінская, ці то беларуская. Гэта – Гомельская вобласць, а раней была Палеская.

Мяне крыху здзіўляла сарамлівасць Змітра Віталіна, з якой ён падчас нашай гутаркі неаднойчы папракаў сам сябе за тое, што “ўжо даволі кепска ведае сваю мову”, хоць беларуская мова гучала з яго вуснаў прыстойна – зусім не горш за мову старых мінскіх пісьменнікаў, якіх мне даводзілася чуць.

Як быццам узгадаўшы, што гэтую гутарку са Змітром Віталіным я буду рыхтаваць да друку, я адчуў, што ў ёй неяк пакуль яшчэ не стае развагаў на глабальныя, так бы мовіць, “агульнафіласофскія” тэмы. Забаўна, што падобная думка прыйшла да мяне пасля пары кілішкаў каньяку, і вось ужо ў такім вясёлым стане я запытаўся:

– А што для вас увогуле літаратура?

І Змітро Віталін, у не менш вясёлым стане, адказаў:

– Літаратура для мяне – гэта жыццё. Без яе б я і не жыў, здаецца. Прычым я не дзялю яе на вялікую і маленькую. Для мяне вершык у газеце – ужо літаратура. Ну, а вялікая літаратура – гэта ўжо само сабой разумеецца. Леў Талстой... Гігант! На Захадзе такога пісьменніка няма – я не ведаю...

– Мабыць, у кожнай краіне ёсць свой Леў Талстой, – заўважыў я.

– Напэўна, ёсць, так, – пагадзіўся Віталін. – У Амерыцы – Тэадор Драйзер. Я любіў яго чытаць, амаль усё прачытаў, што было ў яго выдадзена. Джэк Лондан... Гэта пісьменнік майго юнацтва. Я прачытаў яго, яшчэ школьнікам. Мужны пісьменнік, сапраўдны.

– Ці не паўплываў ён неяк на вас? – гэтае маё пытанне было ўжо, напэўна, залішнім.

– Я б не сказаў, што паўплываў. У яго было сваё жыццё, у мяне – сваё. На вайне ён не быў. А я ж прайшоў вайну з першага дня да парада перамогі. Пратупаў сваімі нагамі да Берліна, да Прагі, да Вены...

– Дзмітры Рыгоравіч, а што б вы, як сталы пісьменнік, хацелі пажадаць маладым літаратарам і моладзі ўвогуле?

Віталін адразу ўлавіў, што я хачу пачуць ад яго нешта “маштабнае”, і крыху разгубіўся, але гэтая разгубленасць адразу ж патанула ў яго прыўзнятым настроі. Ён уважліва паглядзеў на мяне і сказаў:

– Вы жадаеце ад мяне нейкай мудрасці? Мудрасці не будзе. Я жадаю маладым пісьменнікам ніколі не збочваць са свайго шляху і, як бы ні было цяжка, ісці і ісці сваёй дарогаю, бо ўсякія збочванні аднімаюць шмат сілаў... Калі ёсць штосьці ад Бога, дык трэба берагчы гэта як самае дарагое.

На развітанне Дзмітры Рыгоравіч падарыў мне яшчэ тры свае кнігі, напісаўшы на кожнай цёплыя пажаданні – напрыклад, такое: *“В. Жыбулю. Хай ніякія трывогі*

*не памрачаюць неба твайго яснага жыцця, дарагі Віктар. Змітро Віталін. 16/VII-98"*. Я падзякаваў і за гэтыя падарункі, і за гасцінны прыём, і пачаў развітвацца. Пісьменнік правёў мяне да дзвярэй:

– Дзякуй, што зайшоў, успомніў, што ёсць такі чалавек. Гэта я буду казаць яшчэ і яшчэ! Прывітанне ўсяму Мінску! І Паўлу Пруднікаву асабіста! Будзеш тут – заходзь! І ўсім іншым, хто будзе сюды ехаць, кажы, каб заходзілі! Заўсёды будзе прыём і цёплы прывет!

– Будзем жывыя – будзем прымаць добра, – дадала Мальвіна Мартынаўна.

Калі сыходзіў, быў вечар, прычым ужо далёка не ранні. Але – хацелася разveяцца, і я пайшоў да вакзала пехатой. Па дарозе натрапіў на вялікія могілкі – і вырашыў прайсціся па іх. Ведаючы, што ў Адэсе калісьці жыло шмат беларусаў, захацеў праверыць: а раптам, ідучы, пабачу на помніках якія-небудзь знаёмыя беларускія прозвішчы? Напэўна, толькі пасля каньяку мне ў галаў магла прыйсці такая думка – пагатоў, неўзабаве ўсе брамы могілак павінны былі зачыніцца, і я пачаў хвалявацца, як бы мне не застацца зачыненым на гэтых могілках. На шчасце, гэтага не здарылася: выйсце з вечаровага некропаля я своечасова паспеў знайсці.

Потым, едучы ў цягніку па ўжо добра сцямнелых далінах чарнаморскага ўзбярэжжа, я разглядаў кнігі і думаў пра незвычайны лёс іх аўтара... Кнігі былі на рускай мове – напісаныя тут, у Адэсе, але пісьменнік падпісаў іх мне, вядома ж, па-беларуску. І, што істотна, – падпісаў сваім даўнім беларускім псеўданімам – Змітро Віталін. Значыцца, Жыццёвы. Жывучы. Пэўна, абраўшы сабе псеўданім, Зміцер Сергіевіч як бы запраграмаваў свой лёс, усталяваў у сабе нейкі нябачны стрыжань непахіснасці і нязломнасці. Колькі разоў на старонках даведнікаў яго хавалі, абвяшчалі памерлым! Чаго толькі пра яго не пісалі: што ён быў застрэлены пры ўцёках з лагера, загінуў у тайзе, прапаў без вестак на фронце... А ён – насуперак усім нягодам – выжыў і працягвае жыць. І, да таго ж, вяртаецца ў беларускую літаратуру. Так што – жывучы ён не толькі фізічна. Жывучы і ягоны беларускі дух, які ён здолеў захаваць, нягледзячы на паўвекавую адарванасць ад беларускага асяродку. Дух, які нават на радзіме атрымліваецца захаваць не ў кожнага беларуса...

## Частка другая, аглядна-літаратуразнаўчая

З часу тых сустрэчаў мінуў больш як тузін гадоў. Ужо даўно выйшла ў "Голасе Радзімы" маё інтэрв'ю са Змітром Віталіным, даўно адаслаў яму я асобнік газеты разам з лістом, але адказу так і не дачакаўся. Увесь гэты час я часта ўзгадваў Змітра Рыгоравіча: як ён там? Ці жывы? Пазней даведаўся, што паэт здолеў пераступіць мяжу стагоддзяў, атрымаць чарговае воінскае званне падпалкоўніка, адсвяткаваць 90-гадовы юбілей, падрыхтаваць да друку дапоўненае выданне сваёй ранейшай кнігі "Личная война". Нялёгкімі былі апошнія гады яго жыцця: захварэла і 18 траўня 2000 г. памерла жонка Мальвіна Мартынаўна, пасля чаго аўдавелага пісьменніка даглядала супрацоўніца сацыяльнай службы. Жыццёвы шлях Змітра Віталіна завяршыўся 4 лістапада 2004 г. Так паэт і не дачакаўся выхаду сваёй беларускамоўнай кнігі "Помста", рукапіс якой згубіўся недзе ў рэдакцыйных шуфлядах, і спробы знайсці яго былі дарэмнымі. А што для самога З. Віталіна гэтая кніга значыла вельмі шмат, сведчыць хоць бы яго ліст да Максіма Лужаніна, датаваны 23 студзеня 1995 г.:

*Дарагі Аляксандр Амвросьевіч!*

[...]

*Мяне вельмі засмуціў Павел Пруднікаў, які напісаў мне пра мой зборнік вершаў у тым сэнсе, што, калі ўсё будзе добра, пры самых спрыяльных абставінах, ён выйдзе*

*з друку ў 1997 годзе. Ну, хіба можна так марынаваць рукапісы! Я, вядома, знаю ўсю гэтую кухню – рэцэнзіраванне, уключэнне ў план рэдакцыйнай падрыхтоўкі і г. д. Ды ці не пара паламаць валаводзіну? Калі кніжка варта ўвагі, на мой погляд, ёй трэба даваць прыскораны ход да чытача.*

*Мечты, мечты, як гаворыцца. Ды што ты зробіш – тым і жывеш. Адбяры ў чалавека мары, адбяры надзеі – мала што ў яго застанецца.*

*Але не буду заражаць Вас сваім настроем.*

*Шкада – багата часу змарнавана ўпустую. Бадай што, усе мае кнігі на рускай мове я лічу пустэчай. Праўда, у нейкім сэнсе гэта была школа – я набіраўся досведу, набіваў руку. За гэтае – дзякуй, але больш – нічога, хоць і ёсць сярод іх, якія мне вельмі дарагі. Гэта, перш за ўсё, кнігі аб вайне...*[1].

Да нядаўняга часу гэты ліст, поўны пачуцця няспраўджаных надзей, быў адным з вельмі нямногіх дакументаў Змітра Віталіна ў фондах Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва – акрамя яго, асоба пісьменніка тут была прадстаўлена хіба толькі яшчэ адным лістом да Івана Шамякіна[2], тузінам вершаў з першай кнігі "Будзем жыць!", перадрукаваных на машынцы Паўлам Пруднікавым, і выявай на групавым фотаздымку разам з сябрамі, зробленым у Менску ў 1932 г.[3]

Ужо ведаючы, што пісьменнік апошнія гады жыў у Адэсе адзін і памёр "усімі забыты", мы, супрацоўнікі Беларускага дзяржаўнага архіва-музея, нават і не думалі, што яго спадчына вернецца на Беларусь. І якой жа неспадзяванкай была вестка, атрыманая некалькі гадоў таму напярэдадні XII Узвышаўскіх чытанняў ад калінкавіцкага краязнаўца і празаіка-дакументаліста Уладзіміра Лякіна, аўтара кнігі "Тры жыцці Змітра Віталіна" (2012): архіў паэта захаваўся! Як высветлілася, у апошнія гады жыцця З. Віталіна самым набліжаным да яго чалавекам была Валянціна Пятроўна Андрыянава – заслужаны работнік народнай адукацыі Украіны. Гэта менавіта яна, працуючы ў сацыяльнай службе, даглядала старога пісьменніка. І менавіта з ёю звязаўся Уладзімір Лякін, збіраючы матэрыялы для сваёй кнігі пра З. Віталіна. Так ён даведаўся, што нейкія яго рукапісы, у тым ліку беларускамоўныя, захаваліся – але як з імі пазнаёміцца даследчыкам і, пагатоў, чытачам з Беларусі? На дапамогу прыйшоў адэскі беларус Вячаслаў Яфімаў, ветэран Паўночнага флоту, даўні сябар У. Лякіна. Ён угаварыў апякунку Змітра Віталіна пусціць яго ў камору, дзе захоўваліся рукапісы, і сабраў там вялізны стос вершаў на беларускай і рускай мовах. Пераправіць гэты стос трыма цяжкімі бандэролямі (а пазней да іх далучылася і чацвёртая) на Беларусь каштавала Вячаславу Міхайлавічу цэлай месячнай пенсіі. Уладзімір Лякін, у сваю чаргу, перавёз рукапісы з Калінкавічаў у Мінск. Вось так і з'явіўся ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва новы фонд – паэта і празаіка Змітра Віталіна (Дзмітрыя Сергіевіча).

Гэты фонд яшчэ чакае сваёй навуковай апрацоўкі і ўяўляе з сябе пяць важкіх папак з пакуль яшчэ не сістэматызаванымі рукапісамі і машынапісамі. Тым не менш паспрабую зрабіць хоць бы кароткі агляд вернутай на радзіму спадчыны Змітра Віталіна: думаю, гэта будзе цікава як тым, хто на пачатку 1990-х даведаўся пра нечаканае "ўваскрашэнне" рэпрэсаванага паэта, так і тым, для каго імя Змітра Віталіна зусім новае.

Большасць твораў паэта – не датаваная. Даты стаяць толькі пераважна пад старымі вершамі, напісанымі яшчэ ў 1934 – 1939 гг. і аднаўленымі аўтарам па памяці ў 1990-х. Адзін з іх, "Бурундук", створаны ў Сіблагу яшчэ ў 1934 г., іншыя – ужо ў Калінкавічах, неўзабаве па вяртанні з няволі: "Вызваленне", "Мова, маці

[1] Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ). Ф. 140, воп. 2, адз. зах. 162, арк. 1–2.

[2] Тамсама. Ф. 154, воп. 5, адз. зах. 101, арк. 3.

[3] Тамсама. Ф. 332, неапр.

мая", "Адпомсціцца", "На этапе", "Радзіма", "Сустрэча", «Суп "Рататуй"», "Калю дровы", "Зорны вечар", "Што за дзіўнае ўладкаванне", "Сёстры" (усе – 1935). Не пакідаў З. Віталін звяртацца да паэзіі і ў час вайсковай службы: "Ачунянне", "Вячэрні роздум", "Вецер здалёку", "Дождж" (усе – 1936), "Будбат" (1937), "Ідучы на фінскую вайну" (Мазыр, восень 1939 г.). Многія з вершаў надрукаваны на друкарскай машынцы: паэт рыхтаваў іх да публікацыі ў газетах і часопісах і, хутчэй за ўсё збіраўся ўключыць і ў тую самую кнігу "Помста". Назву і разам з ёй ідэйную задуму кнігі яскрава раскрывае верш "Адпомсціцца" (1935) – адзін з тых, якія З. Віталін здолеў апублікаваць у часопісе "Полымя" (1994, № 12):

**АДПОМСЦІЦЦА**

Адпомсціцца
(У тое цвёрда веру я)
Таму, хто душу вырываў у нас!
Мы нелюдзям адпомсцім поўнай мераю
За гэты страшны, ненавісны час!

Калі нас везлі ў поездзе за кратамі
На ўсход
Ад родных, дарагіх мясцін,
Ахоўнікі стаялі скрозь зіркатыя,
Усе звяры і гады, як адзін.

Апрычнікі з нашыўкамі вішнёвымі,
Як толькі носіць іх мая зямля? –
Усюды і заўжды яны гатовыя
Страляць і мучыць,
Мучыць і страляць.

Ды як бы ні хадзілі вы са "свечкамі"
І ні стаялі вартай дзень пры дні,
Ёсць праўда годнасці людское
Вечная,
Што вышай вашай дзікай балбатні.

Пакуль жа вы балюеце, гуляеце,
Вы ўзялі сілу,
Толькі праўда ў нас!
Настане час –
Вы прахам палягаеце,
Смярдзючым гноем –
Прыйдзе гэткі час!

*1935*

Робіцца зразумелым, чаму свае кнігі на рускай мове пісьменнік лічыў "пустэчай": яму даводзілася пісаць і выдаваць "ідэалагічна правільныя" аповесці і раманы пра рэвалюцыйныя падзеі, Вялікую Айчынную вайну і інтэрнацыянальнае адзінства працоўных усіх краін – у той час, як у галаве круцілася нямала такіх вось гнеўных, поўных асуджэння сталінскага рэжыму, радкоў... Вось што ён насамрэч думаў пра тагачасную савецкую рэчаіснасць:

Што за дзіўнае ўладкаванне!
Быццам вольны, а на справе – не!
Быццам зноў кратаў панаванне –
Няма ходу ў роднай старане.

*("Што за дзіўнае ўладкаванне", 1935)*

Некалі ва ўспамінах пра Змітра Віталіна Павел Пруднікаў выказаўся: "Гэта быў па-сапраўднаму эрудзіраваны юнак. Змітро Віталін быў чалавекам філасофска-псіхалагічнага складу. За гэта гаворыць і пералік прачытаных ім кніг, і змест яго ўласных вершаваных твораў. Большасць яго вершаў, нягледзячы на іх рабочую тэматыку, маюць філасофска-псіхалагічны напрамак. [...] Наогул, паэзія Змітра Віталіна – гэта паэзія роздуму"[1]. Гэта пісалася ў 1980-х гг., калі П. Пруднікаў яшчэ не ведаў пра сапраўдны лёс свайго сябра, лічыў яго загінулым на вайне. Атрымліваецца, што ў тым "не па гадах сур'ёзным" юнаку, аўтару вершаў пераважна на рабочую тэматыку, П. Пруднікаў ужо здолеў разгледзець паэта-філосафа. Назваўшы творчасць "яшчэ таго" Змітра Віталіна "паэзіяй роздуму", ён як у ваду глядзеў: філасофская лірыка ў 1990-я гг. стала асноўным кірункам паэтычнай творчасці паэта, і многія (больш за 35) яго вершы гэтага перыяду маюць аднолькавую назву – менавіта "Роздум"! Гэтае слова ў паэта выконвае ролю своеасаблівага жанравага вызначэння (роднаснага звыклай для літаратуразнаўства 'думе') і часам дапаўняецца ўдакладненнямі: "Вячэрні роздум", "Касмічны роздум", "Роздум ка́та" і нават "Роздум алкаша". Апошні прыклад сведчыць, што З. Віталіну было ўласціва развіваць жанр роздуму і ў сатырычнай паэзіі. Амаль усе вершы З. Віталіна, незалежна ад тэматычнай скіраванасці, – доўгія і працяглыя: паэт схільны не канцэнтраваць сваю думку ў некалькіх радках, а нібы паступова разгортваць яе цягам твора.

Так, адзін з "Роздумаў" пачынаецца радкамі: *"Мадрыгалаў табе не складаў, / Ты была мне вышэй мадрыгалаў"*, нібыта настройваючы чытача на інтымную лірыку. Далейшыя радкі *("І сягоння ты верная мне, / Клопат твой адчуваю заўсёды"* і ўрэшце *"Да грудзей прытуліся, пачуй, / Як калоціцца сэрцайка тое")* быццам пацвярджаюць нашыя здагадкі, што верш, хутчэй за ўсё, прысвечаны каханай жанчыне. Прынамсі, адносіны паміж героем і адрасатам выглядаюць як тыповыя міжчалавечыя: *"Што зрабіў я табе ў нагароду?", "Да цябе мог падходзіць з пагрозай", "Калі можаш, за тое даруй"*... І толькі ў фінале верша высвятляецца, што гэтак інтымна і пранікнёна паэт звяртаўся да сваёй Айчыны.

Шырока прадстаўлена ў З. Віталіна тэма мастака і мастацтва. У вершы "Энергія смутку" аўтар разглядае жыццёвыя цяжкасці як стымул да творчых памкненняў: *"Энергія схавана ў смутку – / Дык выкарыстай ты яе!"* Разважаючы пра мэты сваёй творчасці, паэт прыходзіць да высновы, што яна ў тым, каб *"...ганьбіць люты шал / Варожасці на свеце. // Бо людзі на Зямлі – браты"* ("Роздум"). Увогуле, лірычны герой вершаў З. Віталіна паўстае разважлівым і самапаглыбленым чалавекам, для якога паэзія – жыццёва неабходны сродак спазнання сябе і Сусвету: *"Так, я нявольнік твой, паэзія, / Бо ты у заўтра сцелеш шлях, / І кайданы твае жалезныя / Мне ў радасць, люба, а не ў жах. // Паэзія – труба падзорная, / Накіраваная у даль, / Дзе стане людзям жыць прасторнее, / Дзе знікне смутак, згіне жаль"* ("Паэзія"). А чытаючы верш "Дарога", дзе паэт абвяшчае: *"Хай цяжка мне і млосна – / Я не плачу, / Наперакор вятрам і бурам йду!"*, я міжволі прыгадваю ягоныя словы, сказаныя тады, у Адэсе, як пажаданне маладым творцам: "ніколі не збочваць са свайго шляху і, як бы ні было цяжка, ісці і ісці сваёй дарогаю..."

Любіў З. Віталін пісаць і пра бязмежны і неахопны космас, які пільна назірае за дробнымі будзённымі клопатамі кожнага чалавека:

...А космас зорным россыпам
Віруе над Зямлёй,
На золаку ён росы п'е,
Закусвае травой.

[1] Пруднікаў П. Далёкае, але не забытае: Успаміны. – Мінск: Маст. літ., 1988. С. 144 – 145.

Піяўкай ненасытнаю
Прынік ён да Зямлі.
Скугляць парнакапытныя,
Трывожацца чмялі.

*("У пору сенакосную")*

Лірычны герой і сам бывае не супраць *"зоркай маленькаю стаць / І нырнуць у касмічную сцюжу"*, але ўсё ж яму мілей і даражэй родная планета Зямля, якую паэт заклікае любіць і берагчы.

Нядзіва, што філасофскія развагі пра светабудову і светаўладкаванне нярэдка прыводзілі Змітра Віталіна і да спасціжэння самага сакральнага. У паэта нямала вершаў-роздумаў, дзе ён спрабуе асэнсаваць сутнасць Бога. *"Яшчэ не знаючы нічога, / Што прынясе мне новы дзень, / Зварочваюся я да Бога / Душой часцей, чым да людзей"* ("У дарозе"), *"...без Бога / мне і не сесці, і не ўстаць"* ("Роздум"), – прызнаецца лірычны герой. Менавіта Бог выступае ў ролі той сілы, якая вядзе чалавека да мэты, дае надзею і трывалы жыццёвы стрыжань – гэта паэт спасцігнуў на ўласным вопыце: *"Калі зямля вакол гарэла / І не было ў агні дарог, / Маліўся Богу – / З-пад абстрэлу, / З агню выводзіў мяне Бог"* ("О, Бог!.."). Тэма ўзаемаадносін чалавека з Усявышнім закранута ў вершах "З Богам", "Малітва", "З малітвай", "Вера", "Веруо", "Блудны сын", "Богавы гасцінцы", "Хрыстос".

Паэт выступае не проста як шчыры і адданы вернік, а як чалавек, па-сапраўднаму абазнаны ў сюжэтах Святога пісання і здольны рабіць з прачытанага высновы. Ёсць у З. Віталіна і цыкл вершаў, якія ўяўляюць з сябе аўтарскія паэтычныя пераасэнсаванні евангельскіх прыпавесцяў: "Увядзенне ў храм Багародзіцы", "Настаўленне Айца", "Ісус і нячысцік", "Ісус і Вельзевул", "Жабракі", "Самарыцянка", "Дзве рыбіны і пяць хлябоў", "Хаджэнне па водах", "Размова з Пятром", "Па дарозе ў Іерусалім", "На гары Елеонскай", "Маленне ў Гефсіманскім садзе", "Тайная вячэра", "Ісус перад Пілатам" і інш.

Згадваючы празаічныя творы Змітра Віталіна, зазначу, што многія з іх маюць падкрэслена аўтабіяграфічны характар. Але закранаюць яны альбо часы дзяцінства, навучання ў школе (аповесць "Даўнія гады"), альбо падзеі Другой сусветнай вайны ("Маршавая рота"). Было б вельмі шкада, калі б пісьменнік не пакінуў ніякіх успамінаў пра перажытае ў час сталінскіх рэпрэсій, а такое адчуванне, што не пакіне, – крыху было: Змітро Віталін не надта любіў распавядаць пра гэтыя, найбольш балючыя і драматычныя, старонкі свайго жыцця. І ўсё ж ён адважыўся даверыць паперы свае згадкі, толькі форму для іх палічыў найбольш прыдатнай не празаічную, а вершаваную. Але мова ў іх простая, набліжаная да гутарковай – тут нават не рэжуць вочы лішнія словы-паразіты кшталту "онь той", якія, напрыклад, у філасофскай лірыцы выглядаюць не зусім дарэчнымі і ўстаўленымі толькі дзеля захавання рытму.

У некаторых творах апісваюцца яшчэ не самі рэпрэсіі, а тое, што ім папярэднічала – напрыклад, 1920-я гг., калі барабанная піянерска-камсамольская рамантыка вабіла падлеткаў і моладзь культпаходамі і "маршамі ўдарніцкіх брыгад", але потым паступова прыходзіла ўсведамленне рэальнай несвабоды: *"Што ты значыш у той масе / "Вінцікаў", што не злічыць? / Каб мацней сядзеў-трымаўся, / Гайкі трэба падкруціць"* ("Камуна"). Іншыя ж вершы сваёй стылістыкай нагадваюць лагерную паэзію, турэмныя балады. Вось лірычны герой, адбыўшы тэрмін, вяртаецца ў цягніку з далёкай Поўначы і на адным з прыпынкаў бачыць праз акно іншы цягнік – з вязнямі, у адным з якіх пазнае колішняга знаёмца – даносчыка, з чыёй "міласці" ён патрапіў у лагер (верш "Сустрэча"). Альбо – наадварот, у жорсткіх лагерных умовах герой знаходзіць

сабе справядлівага і адданага сябра (“Поціск рук”). У аснове верша «“Мяцежнік”» – трагікамічная гісторыя, расказаная паэту таварышам па камеры, старым калгасным пастухом: у галодную зіму старшыня-п’яніца не дадаваў жывёлам корму, а пастух, які прыйшоў скардзіцца да праўлення калгаса, прывёўшы з сабою атару авечак, быў арыштаваны як “мяцежнік”... “Пасля лазні” – жартаўлівая размова голых палітзняволеных з дзяўчатамі (санфельчаркамі?) у чаканні вопраткі каля дэзінфекцыйнай камеры-вашабойкі.



*Дароўны надпіс З. Віталіна В. Жыбулю на кнізе “Высокий остров”. 16 ліпеня 1998 г.*

Дарэчы, здольнасць жартаваць нават, здавалася б, у самых не жартоўных умовах, падтрымлівала маральны дух зняволеных – як і песні, якімі цешыліся арыштанты ў турме на вуліцы Савецкай, нягледзячы на пагрозы вертухаяў-наглядчыкаў (верш “Спяваем”). Песні ўсялялі аптымізм, надзею, што *“тое ліха, / Бог дасць, мы ўсе перажывём”*. Спявалі вязні і на этапе, ідучы калонаю пад прыцэлам у канваіраў, не баючыся часам нават “увярнуць” непрыстойную прыпеўку пра Сталіна (верш “На этапе”).

З мемуарным эпасам у паэзіі Змітра Віталіна мяжуе публіцыстычная лірыка з заклікамі не забываць “чорныя страшныя дні”, гнеўным асуджэннем сталінскага рэжыму і самых розных праяваў культу асобы. Так, у вершы “Смерць смертаносца” З. Віталін прыгадвае, як у 1956 г. у Будапешце (дзе ён знаходзіўся па службе) помнік Сталіну шпурнулі ў Дунай, і выказвае абурэнне, што прыхільнікі крывавага дыктатара трапляюцца і ў наш час. А ў вершы “На крыві” паэт звяртаецца да камуністычных правадыроў:

Галоўнае ж – пілі вы кроў
Людскую – ваўкалакі!
Ды час прыйшоў – ад тых акоў
Няма нідзе і знаку.

І што душу мне весяліць –
Прарабам рэвалюцый
Кроў тую доўга йшлося піць
І ёю ж захлынуцца!

Падобным пафасам напоўненыя вершы «“Вялікі кастрычнік”», “Лапух на магілу”, “Скідай ярмо!”, “Праклён”, “Сцяг над зонай”, “Калі б...”, “На сметніку” і інш. Калі чытаеш іх – міжволі ўзгадваецца назва нявыдадзенай віталінскай кнігі “Помста”, і не выключана, што аўтар меўся папоўніць яе і гэтымі творамі.

Паэт асвяжае ў памяці партрэты даўніх калегаў па пяры, з якімі сябраваў у часы далёкай маладосці: Вось Юлі Таўбін, які *“жыў заўжды з душой наросхрыст, / Што думаў – тое і казаў”* (“Юлі Таўбін”). “Душою наросхрыст”, паводле З. Віталіна, быў і іншы яго сучаснік – Тодар Кляшторны, які адну *“...паэзію сэрцам высвечваў, / Пра прозу жыцця не жадаючы дбаць”* і *“Хадзіў ў паліто, заношаным, мятым, / У капелюшы старым і пацёртым”* (“Памяці Тодара Кляшторнага”). А вось будучы дзеяч беларускай эміграцыі Уладзімір Сядура (Глыбінны), якога З. Віталін на момант напісання верша лічыў памерлым дзесьці ў сібірскім лагеры: *“І ўвесь падцягнуты і стройны – / Чорт ведае, адкуль той жаль? / Ды погляд – погляд неспакойны / У затуманеную даль”* [“Сябра (Памяці Ӯладзімера Сядуры)”]. Адбіліся ў вершаваных успамінах З. Віталіна і першая сустрэча з Кандратам Крапівой у рэдакцыі часопіса “Узвышша” (“Крапіва”, 1993), і прыезд

Петруся Броўкі ў 1965 г. у Адэсу, дзе ён праходзіў курс лячэння і рэабілітацыі ў Інстытуце вочных хвароб (“Памяці Петруся Броўкі”).

Іншыя вершы-ўспаміны Змітра Віталіна прысвечаны жыццю ў Калінкавічах 1920-х гг. (“Дзед і балаховец”, “Бацька”, “Калінкавіцкі лес”, “Касьба ў Баравіках”), падзеям Другой сусветнай вайны (“Ліда-харашуха”, “У разведцы”, «На “языка”», “Танкавы дэсант”, “Пад артабстрэлам”, “На маршы”, “Крывавыя гарматы”, “З той песні”).

І нават перажыўшы пошасць чырвонай і карычневай чумы, паэт, верны свайму жыццесцвярджальнаму псеўданіму Віталін, застаўся аптымістам і жартаўніком, пра што сведчаць і пэўная колькасць сатырычных і гумарыстычных твораў у яго архіве. Тэмы іх самыя разнастайныя: інсцэнізацыя абрабавання банка яго ж службоўцамі-махлярамі (“Дэтэктыў”), гандаль няякаснымі прадуктамі (“Смех”), здрада і дваяжэнства (“Трыкутнік”, “Звычайная праява”, “Казёл”), хлапеча-дзявочы флірт (“На рэчцы”), побытавыя сваркі (“Сямейная сцэна”), капрызнасць і фанабэрыя (“Пры сталым розуме”).

Вось пару прыкладаў, якія ілюструюць зухаваты стыль Віталіна-гумарыста:

Адкрыта, не зашыфравана
Я тэкстам моўлю на ўвесь свет,
Што Ганна выйшла за Івана,
А ходзіць да яе сусед.

*(“Звычайная праява”)*

Альбо:

Усхадзіўся вецер зрання,
Веяў, веяў да змяркання.
Задзіраў спадніцы бабам –
Вось свавольнік, вось нахаба!

Я наўзахапы пабег –
Прадаюць у краме смех.
– Вам якога? Пэўна, царскі?
– Мне бы той – сырок швэйцарскі!

*(“Смех”)*

Захоўваецца цяпер у фондзе і машынапіс рускамоўнага зборніка баек, фельетонаў і мініяцюр “Тонкая грань”, які рыхтаваўся паэтам да друку яшчэ ў 1985 г., але так і не выйшаў.

Вядома ж, прапанаваны агляд твораў Змітра Віталіна – далёка не поўны. Гэта толькі агульныя штрыхі, першаснае знаёмства з фондам, які налічвае каля 550 вершаў (а вершы яго, як мы зазначалі, маюць немаленькі памер), паэмы “Казка Венскага лесу” (1993), “Ах, Адэса!” (1994) і “Абухіяда”, шэраг выразак і ксеракопій газетных і часопісных публікацый. Знаёмячыся з архівам Змітра Віталіна, можна толькі здзівіцца, як гэты ўжо вельмі немалады чалавек, будучы адарваным ад радзімы, пісаў сотні вершаў на беларускай мове амаль без усялякага спадзявання быць апублікаваным. Не паўсюль яго почырк добра расчытваецца, многае яшчэ патрабуе ўдакладнення і ўпарадкавання, але, спадзяемся, архіў Змітра Віталіна знойдзе сваіх даследчыкаў. Некаторыя вершы з фонду паэта ўжо друкаваліся ў часопісе “Роднае слова” (2012, № 9; 2013, № 3; 2015, № 6), штогадовіку “Запісы БІНІМ” (2012, № 35). Прапануем і чытачам “Дзеяслова” падборку вершаў Змітра Віталіна, якія дагэтуль не публікаваліся.

# Змітро ВІТАЛІН.

## “Паэзія – труба падзорная...”

### *ПАЭЗІЯ*

Паэзія, ты – крываточыца,
Ты – раны незагойнай боль,
А як карціць, а як жа хочацца
Пайсці ў найстрашную з няволь.

Так, я – нявольнік твой, паэзія,
Нявольнік той, што сам прыйшоў
У кайданы твае жалезныя
Не толькі целам, а й душой.

Галоўнае ж – з тым сэрцам болесным,
Што вынесла мільён пакут.
У верасах і кволай порасці
Застаўся мой радзімы кут,

Дзе празе жыцця неспатольнае
Я прысягнуў з юнацкіх год
Ісці насупраць неадольнаму,
Насуперак ліхіх нягод.

І вось – нявольнік беспарадны,
Я крочу нібыта у цьму,
Але я надзвычайна рады
Таму зняволенню свайму.

Нязнаны страх не апануе
Мяне – плюю на страх і жах!
Няволю я сваю святую
Не размяняю на волю птах.

Я не прыкуты да той тачкі –
Качу яе ахвоча сам.
Нявырашальныя задачы
У спадчыну прыпалі нам.

І мне ў тым ліку.
Я – нявольнік,
Добраахвотны дабрадзей;
Яшчэ няўзоранае поле,
А я ўжо думаю пра жней.

Такая ўжо ў мяне натура –
Глядзець наперад як далей.

Якая б ні віхрыла бура,
А ты ары і жыта сей.

Так, я нявольнік твой, паэзія,
Бо ты у заўтра сцелеш шлях,
І кайданы твае жалезныя
Мне ў радасць, люба, а не ў жах.

Паэзія – труба падзорная,
Накіраваная у даль,
Дзе стане людзям жыць прасторнее,
Дзе знікне смутак, згіне жаль.

## *ІДУЧЫ НА ФІНСКУЮ ВАЙНУ*

Смага мучыць, а не п’ю,
Гавару, а не пяю,
Усміхаюся, не плачу –
Так сябе я перайначыў.

Нацямочку я ўстаю,
У дарогу йду сваю –
У дарогу трудную,
Добра – хоць не нудную.

Я – не ганарлівы.
Я – зусім ціхмяны,
Не крычу віскліва
Пра свой боль і раны.

Не хачу і не умею
Прымасціцца ля цяпла, –
І патрошачкі гібею,
І гняце мяне імгла.

Напінаю усе жылы,
Налягаю з усіх сіл,
Каб штодня адчуць, што жывы,
Што вакольны свет мне міл.

Выгінастая крушына,
Стройная алешына –
Дзве красуні, дзве дзяўчыны,
А якая ж лепшая?

Сцеражуся памыліцца,
Думаю і так, і сяк –

Як з якой мне будзе жыцца,
Хто падасць мне верны знак?

Аніхто тут не параіць,
Рады не выпрошвай,
Бяры тую, што у краі
Ад усіх харошая.

Ну, а як яно там будзе –
Пажывем – пабачыма.
Аднаму жыць, кажуць людзі, –
То жыццё сабачае...

Павярэдзіў плечы я –
Нёс цяжар праз ночаньку.
Дзе ты, мая лепшая,
Дзе вы, мае вочанькі?

Кінулася ў плач бяроза –
Віхар мчыцца гадасны.
Будзе нам з табою розна,
Найчасцей жа – радасна.

Будзе, будзе, дарагая –
Усім сэрцам прысягаю!
Я цябе, маю красу,
Ды на ручках панясу.

А пакуль віхурыць вецер,
Косы рве з бярозы,
А пакуль на белым свеце
Вее подых грозны,

На Карэльскім перашыйку
Узнялася бура.
Як запалкай тою шыкнуць,
Можна згінуць здуру.

І душа мая крычыць –
Развітанне з Беларуссю!..
Перацерпім, прамаўчым –
Дасць Бог, я вярнуся...

*1939 г.*

### *БРАТУ*

Не крыўдую ні на кога,
Я скажу табе, мой брат:

Не крыўдую і на Бога –
Бо ні ў чым не вінават.

І калі у нашай долі
Горасці няма і дна,
Не кажы нічога болей –
Наша ў тым з табой віна.

Вінаваты мы з табою,
Што калоцімся яшчэ
Над скарынкай хлеба тою,
А урвіцель нас пячэ.

Колькі іх было-вялося,
Тых урвіцеляў у нас,
Колькі гора, колькі злосці
І штодня, і пра запас.

Мы душыліся работай,
Дбалі так, як мае быць,
А урэшце – хоць пад плотам
Ты лягай – так стала жыць.

Думаю, і ты уведаў,
Як ішоў калісьці ў бой,
Што ўсе нашынскія беды
Варты кулі нейкай той.

А шчэ болей варты кулі
Быў той вырадак і гад,
Што усю зямную кулю
Паняволіць быў бы рад.

Бацька наш гібеў ў Гулагу,
Ну, а мы – за будзь здароў.
Проста дзіўна! –
За той лагер
Пралівалі сваю кроў.

На дабро жыццё не ўспала,
Круцімся каторы год.
І нішчымны той кавалак
Не ідзе ужо у рот.

Ты, як я, не ганарлівы,
Хлеб той ёсць – і добра нам.
Добра, што тых дзён “шчаслівых”
Сплыў навекі тарарам.

Смешна ўспомніць, як калісьці
Тарарамілі мы ўсе,
Быццам выйшлі ўсе на высціг
Пакланіцца той “красе” –

Той рабой і той вусатай,
Што ўсміхаўся з тых дурніц,
Што крычалі: “Родны тата!”,
Ледзь не падаючы ніц.

Смешна, а найболей горка –
Сораму есць вочы дым.
То – бясконцая гаворка,
Ды патрэбная усім.

Ёсць яшчэ адна задача,
Паразумейся з ёй ты –
Каб на свеце жыць інячай,
Каб жылі ў ладу браты,

Нам з табой не след дзяліцца:
Двое лепей, чым адзін.
Будзем жыць і будзем біцца
За ўздым будучых гадзін!

### ***БАЦЬКА***

Мы прагнем хоць неяк аздобіць
Убогае наша жыццё.
З рашчыны мы буселкі робім
І з зерня звяваем асцё.

Кілімамі ўвешваем сцены,
Дыванам ўсцілаючы дол,
І ў радаснаму утрапенні
Мы кветачкі ставім на стол.

Каб цешыліся нашы вочы,
Каб хораша стала глядзець,
Як тут, каля хаты, ў садочку
Зіяе настурак тых медзь.

Зняможана глянеш за хату –
І там, у гародзе, відаць:
Гарбузніка светлыя шаты,
Нібыта як свечкі, гараць.

І я не кажу ўжо пра вішні,
Пра яблынь пладовы цяжар –
Так паклапаціўся не лішне
Сядзібы онь той гаспадар –

Мой бацька, вялікі ахвотнік
Да ўсякіх на свеце прыгод,
І год яму ўжо каля сотні,
Ды ён шчэ не чуе тых год.

Рухавы, руплівы, клапотны,
Праціўнік нуды і журбы –
Нядарам ў калоне той ротнай
Заўжды запявалай ён быў.

Як толькі насунецца вечар,
Ён скрыпку у рукі бярэ
І грае аб жаласным нечым,
І хлопцы маўчаць на дварэ.

А потым утне кракавяка,
І ўраз заварушыцца двор –
Хлапцы і дзяўчаты з падзякай
Танцуюць у вось той апор.

Танцуюць, ды толькі не бачыць
Ніхто з тых хлапцоў і дзяўчат,
Што скрыпка не грае, а плача,
І слёзы – ў злінялых вачах...

*1990*

## ПОЦІСК РУК

У той трыццаць чацвёрты год,
Калі забілі Кірава,
Шчэ болей згаладаў народ,
Хоць і датуль не жыраваў.

У тыя траурныя дні
Апавялі чэкісты нам:
Ва ўсім віноўныя яны –
Праклятыя трацкістыя.

Трацкістаў повен быў Сіблаг,
Страчаўся з імі часта я –
Без пэўных людзі пераваг,
Ды трэ сказаць – зубастыя.

Ахове лагернай клапот
Учэцвера прыбавілі –
То быў напорысты народ,
Сіропам не разбаўлены.

Адзін са мною быў як друг,
Яму я ўдзячны доляю,
Што не павесіўся на крук,
Знявечаны няволяю.

Ён не сказаў мне:
– Ідыёт! –
Хоць мне ў тым ліку б значыцца.
Абняў за плечы:
– Прыйдзе год –
І ўсё пераіначыцца!

Гартуй душу і будзь гатоў
На большае адважыцца.
Не будзе вечна горац той
Над усіма куражыцца.

Не дрыгнула ў яго рука
Забіць свайго паплечніка! –
Была у Кірава башка,
Можна сказаць, найлепшая,

Чым меў той вырадак і звер,
І гэта добра бачыў ён.
Ніколі ты яму не вер –
Паводзінка сабачая!..

Так гаварыў мне сябар мой,
І цеплыня гарнулася
Да сэрца ад гаворкі той –
Было ў ёй многа чуласці.

І вельмі добра мне было –
Дзе сум, туга падзеліся!
Парой не трэ было нам слоў –
Так мы паразумеліся.

Не быць згіненню, не, не быць! –
Жыло ў душы нязгаслае.
Мы будзем жыць, мы будзем жыць
Ў краіне новай, шчаснае!

А ўсёй прычыны – поціск рук,
Слязамі вочы мытыя.
Гатоў прайсці праз сотні мук
З душой яго адкрытаю.

Зусім чужы мне чалавек,
А стаў радней за роднага,
І не зраблю цяпер навек
Ні кроку аніводнага.

Я без яго ухвалы, без
Усмешкі яго добрае,
І нам нішто сібірскі лес,
Марозамі аздоблены.

Што той мароз,
Што горац той
Прад нашай дружбай шчыраю!
Так, я гатоў хоць сёння ў бой,
Як птушка тая к выраю.

А ўсёй прычыны – поціск рук,
Пагляд вачэй ўсхвалёваны –
Харошы, справядлівы друг
Мне лёсам наканованы.

Ах, поціск рук той ад душы –
Прыязні знак спрадвечнае.
Ад поціску таго дрыжыць
Кат волі чалавечае.

## *СМЕРЦЬ СМЕРТАНОСЦА*

Паднявольвалі нас, паднявольвалі –
Так узялі у скрут – не дыхнуць,
Па ўсялякіх Гулагах выбольвалі
Мы нам дадзены Богам наш пуць...

Памяркоўныя людзі, не порсткія,
Нат ціхмяныя вельмі парой,
Мы папалі у лапішчы жорсткія,
Каб папоўніць нявольніцкі строй.

І тайга шумацела над масамі
Немагушчых, няшчасных людзей,
А ў Крамлі балабоніў пра клясавы
Падыход да ўсяго Ліхадзей.

Так, з вялікай крывавае літары,
І партрэты – ў правулках усіх.
Што там значылі нейкія Гітлеры,
Калі свой быў за тысячы іх!

От выроддзе сям'і чалавечае,
Гэта ж трэ, што так выпала нам!
Гэты верш яго смерці прысвечаны,
Акрываўленым нашым гадам.

З тых любошчаў сваіх да вялікасці
Ён казяўкаю стаў урэшце рэшт –
Даказаў тое з буйнаю ліхасцю
Ў пяцьдзясят шостым гаду Будапешт.

За ўсё аддалі поўнай мераю –
Яго статуй шпурнулі ў Дунай!
Я падумаў тады і ўвераваў:
Тое свята прыйдзе і ў наш край.

Падазроны, ліхі і нянавідны,
Пракляты усім светам жывым,
Над табой творым суд мы наш праведны,
Тэрмін даўнасці тут ні пры чым.

Не пайму аднаго: што за дзеячы –
Ёсць яны! Іх пабачыш парой,
Як узняўшы партрэт той, аж млеючы,
Як святога, нясуць прад сабой.

О, напэўна, калісьці ўсадзіліся
Яны з "бацькам народаў", – от-от,
Абы ім добра йшлося, гадзілася.
А народ?
Што ім значыць народ!

Праўду чыстую, істую рад нясці
У імя ўсіх працоўных людзей:
Кожны дзень нашай светлае радасці –
Гэта гібелі Сталіна дзень.

*1993 г., сакавік*

## РОЗДУМ

Мадрыгалаў табе не складаў,
Ты была мне вышэй мадрыгалаў.
Ты патрэбна была, як вада,
Як да хлеба кавалак сала.

І сягоння ты верная мне,
Клопат твой адчуваю заўсёды,
Ды бывае – ўсяго скалане:
Што зрабіў я табе ў нагароду?

Анічога, як строга спытаць.
Развярэдзіш душу сабе сумам.
Ды і што ты магла прычакаць
Ад мае неадступнае думы...

Сутаргава мне рукі звядзе,
Закіпяць у вачах маіх слёзы,
Як успомніш, што я, ліхадзей,
Да цябе мог падходзіць з пагрозай.

Калі можаш, за тое даруй,
Як за іншае наша былое.
Да грудзей прытуліся, пачуй,
Як калоціцца сэрцайка тое.

Спасылацца не буду на дні,
Што стаялі вакол нас марокай.
Ў рэшце рэшт засвіцілі агні,
Дык-то Божа наш любы, ні ўроку...

Мы кіруемся долі адной,
Нам чужога ні крышкі не трэба –
Толькі б заўжды было над табой,
Нада мной ціхазорнае неба.

А ўсё іншае прыйдзе само
Па сабе, заіскрыцца, заззяе.
І ніколі мы не аддамо
Шчасце наша,
Айчына святая!..

*Падрыхтаваў да друку Віктар ЖЫБУЛЬ.*

Тацяна Сапач



...цяжка на душы, аднак,

і не праходзіць, халера!..

# “Пісаў індус...”

***З электроннага ліставання***

*Заканчэнне. Пачатак у №83.*

*Публікацыя Сяргея ДУБАЎЦА.*

*Аўтарскі правапіс захаваны.*

*02.12.2008*

*Валянціну Стэху*

Добры вечар!

Не, ня ведала, цяпер ведаю. Але, на жаль, не змагу папрысутнічаць – заўтра раніцою зьязджаем у Менск. У мяне там прэзэнтацыя маёй бесьсьмяротнай кніжачкі.

Валянцін, а як Вы глядзіце на тое, каб сабраць у самым хуткім часе розных адказных асоб – прадстаўнікоў арганізацый – для абмеркаваньня наступнага 25 Сакавіка і, адпаведна, падачы заяўкі ў Дэпартамент нацыянальных мяншыняў? Калі Вы за гэта возьмецеся, многія людзі да гэтай справы далучацца. Падумайце. Зрэшты, часу зусім мала. Варта было б зьбіраць народ на раду-параду ўжо на наступным тыдні.

З павагай – Т.

*02.12.2008*

*Паліне Качатковай*

Добры вечар!

Поля, мы з Сяргеем заўтра зьязджаем у Беларусь: будзе «дзеяслоўная» вечарынка, і мы закліканыя там паўдзельнічаць, а пасьля мне трэба ў вёску. Вернемся толькі 7-га ўвечары. Можам пабачыцца ў панядзелак, ОК?

Шчупака вязіце. У С.І. сьлінкі цякуць.

Ці ж вярнула Натальля свайго Ванечку? Ці будзе працяг фільма?

Прывітаньне Віцю.

Т.

*03.12.2008*

*Паліне Сцепаненцы*

Вязіце, вязіце шчупака всенепрэменьнейшэ! Зьямо разам!

Дарэчы, ці не атрымалі Вы запрашэньне ў Варшаву як аўтарка перадачаў Белсату? Мне ўчора прыйшоў ліст з запрашэньнем, і я зьбіраюся ехаць. Класна было б разам нічогапанерабіць пару-тройку дзён...

Пакуль!

Еду, еду! У Менск! У Менск!

*08.12.2008*

*Валянціну Стэху*

Добры вечар, Валянцін!

Пра Лявона Ліпеня не магу сказаць нічога, апроч хіба – пераказаць уражаньні адной нашай агульнай знаёмай, якая пагадзілася на сустрэчу зь ім, а пасьля моцна пра тое пашкадавала: маўляў, чалавек гэта «цяжкі», пра людзей і абставіны схільны меркаваць у змрочных тонах, і да т.п. Ён і мяне прасіў пра сустрэчу, але я адмовілася. І так часу бракуе, пагатоў, на дасужыя размовы пра невядома што...

Што да сустрэчы ў Красоцкіх, дык я таксама больш схіляюся да нядзелі. Хоць увечары і зьязджаю, але на пару гадзінаў можна было б адскочыць. Варта папярэдне абмеркаваць пасяджэньне наконт Дня Волі (я ведаю – Валерка Руселік казаў – што вы дамовіліся на 16-га ў Доме правоў).

Спадарыні Вользе я ператэлефаную.

А на акцыю не патрапіла, не пасьпела. Як там усё было?

Усяго! Т.

*09.12.2008*

*Валянціну Стэху*

Прывітаньне!

У нядзелю я магла б адскочыць з дому гадзіне аб якой 12-й. Вам зручна? Запытаюся яшчэ ў Вольгі Юльянаўны – ёй усё ж ехаць здалёку.

Што да пасяджэньня аргкамітэту, дык варта было б на яго запрасіць Ларысу Шапавалаву як рэдактарку сайту, дзе ёсьць віленская афіша, да таго ж яна проста вельмі актыўны і крэатыўны чалавек; Лілю Плыгаўку, Андрэя Мастыку – надсанаўскага стыпендыята, кіраўніка гістарычнага гуртка ў ЭГУ; Людвіку як дырэктарку Музэю; Галіну Сівалаву; кагосьці з «Сябрыны»; Нюньку; пасьля – Кірылку Атаманчыка са «СтудАльянсу»... Вось і ўсе нашыя кволыя «сілы», здаецца. А-а, яшчэ ж Гіль. Дарэчы, на мінулы Дзень Волі якраз тая частка праграмы, за якую адказваў Гіль, прайшла практычна без заўваг, як ні дзіўна...

16-га я сама, на жаль, ня буду ў Вільні, а, значыць, і на пасяджэньні. Аднак жа прасіла б мець на ўвазе маю прапанову наконт канцэртнага выступу: хор «Менка», прыкладна 20 чалавек, кіраўнік Кірыла Насаеў, у праграме – творы Равенскага, Шчаглова-Куліковіча, Манюшкі. Мне здаецца, тут гульня вартая

сьвечак: яны прафэсіяналы, да таго ж гэта быў бы пэўны эксклюзіў – у Вільні яны яшчэ ніколі не выступалі.

Калі што забылася – пры сустрэчы.

Т.

*02.03.2009*

*Натальлі Пчолкінай*

Наташа, над тэкстам яшчэ папрацуйце.

Насамрэч атрымалася, што вы яго не перапрацавалі, а падскарацілі, практычна выкінуўшы ўсю фактуру. Напрыклад, чаму Клара Цэткін «усім вядомая» – чым вядомая? і ці сапраўды так ужо «усім»? І чаму менавіта ў 14-м годзе вырашана гэты дзень адзначаць? Што для гэтага стала нагодай?

Сумневы «кагосьці» на прадзьмет «міжнароднасьці» 8 Сакавіка як мінімум непераканаўчыя. Той, хто мае сумнеў, можа не паленавацца і глянуць у першылепшы каляндар, дзе чорным па белым будзе напісана «міжнародны». Можна хіба пашырыць інфармацыю – маўляў, сьвяткуецца ён у такой краіне, і ў сякой, і ў гэтакай...

Ёсьць сумневы іншага парадку, якія якраз і варта «разьвеяць» – напрыклад, ці ня ёсьць гэтае сьвята сэнсава састарэлым: жанчыны, маўляў, даўно дамагліся раўнапраўя і ўсіх магчымых правоў; ці ня ёсьць яно, сьвята, спадчынай савецкага часу...

Фактуру варта выкласьці абавязкова, бо інакш сэнс вашай замалёўкі зводзіцца да наступнага: ёсьць такое сьвята, яно адзначаецца з 14-га году, яно міжнароднае, яго варта адзначаць. Малавата! Іншая рэч, што фактуру трэба выкласьці сьцісла, а значыць – творча. Посьпехаў!

*18.03.2009*

*Алегу Дашкевічу*

Здарова!

З тваім нечаканым ад'ездам – ладна, ня парся, праехалі... я ўражаная тымі экстрэмальнымі абставінамі, якія вымусілі Вашамосьць так пасьпешліва «згарнуцца». Фільмас Олечкін – эта, канешне, да-а... А Сіўчыкава маці суперская, вельмі! Разумная, вытрыманая, вельмі беларускі чалавек, як мне падалося.

Пра Агнешку ня ведаю; напісала ліста Каліну прыкладна з такім жа пытаньнем, як у цябе: за што? і што гэта значыць? – але пакуль не адказвае. Чорт іх ведае, гэтых палякаў.

Калі маеш тэлефон Халіпа або Зоі Катовіч, напішы мне ў наступным палымяным пасланьні. Калі ласка.

Застаюся – бедная, бедная Таня. Прывітаньне маёй сяброўцы, аматарцы віскі й брэньдзі.

*18.03.2009*

*Алегу Дашкевічу*

Слухай, Алежка, – ня ў службу, а ў дружбу.Ператэлефануй, калі ласка, Халіпу, скажы, што Сяргей Вітушка на субота-нядзелю будзе ў Менску, каб яны там яго сфільмавалі. СпЫніцца ў маці і сястры, там яго можна будзе знайсьці.

Рэч у тым, што – на іх просьбу – я зьбіралася Сярожку здымаць у нядзелю, ну, але ў зьвязку зь ягонай паездкай – зрабіць гэтага не змагу. Патэлефануеш? Тэлефон Вітушкавай сястры Ларысы Сагановіч...

Загадзя поўная ўдзячнасьці – бедная, бедная Т.

*19.03.2009*

*Зоі Катовіч*

Зоя, прывітаньне!

Заўтра (у пятніцу) раніцой С. Вітушка ад'язджае ў Менск, і будзе там да панядзелка. Вы зможаце зьняць яго самі – балазе, ён зараз у добрай форме. Ён спыніцца ў маці і сястры.

Посьпехаў!

Т. Дубавец

*30.03.2009*

*Ларысе Шапавалавай*

Прывецікі!

Толіка *(мантажыста. – С.Д.)*, я думаю, найлепш наведаць у сераду, бо серада – мой дзень, а перадачу я ўжо змантавала, каб у сераду быць вольнай для наступнай бесьсьмяротнай здымкі; такім чынам, Толік будзе вольны для ўсялякіх добрых спраў.

Дарэчы, у сераду, 1-га, на Зарэччы будзе сьвята. У 16.30 пачынаецца – і аж да ночы. Падняцьце сьцяга, відэаканцэрт Аліны Арловай, японская каліграфія, і яшчэ маса ўсялякай прыгажосьці...

Дабранач!

*08.04.2009*

*Дачцэ Адэлі*

Будзем есьці і сыр, і ня толькі.

Мне гэтыя сукі нарэшце заплацілі трохі грошай. Хаця і ня ўсё, што я зарабіла ў бясконцай працоўнай «мясарубцы». Божа мой, каб ты ведала, колькі вакол людзей, неверагодна схільных да сьвінства... Твая немаладая мамачка ўсё дзівіцца, дурында, як жа так можна, гэта ж непрыстойна – падманваць, круцельстваваць, г.д. А можна, аказваецца!

Прыязджай, буду жаліцца табе на сябе, дурынду такую несучасную.

Вельмі люблю цябе, дзетка.

Ты мая самая хароошая дзевачка. ТРЫМАЙСЯ ТАМ

*02.05.2009*

*Паліне Сцепаненцы*

Поля, прывецік!

Вярнуліся ў Вільню толькі ўчора, былі з С.І. на Нарачы. Сяргееў бацька зафундаваў нам санаторый на 12 дзён, дзякуй яму. Зноў хочацца жыць і працаваць, што, відаць, і азначае, што сапраўды ўдалося адпачыць. Бо ўжо было часам такое адчуваньне, што ані сілінкі няма ні на што... На Радаўніцу схадзілі ў царкву і на магілку Валеры Місюка, там і бабуля ягоная была прыехаўшы. Пагаварылі, што помнік трэба ўлетку ставіць, а грошай у бацькоў няма. Я падумала, можа, зрабіць адмысловую перадачку на Белсат з расповедам пра Валеру і ў ягоную памяць, а заадно прапанаваць рахунак для збору сродкаў на помнік. Як вам здаецца? Ці ў нас ня надта на такое адгукаюцца?

Шкада, што не пабачыліся. Але ж вы яшчэ будзеце тут?

Чым цяпер займаецеся? Як вашыя тэлевізійныя посьпехі?

Пішыце. Не забывайцеся. Т.

*04.05.2009*

*Віталю Асоўскаму*

Здравствуй, Виталий!

Наконец-то я опять дома: были на Нарочи с Сергеем целых две недели...

Переводы хороши, правда.

В первом стихотворении, мне кажется, больше подходят два первых варианта. В «Молитве...» именно так – «на расстоянии пресветлой мечты». Только в начале – «ЛуцкевичИ», во множественном числе.

И еще, в третьем стихотворении – в строке «брызжет огнями салют» не хочется «огня»: огонь как «сухая» субстанция разрушает ассоциацию с «мокрой» кровью. Со всем остальным я очень согласна.

Спасибо!

Т.

*19.05.2009*

*Валеру Руселіку*

Дзетка, здарова!

Мабыць, усё ж я паеду са сваім любезным у Астравец на іхны баль 50-гадовых (старыканаў). Але хачу мець, вядома ж, і матар'ял з вашага бардаўскага балю. Вінцаса *(апаратара. – СД.)* адпраўлю, заданьне яму сфармулюю, а Вы, калі будзеце мець хвілінку вольную, м. б., з'арыентуеце яго на мясцовасьці? Да таго ж, хацела б, каб Вы мне папярэдне далі малюпіпісенькую інтэрўюшачку. У пятніцу, у 16.00, ля Базыльянскіх муроў. Адкажыце згодай незамядліцяльно.

Як мамка? Ці маеце сувязь з Гародняю?

На ўсё добрае – ц. Т

*04.06.2009*

*Алене Лукашэвіч*

Прывітаньне!

Пакуль з маімі працамі вельмі мала яснасьці. На Белсаце зацьвердзілі адную тэму, але, каб пачаць здымаць, трэба дачакацца хоць нейкіх грошай хоць адкуль: і Літоўскае тэлебачаньне завінавацілася амаль за паўгоду, і ЭГУ, і Белсат той жа. Спрабую сёе-тое здымаць, што называецца, «на свой страх і рызыку» – без замоваў і зацьвярджэньняў. У суботу еду ў Астравец, там будзе выстава адной літоўскай мастачкі-прымітывісткі, родам зь Беларусі. Таму і шукала апэратара. Але прыйдзецца абыйсьціся паслугамі нейкага мясцовага здымальшчыка вясельляў, бо апэратар, зь якім Нікалайчык здымала ў Вільні, нечакана пусьціўся ў запой... Увогуле, досыць няпроста арганізоўваць здымкі ў Беларусі; буду ў далейшым прасіць тваіх кансультацыяў і парадаў. Скажам, тую ж мастачку празь нейкі час хачу фільмаваць у ейнай вёсцы, і там ужо не хацелася б абыходзіцца здымкамі аматара. Такія мае справы.

Сяргей шле прывітаньні. Трымайцеся! Мы з вамі

*04.06.2009*

*Дачцэ Адэлі*

Здарова, дзетка мая любезная!

Мадам, зь якой табе перадаю мацерыяльнае вспамашчэстваваніе, будзе ў Менску толькі ў пятніцу ўвечары. Тэлефануй ёй з раніцы ў суботу. Яе завуць Вольга Нікалайчык.

Тата паедзе ў Варшаву на выходныя, а я зьбіраюся здымаць у Астраўцы бабушку-прымітывістку зь нейкім мясцовым здымальшчыкам вясельляў, бо прафэсійны апэратар, на якога я разьлічвала, зопіл, што і патрабавалася даказаць. Маю ніжайшую просьбу – пакладзі на мой тэлефон беларускі пару тысёнц, ОК?

Застаюся – твая бедная, бедная маць

*15.06.2009*

*Валянціну Стэху*

Валянцін, дарагі, я зьязджаю ў Беларусь надоўга. Але, як той казаў, «муж і жана – адна сатана», дык, калі зьбярэцеся, прашу Сяргееў голас лічыць за два.

Маё прыватнае меркаваньне – грошы прызапасіць на наступнае сьвята, неабавязкова Дзень Незалежнасьці, – добра, калі арганізацыя мае хоць нейкі запас...

На ўсё добрае – Таня

*03.07.2009*

*Ірыне Дубянецкай*

Здароў, Ірынка!

Мы то ў Вільні, то ў Дубку. А то я тыдзень была ў вёсцы ў бацькоў, а тады «журыла» на кінафэстывалі ў Глыбокім. Дарэчы, разам з айцом Андрэем Зайчыкам, які вас ведае.

Хросьнік твой трымаецца някепска – і не ў апошнюю чаргу, думаю, дзякуючы тваім малітвам. Сканчае сваю кніжку для «Свабоды», у Менску ўжо ёсьць сыгнальны нумар перавыданьня «Русской книгі», беларуская школа сёлета ўвосені мяркуе выдаць ягоныя апавяданьні для падлеткаў зь ілюстрацыямі вышэйпамянёных. «Как крольчіха, плодовіт»...

Вельмі хацелася б хоць накаротка пабачыцца. Будзем у Менску 19-га, 20-га ў ліпні. Сустрэнемся ж?

Цяпер што да тваіх пытаньняў.

Дырэктарку Віленскай сярэдняй школы імя Скарыны сапраўды клічуць Галіна Сівалава.

Бажніца, дзе служыў даражэнькі Ойчанька, – царква Сьвятой Тройцы.

Шлюб наш быў у 2005-м годзе на сьвята Тройцы. Во.

Трымайся, добрая наша дзевачка. Усім харошым перадавай прывет, а благім – ня трэба.

Т.

*08.07.2009*

*Ірыне Волах*

Здароў, Ірынка-карцінка!

У Дубку ў нас класна, хаця і ня роблена нічога, і невядома, калі хто што зробіць, з нашым умельствам, ды з нашымі даходамі... Хацінка наша, зусім па Багушэвічу, «расьселася з краю», і – зусім па Багушэвічу, «на страсе мох вырас, на маху бярозка», але затое кругом – суніцы, грыбы, і надта сёлета чарніцаў шмат. Паедзем на гэтыя выходныя, пастараемся пабыць як найбольш. Дарэчы, і грошы рэальна эканомяцца...

Зь дзеткай тваёй запраста папрактыкуемся, але трэба прыдумаць, як, калі і што арганізаваць, каб усім было зручна. Бо я ж цяпер у летнім водпуску, і працую толькі спарадычна – калі ёсьць патрэба: трохі здымаю для белсатаўскай фільмы, праз пару тыдняў пачну мантаваць. Дашлі мне свой нумар беларускі, калі ласка. У нядзелю, як пераедзем у Беларусь, – стэлефануемся, і пра ўсё дамовімся.

Пакапакапакапака

*15.07.2009*

*Аляксандру Лукашуку*

Прывітаньне!

Вельмі дакладныя рысы да партрэта*.

Можна было б дадаць яшчэ пра стварэньне і ўдзел у «Майстроўні» і «Тутэйшых», дзе С. быў сапраўдным, прызнаным усімі лідэрам (зрэшты, фармальна

лідэрамі лічыліся іншыя, а для С. фармальныя рэчы ніколі нічога ня значылі, як і знакі прызнаньня, але ты й сам гэта ведаеш); яшчэ – С. прыдумаў і стварыў газэту «Свабода», а пасьля перадаў яе І. Герменчуку, прыдумаў і стварыў «НН» і перадаў яе наступнікам, абавязкова прыдумае і створыць што-небудзь яшчэ – і аддасьць або падзеліцца... я ўжо ня згадваю вялікае мноства ягоных прыгожых ідэй, якія іншыя людзі рэалізуюць як свае ўласныя. Тут такая шчодрасьць, якой няма ні ў каго болей, праўда! І пры ўсім – сьціпласьць (або, як кажуць нашыя старыя віленчукі, «скромнасьць»), уласцівая толькі сапраўды вялікім людзям. Яшчэ – маладосьць, зарукай якой ёсьць уменьне зьмяняцца, захапляцца, а таксама – прызнаваць свае памылкі (як у выпадку з «тарашкевіцай»). Зрэшты, пра апошняе ты вельмі хораша патрапіў сказаць у апошнім абзацы, іншымі словамі.

Напаўненьне літары «Г» падалося мне ня вельмі пераканаўчым (калі я правільна расшыфравала, дык там – пра падтрымку С. Адамовіча?). Нашмат больш вымоўным С-м учынкам я б лічыла удзел і перамогу ў т. зв. «судзе над мовай».

Што да «зьбеларушчаньня», дык тут усё дастаткова проста – вёска, бабуля, лета, свабода... усё гэта выкаранялася зімовым Менскам, разам з мовай, якая была неўсьвядомленай мэтафарай свабоды – летам, у бабулі, у вёсцы.

Адное з найяскравейшых уражаньняў у падлеткавым узросьце – пераклады Ю. Гаўрука з Вільяма нашага Шэксьпіра. С. прыгадваў, як на нейкай прыватцы ў аднаклясьніцы выпадкова разгарнуў томік з «Каралём Лірам» па-беларуску, і... гэтае ўражаньне красы і гармоніі мовы засталося на ўсё жыцьцё.

А ўжо «беларускае сталеньне» – гэта сябры: І. Гермянчук, В. Тарас, В. Вячорка, неўзабаве – старэйшыя сябры: Марачкін, Кулік, Купава, пасьля – асабістае знаёмства з Л. А. Геніюш, паездкі да яе разам зь сябрамі; адкрыцьцё Вільні, знаёмства з Зоськай Верас, Лявонам Луцкевічам, Янкам Багдановічам.

А галоўнае, вядома ж, што ў нашага героя яшчэ ўсё наперадзе!

Во-ось.

**Абмяркоўваецца прадмова Аляксандра Лукашука да кнігі Сяргея Дубаўца «Як?».*

*15.07.2009*

*Аляксандру Лукашуку*

Прывітаньне!

Паглядзела яшчэ раз. Як на мой густ, дык файна: і інфарматыўна, і ў меру суб'ектыўна, як і павінна быць у аўтарскім тэксьце.

Калі ўзьнікнуць новыя «страшныя тайны», буду гатовая іх падзяліць. Ф чом таржэственна клянусь!

Посьпехаў! Т.Д.

*25.07.2009*

*Ірыне Волах*

Іра на жаль здарылася прыкрая неспадзяванка Я была ў бацькоў на вёсцы і зламала руку. Цяпер ні да чога ня здатная у гіпсе і ў сьлязах. Паспрабуй штонебудзь прыдумаць са Стэфінай практыкай іншае. Мне вельмі шкада.

Бедная бедная Таня

*01.08.2009*

*Валеру Руселіку*

Здарова дзетка!

Хачу зьвярнуць вашую ўвагу на тое што сёлета ў Віленскім педуніверсітэце будзе набор на беларусазнаўства – стацыянар і завочнае. Пацікаўцеся усялякімі абставінамі. Мне здаецца вам варта працягнуць вашую адукацыю. ВПУ – чаму б і не?

І ў нашым нелюбімым ЭГУ на гістарычным у Смаленчука можна паспрабаваць сёлета. Пішуць пра 5 бясплатных месцаў і 4 стыпендыі ад фундацыі Орса-Рамана.

Напішэце што вы пры гэта думаеце.

Перапрашаю за адсутнасьць знакаў прыпынку: далонь аказалася замалой каб дацягвацца да коскі.

ПАКАПАКА

Ц. Таня

*02.08.2009*

*Алегу Дашкевічу*

Я ў горадзе-героі Вільні. Зламала ручку. Цяпер сяджу дома і пэрыядычна горка плачу. Дзядзя лекар палохае апэрацыяй і тым самым уганяе ў дэпрэсьняк. А в остальном прэкрасная маркіза...

Як прынялі твае Варганы? Чым увогуле займаешся?

Юлі прывет

Застаюся – Танька гіпсавая ручка

*03.08.2009*

*Ганне Чакур*

Здароў Анечка!

Вітае цябе Танька-Гіпсавая-Ручка а з учорашняга дня яшчэ і Прастрэленая-Сьпінка. Злавіла скразьняк і сяджу й хаджу цяпер літарай «зю». Асобны «штрых» на «карціне» – белае бервяно левай рукі. Очэнь высокахудожэственнае зрэлішчэ. Пры ўсім пры тым незайздроснае маё становішча мае пару-тройку відавочных плюсаў – чытаю ўсё да чаго не даходзілі рукі гляджу ўсё на што раней не ставала часу а самае галоўнае пляваць хацела на пыл і павуціну ў хаце. Ха-ха-ха. Людка казала што напрыканцы тыдня вы зьбіраецеся на мора. Дык буду мысьленна з вамі

Перапрашаю за пунктуацыю: да коскі далонь не расьцягваецца сабака.

ПАКАПАКАПАКА

*10.08.2009*

*Юрку Каліну*

Добры дзень!

Дзякуй за ліст. Мая «чорная палоса» нешта настолькі чорная, што павінна была б ужо і сканчацца... Вельмі спадзяюся на тое, што дактары скажуць штонебудзь станоўчае, і тады змагу выйсьці на працу. Бо дагэтуль гаварылі толькі прыкрасьці – што пералом у дужа паганым месцы, і што, хутчэй за ўсё, спатрэбіцца апэрацыя, калі не трымаць руку ў поўным спакоі, і да т.п. Ужо абрыдла сядзець у хаце, і бязьдзейнасьць абрыдла, і бездапаможнасьць.

Карацей, вельмі спадзяюся, што ўсё складзецца больш-менш спрыяльна, і з рэпартажам разьбяруся ў тэрмін.

Што да «Паштоўкі...» – што тут скажаш. Шкада, калі ня будзе. Але ж ты пішаш, што яшчэ ня вырашана канчаткова, дык пакуль буду думаць пра рашэньне станоўчае?

На ўсё добрае – Таня

*19.08.2009*

*Юрку Каліну*

Добры дзень, Юрка!

На наступным тыдні ўжо выходжу на працу. Бо ўжо і сэзон на Літоўскай тэлевізіі пачынаецца, і пра «тутэйшых» трэба змантаваць. Хоць у гіпсе буду яшчэ паўтары месяцы, во як «пашанцавала»!

Юрка, а скажы, калі ласка, ці застаюцца на Белсаце якія-небудзь праекты, у якіх можна было б удзельнічаць? «Рэпартэр», ці штосьці яшчэ? Бо, паколькі «Паштоўкі» ня будзе, зьявіцца час, зь якога можна будзе скарыстацца.

На ўсё добрае – Т.

*27.08.2009*

*Віялеце Кавалёвай*

Віта, прывецікас!

Вельмі радая твайму лісту, і дзякуй за віншаваньне.

Учора было шмат добрых неспадзяванак, і твой ліст у тым ліку. Пачытала яго, вярнуўшыся з клезьмераўскага фестывалю. Я там здымала, бо выступалі музыкі зь Беларусі – «Мінскер капэлія». Мая сяброўка, якая прынесла мне шыкоўныя кветкі, шэпча ў часе выступу: «Ты будзеш сьмяяцца... але ў Сьляповіча (гэта саліст аркестрыку, кларнетыст) сёньня таксама народзіны». Гэтак мае прыгожыя кветкі перайшлі да артыста; пасьля, у час інтэрв'ю, яны вельмі «ажывілі» карцінку. Прыходзіцца працаваць, нягледзячы на гіпсавую ручку – замены сабе я ня маю, нягледзячы на тое, што выгадавала пару-тройку вучняў. Але ўсе яны цяпер шчасьліва запатрабаваныя ў іншых смі, дарэчы, і Танечка Поклад, табе вядомая. А я зноў набрала студэнтаў, і зноў, здаецца, без асаблівых спадзяваньняў, што яны пры мне й застануцца. Што ты тут будзеш рабіць...

А пералом у паганым месцы, у локцевым суставе, таму дактары загадалі быць у гіпсе ня менш, чым два месяцы. Усё б нічога, але вельмі цяжкая рука, і немагчыма прывыкнуць да гэтай вагі. Вельмі хутка стамляюся. Зрэшты, у маім незайздросным становішчы ёсьць і пара-тройка бясспрэчных плюсаў. Па-першае, мой мілы сябра вымушаны быў навучыцца гатаваць, і ўжо робіць гэта ня горш за мяне. Па-другое (і гэта галоўнае) у бясконцых занятках і абавязках утварылася легальная паўза: з-за ручкі мяне пакінулі ў спакоі мае прадзюсары, і цяпер можна нармальна, не сьпяшаючыся, многае падумаць і дадумаць. Улетку рабіла здымкі да фільма пра віленскіх «тутэйшых», паводле папярэдніх дамоваў, павінна ўжо была здаць кіно замоўцам, але ўсе тэрміны пасунуліся, і гэта толькі кіну на карысьць, я думаю.

Сустракаліся мы курсам, але ж ты, мусіць, пра тое ведаеш ад каго-небудзь з нашых. Калі не, распавяду ў наступны раз, і пару здымкаў маю, перашлю. Вельмі ўразіла, што нашыя пачалі гаварыць катэгорыямі пэнсіі, старасьці, і да т.п. Напэўна, калі праз гадоў 5 надумаюцца рабіць сустрэчу зноў, я не паеду.

Столькі сёньня. Заўтра напішу яшчэ. Дабранач!

Таня. Ад Сяргея паклон.

*31.08.2009*

*Віялеце Кавалёвай*

Прывітаньне, Віялета!

Абяцала табе хуткі наступны ліст, але толькі сёньня ўдалося дабрацца мне да кампа. Езьдзілі ў вёску – мама вельмі хворая, забралі ў бальніцу. Заўтра зноў паедзем, брата зьменім. Такія цяжкія нешта часы надыходзяць... Здавалася калісьці, што бацькі вечныя. Яны-то вечныя, але, на жаль, кантэкст вечнасьці не выключае ні іх старасьці, ні хвароб, ні пакутаў. Цяжка глядзець, як мама мучаецца. Думаеш: за што? Хіба мала мучылася праз усё жыцьцё? З бацькам не задалося, і працавала многа і цяжка, і цяпер да хваробы дадаецца хвароба – сэрца, ціск, цукрыца, язва... Ніхто ня скажа, за што, ніхто ня ведае.

Адэлька нашая працуе на Белапане, робіць навіны. Але надумалася ўсё ў жыцьці памяняць, хоча пераязджаць у Варшаву, да свайго хлопца. Зьбіраецца там атрымаць яшчэ якую-небудзь, можа, больш людзкую прафэсію. Гэтымі выходнымі едзе туды «на разьведку». Пакуль што зацікавілі яе кінавытворчасьць і

кіраваньне ў грамадзкім сэктары. Ну, будзе бачна. Як на мой старамодны пагляд, дык – абы з хлапцом паразуменьне было, усё астатняе неяк пакрысе зладзіцца, і, можа, яшчэ ня раз памяняецца.

Столькі сёньня. Чакаю ад цябе пару словаў.

Ад Сяргея прывітаньне. Дарэчы, ці ведаеш ты, што на Белсаце зьнялі фільм пра «Майстроўню» – з выкарыстаньнем тых стужак, якія ў свой час рабіў малодшы Марачкін? Нас здымалі ў Вільні, менскія былі сабраўшыся ў Марачкіных у майстэрні – Лазоўскія, і Генік Лойка, і Алена (якая Царыцу ў Максіміляне грала), і Садоўскі. Чамусьці не было Ларысы.

Абдымаю. Т.

*11.09.2009*

*Тацяне Поклад*

Здароўцека, дзевачка мая харошая!

25-га пафільмую абавязкова, раз ты ня супраць! За людзей не хвалюйся, нехта ж будзе, ня можа ж быць, каб зусім нікога не было... Пра маршрут, можа, варта параіцца зь Вітушачкам: ён, у сілу сваіх спэцыфічных экскурсаводзкіх магчымасьцяў, якраз вадзіў быў экскурсіі нейкім кампактным маршрутам.

Калі ты бываеш дома? Хацела б да цябе ужсукці *(зайсьці з літоўскай. – С.Д.)* з мэтай забраць свае фільмукасы з фестывалю, і абяцаны мне матар'ял пра табліцу Ластоўскаму.

Жду атвета, как салавей лета.

*01.10.2009*

*Валеру Руселіку*

Дзякуй, дзетка. Здаецца, да Вашкевіча*, а значыць, і на экскурсію, не пасьпяваем, на жаль. У мяне цяпер штодня ўсялякія важныя працэдуры, і прапусьціць іх нельга, а сканчаецца гэтая бадзяга пазнавата – часу хопіць толькі на дарогу. Шкода, што з вамі не пабачымся.

Сёньня ў цёці Тані Поклад дзень нараджэньня, не забудзьце павіншаваць.

ПАКАпака

**Гаворка пра паездку ў Горадню на прэзэнтацыю кнігі.*

*08.10.2009*

*Наталлі Пчолкінай*

Наталька, вас турбуе цёця Таня Дубавец.

Ці не хацелі б вы ці хтосьці з вашых знаёмых (тых, хто зьяўляецца грамадзянінам Беларусі, і знаходзіцца зараз у Вільні) зьняцца ў рэклямным кліпе для МТС? Здымаць будуць у Вільні, неўзабаве. Цяпер праходзіць папярэдні кастынг. Калі хочаце паспрабаваць, дашліце на мой мэйл свае фоты. Ці хтосьці з вашых сяброў, каго гэта зацікавіць. Можа, Кастусь? Можа, яшчэ нехта?

На ўсё добрае – Т. Дубавец

*09.10.2009*

*Юрку Каліну*

Добры дзень, Юрка!

Пачытала заўвагі, з усім згодная. Апрача згадкі радзімы Багушэвіча: у сцэнары гэта закладалася. Студэнтаў сёлета папросту не было, таму іх няма ў стужцы. Але ёсьць вынікі (уражаньні) некаторых зь іх пра мінулыя практыкі – з тога году, і пазатога. Апрача таго, адная зь дзяўчынак ладзіла сваю фотавыставу па выніках гэтай практыкі, у мяне захавалася ў архіве відэа зь вернісажу. Дзяўчынка талкова разважае, у тым ліку і пра праблемы з самаідэнтыфікацыяй людзей,

зь якімі яны сустракаліся. Можна было б інтэрв'ю зь ёй паўтарыць, зрабіўшы больш мэтанакіраваным.

Яшчэ адная «гідка» – не па мясьцінах, а па тэме – магла б быць у асобе загадчыцы катэдры беларусазнаўства Віленскага пэдагагічнага ўнівэрсітэту Ліліі Плыгаўкі. Яна даўно дасьледуе Віленшчыну на прадзьмет узаемных моўных уплываў, мае навуковыя публікацыі па гэтай тэме, і мае сваё меркаваньне пра «тутэйшасьць» як зьяву. Можна было б сфільмаваць яе за працай з архівам, і паслухаць яе думкі. Дарэчы, у тых мясьцінах, якія я зьняла, яна была, і ведае ўсіх гэтых людзей. Магла б адкамэнтаваць пэўныя эпізоды ці паводзіны.

Напішы, што ты пра гэта думаеш.

Тацяна

*10.10.2009*

*Юрку Каліну*

Вітаю!

Я зусім згодная з тваімі меркаваньнямі; магу ўсё гэта зрабіць. Але мае пытаньні наконт фармату:

– ці можа ў перадачы быць закадравы тэкст?

– колькі хвілінаў яна павінна быць?

І колькі я б цяпер яшчэ мела часу на рэалізацыю?

Т.

*20.10.2009*

*Алегу Дашкевічу*

Здароўцека, дарагі сябар!

Перапрашаю за затрымку, не было часу. Дасылаю пакуль адную сцэнарную заяўку. Заўтра-пазаўтры пастараюся набамбіць яшчэ – па сьлядох сваіх былых падарожжаў. ОК?

Паслухай, у мяне яшчэ адная мысьль: мой фільмусік, які аказаўся ў нефармаце як рэпартаж, па-мойму, класна пройдзе па тваёй парафіі – там два падарожжы ў адным фільміку, аб'яднаныя адной тэмай – як жывуць літоўскія тутэйшыя. Трэба, каб ты яго паглядзеў, як найхутчэй, і пасьля выступіў у якасьці прадзюсара, з усімі выцякаюшчымі адсюда пасьледствіямі.

Пака-пака

*24.10.2009*

*Валеру Руселіку*

Здарова, салюцік, які любіць, бывае, напісаць бессадзержацельный камент!

Ясна, што можна перанесьці дату, на якую больш зручна.

У Горадні я б на дзянёк засталася, каб хоць трошкі горад пaглядзець. Значыць, жыльлё спатрэбілася б на адную ночачку. Ганарару за выступ мне ня трэба. Прыехала б я, ясны пень, у суправаджэньні дарагога свайго сябра на ягонай машыне, ён за стырном. І ад бэньзіку б не адмовіліся...

Ваша няскромная цёця Таня

*26.10.2009*

*Ірыне Дубянецкай*

Ірына, здрасьціця!

Сяргей кажа, што ўжо адказаў табе. Але я дадам – будзе радасна нам разам!

А напішы мне, будзь ласкава, пра кулінарныя прыхільнасьці дарагой Галінкі: ці яна гэтаксама, як і ейная сястрыца, спажывае толькі некаторыя прадукты, ці не-а? Мне, якая ўжо прыступіла да гаспадарчых абавязкаў, гэта важна.

То –
«як салавей лета».

*01.11.2009*
*Канстанціну Манкусу*
Прывітаньне, Косьцік!
Былі ў Беларусі, ужо бачылі, як рэкляму круцяць па целіку. Вы зь Нікай сапраўдныя зоркі!
Толькі ж зорнай хваробай не захварэйце...
Зь любоўю – цёця Таня

*08.11.2009*
*Алене Лукашэвіч*
Добры вечар, Алена!
Дзякуй за ліст. Вярнуліся зь Сяргеем зь вёскі, былі замовіўшы паніхіду па маме ў 9 дзён; пабачыліся зноў са сваякамі, з суседзямі нашымі старэнькімі. Вельмі неяк спакойна быць між іх – нібыта зноў цябе ўткалі у моцнае палатно, зь якога ці то ты сам сіламоц вырываўся, ці то цябе нехта некалі вырваў, а цяпер усё вярнулася назад і стала на свае месцы, і ты разумееш, што так і павінна быць.
Я нармальна трымаюся, найперш дзякуючы Сяргею. Хаджу на працу, трохі хварэю, бывае, расклейваюся, як апошняя размазьня. Але – памаленьку...
Што да фільміка, дык вельмі б хацела паслухаць тваіх думак: што там добра, і што кепска, і як ім можна распарадзіцца ў далейшым. Каліна ж яго не прыняў, бо першапачаткова фільм плянаваўся ў рэпартажную рубрыку «Бяз рэтушы», а гэта значыць, што ў ім павінна была быць канкрэтна названая праблема, і чым больш проста і ясна названая, тым лепш. Маўляў, вось зьява, называецца яна «тутэйшыя», а вось вам меркаваньні спэцыялістаў пра плюсы і мінусы зьявы – хай паразважаюць культуролягі, і да т.п. Але мне стала шкада матар'ялу для проста рэпартажу, і я адмовілася перарабляць тое, што зрабіла ў фармаце тэлефільму. Так што кожны, па выніку, застаўся пры сваім: Каліна – ва ўпэўненасьці, што рэпартажы рабіць я ня ўмею, я – што рабіць іх не хачу. Але, мне здаецца, што ня выключаная магчымасьць паказу кінца на тым жа Белсаце, калі яго прапанаваць менавіта ў якасьці кінца, і ясна, што камусьці іншаму, а не Каліну. Іншая справа, ЯК гэта зрабіць. Пакуль што ня маю на гэты прадзьмет аніякіх думак. Ды і сілаў пакуль ня маю.
Дакладна будзем у Менску 23-24 лістапада. Сяргей будзе прэзэнтаваць «Вялікую Кнігу ВКЛ». Вельмі б хацелася пабачыцца. Дзякуй табе вялікі – і за спагаду, і за добрыя словы. Прывітаньне ад Сяргея, і прывітаньне Віталю. Трымайцеся!
Т.

*19.11.2009*
*Паліне Сцепаненцы*
Добры вечар, Поля!
А мы сабраліся ў панядзелак на Менск. Але ад'язджаць будзем недзе ў абед. Так што ёсьць шанец нам пабачыцца. У аўторак у Менску будзе прэзэнтацыя «Вялікай Кнігі Вялікага Княства Літоўскага». Там Сяргей сярод аўтараў, так што ўласна дзеля гэтага і едзем. Усё будзе адбывацца ў Купалаўскім тэатры, рэжысаваць прэзэнтацыю будзе Пінігін. Можа, вам было б усё гэта цікава?
На ўсё добрае – Вашая Т.

*28.12.2009*
*Алегу Дашкевічу*
А-а-а, тады ўсё ясна. «Памежжа» – гэта сапраўды прадукцыя Белсату, але я да

яе ня маю ніякага дачыненьня. Гэта ў Вільні ёсьць такая арганізацыя «ЮБІЦ», яны рабілі сумесны праект з Белсатам па праблемах мяжы. Нешта ціпа фільміка здымала для іх Танечка Поклад. Я бачыла эту прэлесьць.

Значыць, гэта ўсё не пра нас, «навекі мой» дарагі пердзюсер...

Яшчэ раз пераконваюся, што оленькінікалайчыкавыя інфармацыі трэба правяраць і перапраўвяраць.

Пакапака

*03.01.2010*

*Тацяне Поклад*

Прывет, глыбокалюбезная Тадзіяна!

Страціўшы ўсялякую надзею да цябе дазваніцца, пішу – чэго жэ боле? У тым ліку і смс-кі, але ад іх мала толку. Маю патрэбу ў кадрыках з адкрыцьця таблiцы Ластоўскаму, якія ты абяцала. Калі ты ў Вільні,ператэлефануй, калі ласка.

Загадзя поўная ўдзячнасьцяў – Дубаўцова

*14.01.2010*

*Паўлу Бушко*

Здароў, Паўлік!

(А вось цікава, ці мой «кірылічны» ліст расчытаецца...)

Мы з Сяргеем самі страшна разахвоціліся з гэтай задумай – усім нагадаць пра «Майстроўню», усіх знайсьці, распытацца, паслухаць. Праз тыдзень у Менску дамовіліся на сустрэчы хіба з шасьцю чалавекамі, з бальшынёй якіх ня толькі ня бачыліся на працягу апошніх 20-25 гадоў, але нават ня мелі ніякага зь імі кантакту. Вельмі, вельмі цікава – хто кім стаў, хто што думае. Радасна, што аніхто не адмаўляецца ад сустрэч – наадварот! Часам такое ўражаньне, што чалавек на тым канцы дроту проста чакаў твайго званка...

Апрача таго, гэты радыёпраект нарэшце падштурхнуў нас навесьці парадак у архівах; цяпер вечарамі маем прыемны занятак – разьбіраем нашыя фоткі з тых часоў, пераводзім у лічбу, праслухоўваем калісь зробленыя стужкі. Праўда, дзякуючы гэтаму ў хаце пануе ўзорна-паказальны вэрхал, і ўсе спадзяваньні на Адэлю: прыедзе – навядзе шык і бляск (гэта ёй так уласьціва...)

Яшчэ ўсё знаходзімся пад уражаньнем ад Гайнаўкі. Я нават уявіць сабе не магла, наколькі жывая ў вас традыцыя. Проста словаў не знаходжу, каб выказаць усе пачуцьці – і ад згадкі пра ўсяночную, і ад калядоўшчыкаў. Калі ты цяпер дома, перадавай вялікі дзякуй ад нас бацькам за такое цудоўнае сьвята. Я перапісала для мамы некалькі сваіх перадач, каб яна як-небудзь перагледзела ў вольную хвіліну – там ёсьць цікавыя сюжэты пра віленскае і падвіленскае жыцьцё, ты ж ведаеш.

P.S. Шакоціс трэба есьці! У Вільні ўжо напяклі новых...

Шчасьліва! Трымайся, ад Сяргея прывецікас

*25.01.2010*

*Арыне Вячорцы*

Здароў!

Ці рабілі вы з Арцёмам фотасэсію? Не адкладай гэтае дзела, калі ласка.

Вельмі хацела б, каб ты зноў да нас завітала: вельмі файныя ў нас атрымаліся вечары...

Пакапака. Чакай мэйлу ад маіх калег

*10.02.2010*

*Алене Анісім*

Добры дзень, Аленачка – царыца, багіня, і г.д.

Інтэрв'ю з табой будзе ў наступную нядзелю, 14-га. Але тэкставы варыянт на сайце зьявіцца раней, можа, у пятніцу ўвечары альбо ў суботу.

Зь Сяргеем Запрудзкім абавязкова будзем рабіць размову, ясная рэч! Як жа магчыма было б безь яго? Пакрысе «дастанем» усіх, каго толькі магчыма, абы толькі не адмаўляліся. Бо, ведаеш, усяляк бывае – хтосьці пры важнай пасадзе і ня хоча «сьвяціць» бурнае мінулае, хтосьці за гэты час патрапіў пару-тройку «тараканаў» у галаве завесьці... Вельмі спадзяюся, што ўсё ж «нашых» гэта датычыць найменш.

Справу тваю пра сваякоў падала на тв, будзем цяпер чакаць.

Буду ў Менску, патэлефаную. Шчасьліва!

*04.03.2010*

*Алесю Адамковічу*

Алесь, гэта ўсё, што адлічбаванае. Чорна-белыя фоты – з 1983-га году, на першай я (тады маё прозьвішча было яшчэ Сапач) з Зоськаю Верас, на другой – Лявон Луцкевіч, Пятро Садоўскі, студэнты Менскага інстытуту замежных моваў Сяргей Мурашка і Сяргей Шупа, зноў жа Зоська Верас і Таццяна Сапач. Каляровыя здымкі досыць нядаўнія. Групавое фота – імправізаваная прэзэнтацыя кнігі Міхася Казлоўскага на сядзібе ў Алега Аблажэя, восень 2006 г.; Паўлінка Вітушчанка (дачка Сержука Вітушкі і Людвікі Кардзіс) з бацькам на гары Гедыміна, 2008 г.; у час дзён літоўска-беларускай культуры ў Вільні, 2006 г.

Ёсьць здымкі розных гадоў, там і школа, і розныя сьвяты, і людзі, той жа Банайціс. Але ўсё гэта не адлічбаванае. Можа, ёсьць сэнс нам сустрэцца на пару-тройку хвілінаў, ды Вы б адабралі, што спатрэбілася б?

Ой, апошняе ўдакладненьне: на другой фотцы спачатку Сяргей Шупа, пасьля Мурашка. Аўтар чорна-белых здымкаў С. Дубавец, каляровых – В. Руселік.

Дык а тыя здымкі, якія я маю проста на картках, Вас не зацікавілі? Дастаткова будзе тых, што даслала?

*08.04.2010*

*Тамары Касяк*

Здароў, Томачка, сястрыца!

Я таксама да гэтага часу «перараварваю» нашую сустрэчу: уражанні, расповеды, размовы... Хаджу па хаце, кіну паглядам на нашыя кніжкі – думаю: вось гэта варта было Томе прапанаваць, і гэта ёй было б цікава. І па Вільні ўчора вёз Сяргей пасля працы – кажу: і тут мы з ёй не былі, і тут... Зрэшты, у нас усё наперадзе. Галоўнае – не страчваць сувязі, не губляцца. Мне вельмі радасна, што, нягледзячы на такі вялікі перапынак у нашых дачыненнях, у нас з табой не страчана паразуменне, што нам цікава разам і добра. Усім сваім тутэйшым сяброўкам распавядаю, як мы з табой хадзілі па Вільні, і як табе тут спадабалася; віленскім людзям заўсёды прыемна, калі хтосьці ўмее бачыць і цаніць красу іх горада гэтаксама, як яны самі.

Абавязкова зьбярэмся з Сярожкам да вас на пару дзён, вельмі хочацца паглядзець на тваіх дзетак, і пазнаёміцца з Хенрыкам. Улетку будзем мець трохі часу і, дасць Бог, грошай – тады як-небудзь прымяркуемся да вашых планаў, ды і зьбяромся. Я ж казала: мы вельмі лёгкія на ўздым.

Выходнымі едзем у Менск, будзем мець там некалькі інтэрв'ю. А на аўторак рушым у Маркава, на Радаўніцу. Возьмем фоцік, пазьдымаем, перашлю табе пасля здымкі.

Трымайся там! Мы – з табой!

Таня і Сяргей

*08.04.2010*

*Валянціну Стэху*

Прывітаньне!

Думаю, што Вы маеце рацыю. Але трэба яшчэ ўдакладніць – можа, надвячоркам прайсьціся на Тураву гару, ды пераканацца, што менавіта так і менавіта там. Бо эгу-шнікі ўсё вымяраюць сваімі ведамі пра Вільню: для іх офіс ЭГУ – месца вядомае, а Палац прафсаюзаў – мала пра што гаворыць...

Але ў кожным разе – варта інфармацыяй падзяліцца і распаўсюдзіць між беларусаў, каб людзі пасьля не шкадавалі, што мелі магчымасьць – а не патрапілі.

Т.

*14.04.2010*

*Ірыне Волах*

Добры вечар!

Ня мела ўчора ніякіх сілаў, пасьля Радаўніцы: у нас на вёсцы гэта досыць доўгі і пакутлівы абрад – звычайная царкоўная служба, пасьля паніхіда, і пасьля асьвячэньне магілаў. Вярнуліся ў Вільню зусім змучаныя. Сёньня мантавала, ня чула тваіх званкоў.

Прыязджайце! Я толькі ў сераду буду занятая ўвесь дзень, у іншыя дні магу вам дапамагаць, чым змагу. Толькі трэба канкрэтна вызначыцца, што і ў які час вам патрэбна. Ці дамовіцца пра сустрэчу з унукам? І на які дзень і час? Ці вы хацелі б, каб ён звадзіў вас на месца хаткі? Калі так, таксама трэба асобна пра гэта размаўляць, бо нешта не зусім добра ў яго са здароўем. Зрэшты, правесьці на тое месца могуць мастакі – Крысьціна і Алег, яны нейкі час, да пажару, у гэтай хатцы жылі. Кім яна ёсьць, кім была – і яны могуць паразважаць, бо і людзі разумныя, і самую З. В. памятаюць, можна С. Дубаўца папрасіць: ён адмыслова, будучы студэнтам, прыязджаў у Вільню ў «лясную хатку». Дарэчы, у сэрыі «Вострая брама» была асобная перадача пра Зоську Верас, варта, думаю, глянуць папярэдне. Ня памятаю дату і год, але можна прагугліць.

Што да мабільных, ня ведаю пакуль. Распытаюся ў больш прадзьвінутых знаёмых.

Т.

*17.04.2010*

*Ірыне Волах*

Добры дзень!

Яраслаў гатовы будзе да сустрэчы ў аўторак, каля 17-й гадзіны. У яго ёсьць фота, лісты і т. д. Што да «лясной хаткі», дык тое месца, дзе яна была, прададзенае, там чыясьці прыватная тэрыторыя. Мастакі ісьці туды адмовіліся. Быць можа, унук згодзіцца, калі сапраўды ў гэтым будзе пільная патрэба. Але пра гэта ўжо – пры сустрэчы зь ім самі пагаворыце, ок?

Я гатовая вам зрабіць экскурсію па Вільні, калі вам будзе больш выгодна – ці ў аўторак перад сустрэчай зь Яраславам, ці ў чацьвер.

Да пабачэньня. Т.

*19.05.2010*

*Ірэне Папурэнцы*

Здароў, Ірэна!

Пытаньні простыя.

Адкуль Вы паходзіце? Што паклікала Вас у «Майстроўню»?

Калі Вы прыйшлі ў Майстроўню? Пры якіх абставінах? Што Вы рабілі ў «Майстроўні»? Наколькі доўгім быў Ваш «майстроўскі» пэрыяд?

Хто ў той час лічыўся для Вас маральным аўтарытэтам – раўналеткі ці старэйшыя людзі?

Якія падзеі «майстроўскага» часу Вам асабліва запомніліся? Ці паўплываў удзел у «Майстроўні» на далейшы Ваш лёс?

З кім з «майстроўцаў» Вы падтрымліваеце сувязі?

Хто Вы сёньня (самапрэзэнтацыя)?

Чым была «Майстроўня», на Ваш погляд, – зьбегам выпадковасьцяў, цудам, які ня мае шанцу на паўтор, ці прадуманым і арганізаваным праектам?

Як можна адзначыць 30-годзьдзе «Майстроўні»?

Вось такі няхітры набор. Вельмі вітаецца адыход ад пазначаных накірункаў і вольная імправізацыя...

*21.05.2010*

*Алене Лукашэвіч*

Прывітаньне!

Усё нармальна. Я ўсё роўна ня мела часу, і наўрад бы занялася кватэрным пытаньнем: вельмі гэтым разам не шанцавала з інтэрв'ю – суразмоўнікі то не згаджаліся, то пераносілі час... я канкрэтна выматалася, каб зрабіць чатыры запісы.

Вялікі дзякуй за адрас. Думаю, найлепш будзе сапраўды напісаць ёй ліста, і падрабязна выкласьці ўсе нашыя магчымасьці і жаданьні.

Прагледзелі сайты з продажамі кватэр у Вільні, у нашым раёне. Кошты вырасьлі. Калі б удалося «упісацца» у гэты час, пакуль яны зноў ня ўпалі, можна было б мець большую свабоду манэўру ў Менску... Паспрабуем.

Абдымаю цябе. Прывітаньне Віталю.

*23.05.2010*

*Ірэне Папурэнцы*

Прывітаньне, Ірэнка!

Зьнялі тэкст, класная павінна атрымацца перадача! Тэрмінова чакаем тваіх фота. І, ведаеш, не абавязкова майстроўскіх ці таго часу; добра было б – з розных пэрыядаў твайго бурлівага жыцьця...

А ці ж тэлефанаваў ужо фатограф-партрэтыст? Яго завуць Арцём Канцавы, ён так і прадставіцца, можа быць. Не адмоў мальчышке ў паўгадзінцы.

Абдымаю. Тацяна

*23.05.2010*

*Ларысе Малашэні*

Прывітаньне, Ларыска!

Гэта Тацяна (ня ведаю, як ты мяне ўспрымаеш – мабыць, хутчэй Сапач, чым Дубавец... але Сяргей тут, побач, і далучаецца да маіх прывітаньняў, пытаньняў і просьбаў).

Можа, ты ўжо ведаеш па «свабадзянскі» праект «Гісторыя аднаго цуду» – пра «Майстроўню». Цяпер штотыдзень рыхтуецца расповед пра кагосьці аднаго з майстроўцаў: згадкі, развагі, ацэнкі таго пэрыяду. Калі ня ведаеш, то вось табе спасылка: «Вострая брама».

Задума такая – як мага больш поўна аднавіць карціну ўзьнікненьня і бытнасьці Майстроўні, уласна, напісаць яе гісторыю. «Свабода» на гэта ўсё «падпісваецца», абяцаюць, па выніку, кніжку з архіўнымі фотамі, а можа, нават, і фільм.

Дык вось... Хочам яксьці цябе «злавіць» – ці пад'ехаць у Полацак, ці, можа быць, ты бываеш у Менску.

Напішы, што ты пра гэта думаеш, і як найлепей можна было б усё зрабіць. А ўвогуле, і проста так радасна было б пабачыцца.

Абдымаю, Тацяна

*13.06.2010*

*Алегу Дашкевічу*

Здароў, Алежка!

Статут магу сама перакласьці, ці Адэльку можна папрасіць, ці яшчэ цэлую кучу народу. Калі гэта трэба?

Я трохі тут прастытая – ці бранхіт, але надта ж даставучы, ці нейкі навамодны вірус. Яшчэ ўчора зьбіраліся быць у горадзе-героі, але ня ведаю нават, калі насамрэч рэальна будзе выбрацца зь Вільні. Ляжу ў ложку, як бервяно. Абы ўстала – кашаль душыць і галава круціцца. Адная радасьць – футбік. Як табе ўчарашнія ангельцы? Шкода, да?

Т.

*22.06.2010*

*Тамары Касяк*

Томка, прывітанне! Гэта Таня.

Пішу, каб паведаміць табе пра тое, што нарэшце мая дарагая дачушка згадзілася выйсьці замуж за хлопца, зь якім ужо даўно сябруе. Вясельле і вянчаньне будзе ў Польшчы, на Беласточчыне. Я падумала: можа, і вы б з Хенрыкам змаглі пад'ехаць ды далучыцца да нешматлікай радні з нашага боку, і падтрымаць Сардэлечку... Ад нас няшмат хто будзе – візы, шмізы... Напішы, што ты пра гэта думаеш. Урачыстасьць запланаваная на 16 гадзінаў 23-га ліпеня.

Абдымаю цябе. Таня

Ад Сярожкі прывет

*28.06.2010*

*Юлі Лысковай*

Юлечка, прывітаньне!

У нашым фотаархіве знайшлося пару фотак, дзе я пазнала цябе. Прыгадай, калі ласка, што гэта было, і калі, хоць бы прыкладна.

Вялікая просьба – дашлі здымкі таго часу, неабавязкова майстроўскія: студэнцкія, разам з бацькамі, т.п. Яшчэ: да якога часу дзейнічала «Дзяньніца»? І колькі часу ты ў ёй удзельнічала?

На ўсё добрае – Т.

Прабач, што турбую, але ж – што рабіць: «акула»...

*11.07.2010*

*Дачцэ Адэлі*

Здарова, Дубавец!

Тэлефанавала Тома. Вельмі хоча прыехаць. Высьвятляла ўсялякія практычныя пытаньні: дзе там, у Гайнаўцы, можна будзе спыніцца і ці варта замаўляць гатэль, бо яны хацелі б прыехаць зь дзецьмі; ці варта ехаць машынай, і г.д., і г.д. Папрасіла пачакаць ейнага адказу яшчэ да аўторка – яны будуць кансультавацца на прадзьмет дарогі ў нейкім крутым турагенцтве. Магчыма, па выніку, прыляціць яна з дачкой.

Я думаю, што мы будзем радыя ў кожным разе. Га?

Мамашкес

*03.08.2010*

*Юсцінасу Лінгісу*

Юстас, посмотрите, пожалуйста, что получилось. Это фрагмент неофициальной истории минувшей войны. Об этом говорить не принято. Об этом и не

говорят. Между тем, история эта совершенно типичная для наших территорий. Тексты – синхроны и закадровые – могут корректироваться и уточняться. Я здесь, в Вильнюсе. Буду до вечера четверга. Снимать в Беларуси могла бы на следующей неделе, 10-11-го.

Жду Вашего звонка. Татьяна

*06.08.2010*

*Арыне Вячорцы*

Прывецікас!

Арына, я сказала Вітушачку пра тваё жаданьне прыехаць у Вільню на гэтыя выходныя. Ён рады быў бы «спыніць» вас з Ружанкай у сябе ў хаце. Ягоныя дзяўчаты сёньня ўвечары зьязджаюць да мора, і вы нават былі б яму карысныя ў сэньсе нейкай трохі дапамогі. Калі твае намеры яшчэ маюць сілу, зьвяжыся зь ім сёньня. Лепш удзень званіць на мабілу, ён да вечара ў лякарні на дыялізе.

Посьпехаў! Т.

*23.08.2010*

*Сяргею Шупу*

Добры дзень, Сяргей!

Адрываю цябе ад розных спраў і клопатаў па важнай прычыне – хачу папрасіць цябе пра інтэрв'ю пра майстроўскія часы. Калі ты пагодзішся, будзе радасна ці пабачыцца, ці хоць бы пачуцца для такога дзела. Лепш, вядома, пабачыцца, бо мне, радыйшчыцы старой добрай школы, размовы праз скайп ці тэлефон здаюцца халаднаватымі і недушэўнымі. Можа, у бліжэйшыя часы ты плянуеш якую пабыўку ў Вільні ці ў Менску? У Менску было б найлепш: там наш геніяльны фотапартрэтыст Арцём Канцавы; ён бы зрабіў фотасэсійку...

На ўсё добрае, Таня Сапач

*23.08.2010*

*Сяргею Шупу*

Ой, і праўда, у Празе мы даўно не былі. Але бліжэйшай парою і не атрымаецца выбрацца – ані часу няма, дый не запрашае асабліва ніхто. І пра Амэрыку ты маеш рацыю: шанцы мае сустрэцца з табой у такім далёкім далёку сапраўды ніякія. Во-во пачынаецца новы сэзон на целіку, а гэта значыць, што зусім сяду тут, у Вільні, макам. Пакуль вальнейшая, дык езджу ў Беларусь, патроху здымаю – і для кіношкі пра паваенную Заходнюю Беларусь, і для «майстроўскага» фільма нейкія фрагмэнты, і з майстроўцамі сустракаюся, запісваю. А яшчэ ж – Адэлю замуж аддалі, цяпер аддыхваемся... Ну, дык вот, – як кажуць у маёй вёсцы на завяршэньне ўсялякае размовы, – ну, дык вот...

Застаецца адзіная нам магчымасьць паўспамінаць – празь нямілы майму сэрцу скайп, калі ты ня супраць. І яшчэ фотку буду прасіць, такога ж фармату і стылю, як робіць Канцавы, добра?

Т.

*21.09.2010*

*Галіне Шур*

Прывітанне, Галка!

Была ў Менску, але вельмі каротка: раптам тут, у Вільні, нарысаваліся дні беларускай культуры, вымушаная была застацца, каб здымаць. Зрэшты, сёе-тое спадабалася – купалаўцы прывезлі «Пінскую шляхту», ты бачыла? Я спачатку ўсё не магла зразумець, навошта Пінігін узяў гэтую «шутку», ну, не дзеля таго ж, каб даць магчымасць Манаеву ў чарговы раз бліснуць... Але напрыканцы новы

раз пераканалася ў ягоным таленце: што захацеў сказаць, тое і сказаў, ужо тады, калі скончыўся тэкст п'есы.

Яшчэ зрабілі талковую выставу Хруцкага ў Літоўскім мастацкім музеі. Карацей, надта шкадаваць пра тое, што тут засталіся, не выпадала. Адное, што з Адэляй пабылі мала, а ёй цяпер дужа трэба ўсялякія сюсі-пусі: такая зрабілася плаксівая і сентыментальная. Пузатая! Вельмі смешная, ходзіць, як качачка, перавальваючыся; 4-га кастрычніка збіраецца ўжо ў Варшаву.

Я наступны раз буду ў Менску (3-4 дні), пачынаючы з 2-га кастрычніка. Абавязкова тады пабачымся! Я табе яшчэ і беларуска-літоўскі размоўнік падрыхтавала. А што да палескіх промыслаў, дык і я хачу драўлянага анёліка! Абдымаю, Т.

*14.10.2010*

*Галіне Шур*

Прывітанне, Галка!

Пакуль адкладаецца наш пераезд: кватэра не прадаецца, чакаем, калі рынак трохі аджыве. Я, пакуль тое, зноў увязалася ў сваю тэлеперадачку і, адпаведна, працоўную руціну: здымкі, мантажы, з начальствам цапаюся... Адэлька ўжо ў Варшаве, займаецца там віццём гняздэчка. Набылі кватэрку невялічкую непадалёк ад Старога Мяста, цяпер купляюць усялякія пралкі-лядоўкі. Здаецца, пачувае сябе някепска, але ўсё роўна трывожна. Хацелася б побач быць, але дзе ж там?..

Прыватная кінашкола – супер! Вельмі радая, калі ў цябе «пакаціць».

Што ты робіш 25-га ўвечары? Тарасы прыслалі нам паведамленне пра выставу Яфіма Тараса, Віталёвага дзеда, прымеркаваную да яго стагоддзя. Я збіраюся пад'ехаць.

А цяпер сабралася да сябе ў вёску – будзем з братам рыхтаваць гадавіну па маме. Вельмі нейкая «бурная» атрымліваецца восень – усё бягом, бягом; палову справаў не паспяваю. Зрабіла для І. Волах прэзэнтацыю ў школцы ў Вільні, вельмі смешна атрымалася: прыгналі дзяцей-першакласнікаў, другакласнікаў... уяўляеш, як ім цікава было? Яна тут новую фільму здымала – пра Драздовіча. Прызналася, што «надакучыла неяк кіно здымаць»; гэта і адчуваецца. На Белсаце пакуль маўчаць, але калі будуць згодныя на кіно пра Верас, трэба здымаць, ты маеш рацыю. Ня тое, што гэта асоба пад забаронай, але ўсё роўна – несавецкая, недазразумелая афіцыйнай культурай. Таму і ў Ірынай кіношцы – паўнамёкі, недагаворкі, па выніку, нічога няясна – ні хто, ні што, і наогул, навошта гэта здымалася. Сумна, што падобнага шмат.

Буду ў Беларусі – адразу азавуся, дамовімся, як пабачыцца, добра?

Абдымаю, Т.

*26.10.2010*

*Юсцінасу Лінгісу*

Здравствуйте!

Всё в порядке, более или менее. В Беларуси удалось снять, и совсем неплохо, и даже больше, чем я предполагала. Герой наш пока в Польше, на пленере; возвращается через неделю. Вернется – надо будет спланировать следующую съемку, и т.д.

Если у Вас будет немного времени свободного, хорошо было бы встретиться, обсудить.

*05.11.2010*

*Чат з дачкой Адэляй*

14:57 **я**: здрастуй, Тэда

**teda**: здароў, як справы?

14:58 **я**: нічога сабе

**teda**: у варшаве фэстываль рускага кіно адкрыўся

**я**: до-жджж

пойдзеце?

14:59 **teda**: пойдзем, але, відаць, ня сёньня. сёньня конкурсныя фільмы пачынаюцца ў 22.00 і доўжацца ноч

**я**: ясна

класьненька вам

а ў мяне муж зьехаў

**teda**: усё ж нельга сказаць, што ў брэда піта зашмат інтэлекту: *(спасылка)*

у Менск?

15:00 **я**: я заўтра Анішчыкавую бабулюку здымаю, ёй 90 гадоў

так, тата ў Менск паехаў

зноў будзе спрабаваць запісы зрабіць

**teda**: распытай яе пра Нюньку

15:01 **я**: ну, не ў дзень народзінаў...

я яе пра любоф спытаю

15:02 **teda**: ну ладна, хаця няма ў табе журналісцкага беспашчадства

15:03 **я**: няма, што зробіш

і вапшчэ, баюся, ніякай журналісцкай жылкі няма

15:05 **teda**: о, я зараз табе перашлю фотку Жэні Воўчык зь яе дачкой Сафіяй. Кажа, што некаторыя сябры называюць Зосяй.

**я**: перашлі

15:06 а Брэд, канешне, маладцом

поўны піпец

15:07 **teda**: паразіцельна, затое можна з упэўненасьцю казаць пра яго талент акторскі. у фільмах ён розны

**teda**: я тут пісала пра тое, што брэд вельмі добры актор

раз ён у жыцьці такі дурыла

**я**: ну, эта, відна, да-а-а

**teda**: а грае розных людзей

15:09 **я**: узаемазалежнасьць жалезная

15:10 а Жэня Воўчык гэта што за Жэня?

15:11 **teda**: ты яе ведала!

**я**: я яе проста не пазнала

**teda**: у дзядзі кіры яна пела

у крыві-калахары

**я**: ага

у Марозіка была

15:12 прыгожанькая такая дзевачка

а цяпер такая салідная

**teda**: потым карп яе ўзяў да сябе ў гурт і выгнаў неўзабаве

чаму салідная?

**я**: а колькі дзіцёначку?

**teda**: проста, відаць, часу ня мае на ранейшыя хіпі-прычоскі

**я**: ну, у вачах мудрасьць, таму і салідная

15:13 **teda**: нешта каля году

менш, месяцаў 9

**я**: класьненькі дзіцёначак, галазасьценькі

**teda**: ну, беленькі такі

а дзеці заўсёды непраменна падобныя да бацькі?

15:14 **я**: неабавязкова
бываюць падобныя да дзядоў
15:15 ці прадзядоў, напрыклад
я падобная да дзеда Васіля
а Васіліна да бабулі Мані ў маладосьці
15:16 глядзела зараз фоты – паразіцельна!
а ў каго з тваіх сяброў яшчэ ёсьць дзеці?
15:23 **teda**: ні ў кога
у Машы Дзялендзік, якая ў Гішпаніі жыве:)
**я**: ну, нічыво сібе
15:33 паглядзі, як класна Арцём зьняў Гэніка Лойкі жонку
на Свабодзе тата ўжо выставіў зь ёй перадачку
**teda**: зараз
**я**: ага, і мама ў цябе вельмі добрая
15:34 арцём геній
15:35 **teda**: а што ж такога геніяльнага?
цёця і цёця сабе
**я**: ну, Алена па жыцьці стомленая вельмі
а тут – вамп!
раптам!
15:36 самае цікавае, што ўнутры сябе яна сапраўды вамп
і Арцём гэта зьняў
пайду-тка я адведаю нашую магазку на прадзьмет хлеба і прэсы
не зьнікай!
скора вярнуся
15:38 **teda**: не галадай там хаця!
**я**: ні-каг-да!
16:02 табе прывет ад дзядзі Аблажайкі
**teda**: і яму прывет
**я**: вярнуліся з чарговага пленэру
**я**: стомленыя, бяз грошай, але задаволеныя
16:03 **teda**: а грошы прасадзілі ў бяссонных маладзёжных начах?
**я**: ну, да, па фсей відзімасьці
**teda**: можа, нам на наступныя выходныя прыехаць у вільню?
**я**: пра Вільню можаце падумаць
16:05 **teda**: то бок, нам лягчэй і прасьцей выбрацца, чым маім шаноўным бацькам?
**я**: але, мне здаецца, твайму пузу трэба паменш гойсаць
чую ф прэдыдушчэй фразе раздражонныя нодке
16:06 **teda**: не, проста мы будзем памалу ехаць 12 гадзін для таго, каб убачыць вас, якія самі ехаць не зьбіраюцца!
**я**: зьбіраюцца!
16:07 пацярпі чуць-чуць, дубавідзэ
можа, гэта здарыцца вось-вось
16:08 усё, пабізяля ў магазку
хутка буду

*30.11.2010*
*Сьвятлане Слуцкай*
Прывітаньне, Сьвета!
Толькі што вярнулася з Варшавы, ад дачкі сваёй пузаценькай. А тут – твой ліст, і мне радасна вельмі. Дзякуй, фоткі цікавыя. Пастарайся як мага хутчэй даслаць

старыя здымкі: у гэтую нядзелю на радыё павінна пайсьці тваё інтэрв'ю, а сайт робіцца раней – у чацьвер, найпазьней – у пятніцу. Вось таму я так настойліва прашу пра фоты, каб цэйтноту не было на роўным месцы.

Як нашая дамоўленасьць пра эсэ? Я тут усім пра нашую сустрэчу гавару, гавару, гавару... Хацела падзякаваць Алене, за тое, што паспрыяла ў сустрэчы (і знаёмстве), тэлефанавала ёй з дарогі, і нешта перарвалася сувязь. Яна, пэўна, так і не зразумела, з чаго-якога быў званок...

Размаўляла з адной мадамай, якая робіць сайт пра Беларусь; яна вельмі ня супраць мець свайго мастацкага аглядальніка і рэцэнзента выставаў. Так што – не задоўжвайце, мілая мая, дзярзайце!

У гэтыя выходныя да Менску не даеду, буду тут, у Вільні, мець некалькі здымак. Але Сяргей едзе. Дык я яму перадам «Партызаны» для цябе, ён патэлефануе, як-небудзь сумовіцеся. Скайп ёсьць толькі ў Сяргея, але і я ім карыстаюся: zauzaja.

Абдымаю, Таня

*22.11.2010*

*Ларысе Сапач*

Прывецікі!

Пісьмо вашэ палучылі, за каторае вам агромнае спасіба. Пачыму эта вы ня ўмееця карыстацца інтэрнэтам? Нада пастарацца, і фсё палучыццо.

Мы жывём па прэжніму. Значыт, харашо. Ні сказаць, штобы очэнь, но фсё сваім чэрэдом. Вот сабраліс на разгавор с аднім крутым перцэм, археолухам. А зафтре мадама адна сагласілася. А тада дамой. Там Сірожа, адзін. Плачэт, вераятнее фсіво.

На этам пісьмецо сваё канчаем. Ждзём атвета, как салавей лета.

*06.12.2010*

*Валянціну Стэху*

Прывітаньне, сябра Валянцін!

Вось што мне прыйшло да галавы ў зьвязку з плянамі на наступны год Вашага Таварыства... Рэч у тым, што двое зь юбіляраў наступнага году – аўтары мэмуараў: спадарыня Зоя Каўшанка і дзядька Косьця Шышэя. Было б прыгожа ў рамках мерапрыемстваў іх памяці выдаць гэтыя мэмуары і зрабіць прэзэнтацыі. Мне здаеццца, што цяпер самы час, каб падаваць праекты ў розныя дзяржаўныя структуры, якія займаюцца падтрымкай гэтакіх праектаў. У Міністэрства культуры, куды там яшчэ?.. Я перакананая, што ніхто іншы гэтым ня зоймецца, у сілу розных прычынаў, – ні нашыя тбк-і і згуртаваньні, ні катэдра, ні школа. Вазьміцеся! Гэта можа стацца адным з самых важных тут плёнаў за апошнія гады. Бо і адрасатам такога «дзела» была б не адное толькі Вільня ці Літва, а насамперш Беларусь. А выдаткі, можа, і не найвялікшыя – папера, друк, праца наборшчыка, рэдактара, карэктара... Скласьці разьлікі мог бы, здаецца, Сярожка Гаўрыленка, ён ужо меў справу з выданьнем той жа «Руні», ведае, што і па чым.

Во, гэта было б дзела!

Пакуль столькі прапанаваў, але гэта яшчэ ня ўсё. Пасьля напішу, што я думаю адносна правядзеньня асобных мерапрыемстваў.

Да новых устрэч! Прывітаньне Ноне

*21.12.2010*

*Ларысе Малашэні*

Здароў, Лорка!

Я таксама глядзела ўчора прэсуху, і мацюкалася. «Зьвязда» нашая зажгла, што

тут казаць... І адкуль яно ў людзях бярэцца – вернападданства гэтае, і гатовасьць служыць і прыслужвацца? І самае цікавае, што не сорамна ж!..

Толькі што патэлефанаваў наш зяць з Гайнаўкі, сказаў, што ўжо паўгадзіны, як мы з Сярожкам баба й дзед. Во такія навіны.

Вельмі хацелася б як-небудзь пабачыцца. Можа, і ўдасца, у рэшце рэшт? Мы тут сёе-тое прыдумалі, каб адзначыць майстроўскае 30-годзьдзе. Верагодней за ўсё, будзе вечарына са сьпевамі, прэзэнтацыяй кінафільміка і выставай мастакоў-майстроўцаў. Але магчыма і нешта іншае.

З нашым пераездам, у сілу аб'ектыўных абставінаў, пакуль прыходзіцца пачакаць: хата не прадаецца, варыянты работы, якія былі маячылі, цяпер, падобна, накрыліся. Будзе бачна, зрэшты. Пакуль нічога ня ясна.

Фоткі з Адэльчынага вясельля перашлю асобна. Радая твайму лісту. Не губляйся!

Т.

*24.12.2010*

*Галіне Шур*

Дзякуй, Галка!

Такая радасная нам навіна – і якраз цяпер, калі надта трэба добрых навінаў.

Адэлька сьцьвярджае, што «Зоська, як сьпіць, падобная да мамкі (г.зн., да мяне)»... Паедзем заўтра ў Гайнаўку, паглядзім, ці сапраўды так.

Спакойных Сьвятаў табе, Галечка мая мілая, і ўсім тваім – надзеі, добрых думак, добрых навінаў.

Т.

*24.12.2010*

*Чат з Ларысай Сапач*

18:42 **Larysa**: чытайце пісьмо!

**я**: чытаем

ну, унучка ў нас гаўнючка

гэта точна

18:43 але ж гэта і ваша ўнучка

дарагая Лорка

18:44 а стужкі трэба купіць, бо гэта такая звычка

18:45 ці таму проста, што косы даўгія?

18:48 **Larysa**: бо косы даўгія

18:49 **я**: ага

ну, вот мы і ф чаці!

крута, да?

18:51 **Larysa**: ну дык вот. трэба неяк да маладых напісаць. але гэта ўжо як Адэля будзе дома.

18:53 Сярожа, віншуем са святамі!

18:55 **я**: ён есьць рыбу!

кажа: дзякуй!

18:57 **Larysa**: Шмат гарэлкі не піце ў гасцях. Ну, ня будзем вам назаляць. Смачна есці і да свідання.

18:58 **я**: давайце!

мы вас любім

і абдымаем

запісы

Мікола Гіль



...Галоўнае – не разгубіцца
І справу гонару рабіць
ЛіМ быў, ЛіМ ёсць, няхай не кпіцца
Юрліўцам мову задушыць...

# «Добры дзень, родны "ЛіМ"»!

***(З пошты былога рэдактара штотыднёвіка)***

## АМАЛЬ З ТАГО Ж, ПЕРШАГА ПРЫЗЫВУ

Мне пашчасціла: трапіўшы амаль што адразу пасля ўніверсітэта ў "ЛіМ", я апынуўся ў коле пісьменніцкай і іншай творчай інтэлігенцыі. Штодня на лімаўска-палымянскіх калідорах і ў рэдакцыйных кабінетах бачыў-спатыкаў многіх і самых розных пісьменнікаў, кампазітараў, мастакоў, артыстаў, і не проста бачыў, але й знаёміўся з імі. Ды пасада рэдактара пісьменніцкай газеты надала тым знаёмствам іншы характар і адметнасць, паспрыяла больш блізкім стасункам з многімі тымі знаёмцамі, найперш з літаратарамі.

Гэтак — і з Васілём Віткам. Ведаў я і да рэдактарства ў "ЛіМе" Цімоха Васільевіча, шмат разоў сустракаўся і ў рэдакцыі, і ў Доме літаратара на самых розных сходах, пасяджэннях і вечарынах, але толькі з 1990 года, калі Анатоль Вярцінскі "перадаў" мне кіраўніцтва новым, ці прынамсі абноўленым "ЛіМам", простае маё, шапачнае, як кажуць, знаёмства з Цімохам Васільевічам (дарэчы, былым рэдактарам "ЛіМа"), набыло іншыя акцэнты і абсягі.

*Заканчэнне. Пачатак у №4 (83).*

Нeяк Цімох Васільевіч нечакана падсеў да мяне ў не надта перапоўненай зале Дома літаратара і, пакуль там штосьці пачалося на яе невялічкай сцэне, паспеў папытаць у мяне, што новага ў тыднёвіку, які яго тыраж, што будзе цікавага ў бліжэйшых нумарах. Потым неяк пазваніў – падзяліцца радасцю ад прачытанага ў газеце артыкула і падзякаваць за гэтую радасць. А пасля і сам зайшоў да мяне ў кабінет і пасядзеў мо з паўгадзіны, ціхавата, з добрай, ледзь прыкметнай у краёчках вуснаў усмешкаю распавядаючы, што такія вось паходы ў гэты наш дом ля плошчы Перамогі даюцца яму ўжо з цяжкасцю, ды – прагне душа і просяць вочы і вушы пачуць што і пабачыць, пабыць хвіліну-другую сярод маладзейшых паплечнікаў, каб хоць трошачкі і сябе адчуць маладзей, уведаць якія-сякія літаратурныя навіны.

Такіх ягоных прыходаў у “ЛіМ” было некалькі, і я кожны раз невыказна радаваўся візіцёру, і ўважліва слухаў ягоную няспешную, заўсёды дзелавую і разумную гаворку пра газету, пра тыя ці іншыя публікацыі ў нас і ў іншых выданнях, пра пісьменнікаў і іхнія кніжкі, пра нашу мову і яе стан і месца ў школе, ВНУ, наогул у жыцці, пра нізкую культуру пісьмовай і вуснай мовы, што выклікае вялікую трывогу, і пра многае-многае іншае.

Я глядзеў на яго, слухаў і са шчымлівай скрухай думаў аб тым, што пры інакшым збегу абставінаў і акалічнасцяў мы, беларусы, маглі б быць не сярмяжнай, вясковай, мужычай нацыяй, а нацыяй інтэлігентнай, адукаванай, усебакова культурнай, высокадухоўнай. Згадваліся чамусьці акадэмікі (і літаратары) Гаўрыла Гарэцкі і Алесь Вечар, якіх мне таксама пашчасціла ведаць: сапраўдныя беларускія інтэлігенты першага паслярэвалюцыйнага прызыву, прытым не проста інтэлігенты, а з пазнакаю нейкае асаблівае, няйначай шляхецкае выкшталцонасці, што неаспрэчна гаварыла аб тым, што беларусы здаўна былі акурат шляхетным народам.

Цімох Васільевіч на нейкі дзясятак гадоў маладзейшы за згаданых Гаўрылу Іванавіча і Аляксандра Сцяпанавіча (за аднаго – больш, за другога – менш), значыць і ён, па сутнасці, з таго ж першага прызыву, з ліку тых, каго нейкім шчаслівым чынам абышла, не вынішчыла бязлітасная сякера сталінскіх рэпрэсій. Ішлі 90-я гады савецкага стагоддзя, і такіх сапраўдных беларускіх інтэлігентаў заставалася ўжо вельмі мала, як кажуць – адзінкі. Тым больш усцешна было бачыць і слухаць аднаго з іх.

А Цімох Васільевіч не толькі заходзіў, але і пісаў мне. І часцей, чым выбіраўся ў нялёгкую для сябе дарогу ў “ЛІМ”: пераваліла яму тады ўжо за восемдзясят. Быў я, на жаль, не надта акуратным і беражлівым у абыходку з паштовай карэспандэнцыяй, у выніку шмат што страцілася. Тым не менш, тры лісты Васіля Віткі ў маёй папачцы ёсць. І яны безумоўна ўяўляюць немалую цікавасць і каштоўнасць. Як дакументы і неардынарнай асобы, і таксама, вядома ж, часу.

*21.02.1993.*

*Дарагі Мікалай Сямёнавіч!*

*Сардэчна Вам удзячны за Вашу добрую ўвагу да маіх старэчых намаганняў нешта яшчэ сказаць, чаго не мог і не ўмеў раней.*

*Па водгуках, якія я меў і чуў за час пасля апублікавання ў Вас маёй “міфалагічнай паэмы”, я яшчэ не павінен апускаць долу хваста, дый самі абставіны жыцця агульнага і асабіста майго ўласнага вымушаюць варушыцца. Калі б не праца, не мая бяссоніца—начная надомніца, я зусім бы занепаў духам і душою.*

*Прызнаюся, што раней паэзіі, апублікавай Вамі, у мяне мінулым пякельным летам напісана проза – чатыры апавяданні-эсэ. Памер невялікі – усяго 15 старонак машынапісу. У выпадку дэфіцыту на гэты жанр гатоў буду прапанаваць Вам. Называецца “Дзённік лета-92”.*

*Мая дачка Наташа перадасць Вам невялічкую падборку з трох вершаў-прысвячэнняў. Пастаўце на чаргу. Не хачу назаляць ні Вам, ні чытачам.*

*Зараз пераключуся на працу для дзяцей. Напісаў артыкул "Дзеці і мова" і ў вершах "Слоўнік для дзяцей".*

*Можа, падахвоціцца "Полымя" надрукаваць. Некалі ж, блізка паўвека таму назад, яно ж друкавала мае першыя казкі "Вавёрчына гора" і "Буслінае лета".*

*Вось такая Вам мая справаздача. Кагадзе што прачытаў новую аповесць Васіля Быкава "Сцюжа". Мяркуючы па датах, пісалася яна доўга, але сам Гасподзь Бог блаславіў яе з'яўленне на свет – уцэліла якраз у час, калі зноў, яшчэ болей настырна і нахабна заварушылася падпольная і падземная наменклатурная рэакцыя, спадзеючыся вось-вось ухапіць лейцы ў рукі і пачаць "ратаваць" зняверанае, збітае з тропу грамадства.*

*Прывітанне Вам і самыя лепшыя пажаданні Вам і калектыву супрацоўнікаў роднай мне газеты, якой некалі і я аддаў ажно дзесяць год жыцця – не з лепшых, вядома, і не шчаслівейшых, а пад няўпынным наглядам прыдворнай і надворнай чэлядзі.*

*Ваш Васіль Вітка.*

*7.12.1993.*

*Дарагі Мікалай Сямёнавіч!*

*27 снежня – 70 год Анатолю Вялюгіну. Памятаеце, будучы ў Вас, як я быў усцешаны публікацыяй яго вершаў у "ЛІМе".*

*Меў рацыю калісьці другі майстра паэзіі Мікалай Ушакоў, сказаўшы: "Чем продолжительней молчанье, тем удивительнее речь".*

*Дамагаўся тады павіншаваць Анатоля Сцяпанавіча, але мне сказалі, што наш астранаўт усё яшчэ ў космасе, толькі ўжо недзе блізка – над Лысай гарой.*

*Калі знойдзеце вартым, надрукуйце маё павіншаванне ў яго юбілейны дзень.*

*Маю ж падборку з кнігі "Апошні аўтограф чорнага дзятла", пэўна ж, ужо недзе пазней, у Новым годзе.*

*З прывітаннем і пашанай Васіль Вітка.*

*P.S. Фрагмент з карціны Босха вельмі хацелася даць як ілюстрацыю да верша, прысвечанага Арлену Міхайлавічу Кашкурэвічу – "Тысячагадовае царства". Магчыма, з неабходнай рэтушыроўкай.*

*Дарагі Мікалай Сямёнавіч!*

*З Новым годам, з самымі найлепшымі пажаданнямі Вам, усім Вашым супрацоўнікам і аўтарам. На вераб'іны скок прыбыў дзень і ўцешна, што ў новым годзе на пяць тысяч павялічыўся тыраж нашай газеты!*

*Калі Вы прызналі вартымі ўвагі тыя тры маіх вершы, пасланыя Вам у мінулым, старым годзе, прашу Вас у канец падборкі дадаць і гэтыя два, напісаныя адпаведна сезону ўжо ў гэтым годзе: "Мы без зімы" і пра паэта-мядзведзя.*

*І вельмі прашу не забыць, калі будзеце друкаваць, пра ілюстрацыю да верша "Тысячагадовае царства" – фрагмент з карціны Іераніма Босха, якая, спадзяюся, болей выкліча ў чытача думак, чымся мой верш. Тым больш, што гэта яго першая публікацыя (маю на ўвазе – верш).*

*Сардэчна Ваш Васіль Вітка.*

*10.01.1994.*

## "СТАРАЎСЯ ДАЦЬ АБ'ЕКТЫЎНУЮ АЦЭНКУ..."

Уладзіміра Андрэевіча Калесніка я, канечне, ведаў, аднак бачыў яго, а тым больш кантактаваў – рэдка, хіба ў дні агульнасаюзаўскіх мерапрыемстваў: сходаў,

пленумаў, з’ездаў, а таксама пры выпадковых сустрэчах дзе-небудзь у рэдакцыях часопісаў ці выдавецтваў. Знаны наш крытык і літаратуразнаўца жыў і працаваў у Брэсце, дзе меў надзвычай высокі і неаспрэчны аўтарытэт як выхавальнік і рупны, клапатлівы настаўнік маладых літаратараў Берасцейшчыны. Праца выкладчыка ў Брэсцкім педінстытуце (цяпер універсітэт) не дазваляла яму часта “адлучацца з дому”, аднак жа адарваным ад літаратурнага жыцця ён не быў і не мог быць. Гэтаму супярэчыла ўся яго няўрымслівая і надта ж жыццядзейная натура, актыўная жыццёвая і творчая пазіцыя, надзвычай кампанейскі і сяброўскі характар. Асабліва блізка сябраваў ён з Янкам Брылём і Алесем Адамовічам, якіх лучыла, акрамя ўсяго іншага (скажам, агульнасць літаратурных густаў і інтарэсаў), і агульная партызанская маладосць. Так што нараджэнне іх славутых дакументальных кніг пра беларускія Хатыні і Ленінградскую блакаду зусім невыпадковае.

У “ЛіМе” Уладзімір Калеснік друкаваўся нячаста. Мо таму, што быў ён, па ўсім, усё ж не “газетным” літаратарам, хоць і шчыраваў у самым баявітым і надзённым жанры – жанры крытыкі. Выкладчыцкая, даследчыцкая праца, пэўна, схіляла яго больш не да сціслых газетных форм крытычных выступленняў, а да больш аб’ёмных, грунтоўных, фундаментальных. Тым не менш, і ў “ЛіМе” з”яўляліся ягоныя выступленні, няхай сабе і не гэтак часта, як хацелася б: кожнае з іх было важкае, глыбокае, прынцыповае і дадавала нумару акрасы і вагі.

У маёй рэдактарскай папцы захаваліся тры лісты Уладзіміра Андрэевіча: адзін 1992 года і два – 1994-га. Усе тры тычацца ягоных публікацый у “ЛіМе”. Адзін, дарэчы, машынапісны, два іншыя – ад рукі.

*Брэст, 5.05.92.*

*Дарагі Мікола Сымонавіч!*

*Высылаю Табе матэрыял пра Анатоля Іверса, яго 80-годдзе 15 мая г.г. Стараўся даць аб’ектыўную ацэнку гэтага збіральнага і паказальнага шляху маралiста ў сумбуры змагарскіх прыліваў і адліваў. Далёка не поўны малюнак. У мяне амаль гатовы праблемны артыкул пра канфлікты Іверса з Хмарам і Новікавым-Пеюном, пра яго размову з Арсенневай, А. Станкевічам, адным словам, пра калацею, якая не спыняецца, і як з яе выйсці дастойна. Калі Цябе гэты матэрыял зацікавіць, магу прыслаць, хай выйдзе там, дзе друкаваліся панегірык Хмару і Іверсава антыхмара. Калі ж не маеце ахвоты больш гаварыць пра гэта, дык пашлю куды-небудзь у іншае месца. Для Вас рыхтую адказ на анкету, спрачаюся крыху, і ўсё гэта раблю, лежачы ў бальніцы, таму мажлівы і хібы, і недаацэнкі.*

*З прывітаннем У. Калеснік.*

Кароценькі лісток, а — нямала гаворыць пра ягонага аўтара. “Стараўся даць аб’ектыўную ацэнку...” І гэта – пра юбілейны артыкул! Ды Уладзімір Андрэевіч інакш не мог, ён не даваў сабе палёгкі ці паблажкі ні ў чым і ніколі. Нават пра “калацею”, у якую любіў улазіць А. Іверс, У. Калеснік піша “праблемны артыкул”.

І яшчэ адно. Звяртаецца да мяне аўтар ліста на “Ты”, але – з вялікай літары. Дальбог жа, няйначай гэта мілы жарт Уладзіміра Андрэевіча. Ён, як мне падавалася, наогул быў вясёлы чалавек. Прынамсі, амаль заўсёды асвятляла ягоны добры твар добрая някідкая ўсмешка.

*Берасце, 19.II.94.*

*Паважаны Мікола Сымонавіч!*

*Высылаю новы, дапрацаваны варыянт адказу на першае пытанне анкеты. Той тэкст, што перадаў Лецка, пісаўся спехам і не дужа адпавядае зместу пытання. Думаю, што рэдакцыя згодзіцца з гэтым другім.*

*Урывак партызанскіх успамінаў “Адвечны кліч”, мне думаецца, патрэбны, каб не назоліста, але пераканальна, без выдумак нагадаць чытачам і перш за ўсё творчаму асяроддзю, што дадзенага чалавеку ад прыроды патрыятычнага пачуцця, абавязку бараніць радзіму ад захопнікаў, не мудрагелячы, не падлізваючыся да захопнікаў, нельга сёння абрыджваць, прыпісваць яго бальшавіцкай ідэалогіі ды падаваць за ганьбу. З гэтых маніпуляцый патрыятычнымі прынцыпамі і запаветамі ўжо маем дзікае разлажэнне моладзі; злачыннасць, гвалтаванні, дэзерцірства з войска і дзясяткі іншых звыроднеласцей. Нельга цярпець браканьерства ў сферы этычных нормаў, якія выпрацавалі людзі на зары цывілізацыі і племяннога гуртавання дзеля выжывання і разумнага сужыцця ўнутры кроўна-роднасных сябрын. Зноў скубуць і прадаюць Беларусь маскалям атлусцелыя ад спалучэння партработы з бізнесам партыйныя функцыянеры. Трэба шукаць паратунку і ўправы на іх.*

*Калі матэрыял не прымеце, то пазвані, калі ласка, Ягоўдзіку (ён працуе ў “Нёмане”) – хай прыдзе і забярэ.*

*З прывітаннем У. Калеснік.*

І апошні ліст – як працяг папярэдняга, хоць напісаны больш чым праз месяц. Ліст гэты пісаўся відавочна ўжо зусім хворым Уладзімірам Андрэевічам, аб чым красамоўна гаворыць “зблажэлы” почырк, ды клопат, турбота ягоная – усё аб тым жа.

*Паважаны Мікола Сымонавіч!*

*Пасылаю тры невялікія ўдакладненні да сваіх партызанскіх успамінаў, якія рэдакцыя прыняла (дзякуй Вам) да друку. Апошні кавалачак трэба ўставіць на месца фінальнага расказу недзе ў канцы тэксту на месца таго, што там ёсць. Гэты матэрыял больш інфармацыйна дакладны.*

*Два кароценькія фрагменцікі, што стаяць на пачатку аркуша, трэба ўставіць як удакладненні. Першы пасля апісання бою, дзе я гавару пра выкліканы карнікамі самалёт. Другі фрагмент, дзе даецца колькасць забітых у Лядках людзей, партызанскіх сем’яў, трэба ўставіць пасля ўспамінаў Лявона Уласевіча, дзе ён гаворыць пра тое, як забівалі малых дзяцей.*

*Жадаю Табе поспеху ў працы на карысць маральнага і творчага прэстыжу бел. літаратуры.*

*У. Калеснік.*

*29.III.1994. Берасце.*

Згаданы клопат ці турбота, як бачым, аб тым, каб удакладніць тое, без чаго будзе “далёка не поўны малюнак” ці не будзе “аб’ектыўнай ацэнкі” падзеі альбо сітуацыі, а праўду нельга абрыджваць, як і шчырае пачуццё “падаваць за ганьбу”. Маральны і творчы прэстыж роднай літаратуры быў для Уладзіміра Андрэевіча і на парозе небыцця катэгорыяй чыстай і святой.

Дзякуй лёсу, што зводзіў мяне з такімі людзьмі.

## “ДРЭМЛЕ ПАМЯТКА ДЗЁН...”

Акурат гэтакая назва просіцца да лістоў пісьменнікаў і шараговых чытачоў “ЛіМа”, што ляжаць у маёй папачцы. Яны сапраўды “памяткі дзён, што ў нябыт уцяклі”. І гэтая апошняя акалічнасць самая сумная. Памяткі нагадваюць пра лепшы для ўсіх нас час, бо нават і апошнія зімы і леты дзевяностых гадоў яшчэ зберагалі нейкую надзею, давалі хоць малы, але спадзеў на перамены. Цяпер жа – глуш і захламленыя нетры, непрабудныя і неадольныя...

Неяк, будучы ў брата Ніла, гартаў кніжку ўспамінаў Дануты Бічэль "Хадзі на мой голас". Найцікавая, найзмястоўная, найталенавітая, найцэласная і найцэльная рэч, з якой і сама аўтарка, знаная дасюль адметнай, вельмі адмысловай ладам, складам і вобразамі паэткай, уласцівым толькі ёй абсягам лірычных тэм і матываў, паўстала шмат у чым у новым святле. Ну, скажам, многія мясціны і старонкі кнігі выяўляюць яе аўтара як майстра "густой" і густоўнай прозы і вострай, баявітай, проста палымянай публіцыстыкі. І як не ўсцешыцца, што – быў час – яна пісала лісты і мне, грэшнаму?

У папцы – два з іх. Адзін пазначаны 16 днём кастрычніка 1997 года. Я ўжо не быў рэдактарам "ЛіМа", мяне літасціва "апусцілі" да намесніка, але Данута Іванаўна па старой, як кажуць, звычцы (ці дружбе) чырканула лісток і мне, каб падтрымаў кандыдатуру А. Чобата прадстаўляць у Гародні інтарэсы "ЛіМа": новы шэф тыднёвіка У. Някляеў абяцаў ёй гэта пры ўмове, што ўдасца выбіць паўстаўкі спецкара ў вобласці. "Падстрахуйце і Вы гэтыя паўстаўкі для Алеся. Ён будзе карысны для "ЛіМа", і гэта будзе якраз тое, што яму тут трэба. Бо яго жонка пракорміць, але каб мець хоць якую незалежнасць, на цыгарэты трэба мець свае кішанковыя заробкі", – пісала Д. Бічэль – не, яшчэ тады і Загнетава, бо кніжка "Хадзі на мой голас" пазначана ўжо колішнім, першапачатковым паэтычным імем. І дадавала скрушліва: "Вось такі празаічны ліст у мяне да Вас атрымаўся, такая простая просьба. Прывітанне сям'і Вашай і "ЛіМу". Здароўя Вам і натхнення".

Варта тут таксама празаічна і з сумам заўважыць, што ніякай паўстаўкі для вобласці ў рэдакцыі не з'явілася, і таленавіты Алесь Чобат так і не стаў "лімаўцам".

А другі кароценькі лісток – ад 3 сакавіка 1999 года:

*Мікола Сымонавіч!*

*Калі вершаў зашмат на падборку, то можна зняць на Ваш выбар любы верш са старонак 11-15, г.зн. лірыку. Я чаму гэта пішу? Мне надта хочацца, каб былі надрукаваныя ўсе пра музей і панямонскую інтэлігенцыю. З іх – як з гуся вада, іх не праймеш, але мне крыху можа палягчэе, адкуль я ведаю.*

*Жадаю Вам цёплай вясны, добрай пагоды, добрых людзей і добрых справаў, здароўя Вашым блізкім і ўсёй рэдакцыі "ЛіМа". Данута.*

Вось так: яшчэ і ў 1999-м Данута Іванаўна звярталася да мяне як да рэдактара. Што ж, паэтам, а тым больш паэткам і сам Бог наказваў быць трошкі наіўнымі, ці рассеянымі. А я вось чытаю сёння ейны напісаны буйным, трошкі размашыстым, хоць і акруглым почыркам лісток, і – "печаль моя светла"...

І гэты ліст на адным баку папяровага аркушыка, што прыйшоў у "ЛіМ" з вёскі Папялёва Пружанскага раёна, вельмі дарагі мне. Прыслаў яго таленавіты паэт і празаік, слаўнай, шчырай і безабароннай, проста птушынай душы чалавек, цяжка хворы, але тым не менш непаседлівы, вечны бадзяка Мікола Купрэеў. Нехта трапна, здаецца, назваў яго "Драздовічам другой паловы XX веку". У гэтым вызначэнні нямала слушнасці: як і Драздовіч, Купрэеў быў шчодра адораны ад прыроды; як і Драздовіч, Купрэеў быў такі ж самотны і гаротны бессярэбранік; як і Драздовіч, Купрэеў быў гэтакі ж чалавекалюб і гэтакі ж бадзяка, якому не сядзелася на адным месцы нават і тады, калі сябры і знаёмцы стваралі яму сякія-такія ўмовы для гэтага.

Рады, што ў нас былі досыць цёплыя, шчырыя, амаль сяброўскія адносіны. Кажу гэта без выхвалення і не таму, што ён ужо не можа аспрэчыць мяне: Мікола ўжо даўнавата ў лепшым, як кажуць, свеце. Проста – вось перада мною згаданы ліст, напісаны ягонаю рукою. Почырк Міколаў мне добра знаёмы, бо ўсё, бадай,

прысыланае ці прыношанае ім у рэдакцыю было напісана ад рукі: ён наўрад ці разжыўся на такі жаданы калісьці нам прадукт цывілізацыі, як друкавальная машынка.

А пісямко такое:

*Дзень добры, дарагі Мікола Сямёнавіч!*

*Пішу табе і дасылаю нізку – з бальніцы, таму прашу: прабач, што вершы не аддрукаваныя на машынцы – няма ніякай магчымасці...*

*Табе я, Мікола, глыбока ўдзячны, што гэтак хутка ты даў у "ЛіМе" маю тую, чэрвеньскую, нізку. Гэта вельмі падбадзёрыла мяне, – бо ў жыцці гэтым ужо мала што можа бадзёрыць...*

*Наколькі мне вядома, секцыя паэзіі рэкамендавала мяне ў Саюз, а прыёмная камісія, мабыць, будзе разглядаць пытанне недзе ў пачатку новага года. (Таму і дасылаю гэтую нізку.) Рукапіс зборніка ў выдавецтва здадзены. Час такі, што прыдзецца доўга (калі прыдзецца ўвогуле) чакаць...*

*Усяго табе добрага, Мікола! А найперш, галоўнае, – здароўя. (Хто-хто, а я ведаю, што гэта такое – здароўе.) І – ездзі ў лес! У лес!*

*Мікола (Купрэеў).*

*10 снежня 92 г.*

Усе, хто ведаў яго больш-менш блізка, скажуць, прачытаўшы ліст: гэта ён, Мікола Купрэеў, Сымонаў сын.

Дарагое для мяне і гэтае пісямко – ад Ірыны Жарнасек з Полацка, таленавітай пісьменніцы, публіцысткі ды й грамадскай дзяячкі. Таксама з ліку нашых, "лімаўскіх" аўтараў, унёскамі якіх таднёвік ствараўся, жыў і набываў аўтарытэт.

Пісьмо, па ўсім, 1997 года (на жаль, яно без даты і без канверта са штэмпелем). Дзелавое і, зноў жа, сяброўскае:

*Шаноўны Мікола Сямёнавіч!*

*Дасылаю Вам сваё апавяданне "Агонія". Страшнаватае – сама разумею. Ды, мабыць, наш час не можа ўжо натхніць мяне на іншыя творы. Зрэшты, не адну мяне. Хаця Іван Пятровіч вунь жа кажа, што парадак ужо наведзены. Не зразумела толькі, чаго ён тады сумуе па "станоўчых" героях для сваіх твораў. Няхай тады і піша на здароўе пра таго, хто навёў той парадак. Прызнацца, спачатку засвярбелі ў мяне рукі адказаць яму праз "ЛІМ", а потым махнула рукой – што там накідвацца на старасць, якая нарэшце дачакалася таго, чаго чакала, мабыць, з маладосці.*

*Маё апавяданне велікаватае для "ЛіМа" – разумею. Але што рабіць, калі такая ўжо агонія напаткала гэтага цара. Друкаваць жа дзесьці яшчэ?.. Нешта не бачу, дзе б гэта можна было зрабіць.*

*Усяго Вам найлепшага! Трымайцеся!*

*Ірына Жарнасек.*

На жаль, апавяданне на старонкі тыднёвіка не трапіла. Спадарыня Ірына, пэўна, не наракала і не крыўдавала на мяне і на маіх аднадумцаў-"лімаўцаў": бачыла, ведала, што "ЛіМ" ужо ўсё часцей і тужэй падсупоньваўся і закілзоўваўся...

А вось дзве "памяткі дзён" з-за мяжы. Першы ліст – ад Уладзіміра Палупанава, "лімаўскага" аўтара і, дарэчы, майго земляка, з блізкага ад маёй Слабады Кораня на Лагойшчыне, ліст на афіцыйным пасольскім бланку з чырвонай Пагоняй-гербам і з надпісам па-французску "Амбасада Рэспублікі Беларусь у Францыі":

*Парыж, 6 сакавіка 1996 г.*

*Паважаны Мікола Сымонавіч!*

*Мае самыя шчырыя прывітанні Вам і ўсяму адважнаму калектыву "ЛіМа", які працягвае бараніць беларушчыну ў цяжкі для Бацькаўшчыны час. Віншую ўсіх жанчын з надыходзячым святам 8 сакавіка. Няхай ім сонейка ласкава свеціць і падымае настрой! Віншую таксама ўсіх з галоўным нашым святам 25 сакавіка. Упэўнены, будзе яно ў календары і ў сэрцах беларусаў, і залунае яшчэ наш сцяг і ўздымецца наша Пагоня. Ваш калектыў, разам з усімі сумленнымі людзьмі нашага здратаванага краю, робяць дзеля гэтага магчымае і немагчымае. Нешта робім і мы, сціплыя беларускія дыпламаты, удалечыні ад Радзімы, спрабуючы тлумачыць людзям усяго свету тое, што зараз у нас адбываецца... Я адказваю ў Амбасадзе Рэспублікі Беларусь за пытанні культуры і прэсы. Даводзіцца няпроста, асабліва з апошнім. Пішуць пра Беларусь не дужа прыхільна. Вядома, што мы перадаём гэтую інфармацыю вышэй. Але там, відаць, да яе не прыслухоўваюцца.*

*Паважаны Мікола Сымонавіч, я працягваю тут сваю перакладчыцкую справу. У сувязі з 170-й гадавінай газеты "Фігаро", у ёй друкуецца шмат унікальных артыкулаў, якія некалі былі напісаны для гэтай газеты вядомымі пісьменнікамі, крытыкамі. Я перадаў вялікі артыкул Эміля Заля "Мае агіды" больш як месяц назад. Спадзяюся, што Вы яго атрымалі. Зараз, карыстаючыся нагодай, перадаю яшчэ адзін матэрыял...*

*З павагай У. Палупанаў.*

Само сабою, нічога з тых матэрыялаў "ЛіМ" не надрукаваў, бо Палупанаў неўзабаве трапіў у лік "персона нон грата": ён, па ўсім, адчуў, што за ім сочаць, і пакінуў пасольства, папрасіўшы ў французскіх улад палітычнага прытулку. Калі ён вернецца на Бацькаўшчыну, калі зноў будзе шчыраваць на ніве нашай культуры і літаратуры? Калі знікне сённяшні, як з'іранізаваў Алесь Чобат, прыжым. Хутчэй за ўсё, не раней.

Другі ліст – з Канады, ад Барыса Рагулі. Але, але, таго самага, калабаранта ў гады Вялікай Айчыннай вайны, камандзіра батальёна, які ўдзельнічаў у карных аперацыях супраць партызан (калі верыць КДБ), кіраўнік першага кадравага батальёна Беларускай краёвай абароны і афіцэрскай школы пры ім і г.д., а пасля вайны – эмігрант, член Згуртавання беларусаў Канады, з 1971 года намеснік прэзідэнта Рады БНР і інш. Ліст ягоны ў "ЛіМ" пазначаны снежнем 1992 года. Гэта нават не ліст, а – артыкул, бо без зваротку, але затое – амаль са шматзначным загалоўкам "Ці варта ўспамінаць". Пад гэтым загалоўкам – такі тэкст:

*Кожны чалавек, кожны народ мае сваё прошлае, сваю гісторыю. Забяры ад яго гэтае мінулае й такая адзінка не можа нармальна існаваць. Возьмем прыклад чалавека, які ў выніку цяжкой аварыі страціў памяць. Ён не ведае, хто ён, дзе жыў, дзе нарадзіўся ды адкуль ён узяўся. Гэта вельмі нешчаслівыя людзі й часта канчаюць самагубствам. Я думаю, што падобнае з'явішча таксама й з народамі, якія пазбаўлены сваёй гісторыі. Тут я маю на веце наш Беларускі народ. Савецкія ўлады ўсімі спосабамі, уключна із крымінальнымі, намагаліся забраць нашую гісторыю. Амаль тры пакаленні ўзгадоўваліся на тым, што толькі савецкая ўлада дала дзяржаўнасць беларускаму народу, ствараючы штучны твор БССР у 1919 годзе. Не было мовы аб акце 25-га сакавіка, аб слуцкім паўстанні, аб вялікай і багатай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Каліноўскі калі й успамінаўся, дык не як змагар супраць акупацыйнага рэжыму Масквы. Мову забралі разам з гісторыяй. Намагаліся асягнуць поўную нацыянальную амнезію, каб стварыць паслушнага аўтамата, а імя ягонае Гома Савецікус. Сяння часта чуем, ці варта ўспамінаць прошлае. Лепш можа забыцца ды пачаць будаваць новае, г.зн. забыцца*

*аб усіх тых здзеках з нашага народа, аб нялюдскіх праступках, здзейсненых органамі КГБ ці былога НКВД, забыцца аб Курапатах, забыцца аб нялюдскіх ссылках, забыцца аб нявіннай смерці мільёнаў беларусоў. Жыды не дазволяць забыцца свету аб шасці мільёнах іхніх суродзічаў, замардаваных гітлераўскімі бандамі. Не дазволяць забыцца не таму, што хочуць помсты, але таму, каб свет не забыўся аб гэтых праступках, толькі таму, каб яны больш не паўтарыліся. Катынь, Курапаты, Салаўкі... Колькі іншых мейсцаў масавага забойства, яшчэ не адкрытых. Калі нацысты масава знішчалі людзей, дык прынамсі сваіх не чапалі, тады калі Вялікі Бацька народаў, пры дапамозе слаўных дзяржынскіх, ягодаў ды берыяў патрапіў знішчыць сваіх блізка 60 000 000 людзей. Адно ў 1937-ых гадох знішчыў 40 000 лепшых афіцэраў. Рэзультат быў відавочны ў часе фінляндскай вайны ды ў 1941 г. Яшчэ сёння ёсць элементы сярод старога, крымінальнага рэжыму, якія называюць ворагамі ўсіх тых, хто змагаўся супраць савецкага акупацыйнага рэжыму. Не супраць Рэспублікі Беларусь, якая сяння прыняла Пагоню і Бел-Чырвона-Белы сцяг, пад якімі яны змагаліся, каб жыла Беларусь. Колькі жывых саўдзельнікаў у масавых забойствах сяння яшчэ, прыкрытыя ордэнамі, схаваўшыся чакаюць, можа яшчэ прыйдзе новая змена ды яны прыдадуцца із сваім пасведчаннем. Помсты мы не хочам, але трэба, каб новае пакаленне ведала прошлае ды не дапусціла яго паўтарэння.*

*Б. Рагуля.*

Тая ж праўда ў прыведзеных вышэй лістах У. Калесніка: “...дадзенага чалавеку ад прыроды патрыятычнага пачуцця, абавязку бараніць радзіму ад захопнікаў, не мудрагелячы, не падлізваючыся да захопнікаў нельга сёння абрыджваць, прыпісваць яго бальшавіцкай ідэалогіі ды падаваць за ганьбу”. Беларускі народ павяло на масавую барацьбу з акупантамі найперш акурат высокае патрыятычнае пачуццё.

Пра гэта ж, па сутнасці, і ліст Івана Чыгрынава ад 7 чэрвеня 1991 года. Выкліканы ён быў допісам архітэктара І. Кручонка, змешчаным напярэдадні ў “ЛіМе” ў падборцы водгукаў на тэлефільм “Плач перапёлкі”. На добры лад, допіс нявартa было б і друкаваць: ён занадта злосніцкі, бяздоказны, з беспадстаўнымі нападкамі на аўтараў, з крыкам аб тым, што абрыдла ўжо бачыць на экране такую правільную партызанскую вайну на чале з партыйнымі кіраўнікамі і вайну наогул, час проста перастаць пісаць пра яе. Нягледзячы на ўсё гэта, мы ліст надрукавалі. Ну а як жа ж! Дэмакратыя і галоснасць! Кожны мае права выказаць сваё меркаванне!

Івана Гаўрылавіча допіс абурыў, закрануў, як кажуць, за жывое. І цалкам зразумела. Бо фільм быў якраз не з горшых, гэта была адна з удач нашых кінематаграфістаў, з прафесійнай рэжысурай і добрымі акцёрскімі работамі.

Па гарачых слядах, у адпаведным настроі І. Чыгрынаў пісаў:

*Дарагі Мікола Сямёнавіч, мы з табой даўнія знаёмцы, і ты ведаеш, што я ніколі не ўмешваўся ў міжлітаратурныя бойкі. У літаратуры трэба працаваць. Адно гэта яе ратуе. Але вось фільм “Плач перапёлкі”... На старонках тваёй газеты раптам пачаліся... спрэчкі. Іх можна называць усяляк... Асабліва мяне здзівіў допіс “архітэктара” І. Кручонка. Вось ужо праўда дык праўда – прырода надзяляе чалавека ўсім дакладна. Нават прозвішчам. А нянавісць... Колькі нянавісці ў гэтым чалавеку!.. Але штосьці я, пажылы чалавек, не ведаю такога архітэктара. Відаць, І. Кручонак архітэктар толькі па дыплому. І таму ён... гэтак бессаромна лезе ў справы творцаў, якія будуюць, малююць, пішуць... А яму б, перш чым выступаць з падобнымі допісамі, належала збудаваць (спраектаваць) свой дом, міма якога прыемна было б хадзіць ці ездзіць.*

*Але сутнасць, па-праўдзе, і не ў гэтым. І. Кручонак бярэ на сябе ролю суддзі... і па гісторыі, і па кіно, і па літаратуры... Тым часам не ўбачыў я ў ім паводле надрукаванага допісу ні "патрыёта", ні "нацыяналіста", ні проста "сведамага чалавека". І. Кручонак, як мне здаецца, звычайны... абывацель, які вырашыў папырскаць злосцю ў жанры, які мы завем "прыгожым пісьмом". Другім разам на такое пырсканне можна было б і не звярнуць увагі, аднак цяпер такі час, што многа вакол гнюсу, ажно не да далікатнасці... А я, між тым (няхай будзе і гэта вядома), усё яшчэ пішу пра "мінулую вайну", якой яна была. Яе нікому не пераваяваць – ні былым паліцэйскім, ні партызанам, ні іхнім нашчадкам. Яна ўжо ў гісторыі, з гісторыяй, а, значыць, назаўсёды з народам.*

*Твой Іван Чыгрынаў.*

Дадаваць тут што-небудзь наўрад ці ёсць патрэба. Хіба адно. Іван Гаўрылавіч у пачатку пісьма пазначыў: "Прашу гэты ліст апублікаваць". Але на старонках тыднёвіка ён так і не з'явіўся. І ўжо не па нашай віне. Сам пісьменнік, як кажуць, "астыўшы", палічыў ніжэй сваёй годнасці спрачацца з дылетантам і зласліўцам.

Пераношу і гэты ліст на электронны носьбіт, хоць і без асаблівае ахвоты. Не-не, сам ліст, адрасаваны асабіста мне, не выклікае аніякіх пярэчанняў, наадварот, ён, як пісаў класік, прыемны ва ўсіх адносінах. Засмучае іншае. Ліст – ананімны, падпісаны "Ваш чытач", а пад вершам стаіць псеўданім "Алесь з Прыдзвіння". Паводле штампа Мінскага прычыгуначнага паштамта, адпраўлены ліст 28 снежня 1993 года. Апошняя акалічнасць яшчэ больш здзіўляе: чым была выклікана ананімнасць? Час жа быў акурат самы што ні ёсць дэмакратычны бадай за ўсю гісторыю Беларусі. Няўжо віною – праклятая беларуская абачлівасць, боязь "кабы чего не вышло"? Пэўна ж. Падумаеш гэтак, і ўжо без асаблівага пачуцця ўдзячнасці і замілавання чытаеш і сам ліст, і дасланы разам з ім верш. Вось яны:

*Шаноўны рэдактар! Калі магчыма, то надрукуй гэты верш у "ЛіМе". Калі ж такой магчымасці не будзе, то перадай яго на памяць Ніле Сымонавічу Гілевічу. Я вельмі паважаю яго за вялікую мужнасць і шчырасць, за абарону Беларускай мовы.*

*З павагай, Ваш чытач.*

І верш:

Магутны, вольны вецер века
Над краем хмары разагнаў.
Народ дзяржавы Беларусі!
Твой зорны, светлы час настаў!

Нялёгкі лёс табе дастаўся –
Ты зведаў войны, здзек, прымус.
Апошні шанц твой надыходзіць,
Устань з каленяў, Беларус!

Шчэ не змарнелі твае сілы
І розум светлы не пагас.
Смялей, браты! Да новай долі!
У светлы шлях, у добры час!

Засеем нівы буйным зернем,
Збудуем дом дзяржаўны свой
І шчасце новае здабудзем
З'яднанай, дружнай грамадой.

У небе сцяг лунае горда,
Што к нам вярнуўся з небыцця,

І мужны продак, меч узняўшы,
Заве да новага жыцця.

*Алесь з Прыдзвіння.*

Ну і хто ты, Алесь? Кажаш – адно, а сам усё той жа, з дуляй у кішэні? Ці, можа, нейкія асаблівыя абставіны змусілі цябе застацца ў невядомасці? Буду думаць акурат гэтак.

Куды лепшыя эмоцыі ажыўляе ў душы ліст з горада Ліды. Просценькі, звычайны чытацкі ліст:

*Паважаны Мікола Гіль.*

*Я чытач "ЛіМа", я задаволены амаль поўнасцю зместам штотыднёвіка. Моладзь пайшла ў наступ – значыць, не жадае жыць па старых уставах, значыць, у яе ёсць будучыня, значыць, мы не дарма пражылі жыццё і гэтак дорага заплацілі за вольнасць Беларусі.*

*Вамі не задаволены "Глос з-над Немна". Яшчэ б! Я "тутэйшы". Жыву ў Лідзе, а Вы ведаеце, што наша Ліда ад XIX стагоддзя стала сталіцаю "польскасці" на Беларусі, таму разумею матывы шаноўных паноў, якім "ЛіМ" не даспадобы.*

*Трымайцеся, хлопцы! Вы самая пісьменная рэдакцыя ў нас, папраўляйцеся на хаду, пазбаўляйцеся ад розных культаў, кульцікаў і анахранізмаў. Не плачце аб прошлым, мы старажытны народ, мы не качкі – маем сваю мову, сваю культуру, не горшую чым у іншых народаў без падзелу на Еўропу і Азію. На сваім шляху я сустракаўся з многімі народамі і не адчуваў, што яны больш годныя за мяне. Нас паважаюць, дык давайце мы будзем самі паважаць сябе, патрабаваць ад сябе адказнасці за свой лёс і ні ў чым не абвінавачваць суседзяў. Яны зразумеюць самі, з кім маюць справу. Перш за ўсё трэба ўмацоўваць нашую дзяржаўнасць, а астатняе само прыдзе. Нашыя законы павінны быць абавязковымі для ўсіх, хто тут жыве, а не толькі для нас.*

*Правільна Вы зрабілі, што знялі "Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!", у свой час "Людзьмі звацца!" было слушным. Усё рухаецца, мы – як і ўсе. Мы людзі! Толькі ап'янелі ад сваёй вольнасці і не паверылі ў яе. Верце, хлопцы!*

*"ЛіМ" – няхай гучыць горда без ніякіх дэвізаў. Ваш розум, Ваша энергія будзе дэвізам беларускага штотыднёвіка.*

*Усяго Вам дробрага!*

*Серафім Янец, інвалід вайны II групы.*

*г. Ліда, 18 ліпеня 1992 г.*

І яшчэ адзін ліст з папкі, блізкі да папярэдняга, – ліст ажно з Мурманска:

*3.05.98.*

*Паважаны спадар рэдактар,*

*больш трыццаці гадоў я з'яўляюся чытачом "ЛіМа", незалежна ад месца жыхарства. Можа ўжо прывычка, а можа і сапраўды змястоўныя артыкулы застаўляюць мяне выпісваць гэту газету. Ва ўсякім разе трэба адзначыць, што газета згубіла сваю зубастасць, якую яна займела ў часы Міколы Гіля. Мае сябры на Беларусі дзівяцца, што я па-ранейшаму выпісваю "ЛіМ" і шкадую, што наклад газеты змяншаецца з кожным годам. У чым прычына? А можа ў тым, што ў апошні час на старонкі газеты лезуць людзі, якіх у свой час Вярцінскі ці Гіль і блізка не пусцілі б.*

*Атрымаўшы апошні нумар і ўбачыўшы ў ім гутарку з Эдуардам Скобелевым, адразу падумаў: мае сябры маюць рацыю. Калі ўжо і гэта асоба дабралася да*

*“ЛіМа”, то што ж будзе далей? Шчыра кажучы, гэтага я не чакаў ад Вас, спадар Някляеў. Калі Вы з дапамогай гэтай гутаркі хацелі даць магчымасць Скобелеву выказаць свае думкі, якія ў большасці не супадаюць з поглядамі беларускіх пісьменнікаў і беларускай інтэлігенцыі, то можа гэта і не дрэнна. Але ж людзі тыпу Скобелева будуць спяваць песні любой уладзе, калі яны могуць наблізіцца да гэтай улады.*

*З павагай Д. Ярашэўскі, яшчэ чытач “ЛіМа”.*

Ліст, нагадаю, пазначаны траўнем 1998 года і таму адрасаваны ўжо не мне, а тагачаснаму рэдактару У. Някляеву. Не памятаю, як ён трапіў у маю папку. Мо сам Уладзімір Пракопавіч перадаў яго мне? Можа быць. А хутчэй за ўсё, у адсутнасць рэдактара я праглядваў рэдакцыйную пошту і ўскрыў канверт, адрасаваны проста рэдакцыі, а не рэдактару, і пасля было ніякавата аддаваць У. Някляеву ліст, дзе хваляць мяне і ганяць яго.

На заканчэнне падборкі рэдактарскае карэспандэнцыі – два акравершы ў гонар мае мосці. Першы – Фелікса Шкірманкова са Слаўгарада, паэта і публіцыста, былога геолага і вайскоўца, шчырага беларуса і палымянага патрыёта Бацькаўшчыны. Ён даслаў у “ЛіМ” такое чатырохрадкоўе:

*Міколу Гілю*

**Г**алоўнае – не разгубіцца
**І** справу гонару рабіць
**Л**іМ быў, ЛіМ ёсць, няхай не кпіцца
**Ю**рліўцам мову задушыць...

А другі акраверш даслала даўняя і шчырая аўтарка і дружбачка “ЛіМа” Лілія Мялешка з Клецка:

*Міколу Гілю*

**М**аруська і Мурка – у апавяданнях –
**І** Ваш развітальны праменьчык святла.
**К**ім – разам з Валерыяй, чэрвень Таццянін...
**О**й, колькі сюжэтаў з жыцця прывяла
**Л**агойская Стэпачка Раманкова –
**Е**ўропа! Швейцарыя... Хоць і без банкаў.
**Г**азон гарадскі – і ўспамінак вясковы,
**І** зеўра-прагал замест цёплага ганку...

Сяргей Чыгрын



...Свет трасецца навакола,
Крызіс косці прабірае.
Нам жывецца невясёла –
Кожны гэта добра знае...

# Струмень. Граніт. Прамень

***Творчы і жыццёвы лёс заходнебеларускіх паэтаў з Дзятлаўшчыны***

## Струмень

Ёсць на Дзятлаўшчыне вёска Зачэпічы, якую беларускі літаратуразнаўца Уладзімір Калеснік шчыра называў "гняздом паэтаў". З гэтага гнязда былі родам заходнебеларускія паэты – Прамень, Граніт і Струмень. Псеўданімам Гарасім Прамень падпісваў свае творы Іван Пышко, Петрусём Гранітам быў Іван Івашэвіч, а Васілём Струменем стаў у 1930-х гадах Аляксандр Лебедзеў. Праўда, Аляксандр Лебедзеў нарадзіўся ажно ў Кастрамской губерні Расіі. Бацька яго пайшоў на фронт Першай сусветнай вайны і не вярнуўся. Маці, Кацярына Пятроўна, працавала чыгуначніцай, і ў 1919 годзе пазнаёмілася з беларусам Паўлам Івашэвічам, аглядчыкам вагонаў, за якога выйшла замуж. Праз пэўны час сям'я Івашэвічаў пераехала ў вёску Зачэпічы на Дзятлаўшчыну.

Васіль Струмень пачаў вучыцца ў пачатковай школе, а потым прыватна ў загадчыцы школы Кучынскай. У 1928 годзе

хлопчык атрымаў пасведчанне аб заканчэнні Зачэпіцкай сямігадовай школы. Тады Зачэпічы, як і ўсе іншыя вёскі Заходняй Беларусі, жылі пад уплывам нацыянальна-вызваленчага руху, у які ўключыўся і Аляксандр Лебедзеў (Васіль Струмень). Першыя здзекі і допыты ў Беліцкім паліцэйскім участку юнак зведаў ужо ў сакавіку 1930 года, за два тыдні да свайго 16-годдзя. А праз год у газеце “Малады камуніст” апублікаваў першы верш “Наша доля”.

У 1935-1936 гадах юнак з Зачэпічаў працуе на шклозаводзе “Нёман”. І там актыўна праводзіць рэвалюцыйную дзейнасць, публікуе антыўрадавыя вершы, удзельнічае ў забастоўках рабочых, выступае супраць беспрацоўя рабочых і сялян. Нават на вечарынках, калі дзяўчаты збіраліся прасці кудзелю зімовымі вечарамі, не абыходзілася без палітыкі. Васіль Струмень з моладдзю развучваў песні “Ад веку мы спалі”, “Варшавянку”, “Мы – кавалі” і іншыя. Пад уплывам актывістаў Таварыства беларускай школы, Беларускай сялянска-работніцкай Грамады ў вёсках актыўна ставіліся спектаклі па п’есах Янкі Купалы, Францішка Аляхновіча, Леапольда Родзевіча, Міхася Чарота. На спектаклі і канцэрты прыходзілі сотні людзей. За палітычную дзейнасць юнака зноў арыштоўваюць. Ён прайшоў турмы ў Лідзе, Глыбокім і Вілейцы.

Пасля адбыцця тэрміну Васіль Струмень спрабуе перайсці польска-савецкую мяжу, але яго затрымліваюць і прымусова здаюць у салдатчыну. Але і там нескароны Струмень праводзіць агітацыю сярод вайскоўцаў. З войска юнака адпраўляюць у Лідскую гарнізонную турму строгага рэжыму...

Але як паэт Васіль Струмень да турмы шмат публікуецца. Вершы друкуюць “Асва”, “Наша воля”, “Беларуская газета” і іншыя заходнебеларускія выданні. У паэтычных радках аўтар распавядаў пра боль затузанага ўладамі беларуса, яго імкненні да лепшага жыцця. Няшчасная доля простага чалавека і ў вершы Васіля Струменя “Беспрацоўны”. Верш шмат разоў перадрукоўваўся. Апублікаваў яго і Уладзімір Калеснік у зборніках “Сцягі і паходні” (Мн., 1965) і “Ростані волі” (Мн., 1990). Пачынаўся ён радкамі, якія паказваюць вобраз беларуса-беспрацоўнага, які шукае лепшай долі:

Шкандыбае з кіем ў сцюжы і марозы,
Вопратку благую іней серабрыць,
З вачэй люты сівер выціскае слёзы,
Стынуць ногі ў трэпах, але ён спяшыць...

У канцы 1938 года сям’я Васіля Струменя пераязджае на Ровеншчыну (Украіна). Там ён сустрэў уз’яднанне Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі з УССР і з БССР. На Украіне вывучыў украінскую мову, працаваў настаўнікам у пачатковых школах. А калі пачалася Другая сусветная вайна, пайшоў на фронт. Пасля дэмабілізацыі ў 1945-1948 гадах працаваў настаўнікам украінскай мовы на Ровеншчыне. Завочна скончыў Ровенскі настаўніцкі і Львоўскі педагагічны інстытуты. Жыў у горадзе Сарны, дзе працаваў і настаўнікам, і дырэктарам школы, і журналістам.

У канцы 1980-х гадоў я, шукаючы звесткі пра літаратараў Заходняй Беларусі, завочна пазнаёміўся з Васілём Струменем (Аляксандрам Лебедзем). Некалькі гадоў мы перапісваліся. Перачытваю ягоныя лісты. У адным з іх ён піша: “У асноўным пра сваіх саратнікаў-пісьменнікаў у 1930-я гады мы ведалі праз газеты і часопісы, у якіх друкаваліся нашы творы. А сустрэцца даводзілася толькі ў вельмі рэдкіх выпадках на акруговых падпольных форумах, дзе мы толькі прадстаўляліся па партыйных псеўданімах. Толькі Ігната Дварчаніна мне ўдалося бачыць шмат разоў, калі я быў яшчэ падлеткам, і слухаць яго прамовы, а таксама размовы з сялянамі нашай вёскі Зачэпічы. З Піліпам Пестраком, Міхасём Васільком і Максімам Танкам сустракаўся таксама толькі выпадкова без канкрэтных дзелавых

кантактаў, дзе нават не казалі мы адзін аднаму сваіх падпольных псеўданімаў, бо гэта была канспірацыя сугуба сакрэтная".

Штогод Васіль Струмень з Сарнаў стараўся прыязджаць на родную Гродзеншчыну. Спачатку ён ехаў у Зачэпічы, потым наведваў сяброў і знаёмых у Дзятлаве, Лідзе, Гродне, Мінску. Калі заходзіў у рэдакцыі газет і часопісаў, то заўсёды пакідаў там вязанкі новых сваіх вершаў ці ўспаміны аб перажытым у Заходняй Беларусі і на вайне. Былы рэдактар лідскай раённай газеты Аляксандр Жалкоўскі (1933-2011) распавядаў пра Васіля Струменя: "Будучы ўжо ў сталым узросце, ён часта наведваў Лідчыну, Дзятлава, Мінск. Адразу ж з чыгуначнага вакзала Ліды шпарка ішоў у рэдакцыю мясцовай газеты «Уперад», – прыгадваў Аляксандр Васільевіч Жалкоўскі. – Кожнага супрацоўніка, творчага і тэхнічнага, лічыў тут сваім прыяцелем. Даведаецца аб нашым жыцці-быцці, потым распытвае пра сваіх сяброў яшчэ даваеннага часу. У іх ліку часта называў Вікенція Салыгу з Феліксава – колішняга актывіста Беларускай сялянска-работніцкай грамады і Таварыства беларускай школы, Івана Івашэвіча (Пятруся Граніта) – вернага паплечніка з Зачэпічаў, актывіста КПЗБ Ісака Карабельніка з Ліды, Васіля Камянеўскага (Міхася Ліста) з Краснай і многіх іншых сяброў. І тут жа мяркуе, як і дзе з імі сустрэцца... У час кожнага прыезду ў Ліду Васіль Струмень заўжды запрашаў мясцовых журналістаў наведацца да яго ў Сарны. Першы раз я выправіўся туды разам з таварышам па рабоце паэтам Пятром Макарэвічам у сувязі з 70-годдзем пісьменніка..."

Сапраўды, Васіль Струмень, калі прыязджаў на Бацькаўшчыну, распавядаў цікавыя выпадкі з жыцця, дэкламаваў свае вершы, спяваў беларускія і ўкраінскія народныя песні. У яго да апошніх дзён жыцця (памёр 25 кастрычніка 1992 года) было шмат энергіі, сілы, імпэту. Яго вершы на беларускай і ўкраінскай мовах, якія друкаваліся пры жыцці, раскіданыя па розных выданнях Беларусі і Украіны і просяцца пад адну вокладку. Туды варта было б уключыць і пісьмы Васіля Струменя да ягоных беларускіх сяброў і землякоў, а таксама ўспаміны пра 1920-1930-я гады "Шляхам барацьбы", якія публікаваліся ў дзятлаўскай раённай газеце "Перамога" вясной 1989 года.

## Граніт

У заходнебеларускага паэта Івана Івашэвіча з вёскі Зачэпічы Дзятлаўскага раёна было два псеўданімы: Пятрусь Граніт і Мацей Гвозд. Часцей за ўсё ён карыстаўся псеўданімам Пятрусь Граніт. Пад гэтым псеўданімам ён апублікаваў свае першыя вершы ў "Беларускай газеце" 10 лістапада 1933 года. Гэта верш "Прывітанне", у якім аўтар шчыра вітаў газету, і верш "Мужыцкая восень":

З палёў даўно сабралі
Збажыну мужыкі,
І па вясковых далях
Цяпер грымяць такі.
З братвы мужыцкай, шэрай
Бязмежна кожны рад,
Што хлеба сціплай мерай
Мо хопіць да Каляд.
Праходзяць дні без мовы,
І толькі вецер дзьме,
Сустрэчны гімн суровай
Складаючы зіме.
Далёка ў небным полі
Крык жураўлёў замоўк,
А над мужыцкай доляй
Завые сёння воўк.

У гэтым самым нумары “Беларускай газеты” у рубрыцы “Гутарым” напісана, што ў рэдакцыі газеты сабралася “ладная куча Вашых вершаў”. Рэдакцыя раіць паэту з Дзятлаўшчыны сур’ёзна працаваць над свамі вершамі, бо “верш – гэта стройная сугучнасць вобразаў і музыкальнасці, гэта адзінства вобразаў і формы”.

У 1934 годзе ў часопісе “Літаратурная старонка” (№1) Пятрусь Граніт публікуе яшчэ адзін свой верш “Каваль”:

Гэй, каваль, распальвай горын!
Будзем строіць новы плуг.
З лемяшом сталёвым, новым,
Пасля пойдзем араць луг.
І работа загудзела,
Чуцён стукат малатка.
Іскра з шумам адляцела –
Будзе плуг для мужыка.
Гне жалеза на кавадлі,
Валіць молатам каваль.
Пот цячэ, а ён заядла
Робіць із жалеза сталь...
Плуг гатоў, бяры яго ты,
Ары дзікі наш дзірван;
І паддай другім ахвоты
Успульхняці свой загон.

Газета “Наша воля” ў красавіку 1936-га побач з такімі вядомымі ў Заходняй Беларусі паэтамі, як Максім Танк, Міхась Машара, Міхась Васілёк, Анатоль Іверс публікуе і васьмірадкоўе Петруся Граніта пра тагачаснае невясёлае жыццё:

Свет трасецца навакола,
Крызіс косці прабірае.
Нам жывецца невясёла –
Кожны гэта добра знае.
Але прыйдуць дні другія,
Прыйдуць з полымем гарачы, –
І стары падмінаваны
Затрасецца свет іначай.

Летам 1934 года Пятрусь Граніт наладжвае сувязі з рэдакцыяй двухтыднёвіка грамадскага гумару і сатыры “Асва”. Ён туды дасылае вершы і смяшынкі. У № 5 “Асва” публікуе яго першую смяшынку “Паміж самагоншчыкамі”. А потым у друку з’яўляецца яго сатырычны верш “Хітры асаднік і мужык-здагаднік”. Вершы паэта з Дзятлаўшчыны актыўна друкуюцца ў штотыднёвіку “Poprostu”, у заходнебеларускіх выданнях “Наша воля”, “Беларускім летапісе”, “Шлях моладзі”. У некаторых сваіх паэтычных радках паэт хараша апяваў родную прыроду. Яго творы часам былі аптымістычныя па гучанню, якія лёгка і сёння чытаюцца, просяцца на музыку:

Зарою ўсход залоціцца,
Лье чырвань на зямлю;
Пад п’яную разводзіцу
Жыцця дзень новы родзіцца,
І я жыццё люблю!
Іграюць песні звонкія
Калосячы раллю,
На сонца струны тонкія,
Што звіслі над старонкаю,
Я песні разалью!

Дзясяткі вершаў Петруся Граніта траплялі ў розныя беларускія выданні, а таксама і на старонкі дзятлаўскай раённай газеты “Перамога”. Праўда, у 1939 годзе паэт падрыхтаваў свой першы паэтычны зборнік “Над хвалямі Нёмана”, але выйсці ён не паспеў – перашкодзіла вайна. І толькі ў 1978 годзе ў Мінску выйшла з друку невялічка кніжачка яго дзіцячых вершаў “Сцяжынка”, якую на грамадскіх пачатках адрэдагаваў Алег Лойка. Наклад кніжкі быў даволі вялікі – 50 тысяч асобнікаў.

У зборнічак увайшлі 22 вершы паэта. Гэта вельмі шчырыя, светлыя, пяшчотныя радкі аб прыродзе, аб лясных жыхарах, пра птушак і вёску – пра ўсё тое, што бачыў паэт, з чым і з кім штодня сустракаўся. Гэтыя вершы варта зноў перавыдаць. Яны вучаць любіць прыроду, добра займацца ў школе, паважаць старэйшых людзей. А яшчэ – яны імгненна запамінаюцца, некаторыя з іх напісаны з гумарам. Ну, напрыклад, верш “Свінка ў лазню хадзіла...”:

Свінка ў лазню хадзіла
І забылася мыла.
У лужы паляжала.
– Памылася, – сказала.
Як прыйшла яна дахаты,
Не пазналі парасяты.
Аж сама здзівілася:
– Я ж у лазні мылася!..

Іван Івашэвіч нарадзіўся 24 студзеня 1909 года ў вёсцы Зачэпічы на Дзятлаўшчыне. Бацьку забралі на вайну, дамоў ён вярнуўся толькі ў 1922 годзе. Але доўга не пажыў – памёр праз год ад ранаў. І Ваня ў 12 гадоў ужо касіў, хадзіў за плугам.

У 1927 годзе Іван Івашэвіч стаў працаваць брукарам. І працаваў ім аж да верасня 1939 года.

Ва ўмовах Заходняй Беларусі Іван Івашэвіч даволі рана далучыўся да падпольнай дзейнасці, наведваў сходы і мітынгі Беларускай сялянска-работніцкай Грамады. Ён некалькі разоў арыштоўваўся ўладамі Польшчы, але працягваў змагацца за светлую долю свайго народа. А ў вершах апісваў нялёгкае жыццё беларусаў і заклікаў іх да лепшага жыцця.

У 1933 годзе Пятрусь Граніт прымаў удзел у Першым нелегальным з’ездзе заходнебеларускіх пісьменнікаў у Вільні. А пасля ўз’яднання Заходняй Беларусі з БССР, працаваў сакратаром выканкама, потым – старшынёй сельсавета.

У 1940 годзе ў Лідзе паэту-брукару пашанцавала сустракацца з Янкам Купалам, які вылучаўся кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР. 23 чэрвеня 1964 года Уладзімір Калеснік запісаў з Гранітам гутарку пра тое, як адбывалася сустрэча з песняром беларускай зямлі. “Янка Купала, — успамінаў Граніт, — быў у Лідзе тры дні, жыў у гасцініцы, а абедаў у сталовай, так званай “Амерыканцы”. Мы з Валянцінам Таўлаем і Анатолем Іверсам пайшлі праведаць яго. Купала сустрэў нас ветліва і, пагутарыўшы, запрасіў разам паабедаць. Заказаў нам абед з чатырох страў з чаркай і півам. Калі мы памкнуліся плаціць — перапыніў нас: “Хлопцы, хлопцы, у мяне, мабыць, больш грошай...”. А потым усім нам даў падарункі: мне дасталася кніжка “Выбраныя паэмы”, асобнае выданне “Над ракой Арэсай”. Янка Купала быў негаваркі. Прачытаеш, помню, яму свой верш, ён паслухае. Пытаеш: “Ну як?”, а ён далікатна гаворыць: “Верш як верш, трэба паправіць” “А як яго паправіць?” — пытаю. “Хто яго ведае. Спярша трэба некалькі разоў прачытаць, тады можна раіць. Прыязджай, кажа, у Мінск, там параімся і наконт зборніка”, — казаў паэт. Янка Купала стары ўжо быў у тыя гады, але паказаўся вельмі свойскім чалавекам, як родны. Так што розніца ў гадах не так і адчувалася. Гаварыў

з намі сардэчна, шчыра. Падумаць толькі, гэта ж Народны паэт, а гаворыць, як бы быў сам вясковым простым чалавекам" (Уладзімір Калеснік. Лёсам пазнанае. Мн., 1982. С. 252-253).

У гады Другой сусветнай вайны Іван Івашэвіч быў сувязным партызанскай брыгады «Барацьба» на Гарадзеншчыне, выступаў у партызанскім друку з вершамі. І толькі пасля вайны Іван Івашэвіч завочна скончыў Навагрудскае педвучылішча. У 1945—1971 гадах працаваў настаўнікам і загадчыкам пачатковай школы ў Зачэпічах. І заўсёды пісаў вершы:

Хоць жаль бярэ – прыпомні ўсё –
Душу, як сталь, гартуе.
Хоць здзек зразорыў мне жыццё, –
Свой край люблю я!..

Паэтычныя радкі паэта друкаваліся ў раённым і абласным друку. Нізкі вершаў былі апублікаваны таксама ў зборніках "Сцягі і паходні" (Мн., 1965) і "Ростані волі" (Мн., 1990).

Памёр Пятрусь Граніт 14 студзеня 1980 года. Пахаваны ён на могілках у роднай вёсцы Зачэпічы.

## Прамень

У Жукоўшчынскай сельскай бібліятэцы Дзятлаўскага раёна ёсць цікавы літаратурны пакой "Знакамітыя людзі зямлі Жукоўшчынскай". Ён прысвечаны паэтам-землякам: Петрусю Граніту, Ігнату Дварчаніну, Васілю Струменю і Гарасіму Праменю. Сярод матэрыялаў пра Гарасіма Праменя (Івана Пышко) ёсць успамін жыхара вёскі Зачэпічы, былога падпольшчыка-камсамольца Заходняй Беларусі Фёдара Калодкі, які пакінуў згадку пра забастоўку на шклозаводзе ў Бярозаўцы Лідскага павета, удзел у якой прымаў і Іван Пышко (паэт Прамень). Вясковыя хлопцы і дзяўчаты збіралі прадукты харчавання для бастуючых і на падводах адпраўлялі іх сем'ям. Аднойчы на адным з вазоў ехаў у Бярозаўку з вёскі Зачэпічы і Іван Пышко. Калі прыехалі ў мястэчка, пачаўся мітынг, на якім з прадмовай выступіў зачэпіцкі актывіст. Ён запэўніў бастуючых шклаinstallments у тым, што сяляне будуць і далей салідарнымі з рабочымі завода ў іх змаганні. У канцы прамовы выступоўца прачытаў верш "Сцяг", які выклікаў такое ўражанне, што рабочыя наладзілі цэлую авацыю.

Не ведаю чаму, але ніхто з даследчыкаў паэзіі Заходняй Беларусі ніколі не надрукаваў вершаў Гарасіма Праменя. Не трапілі вершы і ў зборнікі "Сцягі і паходні" (Мн., 1965) і "Ростані волі" (Мн., 1990), якія складаў Уладзімір Калеснік. Згадвалі яго прозвішча толькі ў агульных аглядах. І то Уладзімір Калеснік замест Гарасім Прамень пісаў Герасім Прамень. Падпісваўся пад сваімі творамі паэт і так: Прамень Г., Pramien Harasim.

Звестак пра жыццёвы шлях Івана Пышко даволі мала. Нарадзіўся ён у 1908 годзе ў вёсцы Зачэпічы. Юнаком далучыўся да барацьбы супраць пілсудчыкаў. Уступіў у рады Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Быў сакратаром Зачэпіцкай ячэйкі КПЗБ.

Друкавацца Іван Пышко пачаў у 1933 годзе. Яго першы верш з'явіўся ў газеце "Родны край" (1933, № 13). Ён быў прысвечаны вясковаму кавалю і яго цяжкай працы:

Звон і стукат раздаецца,
Лятуць іскры, валіць дым,
Як пад песню размахнецца
Каваль молатам сваім.

Гэй, каваль! – хлапец вясёлы,
Што куеш ты: плуг ці колы?
Ці мо робіш серп зубчаты,
Што заказвалі дзяўчаты?..
–Не, сялянін мой пахілы,
Памыліўся, браце мілы...
Ці ж не бачыш па размеру –
Гэта ж я раблю сякеру!
Як зраблю яе стальную,
Ў рукі моцныя вазьму я
І пайду у цемры-гушчы
Шлях там новы высякаць –
Беларускаму народу
Шчасце й долю здабываць!

У "Родным краі" (1933, № 14) ад рэдакцыі быў апублікаваны адказ на вершы Гарасіма Праменя: "Сябра Г. Прамень! Усе Вашыя вершы атрыманы намі. З часам мы (паэты) выдамо зборнік, то змесцім там больш Вашых твораў. Пакрысе будзем друкаваць лепшыя. Пішыце. Жадаем поспеху..." Пра які зборнік ішла размова – невядома. Але ж у гэтым самым нумары газета "Родны край" апублікавала і новы верш Праменя:

Ноч настала. Ў небасхіле
Месяц ясны устае.
І на лес імглой закрыты
Сінясветы свае лье.
Ціха дрэмлюць недзе хвоі,
Усё спавіта лёгкім сном.
Месяц лісце дрэў прыстроіў
Блескам сумным – серабром.
І здаецца – безустанку
Я сядзеў бы й назіраў,
Як у небе паміж зорак
Маляр ночы фарбы клаў.
Але заўтра дзень настане,
Поўны працы і клапот, –
Сонца яснае зноў гляне,
Зноў пальюцца песня й пот.

А ў 1936 годзе газета "Наша воля" (№ 6) публікуе невялікі верш Праменя пра сына, які вярнуўся з турмы:

Вёска, родныя палеткі,
Твой загнаны сын прышоў
З-за густой жалезнай сеткі
Дыхаць свежасцю палёў.
Смутак пройдзе, летуценні
Сэрца к жыццю ўваскрасяць.
І мінулыя цярпенні
Будзем ў радасць замяняць.

З'яўляліся паэтычныя радкі Гарасіма Праменя і на старонках папулярнага часопіса "Шлях моладзі". Вобразным і жывым атрымаўся ў паэта верш "Дажджом", які быў апублікаваны ў "Шляху моладзі" (1937, № 6):

Вось хмара нечаканая,
Як сівы мех наехала,
Каўшом зярняты сеяла –
Піла зямелька каплямі.

З стрэх малаком цадзілася –
Вада плыла рыштокамі,
У суме закруцілася
І пацякла з падскокамі.
Праплыўшы аглянулася, –
Адменена ўсё сталася,
Ў дарогу-даль папхнулася,
І сонца паказалася.
А перлы-срэбра пацеркі
Калоціць вецер з лісцейка.
І ліжа сонца з жаднасцю
Зямелькі плечы мытыя.

Пражыў Іван Пышко 56 гадоў. Ён быў жанаты, меў трох сыноў. Але і сыны таксама даўно памерлі. Пры жыцці ён працягваў пісаць вершы, друкаваць іх у раённым друку.

Дарэчы, на могілках вёскі Зачэпічы знаходзяцца дзве магілы заходнебеларускіх паэтаў Петруся Граніта і Гарасіма Праменя. Калі магілу Петруся Граніта сядытады даглядаюць унукі, якія жывуць на Дзятлаўшчыне, то за магілай Гарасіма Праменя глядзець даўно няма каму.

Няпярэдадні Радаўніцы 2016 года грамадскі актывіст з Дзятлава, сын заснавальніка Дзятлаўскага краязнаўчага музея Міхася Петрыкевіча Валерый Петрыкевіч разам з сябрамі Таварыства беларускай мовы з Дзятлава, Наваельні, Слоніма, а таксама з вучнямі Жукоўшчынскай базавай школы Дзятлаўскага раёна, супрацоўніцамі Жукоўшчынскай сельскай бібліятэкі і Дзятлаўскага гісторыка-краязнаўчага музея арганізавалі паездку ў вёску Зачэпічы. На могілках ледзьве адшукалі магілы паэтаў Граніта і Праменя.

Некалькі гадзін працавалі грамадскія актывісты. Яны ачысцілі магілы ад карэнняў, дзірвану, каменняў, травы, аднавілі тэкст на помніках, пафарбавалі агароджу...

Анатоль Астапенка



...Ах, божа мой! Чыёю верай
Перада мной той даўні луг
Паслаўся чыстаю паперай,
Каб я радком пракосы мераў,
Касіў за двух
І жыў за двух...

# Гросмайстар беларускага слова

## II. ШЛЯХАМ СВАБОДЫ

### *Стральцоў у другой палове 70-х*

*Заканчэнне. Пачатак у №4 (83).*

1973 год ў быў пераломным для пісьменніка. Здавалася б, усё ідзе вельмі добра. Яго з задавальненнем друкуюць, яго запрашаюць выступіць перад чытачамі, яго, урэшце, любяць.

Ад выхаду першага апавядання (1959 г.) да згаданага 1973 года ў М. Стральцова выходзіць даволі салідны спіс кніг:

1. Блакітны вецер. Апавяданні. Мн.: Беларусь, 1962.
2. Жыццё ў слове. Літаратурная крытыка. Мн.: Беларусь, 1965.
3. Сена на асфальце. Апавяданні. Мн.: Беларусь, 1966.
4. Загадка Багдановіча. Эсэ. Мн.: Беларусь, 1969.
5. Что будет сниться. М.: Молодая гвардия, 1968.
6. Адзін лапаць, адзін чунь. Аповесць. Мн.: Беларусь, 1970.
7. Ядлоўцавы куст. Вершы. Мн.: Маст. літ., 1973.

Ён становіцца вядомым празаікам і вельмі моцным паэтам. Ды і ў публіцыстыцы – майстра. І яму толькі 36 год.

Рыхтуецца да друку ягонае “Выбранае”, якое ўбачыць свет у серыі “Бібліятэка беларускай прозы” пад назвай “На ўспамін аб радасці” (Маст. літ., 1974). Пазней выйдзе выбранае і на рускай мове ў вядомай савецкаму чытачу серыі “Дружба народов” (1978) і таксама беларускі варыянт (кніга “Двое в лесу”, апавяданні, Маст. літ., 1978).

Але ў бессістэмных замалёўках “Запісных кніжак” мы раптам знаходзім: *“Ёсць рэчы, на жаль, непадуладныя нам, але ж ёсць і надзея, і суцяшэнне. У таго, хто бярэ ў рукі пяро, надзея ёсць таксама.*

*Ён хоча думаць: я засцярогся, я сказаў” (23.05.73).*

Дзе гэта было? Так, гэта “Смаленне вепрука”. Там ёсць і працяг: ”О, паэт да таго ж бывае і крыху забабонным. Ён засцярогся ад бяды – бо сказаў”.

І сапраўды, Стральцоў рана і моцна сказаў. Ён адбыўся. Але што ж так яго трывожыць, што так шкрабе душу і душыць і трымае ў сваіх нябачных кіпцюрах? Сказаць, то ён сказаў, але ці “засцярогся ад бяды”? Бяда – гэта смерць, і канец быцця. Яна чакае ўсіх. Але творчы чалавек мае шанец не сысці ў вечнасць назаўсёды, ён мае шанец застацца ў прасторы і ў часе сваімі творамі, сваёй часцінкай Божага дару...

«А был ли мальчик-то?”, – гэтую знакавую фразу са знакамітага твора Максіма Горкага “Жыццё Кліма Самгіна” часта любіў паўтараць Міхась. У ёй роздум над сэнсам жыцця і ціхі сумнеў за шлях, абраны самім...

Ён напісаў шэраг выдатных, нават, як цяпер лічыцца, геніальных апавяданняў – і яму толькі 36. Чаму ж няма супакаення, чаму ён разводзіцца з жонкай, чаму зыходзіць з працы і робіцца беспрацоўным – па тагачасным лексіконе – “дармаедам”, чаму?

Зусім не п’янства і не дрэнная жонка прычына творчага крызісу пісьменніка.

Пілі ў тыя, нібы застылыя ў сваім савецкім раі 70-я і яшчэ больш застойныя 80-я гады, калі не ўсе, то вельмі многія людзі. Прычым усё грамадства п’ючых строга дзялілася на дзве неперасякальныя часткі. Першая група: вяршыня сістэмы – партыйная наменклатура, гаспадары “карыта”. Тут працэс п’янства спалучаўся з самай што ні ёсць распустай і цынізмам і старанна хаваўся ад вачэй, ад галоснасці. Ужо ў постсавецкі час з’явіліся творы кінематографа, літаратуры, мастацтва, дзе праліваецца святло на амаральнасць, а ў многіх выпадках і на злачынствы камуністычных важакоў і іх набліжаных.

Другая частка грамадства гуртавала людзей, што з розных прычынахў выпалі з савецкай сістэмы, кінуді афіцыйную працу, перайшлі на гэтак званыя “вольныя хлябы”. Яны таксам пілі, але ўжо не хаваючыся, бо для гэтага былі створаныя самыя спрыяльныя ўмовы: працавала шырокая сетка піўных, закусачных, чарачных, бутэрбродных і г. д.

Каб забяспечыць сабе бязбеднае існаванне, першая частка ўвяла шэраг дэкрэтаў, пастаноў з мэтай выкачвання грошай з другой часткі праз шырокую сетку штрафаў, спагнанняў, а таксама арганізацыі бясплатнай рабочай сілы ў выглядзе лекава-працоўных прафілакторыяў для п’яніц і алкаголікаў, а таксама папраўчых калоній і зон, дзе ўтрымліваліся людзі непрацуючыя ці па афіцыйнай тэрміналогіі – “дармаеды”.

У другую групу ўваходзіла вялікая колькасць інтэлігенцыі, якая традыцыйна не мела даверу ў партапарата, і таму трапіць у тую “першую лігу” савецкіх апаратчыкаў мела мізэрныя шанцы. Але затое ёй, гэтай адукаванай частцы грамадства, былі шырока адкрытыя дзверы ў другую групу. Калі гаварыць пра пісьменнікаў, то іх у той другой групе было вельмі шмат. Толькі ў Мінску ў месцах ілюзорнай свабоды (але ўсё ж – свабоды!) тыпу піўбар альбо чарачная можна было сустрэць паэта, вырасшага “пад гарматнымі ствaламі” – Сцяпана Гаўрусёва, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны Пятра Прыходзьку, паэтаў Міколу Федзюковіча,

Яўгена Крупеньку, Алеся Гаўрона, Віктара Стрыжака, празаікаў – Міколу Капыловіча, Івана Шальманава, Алеся Шлега, знакамітага Уладзіміра Караткевіча і многіх іншых.

Сярод гэтых паважаных людзей апынуўся і Міхась Стральцоў.

Многія з тых людзей, што ўвайшлі ў кола пазасістэмных, сталі дысідэнтамі. У БССР, фактычна, усю тую другую частку грамадства можна атаясаміць з іншадумцамі альбо дысідэнтамі.

З 1973 года М. Стральцоў на "вольных хлябах", г. зн. беспрацоўны. Чаму так склалася? Каб зразумець далейшы шлях Міхася Стральцова, трэба адзначыць тое, без чаго няма яго як асобы, як творцы...



*Міхась СТРАЛЬЦОЎ.*

Для Стральцова творчасць вышэй за ўсё. Няма іншых каштоўнасцей у жыцці, акрамя адной – літаратуры, якой ён служыць да канца. І для яго няма ні так званага сацыялістычнага рэалізму, ні задавальнення ад маруднай працы рэдактара ў выдавецтве, дзе зноў-такі трэба прыняць правілы сужыцця з тым жа сацрэалізмам.

Чалавека, які наважыўся існаваць у савецкай рэчаіснасці "са сваім статутам", са сваімі, магчыма, узнёслымі думамі і праектамі чакаў незайздросны лёс. Ён быў вымушаны непазбежна ўвайсці ў канфлікт з грамадскай думкай, а можа нават пайсці супраць яе. У гісторыі такія людзі вядомыя як іншадумцы, менавіта яны станавіліся рэвалюцыянерамі і мянялі ход гісторыі. У часы СССР яны – гэтая своеасаблівая "каста" – таксама не зніклі. Камуністы, праўда, лічылі, што гісторыя на іх ужо закончылася і вось-вось настане камунізм, дзе не будзе не толькі рэвалюцыянераў, а нават думак пра нешта падобнае. Аднак іншадумцы насуперак тэорыі навуковага камунізму існавалі і ў Савецкім Саюзе. Яны атрымалі новую, прыгожую назву – "дысідэнты".

Савецкая сістэма спарадзіла ўнікальны тып чалавека, своеасаблівага рэвалюцыянера, не падобнага на тых рэвалюцыянераў, што скрозь стагоддзі рабілі гісторыю. Гэтая новая рыса не была ўласціва ніводнаму папярэдніку бунтароў дасавецкага часу на працягу дзвюх тысячаў гадоў!

Пачынаючы з 60-х гадоў XX ст., склаўся новы тып "парушальнікаў спакою", руйнавальнікаў застарэлай сацыяльна-палітычнай сістэмы – з тых людзей, хто прыклаўся да чаркі. Менавіта з гэтых часоў Савецкі Саюз уступае ў фазу татальнага спойвання сваіх грамадзян, што ўрэшце прывяло да павальнага п'янства і алкагалізму. Менавіта шклянка знішчала светлыя, узвышаныя ідэалы і дазваляла заплюшчыць вочы на цынізм, бясконцую хлусню і амаральнасць савецкай сістэмы жыцця.

Так склалася новая праслойка, клас грамадства, якіх раней не было. Гэтая новая супольнасць людзей мела розныя назвы, ад культурнай – дысідэнт альбо іншадумец – да празаічных і нават абразлівых прозвішчаў накшталт "дармаед" ці "п'яніца".

Дух іншадумства нарадзіўся ў Маскве і ў Піцеры. Існуе думка, што ў адрозненне ад гэтых гарадоў, дзе былі пэўныя традыцыі дысідэнцтва, Мінск – ды і Беларусь наогул – не мелі сваіх дысідэнтаў. Насамрэч яны былі, і часта хаваліся пад маскамі нічым непрыкметных людзей – вартаўнікоў, грузчыкаў, рабочых, а таксама ў асяроддзі звычайных заўсёднікаў піўных, кавярняў і проста "вольных мастакоў", якім у СССР часта прысвойвалі ярлык "дармаед".

З другой паловы XX стагоддзя і асабліва ў 60 – 80-я гады тысячы мінчукоў і жыхароў іншых беларускіх гарадоў і мястэчак ірванулі на поўнач Савецкага

Саюза, у Сібір, на Далёкі Усход і на Камчатку. Яны ехалі працаваць у тыя далёкія месцы ў якасці гэтак званых шабашнікаў. І традыцыйныя будатрады хутка сталі менавацца проста “шабашкамі”. Гэтыя людзі – поўныя фізічных і інтэлектуальных сілаў – аказаліся непатрэбнымі ў сябе на Радзіме, існавалі па-за сістэмай і былі вымушаны шукаць іншы шлях, які вёў галоўным чынам на шабашкі. Траплялі ў тую праслойку выкінутых людзей галоўным чынам тыя, каго выгналі з працы за п’янства, за пападанне ў міліцыю пры “распіцці” віна, за сямейныя скандалы і вулічную бойку і мноста, мноства іншых, часам вельмі дробязных, нязначных учынкаў.

На Поўначы і ў Сібіры такія людзі з часам склалі цэлы пласт, які існаваў выключна ў савецкім грамадстве. Тыя людзі як носьбіты любой новай фармацыі мелі ўжо і трывалае месца “пад месяцам”, яны атрымалі назву “біч”, што азначае: “Былы інтэлігентны чалавек”.

Менавіта такім чалавекам – іншадумцам і дысідэнтам – быў і Стральцоў. У 1971 годзе ён звальняецца з працы ў «ЛІМе» і доўгі час – фактычна да адпраўкі ў ЛПП – беспрацоўны. Але ў адрозненне ад іншых (напрыклад, паэта Лёнькі Шугалея альбо журналіста і паэта Уладзіміра Аляхновіча) ён не імкнецца “асвоіць” Поўнач” і папоўніць шэрагі “шабашнікаў” – хоць па логіцы яму якраз “і карты ў рукі”, бо тыя рамантычныя паўночныя краявіды і людзі добра знаёмыя, і пра іх ён пісаў у сваім выдатным эсэ “Дзень у шэсцьдзесят сутак”. Магчыма, той “паўночны” вектар жыцця, які выратаваў многіх савецкіх інтэлігентаў ад молаха рэпрэсіўнага механізму, дапамог бы і Стральцову. Але гэтага не адбылося.

Ён і фізічна, і маральна не можа перасіліць сваю нявдольнасць жыць паводле савецкіх канонаў, дзе ў першую чаргу трэба выконваць вялізную механічную працу з рознымі газетнымі матэрыяламі, аналізаваць бсконцыя пісанні розных графаманаў ды пісаць ліслівыя водгукі на далёка не геніяльныя творы застарэлых, але ідэйна выхаваных партыйных дзеячоў. Чытаць чужыя, месцамі нават прыстойна напісаныя творы, пісаць рэцэнзіі на творы ветэранаў ВАВ – ягоная творчая натура ўжо не можа.

Яшчэ адна акалічнасць усё больш засмучае тонкую і далікатную натуру пісьменніка. Ён напісаў добрыя празаічны творы, ацэненыя крытыкамі, аб яго творах гавораць, іх друкуюць і перадрукоўваюць, але разам з тым ён застаецца на ўсё той жа ніжэйшай прыступцы журналіста – простым супрацоўнікам рэдакцыі. Ім камандаюць, тыкаюць пальцамі, маніпулююць людзі, якія таксама літаратары, якія нешта напісалі, і можа нават шмат напісалі, і разам з тым ён чалавек не іх кола, бо не мае ні партбілета, ні шэфа – саліднага партыйна-наменклатурнага сябра.

Пішуць пра “Загадку Стральцова”, імкнуцца, адпаведна, разгадаць яе. Нешта накшталт такога – “Арыстакрат па форме душы, патрыцый на выгнанні”.

Ігар Бабкоў, напрыклад, піша: “Загадка Стральцова: адкуль ён? Дзе яго сапраўдная радзіма? Адкуль у яго гэты ўнутраны арыстакратызм? Гэтая самадастатковасць, няспешнасць. Адкуль гэтае ўважлівае – і ўпэўненае чытанне ў чалавечым сэрцы?”

А адказ вельмі просты. Ды адтуль – з вёскі, дзе няма хлуслівых чалавечых адносін, дзе ўсё навідавоку, дзе неруш... У кожнай беларускай вёсцы заўсёды знаходзіцца такі чалавек, на якога раўняецца ўся вясковая грамадскасць. Ён аўтарытэт, аснова і падмурак усяго жыцця вёскі. Такім, напрыклад, быў Якаў Навуменка – бацька нашага вядомага пісьменніка Івана Навуменкі. Дык вось, дзед Якаў быў гонарам і сумленнем усяго Дзядка – раёна мястэчка Васілевічы. Наогул, без такіх людзей беларуская вёска даўно б вымерла. Міхась Стральцоў быў тым самым вясковым аўтарытэтам. Толькі апынуўся ён у горадзе. Там, дзе немагчыма быць самім сабой.

Такім чынам, на працягу, фактычна, усіх 70-х гадоў Стральцоў беспрацоўны, “вольны мастак”. Ён шукае сваё месца ў савецкай рэчаіснасці і не знаходзіць.

Ён спрабуе пісаць прозу, але не можа! Чаму?

Мне здаецца, што асабліва гадаць, чаму ён не піша прозы пасля 1969 года, не мае ніякай патрэбы – для творчай працы такога высокага ўзроўню, як у Міхася Стральцова, менавіта духоўны стан – самы важны чыннік і рухавік жыцця. А жыццём для яго быў мастацкі свет, тонкае бачанне сусвету, якое ён выказваў праз літаратуру – спачатку прозу, потым паэзію. Рухавік знік, як толькі ў свае правы ўвайшла іншая проза – проза быту, недалёкага, зайздроснага начальства, сярэднячкоў-калег па пяру і неразумення блізкіх.

Віктар Кармазаў у сваім інтэрв'ю выказваецца сугучна сказанаму. Ён вылучае на першы план маральную чысціню і адзінокасць Міхася. Вось вытрымка з інтэрв'ю:

"Выбівалі пасады. Выбівалі кватэры. Стральцоў пра гэта абсалютна не думаў. Ён быў адзінокі, не ўдзельнічаў у гэтым. Пагэтаму ён маральна ад іх неяк адкалоўся. Яны адчувалі гэта. Яго не цікавілі выданні... Ён пра свой побыт не думаў. Гэта маральны быў, вельмі чыстаплотны чалавек. ...Вельмі маральны ў гэтым пакаленні быў Міхась Стральцоў. Ён застаўся такім і ў літаратуры, і пісьменніцтве. Да самага скону. А потым, калі ён перастаў піць, да яго пачалася рэўнасць. Яго ўзровень быў вышэйшы, была высокая культура.

Зайздрасць была? Так. Ён усіх пераўзышоў. І гэта яму яны ўжо не даравалі. Я тады працаваў на тэлебачанні, загадваў аддзелам. Прыйшоў Бураўкін. Вось як пісаць сёння праўду пра Стральцова? Па-першае, пісаць, як пілі гарэлку – гэта не той падыход. А далей, разумееце, ён з сваім пакаленнем разышоўся. Маральна разышоўся. Я вось працаваў на харошай пасадзе, загадваў мастацкімі фільмамі на тэлебачанні. Я Бураўкіну тады два разы гаварыў – была пасада.

Якія гады гэта былі?

Гэта былі ўжо 70-я гады. ...Бураўкін кажа – у мяне такіх сваіх хапае.. І на радыё месца было. Не ўзяў ён яго".

Вось так. "Сваіх хапае". І не толькі віна Бураўкіна ў такіх неспагадлівых адносінах. Іншы кіраўнік тое самае сказаў бы. Бо быў вінцікам таталітарнай савецкай машыны па вынішчэнні ў чалавека чалавечнасці...

Як бы там ні было, Міхася на працу нідзе не бяруць. А ў савецкіх умовах не працаваць было вельмі і вельмі небяспечным. Асабліва для такіх безабаронных, сумленных і разумных людзей, якім быў Міхась Стральцоў. І ён трапляе ў Лекава-працоўны прафілакторый (ЛПП) – фактычна, савецкую турму.

## ЛПП

Пачну са своеасаблівага эпіграфа:

*"15 января в Минске прошла торжественная церемония по отправке местных алкоголиков в лечебно-трудовой профилакторий. Об этом сообщает «Телеграф».*

*Для пьяниц было организовано выступление милицейского оркестра. Он исполнил композицию из фильма «Операция Ы», а также марш «Прощание славянки».*

*Под эту музыку 35 человек были усажены в милицейский автобус. На дорогу им раздали пакеты с кефиром".*

*(З навін дня)*

Чытаючы гэтыя радкі хронікі міліцэйскіх будняў, адчуваеш, што трапіў у тэатр абсурду. ЛПП – лекава-працоўны прафілакторый – установа, што належыць Дэпартаменту выканання пакаранняў. (Для даведкі: у склад дэпартаменту на 2015 год ўваходзіла 14 калоній і 9 ЛПП). Прыкладна такая карціна была і ў тыя часы (1981 г.). Ужо тое, што і ЛПП, і турмы, і папраўчыя калоніі адносяцца да адной і той жа структуры – Дэпартамента выканання пакаранняў – аб нечым гаворыць. І гэта, на жаль, сумная праўда: паміж ЛПП і папраўчымі калоніямі

амаль няма розніцы. Хоць у назве ЛПП і прысутнічае слова “лекавы” – гэта поўная прафанацыя і, фактычны, здзек з асуджаных. Так, асуджаных, бо ў ЛПП адпраўляюць праз суд.

Паказальным з’яўляецца лёс Аляксандра Пракапенкі, вялікага беларускага футбаліста. Ён быў галоўным гульцом мінскага «Дынама, выйграў «золата» чэмпіаната 1982. Яго любіла ўся краіна і ўсе – ад фанатаў-юнакоў да паважлівых прафесійных заўзятараў – па-свойску называлі Пракоп. Не было і няма ў Мінску больш легендарнага футбаліста. Але лёс яго быў трагічны. Яго запрасілі з Бабруйска ў Мінск у 1972-м годзе, а свой апошні матч за «Дынама» ён правёў у 1983-м. У канцы 1984-га Аляксандр быў ужо ў тым жа Мазырскім ЛПП, дзе адбыў год. У студзені 1989 быў зноў адпраўлены ў Мазырскі ЛПП, дзе адбыў 2 месяцы. Увечары 29 сакавіка 1989 года ён раптоўна памёр (упаў мёртвы ў рэстаране гасцініцы «Мінск»). Яму было толькі 35 год.

Прысуд М. Стральцову, як і пры Сталіне, выносіла “тройка”. Як і Пракопа, Міхася адправілі ў Мазырскі ЛПП. Гэта сапраўды сімвалічна. Толькі ў адрозненне ад сталінскай цяперашняя «тройка» мела (і мае, дарэчы, цяпер) наступны склад: міліцыя, сям’я і праца. Для ўзбуджэння справы ў 80-я гады было дастаткова мець тры прывады альбо любыя тры іншыя затрыманні міліцыяй на працягу аднаго года, заяву ад жонкі – маўляў, мужык п’е, сям’ю не ўтрымлівае і наогул “забярыце яго ад мяне”. Ну, і калі да ўсяго гэтага чалавек вядзе асацыяльны лад жыцця – нідзе не працуе ці працуе, але вельмі дрэнна, прагульвае, п’е на працы і г.д., то бярэцца адпаведная папера з працы. Вось з такім “пакетам” дакументаў у адзін, нічым не адметны дзень, да чалавека зусім нечакана прыходзіць раніцай участковы лейтэнант і пад канвоем вязе небараку ў суд. Суд адбываецца вельмі хутка: суддзя праглядвае ўсе тыя паперы (пратаколы міліцыі, заяву жонкі і выпіску з рашэння працоўнага калектыва) і выносіць прысуд, які складаецца толькі з двух варыянтаў – вам даюць год “лячэння” ў ЛПП альбо два гады, у залежнасці ад вельмі нетрывалага раскладу: настрою суддзі, паводзін “падсуднага” ў судзе і, напэўна, надвор’я.

Як жа Стральцоў умудрыўся набраць такі букет дакументаў для адпраўкі ў фактычную турму – мазырскі ЛПП? Вельмі проста. Першы пункт – міліцэйскі пратакол у савецкія часы “зарабіць” было нескладана. Бралі за любую дробязь: за распіццё спіртных напояў у грамадскіх месцах (на вуліцы, у скверы, у піўным бары, у сталоўцы і г.д.), за нецвярозую паходку, за пераход вуліцы не па пераходзе, але з пахам піва, за... Ды што там гаварыць – гэта было элементарна ў тыя няшчасныя для пісьменніка 70-я гады.

З жонкамі ў Міхася не клеілася. У яго была ўжо другая жонка, але ладу ў сям’і не было. У 1982 годзе яны развяліся. Вось як пішуць аб былой жонцы родныя М. Стральцова ў лісце, поўным адчаю, да ЦК КПБ у 1987 годзе: “... *брак с Буториной (дзявочае прозвішча жонкі Стральцова – А. А.) расторгнут в 1982 г. ...М. Стрельцов, не желая проживать с бывшей женой, возбуждал дело о разделе жилплощади. Правда, суд не состоялся в связи со вмешательством все той же Буториной, которая перехватывала и утаивала повестки в суд”.*

Так што і ў сямейным плане ўсё складвалася не на яго карысць. Застаўся трэці кампанент – праца.

Зазірнем у даведнік. Міхась Стральцоў не працаваў з 1973 года па 1980. А можа 81-шы? Бо з 1981 па 1982 ён ужо ў ЛПП. Так што маглі і за дармаедства закатаць на год, а то і два. Менавіта такім чынам паэт Лёнька Шугалей адседзеў год у Мікашэвіцкай калоніі ў тыя ж савецкія часы. Але Шугалей не быў сябрам Саюза пісьменнікаў. Для сяброў жа творчых саюзаў усё ж існавала паслабленне. Фармальна яны маглі і не працаваць у дзяржаўных установах. Жыць, так бы мовячы, за ганарары за кніжкі. Доўгі час жыў так знакаміты пісьменнік Уладзімір Караткевіч. А вось празаік Мікола Капыловіч “ўмудрыўся” трапіць у ЛПП аж два разы!

Рабілася гэтак. Пасля завяршэння першых двух этапаў фабрыкавання "справы" (міліцэйскі пратакол і заява жонкі) органы накіроўвалі запыт у СБП. Там разбіралі. І калі Саюз даваў дабро, ахвяру ўжо нічога не ратавала. Я мяркую, што М. Стральцоў аб гэтым мог і не ведаць альбо, калі і ведаў, то ніяк не мог і падумаць, што сябры-пісьменнікі адвернуцца ад яго...

Памятаю адзін выпадак. Аўтар гэтых радкоў і герой кніжкі зрабілі "па рублю", але за нейкія парушэнні алкагольнага заканадаўства, – што было канкрэтна, памяць ужо не ўтрымлівае – трапілі ўдваіх у апорны пукт міліцыі, што месціўся, здаецца, на скрыжаванні вуліц Камсамольскай і Інтэрнацыянальнай. Пачалі афармляць пратаколы. "На мяне пішыце, а Анатоля адпусціце. Ён ні прычым", – пачаў прасіць Стральцоў. Я тады працаваў навуковым супрацоўнікам у Акадэміі Навук, і папера з міліцыі азначала звальненне з працы і канец кар'еры. Таму Стральцоў і прасіў за мяне. Але дарэмна ён не надаваў увагі пратаколу на сябе.

У выніку Міністэрства ўнутраных спраў накіроўвае ў Саюз пісьменнікаў БССР зварот, дзе пытанне ставіцца рубам: "*Согласно Указа Президиума Верховного совета БССР от 1 августа 1974 г. Стрельцов только по ходотайству коллектива, где он работает, может быть направлен на лечение от алкоголизма в лечебно-трудовой профилакторий, а поэтому прошу сообщить Ваше решение об этом*".

Такім чынам, хмары згушчаліся над даверлівым і па-дзіцячы наіўным пісьменнікам. Што ж адказалі пісьменнікі на заяву жонкі А. Стральцовай і зварот МУС? Звернемся да першакрыніц. Захаваўся ліст СП БССР наступнага зместу.

*Начальніку Аддзела унутраных спраў*

*Выканкама Фрунзенскага раённага Савета Народных дэпутатаў*

*Тав. Ізотаву В.С.*

*На В/пісьмо № МТ/5-6-234 ад 06 лютага 1978 г.*

*Сакратарыят Саюза пісьменнікаў БССР разгледзеў асабістую справу (?) пісьменніка Міхася Стральцова і пісьмо Аддзела унутраных спраў Выканкама Фрунзенскага раённага Савета Народных депутатаў адносна паводзін пісьменніка Міхася Стральцова і прыняў пастанову, якой абавязаў галоўнага урача палiклінікі СП БССР т. .... гаспіталізаваць Міхася Стральцова для лячэння яго ад алкагалізму.*

Папрасілі "гаспіталізаваць"... Насамрэч даручылі аформіць дакументы для адпраўкі ў ЛПП. Але для "лячэння" ў "працоўным" прафілакторыі быў патрэбен суд. Суд быў кароткі, з прыкладна такім вынікам: "Накіраваць М.Л. Стральцова ў ЛПП г. Мазыра на прымусовае лячэнне тэрмінам на адзін год (ці два?)".

Пасля каранціну "пацыенты" ЛПП – у сапраўднасці звычайныя вязні, у прымусовым парадку накіроўваліся на працу. У Мазыры такой працай было пляценне ланцугоў – тупая механічная праца, што вымагае вялікага напружання рук.

Вось як апісвае сустрэчу з Міхасём у Мазыры пісьменнік Л. Дранько-Майсюк: "Уражанне ад месца, у якім апынуўся Стральцоў, было вельмі гнятлівым – высокі глухі плот з калючым дротам, на КПП узброеныя прапаршчыкі, закрытыя кратамі вокны, падобныя на астрожнікаў пацыенты, цьмяны глыбокі снег, злосны брэх вартаўнічай аўчаркі... "Што, ад убачанага сэрца апала?" — Стральцоў усміхнуўся..."

З цягам часу Міхасю трохі пашанцавала – знайшлося месца ў бібліятэцы лагера.

Тут ён спрабуе вярнуцца да пісьменніцтва. І найперш – да сваёй даўняй задумы – напісання аповесці "Гуляў конь на волі".

Яшчэ ў канцы 70-х гадоў у часопісе «Маладосць», на ягонай апошняй старонцы, з'явіўся анонс: «У наступных нумарах часопіса чытайце новую аповесць Міхася Стральцова «Гуляў конь на волі». Пасля трыумфу ў 1973 годзе знакамітага "Смалення вепрука" грамадскасць з вялікім нецярпеннем чакала новую прозу Стральцова. Аднак прайшлі месяцы ды гады, але замест абяцанага "Каня" чытачы пабачылі толькі яшчэ адзін анонс пра меркаваную аповесць.

Гэты твор так і не выйшаў. У архіве пісьменніка ўдалося знайсці ўсяго два

рукапісныя лісткі, дзе, відавочна, распачынаўся твор – зверху стаяў надпіс загалоўку аповесці. Аднак больш нічога не засталося. У ЛПП ён думае пра працяг працы але ўмовы жыцця ў зоне не спрыяюць творчасці.

І пра гэта піша пісьменнік у лісце да А. Сямёнавай:

*Аповесцейку сваю я колькі разоў губіў тым, што, загарэўшыся ёю, ужо як бы адчуўшы цалкам, не садзіўся ў час за стол — і перагараў. Вось яшчэ чаму самадысцыпліна ў працы — усё ж вялікая рэч. І справа тут нават не ў тым, можа, каб кожны дзень, як сцвярджаюць каторыя, пісаць, — па-мойму, гэта лухта. Танк, напр[ыклад], кажуць, пракламуе: страляй і галку, і варону — мо і ў каршука ці арла патрапіш. Можа. Але качак і варон неабавязкова страляць „на паперы“ і неабавязкова ўсенародна прад'яўляць справаздачу аб гэтай страляніне сваёй. Іншая справа змарнаваць па-сапраўднаму творчую хвіліну (а як ты да яе рыхтуешся, справа твая), тут ужо нешта падобна за злачынства перад сабой і на здраду сабе. У мяне, на жаль, многа такіх здрад. Справа, канечне, непадсудная, але, ведаеш, часамі бывае прыкра. Толькі хопіць пра гэта. Пра ўсё гэта мы мала што ведаем, бо ўсё, сапраўды, у руцэ і волі божай, і нават сказаўшы слова, „нам не дано предугадать“... 12.06.82.*

З паэзіяй у ЛПП у Міхася складваецца лепш. Ён піша шэраг добротных вершаў. Менавіта цяпер яму як ніколі карціць надрукаваць іх. Ён пачынае чыста па чалавечы перажываць за іх лёс, за іх прызнанне. Пасылае вершы і на радыё, і ў любімы “ЛІМ”, і ў часопіс “Полымя”. Але сталічныя рэдактары далёка не з распасцёртымі абдымкамі сустракаюць стральцоўскую прадукцыю. Адбіваецца ўсё тая ж партыйная дысцыпліна, баязлівасць, страх за сваю рэпутацыю і да т.п.

З ліста ад 16.V.82 А. Сідарэвічу, А. Пісьмянкову:

*...Думаецца, што не атрымаецца так, як на Радыё, дзе так перастрахаваліся перад начальствам з-за майго, мусіць, цяперашняга становішча, што ад падборкі пайшлі ў эфір два-тры вершыкі. Ды і пра тое нават не паведамілі мне. Пасаромеліся? Добра, што хоць саромяцца. Але... о tempora, o mores! Не наследуйце радыйцам, га?*

Вершы ў “Полымі” з'явіліся толькі ўвесну наступнага года, калі, пісьменнік выйшаў з ЛПП і вярнуўся ў Мінск.

Набліжаўся час выхаду з ЛПП, але гэта не толькі цешыць Міхася, але і трывожыць: “*Можа здарыцца так, што пісьмо гэта сам даганю ў Менску. Але – пішу „с той горькой радостью“ і т.д. Бацюхны-светы! Больш за год прайшло, адмалацілася, адгрукалася – і года, папраўдзе, не так шкада, як таго, што час упушчаны не для пісаніны нават (Бог з ёй!), а для вырашэння спраў жыццёвых і неадкладных. Вось выйду, а сам у цянётах большых і шчыльнейшых, чым быў раней. Вось што раз'юшвае! О богі! (З ліста да А. Сямёнавай ад 11.10.82).*

Хваляванне М. Стральцова аказалася небеспадстаўным. Па выхадзе ў канцы 1982 года з ЛПП ён далёка не адразу змог знайсці сабе сталую працу. Толькі ў 1984 годзе ён стаў загадваць аддзелам у “Нёмане”, куды Анатоль Кудравец прыняў яго, як адкрылася вакансія.

## III. АПОШНІ ПЕРЫЯД ЖЫЦЦЯ

Расійскай літаратарка Наталля Ігрунова наведала Міхася Стральцова ў той час, калі ён захварэў і ляжаў у 2-й мінскай гарадской бальніцы. Яна напісала ўспаміны:

*“Аповесць ён не напісаў. Але працаваў шмат. Пераклаў на беларускую «І вякуе дзень даўжэй за век» Айтматава. Вызначыўся на службу ў «Нёман» – загадваць аддзелам крытыкі. У восемдзесят шостым практычна адначасова выпусціў зборнік крытычных артыкулаў і эсэ і трэці зборнік вершаў. Да пяцідзесяцігоддзя Стральцова ў Маскве падрыхтавалі кніжку паэтычных перакладаў, у Мінску рыхтавалі абранае, знялі тэлефільм...”*

*“І тады ён убачыў сцены, якія адразу пазнаў: прапахлыя павуціннем, негабляваныя сцены, і тапчан у куце, закіданы старой вопраткай, і старыя начоўкі на ім, і лаву ля дзвярэй, і вёдры на ёй, і на падлозе кашы з бульбай, і чыгуны, і цэбар з мешанкай, і вузкае, на адно бервяно прарэзанае акенца ў сцяне, і нейкі слоік на ім, і шклянку з гусіным тлушчам на ім (ён гэта ведаў), і адно замурзанае (ці не поклад?) курынае яйка...” («Смаленне вепрука»)*

Я перакананы – гэты тэкст па-сапраўднаму зможа адчуць толькі чалавек з вёскі, толькі той, хто вырас сярод тых “негабляваных сцен”, кожны дзень садзіўся на “лаву ля дзвярэй”, глядзеў праз тое “акенца ў сцяне” і задумваўся: “Ці не поклад гэтае замурзанае яйка, што выкацілася з-пад курынага насцілу?”

Да канца дзён Стральцоў заставаўся “сенам у горадзе”, чалавекам, уся істота якога была з вёскай, але ўсё жыццё – з горадам. Істота якога – чыстата і праўда, а рэчаіснасць – таталітарная сістэма страху і бясконцай маны.

У запісной кніжцы Міхася Стральцова я знайшоў, бадай, апошні завершаны верш:

У скверы гэтым лугавінка
Мне, што выпадкам, так сабе,
Задобрыў думку успамінкам
Аб даўняй ліпеньскай касьбе, –
Такая радасць і аддуха.
Такая горыч і журба!
Сядзі і ўласным сэрцам слухай,
Як адступае ціха скруха,
А з ёй – і гора і бяда!
Няхай! Ды толькі дзе, мой хлопча,
Падстрошак той і дзе каса?
Другі ўжо нехта копы топча,
Другі ў прыпар спачыну хоча,
Другі ўжо там – не ты ўжо сам.
Ах, божа мой! Чыёю верай
Перада мной той даўні луг
Паслаўся чыстаю паперай,
Каб я радком пракосы мераў,
Касіў за двух
І жыў за двух!

*7.07.87*

Яму аставалася жыць 1 месяц і 16 дзён.

«Лячэнне» ў ЛПП дорага абышлося Стральцову. Пасля ў яго ўвесь час балелі ногі, якія застудзіў у сутарэнні бібліятэкі ЛПП. Хваробы заўчасна апанавалі яго. Можа, адгукнулася й няспынная курэнне. Так ці не, але ў 50 гадоў Міхася не стала.

...Спачатку ніхто не думаў, што ўсё так сур’ёзна. Спачатку размова ішла толькі пра неабходнасць пракаўтнуць японскі зонд, каб вызначыць памер невялікага пацямненння ў раёне страўніка.

Аказалася, гэта анкалогія, рак страваводу.

...Ішлі апошнія дні перад паездкай у апошняе месца яго жыццёвага шляху – анкалагічны цэнтр у Бараўлянах. Стральцоў адчувае хуткі прыход яе... – смерці. Ён становіцца вельмі чуллівы да любых знешніх, але найбольш унутраных змен.

І таму вельмі балюча перажывае, калі раптам да яго дасягаюць сігналы ад тых, хто некалі добра спрычыніўся да яго самага сумнага перыяду жыцця за кратамі. З запісной кніжкі: *“28 чэрвеня 1987. Глухата вырастае поўная... Заўтра трэба было класціся на абследаванне ў анкалогію. ...з работы не чутна ні гуку...”*

*“Нечакана правакацыйны званок. Нахабны добра пастаўлены голас:*

*Ну як, за гэты час многа напісаў?*

*Падазрэнне расло.*

*Хто гэта? Барыс?*

*Мне падалося, хоць і не верылася, што б Фіраштэйн. Падобны трохі голас, але прыслухаўся – не...*

*Тут ужо я ўзарваўся.*

*Той пачаў пагражаць.*

*Забыўся пра Мозыр?*

*Пры чым тут Мозыр? З Мозыра са мной ніхто б не стаў так гаварыць. Не даваў для гэтага падстаў. А той:*

*Ты так? А ты разумееш, што я ведаю дарогу, па якой ты ходзіш дамоў?*

*Нахабства нечуванае.*

*Я вылаяўся і кінуў трубку.*

*Цяпер думаю. Хто? Чаму? Адкуль?*

*Хто за ім? Усё ж ведае – і пра хваробу, і кватэру...*

*Нахабны, але не дурань, добра прастаўлены голас. – "інтэлігент" са стукачоў не іначай (сексот). Хто?"*

Спецслужбы не пакінулі яго нават падчас цяжкой смяротнай хваробы.

Да апошняга моманту ён спадзяецца на жыццё. Але цуд не адбываецца. Вось, магчыма, апошнія радкі, напісаныя ўжо няроўным неразборлівым почыркам у той жа апошняй запісной кніжачцы:

Не, паміраю! Тушыце свячу!
Свету дарую я зло без прынукі,
Трэшчыну сэрца... Куды я лячу?!
Скончана! Скончана? Не, не скаруся!
Меч шчэ не позна руцэ займець!
Дык чаму ж сэрца ў гэтакай скрусе?
Розум пры мне мой. Бачу я...
Смерць!

Аднак Госпад даў Міхасю напрыканцы жыцця ўзнагароду за пакуты беспрацоўя, жыцця за кратамі і неразумення блізкіх людзей і асуджэння далёкіх. Гэтай узнагародай была вялікая прывязанасць да яго балгарскай даследчыцы беларускай літартуры Розы Станкевіч.

А знаеш што, а знаеш што,
Мой дружа мілы,
Ты ля маёй душы пастой
У час панылы...

З гэтага верша Міхася пачынаецца дзённік-успамін Розы Станкевіч пад назвай "Лічбы" (напісаны на рускай мове з адпаведанай назвай "Числа"). Яшчэ ў 1980-м годзе яна ўпершыню пазнаёмілася з творчасцю Міхася Стральцова, але іх сустрэча адбылася толькі праз шэсць год – 13 кастрычніка 1986 года. І з таго часу да самай смерці Роза Станкевіч была блізкім да Міхася чалавекам.

*Праз шэсць гадоў, Ты – стаў маёй сувяззю з Высокім, Чыстым, з Небам – якое адкрывала ў глыбіні Тваіх вачэй, каб застацца «Палоннікам». Клічу яго – вечнага.*

*Праз шэсць гадоў, Ты – стаў маім Лёсам. Сувяззю маёй з светам Сутнасным.*

*...І я дзякавала Лёсу! За нашы адзінаццаць месяцаў і дзевяць дзён.*

*...Ты – заўсёды са мной. З намі – заўсёды!*

*Дзякую Богу!*

*Амінь!!!*

Яна прыехала з Балгарыі ў БССР у камандзіроўку – вывучаць беларускую літаратуру, па якой пісала дысертацыю. І сустрэла сваё каханне – беларускага

пісьменніка Міхася Стральцова. Але атрымалася так, што іх сувязь перарвала яго заўчасная смерць. “Лічбы” напісаныя як яе споведзь.

З 2-й гарадской бальніцы Міхася перавялі ў сумна вядомыя Бараўляны. І адтуль ён ужо не выйшаў. *“...Кожны божы дзень я хадзіла ў Царкву, прылiпала да цудатворнай іконы Мінскай Багародзіцы. Потым праз рынак імчалася ў бальніцу ...І да гэтага часу, як бы дзіка не гучала, зайздрошчу тым людзям, якія ездзяць па тым маршруце, да той страшнай лякарні ў Бараўлянах, з якой не было наканавана табе выйсці”* (з «Лічбаў»).

Да апошняга моманту Стральцоў верыў, спадзяваўся, што будзе жыць. Ён лічыў, што надта ж мала зрабіў, каб паміраць. *“Не бойся, малая! Выбярэмся адгэтуль! Выкараскаемся! – нястомна, да апошняй магчымасці гаварыць, – Ты паўтарай”* (з «Лічбаў»).

Іх дачка нарадзілася ўжо пасля смерці паэта. *“У той самы момант, калі нараджалася наша дачушка, я, відавочна, амаль фізічна адчувала Тваю прысутнасць. Побач са мной. З намі. Без Твайго ўмяшання, цалкам верагодна, таму што я тады, засынаючы, здолела пераступіць «рысу светаў», якая стала выключна празрыстай і незаўважнай”.*

На гадавіну смерці М. Стральцова 23 жніўня 1988 года паэт Алег Бембель (цяпер насельнік Жыровіцкага манастыра манах Іаан) падарыў Міхаэле – дачцэ Міхася Стральцова і Розы Станкевіч, верш:

**Вяртанне з выраю**

...Душа паэта у трымценні конным
пераляцела ў цельца немаўляткі...
Вачыма Вечнасці глядзіць..
І б’е у ладкі...
І усміхаецца...
Міхася Міхасёўна....

...Труну з целам Міхася Стральцова выставілі ў Доме літаратара, што на вуліцы Фрунзе, 5. Людзей, каб развітацца, прыйшло вельмі шмат. Быў заказаны духавы аркестар, які граў «Жалобны марш» Шапэна.

Памінальны стол арганізавалі на ягонай апошняй кватэры па вуліцы Прытыцкага. Людзей прыйшло значна больш, чым магла б змясціць савецкая кватэра. Таму арганізавалі тры заходы. Выпілі тры разы, закусілі – і наступная партыя. Аўтар гэтых радкоў трапіў, здаецца, у другую “змену”. Вышла так, што за жалобным сталом я апынуўся побач са старэйшым сябрам Міхася – Янкам Брылём. Нічога нельга было прачытаць на задуменным твары патрыярха беларускай літаратуры.

Мы моўчкі выпілі па тры чаркі і выйшлі...

## ЭПІЛОГ

Яшчэ ў далёкія 80-я гады XX стагоддзя, у гады застойнага савецкага праўлення Леаніда Ільіча Брэжнева, ва ўмовах жорсткай цэнзуры, сярод савецкай інтэлігенцыі пачаў з’яўляцца так званы непадцэнзурны друк, а працей кажучы – самвыдат. Зразумела, тыя рукапісы, машынапісы былі антысавецкай накіраванасці, як у палітычнай галіне, так і ў літаратуры. Нават звычайныя даследванні ў сферы гуманітарных навук, калі яны выкананыя за мяжой, альбо ў СССР – але не вытрыманыя ў свеце рашэнняў чарговага з’езда КПСС, ці проста не ў рэчышчы сацыялістычнага рэалізму – выходзілі ў свет толькі самвыдатам. Добра вядомы і ў цяперашні час даследчык беларускай літратуры англійскі вучоны Арнольд Макмілін яшчэ ў 80-я гады мінулага стагоддзя напісаў грунтоўную кнігу, прысвечаную гісторычнаму аналізу беларускай літаратуры. Энтузіасты пераклалі гэты

твор на рускую мову і надрукавалі на машынцы. Атрымаўся салідны і аб'ёмны самвыдат. Заканчваўся твор наступнымі радкамі:

*Аднак, найбольш лірычным з усіх беларускіх пісьменнікаў жанру кароткага апавядання з'яўляецца Міхась Стральцоў, адзін з найбольш выдатных прадстаўнікоў пакалення, літаратурная дзейнасць якіх пачалася ў 60-я гады. Паэт-філосаф і пільны крытык Стральцоў асабліва паважаны за яго высокаэкспрэсійную, эмацыянальна ўзвышаную прозу.*

Зразумела, такое яўнае вылучэнне амаль невядомага з пункту гледжання афіцыйнай іерархіі беларускіх літаратараў М. Стральцова мала падабалася масцітым, але не такім таленавітым пісьменнікам, як ён. Тым больш з такой біяграфіяй. І ў савецкія часы Стральцоў заставаўся малавядомым пісьменнікам.

Праўда, пасмяротна Міхась Стральцоў атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларускай ССР імя Янкі Купалы за зборнік вершаў «Свеце мой ясны» (1986 год). Яго творы былі перакладзены на рускую, балгарскую, польскую і англійскую мовы.

Сукупнасць згаданых складаных адносін да Стральцова, замяшаных на яго не зусім "савецкай" біяграфіі і, гэта найбольш верагодна, – на самай непрыхаванай зайздрасці з боку высокіх чыноўнікаў, а таксама многіх пісьменнікаў, у тым ліку і блізкіх – саслужыла яму дрэнную службу ў апошнія гады жыцця. Так, у тым жа 1986 годзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" было запланавана выданне шэрагу двухтомных збораў твораў беларускіх пісьменнікаў. Быў складзены вялікі план, у які было ўключана каля 30 пазіцый. І траіх з гэтага плана потым выкінулі: Віктара Карамазава, Дануту Бічэль і Міхася Стральцова.

Віктар Карамазаў успамінае: *"Міша да гэтага не быў абыякавы. Але ён не хацеў хадзіць. Гэта не той быў чалавек. Тым больш кагосьці прасіць... Рыгор жа (Барадулін – А.А.), сябра – і складае план, і выдае, што ён сказаў, тое закон. А пасля маёй хадзьбы, я нават у Антановіча быў, сказаў: "Такія пісьменнікі выкідваюцца..." Ён сказаў – ЦК цяпер не ўмешваецца".*

Пасля смерці Стральцова была складзена камісія па захаванні спадчыны пісьменніка. Здаецца, ужо ж няма таго, каму зайздросціў літаратурны Алімп. Але толькі не ў беларускім пісьменіцкім асяроддзі. Яшчэ адзін фрагмент размовы з В. Карамазавым: *"Увайшлі ў камісію Брыль, Драньгко-Майсюк, Кудравец, я, жонка Міхася і Барадулін. Брыль прапанаваў выданне трохтомніка Старальцова. Ён сказаў: Мы ведаем, што Стральцоў мала напісаў. Давайце такія сучасныя еўрапейскага фармату тры томікі выдадзім: томік прозы, томік паэзіі і томік крытыкі. Выдатнае падарункавае выданне. У мяне пратакол. І гэты пратакол лёг на стол. Барадулін быў загадчык перавыданняў. Фактычна што ён сказаў, тое і рабілі. Два разы пратакол насіў туды. І роспіс Барадуліна быў...*

*Не выдалі. І не ўключылі нават у план".*

На гэтым заканчваецца савецкі перыяд "захавання спадчыны" М. Стральцова. Другое адкрыццё Міхася Стральцова для грамадскасці было зроблена ужо новым пакаленнем беларускіх літаратараў.

Літаратар і перакладчыца Н. Ігрунова: "...*Але пасля сваёй раптоўнай смерці менавіта Стральцоў стаў фігурай культавай. Пра яго пішуць успаміны і артыкулы, з яго прозай узаемадзейнічаюць, развіваючы яе матывы альбо палемізуючы з ёй, новыя беларускія пісьменнікі*". І яшчэ: "*За мінулы час імя Міхася Стральцова стала паролем своеасаблівага тайнага брацтва беларусаў на Радзіме і ў выгнанні, паэты і празаікі розных школ і накірункаў напісалі гэтае імя на сваіх штандарах*" (Л. Турбіна).

Варта пералічыць некалькі культурніцкіх праектаў, звязаных з імем пісьменніка. У 2012 годзе быў заснаваны міжнародны паэтычны фестываль памяці Міхася Стральцова. Гэты фестываль праходзіць у Інстытуце Гётэ і адбываецца ў дзень нараджэння пісьменіка – 14 лютага.

Найбольш урачыста праходзіў другі фестываль – 14 лютага 2013 года, прысвечаны 75-годдзю з дня нараджэння паэта, у якім прыняло ўдзел больш за 200 чалавек. Арганізатарамі фестывалю былі: Саюз беларускіх пісьменнікаў, Беларускі ПЭН-цэнтр, Інстытут імя Гётэ ў Мінску, а таксама Шведскі саюз пісьменнікаў.

Творы Міхася Стральцоў сталі аб'ектамі новых форм мастацтва, што парадзіў век інфармацыйных тэхналогій – XXI-шы. Вось такое паведамленне можна было знайсці ў інтэрнэце: "*Культурніцкая кампанія "Будзьма беларусамі!" прадстаўляе першы ў Беларусі прафесійны буктрэйлер, створаны паводле апавядання Міхася Стральцова "Смаленне вепрука". Запрашаем усіх скарыстацца культурніцкай машынай часу і перанесціся ў 1973 год, стаць часткай Стральцоўскага космасу і разам паспрабаваць разгадаць адзін з найбольш загадкавых твораў беларускай літаратуры!*" Так што віншую, Міхась Лявонавіч, з буктрэйлерам. Што, не чуў такога заморскага слова? Я – таксама.

І на заканчэнне зусім прыемнае даследванне з таго ж Інтэрнету. Тычыцца яно яшчэ адной загадкі Старальцова – зайздраснага поспеху сярод жанчын. Ала Сямёнава, напрыклад, адзначала: «Міхась Стральцоў не быў пазбаўлены ўвагі жанчын. І ў апошнія гады ён зазнаў вялікі жаночы інтарэс да сваёй асобы». Паводле Анатоля Сідарэвіча: «у рэдакцыі "Мастацкая літаратура" ў жанчын быў, можна сказаць, культ Стральцова».

У жывым дзённіку літаратуразнаўцы Алы Брадзіхінай (http://veragodna.livejournal.com/84598.html) некалькі год таму ладзілася галасаванка па выяўленні 20-ці самых атрактыўных мужчын-беларусаў. Зразумела, апытанне насіла жартаўліва характар. Але ўсё ж... Зірнем на яго вынікі:

*«Дык хто, сябры, на вашу думку, можа прэтэндаваць на ролю ~~секс-сімвала~~ самага атрактыўнага мужчыны беларускай літаратуры?*

*Прынялі ўдзел: 57 чалавек. Спіс лідараў і вынікі галасаваня: Максім Багдановіч 13(21.0%), Максім Танк 8(12.9%), Уладзімір Дубоўка 12(19.4%), Алесь Гурло 0(0.0%), Альберт Паўловіч 3(4.8%), Міхалка Петрукоў 2(3.2%), Міхась Стральцоў 15(24.2%), Кастусь Каліноўскі 6(9.7%), Міхась Зарэцкі 0(0.0%), Лукаш Калюга 3(4.8%)».*

Такім чынам, Стральцоў на першым месцы! – 24.2%, Максім Багдановіч на 2-м з 21%. Дзве загадкі – пачатку XX стагоддзя (Максім Багдановіч) і канца XX стагоддзя (Міхась Стральцоў) апынуліся і тут побач!

* * *

І на заканчэне.
Я ўспамінаю: *"Ён хоча думаць: я засяцярогся, я сказаў"*.
Думкі спраўдзіліся, Міхась. Ты – СКАЗАЎ!

Што я хацеў, што я хацеў,
Што за праява адбылася?...
Я сніў, што сам я адляцеў –
Душа ўзяла і засталася.

крытыка

Леанід Галубовіч



...яе словы, вершы, кнігі – гэта працяг

недасказанага-недаслуханага-недачутага...

# Тварам да Марыі

***Штрыхі да творчага партрэта Марыі Вайцяшонак***

*сесці на ганку*
*як аса*
*на мядовы*
*сподак*
*і напісаць*
*верш*

**Марыя Вацяшонак**

Чытаючы творы Марыі Вайцяшонак, заўсёды здзіўляешся яе аўтарскай метафары, якая, высока не ўзлятаючы, мосціцца непадалёк ад яе напрацаваных рук... Найперш здзіўляешся, а пасля ўжо раздумваешся, разгадваеш жыццёвыя высновы гэтых яе паэтычных тропаў. Бо ўсе словы паэткі пераніцаваны яе чалавечым вопытам, і так традыцыйна-ўзорна складзены адно пры адным, што ты пачынаеш ім верыць і канчаткова давяраца. Успрымаеш гэтыя коратка выпісаныя, выцягнута-наструненыя вершы, бы ейнае наканаванне... Я памятаю, як ад ёмкай упрацавана-традыцыйнай прозы, бы ад здаровай сялянскай утомы, прыходзіла яна, сасмяглая, да паэзіі, нібы да

суседскай студні, каб наталіцца прыгожым словам, перавесці дух, нагаварыцца пра ўсе невымаўленыя таемствы сваёй душы...

Так, нечакана для яе чытачоў, з'явіўся першы яе зборнік "Серпень" (2009), дзе Марыя пісала пра свой паэтычны дэбют так:



*Марыя ВАЙЦЯШОНАК.*

У мяне яшчэ
не было імя,
я яшчэ
не нарадзілася.
Круцяцца
пустыя
жорны.

Але жыта на яе творчай ніве ўжо каласавала... Чыталіся кнігі, парадкаваўся духоўны свет, муляў вопыт жыцця, адводзячы ад лёгкай спакусы, дбала душа і прагла палёту... Таму неўзабаве пабачылі свет зборнікі вершаў "Асадніца" (2010), "Сонцаварот" (2012) і "Гняздо агню" (2014).

Гэтая ж кніжка ("Тварам да зімы", выдавец Віктар Хурсік, 2016) напісана Марыяй яшчэ па старым адрасе і ў ёй ужо не так шмат таямніц і адкрыццяў, як у папярэдніх, але ўсё больш адчувальная непазбежнасць навізны сыходу – той час, калі, як пісала яна ў зборніку "Асадніца", *"басанож/* пастушкай/ іду/ *за ягнятамі/ дзён"*, і *"маўчанн*е/ каменя/ побач з намі/ змястоўней*/ нашае/* размовы" ("Сонцаварот"), а *"густы калючы/ дождж/ дробным/ шрыфтам/ па шкле/ раптоўна,/* не паспяваю*/ счытваць/ чыесьці пісьмёны"* ("Гняздо агню")...

Такая філасофія яе чалавечага выраку. Ва ўсіх яе творах адчуваецца ці то стылёвы, ці то фармальны, а то і светаўспрымальны штрышок-штуршок знаных папярэднікаў, што адметна, замежных: Габрыэлы Містраль, Гарсія Лоркі, Філіпа Жакотэ, Яна Твардоўскага (эпіграфы з іх твораў яна выносіць на покуць-зачын усих сваіх кніжак). Гэта радуе, бо традыцыйна-класічную нашу спадчыну мы ўжо занасілі на сабе, нібы сялянскую кашулю, натуральна да дзірак... Таму, чытаючы на ўступнай старонцы зборніка "Тварам да зімы" такія радкі польскага паэта-ксяндза Яна Твардоўскага:

Баяўся: вочы слабнуць – чытаць не змагу
памяць трачу – пісаць не патраплю
дрыжаў як абора якую вецер калыша –
дзякую Пане Божа што лапу мне даў
сабака які кніг не чытае і вершаў не піша, –

разумееш, што М. Вайцяшонак не толькі каталічка, а ўвогуле чалавек Божы, паэт, адораны Яго талентам. У чым сутнасць гэтай афарыстычнай зацемкі польскага паэта? На мой розум, у прастаце чалавечых стасункаў з любой зямной і паднебнай з'явай – ад самай нізкай да самай высокай, бо адлегласць паміж чалавекам і сабакам, як і паміж чалавекам і Богам – ёсць мерай усяго толькі спагадна працягнутай рукі, шчырасцю памкнення ці помысла...

Такая і Марыя – ад стаптаных ног да сівога воласа на галаве – чуйная да ўсяго жывога і помная да памерлага. Вось як у гэтых яе глыбока-ўзвышаных радках:

Паляўнічы
стрэл
на балоце
ўспуджана
птушка

пакуль бачу
яе ў небе
ляту побач
нас лёгка
пераблытаць.

Але Марыя не ўцякае ў вершах ад сябе самой, хутчэй наадварот: яна ўся выяўляецца нам, прабачаюся, як потам прапітаная, гэтым сярмяжным, цяжкім і падчас няўдзячным зямным існаваннем. Ведаючы яе біяграфію няцяжка даць гэтаму веры. Адбыўшы з рэпрэсаванымі бацькамі галодна-халодную высылку, яна вярнулася на Айчыну, каб звязаць, як казалі старыя людзі, пачаткі з канцамі... Ад алтайскага Змяінагорска да асады Соўчына і да вёскі Грыдзькі на Пастаўшчыне, а там далей – сцяжынаю, наканаванаю лёсам... Таму сёння яна можа напісаць: *“век мой супадае/ з векам/ пакінутай вёскі”*. Тым больш, што памяць не дае ёй забыць пракаветнае:

рукамі абдымаю
печ
амаль мяркуюся
коткай
ускочыць на пяколак
вярнуўшыся са школы
ўзімку за вёрст пяць
спаць...
у запечку
як за плячыма
печ – радзімачка
печ – Айчына.

Кожнае яе нутраное, перажытае-передуманае слова, як жыта перамолатае на муку, выходзячы вонкі, – да прыроды і чалавека, бродзіць-закісае на дражджах паўсядзённага жыцця ды падымаецца пышным цестам для караваю на чаканае свята Паэзіі... Так вось напішаш – і, здаецца, што так яно і ёсць. Бо ты – аўтар. Табе нешта такое ведама, што пакуль няведама астатнім. Але, нарэшце, нацешыўшыся сваёй таямніцай, адкрыешся і адпусціш яе да другіх... Няхай здарыцца свята душы і ў іх. А ты ўжо вышукваеш-вымройваеш усёй сваёй істотай новыя запаветныя адкрыцці, заблытваючыся ў каранях пракаветных слоў і выслоўяў...

ад сонечнага
клубка
выцягваю
нітку
ўсё што нядобра
няхораша
брыдка
цырую
кладучы
сабе на калені
а людское
непаразуменне
як жабрацкае
адзенне
лата на лаце.

Паэтка не хавае, а нават штораз тым ці іншым вобразам даводзіць сваю жыццёвую напоўненасць, вопытнасць і разуменне таго, што робіць чалавек з часам і час з чалавекам. Яна такая ж, як і ўсе, зямная і смяротная, але выбітная і даўгавечная ў сваёй адрознасці. Марыя любіць сваю зямлю, штодня схіляе перад ёй

сваю галаву, згінаецца над ёю, саджае, прапалвае, палівае – радуецца плоду і квету. Бо і сама з зямлі, бо і сама зямная. З ёю лёгка гаварыць, яе займальна слухаць. Для мяне яе словы, вершы, кнігі – гэта працяг недасказанага-недаслуханага-недачутага... І хоць надзённае зацягвае ў свой нерат, Марыя памятае сваю нядаўнюю волю...

ў люстэрка
ўглядаюся –
не адбіваюся
увайшла
ў свой цень
поўдзень!
а думала – вечар.

Безумоўна, адчуванне часу, што пераследуе нас, як той "брадобрей" А. Таркоўскага "с бритвою в руке", не пакідае нам вялікіх ілюзій для аптымізму, але і не заганяе ў цёмны кут беспрасветнасці. Дзякуючы зробленаму і створанаму, мы маем гэткую індульгенцыю – быць зразуметымі і помнымі сваімі наступнікамі. Можа, толькі вельмі асабістыя, а таму і найбольш дарагія нам рэчы выслізгваюць і выпадаюць з нашых аслаблых рук. Не сказаць, каб такіх вершаў песімістычнага характару і адцення ў зборніку "Тварам да зямлі" надта шмат, але яны ёсць, як неад'емнасць дадзенага нам ад самага нашага пачатку:

зачыняю
засланку
за сонцам
увечары;
гады падыходзяць
вясковым разводдзем:
той бераг,
дзе ты,
яшчэ далей
адплывае.

Даволі часта ў Марыі Вайцяшонак адны і тыя ж вобразы могуць пераходзіць з верша ў верш, дапаўняючы і дадаючы глыбіню і філасафічнасць зместу ўсяго твора ці асобнай метафары, дэталізуючы карціну ўвогуле. Найчасцей гэта здараецца ў паэткі з такімі паняткамі, як час, сонца, вада, цень... Па сутнасці – гэта складнікі вечнасці зямнога і чалавечага існавання, дзе нараджэнне і смерць, як змена эвалюцыйнай квадры ўсяго Сусветнага працэсу:

Так позна
спазнаць
вашу здраду
як з урачыстай
вячэрай
спазніцца
калі ўжо тваё
сонца садзіцца
і не дасі рады
у што апрануцца
на гэтым часе
апошнім.

І людзі, і канкрэтны чалавек, і пэўныя прыродныя з'явы – усе яны, тым ці іншым чынам, падпарадкоўваюцца ходу сонца, на ўсім ляжыць яго раўнадзенства святла і ценю... І ад маладосці да старасці – як ад усходу сонца да яго заходу... Памятаю, як на сваё дзевяностагоддзе кароткім выдыхам казала мая бабуля: *"Усё жыццё, унучачак, як адзін дзень* прайшло..." Тады, маладому, не верылася,

а цяпер сам адчуваю, што так яно і ёсць. Падобнае адчуванне ёсць і ў Марыі Вайцяшонак, хоць яно ў вершах і завуаліраванае і нярэдка перадаецца праз другую і нават трэцюю катэгорыю вобразнага выяўлення. Стыль пісьма паэткі – асобная тэма гаворкі. Мала сказаць: ён арыгінальны; трэба абавязкова ўдакладніць, што асабовы. Старэйшым людзям лёгка можна патлумачыць гэта колішняй савецкай калектывізацыяй, мусовым стварэннем калгасаў, куды заганялі ўсю галечу з усёй іх беднай сялянскаю гаспадаркай і патрабавалі жыць па пэўных псеўдакамуністычных правілах і законах... Аднак знаходзіліся настолькі самасныя і ўпартыя, якіх проста немагчыма было ўгаварыць альбо загнаць туды сілай. Іх называлі аднаасобнікамі... У іх быў не калектыўны, а свой асобны лад жыцця і гаспадарання... (Дарэчы, бацькі паэткі да 1939 года былі польскімі асаднікамі.) Прыкладна такі стыль пісьма ў Марыі Вайцяшонак, у адрозненне ад мноства сучасных літаратараў з розных саюзаў, аб'яднанняў і накірункаў... Гэты стыль быў заўважаны крытыкамі яшчэ ў яе прозе. У вершах ён перацярпеў, скажам так, перыяд лаканізацыі. І падчас творчага азарэння набывае класічныя ўзоры паэтычнага мастацтва, як у гэтым вось выпадку:

Птушка
ўдарылася
ў вакно
ўпала
я ўскрыкнула
даляцець
да самага
твайго
сэрца
і памерці.

Калі казаць пра творчую блізкасць да нейкіх школ і накірункаў – і тэматычную, і стылявую, і філасофска-псіхалагічную – то тут я паставіў бы Марыю ў адзін невялікі шэраг да такіх нашых выбітных сучасных паэтаў, як Алесь Разанаў, Валянціна Аксак, Надзея Артымовіч. Усе яны не маюць пэўнай грамадска-нацыянальнай акрэсленасці і ідэйнай зацыкленасці ў сваёй вершаванай творчасці, але ўсіх іх выдае адметная паэтычная манера ў мастацкім самавыяўленні. Напэўна, прачытаўшы колькі вершаў названых творцаў, прыхільнікі беларускай паэзіі без асаблівай напругі і боязі памыліцца назавуць імёны іх аўтараў. А гэта ўжо пазнака таленту. І тут нельга абысці арыгінальную асабовасць гэтых творцаў. Іх характары, лінію паводзін, чалавечую і грамадзянскую годнасць... Калі, кажучы словамі Ахматавай, вершы могуць расці, чорт ведае, з якога смецця то сам паэт, на мой погляд, узрастае толькі са здаровага семя. І такая вызначанасць пазнаецца і ў саміх радках вершаў Марыі Вайцяшонак і ў яго падтэкстах:

Перастаў
прыходзіць
да мяне
жабрак
іншы раз
вельмі надакучаў
стукаючы
ў дзверы
наранку
і я раптоўна
пабяднела.

Безумоўна, сапраўдны творца не жыве ізалявана ад народа, бо і сам ёсць народам. І піша ён на мове народа, але атрамантам свайго сэрца. І ўсё, што атачае

яго, – заточвае яго пяро. Найперш – дух нацыі, аўра людскога побыту, традыцый і паводзін, прырода і месца пражывання. Чалавек, які спазнаў свой асяродак і ўсвядоміў там сваё месца, будзе пакланяцца і настальгіраваць па ім да скону жыцця. Нават калі некаму гэтае месца будзе здавацца гіблым і праклятым. Любіць сваё – гэта як паважаць сябе і сваю адпрыродную годнасць. Марыя Вайцяшонак дзеля радзімнага гатовая на ўсё:

і саступіць
мурашцы
на лясной дарозе
і адмяніць пазначаны
канец
сусвету

Яна памятае сваё мінулае, да якога штораз вяртаецца, хоць ведае, што, апроч самоты і жалю, там ужо нічога не заспее, бо адтуль ужо сышлі ўсе родныя людзі, зямля загаіла раны, зараслі сцежкі – толькі неба над усім такое ж сіняе і бяздоннае... І, можа, яно менавіта і вяртае, бо ў тую вечную прорву ўсё і сыходзіць. І таму:

вярталася
на прыцемках передумак сваіх
начавала ў дарозе
падымалася
несучы наперавес на плячы
успаміны пажыткі",
"няньчыла/ сваё дзяцінства", тады як
"Мой палюбоўнік
стары дзядоўнік
чапляецца нахабна
за прыпол
казыча вусамі
босыя ногі
высланы
мне лапухамі
дол
палюбоўны

А ты, наперакор усяму, застаешся тут – тварам да зімы – і як можаш доўжыш свой зямны шлях – там, дзе наканавана... Бо:

Не здрадзіш
не згубіш
мову
на якой
любіш.

Гэтак піша і так выяўляецца мне цудоўны чалавек, прыгожая жанчына. адмысловы творца Марыя Вацяшонак. Вазьміце яе кнігу, зазірніце за вокладку яе жыцця...

Уладзімір Сівіцкі



...паэтка не ў пачатку творчага шляху,
але ў пачатку высокага ўзлёту...

# Хараство ацалення і ацаленне хараства

***Рэцэнзія на кнігу Алены Ігнацюк***

***Алена Ігнацюк. Будзе ўсё наадварот. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 79). – 96 с.***

***Новая кніга Алены Ігнацюк, што нядаўна пабачыла свет у серыі Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка", адметная не толькі сваёй паліграфічна-выканальніцкай формай, але і мастацка-эстэтычным зместам. У эстэтычнай сістэме аўтаркі гэтыя вершы апазнавальныя і неапазнавальныя, яны адначасова пераемна-"старыя" і новыя, традыцыйна імпрэсіяністычныя і арыгінальна экспрэсіяністычныя, канцэптуалісцкія. І гэта, бясспрэчна, звязана з тым, што скразной, дамінантнай і ўсеахопнай паэтычнай танальнасцю зборніка стала незвычайна яскравая і тонкая па гучанні*** **лірыка ацалення.**




Практычна ўсе вершы аб’яднаны адным унутраным імператывам – ад прыгнечанасці-заняволенасці да вызвалення, ад сну да абуджэння, ад хваробы да аздараўлення, зараджаны адной прагай дасягнення жыццёва-паэтычнай свабоды, гармоніі душы творцы. Калі ў праграмна-зачынальным вершы “Сінія вочы” (с. 3) з характэрнай для пяра Алены Ігнацюк аўтабіяграфічнай непасрэднасцю тэма ацалення задаецца як жыццёвая падзяка і паэтычна-пазнавальнае здзіўленне-адкрыццё (для лірычнай гераіні, якая кладзецца на аперацыйны стол, сінія ўратавальныя вочы доктара – гэта *“неба высокага тонкія далі”*; скальпель хірурга – як выратавальная зброя мага-героя; у сне пад наркозам ёй мрояцца росы, уцешныя пчолы, і вераб’і, што ў пяску *“лашчаць спіны”*), то ў вершы “Пра што... Ніхто не ведае” (с. 64) ацаленне трактуецца як галоўная інтрыга-дягназ мастацтва, творчасці, быцця. “Аэды старой Грэцыі”, “ўладарны Дож Венецыі”, “калабок, *што коціцца”, “меса, што* балоціцца” і ўсё, усё, усё жыве адным дыягназам прачынання, адраджэння, амаладжэння, росквіту, які ведае, бадай, адно “пінскі доктар”.

У канву зборніка ўнітаваны шматлікія “ацаляльныя” матывы і вобразы: вяртання згубленага і ўраўнаважвання (вецер і “ўраўнаважаны лось”, верш “Лось і стакгольмскія вуліцы”, с. 45), суцяшэння (“суцешаная хвоя”, верш “Сінія вочы”, с. 3), дасягнення адпаведнасці і супадзення (Ён і Яна як жыццёвая рознасць-адзінства, вершы “Адпаведнасць”, с. 15 і “Супадзенне”, с. 66), з’яднання з родным – маленствам (напрыклад, асацыятыўна-вобразны шэраг: узыход поўні, млявасць і даўняе-роднае з дзяцінства: *“Грэю бок, як сон, на печы”* (верш “Час ўзыходу поўні”, с. 88), а таксама: зіма, сон, радно, прыснежанае зімой, а ў сне лірычнай гераіні *“мама варыць кампот”,* верш “Зіма загасцілася”, с. 85) і інш.

Праз ацаленне ў паэтычным свеце зборніка праходзіць літаральна ўсё, не толькі сама лірычная гераіня і сама паэтка. Так, у Радзімы, якая “захварэла” на *“лёгкі вірус... ці сур’ёзна”*, ёсць такая ўратавальная, на думку Алены Ігнацюк, магчымасць пазваць сяброў – *“філосафаў, рамантыкаў, паэтаў”, “духоўную эліту”* – і зноў закахацца, забыўшыся пра ранейшага “героя”, які згубіў *“сваё рэха”, “стаў безгалосы”*, здрадзіў багам, і даўшы мову калі не людзям, то птушкам *(“Хай птушкі запяюць на беларускай мове...”)* (верш “Размова з Радзімай”, с. 82). Паэзія, аказаўшыся разам з творцам у пачэсным пераліку “Часаслова”, ацаляецца-аднаўляецца ў багацці красак і фарбаў, у блакітна-сонечнай прасторнасці неба, грацыі рухаў, пераадоленні межаў і выцінанкавых узорах пары сярэдзіны мая – чэрвеня:

Які чысцюткі жніўня колер ў “Часаслове”!
Поль Лімбург разглядзеў... Вітае нас?!
Я ў сінім... Ты, Паэзія, ў ружовым...
Як сокала – мы ловім СЛОВАЧАС

*(“Мы апынуліся, Паэзія, з табою ў “Часаслове”).*

У нізцы вершаў VIII. Будзе ўсё наадварот (аднайменнай назве зборніка) паэтка пэўна і загадна абвяшчае ацаленне як пераўтварэнне ўсяго ва ўсім:

Будзе ўсё наадварот.
І з канца пачнецца год...
Будзе тое – будзе гэта...
...............................
Замест сёння будзе заўтра.

На матыў Камю ці Сартра
не ўявіць больш чалавека...
Замест турмаў – толькі Мека!
Блішчыць скура дзіў-гадзюкі...
Аднаўлення прагнуць гукі,
пахі, колеры і смакі...
Замест ружы сняцца макі,
што ў Маціса... Ці ў Ван-Гога?
Будзе так?!
Па волі Бога!!!

*(“Будзе ўсё наадварот”).*

У феерыі кардынальных змен мусяць знікнуць усе несупадзенні:

Я супаду – з сабою.
Я супаду – з табою.
Як праляціць над полем
белы верталёт.
Ўяўлю – несупадзенні
рабамі на калені
ўпадуць перада мною
на скошаны асот

*(“Супадзенне”).*

Згоднай ідыліі дасягне сямейны быт “Еваў-котак” (верш “Дзень кароткі”, с. 67). А зарукай усеагульнага ацаляльнага ператварэння, акрамя “волі Бога”, лірычнай гераіні бачацца: нешта касмічна-ўпарадкаванае, духоўнае *(“Ветры пазаву духоўныя, // і снягі* блакітна-*зорныя, // і развагі бездакорныя...”)* (верш “Дакрануцца да няўлоўнага”, с. 68), “навагоджанне” *(“Ранак* хворыцца*, неба хмурыцца... //* “Навагодзіцца*!” – ўскрык Зімы. // Атрыбуты ўсе маёй вуліцы //* расфарбуюцца ў тон хурмы”, верш “Навагодзіцца!”, с. 70), рушанне за святлом *(“Вецер гойсае, куражыцца... // <...> //* Дажджу ніць схапіў бясконцую... // Так памадна-*тлуста мажацца // вуснаў шэпт маіх: // “За сонцам я!”*, верш “Судны дзень”, с. 72).

Разам з тым, не настолькі ўсё бесканфліктна-беспаваротна ў свеце вобразнага пераканання аўтара. Трапляючы ў рэальнасць і пераўтвараючы бліжняе і дальняе вакол сябе, лірычная гераіня ўсё ж звыкла сумняваецца, дзейнічае з аглядкай-адступленнем. Так, у вершы “Як дабегчы...” (с. 73) гучыць матыў пераадолення перашкод на шляху да ацалення *(*“І чапляюцца вейкі за дождж. // Мы бы ў сне, які сам сабе сніцца...”), дэзарыентаванасці і наканаванасці часам *(“А гадзіннік “цік-так”... // Штось не так // у заведзеным сном механізме... // Разам стрэлкі адпалі – то знак: // мы бяжым* ў нікуды...// <...> // Мы ў палоне ўсе зніклай хвіліны”). У вершы “Пырскі, хвалі акіяна” (с. 87) лірычная гераіня, нібы біблейскі Ной, аказваецца ўратаванай ад знішчальнай навалы воднай стыхіі *(“Акіян мне човен кінуў, //* плыць прымусіў да Парыжа...”), аднак жыве і няпэўнасцю-нявер’ем дасягнутага *(“Човен лёгка паплыве... //* Мо ў Парыж? А можа ў Глухаў*? // Гадоў тысяча міне...”).*

Але хараство ацалення ёсць! І гэта паэтычная плынь дыялектычна, ва ўзаемасувязі і ўзаемаразвіцці дадаецца ў зборніку паэтыкай ацалення хараства – аднаўлення, пераўтварэння, вызвалення лірычнага светаўспрымання аўтара. Унутраны дыскурс Алены Ігнацюк нанізваецца пры гэтым на своеасаблівыя лініі судакранання лірычнай гераіні з важным, значным у рэчаіснасці.

Першая лінія ацалення хараства – лінія сутыкнення з сучаснасцю. Асабліва актуалізаванай гэта частка вобразна-паэтычнага бачання аказваецца ў нізках І. Пачатак і ІХ. Час-Завея.

Галоўнымі аб’ектамі лірычнага перажывання паэткі становяцца людскі

канфармізм, нешанаванне свайго-роднага і найперш беларускай мовы, вайна ў славянскім свеце (на Украіне), несапраўднае ў мастацка-творчым працэсе і інш.

Рэфлексуючы сучаснасць, Алена Ігнацюк прыбягае да значных абагульняльных вобразаў-сімвалаў. Так, напрыклад, сучаснасць паўстае ў азначэннях-абрысах “глухой хвіліны” (верш “Паэзія”, с. 76), маўклівасці (“маўклівы” час), адваротнасці (“адваротны” час), крыжовасці *(“крыжы ля дарог”)*, *“бязлюддзя і снегу”* (верш Крыжы ля дарог”, с. 77), “зімы”, “Часу-Завеі”, завейнага сну (вершы “Час-Завея”, с. 75; “Зіма загасцілася”, с. 85; “Завейны верш”, с. 84), пасталве панавання маргіналаў – *“пластылінавых людзей”* (верш “Пластылінавыя людзі”, с. 8), *“людзей-профіляў”* (верш “Людзі-профілі”, с. 9), несапраўдных *“німфаў-Сірэн”* (верш “Паміж намі”, с. 63) і няправедных *“людзей у крэсле”* (верш “Людзі ў крэсле”, с. 91–92), у вобразе ліцця “нежывой” вады-смерці (верш “Пра вайну”, с. 80–81).

Ацаленне хараства на лініі мэтанакіраванага судакранання з сучаснасцю дасягаецца ў першую чаргу вырачэннем адмоўнага. Так, назіраючы маргіналізацыю ранейшых рамантыкаў і прадчуваючы *“пластылінавых людзей”*, лірычная гераіня шле ім “свой недавер” *(“Пластылінавы твар мне, вядзьмак, не дары: // не чужое – сваё пражываю жыццё”*, верш “Пластылінавыя людзі”, с. 8) і ярасна выкрывае “людзей-профіляў”:

У стагоддзі маім людзі-профілі
раўнадушшам прастор абязмовілі.

І навокал мяне твары-профілі...
Яны ў Пінску, і ў Брэсце, і ў Ковелі...
Яны мару маю заняволілі...
Суддзі, лоўчыя... Толькі профілі...

*(“Людзі-профілі”).*

Дапамогай на “ўкрыжаваным шляху” сучаснасці выступае *“анёлаў зорны хор”*, які спыняе мройны завейны сон лірычнай гераіні, вяртаючы паэтычную фантазію аўтара ад зімы да лета, дзе “расце трава пад плотам” (верш “Завейны верш”, с. 84), і *“зорны брэх” “з сузор’я Сабакі”*, што паказвае дарогу да *“ясных абрысаў”* роднага – там *“птушкі да мамінай хаты ляцяць”, “поля мяжа” і “сабачка блакітны гуляе”* (верш “Крыжы ля дарог”, с. 77). Сілаю, што ацаляе хараство, валодае таксама развага-думка: у сучаснасці ў паэтычным свеце Алены Ігнацюк *“ціха клацае бусліха. // І дзіця “ў блакітнай касцы” // пачынае забаўляцца: // кулі думкамі спыняе...”* (верш “Пра вайну”, с. 80–81). Са шкадаваннем усведамляючы аб’ектыўны стан беларускай нацыянальнай рэчаіснасці, толькі з-за мяжы, праз паказальны ўзор шанавання ўсяго свайго-роднага ў іншанацыяным асяроддзі адчувае лірычная гераіня гармонію быцця Радзімы (гл. у нізцы *V. Слухаць мора*, дзе сабраныя рэфлексіі знаходжання на шведскім востраве Готланд).

Другая лінія ацалення хараства – лінія адчування Радзімы, асабліва адчувальная ў нізках І*V*. Мармеладавае неба, *V. Слухаць мора, V*І. Чуеце, гракі, – па ўсім, самая светла-жаданая для аўтара, нягледзячы на “захварэласць” роднай Беларусі *(“Мая Радзіма захварэла... // <...> // І бачыць новы дзень не захацела...”*, верш “Размова з Радзімай”, с. 82).

Паэтка не стамляецца падкрэсліваць, што яна – адданніца Заходняга Палесся – Брэста, Драгічына і Пінска. “Я – пінская”, – сцвярджае лірычная гераіня сваю заходнепалескасць у вершы “Лось і стакгольмскія вуліцы” (с. 45), падсвядома адшукваючы “зорныя пасекі”, скуль паявіўся лось на шведскай вуліцы, там – на Піншчыне?! Менавіта роднае*: “людзі-совы” – “жыхары маіх мясцін”* (гл. верш “Са мною ляхі”, с. 6), гісторыя краю (гл. верш “І я цяпер... даходжу да Ружан”, с. 34), *“Старога Брэста цені”* (гл. верш “Матыў для верша”, С. 89), *“асіны, елкі, дух*

*балотны”,* “позірк вірніка-*дзядка”*, ліса, што *“бяжыць праз поле сонцам”,* – убачанае з вакна цягніка, які “плыве” на Драгічын (гл. верш “Асіны, елкі...”, с. 20), Прыпяць з “пенна-*малочнай”* вадой і *“жабы-музы”* (гл. верш “У Качановічах”, с. 37), – усё гэта служыць крыніцай натхнення і забяспечвае вытрываласць у творчасці.

Спатканне з родным лёгка ацаляе, і ацаленне харавства ў лірычным светаўспрыманні Алены Ігнацюк тут самае яскрава-шчырае – магчыма таму, што радзімна-радзіннае знаходзіцца ў Пачатку пачаткаў. Пар. з праграмным паэтычным перакананнем, выказаным у вершы “Культура” (с. 4): *“Мы знойдзем пачатак. Там чыстае* жыта*!”*

Трэцяя лінія ацалення харавства – лінія “фанаў” і “фанцікаў”.

Яна акрэсліваецца ў першую чаргу ў вершах “Фаны і фанцікі” (с. 11) і “Фанцік “Алёнка” (с. 12). Хто гэта такія, што гэта такое – “фаны” і “фанцікі”? Фаны – тыя, што з’яўляюцца і знікаюць “неспадзявана”, але “спланаваны” ў лёсе аўтара і “пазналіся ў дзень юбілейны”; яны прыносяць падарункі і “настрой карамельны”, здольны самаўладна “парушаць” усе планы творцы; фаны збіраюцца хорам, гэта “музы, паэты, акцёр з рэпарцёрам”, гэта адначасова “дзве суседкі”, “Насця і Ніна, Вольга, Галіна...”, з кім “разам бальзакаўскі ўзрост адзначалі”, і – “кожны, каго мы кахалі”. Фанцікі – тое, што маюць або пакідаюць пасля сябе фаны (пар.: фаны “бліскучыя фанцікі мелі” і: фаны “елі цукеркі і спеўна лічылі – // фанцікі ў пудры салодкай ванілі”) і што пасля знікнення фанаў застаецца як жыццёвы напамінак-дар (“Фаны раз’едуцца раненька-рана. // І юбілейныя фанцікі ў вазе // мне нагадаюць аб вернутым часе” – верш “Фаны і фанцікі”, с. 11). Фанцікі для фанаў – у прынцыпе рэч лёгкая, нязмушаная і нават несур’ёзная, але гэтай рэччу яны гуляюць уладарна-вырашальна, як з лёсам (гл.: фаны “быццам у фанцікі з лёсам гулялі”). Калі зыходзіць з цэласнай праграмна-*паэтычнай логікі* зборніка, “фаны*”* для аўтара – гэта свабодныя памкненні, вектары і крылы высокай паэзіі, *а* “фанцікі*”*– нязмушаны прадукт дзеяння “фанаў*”* – мастацкія гармоніі і адначасова паў-гармоніі. Фаны – гэта Культура, з якой лірычная гераіня дэкларуе гатоўнасць пайсці на любыя выпрабаванні *(*“З табою пайду я ў гаёвыя далі. *//* Вазьмі з сабой посах! Я скіну сандалі...*”*, верш “Культура”, с. 4), роднае Палессе, знітаванасць з чым аберагае “серафім ля ратушнай вежы*”* (верш “Пачатак”, с. 6), зачараванасць гістарычнай мінуўшчынай і пошукі знаходжання сябе ў мінуўшчыне (верш “Гісторык дарыў мне найлепшую дату”, с. 7), адданая вернасць загадкаваму-“непазнанаму”, *“як неба слых”,* паэтычнаму генію (вершы “Маім сном зацалаваны”, с. 17; “Такі, як неба”, с. 18) і пад.

У зборніку вырашаецца*, на наш погляд,* актуальная для лірычнага перажывання дылема. З аднаго боку, паэтка маніфестуе сталыя і бескампрамісныя ідэйна-мастацкія арыенціры (асабліва ў нізках І. Пачатак і ІІ. Смак жыцця). З другога, – ёй часта не хапае сілы духу, паслядоўнасці ў мэтанакіраваным ацаленні харавства, паэтычнае палатно ўсё яшчэ ўтрымлівае звыкла-звычайныя прывіды-зманкі, боязі-страхі і перасцярогі лірычнай гераіні (гл., напрыклад, у нізцы *VІІ.* Я гуляла з сабою ў хованкі і інш.). Лірычная гераіня па-ранейшаму адчувае творчую адзіноту-адчужанасць і варожасць з боку *“людзей у крэсле”* – няправедных *“суддзяў у парыках” (“Яны правяць маім сэрцам, // маім словам, дзеяй дня...”,* верш “Людзі ў крэсле”, с. 91–92). Прага ацалення харавства (ў вызнанні “фанаў”) і ў той жа час пэўная прыгнечанасць-скаванасць творчых памкненняў (яшчэ знаходжанне ў палоне гульнёва-прывабных, аднак зманлівых, несапраўдных “фанцікаў”) робіць зразумелым апантанасць аўтара дынамічным, узнёслым, але і эмацыйна-кантрастным, загадкава-зменлівым, сінтэтычным стылем барока (гл. нізку ІІІ. Барочныя жаданні).

Вызваленне паэтычнага светаадчування і ўмацаванне лірычнага выказвання Алены Ігнацюк*, безумоўна,* ляжыць на шляху адназначнага прыняцця “фанаў*”*

*і адмаўлення* паў-гармоній *"*фанцікаў*"*. Магчыма, менавіта тады *"тонкай* пенай, белай марай", славячы *"новы дзень вясновы"*, у творчым люстэрку паэткі і праявіцца яе пракаветная Муза – палеская "птушка-Дзіва", а паэзія для аўтара перастане быць толькі "няўлоўленым словам" – прыкрыццём анёла (гл. Верш "На люстэрку тонкай парай", с. 29)? Зрэшты, свае "слабасці" паэтка бачыць і самакрытычна дэкларуе. І, усё яшчэ пазнаючы ў сабе "ваўчыцу", паэтычным бачаннем усё яшчэ сутыкаючыся з *"зялёным позіркам ваўчыцы"* (гл. верш "Смак жыцця", с. 21), вобразна-сімвалічнай "ваўчынай еднасці" лірычнае Я паэткі ўжо выракаецца, вызнаючы свабоднае гранне іншых муз:

Жанчына, з позіркам ваўчыцы,
аглядвае прастору ля ракі.
І хоча граць на гуслях навучыцца:
вітаць Вясну, як добрыя гракі.

Сябе ў ваўчыцы сёння я пазнала...
І позіркам... За крыгамі ракі,
за ветрам Днепра-Бугскага канала
струну дагнала... Чуеце, гракі!

*("Чуеце, гракі!")*[1].

Такім чынам, кніжка вершаў "Будзе ўсё наадварот" прадстаўляе новую паэзію Алены Ігнацюк – па-ранейшаму светла-таленавітую, насычана-таямнічую і нязвыкла мэтанакіравана-свабодную, адметную хараством ацалення.

На развіццё ідэйна-тэматычнага ладу, нарошчванне паэтычнага патэнцыялу, на наш погляд, плённа ўплывае наследаванне барадулінскіх традыцый: у новым зборніку відавочна ўмацавалася лірычная набрыняласць вобразаў, нечаканасць і свабода асацыяцый, эксперыментальнасць мастацка-слоўнага выказвання. Спецыфічны барадулінскі рэалізм Алена Ігнацюк перспектыўна спрабуе дадаць экспрэсіяністычна-канцэптуалісцкай стылістыкай.

Паэтка не ў пачатку творчага шляху, але ў пачатку высокага ўзлёту, на піку паэтычнага пералому. Новае хараство сваёй паэзіі Алена Ігнацюк прадказвае сама – найперш, шчырай рэфлексіяй светабачання, лірычным судакрананнем з важным, значным у рэчаіснасці, вызнаннем творчай свабоды, імкненнем адкінуць друз пакорлівасці-прыгнечанасці і "граць пра Вясну" і, канешне ж, заўважаным хараством ацалення, урэшце, рэінкарнацыяй са "смерці" ў "жыццё": Смерць, што *"закахалася ў* Жыццё і перастала быць сабою*"*, у новым зборніку дорыць жыццю "Новай эры адкрыццё" і ажыўляе са сну свайго былога выбранніка-паэта:

А ён прачнуўся і адчуў
жыццёвы смак – як пах суніцы...
І недзе побач вецер гуў
зялёным позіркам ваўчыцы

*("Смак жыцця").*

---

[1] Пар. з матывам "паэтычнага сяброўства з каляровымі ваўкамі" ў папярэднім зборніку (верш "Каляровыя ваўкі"; Алена Ігнацюк. Летаргія. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 2006. – с. 27).

# Белая нізка

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*




**Багдановіч Ірына. Залатая горка. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 80). – 400 с.**

«Залатая горка» – выбранае паэткі і літаратуразнаўцы Ірыны Багдановіч. У кнігу ўвайшло колькі новых вершаў і перакладаў з польскай мовы, але найбольшую частку абымаюць літаратуразнаўчыя даследаванні, якія пераважна публікаваліся ў спецыялізаваных зборніках – матэрыялах канферэнцый, кангрэсаў – а таксама выходзілі ў перыядычным навуковым друку.

Артыкулы добра высвечваюць дыяпазон навуковых зацікаўленняў Ірыны Багдановіч, тэмы, якія яна апрацоўвала ў апошнія гады. Дамінантай кнігі з'яўляецца тэма духоўных пошукаў: праз гэтую прызму разглядаецца, што зусім зразумела, творчасць пісьменнікаў – каталіцкіх святароў Казіміра Сваяка і Вінцука Адважнага. Але і па-за непасрэдна каталіцкімі пісьменнікамі праблема духоўнасці аналізуецца праз, напрыклад, выяўленне хрысціянскіх вобразаў храма, Маці Божай, Вялікадня, абраза Маці Божай Вострабрамскай, Еўфрасінні Полацкай у палітры беларускай літаратуры XIX-XX стагоддзяў.

Кніга "Залатая горка" станецца сапраўдным падарункам для тых, хто хоча спазнаць хрысціянскую аснову беларускай літаратуры мінулага стагоддзя, цікавіцца польскамоўнай літаратурай Беларусі, адлюстраваннем гістарычных вобразаў у айчыннай паэзіі.




**Міхась Скобла. Саркафагі страху: прознае. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 84). – 392 с.**

Гэта творчая справаздача за апошнія дзесяць з лішкам гадоў літаратурнай працы, у тым ліку і як палеміста, і як гісторыка літаратуры, укладальніка шэрагу кніг спадчыны беларускіх аўтараў. Як блогер Міхась Скобла выбірае тэмы прыкметных праяваў абсурду ў сучаснай дзяржаўнай культурнай палітыцы – недабудаванасць нацыянальнага праекту і вечная асцярожнасць дзяржаўнай ідэалогіі, дваістасць стаўлення да беларускага ў беларускіх дэ-юрэ ўладаў, пастаяннае ігнараванне найвыдатнейшых постацей айчыннай культуры – усе гэтыя паказальныя рухі ўладных культуртрэгераў абавязкова трапляюць у поле зроку аўтара.

Шмат старонак у кнізе аддадзена і памятным старонкам: успамінам пра нядаўна адышоўшых аўтараў Беларусі і Украіны: Змітра Сідаровіча, Івана Лепешава, Уладзіміра Дамашэвіча і інш. Знаходзіцца месца і нататкам на палях прачытаных кніг, водгукам на зборнікі вершаў і гістарычныя даследаванні, падарожным нарысам.

Немалая частка кнігі прысвечана Ларысе Геніюш, што і зразумела: якраз у апошняе дзесяцігоддзе спадар Міхась стаўся найбольш вядомым

даследчыкам зэльвенскай аўтаркі – падрыхтаваў да друку некалькі тамоў ейнай перапіскі, двухтамовік выбраных твораў і аднатамовік у “залатой” серыі “Беларускага кнізабора”, кнігу ўспамінаў і персанальны выпуск біяграфічнага альманаха “Асоба і час” пра Ларысу Геніюш. Шматгадовая праца над біяграфіяй і творчасцю Геніюш спарадзіла безліч назіранняў, знаходак і нечаканых адкрыццяў, якія неадменна спадарожнічаюць напружанаму пошуку – яны адлюстраваны ў найбольш аб’ёмным тэксце кнігі – “Чайка з лётам арлінымˮ.

Напісаныя выдатным стылістам, эсэ Міхася Скоблы стануць добрым падручнікам беларускай мовы для тых маладых журналістаў, хто толькі пачынае пісаць і прадумваць свае першыя аналітычныя артыкулы.



**Хорас Ўолпал. Замак Отранта. Мэры Шэлі. Франкенштайн, ці Сучасны Праметэй. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Бібліятэка часопіса «Прайдзісвет» «PostScriptum»). – 368 с.**

Гэта кніга ўлучае два класічныя гатычныя творы, а менавіта — “Замак Отранта” Хораса Ўолпала (пераклала Ганна Янкута) і “Франкенштайн, ці Сучасны Праметэй” Мэры Шэлі (пераклала Марына Дзергачова). Вокладку для кнігі намалявала мастачка Кацярына Дубовік, а грунтоўную прадмову напісала літаратуразнаўца, выкладчыца ангельскай і амерыканскай літаратуры Ганна Бутырчык.

“Замак Отранта” Хораса Ўолпала (1717—1797) — гатычная аповесць, што заклала асновы жанру; “Франкенштайн, ці Сучасны Праметэй” Мэры Шэлі (1797—1851) — адзін з найлепшых узораў готыкі і першы навукова-фантастычны раман. Гэтыя творы ўводзяць чытача ў свет загадкавага і дзівоснага, аднак у кожнага з двух творцаў — свой арсенал сродкаў для стварэння вусцішнай атмасферы. Абодва творы друкуюцца па-беларуску ўпершыню.




**Атэна Фарухсад. Белая нізка. – Тэрнопаль: Крок, 2016. – 72 с.**

У тэрнопальскім выдавецтве “Крок”, якое мае сантымент да беларускіх аўтараў (раней па-беларуску альбо па-ўкраінску выходзілі кнігі Андрэя Хадановіча, Макса Шчура, Уладзіслава Ахроменкі, Віталя Рыжкова, Сірошкі Пістончыка), выйшла кніга Атэны Фарухсад у перакладзе Дзмітрыя Плакса.

“Белая нізка”, ужо вядомая чытачам “Дзеяслова”, — адзін з самых значных паэтычных дэбютаў у Швецыі за апошнія гады. Кнігу, якая выйшла ў свет у 2013 годзе, цёпла сустрэлі як крытыкі, так і чытачы. Паводле “Белай нізкі” зробленыя сцэнічная і гукавая пастаноўкі. Пытанні прыналежнасці, свайго месца ў грамадстве, памяці і надзеі на будучыню — цэнтральныя ў паэтычным шматгалоссі Атэны Фарухсад. Паэтка вядзе чытача праз сямейны эпас рэвалюцыйнай рамантыкі, пераследу, гвалту і штодзённага побыту ў новай краіне. Нягледзячы на пэўную спецыфіку, гэты шлях лёгка пазнавальны амаль для кожнага і мала каго можа пакінуць абыякавым.

# Нашыя аўтары

**Астапенка Анатоль** – публіцыст. Кандыдат фізіка-матэматычных навук. Доктар паліталогіі МАІТ. Аўтар кніг «Паслухайце нацыяналіста» і «Нацыянальная ідэя ў сучасным свеце». Пад псеўданімам Антон Кулон выдаў кнігу эсэ «Сіняя кніга беларускага алкаголіка». Нарадзіўся ў 1947 годзе на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Бабкоў Ігар** — паэт, празаік, філосаф. Аўтар кніг «Solus Rex», «Герой вайны за празрыстасьць», «Адам Клакоцкі і ягоныя цені», «Засынаць, прачынацца, слухаць галасы рыб», «Хвілінка» і інш. Лаўрэат літаратурных прэмій «Гліняны Вялес» (1993), імя Ежы Гедройца (2014). Нарадзіўся ў 1964 годзе ў Гомелі. Жыве ў Мінску.

**Бадлер Шарль** – французскі паэт, крытык, эсэіст. Пачынальнік эстэтыкі дэкадансу і сімвалізму. Найбольш вядомы і значны – зборнік вершаў «Краскі зла» (1857), які настолькі шакаваў публіку, што цэнзары аштрафавалі Бадлера і прымусілі прыбраць са зборніка шэсць найбольш «непрыстойных» вершаў. Таксама аўтар кніг «Штучны рай» і «Парыжскі сплін». Нарадзіўся ў 1821 годзе ў Парыжы. Памёр у 1867 годзе.

**Бунеева Дар'я** – мастак. Працуе ў галіне жывапісу, графікі, дызайну і ілюстрацыі кнігі. Сяброўка Беларускага саюза мастакоў. Удзельніца вялікай колькасці рэспубліканскіх і міжнародных выстаў. Нарадзілася ў 1988 годзе ў Баранавічах. Жыве ў Мінску.

**Гіль (Гілевіч) Мікола** — празаік, перакладчык, публіцыст. Аўтар кніг прозы і публіцыстыкі «Ранішнія сны», «Пуд жыта», «Ёсць на зямлі крыніца», «Тэлеграма з Кавалевіч», «Пасеянае – узыдзе», «Камандзіроўка ў Вішанькі», «Кім і Валерыя» і інш. Нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Слабада на Лагойшчыне. Жыве ў Мінску.

**Глобус Адам (Адамчык Уладзімір)** — празаік, паэт, эсэіст, мастак, выдавец. Аўтар кніг паэзіі «Парк», «Скрыжаванне», кніг прозы «Адзінота на стадыёне», «Дамавікамерон», «Толькі не гавары маёй маме», «Post scriptum», «Браслаўская стыгмата», «Сшыткі», «Дом», «сУчаснікі» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Дзяржынску. Жыве ў Мінску.

**Данільчык Аксана** – паэтка, перакладчыца. Аўтарка кніг «Абрыс Скарпіёна», «IL MEZZOGIORNO. Поўдзень», «Сон, які немагчыма забараніць». Нарадзілася ў 1970 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Дранько-Майсюк Леанід** — паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я», «Кніга для спадарыні Эл» і інш. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Емяльянаў-Шыловіч Алесь** – паэт, перакладчык. Аўтар кнігі вершаў «Парасонечнасць». Нарадзіўся ў 1987 годзе ў Крычаве. Жыве ў Мінску.

**Жыбуль Віктар** — паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Калі ў хаце дыверсант», «Рогі гор», «Прыкры крык», «Дыяфрагма», «Стапеліі» і інш. Нарадзіўся ў 1978 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Законнікаў Сяргей** — паэт, перакладчык, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1991). Аўтар кніг «Бяседа», «Устань да сонца», «Пакуль жыве мая бяроза», «Прысак часу», «Заклінанне», «Лісцем дарога запала...», «Шалёная куля» і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Слабада на Бешанковіччыне. Жыве ў Мінску.

**Казакоў Валерый** – празаік, паэт, публіцыст. Аўтар кніг паэзіі «Философия звука», публіцыстыкі «Разбитое зеркало Карабаха», «Саморазрушение», прозы «Асфальт и тени», «Записки колониального чиновника», «Халоп яснавяльможнага дэмакрата», «Цень Гобліна», «Абібокі» і інш. Нарадзіўся ў 1952 годзе на станцыі Рэста на Магілёўшчыне. Жыве ў Маскве.

**Кульбак Мойша** – паэт, раманіст, драматург. Пісаў на ідыш. Быў абраны старшынёй Сусветнага габрэйскага ПЭН-клуба (заснаваны ў 1927 годзе). Быў сябрам

Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР. Аўтар кніг «Шы́рым» (вершы), «Горад» (паэма), «Беларусь» (паэма), «Янкеў Франк» (драма), «Панядзелак» (раман), «Буня і Бера» (гумарыстычная паэма) і інш. Нарадзіўся ў 1896 годзе ў Смаргоні Віленскай губерні (цяпер Гродзенская вобласць). Расстраляны ў 1937 годзе.

**Мікалайчык Вольга** – кінарэжысёрка, грамадская актывістка. Піша кінасцэнары, вершы і аповеды. Нарадзілася ў 1968 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Рубінчык Вольф (Уладзімір)** – публіцыст, перакладчык. Аўтар кніг «На шахматныя тэмы», «На яўрэйскія тэмы», «Нарысы шахматнай мінуўшчыны і будучыні» і інш. Нарадзіўся ў 1977 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Сапач Таццяна** – паэтка, журналістка, перакладчыца. Аўтарка кніг «Восень» і «Няхай не пакіне нас Восень». Адна з аўтарак перадачы «Палітычная геаграфія» на Радыё Свабода (з 2005 г.). Аўтарка праграмы «Віленскі сшытак» на Літоўскай нацыянальнай тэлевізіі (1991-2010). Нарадзілася ў 1962 годзе ў вёсцы Маркава на Маладэчаншчыне. Трагічна загінула ў 2010 годзе.

**Сівіцкі Уладзімір** – літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар манаграфіі «Русальная традыцыя беларусаў: міфапаэтычная сістэма, тыпалагічныя паралелі», суаўтар магарафій: «Каляндарнаабрадавая паэзія», «Беларусы. Т. 7: вусная паэтычная творчасць», энцыклапедыі «Беларускі фальклор», энцыклапедычнага слоўніка «Міфалогія беларусаў». Нарадзіўся ў 1969 годзе ў вёсцы Мінчакі на Мядзельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Скобла Міхась** — паэт, парадыст, перакладчык, эсэіст. Лаўрэат прэмій імя Ведзьмака Лысагорскага (1988) і Алеся Адамовіча (2000). Аўтар паэтычных кніг «Вечны Зніч», «Вочы Савы», «Нашэсце Поўні», «Акно для матылькоў» і інш., кніг нарысаў «Дзярэчынскі дыярыюш», «Саркафагі страху» і інш. Складальнік анталогій беларускай паэзіі XX ст. «Краса і сіла» і сусветнай паэзіі ў беларускіх перакладах «Галасы з-за небакрая». Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Паляжын на Зэльвеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Сцебурака Усевалад** — празаік, паэт. Аўтар кніг вершаў «Крушня» і «Бег па самаадчуванні». Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Жлобіне. Жыве ў Мінску.

**Сянкевіч Кацярына** – паэтка. Аўтарка кніг вершаў «Дачка ружы» і «Гарбата з незабудак». Нарадзілася ў 1991 годзе ў Гайнаўцы. Жыве ў Любліне.

**Хадановіч Андрэй** — паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Аўтар кніг паэзіі «Лісты з-пад коўдры», «Старыя вершы», «From Belarus with love», «Сто лі100ў на tut.by», «Бэрлібры», «Несымэтрычныя сны» і інш. Перакладае з ангельскай, французскай, польскай, украінскай і інш. моваў. Нарадзіўся ў 1973 годзе ў Мінску, дзе і жыве

**Хейдарава Людміла** – паэтка, перакладчыца. Лаўрэатка літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча (1996). Аўтарка кніг вершаў «Адведзіны рамонкавай паляны», «Тваё святло», «Купанне ў росах», «Плач па Анёлу», драматычнай паэмы «Можна і Нельга», зборніка прозы «Дарт». Нарадзілася ў пасёлку Ялізава. Жыве ў Мінску.

**Чыгрын Сяргей** — паэт, перакладчык, журналіст, краязнаўца. Аўтар кніг паэзіі «Шчырая Шчара», «Горад без цябе», «Камень Міндоўга» і інш., зборнікаў публіцыстыкі «Пакліканыя на родны парог», «Беларуская Беласточчына», «Тэатр у Слоніме». Аўтар шматлікіх артыкулаў з даследаваннямі жыццёвага і творчага шляху Я. Стаброўскага, Т. Лебяды, С. Хмары, Я. Пятроўскага, Г. Леўчыка і інш. дзеячаў беларускай літаратуры, гісторыі і культуры. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Хадзявічы на Слонімшчыне. Жыве ў Слоніме.

**Якавенка Таццяна** – украінская паэтка, перакладчыца. Аўтарка кніг лірыкі «Сумленне», «Каханне вам пасуе», «Штодзённая Радзіма», «Аўтапартрэт з ландышамі», «Прадчуванне травы», «Каляровая ноч», «Спакуса споведзі», «Жывы агонь», «Нябесны сад». Лаўрэат літаратурна-мастацкіх прэмій, сярод якіх імя М. Трублаіні, «Хрустальная вішня», імя М. Салтыкова, «Дабравест», імя Я. Гуцала, імя І. Агіенкі, М. Стэльмаха, М. Воўчка, П. Тычыны, А. Бартняка і інш. Нарадзілася ў 1954 годзе ў сяле Собалеўка на Вінніччыне (Украіна).

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Аляксандры Баярынай, Юрыя Дзядзінкіна, Анатоля Клешчука,
Яўгена Коктыша, Уладзіміра Крука, Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.